*Прысьвячаецца маім бацькам —*
*Розе і Іосіфу Навумчыкам,*
*дзякуючы якім 25 жніўня 1991 г.*
*адным голасам за незалежнасьць*
*Беларусі  было болей.*

Сяргей Навумчык

# дзевяноста першы

## Год Незалежнасьці вачыма ўдзельніка

Выданьне другое, дапрацаванае




Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода

Другое выданьне кнігі зроблена дзякуючы падтрымцы Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк).

**Сяргей Навумчык. Дзевяноста першы.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) —2-е выд., дапрацаванае. — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2016. 544 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Уладзімер Арлоў*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

Кніга прысьвечаная падзеям 1991 году, удзельнікам якіх давялося быць аўтару — масавым вулічным пратэстам, парлямэнцкай працы Апазыцыі БНФ, абвяшчэньню незалежнасьці Беларусі і першым крокам у будаўніцтве новай дзяржавы.

У кнізе скарыстаныя фотаздымкі Ўладзімера Карміліна, а таксама Ларысы Зайцавай, Сяргея Грыца, Сяргея Плыткевіча, Андруса Пятрулявічуса, AFP, ИТАР-ТАСС і аўтара. Таксама скарыстаныя матэрыялы архіву аўтара.



ISBN 978-0-929849-80-5

# Зьмест

# MCMXCI

«У, сука, апяць пашол да мікрафона!» — шыпелі, шалелі і курчыліся намэнклятурныя дэпутаты Вярхоўнага Савету БССР, калі Сяргей Навумчык браў слова. Ён і яго паплечнікі бралі яго як штангіст бярэ вагу, вырываючы з ланцугоў зямнога прыцягненьня чыгунны цяжар, калі сэрца выбухам выкідвае кроў у жылы, дыханьне спыняецца на выдыху, мускулы ўзрываюцца і ўсё жыцьцё ператвараецца ў энэргію, каб адарваць, узьняць і трымаць.

Пасьля Курапатаў, Хатыні і Чарнобылю незалежнасьць Беларусі выглядала як цуд, які мае нябеснае паходжаньне. Але як зерне ўродзіць толькі на апрацаванай глебе, гэтак і цуды звальваюцца толькі туды, дзе іх чакаюць, рыхтуюць і гатовыя прыняць.

Дэпутаты апазыцыі ў 1991 годзе зрабілі больш, чым маглі. Зрэшты, гісторыя робіцца толькі так.

Вышыні прыцягваюць маланкі, дзікі вецер палітыкі не адрозьнівае колераў, і асабістыя лёсы дэпутатаў незалежнасьці падобныя да лёсаў іх папярэднікаў, хоць, на шчасьце, не паўтараюць іх.

Яны зрабілі ўсё, каб трэцяе ў XX стагодзьдзі, пасьля 1918 і 1919, нараджэньне Беларусі як нацыянальнай дзяржавы стала апошнім.

Таму год незалежнасьці — 1991 — варта пазначаць так, як пазначаюцца ў гісторыі Эўропы тысячагодзьдзі і вякі, рымскімі лічбамі: MCMXCI.

Гэтыя лічбы, паводле правіла, ня могуць паўтарацца больш за тры разы. У гэтай сыстэме няма знака толькі для адной лічбы — нуля.

І ня будзе.

*Аляксандар Лукашук, Радыё Свабода*

# Галоўнае ў жыцьці

«Паглядзіце, «бээнэфавец» такі малады, а з барадой. Што ён хоча гэтым сказаць?»

Гэтыя словы, вымаўленыя дэпутаткай — героем сацыялістычнай працы, былі першым, што я пачуў, калі ўпершыню увайшоў у Авальную залю (хаця зусім маладым я сабе тады не здаваўся — на той момант мне споўнілася 28 гадоў). Але я не пасьпеў асэнсаваць тое, што пачуў — уразіла тое, што пабачыў. На крэслах сядзелі людзі, амаль усе апранутыя ў аднолькава шэрыя гарнітуры. І мне падалося, што — аднолькавыя з твараў. Ва ўсякім разе, на тварах сакратароў райкамаў і старшыняў калгасаў была аднолькавая насьцярожаная цікаўнасьць — яны ці то чакалі, што я зараз выхаплю з-пад пінжака аўтамат і пачну страляць, ці то самі прыкідвалі, куды б пацэліць. Некаторыя зь іх упершыню бачылі жывога «бээнэфаўца», а ў газэтах начыталіся ды на партыйных пленумах наслухаліся пра нас як «нефармалаў», «экстрэмістаў» ды «радыкалаў». Канешне, я ведаў, што нас, дэмакратычных дэпутатаў, будзе меншасьць — але вось цяпер увачавідкі ўбачыў гэтую большасьць, чамусьці шэрага колеру...

Гэта — у крэслах, а наверсе, паабапал прэзыдыюму, навісалі чорныя скульптуры нейкіх людзей у вайсковай форме, якія падалі, уздымаліся, ішлі, беглі — то былі скульптурныя рэльефы, якія адлюстроўвалі «кастрычніцкую рэвалюцыю». Але за ўсе пяць гадоў у Вярхоўным Савеце ў мяне ніколі не было ні жаданьня, ні часу падрабязна разгледзець усе гэтыя фігуры — ня толькі ў залі пасяджэньняў, але і ў фае. Ужо значна пазьней, у эміграцыі, я прачытаў, што сюжэты рэльефных фрызаў пачынаюцца зь Вялікай францускай

рэвалюцыі 1789-1794 гадоў, і рэвалюцыі ў Нямеччыне у 1848-м, увасабляюць і Парыскую камуну 1871-га, і нават «Абуджэньне каляніяльных народаў Усходу» і «Рэвалюцыйны Кітай». Зь беларускай гісторыі — сюжэты «Сялянскае паўстаньне ў акупаванай панскай Польшчай Заходняй Беларусі» і «Першы пяцігадовы плян СССР у дзеяньні».

Гэтыя сотні бронзавых фігураў знаходзяцца ў Доме ўраду ад моманту ягонай пабудовы на пачатку 1930-х гадоў.

А жывыя людзі ў Авальнай залі — мяняліся, тысячы дэпутатаў за шэсьць дзесяцігодзьдзяў — і сталінскія наркамы, і камісары НКВД, і былыя камандзіры партызанскіх атрадаў, і партыйныя сакратары, і генэралы, кіраўнікі буйных і дробных заводаў, дырэктары саўгасаў, зваршчыкі, даяркі, акторы, шоферы, мастакі, сьвінаркі, акадэмікі, ткачыхі, паэты... Розных прафэсіяў людзі — але адно агульнае: галасавалі на загад. І загад ішоў не ад тых, хто сядзеў у прэзыдыюме — а ад гаспадара Крамля, чый барэльеф доўгі час знаходзіўся ў цэнтры залі. Потым Сталіна замянілі на Леніна, але, як і раней, усё дыктавала Масква. І не маглі запярэчыць ні дэпутат Янка Купала, ні дэпутат Якуб Колас ...

Праўда, у 1939-м ім далі прагаласаваць за ўзьяднаньне з Заходняй Беларусьсю. А праз паўстагодзьдзя пасьлядоўнікі песьняроў — Генадзь Бураўкін, Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч — ажыцьцявілі тое, што патрабаваў нядаўна створаны Народны Фронт — надалі беларускай мове статус дзяржаўнай.

У траўні 1990-га, з прыходам у Вярхоўны Савет дэпутатаў ад БНФ, у Авальнай залі ўпершыню прагучала крытыка камунізму і было вымаўлена слова «Незалежнасьць».

27 ліпеня 1990 г. была прынятая Дэкларацыя аб сувэрэнітэце — мы змагаліся за кожнае яе слова, але камуністычная большасьць адмовілася надаць Дэкларацыі канстытуцыйны статус. Беларусь працягвала заставацца ў складзе СССР і залежаць ад Масквы, дзе ініцыятар перабудовы Гарбачоў усё часьцей падпарадкоўваўся ваяўнічым антыдэмакратычным сілам. Адна за другой адкідаліся і заканадаўчыя прапановы дэпутацкай Апазыцыі БНФ (пра яе фармаваньне было абвешчана ў дзень прыняцьця Дэкларацыі), не падтрымалі камуністы і нашую канцэпцыю пераходу да рынкавай эканомікі, якую мы прапанавалі на другой сэсіі Вярхоўнага Савету ўвосень 1990-га.

У гісторыі 1991-шы застанецца годам, калі ажыцьцявіліся мары тых, чые выявы, магчыма, калі-небудзь зьявяцца ў фае Дому ўраду — Тадэвуша Рэйтана, Тадэвуша Касьцюшкі, Эміліі Плятэр, Кастуся Каліноўскага, стваральнікаў БНР ды іх паплечнікаў…. Мары, якая не згасала ў стагодзьдзях і за якія тысячы беларусаў аддалі свае жыцьці. На шчасьце, зьдзейсьніць гэтую мару актывістам БНФ удалося бяскроўна, хаця і вялізнымі намаганьнямі.

Пазьней мяне пыталіся, ці адчувалі мы ўсю гістарычнасьць тых падзеяў, удзельнікам якіх давялося быць. Думаю, што хутчэй можна казаць пра ўсьведамленьне палітычнай неабходнасьці тых мэтаў, якія мы перад сабой прагматычна ставілі – незалежнасьці Беларусі і стварэньня ўсіх атрыбутаў дзяржаўнасьці, ліквідацыі КПСС, дэмакратызацыі, эканамічных рэформаў. Вельмі шкадую, што не рабіў штодзённых запісаў, бо праз дзесяцігодзьдзі цяжка ўзгадаць свае тагачасныя адчуваньні. Але з другога боку, на дзёньнік проста не было часу. Затое захаваліся пратаколы пасяджэньняў Апазыцыі БНФ, якія я вёў цягам ўсіх шасьці гадоў кадэнцыі Вярхоўнага Савету,

іншыя дакумэнты, якія разам са стэнаграмамі сэсіяў ды публікацыямі ў пэрыёдыцы даюць адчуваньне атмасфэры таго часу.

Беларуская незалежнасьць у пачатку 1990-ых не была ў інтарэсах Захаду, і ў гэтай кнізе чытач ня знойдзе словаў падтрымкі ідэі дзяржаўнасьці з боку заходніх палітыкаў — у 1991 годзе яны не прагучалі. Ня мела гэтая ідэя і падтрымкі і ў Расеі, у тым ліку і ад тых, хто адносіў сябе да дэмакратаў. Але ў пэўны момант нашыя памкненьні супалі з інтарэсамі ўсходніх суседзяў — і мы былі гатовыя да таго, каб скарыстаць спрыяльныя абставіны.

Штодня пасьля пасяджэньняў у Авальнай залі мы зьбіраліся ў нашым 363-м пакоі, на трэцім паверсе правага (калі стаць тварам да фасаду) крыла, вокны якога з аднаго боку выходзілі на помнік Леніну, а з другога — на плошчу, тую самую, дзе ў 1991 годзе будуць зьбірацца тысячы людзей.

Разам з гэтымі людзьмі на плошчы нам пашэнціць вырашаць лёс Беларусі. І праз шмат гадоў мы зразумеем, што падзеі 1991 году — нягледзячы на ўсё, што здарыцца ў нашых лёсах пазьней — і былі ў нашым жыцьці самым галоўным.

# Студзень

**1 студзеня. Паводле ўказу прэзыдэнта СССР Міхаіла Гарбачова пачынае дзейнічаць 5-адсоткавы падатак з продажу (фактычна, усе тавары і паслугі падаражэлі на 5 адсоткаў).**

**5 студзеня. Міністар абароны СССР накіроўвае ў Латвію, Літву і Эстонію паветрана-дэсантныя войскі для забесьпячэньня прызыву ў Савецкую Армію.**

**13 студзеня. Савецкія ўзброеныя сілы і падразьдзяленьні КДБ штурмуюць тэлевізійны цэнтар у Вільні. У гэты самы дзень Апазыцыя БНФ прымае заяву ў падтрымку незалежнасьці**

**Літвы. З асуджэньнем дзеяньняў Крамля выступае Васіль Быкаў.**

**У Таліне старшыня Вярхоўнага Савету РСФСР Барыс Ельцын падпісвае з балтыйскімі рэспублікамі дамовы, у якіх бакі прызнаюць адзін аднога сувэрэннымі дзяржавамі.**

**15 студзеня. У Вільню накіроўваюцца дзьве дэлегацыі дэпутатаў — ад Вярхоўнага Савету і ад парлямэнцкай апазыцыі. Некалькі дэпутатаў едуць у Вільню самастойна.**

**17 студзеня. На патрабаваньне дэпутатаў Апазыцыі БНФ Вярхоўны Савет БССР асуджае выкарыстаньне сілы супраць мірнага насельніцтва Літвы.**

**20 студзеня. У выніку дзеяньняў савецкіх войскаў у Рызе забітыя некалькі мірных жыхароў. 84 дэпутаты Вярхоўнага Савету БССР выказваюць падтрымку парлямэнтам балтыйскіх краінаў і просяць накіраваць афіцыйных прадстаўнікоў Рады Бясьпекі ААН у Латвію і Літву.**

**21 студзеня. Чэхаславаччыну прымаюць у Раду Эўропы.**

**22 студзеня. Прэзыдэнт СССР Міхаіл Гарбачоў падпісвае ўказ аб ліквідацыі 50— і 100-рублёвых купюраў, на абмен даецца тры дні (ня больш 1000 рублёў на чалавека). Рашэньне не ўзгадняецца з парлямэнтамі і ўрадамі саюзных рэспублік і прыводзіць да рэзкага пагаршэньня матэрыяльнага ўзроўню значнай часткі насельніцтва.**

# Літва. Ваяўнічая сіла супраць народу

Акт аднаўленьня незалежнасьці, прыняты Вярхоўным Саветам Літвы 11 сакавіка 1990 году, быў моцным ударам па савецкай імпэрыі, і генэральны сакратар ЦК КПСС, прэзыдэнт СССР Гарбачоў рабіў усё магчымае, каб «вярнуць Літву ў канстытуцыйнае рэчышча» і прымусіць літоўскіх дэпутатаў скасаваць сваё рашэньне. Пераконваў Бразаўскаса, заклікаў да «здаровага сэнсу» літоўскую дэлегацыю на зьезьдзе народных дэпутатаў СССР, нарэшце, сам паехаў у Літву.

«Нікуды вы ня сыдзеце!» — заявіў Гарбачоў на сходзе партактыву, але разуменьня не пачуў.

«Вы ж хочаце жыць у абноўленым Саюзе?» — запытаў Гарбачоў на вуліцы ў звычайных людзей, перад якімі спыніўся ягоны картэж. «Не!» — хорам адказалі літоўцы.

Кінахроніка захавала разгубленасьць Гарбачова. Ніякіх палітычных аргумэнтаў у Крамля не заставалася.

І тады, 13 студзеня 1991-га, на вуліцах Вільні зьявілася бронетэхніка. Ландсбергіс спрабуе датэлефанавацца да Гарбачова — памочнік адказвае, што «Міхаіл Сяргеевіч сьпіць». Захопленыя тэлецэнтар, тэлевежа, Дом друку. Аўтаматчыкі (потым высьветліцца, што ў апэрацыі ўдзельнічала група КГБ Альфа») б’юць мірных людзей прыкладамі сваіх «калашнікавых». Потым пачынаюць страляць. Загінула чатырнаццаць чалавек.



Танкі на вуліацах Вільні. 13 студзеня 1991 г.

Ініцыятарам «навядзеньня канстытуцыйнага парадку» выступаў самаабвешчаны «камітэт нацыянальнага выратаваньня», членаў якога ніхто ня ведаў. Значна пазьней пацьвердзілася, што ніякага камітэту насамрэч не існавала — ягоныя «заявы» трансьляваліся супрацоўнікамі ЦК кампартыі Літвы на плятформе КПСС, а выпрацоўваліся ў Маскве. Зрэшты, мы гэта разумелі ўжо ў тыя дні.

«Дзіўна, як у гэтай дзяржаве, па сутнасьці, нічога не мяняецца, — пісаў у тыя дні Васіль Быкаў. — Цячэ час, набліжаецца да завяршэньня XX стагодзьдзе, завяршаецца шосты год перабудовы, а звычкі роднага кіраўніцтва, яго ўстойлівы антыдэмакратызм застаюцца без устойлівых зьменаў. Ланцуг д'ябальскіх злачынстваў, паўтараючыся з зайздроснай рэгулярнасьцю, абяцае працягнуцца ў будучае стагодзьдзе. Вугоршчына-56, Новачар-

каск-62, Чэхаславаччына-68, Тбілісі, Баку... Цяпер вось Вільня. І зноў — грубая, ваяўнічая сіла супраць народу, кроў і чалавечыя сьмерці... У гэты цяжкі час я дасылаю братэрскае прывітаньне маім сябрам — літоўскім пісьменьнікам і вельмі жадаю ім пратрымацца. Беларуская інтэлігенцыя, БНФ у гэтыя дні — разам зь Літвой, нашай братэрскай Летувой, і мы молімся за яе перамогу над спрадвечным злом і несправядлівасьцю» («Знамя юности», 16 студзеня 1990 г.).

Мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, сабраліся ў 363-м пакоі Дому ўраду 13 студзеня адразу, як пачулі пра падзеі ў Вільні (асабіста для мяне крыніцай інфармацыі было радыё «Свабода»). Напісалі заяву з асуджэньнем дзеяньняў Крамля і падтрымкай літоўскай незалежнасьці; да нас далучыліся і дэпутаты, якія не ўваходзілі ў Апазыцыю:

«Мы зьвяртаемся да народу Літоўскай Рэспублікі, яго законна абранага Вярхоўнага Савету і Ўраду і выказваем падтрымку ў гэты цяжкі час. Мы ў жалобе па ахвярах, якія прынёс народ Літвы на алтар свабоды і незалежнасьці. Мы зьвяртаемся да ўсіх Вярхоўных Саветаў сувэрэнных і аўтаномных рэспублік з заклікам падтрымаць народ Літвы ў яго справядлівых памкненьнях.

Мы патрабуем ад прэзыдэнта СССР:

— Вывесьці ўсе дэсантныя войскі з Прыбалтыйскіх рэспублік і неадкладна прыступіць да перамоў з законна абраным Вярхоўным Саветам і Ўрадам Літоўскай Рэспублікі па вырашэньні спрэчных пытаньняў;

— Адстаўкі міністра абароны СССР, які санкцыянаваў гэтую правакацыю, што прывяла да чалавечых ахвяраў;

... Прызнаньня дэ-юрэ і дэ-факта ўсіх абвешчаных сувэрэнітэтаў рэспублік...

Народныя дэпутаты Беларускай ССР Пётра Садоўскі, Алег Трусаў, Анатоль Вярцінскі, Аляксандар Шут, Уладзімер Новік, Лявонцій Зданевіч, Валянцін Голубеў, Уладзімер Заблоцкі, Мікалай Крыжаноўскі, Зянон Пазьняк, Віталь Малашка, Сяргей Навумчык, Сяргей Антончык, Лявон Дзейка, Лявон Баршчэўскі, Ігар Гермянчук, Яўген Новікаў, Генадзь Грушавы, Ніл Гілевіч, Яўген Глушкевіч, Іван Герасюк, Аляксандар Сасноў».

Падпісаўшы гэты тэкст, наступнае, што я зрабіў, — напісаў заяву аб выхадзе з КПСС. Тады шмат хто з актывістаў БНФ былі ў партыі; намесьнікі Пазьняка ў БНФ Міхась Ткачоў і Юры Хадыка, ягоныя намесьнікі па Апазыцыі БНФ Уладзімер Заблоцкі і Алег Трусаў, а таксама Валянцін Голубеў, Сяргей Папкоў, Мікалай Крыжаноўскі ды іншыя. Я ў КПСС уступіў у войску, спадзеючыся на абнаўленьне, перабудову і іншыя лёзунгі «сьвежага ветразя пераменаў» — наіўныя надзеі!

На другі дзень, калі распачалося чарговае пасяджэньне сэсіі, мы прапанавалі прыняць заяву ў падтрымку Літвы ўсяму Вярхоўнаму Савету.

Далей — цытаты з рэпартажаў тых дзён.

«Меркаваньні падзяліліся: адны прапаноўвалі прыняць заяву адразу, іншыя — пачакаць вяртаньня зь Вільні і расповеду пра падзеі старшыні Вярхоўнага Савету М. Дземянцея (Дземянцей на просьбу Гарбачова выехаў у Літву — С.Н.). Перамагло, як звычайна, кампраміснае рашэньне: накіраваць у Вільню групу дэпутатаў і па яе вяртаньні разам зь Дземянцеем прыняць рашэньне. Пасьля зацьверджаньня такой фармулёўкі дэпутат Папкоў заявіў, што ня будзе працаваць на

сэсіі да вырашэньня пытаньня пра Літву. Дэпутат Навумчык сказаў, што ў гэты момант амаральна абмяркоўваць нешта іншае, не абмеркаваўшы становішча ў Літве. І таксама пакінуў залю» (Віталь Цыганкоў, «Ззаду плянэты ўсёй?» Знамя юности, 16 студзеня 1991 г.).

… Яшчэ на калідоры я пачуў, што тэлефон у пакоі апазыцыі звоніць няспынна. Паведамлялі зь Вярхоўнага Савету Літвы (здаецца, нават сам Ландсбергіс) — над будынкам парлямэнту зьявіліся вайсковыя гелікоптэры, пагроза штурму будынку рабілася ўсё больш рэальнай. Я вярнуўся ў Авальную залю — ля мікрафона якраз прамаўляў Валянцін Голубеў. За ім, памятаю, была чарга, але чакаць не выпадала. Я падышоў да Голубева.

— Валянцін, над Вярхоўным Саветам Літвы ўжо вайсковыя верталёты.

Голубеў сказаў пра гэта і пра пагрозу штурму і, як ён сам цяпер прыгадвае, рэплікі супраць дэлегаваньня дэпутатаў у Літву адразу спыніліся.

«Склад дэлегацыі для паездкі ў Вільню прапанаваў першы намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч. Ён быў прыняты без пярэчаньняў. У Вільню накіраваліся: Ніл Гілевіч — паэт, Валянцін Вялічка — у нядаўнім мінулым сакратар Гомельскага абкаму партыі, цяпер — прафсаюзны лідэр вобласьці, Таццяна Анісенка — намесьнік дырэктара прадпрыемства таварыства глухіх, Валянцін Голубеў — гісторык, Генадзь Карпенка — старшыня пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савету, Сяргей Шабашоў — дэпутат ад вэтэранскай арганізацыі і Міхаіл Сьлямнёў — старшыня пастаяннай камісіі». (Народная газета, 16 студзеня 1991 г.).




Актывіст БНФ і аўтар большасьці здымкаў у гэтай кнізе Ўладзімер Кармілкін у Вільні. Студзень 1991 г.

У склад афіцыйнай дэлегацыі ўвайшоў толькі адзін дэпутат апазыцыі БНФ — Валянцін Голубеў. Мы вырашылі, што аднаго — недастаткова, і ў перапынку пасяджэньня Апазыцыя БНФ сфармавала сваю дэлегацыю — Барыс Гюнтэр, Ігар Пырх і аўтар гэтых радкоў.

Такім чынам, у Вільню ў той вечар выяжджалі дзьве дэлегацыі: афіцыйная зь сямі дэпутатаў і

«апазыцыйная» — з трох. Як мы даведаліся пазьней, ужо ў Вільні, па ўласнай ініцыятыве паехалі ў Літву Віктар Ганчар, Яўген Глушкевіч і Аляксандар Лукашэнка — разам утрох.

Мы з Гюнтэрам і Пырхам вырашылі ехаць адразу, не чакаючы афіцыйнай дэлегацыі (для яе фармавалі картэж з аўтамабілямі суправаджэньня, што, у прынцыпе, было апраўдана; нам выдзелілі дзяжурную «Волгу»).

Праз пару гадзін на мяжы нас сустрэла дэпутат Сойму Раса Растаўскене:

— Вам замоўлены гатэль, і я магу вас туды правесьці. Альбо іншы варыянт — паедзем адразу ў Вярхоўны Савет. Але ёсьць вялікая пагроза штурму.

Натуральна, мы выбралі Вярхоўны Савет.

Вакол будынку літоўскага парлямэнту — дзясяткі, а мо і сотні тысяч людзей, што выйшлі падтрымаць Вярхоўны Савет. Бэтонныя блёкі, барыкады з арматуры, гараць вогнішчы, людзі трымаюцца за рукі і сьпяваюць песьні. Сярод жоўта-зялёна-чырвоных літоўскіх — і нашыя, бел-чырвона-белыя сьцягі. Сярод абаронцаў літоўскай свабоды былі і беларусы — і тыя, што стала жылі ў Літве, і актывісты Народнага Фронту зь Менску. Уладзімер Кармілкін гэтым разам не з фотаапаратам, а з плякатам.

Нас правялі ў залю пасяджэньняў Вярхоўнага Савету і пасадзілі непадалёку ад Мікалая Дземянцея, які выступаў там у ролі эмісара Гарбачова.

Калі Дземянцей нас пабачыў, ён зьмяніўся з твару.

## «Мяне паслаў Гарбачоў!» — «А мяне — Пазьняк!»

«Вы што тут робіце? — зьдзіўлена спытаўся ў мяне Дземянцей, калі ўбачыў дэпутатаў БНФ. — Хто вас сюды паслаў?» — «А Вас, Мікалай Іванавіч?» — «Мяне сюды паслаў Гарбачоў». — «А мяне — Пазьняк!»

Больш пытаньняў не было, дыскусію мы не распачыналі, тым больш што побач сядзеў старшыня Вярхоўнага Савету Армэніі Тэр-Пэтрасян.

Місія Мікалая Дземянцея ў Літве, як ён сам пазьней сфармуляваў яе ў сваіх успамінах, была наступнай: «аказаньне неабходнай дапамогі яе (Літвы) кіраўніцтву па падтрымцы грамадзкага парадку ў адпаведнасьці зь дзейным заканадаўствам СССР», паколькі «ў першай палове студзеня ў Літоўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы будынак, дзе разьмяшчаліся літоўскае радыё і тэлебачаньне, захапілі сілы, якія выступалі за адзяленьне рэспублікі ад СССР».

Больш няўдалай фігуры, чым Дземянцей, для перамоў з кіраўніцтвам Літвы (калі Гарбачоў сапраўды спадзяваўся на перамовы) прыдумаць было немагчыма. Мікалай Іванавіч нават сярод намэнклятуры не вызначаўся асаблівым інтэлектам. Ён прамаўляў блытана, непісьменна, і часта было цяжка зразумець, што ён хоча сказаць, бо пачатак фразы не супадаў па часе, родзе і ліку з канцом. Сумняваюся, каб Гарбачоў гэтага не разумеў.

Але калі Крамлю патрэбна было адцягнуць час, менавіта такая асоба магла ідэальна выканаць ролю прыкрыцьця сілавой апэрацыі, што была праведзеная з дапамогай танкаў і групы КГБ «Альфа».

У сваіх успамінах Дземянцей піша, што «інцыдэнт са штурмам Вільнюскага тэлецэнтру і масавыя беспарадкі ў літоўскай сталіцы былі спэцыяльна арганізаваныя з мэтай дыскрэдытацыі частак і падразьдзяленьняў Савецкай Арміі... для аддзяленьня ад СССР». Ён прыводзіць размовы з Ландсбергісам, але асабіста ў мяне няма даверу да памяці Мікалая Іванавіча, бо праз колькі старонак ён кажа, што мы разам з Пазьняком, адгаворваючы яго падпісваць «саюзны дагавор», шантажавалі і пагражалі... павесіць («на верёвке без мыла»; мыла тады сапраўды было ў дэфіцыце, магчыма, гэта паўплывала на фантазіі кіраўніка дзяржавы).

У адной залі зь Дземянцеем мы пабылі нядоўга — хутка ён з дэлегацыяй сышоў.

А празь некалькі хвілінаў мяне запрасілі на трыбуну.

Праз гады ў Сойме Літвы мне далі стэнаграму той прамовы (выступаў я па-расейску). Я выказаў шкадаваньне, што наш пракамуністычны Вярхоўны Савет не прыняў заявы ў падтрымку памкненьня літоўцаў да незалежнасьці. Зачытаў зварот Апазыцыі БНФ і Дэмклюбу, пад якім былі 82 дэпутацкія подпісы, а потым скарыстаўся прамой радыётрансьляцыяй сэсіі на ўсю Літву і зьвярнуўся да этнічных беларусаў, якія жылі тут альбо праходзілі вайсковую службу:

«Пользуясь случаем, я хотел бы сказать несколько слов, обращаясь к жителям Литвы — белорусам и к солдатам-белорусам, которые, возможно, тут находятся. Шаноўныя землякі, тое, што цяпер адбываецца ў Вільні, тое, што цяпер адбываецца ў Літве — гэта, можа быць, толькі пачатак той крывавай драмы, якая нам наканаваная. Цяпер спрачаюцца, калі ж пачалася перабудова. Безумоўна, што

дакладна фініш перабудовы можна вызначыць — 13 студзеня 1991 года, тут. Давайце праявім салідарнасьць з народам Літвы, у якога адзінае з намі памкненьне — гэта памкненьне да свабоды, гэта памкненьне да сувэрэнітэту.

Дарагія землякі, тыя, хто па волі лёсу, па волі савецкай Канстытуцыі вымушаны апрануць вайсковую форму, памятайце, што калі дула аўтамата накіраванае на брата, дык няма ніякіх гарантыяў, а ёсьць стопрацэнтовая верагоднасьць таго, што заўтра гэтае дула будзе накіраванае на вашых маці, на вашых сясьцёр, на вашых братоў, на вашых дзяцей. Апусьціце зброю».

Я перадаў тэкст заявы Апазыцыі БНФ і Дэмклюбу Ландсбергісу і таксама заклікаў дэпутатаў зь іншых краінаў праявіць салідарнасьць зь літоўскімі калегамі і не пакідаць у гэтую ноч будынак Вярхоўнага Савету, які знаходзіўся пад пагрозай штурму.

Пасьля пасяджэньня міністар аховы краю, дэпутат Андрус Буткявічус павёў мяне па калідорах.

Паўсюль — мяхі зь пяском, барыкады з мэблі. Паўсюль — добраахвотнікі, і толькі ў дзясятка зь іх я ўбачыў стрэльбы — вялізныя, пачатку XX стагодзьдзя.

— Колькі вы здолееце пратрымацца? — спытаўся я ў міністра.

Буткявічус не адказаў.

Абодва мы разумелі, што дэсант захопіць будынак самае большае за 15 хвілін. Але вынікам будуць сотні забітых людзей і на плошчы, і ў Вярхоўным Савеце.

Пакуль мы хадзілі па калідорах парлямэнту, Барыс Гюнтэр і Ігар Пырх сустрэліся з Ландсбергісам.

— Ландсбергіс прасіў, каб мы дапамаглі са зброяй, — расказаў потым Ігар Пырх. — Я адказаў, што ў БНФ зброі няма.

Гэта была праўда.

Ня ведаю, ці зьвяртаўся з такой просьбай старшыня Вярхоўнага Савету Літвы да Дземянцея і што той адказаў. Самым шчырым адказам было б: «Я не кантралюю на тэрыторыі сваёй рэспублікі ніводзін пісталет. Усім распараджаецца Масква».

Тую ноч я правёў у будынку разам з абаронцамі парлямэнту, а на другі дзень нас прывялі ў палац, дзе стаялі труны зь целамі забітых. Потым была цырымонія пахаваньня…

Між іншым, раніцай я адчуў, што кіраўнік афіцыйнай дэлегацыі Ніл Гілевіч павітаўся са мной неяк холадна. Высьветлілася, што прычынай быў мой учорашні выступ у парлямэнце Літвы. Гілевіч сказаў, што яму не спадабалася, што я назваў Вярхоўны Савет Беларусі «пракамуністычным», хаця, думаю, прычына была іншая. Ніл Сымонавіч вельмі вялікую ўвагу надаваў дэталям пратаколу, і выступ некага ў абыход яго, кіраўніка афіцыйнай дэлегацыі, успрыняўся ім як непавага да яго-нага ўласнага статусу. Аднак у той дзень было не да палітэсу. Апрача таго, Апазыцыя БНФ таму і накіравала сваіх прадстаўнікоў, што хацела мець сваё, незалежнае ад камуністычнай большасьці «вока» (а пры неабходнасьці — і незалежны «голас»).

Але вялікае значэньне мела і тое, што ў складзе афіцыйнай дэлегацыі быў і дэпутат БНФ Валянцін Голубеў. Ён быў пазбаўлены таго «права манэўру», якое мелі мы — затое ўбачыў тое, чаго ня ўбачыла наша дэлегацыя.

«Уражаньні ў мяне страшэнныя, цяжкія, — распавёў перад ад'ездам зь Вільні Валянцін Голубеў журналісту Генадзю Барбарычу. — Зьезьдзілі да Дому друку, да тэлебачаньня, бачылі гэтыя танкі, якія там стаяць, бачылі фотаздымкі забітых, гутарылі з салдатамі, спрабавалі пагутарыць з адным афіцэрам. Аказалася, сам ён беларус. Вочы апусьціў — сорамна. Казаў, што павінен выканаць загад, канстытуцыйны абавязак. Што можа казаць афіцэр, калі побач стаяць дзесяць салдат, а яшчэ іншы афіцэр побач, а потым яшчэ чалавек, апрануты ў форму міліцыянта, падбягае і кантрольна прыслухоўваецца. Гэтага афіцэра таксама можна зразумець… Але лепш пайсьці пад суд, адмовіўшыся страляць у мірных людзей.

Былі мы ў Вярхоўным Савеце, сустракаліся зь некаторымі кіраўнікамі… Затым спрабавалі сустрэцца з тымі, хто запрасіў сюды войска. Што гэта за «камітэт нацыянальнага выратаваньня», тым больш, што тэлеграма ад яго імя ў Вярхоўны Савет БССР была накіраваная з ЦК кампартыі Літвы? І сёньня мы наведалі ў канцы дня, пасьля пахаваньня, ЦК КПЛ. Мы сустрэліся там з загадчыкам ідэалягічным аддзелам Ермалавічусам, спрабавалі даведацца, што гэта за камітэт, якія людзі туды ўваходзяць? Нічога нам не назвалі — ні прозьвішчаў, нічога. Падобна, што гэтага камітэту папросту не існуе…»

Увечары 16 студзеня мы вярнуліся ў Менск.

## Лукашэнка: што будзе, калі адабраць у прэзыдэнта танкі?

На другі дзень, 17 студзеня, на парадку дня было чарнобыльскае пытаньне. Але Дземянцей, які вярнуўся з Масквы (ён выступіў з інфармацыяй пра Літву ў Вярхоўным Савеце СССР) каротка распавёў пра віленскія падзеі — са спадзяваньнем, што на гэтым тэма будзе вычарпаная.

Дземянцей: «Што да пытаньняў наконт вытокаў, як гэта адбывалася, дык мы павінны разгледзець іх спакойна, па-за парадкам дня. Дзеля таго, каб не перашкодзіць працэсу грамадзянскай згоды, не падштурхоўваць да грамадзянскай вайны. Трэба спрыяць таму прымірэньню, якое надышло. І нашыя выступы і наш аналіз пакуль ні да чаго не прывядуць… А зараз будзем працягваць працаваць па парадку дня…»

Мы, канешне, усьведамлялі важнасьць чарнобыльскага пытаньня — аднак падзеі ў Літве патрабавалі неадкладнага абмеркаваньня. Узьнікла спрэчка паміж дэпутатамі БНФ і Дэмклюбу з аднаго боку і прадстаўнікамі парлямэнцкай большасьці з другога.

Валянцін Голубеў (Апазыцыя БНФ): «Я член той дэлегацыі, якую Вярхоўны Савет Рэспублікі накіраваў у Літоўскую Рэспубліку… Мы паабяцалі ў Літоўскай Рэспубліцы, што давядзем да дэпутатаў Вярхоўнага Савету і да народу рэспублікі ўсю тую праўду, што там робіцца. Мы просім нас выслухаць…»

Сяргей Навумчык (Апазыцыя БНФ): «Сапраўды, калі бываеш там, то і ў парлямэнце адчуваеш сябе ў вельмі няёмкім становішчы. Калі парлямэнты сьвету выказаліся аб гэтай праблеме, а мы,

суседзі, маўчым. Мы хацелі б прапанаваць, каб літаральна цяпер быў пачаты разгляд літоўскага пытаньня».

Уладзімер Кудлаш (былы першы сакратар ЦК ЛКСМБ): «Як вы ведаеце, у сьнежні мінулага году група народных дэпутатаў унесла ў парадак дня пытаньне аб парушэньні грамадзкага парадку пры правядзеньні альтэрнатыўнага мітынгу 7 лістапада 1990 году ў горадзе Менску. Пытаньне ў парадак дня ўключылі апошнім. .. Уношу прапанову абмеркаваць гэтае пытаньне адразу пасьля разгляду законапраектаў па чарнобыльскай тэматыцы. Абмеркаваньне гэтага пытаньня, на мой погляд, пакажа на самой справе, хто ёсьць хто».

(Кудлаш выступаў па-расейску. Увогуле, на сэсіях Вярхоўнага Савету дэпутаты Апазыцыі БНФ выступалі па-беларуску, з камуністаў жа па— беларуску выступалі лічаныя адзінкі. Тут і далей расейскамоўныя выступы, а таксама расейскамоўныя дакумэнты ды публікацыі падаюцца ў перакладзе на беларускую).

Віктар Ганчар: «Якія заўгодна спробы адцягнуць разгляд справы аб становішчы ў Літве ёсьць спробай схаваць праўду аб рэальным становішчы ў гэтай рэспубліцы. .. Калі зараз мы не прыступім да разгляду гэтага пытаньня, дык гэта будзе найвышэйшая мяжа амаральнасьці».

Мікалай Крыжаноўскі (Апазыцыя БНФ): «Мы ў складзе трох народных дэпутатаў — Сяргея Антончыка, Аляксандра Шута і Мікалая Крыжаноўскага — былі ў Латвіі. Там становішча — копія становішча ў Літве, толькі пакуль што няма ахвяр. І мы хацелі б таксама расказаць аб падзеях, якія адбываюцца ў Латвіі. Мы былі ў Вярхоўным Са-

веце, сустракаліся зь людзьмі і хацелі б аб гэтым зрабіць справаздачу».

Генадзь Карпенка: «Усе ўрады Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік выказалі свае адносіны да гэтых падзеяў. І мы абавязаныя зрабіць гэта неадкладна».

Алесь Шут: «Як я памятаю, Вярхоўны Савет большасьцю галасоў вырашыў: калі вернецца дэлегацыя зь Літвы і будзе тут Мікалай Іванавіч Дземянцей, дык мы будзем разглядаць гэтае пытаньне».

Шушкевіч праводзіць галасаваньне: 257 дэпутатаў выказваюцца за тое, каб разглядаць сытуацыю ў Літве неадкладна. Слова бярэ кіраўнік афіцыйнай дэлегацыі.

Ніл Гілевіч: «Маё першае ўражаньне — гэта ненатуральнасьць, нейкая недарэчнасьць, уроддівасьць самой гэтай сытуацыі, а іменна таго, што мы ўбачылі. Гэта абарончыя збудаваньні з магутных бэтонных блёкаў вакол будынку Вярхоўнага Савету, усе гэтыя загароджы, завалы, сьцены. Гэтак сама і вогнішчы, якія гараць дзень і ноч, каля якіх грэюцца, якімі вечарамі асьвятляюцца, і вогнішчы з узброенымі людзьмі каля афіцыйнага будынку ў Вільні, танкі, бронетранспарцёры. І тая зацятая непрымірымасьць, якая адчувалася паўсюдна. Усё гэта, паўтараю, здаецца нейкай вялікай ненатуральнасьцю ў горадзе, які зьяўляецца адным са старажытных цэнтраў культуры нашай краіны (СССР. Увогуле, тут і далей у выступах большасьці дэпутатаў пад словам «краіна» маецца Савецкі Саюз — С.Н.). У тым ліку, можа быць, перш за ўсё, калыскай нашай беларускай культуры.

Я ўспамінаю выступ прэзыдэнта Гарбачова 14 сьнежня вечарам па тэлебачаньні на сэсіі Вярхоўнага Савету ў Маскве. У мяне ўжо тады было ўражаньне, што мне не даводзілася раней слухаць такой непераканаўчай прамовы прэзыдэнта, як гэтая. У мяне было ўражаньне, што палітыка нашай краіны — і ўнутраная, і міжнародная — як бы правалілася ў нейкую яму, выбрацца зь якой вельмі няпроста. Трэба выраўняць усе рэспублікі і народы нашай краіны ў правах, зрабіць раўнапраўнымі, сувэрэннымі дзяржавамі на справе, а не на словах.

На маё разуменьне, прычына прычынаў тых падзей, што адбыліся ў нашай краіне да Літвы і што адбыліся ў Літве — недаацэнка нацыянальнага пытаньня пры канцы дваццатага стагодзьдзя. Глухата і сьлепата да нацыянальных праблем проста невытлумачальныя і нармальнаму разуменьню не паддаюцца…

Я прыходжу да высновы, што тым, хто задумаў і абвясьціў перабудову ў нашай краіне, трэба было пачынаць, па-першае, з нацыянальнага пытаньня як аднаго з найбольш складаных і цяжкіх для рашэньня. Затым — з выратаваньня аўтарытэту Камуністычнай партыі, з навядзеньня сацыяльнага парадку, сацыяльнай справядлівасьці ў краіне. Я ўпэўнены, што не дайшло б у рэспубліках да самой ідэі сэпаратызму, дзяржаўнай адасобленасьці. Проста ў гэтым не было б патрэбы. Калі б праблемы вырашаліся і былі вырашаныя дэмакратычна раней».

Тут зраблю рэмарку-тлумачэньне. Ніл Сымонавіч падкрэсьліваў сваю адданасьць камуністычным ідэалам — і часам з гэтае прычыны ён, чыя адданасьць беларушчыне ніколі не выклікала

ў мяне сумневу, трапляў у пастку. Гэтым разам ён салідарызаваўся з тымі, хто выступаў супраць памкненьняў народаў да незалежнасьці (тэрмін «сэпаратызм» меў у той час адмоўнае адценьне).

«Працэс сувэрэнізацыі, набыцьця самастойнасьці — гэта працэс доўгі, разьлічаны на многія гады, — працягваў Ніл Гілевіч. — Адразу, з ходу, нейкім адным дзеяньнем такіх пытаньняў ня вырашыш. У мяне ўражаньне, што ў Літве і некаторых іншых рэспубліках не лічыліся, паўтараю, з рэальным станам рэчаў, рашылі вырашыць гэтыя пытаньні як найхутчэй…

Другі ўрок, які таксама тычыцца ня толькі Літвы, Прыбалтыкі, але і нас з вамі. Трэба не распаляць нянавісьці да савецкай улады, да асноў таго ладу жыцьця, які дзясяткі гадоў меў месца ў нас — да сацыялістычнага ладу жыцьця, гэтаксама як да камуністаў і камуністычнай партыі. Бо гэта таксама авантурызм і нежаданьне ўлічваць рэальную сытуацыю. Тысячы людзей пражылі дзясяткі гадоў у пэўных сацыяльных умовах, у пэўных палітычных умовах. Людзі вераць, як і верылі, што гэта іх жыцьцё, іх лёс. Гэта мільёны людзей, і калі іх крыўдзіць непрадуманымі, безадказнымі заявамі, гэтым самым можна толькі выклікаць варажнечу, нянавісьць і давесьці справу да грамадзянскай вайны...

… Нядаўна (вы чыталі ў друку) забілі рэдактара абласной газэты Івана Іванавіча Фаміна ў Расеі. Я не сумняваюся, што забілі сапраўднага камуніста. Гэта да ведама тых, хто сьпяшаецца перш за ўсё абвінавачваць камуністаў. Я амаль не сумняваюся, што забілі прадстаўнікі тых самых сіл, якія б хацелі зрабіць самы горшы пераварот у нас і давесьці да канчатковага развалу нашу краіну».

Што маглі падумаць людзі Беларусі, пачуўшы ў тэле— і радыётрансьляцыі гэтыя словы? Усім вядома, што апанэнтамі камуністаў у Расеі выступалі дэмакраты, а ў Беларусі — БНФ. «Развал краіны» атаясамліваўся з патрабаваньнем незалежнасьці савецкіх рэспублік. Можна было зразумець, што «забілі прадстаўнікі» гэтых самых «сіл».

«Я хачу сказаць — працягваў Ніл Сымонавіч, — што людзі, якія жывуць у Прыбалтыцы, маю на ўвазе не літоўцаў, не эстонцаў, а людзей, якія прыехалі туды жыць, — яны не вінаваты. Гэта — савецкія людзі, выхаваныя ва ўмовах сацыялістычнага ладу. Гэта — людзі пэўных перакананьняў, у тым ліку і камуністычных, і з гэтым трэба лічыцца. Яны таксама маюць права на павагу, на талерантныя адносіны, на спачуваньне. Ім надзвычай цяжка. Не заўсёды яны па сваёй віне, па сваёй уласнай волі туды паехалі. Але калі і па ўласнай волі, то яны паехалі з поўным даверам, што гэта нашы, савецкія, сацыялістычныя рэспублікі, і мы там будзем жыць, працаваць як савецкія людзі, і ствараць ім сёньня горшыя ўмовы жыцьця нельга. З гэтым аднак ня ўсе ў прыбалтыйскіх рэспубліках, ды і ў іншых, як мы ведаем, хочуць лічыцца, і ня лічацца».

Гэта быў наўпраставы намёк на тое, што іншыя выступоўцы называлі «парушэньнем правоў рускамоўнага насельніцтва». Увогуле, у выступе Гілевіча прагучалі тры тэзы: не чапайце камуністаў, у сытуацыі вінаватыя ў тым ліку і тыя, хто «парушыў правы» нелітоўцаў — гэта значыць, вінаватыя абодва бакі. Гэтыя тэзы былі аспрэчаныя ў выступах дэпутатаў (пераважна — з Апазыцыі БНФ). Нам было надзвычай важна, каб нашую контр-аргумэнтацыю пачулі ня толькі дэпутаты

ў Авальнай залі, але і грамадзяне Беларусі праз трансьляцыю.

У тыя хвіліны думаў над аргумэнтацыяй і я, але давялося скарэктаваць свой выступ, бо нечакана сам апынуўся прадметам абмеркаваньня. І даволі бурнага.

Гілевіч пачаў тлумачыць, чаму ня ўсе члены афіцыйнай дэлегацыі ў першы вечар патрапілі ў парлямэнт Літвы: па яго словах, дэпутаты Вярхоўнага Савету Літвы, якія сустрэлі афіцыйную дэлегацыю —

«…на дарозе і прывезьлі ў гасьцініцу, заявілі нам, што сёньня вечарам, указваючы на выключную сытуацыю, на фактычна, як яны сказалі, неаб'яўленую вайну Літве, на камэнданцкі час, яны не гарантуюць, калі мы паедзем усёй дэлегацыяй, нават захаваньне ў цэласнасьці нашага транспарту. І што лепш за ўсё гэты транспарт, пакуль ёсьць магчымасьць, паставіць у гараж. І абрысавалі нам сытуацыю вельмі складанай, аб'явілі, што сёньня яны могуць запрасіць толькі двух чалавек.

… Чаму, скажам, такія насьцярожаныя адносіны да нас? Я баюся гаварыць катэгарычна, але ёсьць у мяне ўражаньне, што ў цэлым у Вярхоўным Савеце Літвы насьцярожаныя адносіны да нашага Вярхоўнага Савету. І гэта не без заслуг некаторых народных дэпутатаў Беларускай ССР. Ва ўсякім разе першае, што мы зрабілі, прыйшоўшы ў фае гасьцініцы яшчэ да таго, як атрымаць ключы, уключылі прыёмнік і пачулі выступленьне народнага дэпутата БССР Навумчыка, які пасьпеў раней нас туды прыехаць і ўзяў слова на Вярхоўным Савеце Літвы. І па тым, што мы пачулі, стала зразумела, што гэта была, мякка кажучы, ня самая лепшая характарыстыка нашага Вярхоўнага

Савету. … Дарагія мае, нікому на нашай зямлі я не судзьдзя, але я хачу сказаць, што вось такія адносіны да нашай рэспублікі, да вярхоўнай улады рэспублікі я не разумею і ніколі не зразумею».

У маю абарону выступіў Міхаіл Сьлямнёў — удзельнік афіцыйнай дэлегацыі, член Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, старшыня Камісіі па міжнацыянальных адносінах:

Міхаіл Сьлямнёў: »Навумчык быў упаўнаважаны зраіць адпаведную заяву ад вялікай групы дэпутатаў, амаль ад 100 чалавек — ад дэпутатаў Беларускага Народнага Фронту, ад Дэмакратычнага клюбу. Гэта заява, я думаю, не магла паўплываць на тое, што Вярхоўны Савет Літвы запрасіў увечары ўдзельнічаць не ў пасяджэньні, а ў гутарках толькі двух народных дэпутатаў».

Тое было слушна, Гілевіч супярэчыў сам сабе — мой выступ члены афіцыйнай дэлегацыі пачулі ў прамой радыётрансьляцыі ў момант, калі засяляліся ў гатэль і адначасна з запрашэньнем ад літоўскіх дэпутатаў, што сустракалі дэлегацыю. Чуць жа літоўскія парлямэнтарыі мой выступ маглі толькі разам з Гілевічам, праз радыё, і наўрад ці тут жа вырашылі запрасіць толькі двух дэпутатаў, а ня ўсю дэлегацыю (ясна, што рашэньне было прынятае раней і не самімі дэпутатамі, а кіраўніцтвам парлямэнту Літвы).

Але для дэпутатаў-камуністаў гэта было ня важна — яны атрымалі аб'ект для аўтадафэ, які знаходзіўся непасрэдна тут, у залі. Далучыліся да прачуханкі і некаторыя дэпутаты Дэмклюбу.

Валянцін Вялічка: «…Калі ўключылі прыёмнік, дык пачулі выступ Сяргея Навумчыка. Яго словы, што беларускі парлямэнт, які ў большасьці складаецца з партыйна-савецкага апарату, ня ў

стане сёньня зразумець патрэбы і трывогі Літвы. Яму сёньня ледзь ня сорамна за такі парлямэнт. Я хачу сказаць, што кожнаму з нас даверылі мандат выбаршчыкі, народ. І даваць такую ацэнку ў парлямэнце ў такі напружаны час, калі адбыліся такія трагічныя падзеі, калі ідзе грамадзянская вайна — вогнішчы гараць, паўсюль заклікі, плякаты, арматура, людзі ўзбуджаныя, — недапушчальна, хто б гэта ні быў і якую б групу ён ні прадстаўляў, калі ён афіцыйна на тое не ўпаўнаважаны».

Генадзь Карпенка: «Я не магу ўсё ж не сказаць пра выступ Навумчыка ў парлямэнце. Цалкам падтрымліваю яго ў частцы звароту групы дэпутатаў, аўтарам якога я таксама зрабіўся, у падтрымку літоўскага народу. Але я ні ў якім разе не падтрымліваю, калі чалавек кажа, што яму сорамна за такі парлямэнт, які ён прадстаўляе. Ёсьць адно выйсьце, калі вам сорамна («шум у залі» — пазначана ў стэнаграме; шум не дазволіў застэнаграфаваць словы Карпенкі «…тады пакладзіце дэпутацкі мандат» — С.Н.).

Тацьцяна Анісенка: «Таварышы, я пераканаўча вас прашу, у прыватнасьці Сяргея Навумчыка. Ведаеце, калі я чула, што Вы казалі ў цэлым пра ўвесь наш парлямэнт, мне было гранічна крыўдна, што Вы кажаце і ад майго імя. Вы абсалютна ня ведаеце, якое ў мяне меркаваньне склалася ад наведваньня Літвы».

Перад самым маім выступам узьняўся дэпутат Судас і запатрабаваў, каб я патлумачыў, чаму я «даваў ацэнку ўсяму Вярхоўнаму Савету».

Мушу прызнацца, што такіх абвінавачаньняў я не чакаў — кожны (і ня толькі дэпутат — звычайны грамадзянін) мае права даваць ацэнку каму заўгодна, у тым ліку і парлямэнту. Ацэнку ж Вяр-

хоўнаму Савету як пракамуністычнаму, намэнклятурнаму мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, давалі не аднойчы. Відаць, пачуць пра сябе праўду за межамі Беларусі было непрыемна.

Калі б папрокі на мой адрас ішлі толькі ад дэпутатаў-намэнклятуршчыкаў, я б наўрад ці на іх адказваў. Але распачаў Ніл Гілевіч, а падтрымаў Генадзь Карпенка. Думаю, што абарона «гонару мундзіра» тут была не на першым месцы. Думаю, шаноўных калег пакрыўдзіла, што нехта іншы, а не яны, атрымалі слова з трыбуны літоўскага парлямэнту — прычым калі пасяджэньне слухала ўся Літва. Што да Ніла Сымонавіча, дык ён увогуле надта даткліва ставіўся да субардынацыі, і ў Вільні, бясспрэчна, як кіраўнік афіцыйнай, прызначанай Вярхоўным Саветам дэлегацыі, адчуваў сябе «галоўным».

Звычайна, калі даводзілася выступаць з трыбуны, якая стаяла ў цэнтры залі, у прамоўцы быў час для падрыхтоўкі (іншая справа — рэплікі ад мікрафонаў: тут, зразумела, былі экспромты, часта даводзілася імгненна рэагаваць на нейкі папярэдні выступ, асабліва калі гэта быў выступ палітычнага апанэнта). Калі загадзя было вядома, якое пытаньне будзе абмяркоўвацца ў той ці іншы дзень, некаторыя пісалі тэксты сваіх выступаў. Часта гэтак рабіў Пазьняк, што было цалкам слушна, паколькі ягоныя словы ўспрымаліся не як меркаваньне асобы, а як пазыцыя шматтысячнага народнага руху. Выступы Пазьняка ўражвалі дакладнымі, выверанымі фармулёўкамі: прачытаеш потым у стэнаграме і бачыш, што кожнае слова да месца, яго нельга прыбраць альбо замяніць нейкім іншым. Я ж звычайна толькі пазначаў сказы — тэзісы на аркушы паперы, разумеючы, што,

хутчэй за ўсё, давядзецца ўлічваць папярэднія выступы. Так і гэтым разам — падрыхтаванага тэксту не было, але і будаваць свой выступ на апраўданьнях за словы ў літоўскім парлямэнце я не зьбіраўся. Мне не было за што апраўдвацца. Аднак патлумачыць сваю пазыцыю (з улікам трансьляцыі) прыйшлося.

Сяргей Навумчык: «Паважаныя спадары дэпутаты! Як вядома, па рашэньні парлямэнцкай Апазыцыі БНФ і Дэмакратычнага клюбу ў Вільню выяжджала група з трох народных дэпутатаў — Пырха, Гюнтэра і Навумчыка — для назіраньня за сытуацыяй. Разам з тым мы везьлі туды заяву аб становішчы ў Літве, якая была прынятая і падпісаная групай народных дэпутатаў ад Апазыцыі і Дэмакратычнага клюбу.

Учора гэтая група была прынятая Ландсбергісам. Мы сустракаліся зь іншымі кіраўнікамі Вярхоўнага Савету Літвы, з жыхарамі Вільні, сустракаліся таксама і з тымі вайскоўцамі, якія стаяць на абароне захопленых вайсковых аб’ектаў. Тут казалася пра тое, што некаторыя аб’екты кантралююцца арміяй. Я ня згодны. Яны захопленыя — і толькі так трэба разумець тое, што мы бачылі каля тэлецэнтру. Над гэтым цэнтрам пераможна лунае чырвоны сьцяг як сымбаль цудоўна праведзенай ваеннай апэрацыі. Але гэтая ваенная апэрацыя каштавала 14 чалавечых жыцьцяў.

Наогул, сытуацыя вельмі складаная... Як вядома, «камітэт нацыянальнага выратаваньня», якога мы ня бачылі (відаць, ніхто яго ўжо ніколі не пабачыць), патрабуе ўвядзеньня прэзыдэнцкай (гэта значыць — крамлёўскай — удакладненьне 2013 г.) улады. Прынамсі, гэта азначае і роспуск Вярхоўнага Савету Літвы. Тым ня менш мы бачылі, што

Вярхоўны Савет Літвы фактычна перанасычаны зброяй. Там маладыя людзі, студэнты, у іх я ня бачыў аўтаматычнай зброі. У асноўным гэта зброя паляўнічая, але яе вельмі многа. Яны гатовы абараняць гэты парлямэнт да канца.

Такое жаданьне выказваюць і жыхары Вільні. Парлямэнт заўсёды ўзяты ў вялікае кола людзей. Яны яго будуць абараняць. Усялякае ўвядзеньне прэзыдэнцкай улады, роспуск Вярхоўнага Савету, прывядзе да выкарыстаньня армейскіх падразьдзяленьняў. А гэта значыць, да вялізных і вялізных ахвяраў.

Прычым я не спыняюся на неканстытуцыйнасьці вось гэтага кроку, мы павінны заявіць пра недапушчальнасьць такога праўленьня. Тым самым пацьвердзіць, што мы прызнаем законна абраны парлямэнт Літвы і яго ўрад. Гэта цалкам адпавядае Канстытуцыі сувэрэннай Літоўскай Рэспублікі.

У заключэньні не магу не спыніцца на прапанове дэпутата Судаса растлумачыць моманты свайго выступленьня ў літоўскім парлямэнце.

Я зачытаў заяву Дэмакратычнага клюбу і Апазыцыі, пад якой стаяць 83 подпісы. Ад сябе прыватна выказаў тыя адчуваньні, якія ў нас былі 15-га, калі, на жаль, большасьцю Вярхоўны Савет не прыняў нічога па Літве. Да таго часу, пакуль мы прыехалі ў парлямэнт, амаль усе парлямэнты саюзных рэспублік і шмат якія парлямэнты сьвету засьведчылі свае адносіны да Літвы. У якім мы апынуліся становішчы? Я маю на ўвазе наш парлямэнт. Гэта, безумоўна, выклікае толькі адзіныя чалавечыя пачуцьці — сорам».

У маю абарону выступіў Віктар Ганчар: «Усе члены афіцыйнай дэлегацыі дазволілі сабе ацаніць учынак Навумчыка. Чаму ж яны тады не пацьвер-

дзілі сваю ацэнку учынку Ніла Сымонавіча (Гілевіча — С.Н.), калі ён фактычна адмовіўся выступіць на жалобнай паніхідзе ў горадзе Вільнюсе?».

Выказаў Ганчар і свае ўражаньні.

Віктар Ганчар: «Калі б вы бачылі гэтыя надоўбы, супрацьтанкавыя равы, «яжы», калі б вы бачылі людзей, якія сядзяць круглыя суткі (і іх тысячы) вакол вогнішчаў, калі б вы бачылі парлямэнт, дзе людзі ляжаць, — вам стала б зразумела: у выпадку якога заўгодна абвастрэньня, якой заўгодна палітыкі ня толькі зрынаньня законнай улады, але якой заўгодна спробы ўвядзеньня прэзыдэнцкага кіраваньня гэты варыянт прывядзе да непрадказальнай трагедыі. Таму я не зьбіраюся ацэньваць нашае палітычнае кіраўніцтва (маецца на ўвазе кіраўніцтва СССР — С.Н.). Але я ўсё-такі падтрымліваю дэпутата Лукашэнку. Калі стаялі на каленях Бразаўскас і Прунскене ў храме, ён зрабіў заўвагу, што не зашкодзіла б, каб тут стаяў на каленях і наш вышэйшы палітычны кіраўнік. І я думаю, што ў гэтым выпадку літоўскі народ ім бы гэта дараваў... Хаця Ніл Сымонавіч забараніў фактычна членам дэлегацыі быць у той вечар у парлямэнце, мы там былі — і я, і Лукашэнка, і Глушкевіч».

Пасьля Ганчара слова ўзяў Лукашэнка.

Аляксандар Лукашэнка: «Самая галоўная думка, якая пастаянна сьвідруе мне галаву пасьля Літвы. Гэта думка пра тое, што рабіў бы прэзыдэнт і ягоная каманда, калі б сёньня ў іх адабраць танкі і тых ачмурэлых салдат, якія там знаходзяцца…

Мае ўражаньні. Усё пачалося з таго, што частку афіцыйнай дэлегацыі «заперлі» у гатэлі. Яны ня здолелі пабываць у парлямэнце. Хаця, як мы пабачылі пазьней, перашкодаў ніхто не рабіў.

Другое. Зьнешне ў Вільнюсе, як і ў мірны час, спакойны рух аўтамабіляў і гэтак далей. Але не пакідае пастаяннае ўнутранае напружаньне, асабліва пасьля наведваньня парлямэнту і таго, што робіцца вакол яго. Ідзе буйное будаўніцтва ўмацавальных рубяжоў па ахове гэтага будынку.

Трэцяе. Я зайздрошчу членам парлямэнту і тым лідэрам, якія сёньня абраныя літоўскім народам, якія так абараняюць народ.

Чацьвёртае. Вялікая мудрасьць літоўскага народу, найвышэйшы парадак і адсутнасьць усялякіх эмоцыяў і правакацыяў.

Пятае. Пахаваньне. Незьлічоная колькасьць людзей. І аднадушнасьць у ацэнцы таго, што здарылася.

Шостае. Сапраўды, напэўна, ёсьць сур'ёзныя праблемы ў адносінах паміж рускамоўным насельніцтвам і тым насельніцтвам, якое там знаходзіцца. Я гэта адчуў на сабе.

Сёмае. Я разумею, чаму Віктар Іосіфавіч Ганчар не сказаў галоўнага. Мы размаўлялі з салдатамі і асабліва з афіцэрам. Нас уразіла адна ягоная заява. Я як чалавек, які ўвогуле шмат праслужыў у войску (тэрміновую і афіцэрам), скажу так, што небясьпечна апрацаваныя гэтыя вайскоўцы. Ён заявіў даслоўна так (там, дарэчы, наш беларускі таварыш, і салдаты — нашыя беларускія хлопцы): «Спыняцца нам на гэтым нельга». Я адразу не зразумеў, на чым нельга? Мы запыталіся ў яго: «На чым спыняцца нельга?» — «Трэба ратаваць Саюз, трэба ісьці да канца», — вось выснова афіцэра. (Шум у залі). Таварышы, я даю інфармацыю…

Выснова. Ня ведаю, якое іншае кіраўніцтва рэспублікі сёньня можа кіраваць гэтым народам. Але гарматамі размахваць перад носам народу шмат

розуму ня трэба. Адзінае выйсьце з гэтага — даць магчымасьць літоўскаму народу сёньня вызначыцца і вырашаць праблемы самому. А дзеля таго, каб гэта адбылося, думаю, што прэзыдэнту і ягонай камандзе, хто ў гэтым удзельнічаў, трэба паехаць у Літву, перад парлямэнтам, стаць на калені перад гэтым мужным народам і паспрабаваць патлумачыцца і прабачыцца».

Лукашэнка своеасабліва асэнсуе ўрокі Літвы. Пройдзе пяць гадоў, і ён зробіць усё, каб у 95-м годзе быў абраны такі Вярхоўны Савет, які народ ня выйдзе абараняць, калі Лукашэнка яго разгоніць у 96-м. На доўгія гады галоўным інструмэнтам захаваньня непадзельнай улады ён абярэ войскі, рэпрэсіўны апарат і ачмурэньне.

Ацэнкі дзеяньняў «саюзнага» кіраўніцтва былі гранічна рэзкімі.

Яўген Глушкевіч: «Калі нейкі камандзір, начальнік альбо камэндант гарнізону абвяшчае, груба кажучы, вайну ў Літве,і пра гэта ня ведае міністар абароны, дык я як дэпутат і грамадзянін Саюзу не хачу, каб у нас быў такі міністар. Я ўношу прапанову, каб мы сёньня паставілі на галасаваньне пытаньне аб адстаўцы прэзыдэнта Гарбачова. Прэзыдэнт, які, па ягоных словах, ня ведае, што адбываецца ў дзяржаве, ужо не прэзыдэнт».

Генадзь Майсееў (Апазыцыя БНФ; зачытвае заяву Наваполацкага гарадзкога савету народных дэпутатаў): «Лічым, што дзейнасьць так званага «камітэту нацыянальнага выратаваньня», накіраваная на гвалтоўнае адхіленьне законна абранай улады, павінна быць спыненая, а ягоныя кіраўнікі павінны панесьці адказнасьць у адпаведнасьці зь дзеючым заканадаўствам. Рашэньне прыбалтыйскай праблемы, роўна як і пытаньняў, зьвязаных

з ацэнкай дзейнасьці законна абраных органаў улады ў іншых рэспубліках, належыць ажыцьцяўляць палітычнымі мэтадамі, сыходзячы з павагі суверэнітэту, які абвешчаны рэспублікамі».

Ігар Гермянчук (Апазыцыя БНФ): «Злачынства, якое здарылася ў Вільні — жахлівае злачынства. Яму няма і ня можа быць апраўданьня. Я не разумею тых дэпутатаў, якія спрабуюць з гэтай трыбуны накіроўваць свой гнеў і асуджэньне ў бок літоўцаў, у бок парлямэнту і ўраду Літвы. Відаць, ня ўсе разумеюць, пра што ідзе гаворка. Гаворка ідзе пра тое, што крывавую бойню ў Вільні ўчынілі не літоўцы. У гэтай бойні забівалі не літоўцы, а забівалі літоўцаў, мірны народ Літвы. Загінулі людзі, і гэта самае жахлівае. Але нават калі б гэты путч скончыўся бяскроўна, мы ўсё роўна не павінны былі б маўчаць. Я ня ведаю, па якой прычыне дэпутаты, якія ўваходзяць у партыйную групу КПБ і складаюць большасьць у нашым Вярхоўным Савеце, адмовіліся абмяркоўваць гэтае пытаньне ў першы дзень сэсіі. Я думаю, што гэтых прычын дзьве. Першая — гэта, магчыма, боязь зрабіць што-небудзь такое, што не спадабалася б Крамлю, і другая — гэта, магчыма, маўклівая падтрымка дзеяньняў змоўшчыкаў і ваеншчыны, якія ўчынілі злачынства ў Літве.... Трэба запатрабаваць ад Гарбачова неадкладна абнародаваць склад так званага «камітэту нацыянальнага выратаваньня» Літвы. Наш Вярхоўны Савет павінен гарантаваць, што ў выпадку, калі нехта з членаў гэтага камітэту зьявіцца на тэрыторыі Беларусі, ён будзе арыштаваны як дзяржаўны злачынца і перададзены законнай уладзе Літвы, туды, дзе яны зьдзейсьнілі злачынства».

(Не магу не сказаць у дужках, што роўна праз тры гады, 15 студзеня 1991 году, былыя сакратары ЦК кампартыі Літвы на плятформе КПСС Буракявічус і Ярмалавічус, якія агучвалі заявы няіснага «камітэту нацыянальнага выратаваньня» і абвінавачваліся ў арганізацыі крывавых падзеяў у Вільні, былі арыштаваныя на тэрыторыі Беларусі і перададзеныя Літве. За гэта колішняя пракамуністычная, а ў той час ужо пракебічаўская большасьць (пры актыўнай падтрымцы дэпутата Лукашэнкі) адправіла ў адстаўку старшыню КДБ Эдуарда Шыркоўскага і міністра ўнутраных спраў Уладзімера Ягорава, што адкрыла шлях і да адстаўкі Станіслава Шушкевіча з пасады сьпікера парлямэнту.)

Алег Трусаў (Апазыцыя БНФ): «Я выступаю супраць такога, я б сказаў імпэрскага тэрміну, як «русскоязычное население», бо Літву насяляюць, акрамя літоўцаў і рускіх, таксама палякі, беларусы, украінцы, яўрэі, якія шануюць сваю мову і не зьбіраюцца ад яе адмаўляцца».

Сяргей Папкоў (Апазыцыя БНФ): «Хто вінаваты ў тым, што дэзарыентаваныя людзі на гэтай тэрыторыі, якая завецца сёньня Савецкі Саюз? Хто вінаваты ў тым, што чалавек не разумее, што яго радзіма там, дзе ён нарадзіўся? Што гэты салдат, які ў Прыбалтыцы знаходзіцца са зброяй, ня ведае, што ён у гасьцях на радзіме літоўцаў? Што гіне яго зямля? Я маю на ўвазе Пскоўшчыну, Магілёўшчыну, Харкаўшчыну і гэтак далей. А ён спрабуе наадварот, ён пад уплывам, пад узьдзеяньнем цэнтральных уладаў, яго выкарыстоўваюць там, у іншым краі, калі гіне яго зямля. Хто вінаваты? Вядома, што гэта тыя структуры, якія спрабуюць захаваць імпэрыю, імпэрскую палітыку. Гэта цэн-

тральны ўрад, які ўскормлены гэтай камуністычнай ідэалёгіяй».

Уладзімер Грыбанаў: «Прычына палягае ў тым, што разбураецца, менавіта разбураецца на адной шостай частцы зямнога шару манаполія на ўладу адной палітычнай сілы. І гэты будынак, які быў узьведзены на слупах таго, што КПСС ведае адказы на ўсе літаральна пытаньні, цяпер разбураецца. Вы паглядзіце, разбураюцца ілюзіі».

Сяргей Антончык (Апазыцыя БНФ. Зачытвае заяву Менскага гарадзкога савету народных дэпутатаў): « Стварэньне камітэту нацыянальнага выратаваньня Літвы зьяўляецца цалкам антыканстытуцыйным актам. Зьвяртаемся да прэзыдэнта СССР з патрабаваньнем спыніць гвалтоўныя дзеяньні».

Дэпутаты— камуністы паспрабавалі перавесьці тэму на абмеркаваньне асобаў:

Валеры Паўлаў: «Калі ў нас у Беларусі будзе такая самая сыстэма ахайваньня Узброеных сілаў СССР і такія самыя нацыяналістычныя выступы... Да прыкладу, 15 студзеня каля газэтнага шапіка да мяне падышоў народны дэпутат Навумчык і кажа: «Вітаю, спадар падпалкоўнік». А я кажу: «Не спадар, а таварыш». Ён кажа — «Таварышы ў нас у Літве». … Я ніколі спадаром ня быў!».

(Падпалкоўнік Валеры Паўлаў рэгулярна абвінавачваў мяне ў тым, што я не паважаю савецкую армію. Аднойчы напісаў мне ліст, на дэпутацкім блянку, дзе папракнуў ужо тым, што я не служыў у войску. Давялося адказаць, што служыў два гады, і нават прайшоў палігон у Капусьціным Яры. Пасьля гэтага папрокі спыніліся. Паўлаў прыйшоў у Вярхоўны Савет падпалкоўнікам, сы-

шоў — генэрал-маёрам. Я ж як быў, так і застаўся старшым лейтэнантам.)

Зінаіда Пянькова: «Сёньня мы павінны абмяркоўваць пытаньне пра Чарнобыль. І, на вялікі жаль, я ня чула ў выступах народных дэпутатаў таварышаў Лукашэнкі, Ганчара, Навумчыка і шмат каго іншых такога болю, зь якім яны выказваліся за літоўскі народ, такога самага болю за нашых чарнобыльскіх дзяцей і людзей, якія пацярпелі ад Чарнобылю»

Выступ Пазьняка быў своеасаблівым падсумаваньнем дыскусіі, расстаноўкай акцэнтаў.

Зянон Пазьняк: «Паважаныя дэпутаты, узброеныя падзеі, што адбыліся ў Вільні, зьвязаныя не са становішчам у Літве, а са становішчам улады ў СССР. Гэта штучна прыдуманае пытаньне, пытаньне прапагандысцкае, што існуе канфлікт, дзьве сілы, і што там ледзь не двоеўладзьдзе. Гэта палітыка цэнтру, і выходзіць гэтая палітыка з агульнай імпэрскай палітыкі прэзыдэнта Гарбачова. Цяжка ўявіць, каб ляўрэат Нобэлеўскай прэміі міру, палітык у белай манішцы, аддаў бы загад страляць войскам, але цяжка ўявіць і тое, што прэзыдэнт нічога ня ведаў аб тым, што войскі будуць страляць. Зь якога боку ні вазьмі — гэта сьведчаньне краху гэтай палітыкі. І гэты путч быў падрыхтаваны па канонах, якія ўжо выпрацаваны і ў Вэнгрыі, і ў Аўганістане, і ў Бэрліне, і ў іншых краінах.

Як і ў тых краінах, у Літве галоўную ролю адыгрывала кампартыя. І тут трэба абсалютна ясна ўсьвядоміць, што так званы «камітэт нацыянальнага выратаваньня», які ніяк ня могуць знайсьці, гэта ня што іншае, як тыя сілы, якія за гэтым стаяць. Гэта — ЦК КПЛ на плятформе КПСС. Тое,

што вытвараюць камуністы сумесна з Савецкай Арміяй на Віленшчыне і па ўсёй Літве — гэта дзяржаўны бандытызм, агрэсія і ўзброены разбой. КПСС як ценявая структура ўлады абапіраецца на тры кіты насільля: на партыйны апарат, КДБ і войска.

У розныя пэрыяды былі розныя прыярытэты. У 30-50 гады — гэта НКВД. У 60-80-я — гэта апарат. З канца 80-х, пасьля сканчэньня халоднай вайны, прыярытэтам насільля валодае генэралітэт і Савецкая Армія, якая робіцца вызначальнай прыладай унутранай палітыкі і падаўленьня грамадзтва. Такая дынаміка рэжыму.

Цяпер мы бачым пачварнага мілітарнага монстра, які вырас на імпэрскай псыхалёгіі камунізму. У нашых патрабаваньнях я прапаную адлюстраваць такое палажэньне, як вывад дэсантных войскаў з рэспублік і расфармаваньня аддзелаў АМОН.

Акрамя таго мы павінны патрабаваць ад пракуратуры СССР арышту «камітэту нацыянальнага выратаваньня» Літвы. Так робіцца заўсёды. Гэта была падрыхтоўка дзяржаўнага перавароту, і арышт павінен адбыцца.

Наступнае. Патрабаваць ад Вярхоўнага Савету СССР і прэзыдэнта спыненьня палітыкі агрэсіі супраць прыбалтыйскіх краінаў і іншых рэспублік.

І апошняе. Я далучаюся да патрабаваньня адстаўкі міністра абароны Язава».

Пазьняк у сваім выступе ня выказаўся за адстаўку прэзыдэнта СССР — ніякіх ілюзіяў адносна Гарбачова ў нас даўно не было, але мы цудоўна ўсьведамлялі, што ў выпадку ягонай адстаўкі гаспадаром Крамля будзе прыхільнік самых жорсткіх, гвалтоўных мэтадаў захаваньня імпэрыі.

Празь месяц з патрабаваньнем адстаўкі Гарбачова выступіць Барыс Ельцын, гэта будзе чарговы этап іх супрацьстаяньня ў барацьбе за Крэмль. Але для нас галоўным было пазбавіцца залежнасьці ад Крамля — хто б ні быў яго гаспадаром.

Пасьля выступу Пазьняка пачалося абмеркаваньне заявы Вярхоўнага Савету. Ішло яно цяжка, нашыя прапановы часта не праходзілі. У выніку тэкст быў прыняты ў такім выглядзе:

«З пачуцьцём трывогі і заклапочанасьці мы ўспрынялі трагічныя падзеі, якія адбыліся ў Літве. Нашы народы зьвязаныя даўнімі і цеснымі повязямі, і мы ня можам быць абыякавымі да таго, што здарылася. Мы выказваем шчырае спачуваньне сем'ям загінулых і ўсяму народу Літвы ў сувязі з трагедыяй, якая прывяла да чалавечых ахвяр.

Мы рашуча асуджаем ужываньне войскаў супраць мірнага насельніцтва, пратэстуем супраць прымяненьня ўзброеных сілаў унутры дзяржавы для дасягненьня палітычных мэтаў.

Лічым, што ўсе супярэчнасьці, якія ўзьнікаюць паміж сувэрэннымі рэспублікамі, а таксама паміж рэспублікамі і Цэнтрам, павінны вырашацца толькі шляхам дыялёгу і палітычнага ўрэгуляваньня, з павагай сувэрэнных правоў рэспублік. Сілавы ціск недапушчальны, толькі свабодны выбар народаў будзе гарантам міру і спакою ў рэспубліках.

Вярхоўны Савет Беларускай ССР зьвяртаецца да прэзыдэнта СССР з патрабаваньнем: неадкладна спыніць удзел узброеных сілаў у вырашэньні палітычных праблем Літвы, правесьці расьследаваньне дзейнасьці так званага камітэту нацыянальнага выратаваньня, прыняць неабходныя меры па прадухіленьні надалей прымяненьня зброі пры вырашэньні канфліктных сытуацый.

Мы зьвяртаемся да Вярхоўнага Савету Літвы з просьбай выкарыстаць усе свае магчымасьці дзеля адзінства грамадзтва. Будучыня любой дзяржавы немагчымая без справядлівасьці і роўнасьці ўсіх яго жыхароў незалежна ад іх нацыянальнасьці».

Так, гэтая заява ня ўлічвала шмат якія нашыя, дэпутатаў БНФ, прапановы (прызнаньне незалежнасьці Літвы, адстаўка міністра абароны СССР), у ёй утрымліваўся заклік да роўнасьці «жыхароў незалежна ад нацыянальнасьці», што было наўпроставым намёкам на нібыта ўціск рускамоўнага насельніцтва.

І ўсё ж гэтая заява была вельмі далёкай ад таго, якой бы яе хацеў бачыць Крэмль, названы тут «Цэнтрам». Было ў ёй і спачуваньне сем'ям загінулых і літоўскаму народу, і асуджэньне ўжываньня сілы супраць цывільных людзей, і патрабаваньне расьсьледаваньня дзейнасьці «камітэту нацыянальнага выратаваньня».

У сваіх выступах на сэсіі, заклікаючы Вярхоўны Савет падтрымаць імкненьне літоўцаў да свабоды, мы, дэпутаты БНФ, казалі, што іншыя парлямэнты ўжо асудзілі прымяненьне вайсковай сілы ў Вільні. Я дык увогуле заявіў, што «амаль усе парлямэнты саюзных рэспублік і шмат якія парлямэнты сьвету засьведчылі свае адносіны да Літвы». У гэтых словах не было сьвядомага падману, яны былі вымаўленыя пад уражаньнем той хвалі абурэньня паводзінамі Крамля і салідарнасьці зь літоўцамі якую несьлі сродкі масавай інфармацыі. У тыя дні ў Таліне старшыня Вярхоўнага Савету РСФСР Барыс Ельцын падпісаў разам з кіраўнікамі Латвіі, Літвы і Эстоніі сумесную заяву, зрабілі заявы прэзыдыюмы Вярхоўных Саветаў Расеі, Казахстану і Ўкраіны. Але — толькі прэзыдыюмы. У Кіеве,

напрыклад, надзвычайную сэсію Вярхоўнай Рады вырашылі не склікаць. Магчыма, паўплывала тое, што нашая сэсія супала з падзеямі ў Вільні, але Вярхоўны Савет Беларусі быў адзіным парлямэнтам (калі не лічыць прыбалтыйскіх) у СССР, які абмяркоўваў сытуацыю ў Літве і прыняў з гэтай нагоды заяву.

Расповед пра 1991 год я пачаў зь віленскіх падзеяў ня толькі таму, што яны былі першымі паводле храналёгіі.

І паездка дэпутатаў у Вільню, і абмеркаваньне падзеяў у Літве ў Вярхоўным Савеце ў выніку, вельмі істотна паўплывалі і на дэпутатаў, і на беларускае грамадзтва.

Дэпутаты — некаторыя на ўласныя вочы, большасьць — з расповеду сваіх калег (прычым прадстаўнікоў дыямэтральна супрацьлеглых палітычных поглядаў) убачылі і зразумелі, што паняцьці «незалежнасьць» і «свабода» — ня проста словы, што людзі гатовыя плаціць за іх высокую цану. Нават — жыцьцямі.

Мы ж, фронтаўцы, яшчэ раз пераканаліся, што шлях да нашай, беларускай незалежнасьці можа быць ня толькі цяжкім, але і ахвярным — бо падзеі ў Літве паказалі: каб захаваць імпэрыю, Крэмль ня спыніцца перад людзкой крывёй.

# Дземянцей: старшыня, які не хацеў быць першым

Зь Мікалаем Іванавічам Дземянцеем у Віцебску ў 1970-ыя гады я жыў у адным доме (віцябляне называюць гэты дом у самым цэнтры гораду «сінім»). Але памятаю Мікалая Іванавіча тых часоў слаба — я быў яшчэ школьнікам, калі яго перавялі ў Менск.

У 1990-м мы сустрэліся ў Авальнай залі Дому ўраду.

Але да сустрэчы быў яшчэ тэлефонны званок.

Увесну 1989 году, пасьля таго, як нашая кампанія супраць будаўніцтва АЭС пад Віцебскам скончылася посьпехам, мяне вылучылі ў народныя дэпутаты СССР калектывы найбуйнейшых віцебскіх прадпрыемстваў. Але «зарубілі» на акруговым сходзе (быў такі адміністрацыйны фільтар). Канфлікт зь першым сакратаром абкаму Уладзімерам Грыгор’евым увайшоў у гарачую стадыю, і мне параілі пераехаць у Менск. Генадзь Бураўкін спратэжаваў месца ў «Вожыку», які ўзначальваў ягоны сябра, пісьменьнік Валянцін Блакіт. У часопіс мяне ўзялі, а вось месца ў інтэрнаце, ня кажучы ўжо пра прапіску — здабыць не ўдалося. Па словах Блакіта, каманда «не даваць!» сыходзіла з ЦК. Бацькаў знаёмы пасяліў мяне ў ведамасным паўпадвале на вуліцы Камсамольскай у раёне Нямігі.

У Менску я адразу акунуўся ў віраваньне Народнага Фронту. Неяк увосень 1989-га «інфарма-

цыйная група» БНФ (Уладзімер Арлоў, Сяргей Дубавец, Алесь Суша, яшчэ некалькі чалавек) сабраліся ў маім пакоі, каб падрыхтавацца да гадавіны ўтварэньня БНР — паводле разьлікаў, яна павінна была супадаць з выбарамі ў Вярхоўны Савет 12-га скліканьня. Я ўжо не прыгадаю, каму якія былі дадзеныя даручэньні, але Ўладзімер Арлоў узяўся «што-небудзь напісаць». Так нарадзілася эсэ «Незалежнасьць — гэта…» , якое надрукавалі ў адмысловым нумары газэты «Свабода» (ён так і называўся — «Дзень Волі»). Потым яно было перакладзенае на дзясяткі моваў і зрабілася клясыкай.

Менавіта ў тую паўпадвальную кватэру вясной 90-га, пасьля ўдалай для мяне выбарчай кампаніі, я прывёў пасьля вясельля жонку. А празь некалькі дзён, калі я быў у рэдакцыі, у памяшканьне ўварвалася група на чале са старшынём райвыканкаму Мількотам, у складзе начальніка РАЎС (двое першых назваліся) і некалькіх асобаў у цывільным, якія захоўвалі інкогніта. Усе зьдзівіліся, пабачыўшы ў памяшканьні не мяне, а маладую жанчыну.

«А дзе Навумчык?» — «На працы.» — «А Вы хто?» — «Ягоная жонка.» — «Не выдумляйце, дзевушка. Ён не жанаты».

Галя моўчкі дастала з сумкі пашпарт і разгарнула яго перад асобай у цывільным на старонцы, дзе яшчэ ня высахла фарба штампа аб рэгістрацыі шлюбу.

Штамп паглядзелі ўсе па чарзе, а потым Мількота вымавіў: «Праз 48 гадзінаў Вы павінны адсюль выселіцца».

(Праз шмат гадоў, ужо пры Лукашэнку, Мількота будзе міністрам жыльлёва-камунальнай гаспадаркі.)

Галя пабегла да тэлефона-аўтамата, паведаміла мне пра візыцёраў, і я ўспрыняў гэта як адказ на мой нядаўні выступ у эфіры моладзевай радыёперадачы з крытыкай рэфармаваньня сакратарыяту Вярхоўнага Савету, якую ягоны старшыня Дземянцей пачаў без узгадненьня з новаабранымі дэпутатамі. Пра што я і напісаў Дземянцею. Ліст аднёс у Дом ураду.

А яшчэ праз некалькі дзён дзьверы ў наш кабінэт у Доме друку адчыніў галоўны рэдактар (звычайна ён не хадзіў па кабінэтах, а пры патрэбе выклікаў у свой). Ён быў бледны і напалоханы.

«Тэлефон! Не адыходзь ад тэлефона! Табе зараз будзе званіць Мікалай Іванавіч!» — толькі і сказаў.

Я падумаў, што нешта здарылася ў сям'і (хто такі Мікалай Іванавіч — я адразу не зразумеў).

Зазваніў тэлефон.

— Гэта Дземянцей. Сяргей Іосіфавіч, я прачытаў Ваш ліст. Я першае, што сказаць хачу: я ня маю ніякага дачыненьня да паводзінаў гэтых людзей. Вы выступілі па радыё, гэта Ваша пазыцыя, Вы маеце права выказаць сваю пазыцыю, а я маю права мець сваю пазыцыю. Але мы не павінны адзін аднаго за гэта абражаць. Я разьбяруся, чаму яны так зрабілі, і калі трэба, мы іх пакараем. Скажыце, яны ня моцна напалохалі Вашую жонку, можа, яна цяжарная, можа, ёй ужо час нараджаць?

— Ды не, Мікалай Іванавіч, вясельле было толькі некалькі дзён таму, якія ж роды. (Тут, канешне, Дземянцей выявіў куды больш жыцьцёва-

га досьведу — здараецца, роды адбываюцца і да вясельля.)

Пасьля гэтага Дзямянцей паабяцаў даць мне кватэру, а я сказаў, што кватэры не прашу — хопіць і прапіскі ў інтэрнаце, каб ня быць на паўлегальным становішчы.

Мушу сказаць, што за ўсё жыцьцё гэта быў першы і апошні званок да мяне кіраўніка дзяржавы зь ягонай ініцыятывы і ў прыватным пытаньні. І мне падаецца, што прычына тэлефанаваньня была не ў жаданьні Дзямянцея зьбіць крытычны імпэт з палітычнага апанэнта — ва ўсякім разе, ня толькі ў гэтым, але і ў нейкай чалавечай спагадзе.

Значна пазьней мне ў якасьці адной з вэрсіяў таго ўварваньня ў памяшканьне прывялі такое тлумачэньне: пакуль я ня быў дэпутатам, КДБ праслухоўвала памяшканьне (бо ў мяне часта зьбіраліся «франтаўцы), а ўжо з абраньнем у Вярхоўны Савет чэкісты — паводле закону — страцілі права сачыць за мной, вось і вырашылі адпомсьціць выкіданьнем на вуліцу. Магчыма, гэта і так — адзінае, што чэкістам ніколі закон ня быў пісаны і, як выявілася, праслухоўвалі яны нават Гарбачова.

Калі ў 1989 годзе Дзямянцея прызначалі старшынём Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР, гэта была другая (пасьля першага сакратара ЦК і перад старшынём Саўміну) пасада ў рэспубліцы. Але — другая толькі паводле статусу; рэальную ўладу меў ЦК і, часткова, Саўмін. Звычайна на гэтае месца адпраўлялі высокапастаўленых партыйных кіраўнікоў у пэнсійным веку. Не таго, хто нечым правініўся, а таго, хто вельмі заслужыў. Бо пасада была вельмі ганаровай (паводле Канстытуцыі СССР, старшыні прэзыдыюмаў Вярхоўных Саветаў саюзных рэспублік былі намесьнікамі



Станіслаў Шушкевіч і Мікалай Дземянцей у прэзыдыюме сэсіі Вярхоўнага Савету.

старшыні Вярхоўнага Савету СССР — і на Захадзе часам успрымаліся як віцэ-прэзыдэнты Савецкага Саюзу), і пры гэтым — не патрабавала прымаць нейкіх лёсавызначальных самастойных рашэньняў.

Магчыма, пры выбары кандыдатуры менавіта гэтая якасьць — няздольнасьць альбо нежаданьне самастойна прымаць стратэгічныя рашэньні — найперш і бралася пад увагу.

За выняткам пасады першага сакратара Ўшацкага райкаму, Мікалай Іванавіч заўсёды быў на другіх ролях. На прыкметных, высокіх, нават вельмі высокіх, але — не на першых. І ў абкаме, і ў ЦК — над ім заўсёды быў той, хто прымаў выніковыя пастановы і патрабаваў іх выкананьня, той, ад каго залежала кар’ера.

Словам, Дземянцей выконваў цяжкую (паводле партыйных мерак), няўдзячную працу і пры гэтым знаходзіўся ў падпарадкаванай пазыцыі, быў

залежны ад рашэньняў, а часта і капрызаў больш высокага начальніка.

Адметна, што калі Дземянцей заняў пасаду сакратара ЦК КПБ па сельскай гаспадарцы (у канцы 1970-х пачатку 1980-х гадоў), сакратаром ЦК КПСС па сельскай гаспадарцы быў Міхаіл Гарбачоў. Ён фактычна быў «галіновым» шэфам Дземянцея. Я запытаўся ў былога члена бюро ЦК КПБ Уладзімера Ганчарыка, ці магло паўплываць на прызначэньне Дземянцея старшынём Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР знаёмства з Гарбачовым. Ганчарык адказаў, што тады такія рашэньні прымалі ў рэспубліках самастойна (тым больш, што пасада была шмат у чым намінальнай). Ну а вызначальная якасьць Дземянцея, якая магла паўплываць на прызначэньне, на думку Ганчарыка— паслухмянасьць партыйнаму кіраўніцтву.

І калі ў ліпені 1989-га Дземянцея «паставілі на Вярхоўны Савет», гэта ў вялікай ступені адпавядала ягоным назапашаным навыкам: «цягнуць воз» і падпарадкоўвацца. Ужо было зразумела, што пасада вымагае здольнасьці «трымаць удар» і страчвае «сінэкурнасьць», бо БНФ патрабаваў ад Вярхоўнага Савету то закону аб мове, то дэмакратычнага закону аб выбарах, Бо ўпершыню людзі пачалі цікавіцца тым, што адбываецца ў Авальнай залі. Але цяжару адказнасьці не было: усё вырашалася ў ЦК, трэба было толькі акуратна выконваць установкі. Уласна, гэтым Дземянцей і займаўся ўсё сваё жыцьцё — выконваў чужыя распараджэньні.

Сытуацыя заставалася ранейшай і пасьля кастрычніка 1989-га, калі ў Канстытуцыю БССР былі ўнесеныя дадаткі і старшыня Вярхоўнага Савету быў названы вышэйшай службовай асобаю БССР.

У 1990 годзе, з прарывам у Вярхоўны Савет дэпутатаў ад БНФ, становішча істотна зьмянілася. Ад кіраўніка Вярхоўнага Савету патрабаваліся ўжо навыкі не выканаўцы, і Дземянцею даводзілася рэагаваць на фронтаўскія ініцыятывы. Гэта значыць — знаходзіць нейкія спосабы адкідаць нашыя прапановы, бо для камуністаў амаль усе яны былі непрымальныя.

У траўні 90-га БНФ вылучыў дасягненьне палітычнай незалежнасьці Беларусі ў якасьці сваёй галоўнай мэты, і мы падрыхтавалі праект Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце. Тэкст быў гатовы ў чэрвені — але Дземянцей і камуністы не пажадалі, нягледзячы на ўсе нашыя намаганьні, уключаць яго ў парадак дня сэсіі. Ды раптам пра незалежнасьць Расеі заявіў Ельцын (ён змагаўся з Гарбачовым за ўладу ў Крамлі) — і Гарбачоў, каб зьнівэляваць эфэкт ельцынскай ініцыятывы, даў кіраўнікам іншых Вярхоўных Саветаў каманду — дэкляраваць сувэрэнітэт. Зразумела, толькі фармальна. Натуральна, «у рамках Саюзу». Тады прыдаліся нашыя распрацоўкі — у дні, калі прымалася Дэкларацыя, дэпутаты БНФ выступілі на сэсіі больш як сто разоў, хоць надаць Дэкларацыі канстытуцыйную сілу (альбо, як у той час казалі, «статус канстытуцыйнай сілы», гэта значыць, абвясьціць беларускія Канстытуцыю і законы вышэйшымі за «саюзныя») парлямэнцкая большасьць адмовілася. Паказальна, што нават у справе прыняцьця Дэкларацыі Дземянцей быў вымушаны дзейнічаць пад уплывам — унутраным (дэпутаты БНФ) і зьнешнім (Гарбачоў).

Так вось атрымалася, што пасьля прыняцьця Дэкларацыі аб сувэрэнітэце, у другой палове 90-га — першай палове 91-га, калі распад імпэрыі быў

відавочным і трэба было дзейнічаць ініцыятыўна і рашуча, калі мы дамагаліся, каб улада ад ЦК перайшла да Вярхоўнага Савету (і яна хоць і павольна, але пераходзіла) — на чале найвышэйшага органу дзяржаўнай улады быў чалавек безыніцыятыўны, здольны, па вялікім рахунку, толькі на выкананьне камандаў «зьверху». Няздольны нават зразумець: няма ўжо гэтага «верху», ён — і ёсьць гэты самы «верх».

У беларускай партыйнай намэнклятуры былі дзьве важкія адметнасьці, якія адыгралі ў лёсе Беларусі вызначальную ролю і выразна адлюстраваліся ў асобе Дземянцея. Гэта — нацыянальны нігілізм і арыентацыя на Маскву.

Сакратары ўкраінскіх абкамаў, калі зьбіраліся разам — размаўлялі па-ўкраінску. Літоўскія і латыскія камуністы паміж сабой гутарылі па-літоўску і па-латыску. Беларускія камуністы размаўлялі па-расейску.

Увогуле, зразумець матывы паводзінаў дэпутатаў Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, якія складалі там пераважную большасьць, немагчыма без спасылкі на чалавека, які як ніхто паўплываў і на сьветапогляд,і на стыль паводзінаў беларускіх камуністаў — ад нізоў да найвышэйшых кіраўнікоў. Хоць на момант пачатку працы нашага Вярхоўнага Савету гэтага чалавека ўжо амаль дзесяць гадоў не было сярод жывых.

Я маю на ўвазе Пятра Машэрава. Між іншым, з усіх дэпутатаў таго скліканьня Дземянцей пры Машэраве займаў найвышэйшую партыйную пасаду (сакратар і член Бюро ЦК КПБ).

У сваіх успамінах генэрал КДБ Анатоль Шыверскіх прыгадвае, як у 1978 годзе ў Канстыту-

цыю Грузінскай ССР быў уключаны артыкул пра дзяржаўнасьць грузінскай мовы:

«Напярэдадні прыняцьця Вярхоўным Саветам Грузіі новай рэдакцыі Канстытуцыі я прыляцеў у Тбілісі. Раніцой быў пабуджаны зычнымі дзіцячымі галасамі. Па праспэкце Шота Руставэлі ішлі дзясяткі тысяч школьнікаў з плякатамі супраць забароны грузінскай мовы ў школах. Пры высьвятленьні абставінаў, хто арганізаваў правакацыйнае шэсьце школьнікаў, грузінскія калегі з КДБ падзяліліся таямніцай, што школы абзвоньвалі з прыёмнай Шэварднадзэ і шэсьцем кіруюць адтуль. У тым самым часе Шэварднадзэ дакладаў М.А. Суславу (член Палітбюро, сакратар ЦК КПСС, другая асоба пасьля Брэжнева — С.Н.), што шматтысячны натоўп стаіць каля будынку Вярхоўнага Савету і патрабуе запісаць у Канстытуцыю другой дзяржаўнай мовай грузінскую. Суслаў не пагаджаўся. Тры разы Э. Шэварднадзэ дакладаў Суславу, што натоўп яго ня слухаецца і не разыходзіцца. Што рабіць? Толькі пасьля гэтага Суслаў даў згоду запісаць дзьве дзяржаўныя мовы» (Анатоль Шыверскіх, «Разрушение великой страны. Записки генерала КГБ», Смаленск, 2005).

Дык вось — нічога падобнага з Машэравым (зрэшты, і зь якім заўгодна іншым першым сакратаром ЦК КПБ) уявіць немагчыма. Машэраў не выступаў публічна па-беларуску, і хацеў ён таго ці не, але ніжэйшымі партыйнымі кіраўнікамі гэта ўспрымалася як прыклад. Статус дзяржаўнай беларуская мова набыла толькі ў студзені 1990-га.

І галоўнае, што адрозьнівала беларускіх камуністаў ад іх літоўскіх, латыскіх ці нават украінскіх калег — татальны нацыянальны нігілізм, у лепшым выпадку абыякавае, а звычайна — агрэ-

сіўна-адмоўнае стаўленьне да нацыянальных каштоўнасьцяў, асабліва да беларускай мовы.

Варта сказаць, што ў Беларусі партыйных работнікаў ацэньвалі па тым, колькі збожжа, сіласу, скаціны, птушкі ці малака ўдалося пасеяць, сабраць, выгадаваць ды надаіць. Але ў гэтым пераліку не хапае яшчэ аднаго слова, самага галоўнага — здаць. Для раённага начальства гэта азначала здаць «у вобласьць», для абласнога — здаць «у рэспубліку», ну а для найвышэйшага кіраўніцтва БССР — адправіць у Маскву. Не ў адну Маскву, канешне — эшалёны ішлі таксама ў Ленінград ды іншыя гарады Расеі.

Працытую мэмуары былога загадчыка аддзелу культуры ЦК КПБ Алеся Петрашкевіча:

«Неяк аднойчы, калі я зайшоў зь нейкім пытаньнем ці па параду, ён (Машэраў — С.Н.) апярэдзіў мяне і зь ціхім сумам сказаў: «Толькі што пазваніў Грышын, член Палітбюро, і вельмі настойліва папрасіў, каб я прыслаў яму пад Новы год 9 тысяч малочных, распатрошаных парасятак, — і змоўк. А потым: — І самае гнюснае ў тым, што я пашлю яму гэтых парасятак!». І больш ні слова пра тую просьбу, а толькі да мяне: «Што ў цябе?» Гадоў праз пятнаццаць пасьля гэтага былы памочнік другога сакратара ЦК КПБ ад сябе расказаў пра тых загубленых парасятак, якіх, вядома ж, адправілі ў Маскву пад нейкае сьвята. А я сёньня думаю, чаму Пётра Міронавіч сказаў мне пра тых парасятак, і што ў яго было на душы у той час? Якія яшчэ словы не зьляцелі з вуснаў? Бо ня толькі я ведаў пра гаспадарлівасьць, беражлівасьць, пачуцьцё ўласнай годнасьці гэтага чалавека, якое было нахабна абражана магутным хамам. Парасяткі — гэта толькі дробны прыклад маскоўскага нахабс-

тва. А што да сапраўднага эканамічнага рабаўніцтва, то яно ўзмацнялася з года ў год. Прапітай мэтраполіі трэба было нечым закусваць. Масква патрабавала ўсё большых і большых паставак мяса, масла, каўбасаў, вяндліны, садавіны, агародніны, грыбоў, ягад і іншых прысмакаў. На поўную моц дзень і ноч працавалі заводы і фабрыкі Беларусі, каб узброіць і апрануць Савецкую Армію, якая на той час ужо ўляпалася ў вайну з Аўганістанам і аказвала «інтэрнацыянальную дапамогу» цэлым кантынэнтам» (Алесь Петрашкевіч, «Крыніцы і каламуць», Менск, 2008).

Можна, канешне, паспачуваць абражанаму пачуцьцю ўласнай годнасьці, але факт застаецца фактам: нават парасятак ня мог абараніць Машэраў перад кіраўніком Масквы Грышыным, якія ўжо тут несанкцыянаваныя Крамлём дадаткі ў Канстытуцыю...

Між іншым, зь вялікай доляй верагоднасьці можна сказаць, каму непасрэдна давялося выконваць «просьбу» маскоўскага саноўніка — у гады, калі аўтар успамінаў узначальваў аддзел культуры, загадчыкам аддзелу сельскай гаспадаркі ЦК КПБ быў Мікалай Дземянцей.

І вось гэтае выкананьне прапановаў, просьбаў, загадаў з Масквы зрабілася адметнай якасьцю партыйнага апарату Беларусі, увайшло ў мэнтальнасьць кіраўнікоў, якія ня тое што не маглі — ужо і не хацелі нават марыць пра самастойнасьць. Ім было прасьцей адправіць у Маскву чарговы эшалён мяса (якое нават у менскіх крамах можна было набыць далёка не заўсёды), чым адчуць сябе гаспадарамі на сваёй зямлі.

# Люты

**9 лютага. У Літве праходзіць «выбарчая кансультацыя», у якой удзельнічаюць 84 адсоткі выбаршчыкаў Зь іх 90,4 выказваюцца за незалежнасьць Літвы.**

**10 лютага.** На тэрыторыі Латвіі, Літвы і Эстоніі праводзяцца камандна-штабныя вучэньні савецкай арміі.

**12 лютага.** Парлямэнт Ісьляндыі прызнае незалежнасьць Літвы і абавязвае ўрад усталяваць зь ёй дыпляматычныя адносіны. МЗС СССР выступае з асуджэньнем гэтага рашэньня.

**15 лютага.** У Вышаградзе лідэры Вугоршчыны Ёжэф Антал, Польшчы Лех Валэнса ды Чэхіі Вацлаў Гавал заяўляюць аб стварэньні Вышаградзкай групы ў мэтах сумеснага разьвіцьця эканомік і інтэграцыі ў эўрапейскія структуры.

**24 лютага.** У Пэрсыдзкай затоцы пачынаецца апэрацыя ЗША супраць агрэсіі Садама Хусэйна ў Кувэйце.

**26 лютага.** Садам Хусэйн абвяшчае пра вывад войскаў з Кувэйту.

**26-28 лютага.** Візыт у Беларусь прэзыдэнта СССР і генэральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова. Ён наведвае Вярхоўны Савет, аднак адмаўляецца адказаць на пытаньні дэпутатаў адносна дапамогі ў ліквідацыі Чарнобыльскай катастрофы. У АН БССР Гарбачоў выступае з прамовай, у якой заяўляе пра неабходнасьць захаваньня СССР і вернасьць ленінскай ідэалёгіі. Гарбачоў наведвае «чарнобыльскія» раёны.

# Gorby ў Менску

Гарбачоў прыляцеў у Менск 26 лютага 1991 году і вярнуўся ў Маскву праз тры дні, 28-га — акурат да свайго 60-годзьдзя.

Гэты знакавы юбілей Гарбачоў мог адзначаць у апагеі ўсясьветнай папулярнасьці, якой да яго ня меў ніводзін крамлёўскі лідэр. Ініцыятар раззбраеньня, магільшчык «халоднай вайны», разбуральнік іміджу СССР як «імпэрыі зла» і пачынальнік мадэрнізацыі гэтай самай імпэрыі (што задумвалася яна касмэтычнай — Захад не асабліва турбавала). Высокая ацэнка Гарбачова ўсясьветнымі лідэрамі, трыюмфальныя візыты ў эўрапейскія сталіцы, тысячы людзей з партрэтамі і плякатамі, воклічамі «Gorby!«, «чалавек году», а затым і «чалавек дзесяцігодзьдзя» паводле вэрсіі часопісу «Time». Нарэшце, за тры месяцы да прыезду ў Менск — ляўрэат Нобэлеўскай прэміі міру — «на знак прызнаньня ягонай вядучай ролі ў мірным працэсе, які сёньня характарызуе важны складнік жыцьця міжнароднай супольнасьці».

І — мінімальны рэйтынг у самім СССР, які, напэўна, таксама ня меў ніводзін з генсекаў (магчыма, нават Чарненка, папярэднік Гарбачова).

Імпэрыя імкліва развальвалася, і кансэрватыўнае, антыдэмакратычнае атачэньне Гарбачова патрабавала ад яго ўсё больш жорсткага здушэньня нацыянальных рухаў. Гарбачоў пачынае саступаць. У канцы 1990 году яго пакінулі тыя, з кім ён пачынаў перабудову — Якаўлеў, Шэварднадзэ, Петракоў, Бакацін… 13 студзеня пралілася кроў у

Вільні, праз тыдзень — у Рызе. У канцы студзеня міністры абароны і ўнутраных спраў выдалі загад аб патруляваньні вуліц узброенымі вайскоўцамі. 25 студзеня Гарбачоў абвясьціў (пакуль у вузкім коле) пра стварэньне Рады бясьпекі (зь дзевяці вызначаных кандыдатур шасьцёра ў жніўні ўтвораць «ГКЧП»). 19 лютага расейскі прэзыдэнт Барыс Ельцын у прамым эфіры абвінавачвае Гарбачова ў кровапраліцьці, у міжнацыянальных канфліктах і патрабуе ягонай адстаўкі.

Вось у такой сытуацыі Гарбачоў прылятае ў Менск. Прылятае нечакана нават для Мікалая Дземянцея і ягонага першага намесьніка Станіслава Шушкевіча.

Пра гэты візыт на пачатку сакавіка 1990-га газэта «Витебский курьер « надрукавала мой артыкул, які перадае атмасфэру таго часу. Праўда, некаторыя дэталі сёньняшнім маладым ня надта зразумелыя (напрыклад, чаму аўтар канцэнтруе ўвагу на добрай вопратцы ахоўнікаў Гарбачова; аднак у дні татальнага дэфіцыту, калі па мыла і лямпачкі былі стомэтровыя чэргі, гэта было натуральным).

«Пра тое, што Гарбачоў едзе ў Беларусь, я даведаўся ад маскоўскіх журналістаў у суботу, 23-га. Раніцай у панядзелак зайшоў да С.Шушкевіча, але той ведаў не нашмат болей.

— Званілі знаёмыя з Акадэміі навук — ён як быццам павінен у іх выступаць. А Вы паспрабуйце распытаць Дземянцея — вось хто, хутчэй за ўсё, валодае інфармацыяй…

Заўважу, што да візыту Гарбачова ў нас, членаў Часовай камісіі па ацэнцы дзеяньняў службовых і іншых асобаў у сувязі зь ліквідацыяй наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, цікавасьць асаблівая: гутарка з чалавекам, які займаў у 1986 годзе

найвышэйшую пасаду, магла б высьветліць вельмі і вельмі шмат. Зь ня меншым зацікаўленьнем чакалі прыезду Прэзыдэнта і іншыя дэпутаты: хацелася пачуць зь першых вуснаў больш дакладныя зьвесткі і пра падзел функцыяў паміж цэнтрам і рэспублікамі, і пра падатковую палітыку, і пра тое, хто ўсё ж будзе расплачвацца за тыя шматмільярдныя крэдыты, якія з такой лёгкасьцю бярэ ў заходніх банкіраў Крэмль…»

Камісія, пра якую гаворка, была створаная ў першыя дні дзейнасьці Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня на патрабаваньне дэпутатаў БНФ. Народны Фронт першы пачаў казаць праўду пра Чарнобыль, падтрымліваў навукоўцаў, якія не маглі прабіцца скрозь сьцяну маўчаньня. Для нас было вельмі важна ня толькі выселіць людзей з забруджаных зонаў, спыніць распаўсюд радыеактыўных прадуктаў, але і дазнацца праўду пра тое, хто канкрэтна ў красавіку-траўні 1986-га аддаваў загад схаваць інфармацыю. Мы ў камісіі даволі хутка апыталі былых і дзейных міністраў, кіраўнікоў ведамстваў, навукоўцаў — і зразумелі, што загад ішоў з самага верху, з Крамля. Але — ці ад самога Гарбачова, які для сусьвету быў увасабленьнем «галоснасьці»!?

У жніўні 1990-га на даручэньне камісіі я ўзяўся пісаць ліст Гарбачову. Было зразумела: каб быць прачытаным, тэкст павінен быць кароткім — на дзьве, а лепей — на адну старонку. Зрэшты, па маладосьці я не пазьбегнуў публіцыстычнасьці, ужыўшы фразы зусім ужо інфэрнальнага характару, якія б пасавалі да сцэнару фільмаў жахаў, а не да ліста палітыку — кшталту «высмоктваньня крыві ў немаўлят, што яшчэ не нарадзіліся».



ВЯРХОЎНЫ САВЕТ БССР

ВЕРХОВНЫЙ СОВЕТ БССР

г. Мінск, Дом Урада

23. 08 1990 г.

587172

№ 744-ст/о

МОСКВА, КРЕМЛЬ
ПРЕЗИДЕНТУ СССР
М.ГОРБАЧЕВУ

АППАРАТ ПРЕЗИДЕНТА СССР
24.АВГ 1990

Глубокоуважаемый Михаил Сергеевич!

Вот уже несколько лет земля Белоруссии посыпана чернобыльским пеплом. За годы преступного бездействия и обмана радиация проникла в наши озёра и реки, отравила луга и пашни; через заражённую пищу она пробралась и в нашу кровь, высасывая жизнь у еще не родившихся младенцев. Люди, до сих пор не имеющие в необходимом количестве медикаментов, дозиметров, чистых продуктов питания, стройматериалов для помощи беженцам, - хотят, по меньшей мере, иметь достоверные сведения. И не желание судить или карать движет издревле добродушным и отходчивым белорусским народом - но стремление знать всю правду об обстоятельствах катастрофы, поставившей нацию на грань физического исчезновения.

Выражая волю народа Белоруссии, Верховный Совет республики образовал Временную комиссию по оценке деятельности должностных и других лиц в связи с ликвидацией последствий аварии на Чернобыльской АЭС.

После тщательного опроса ряда руководителей, изучения документов и материалов, связанных с этой величайшей национальной трагедией, мы считаем совершенно необходимым встретиться с Вами как с высшим должностным лицом, имеющим самое непосредственное отношение к чернобыльским событиям.

Прошу сообщить, когда и в какое время Вы смогли бы принять группу народных депутатов БССР - членов Комиссии, в составе 3-4 человек.

По поручению комиссии

Сергей НАУМЧИК,
народный депутат БССР

Ліст да Міхаіла Гарбачова.

Думаю, Гарбачоў прачытаў толькі тое, што падкрэсьліў у лісьце невядомы мне ягоны рэфэрэнт: «Вярхоўны Савет рэспублікі ўтварыў Часовую камісію па ацэнцы дзейнасьці службовых і іншых асобаў у сувязі зь ліквідацыяй наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС… калі і ў які час Вы маглі

б прыняць групу народных дэпутатаў БССР — членаў Камісіі, у складзе 3-4 чалавек?»

19 верасьня Гарбачоў падпісаў рэзалюцыю віцэ-прэм'еру СССР Віталю Дагужыеву і старшыні Вярхоўнага Савету БССР Мікалаю Дземянцею: «Прашу выказаць Вашы меркаваньні».

Ня ведаю, якія меркаваньні выказаў Дагужыеў. Да гонару Дземянцея, Мікалай Іванавіч параіў Гарбачову нас прыняць. Але ніякіх сыгналаў з Крамля не было. І вось — Гарбачоў сам прыяжджае ў Менск.

«— Мушу цябе расчараваць: ня будзе ў Міхаіла Сяргеевіча часу, каб Вярхоўны Савет наведаць, — у голасе Мікалая Іванавіча Дземянцея адчувалася засмучэньне. — Праграма і без таго вельмі напружаная…

— Але як жа, — паспрабаваў я запярэчыць, — у міжнароднай практыцы наведаньне кіраўніком дзяржавы парлямэнту лічыцца першапачатковай справай!

Мікалай Іванавіч разьвёў рукамі.

І ўсё ж, параіўшыся раніцай наступнага дня, мы вырашылі дамагацца сустрэчы з Гарбачовым. Адшукалі праграму візыту. Усе гэтыя дні — і пасьля наведаньня атручанай зоны — ён меўся вяртацца ў рэзыдэнцыю «Заслаўе» ў Менск на вячэру, а затым і адпачынак. Трэба меркаваць, магілёўскія і гомельскія гатэлі высокага госьця не задавальнялі. Затое нас такі расклад задавальняў цалкам: мы згодныя былі ахвяраваць сваім адпачынкам і нават сном дзеля сустрэчы з тым, ад каго ў немалой ступені і цяпер яшчэ залежыць лёс Беларусі. Такі варыянт я і прапанаваў на ранішнім пасяджэньні Вярхоўнага Савету».



ВЯРХОЎНЫ САВЕТ БССР ВЕРХОВНЫЙ СОВЕТ БССР

г. Мінск, Дом Урада

25 сентября 1990 г.

№ 6т/р-803

Т.т. Догужиеву В.Х.,
Дементею Н.И.

Прошу высказать Ваши соображения.

М.Горбачев

19.IX.90 г.

К №587172-1 ..

ПРЕЗИДЕНТУ СССР
товарищу ГОРБАЧЕВУ М.С.

Уважаемый Михаил Сергеевич!

По поводу обращения к Вам народного депутата БССР С.И. Наумчика с просьбой о приеме группы депутатов-членов Временной комиссии Верховного Совета БССР по оценке деятельности должностных и других лиц в связи с ликвидацией последствий аварии на Чернобыльской АЭС считал бы возможным их принять.

Депутатов интересуют действия руководителей союзных и республиканских органов в послеаварийный период.

ПРЕДСЕДАТЕЛЬ ВЕРХОВНОГО СОВЕТА БССР Н. ДЕМЕНТЕЙ

Рэзалюцыя Міхаіла Гарбачова і меркаваньне Мікалая Дземянцея.

Як ні дзіўна, але Вярхоўны Савет маю прапанову запрасіць Гарбачова на сэсію прыняў. І нават былі сабраныя подпісы пад запрашэньнем. Выглядае, што камуністычныя дэпутаты мелі свой інтарэс у сустрэчы з Гарбачовым — яны даўно не любілі яго за распачатыя рэформы і, пэўна, хацелі ўчыніць яму «прачуханку» ад мікрафонаў. Цытую далей публікацыю:

«Старшыня нашай «чарнобыльскай» камісіі Рыгор Вячэрскі наказаў: ты, маўляў, у нас самы малады і шпаркі, так што кроў з носу — прабіся да Гарбачова і дамоўся пра сустрэчу.

Мы якраз пасьпелі папалуднаваць, калі ў будынак увайшла група моцных франтавата апранутых хлопцаў. Яны спрактыкавана агледзеліся і, разьбіўшыся па два-тры, растварыліся ў калідорах. А пятай гадзіне вечара ўсе хады-выхады Дому ўраду былі заблякаваныя міліцыяй, хадзіць дазвалялася толькі дэпутатам. А пятай з хвілінамі ў залі

пасяджэньняў расчыніліся дзьверы цэнтральнага ўваходу, які ўвесь час быў зачынены, пайшоў вялікі скразьняк, і ў дзьвярах зьявіліся спачатку ўсё тыя ж хлопцы ў добрых касьцюмах, а потым — Дземянцей з Гарбачовым.

Выступаў Гарбачоў нядоўга. Заявіўшы, што праграмная прамова прызапашаная для сустрэчы ў Акадэміі навук БССР, ён пакінуў прэзыдыюм і накіраваўся да выхаду, але быў спынены рэплікамі дэпутатаў: «Міхаіл Сяргеевіч, а пытаньні?» — «Напішыце ў пісьмовай форме. Пасьлязаўтра яшчэ раз прыйду і адкажу».

Прыгадаўшы старую журналісцкую прымаўку, што ваўка ногі кормяць, мы з рэдактарам «Народнай газеты» Іосіфам Сярэдзічам выйшлі з залі загадзя — ён пабег да аўтамабіля, а я — да пакоя, у якім звычайна распранаюцца госьці. Разьлік аказаўся дакладным...»

Тут ізноў спыню цытаваньне публікацыі. Стаўшы перад дзьвярыма, я пачаў шукаць Гарбачова — з пакоя чуўся голас Дземянцея, лягічна, што ён быў побач з высокім госьцем. Чалавек, які стаяў да мяне сьпінай і папраўляў шалік, абярнуўся… і аказаўся Гарбачовым. Потым мне патлумачылі, што я рызыкаваў — ахова не павінна была дапусьціць незнаёмага чалавека на такую блізкую адлегласьць і мела поўнае права «дзейнічаць». Але, думаю, уратаваў дэпутацкі значок, дый за апошнія гады ахоўнікі прызвычаіліся да «незаплянаваных» суразмоўцаў свайго «аб’екта».

«Пакуль усе разьбіралі шалікі і паліто, я каротка распавёў Гарбачову пра мэты нашай камісіі. Слухаў ён моўчкі і, як мне падалося, без асаблівай цікавасьці. Але нечакана пагадзіўся: « А чаму б і не? Давайце. Я гатовы».

Але тут Дземянцей нагадаў, што сустрэча ў Акадэміі навук вось ужо сорак хвілінаў як мелася пачацца, і ўсе засьпяшаліся на выхад.

На плошчы я зразумеў, што да рэдакцыйнай машыны ўжо не дабегчы. Адразу за ЗіЛамі стаялі чорныя «Волгі» аховы, але, нягледзячы на тое, што сядзелі ў іх па два чалавекі, я атрымліваў ветлівую адмову: «І рады б, ды па інструкцыі забаронена». Выручыў камандуючы акругай (генэрал-палкоўнік Анатоль Кастэнка). Яго я гэтулькі разоў крытыкаваў на сэсіі, што адмова зь ягонага боку азначала б помсту дробную і генэрала зусім ня вартую. Вось так мы зь Сярэдзічам апынуліся ў прэзыдэнцкай «сьвіце».

Картэж рушыў з плошчы з шалёнай хуткасьцю. Было бачна, што рух транспарту па ўсім праспэкце заблякаваны, маршрутныя тралейбусы спыненыя і прыціснутыя да тратуару. Праз пару хвілінаў мы ўжо паднімаліся па лесьвіцы галоўнага корпусу Акадэміі навук. У прыёмнай яе прэзыдэнта (Уладзімера Платонава) выставілі вешалкі, прычым Міхаілу Сяргеевічу прапанавалі «плечыкі». Астатнія павесілі свае паліто па два-тры на адну вешалку.

У канфэрэнц-залі дарагога госьця ўжо зачакаліся. Ня ведаю, паводле якога прынцыпу падбіралі дзеячоў навукі, але з прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі я не пабачыў нікога, хто б быў вядомы сваёй незалежнай пазыцыяй. Затое літаратары, уведзеныя на апошнім зьезьдзе КПБ у склад ЦК, прысутнічалі ў поўным складзе.

Павінен сказаць, што рэальнае аблічча Гарбачова не адпавядае таму, якое склала ў нас тэлебачаньне, стварыўшы імідж мужчыны прадстаўнічага і нават грузнага. Ён аказаўся невысокага росту і

толькі крыху паўнаватым. У Гарбачове відавочна адчуваліся ўсе ягоныя шэсьцьдзесят гадоў, але пры гэтым ён быў ненатуральна для зімовага часу загарэлым, што ўласьціва жыхарам поўдня». (У рукапісе артыкулу я параўнаў Гарбачова паводле манеры паводзінаў з папулярным у час майго дзяцінства францускім комікам Люі дэ Фюнэсам, але на старонкі газэты гэтыя радкі не патрапілі).

«З кабінэту прэзыдэнта Акадэміі навук Платонава ўсе пайшлі ў актавую залю. «Усе» — гэта Гарбачоў, Дземянцей, першы сакратар ЦК КПБ Анатоль Малафееў і другі сакратар Аляксей Камай, першы віцэ-прэм'ер Міхаіл Мясьніковіч (Кебіч у тыя дні быў у замежжы), мэр Менску Герасіменка, сам Платонаў і яшчэ некалькі высокапастаўленых чыноўнікаў. Уся гэтая публіка накіравалася ў прэзыдыюм, дзе, натуральна, месца для мяне не было».

Цяпер думаю: а варта было б сесьці побач зь Міхаілам Сяргеевічам! Ніхто б не сагнаў. А публіка ў залі «запаважала» б БНФ — беларусы шануюць начальства, акадэмікі і «творчая інтэлігенцыя» — не выключэньне).

Але я ня ведаў, што мне выпадзе роля больш прыкметная.

Усе месцы былі занятыя, людзі стаялі нават каля сьценаў, але першы шэраг крэслаў быў пусты (пэўна, «па інструкцыі» пакінулі для аховы). Па цэнтры гэтага першага шэрагу сядзеў толькі намесьнік міністра ўнутраных спраў Канстанцін Платонаў, мой віцебскі зямляк і стары знаёмы.

— Сядай побач! — прапанаваў Канстанцін Міхайлавіч, і я пагадзіўся. Нашыя крэслы былі насупраць трыбуны, за якія-небудзь тры мэтры.

Хутка генэрал пашкадаваў пра сваю прапанову.

Ужо зь першых хвілінаў сваёй прамовы Гарбачоў пачаў разносіць «дэмакратаў», «нацыяналістаў», якія «тут нам падкідваюць», хочуць «дэстабілізаваць абстаноўку і разваліць Саюз. Не атрымаецца!» Пры гэтым Міхаіл Сяргеевіч наўпрост паказваў на мяне. Вядома ж, ніякай «пэрсаніфікацыі» тут не было, гэта атрымалася абсалютна выпадкова — я сядзеў насупраць, і быў адзіным чалавекам у залі зь бел-чырвона-белым значком (побач з дэпутацкім). Як той казаў, падвярнуўся пад руку.

Тады я ня ведаў, што ідзе прамая тэлевізійная трансьляцыя, і ў момант, калі Гарбачоў прамаўляў свае філіпікі, апэратар некалькі разоў «наяжджаў» камэрай буйным плянам на мой бел-чырвона-белы значок. Трансьляцыя была на ўвесь СССР, і яшчэ доўга радня і проста знаёмыя прыгадвалі мне «прачуханку» ад Гарбачова. А цешча ў Глуску адразу кінулася званіць маёй маці ў Віцебск (хатняга тэлефона ў Менску ў нас яшчэ не было) і пытацца, ці ня могуць мяне арыштаваць.

Вядома, у былыя часы той, на каго абурана паказваў пальцам генсек, выпраўляўся далёка. Звычайна — туды, адкуль не вяртаюцца. Але час быў іншы (у чым у немалой ступені заслуга і самога Гарбачова).

Платонаў побач са мной сядзеў чырвоны. Дзямянцей у прэзыдыюме сьмяяўся і падміргваў, Камай весяліўся і нешта шаптаў суседу, паказваючы на мяне пальцам. Самым задаволеным выглядаў Малафееў — ня першы год ЦК КПБ папярэджваў Крэмль пра небясьпеку «дэмакратаў», і вось, нарэшце, голас пачуты.

«Падзякаваўшы М. Гарбачову, я, зьвяртаючыся да залі, сказаў, што пасьля гэтай сустрэчы Міхаіл

Сяргеевіч зразумеў, як трэба весьці перабудову, каб яна была на карысьць народу, а не служыла нажывай для розных прайдзісьветаў,» — прыгадваў потым Дземянцей у сваіх мэмуарах.

І яшчэ некалькі абзацаў з публікацыі ў віцебскай газэце.

«Выступ Гарбачова, як потым выявілася, трансьляваўся ў прамым эфіры і быў сапраўды «праграмным». Падазраю, што гісторыкі будуць спасылацца на яго ўсялякі раз, калі размова зойдзе пра адмову савецкага кіраўніцтва ад радыкальных дэмакратычных рэформаў.

Пасьля сустрэчы я ізноў падышоў да Гарбачова. «Пачакай, — спыніў ён на паўслове. — Дай нам спачатку разабрацца з канцэпцыяй, высьветліць сытуацыю». «У Міхаіла Сяргеевіча ў Беларусі — усё па хвілінах, мы вам дапаможам правесьці сустрэчу ў Маскве», — дадаў Дземянцей. «Так, вядома, — пацьвердзіў Гарбачоў. — Ад сустрэчы з дэпутатамі я не адмаўляюся, можаце перадаць сваім калегам».

Што я і зрабіў адразу ж. Але дарэмна дэпутаты рыхтавалі свае пытаньні — прэзыдэнт у іх, відавочна, не асабліва меў патрэбу. Зрэшты, як і ў прапановах. І сустракаючыся з гамяльчанамі і магілёўцамі, ён заахвочваў узьвядзеньне пасёлкаў у сумнеўных зонах, лаяў маладых лекараў, якія, забыўшыся на клятву Гіпакрата, дэзэрціравалі з зоны…

28 лютага пяць авіялайнэраў з узьлётнай паласы пад Быхавым узьняліся ў неба. Чатыры зь іх узялі на борт лімузіны, ахоўнікаў, сыстэму сувязі, а адзін — Прэзыдэнта СССР. Альбо, можа быць, генэральнага сакратара?»

Гарбачоў не прыйшоў яшчэ раз (хоць і абяцаў) да беларускіх дэпутатаў. У канцы 1991 году кожны

з дэпутатаў Вярхоўных Саветаў былых саюзных рэспублік атрымае ад Гарбачова ліст зь ягонымі меркаваньнямі наконт новага варыянту «саюзу» — але яны ўжо нікога не зацікавяць.

Увосень 1996-га ў Нью-Ёрку ў мяне зьявілася магчымасьць выказаць Гарбачову думку, што замест таго, каб перадаверыцца пракамуністычнаму кіраўніцтву Беларусі і іншых рэспублік, яму варта было наладзіць наўпроставы кантакт зь лідэрамі народных дэмакратычных рухаў, у Беларусі — з Пазьняком, ва Ўкраіне — з Чарнавілам… Зрэшты, гэта ўжо б мала што зьмяніла ў лёсе імпэрыі — хіба што зрабіла б яе распад больш цывілізаваным. У тыя дні Гарбачоў прэзэнтаваў у ЗША кнігу сваіх мэмуараў, чарга па яе ў кнігарні «Barnes & Noble» на Пятай авэню абгінала квартал.

…Калі ацэньваць палітыка паводле прынцыпу «што ён зрабіў» — дык відавочна, што Гарбачоў, жадаючы таго ці не жадаючы, даў першыя глыткі свабоды, і грамадзтва пачало дыхаць (праўда, усё часьцей не ва ўнісон з генсекам). Калі ж прызнаць, што і невыкарыстаньне магчымасьцяў павінна быць крытэрыем ацэнкі палітыка — дык, бясспрэчна, у 1991 годзе Гарбачоў мог, пры жаданьні, пагадзіцца на прапановы ўжыць усе сілавыя сродкі для ўтрыманьня рэспублік у імпэрыі, і колькасьць ахвяраў была б шматкроць большая, чым на плошчы Цяньаньмэнь альбо ў Югаславіі.

Мог, але не пагадзіўся на гэта.

І за тыя — самыя першыя — глыткі свабоды я падзякаваў Міхаілу Сяргеевічу ў сьнежні 2012-га падчас асабістай сустрэчы ў Маскве.

**3 сакавіка.** У Латвіі і Эстоніі праходзяць апытаньні насельніцтва аб дзяржаўным статусе. За незалежнасьць Латвіі выказваюцца 73,6 адсоткаў удзельнікаў апытаньня, за незалежнасьць Эстоніі — 77,6.

**9 сакавіка.** У Бялградзе адбываюцца першыя масавыя выступы супраць Слабадана Мілошавіча; пры здушэньні акцыяў два чалавекі загінулі.

**13 сакавіка.** Прэзыдэнт СССР Гарбачоў прызначае Раду бясьпекі СССР зь дзевяці асобаў, сярод якіх — будучыя члены ГКЧП.

**17 сакавіка.** У СССР (за выняткам Арменіі, Грузіі, Латвіі, Літвы, Малдовы і Эстоніі) праходзіць ініцыяваны Міхаілам Гарбачовым рэфэрэндум аб захаваньні СССР. Паводле афіцыйных дадзеных, 82,7 адсоткаў удзельнікаў галасаваньня выказваюцца станоўча. Апазыцыя БНФ канстатуе парушэньне заканадаўства аб рэфэрэндуме і зьвяртае ўвагу, што праціўнікі захаваньня СССР ня мелі магчымасьці агітаваць у СМІ.

**23-24 сакавіка.** У Менску праходзіць Другі зьезд БНФ.

**31 сакавіка.** Грузія праводзіць рэфэрэндум пра аднаўленьне дзяржаўнага сувэрэнітэту. Удзельнічаюць 90,79 адсоткаў выбаршчыкаў, зь іх 99,08 выказваюцца за сувэрэнітэт.

# Розныя, але адзіныя

Дэпутацкая апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня — супольнасьць у беларускай палітыцы ўнікальная.

Цяпер, прыгадваючы гэтых трыццаць чалавек, зь якімі давялося працаваць цягам шасьці гадоў і перажыць гістарычныя падзеі, я дзіўлюся, наколькі рознымі мы былі. І паводле ўзросту — напрыклад, розьніца паміж Мікалаем Крыжаноўскім і Міколам Маркевічам складала 25 гадоў. І паводле роду заняткаў: Сяргей Антончык — рабочы, Пётра Садоўскі — філёляг, Віктар Алампіеў — эканаміст, Валянцін Голубеў — гісторык, Сяргей Слабчанка — настаўнік, Ігар Пырх — афіцэр міліцыі. Юрась Беленькі працаваў фінансістам, Ігар Гермянчук — журналістам, а Генадзь Грушавы меў філязофскую навуковую ступень...

Але існавала тое, што ўсіх нас яднала: мы вельмі хацелі, каб Беларусь была незалежнай і каб яна была дэмакратычнай.

Ужо праз некалькі дзён пасьля другога туру выбараў увесну 1990 году Зянон Пазьняк сабраў дэпутатаў-франтаўцаў і тых, хто ня быў сябрамі БНФ, але падзяляў дэмакратычныя перакананьні, у будынку Чырвонага касьцёлу, які тады быў Домам кіно (ня ў актавай залі на другім паверсе, дзе ў кастрычніку 88-га былі заснаваны «Мартыралёг» і Аргкамітэт БНФ і якая пасьля рэканструкцыі перастала існаваць, а ў галерэі на першым паверсе). У красавіку прайшла вялікая нарада ў актавай залі Дому мастацтваў на вуліцы Казлова.

Тады ж, пасьля звароту да кіраўніцтва Вярхоўнага Савету, нам далі магчымасьць зьбірацца ў пакоі на першым паверсе правага крыла Дому ўраду (пазьней там быў кабінэт Гілевіча як старшыні парлямэнцкай камісіі). Пару разоў у траўні 1990-га, перад першай сэсіяй, мы сустракаліся і ў будынку БДУ — тады ўжо сфармавалася дэпутацкая група «Дэмакратычная плынь», якая пазьней трансфармуецца ў Дэмакратычны клюб. Тут ужо з памяшканьнем паспрыяў Станіслаў Шушкевіч, які тады быў прарэктарам унівэрсытэту.

Трэба прызнаць, што Дэмклюбу як арганізаванай дэпутацкай структуры ніколі не існавала, хоць запісалася ў яго больш за 100 дэпутатаў. З самага пачатку было зразумела, што людзі гэтыя маюць дыямэтральна супрацьлеглыя пазыцыі ў стаўленьні да такіх прынцыповых пытаньняў як сувэрэнітэт, рынкавыя рэформы, камуністычная ідэалёгія. Дастаткова сказаць, што ў склад Дэмклюбу ўвайшлі ня толькі дэпутаты БНФ і, напрыклад, Станіслаў Шушкевіч і Ўладзімер Кавалёнак, але і начальнік віцебскай міліцыі генэрал Мечыслаў Грыб, і мітрапаліт Філарэт, і нават некаторыя камуністычныя функцыянэры. У поўным складзе клюб ніколі не зьбіраўся, а ў колькасьці 50-60 дэпутатаў — два ці тры разы за ўсе гады кадэнцыі Вярхоўнага Савету.

У чэрвені 1990-га мы сфармавалі дэпутацкую групу БНФ, а ўжо 27 ліпеня, у дзень прыняцьця Дэклярацыі аб сувэрэнітэце, заявілі пра ўтварэньне Апазыцыі БНФ. Было нас крыху больш за 30 дэпутатаў. Старшынём абралі Зянона Пазьняка, ягонымі намесьнікамі — Уладзімера Заблоцкага і Алега Трусава, а Лявон Баршчэўскі, Валянцін Голубеў і я сталі каардынатарамі.

Праз шмат гадоў Лявон Баршчэўскі ў інтэрвію карэспандэнту Радыё Свабода Аляксандры Дынько скажа, што ў выніку выбараў у Вярхоўны Савет адбыўся, як ён выказаўся, «правал другога эшалёну»: лідэр БНФ Зянон Пазьняк дэпутатам быў выбраны, а ягоныя намесьнікі — Міхась Ткачоў, Юрась Хадыка — у выніку пэўных маніпуляцыяў у Вярхоўны Савет не прайшлі. Не былі абраныя і такія вядомыя асобы, як Рыгор Барадулін, Вінцук Вячорка, Аляксей Марачкін. Усе яны ўваходзілі ў кіраўнічыя органы БНФ, былі даволі добра вядомыя ў Беларусі. Пра іх пісалі ў прэсе і казалі на тэлебачаньні — палівалі брудам, але ў вачах прыхільнікаў дэмакратычных пераменаў гэта толькі дадавала аўтарытэту.

І вось атрымалася так, што ў Авальную залю прыйшлі прыхільнікі БНФ у большасьці вядомыя толькі ў сваім асяродку альбо ў сваім рэгіёне. Але ўжо ў тыя першыя дні «трэцім эшалёнам» назваць іх можна было толькі ўмоўна. Яны ўжо мелі практыку рэальнай палітычнай барацьбы: у жорсткай, зьнясільваючай нэрвы выбарчай кампаніі перамаглі камуністычных кіраўнікоў альбо стаўленікаў кампартыі. Гэта былі асобы, якія дасягнулі ў сваёй сфэры бясспрэчных посьпехаў — як кандыдат тэхнічных навук Уладзімер Заблоцкі і архітэктар Лявонцій Зданевіч, альбо лекар Алесь Шут. Што да досьведу заканатворчай дзейнасьці, дык ва ўсіх на пачатку працы Вярхоўнага Савету ён, зразумела, быў нулявы.

Але ўжо праз два месяцы, у канцы ліпеня 1990-га, пасьля першай сэсіі Вярхоўнага Савету і прыняцьця Дэклярацыі аб сувэрэнітэце, гэта былі іншыя людзі. І досьвед дэпутатаў Вольгі Галубовіч, Мікалая Аксаміта, Лявона Дзейкі, Віктара Какоўкі,

Віталя Малашкі, Сяргея Папкова, Паўла Холада ды іншых маіх калегаў па Апазыцыі БНФ не ішоў ні ў якае параўнаньне з досьведам тых палітыкаў, якіх у Авальнай залі не было.

Па-першае, дзякуючы тэле— і радыётрансьляцыі, яны набылі агульнанацыянальную вядомасьць. Па-другое, за некалькі тыдняў авалодалі наборам палітычнай практыкі, якой у Беларусі ніхто ня меў. Бо калі гады перабудовы пазбавілі страху і навучылі весьці дыскусіі, дык нікому яшчэ не даводзілася дыскутаваць у парлямэнце, дзе перамога выяўляецца не праз нейкі аддалены тэрмін, а імгненна высьвечваецца на таблё вынікамі галасаваньня. І здабываць перамогу даводзілася няроўнымі сіламі: нас налічвалася прыкладна ў дзесяць разоў меней, чым палітычных апанэнтаў.

Мы мусілі вучыцца прамаўляць з трыбуны, дзе ты, як правіла, павінен зрабіць саліднае ўражаньне (а многім з нас толькі-толькі споўнілася трыццаць, а некаторым, як мне на той момант, было меней). Нам давялося авалодваць прыёмамі кароткіх рэплік ад мікрафонаў, якія былі расстаўленыя ў праходах паміж сэктарамі, дзе звычайна патрэбная імгненная рэакцыя і вынаходлівасьць, ды яшчэ і чаргу да таго мікрафона трэба было заняць. Але і заняць чаргу яшчэ не азначала дабрацца да мікрафона, а трапіць да яго яшчэ не гарантавала, што сьпікер дасьць табе слова.

А па-за межамі Авальнай залі мы назапашвалі іншы досьвед — кулюарных (ужываю гэтае слова без адмоўнага адценьня) перамоваў з палітычнымі апанэнтамі. Так, у траўні 1990-га мне давялося літаральна бегаць па калідорах ад Авальнай залі, дзе ў адным з сэктараў сабраліся дэпутаты БНФ і Дэмклюбу, да кабінэту ў правым крыле (акурат пад

будучым пакоем апазыцыі), дзе засядалі кіраўнікі так званай партгрупы. Мы тады запатрабавалі, каб першым намесьнікам Дземянцея быў абраны не прапанаваны ім адзін з кіраўнікоў Гарадзеншчыны, а Станіслаў Шушкевіч. Я перадаваў другому сакратару ЦК Аляксею Камаю нашыя ўмовы, а потым, адпаведна, бег у Авальную залю і перадаваў умовы камуністаў. У выніку дамовіліся, што камуністы пагаджаюцца на Шушкевіча, а мы — на іх кандыдатуру другога намесьніка, Шаладонава).

Праўда, трэба прызнаць, што і для партыйных сакратароў у першыя дні працы Вярхоўнага Савету было нязвыклым абмяркоўваць сур'ёзныя тэмы з тымі, каго яны называлі «нефармаламі» ды «экстрэмістамі».

І вось гэтага досьведу перамоваў з палітычнымі апанэнтамі да лета 1990-га ў Беларусі ня меў ніхто — ні камуністы, ні фронтаўцы. З той простай прычыны, што дзесяцігодзьдзямі ў Беларусі не было ніякай рэальнай палітыкі.

Нам давялося зьвяртацца да нашых палітычных апанэнтаў і з будзённымі просьбамі. Паколькі ўсе мы выбіраліся ў акругах, дык ніяк не выпадала адмахнуцца ад зваротаў выбаршчыкаў — ці то зрабіць капітальны рамонт (у маёй акрузе дык нават дапамагаў перасяляць цэлы дом), ці то пракласьці асфальт. Адразу пасьля выбараў мясцовае начальства не адмаўляла сабе ў радасьці зьедліва пракамэнтаваць просьбы тых, хто ішоў у выканкам: «Выбралі Навумчыка? Вось хай ён вам дах шыфэрам і накрые!» Тлумачыць людзям, што дэпутат павінен займацца заканатворчасьцю, я нават і не спрабаваў — не было сэнсу. І мусіў хадзіць па кабінэтах, выпрошваць будматэрыялы. Праўда, у мяне даволі хутка ўзьніклі добрыя стасункі са

старшынём Чыгуначнага райвыканкаму Генадзем Пучковым (мая акруга практычна супадала зь межамі раёну), асабліва пасьля таго, як мне ўдалося «выбіць» у віцэ-прэм'ера Міхаіла Мясьніковіча надзвычай дэфіцытныя каналізацыйныя трубы (зразумела, што самому старшыні райвыканкаму было б цяжка патрапіць да яго на прыём). Некалькі разоў з рознымі праблемамі сваёй акругі хадзіў я і да Вячаслава Кебіча, і мушу прызнаць, што ў гэтых выпадках ён дапамагаў.

Усім бяз вынятку дэпутатам-фронтаўцам даводзілася займацца такімі вось зусім «непалітычнымі» клопатамі сваіх выбаршчыкаў. А некаторым — ня толькі сваіх: да мяне як да сакратара камісіі па галоснасьці, сродках масавай інфармацыі і правоў чалавека пісалі з самых розных рэгіёнаў Беларусі. Але колькасьць гэтых зваротаў не ішла ні ў якае параўнаньне з аб'ёмам просьбаў да Пазьняка.

Словам, ужо ў канцы лета 1990 году мы былі зусім не «людзьмі з плошчы». Ці больш дакладна — людзьмі ня толькі з плошчы, але і асобамі, якія мелі досьвед стасункаў з палітычнымі апанэнтамі і ў парлямэнцкай залі, дзе дыскусіі дасягалі гранічнага напалу, і за сталом перамоваў, дзе шмат што вырашала вытрымка. Мы ведалі, як гаварыць зь міністрам, каб ён паставіўся да аргумэнтаў сур'ёзна, і як прасіць пра нешта для сваёй акругі прэм'ер-міністра, каб потым не адчуваць сябе палітычна абавязаным. Але галоўнае — мы навучыліся перамагаць парлямэнцкую большасьць іхнімі ж галасамі, змушаючы іх прыняць тое, супраць чаго яны яшчэ зусім нядаўна выступалі (так, як гэта было 27 ліпеня з прыняцьцем Дэклярацыі аб сувэрэнітэце).

А хутка назапасілі і досьвед заканатворчы — падрыхтаваўшы ўвосень 1990-га пакет законаў і канцэпцыю пераходу эканомікі да рынку. Тут ужо былі дыскусіі з палітычнымі аднадумцамі — эканамічнымі экспэртамі, зь якімі мы па некалькі тыдняў да позьняга вечара абмяркоўвалі, якім павінен быць шлях да рынку, як праводзіць прыватызацыю, якія прынцыпы закласьці ў падмурак закону пра ўласнасьць.

На жаль, большасьць нашых законапраектаў адкідалася, і тады мы прасоўвалі асобныя артыкулы ў часе дэбатаў на сэсіі. Скарыстоўвалі і працу ў камісіях — напрыклад, менавіта ў 1990-1991 гадах мне давялося ўзначальваць рабочую групу нашай парлямэнцкай камісіі, якая рыхтавала закон пра свабоду веравызнаньняў. Закон быў прыняты і дзейнічаў даволі доўгі час, аж пакуль ня быў заменены лукашэнкаўскай «палатай прадстаўнікоў» на іншы, на падставе якога потым пачаліся рэпрэсіі супраць вернікаў некаторых канфэсіяў.

Увогуле, тактыку для дасягненьня нашых мэтаў у Авальнай залі мы выкарыстоўвалі самую розную. Былі і «аднаразовыя» прыёмы, ужыць якія можна было толькі аднойчы. Клясычны прыклад — прыняцьце (а больш дакладна — непрыняцьце) закону пра адкліканьне дэпутатаў, які ў пэўны момант пачала фарсіраваць камуністычная большасьць.

Мы ўвесь час выступалі за пераабраньне Вярхоўнага Савету, але — на агульнанацыянальных выбарах. Ва ўмовах жа поўнага кантролю ўлады над выбарчымі камісіямі ды мясцовай прэсай намэнклятура магла арганізаваць у некалькіх акругах пасьпяховую кампанію адкліканьня практычна любога непажаданага ёй дэпутата. Ва ўсякім



НАРОДНЫ ДЭПУТАТ БЕЛАРУСКАЙ ССР | НАРОДНЫЙ ДЕПУТАТ БЕЛОРУССКОЙ ССР

№ ______ 8 кастрычніка 1990 г.

У сакратарыят Вярхоўнага Савета БССР.

У адпаведнасці з "Часовым рэгламентам Вярхоўнага Савета БССР" просім памножыць у колькасці 360 экз. і распаўсюдзіць паміж народнымі дэпутатамі БССР наступныя праекты, падрыхтаваныя дэпутацкай апазіцыяй БНФ:

1. "Закон "Аб грамадзянстве Беларускай ССР"
2. "Зямельны кодэкс Беларускай ССР"
3. "Закон Беларускай ССР аб уласнасці"
4. "Закон Беларускай ССР аб банках і банкаўскай дзейнасці"
5. "Закон Беларускай ССР аб мясцовым самакіраванні"
6. Дэкрэт аб уладзе ў Беларускай ССР
7. Пастанова Вярхоўнага Савета БССР аб [illegible]
8. Заява ВС БССР па ваенных пытаннях
9. Пастанова ВС БССР аб [illegible] камісіі ВС БССР па пытаннях абароны і дзяржаўнай бяспекі БССР
10. Пастанова ВС БССР аб асноўных задачах і парадку дзейнасці камісіі ВС БССР па пытаннях абароны
11. Пастанова ВС БССР аб [illegible] мерах па рэалізацыі прынцыпаў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР у галіне дзяржаўнай ваеннай палітыкі БССР
12. Пастанова ВС БССР аб ахвярах палітычных рэпрэсій у 60-80 г.
13. Пастанова ВС БССР аб дэнансацыі Саюзнага дагавору 1922 г.
14. Пастанова ВС БССР аб назве рэспублікі.

1. С. Навумчык – 181-я
2. Л. Баршчэўскі – 174-я
3. В. Голубеў – 15-я
4. [illegible] – 262
5. Дзейка Л. Я. – 62
6. І. Гермянчук – 71-ая
7. [illegible]
8. [illegible] – 7
9. [illegible]
10. [illegible]
11. [illegible]
13. [illegible]
14. [illegible] N 131
15. [illegible] N 172
16. Антончык С. А. N 17
17. [illegible]
18. [illegible]
19. [illegible]
20. З. Пазняк

На кожную сэсію Вярхоўнага Савету Апазыцыя БНФ прапаноўвала пакет законапраектаў; у гэтым пераважалі эканамічныя.

разе, такая кампанія нават у межах адной акругі запатрабавала б вялізных высілкаў ці не ўсяго БНФ і ўсёй дэпутацкай апазыцыі — бо зразумела, што мы б кінуліся бараніць свайго калегу. Словам,

закон быў не на нашую карысьць. І тое, што яго прасоўваньне ішло вельмі шпарка і пры поўнай аднадушнасьці камуністычных дэпутатаў, сьведчыла, што ў іх ёсьць пэўны плян.

Але плян зьявіўся і ў нас.

Перад выніковым галасаваньнем некаторыя з нас усталі з крэслаў і пабеглі па залі — «Галасуем! Галасуем! Паклічце людзей з фае, пачынаецца галасаваньне!» Некалькі фронтаўскіх дэпутатаў прыбеглі ў залю і селі ў свае крэслы — пад незразумелыя перашэптваньні камуністаў. Пачынаецца галасаваньне, а камуністы разгубленыя: дык што, для БНФ гэты закон нагэтулькі выгодны, што ажно па Авальнай залі лётаюць? А пракансультавацца з кіраўніцтвам няма часу — на таблё ўжо ідзе адлік 30 сэкундаў, дадзеных на галасаваньне. Дзясяткі тры-чатыры камуністаў не рашаюцца галасаваць за выгадны для апазыцыі закон.

У выніку — ён не набірае патрэбнай колькасьці галасоў і здымаецца. (Вынясеньне яго на разгляд ізноў — складаная працэдура, і зрабіць гэта можна будзе толькі на наступнай сэсіі, праз паўгода, а то і пазьней.)

І тут мы ня стрымліваемся і пачынаем сьмяяцца. Некалькі сэкундаў — і пачынаюць сьмяяцца камуністы: «Ну, вы нас і абдурылі!»

Зразумела, такі прыём у дачыненьні да цэлага законапраекту можна было скарыстаць толькі адзін раз. (Між іншым, больш той закон ніколі на абмеркаваньне не выносіўся.)

Пазьняку ўдалося дамовіцца з кіраўніцтвам Вярхоўнага Савету, і нам выдзелілі пакой нумар 363 на трэцім паверсе правага крыла Дому ўраду. Там мы зьбіраліся да верасьня 1995-га, калі адбылася апошняя сэсія Вярхоўнага Савету 12 склі-

каньня (сталася так, што апошнімі дэпутацкімі словамі перад тым, як старшыня Мечыслаў Грыб закрыў тую сэсію 8 верасьня 1995 году, быў якраз мой выступ).

Гэта быў прасторны, мэтраў пад шэсьцьдзесят, сьветлы пакой, які трыма вокнамі выходзіў на помнік Леніну, а трыма іншымі — на ўсю плошчу, якая цяпер завецца плошчай Незалежнасьці. Да стала Пазьняка быў прыстаўлены іншы, даўгі стол, за якім маглі сесьці чалавек дзесяць (за ім мы звычайна і працавалі), а ўздоўж сьценаў было яшчэ па некалькі шэрагаў крэслаў. Чалавек пяцьдзясят у пакоі разьмяшчаліся свабодна.

Мы, дэпутаты, прыходзілі сюды і перад пасяджэньнямі сэсіі, і ў перапынках, і ўвечары, калі трэба было выпрацаваць ці ўдакладніць тактыку паводзінаў у Авальнай залі. Калі ж сэсіі не было, працавалі тут над законапраектамі, прызначалі ў гэтым пакоі сустрэчы журналістам. Тут зьбіраўся ценявы кабінэт Апазыцыі БНФ, які ўзначальваў Уладзімер Заблоцкі. На некалькі гадоў (аж пакуль у 1993-м дэпутат менскага гарсавету Галіна Вашчанка не «прабіла» для БНФ памяшканьне на вуліцы Варвашэні) гэты пакой быў адзіным кабінэтам, дзе Зянон Пазьняк мог займацца палітычнай працай. Пакінулі гэты пакой за намі і пасьля таго, як на пачатку 1992 году камісіі і сакратарыят Вярхоўнага Савету пераехалі ў будынак былога ЦК КПБ на вуліцы Карла Маркса.

Літаральна праз дзесяць мэтраў па калідоры быў мой кабінэт як сакратара камісіі па пытаньнях галоснасьці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека. Такім чынам я дзяліў час паміж «сваімі» сьценамі і пакоем Апазыцыі.

Як ужо казалася, Апазыцыя БНФ мела старшыню, двух намесьнікаў і трох каардынатараў. Пазьняк быў палітычным кіраўніком, тут усё зразумела, а вось нашыя функцыі як намесьнікаў і каардынатараў выглядалі няпэўнымі — бадай што толькі ў мяне яны нейкім чынам акрэсьліліся. Ва ўсякім разе, напачатку функцыі нашыя былі хутчэй тэхнічныя — абзваніць дэпутатаў, прасачыць, каб законапраекты раздрукавалі ў машынапісным бюро (з гэтым не заўсёды атрымлівалася проста: машыністкі былі абавязаныя друкаваць толькі «афіцыйныя» законапраекты). У часе сэсіяў патрабавалася абысьці сэктары ў Авальнай залі (дэпутаты сядзелі не па фракцыях, а тэрытарыяльна, па абласьцях), папярэдзіць пра магчымыя зьмены тактыкі, пры патрэбе сабраць дэпутатаў у 363-м пакоі.

У мае абавязкі яшчэ дадалося вядзеньне пратакольных запісаў пасяджэньняў Апазыцыі (што потым будзе бясцэнным для публікацый і кніг, у тым ліку і гэтай), а таксама праца са сродкамі масавай інфармацыі. Самым няпростым было дамагацца прадстаўленьня прамога тэлеэфіру: з аднаго боку, закон гарантаваў дэпутатам доступ да СМІ, з другога — кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё не хацела ісьці нам насустрач. З чым не ўзьнікала звычайна праблемаў — дык гэта з радыё, бо ў моладзевай рэдакцыі, дзе працавалі Жанна Літвіна, Алена Радкевіч і Віталь Сямашка, я заўсёды знаходзіў паразуменьне. З газэтамі было прасьцей, чым з тэлебачаньнем, бо ў журналістыку прыйшло новае пакаленьне, не абцяжаранае стэрэатыпамі камуністычнай прэсы: Аляксандар Старыкевіч, Віталь Цыганкоў, Паўлюк Быкоўскі, Алесь Ліпай. Шмат пісала пра нашую працу і мая жонка Галіна,



Аўтар перад мікрафонам: «Прашу слова!»

якая ў газэце менскага гарсавету «Добры вечар» выступала пад сваім дзявочым прозьвішчам Прыгара.

Вельмі важна, што мы заўсёды маглі разьлічваць на газэту «Свабода», якую рэдагаваў Ігар Гермянчук, і на «Навіны БНФ». У траўні 1991 году супрацоўнік фронтаўскай газэты Валер Сядоў быў арыштаваны за ўдзел у антыкамуністычным мітынгу, правёў за кратамі СІЗА некалькі месяцаў. Намесьнік генэральнага пракурора патрабаваў ад Валерыя зрабіць заяву з асуджэньнем Зянона Пазьняка, і — ісьці на волю. Сядоў адмовіўся і пачаў першую палітычную галадоўку ў найноўшай гісторыі Беларусі. Зянон Пазьняк і ўсе мы прыкладалі шмат намаганьняў, каб вызваліць Валерыя.

Пазьней будуць казаць пра тое, што ў Апазыцыі БНФ была «жорсткая дысцыпліна». Калі пад гэтым мецць на ўвазе адзінства, якое выяўлялася ў выступах і галасаваньнях на сэсіі — гэта праўда. Аднак ніхто нікога ніколі не прымушаў галасаваць або рабіць так ці інакш пад пагрозай нейкіх

санкцыяў. І ў гэтым сэнсе дэпутацкая апазыцыя БНФ таксама была ўнікальнай структурай.

Там, дзе выбары адбываюцца паводле партыйных сьпісаў, кар'ера дэпутата ад нейкай партыі наўпрост залежыць ад ягоных паводзінаў у парлямэнце. Калі ён не падпарадкоўваецца агульным рашэньням — проста не ўключаецца ў сьпіс на наступных выбарах. Крыху меншая залежнасьць у дэпутатаў, абраных па акругах, але вылучаных партыяй. «Франтаўскія» ж дэпутаты ў Вярхоўным Савеце вылучаліся не БНФ (Фронт тады нават ня быў зарэгістраваны), а працоўнымі калектывамі, і ніякіх фармальных абавязкаў перад арганізацыяй ня мелі. Больш за тое: значная частка дэпутатаў апазыцыі ў часе выбарчай кампаніі да БНФ не належала. І калі я, альбо Юрась Беленькі ці Лявон Баршчэўскі былі палітычна і маральна абавязаныя суполкам БНФ за падтрымку на выбарах, дык, напрыклад, Галіна Сямдзянава не была абавязаная нічым. Перад першай сэсіяй Галіна крытычна ставілася да БНФ, а засталася ў гісторыі асобай, якая ўнесла ў залю парлямэнту бел-чырвона-белы сьцяг.

Дысцыплінавалі нас не кар'ерныя разьлікі, а перакананьні. І ў тым, што да самага апошняга дня парлямэнцкая апазыцыя захавала адзінства, вялікая заслуга яе старшыні Зянона Пазьняка, які здолеў аб'яднаць такіх розных — паводле жыцьцёвага досьведу, роду занятаў, тэмпэрамэнту — людзей.

1991 год Апазыцыя БНФ, праз паўгода пасьля свайго ўтварэньня, сустрэла загартаванай парлямэнцкай сілай, якая валодала тактыкай і мела ясную стратэгію, накіраваную на дасягненьне дэмакратыі і незалежнасьці.

# Постаці і пераемнасьць

Калі ў часе абмеркаваньня падзеяў у Літве Пазьняк вымавіў фразу «тое, што выробляюць камуністы сумесна з савецкай арміяй на Віленшчыне і па ўсёй Літве — гэта дзяржаўны бандытызм, агрэсія і ўзброены разбой», ён мог з поўным правам, прычым літаральна, аднесьці яе да сваёй біяграфіі. Дакладней — да біяграфіі сваёй сям'і.

Ягоны дзед, Ян Пазьняк, на пачатку XX стагодзьдзя ўдзельнічаў у асьветніцкіх суполках, выдаваў каталіцкую газэту «Biełarus» і ўваходзіў у Хрысьціянска-дэмакратычную злучнасьць з моманту яе заснаваньня. У 1930-х у Вільні ўзначальваў Беларускі нацыянальны камітэт, закладаў на Віленшчыне беларускія школы. У адным толькі 1936 годзе газэта «Biełaruskaja krynica», якую ён восем гадоў рэдагаваў, адзінаццаць разоў канфіскоўвалася польскімі ўладамі. Некалькі месяцаў Ян Пазьняк правёў у турме, а ў 1937 годзе газэта была забароненая.

Неўзабаве пасьля прыходу прыходу Чырвонай арміі, у кастрычніку 1939-га Ян Пазьняк быў арыштаваны НКВД у Новавільні і расстраляны (верагодна ў Курапатах). Як высьветлілася ўжо ў XXI стагодзьдзі, ён прайшоў праз жудасную Ігуменскую турму.

Зянон Пазьняк казаў мне, што расповеды бабулі і маці пра дзеда ўжо ў дзяцінстве сфармавалі ягоны сьветапогляд.

Дэпутат Апазыцыі БНФ Лявон Дзейка ўзгадваў, які ўплыў зрабіў на яго яшчэ ў школе клецкі на-

стаўнік геаграфіі Дарафей Максімавіч Чорны. І ня ўрокамі пра далёкія экзатычныя краіны — аповедамі пра родную Беларусь. Падчас акупацыі Дарафей Чорны быў удзельнікам Саюзу беларускай моладзі (СБМ), пазьней быў мабілізаваны ў Чырвоную армію, ваяваў ва Ўсходняй Прусіі.

СБМ даў шмат патрыётаў — да прыкладу, Алесю Умпіровіч. У гады нямецкай акупацыі яна навучалася ў Пастаўскай настаўніцкай сэмінарыі, якую арганізаваў Барыс Кіт. Пасьля вайны ўвайшла ў Саюз беларускіх патрыётаў (СБП) і ўласнымі рукамі пашыла для суполкі бел-чырвона-белы сьцяг, а таксама намалявала для прысягі на вернасьць Беларусі «Пагоню».

Яе будучы муж Антон Фурс быў сярод заснавальнікаў суполкі Саюзу беларускіх патрыётаў у Глыбокім. Юнакі марылі пра вольную Беларусь. МГБ (так у той час назваўся чэкісцкі орган) ацаніў гэтыя мары працяглымі, ад 10 да 25 гадоў, тэрмінамі зьняволеньня. Некаторыя сябры СБП былі асуджаныя да сьмяротнага пакараньня. Такім вось быў кошт памкненьняў бачыць Беларусь беларускай. У 1955-м Антон Фурс узяў удзел у паўстаньні вязьняў лягераў Карлагу.

Пасьля вызваленьня зь лягераў Алеся і Антон Фурсы былі вымушаныя жыць у Казахстане і вярнуліся на радзіму, у Паставы, толькі на пачатку 1980-х. Пісьменьнік Уладзімер Арлоў перадаў мне, ужо дэпутату, матэрыялы для іх рэабілітацыі. Мяне ўразілі лёсы гэтых людзей, якія жылі ў маіх родных Паставах. КДБ тады заяўляў пра сваё «ачышчэньне», але рэабілітаваныя Фурсы былі толькі ў 1992 годзе, ужо ў незалежнай Беларусі.

Ніколі, нават у самыя змрочныя часы бальшавіцкага тэрору, не зьнікала ў беларусаў вера ў

перамогу нацыянальнай ідэі, якая выяўлялася ці ў стварэньні беларускіх школ, ці ва ўзьняцьці бел-чырвона-белага сьцяга і «Пагоні», ці ў асьветніцкім слове. І мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, маглі гэта пацьвердзіць лёсамі сваіх блізкіх альбо знаёмых.

Альбо — уласнымі лёсамі, як той самы Зянон Пазьняк, які разам з сваімі сябрамі Лявонам Баразном, Яўгенам Кулікам, Міхасём Чарняўскім у нонканфармісцкай творчай суполцы «На паддашку» ня толькі абмяркоўвалі палітычную сытуацыю, але і ладзілі выставы, распаўсюджвалі ўлёткі ды падпольную літаратуру. Сярод гэтых нелегальных матэрыялаў быў і аналітычны агляд Зянона Пазьняка «Становішча ў Беларусі. 1974 год», напісаны пад псэўданімам Генрых Ракутовіч. «Па сутнасьці мы стаім яшчэ па горла ў крыві 1930-х гадоў. Фізычныя і маральныя страты былі татальныя і нагэтулькі істотныя, што нашае пакаленьне адчувае іх увесь час... Зьнішчэньне нашай інтэлігенцыі органамі КДБ адбываецца ў поўным маўчаньні», — пісаў Пазьняк.

«На паддашку» зьбіраліся да сярэдзіны 1980-х, але ўжо ў 1980-м у Менску была заснаваная Беларуская сьпеўна-драматычная Майстроўня, удзельнікам якой стаў Ігар Гермянчук, будучы рэдактар газэты «Свабода» (я таксама некалькі разоў быў на імпрэзах «Майстроўні» ў Палацы прафсаюзаў, але Ігар быў сталым удзельнікам).

Лявон Баршчэўскі ў сярэдзіне 80-х уваходзіў у наваполацкае літаратурнае аб’яднаньне «Крыніцы» (у якім ён і пачаў пісаць па-беларуску). Кіраваў «Крыніцамі» Уладзімер Арлоў, які на той момант ужо меў досьвед самвыдату яшчэ з 1970-х: спачатку быў аўтарам літаратурнага альманаху

«Блакітны ліхтар», а потым выдаваў зь сябрамі яго наступніцу «Мілавіцу». Найбольш уважлівымі чытачамі альманаху, як потым выявілася падчас прафіляктычных гутарак у КДБ, былі чэкісты. Удзельнікі «Крыніцаў» ня толькі пісалі прозу і вершы, але і выступалі супраць руйнаваньня помнікаў беларускага дойлідзтва ў старажытным Полацку, а таксама за экалягічную чысьціню наваколься ад мясцовага нафтаперапрацоўчага гіганту «саюзнага падпарадкаваньня».

Супраць зьнішчэньня старой забудовы Віцебску змагаліся мы ў сярэдзіне 80-х у клюбе «Ўзгор’е» — гэтаксама, як у той самы час менскія «талакоўцы», сярод якіх быў і Юрась Беленькі, адваёўвалі Верхні горад.

Мы ведалі гісторыю змаганьня за беларускую Беларусь найноўшых часоў, а нашыя калегі-гісторыкі Валянцін Голубеў, Алег Трусаў, той самы Зянон Пазьняк расказвалі дэпутатам пра Вялікае Княства Літоўскае, пра Беларускую Народную Рэспубліку.

Постаці і выдатных, вядомых асобаў, і сьціплых, непрыкметных, але адданых нацыянальнаму Адраджэньню патрыётаў, мы адчувалі за сабою заўсёды.

# Рэфэрэндум бяз права голасу

17 сакавіка 1991 году адбыўся першы (і апошні) у гісторыі СССР рэфэрэндум. Потым на яго будуць бясконца спасылацца спачатку прыхільнікі захаваньня, а потым — аднаўленьня імпэрыі.

«Ці лічыце вы неабходным захаваньне Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік як абноўленай фэдэрацыі раўнапраўных сувэрэнных рэспублік, у якой будуць у поўнай меры гарантавацца правы і свабоды чалавека любой нацыянальнасьці?»

Станоўчы адказ на гэтае пытаньне (паводле афіцыйных дадзеных, у Беларусі «так» адказалі 82,5 адсоткаў тых, хто прыйшоў на ўчасткі) і дагэтуль зьяўляецца аргумэнтам для тых, хто бачыць у аднаўленьні незалежнасьці Беларусі «парушэньне волі народаў».

Але пра сапраўднае волевыяўленьне казаць не даводзілася.

І рэч ня толькі ў тым, што зь пятнаццаці рэспублік СССР шэсьць (Арменія, Грузія, Латвія, Літва, Малдова, Эстонія) увогуле адмовіліся яго праводзіць. І ня ў тым, што ў самой Беларусі колькасьць прыхільнікаў захаваньня СССР сярод тых, хто меў права голасу, вагалася на мяжы паловы і склала крыху больш за 52 адсоткі (на ўчасткі прыйшлі 63,5 адсоткаў грамадзян, якія мелі права голасу, зь іх прагаласавалі «за» — 82,6. У Менску супраць Саюзу выказаліся 32 адсоткі).

«Навошта ўсенародны рэфэрэндум, калі Вярхоўны Савет Беларусі прыняў ужо пастанову:

«Прызнаць мэтазгодным уваходжаньне Беларускай ССР у склад Саюзу ССР». Такім чынам, усё ўжо вырашана за месяц да ўсенароднага рэфэрэндуму, — не без іроніі сказаў мне за некалькі тыдняў да рэфэрэндуму Васіль Быкаў у інтэрвію, якое я браў для ЛіМу. — Канцэпцыя гэтага рэфэрэндуму лішні раз сьведчыць, што мы ніколі ня вырашым свой лёс — за нас тое робяць іншыя. Мы зноў і каторы раз трапілі ў зачараванае кола: каб вольна і па справядлівасьці вырашыць пытаньне дзяржаўнага сувэрэнітэту, трэба быць сувэрэнным народам. А каб быць сувэрэнным народам, трэба мець дзяржаўны сувэрэнітэт. Каторы раз успомніш славутае: «так» альбо «не», а ўсё астатняе — ад нячысьціка. Баюся, тут усё — ад нячысьціка» (Літаратура і мастацтва, 1 сакавіка 1991 г.).

Калі ж пакінуць у баку інфэрнальныя катэгорыі і засяродзіцца на прававых, дык трэба прызнаць: рэфэрэндум быў папросту нелегітымны, бо праходзіў з парушэньнямі заканадаўства.

Пастанову аб правядзеньні рэфэрэндуму з ініцыятывы Гарбачова прыняў 24 сьнежня 1990 году чацьвёрты Зьезд народных дэпутатаў СССР. Зьезд, які на пачатку сваёй дзейнасьці вясной 1989 году адыграў выключную ролю ў дэмакратызацыі грамадзтва і перасягнуў самыя сьмелыя спадзяваньні, ужо ня меў ніякага аўтарытэту і нават пракамуністычнымі дэпутатамі ўспрымаўся як нешта ня вартае асаблівай увагі.

Тым ня менш, камуністы ў Вярхоўным Савеце ўхапіліся за рэфэрэндум як за магчымасьць выправіць «памылку», якую дапусьцілі ў ліпені 1990-га, прагаласаваўшы за распрацаваныя дэпутатамі БНФ палажэньні Дэклярацыі аб сувэрэнітэце. «На прыкладзе нашага Вярхоўнага Савету

відаць, як крок за крокам адбываецца, па сутнасьці, рэвізія Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі», — пісаў у тыя дні ў «ЛіМе» Андрэй Ганчароў.

Нашая ж пазыцыя была простая: трэба не губляць час на захаваньне імпэрыі, а ствараць незалежную дзяржаву — з войскам, уласнымі грашыма, самастойнай зьнешняй палітыкай.

Калі ў студзені 1991-га Мікалай Дземянцей узьняў пытаньне пра рэфэрэндум аб захаваньні СССР на сэсіі Вярхоўнага Савету, Апазыцыі БНФ удалося заблякаваць галасаваньне, і пытаньне нават не было ўнесенае ў парадак дня.

Камуністы, якія складалі большасьць у Прэзыдыюме Вярхоўнага Савету, пачалі мітусіцца і рабілі адну памылку за другой. Прынялі пастанову аб правядзеньні рэфэрэндуму «заднім чыслом», прычым не на пасяджэньні, а шляхам апытаньня. Пры гэтым забыліся, што ў часе сэсіі Прэзыдыюм увогуле ня меў такіх паўнамоцтваў.

З гэтага вынікае, што найвышэйшы заканадаўчы орган Беларусі — Вярхоўны Савет — рэфэрэндуму не прызначаў. Зь юрыдычнага пункту гледжаньня, тут у размове пра яго легітымнасьць (на тэрыторыі Беларусі) можна паставіць кропку.

Але той рэфэрэндум меў яшчэ адну асаблівасьць, якая карэнным чынам адрозьнівала яго ад плебісцытаў у дэмакратычных дзяржавах. Гэта — немагчымасьць апанэнтаў улады (у нашым — прыхільнікаў незалежнасьці Беларусі) давесьці да насельніцтва свой пункт погляду.

Увогуле, паводле сацыялягічных апытаньняў, з тых, хто сказаў на рэфэрэндуме «так», толькі 6 адсоткаў мелі ўяўленьне пра праект Саюзнай дамовы, які быў прапанаваны Гарбачовым і ўвасабляў

«абноўленую фэдэрацыю раўнапраўных сувэрэнных рэспублік». Але значная частка насельніцтва мела няпэўныя ўяўленьні і пра аргумэнтацыю БНФ.

Закон аб рэфэрэндуме СССР гарантаваў «грамадзянам СССР, палітычным партыям, масавым рухам права бесьперашкоднай агітацыі за альбо супраць рашэньня, якое выносіцца на рэфэрэндум».

У рэальнасьці, гэты пункт закону не выконваўся — апанэнты Крамля голасу ня мелі.

Увогуле, усе пяць з паловай гадоў нашай працы ў Вярхоўным Савеце суправаджаліся змаганьнем за тэле— і радыёэфір.

Звычайна для данясеньня сваёй пазыцыі да насельніцтва мы выкарыстоўвалі трыбуну сэсіі (спачатку яны ішлі ў прамой трансьляцыі, а потым — у рэпартажах з Авальнай залі). Аднак рабіць гэта ўдавалася ня так часта, як хацелася, бо Дзямянцей, а потым і Шушкевіч даволі хутка авалодалі навыкам адключэньня мікрафонаў.

Не выконваўся і Закон аб статусе народнага дэпутата БССР, паводле якога мы мелі права доступу да дзяржаўных СМІ.

Вось некалькі прыкладаў.

У верасьні 1990 году дэпутаты — члены Часовай камісіі па прывілеях накіравалі заяўку старшыні Дзяржтэлерадыё Аляксандру Сталярову з просьбай даць эфір. Перадача ў прызначаны час у эфір выйшла. Але не з дэпутатамі БНФ, а з сакратарамі ЦК, па выніках апошняга зьезду КПБ.

Праз некалькі тыдняў дэпутаты БНФ зьвярнуліся з просьбаю пра гадзіну эфіру — зварот ізноў быў праігнараваны.

Ішла і «зачыстка» журналістаў, якіх лавілі на сымпатыях да БНФ. Так, у студзені 1991 году вядучы тэлепраграмы «Пяць з плюсам» Дзьмітрый Філімонаў быў адхілены ад тэлеэфіру з красамоўнай фармулёўкай: «за павелічэньне ў перадачы інфармацыі палітычнага характару і крытыку Саўміну».

Улады баяліся палітызацыі грамадзтва, і нават з вуснаў камуністаў-дэпутатаў (гэта значыць, палітыкаў) на сэсіях гучала: «Хопіць палітыкі!»

«Сытуацыя ў сродках масавай інфармацыі рэспублікі вызначаецца манапалізацыяй ісьціны адной палітычнай сілай. І гэта ня дзіўна. Старшыня Дзяржтэлерадыё БССР, як, дарэчы, дваццаць іншых міністраў, член ЦК КПБ», — казаў я на сэсіі 30 студзеня 1991 году.

Вычарпаўшы ўсе магчымасьці, 11 сакавіка дэпутаты Галіна Сямдзянава, Зянон Пазьняк і аўтар гэтых радкоў зьвярнуліся да фармальнага кіраўніка дзяржавы Дземянцея «з просьбай паспрыяць ў прадастаўленьні групе дэпутатаў ад апазыцыі 40 хвілін эфірнага часу 15 сакавіка г. г. на Беларускім тэлебачаньні для выкладаньня сваіх меркаваньняў па пытаньні, якое вынесенае на рэфэрэндум... Адмаўленьне ў прадастаўленьні эфіру будзе ўспрынята намі не інакш, як чарговае парушэньне працэдуры рэфэрэндуму.»

Выступіць на тэлебачаньні з аргумэнтацыяй супраць вынесенага на рэфэрэндум пытаньня нам не далі, парушыўшы адначасна два законы — СССР (аб рэфэрэндуме) і БССР (аб статусе дэпутата).

За дзень да рэфэрэндуму мы арганізавалі мітынг перад Домам ураду. Паказальны рэпартаж, зьмешчаны ў газэце «Белорусская нива»:




Похоже, в политике мы начинаем трезветь. Возможно, потому, что попросту устали от нее. Но все же не в этом главное. Хмель свободы и вседозволенности уже не пьянит, а тревожит, когда на карту поставлена судьба страны, ее день нынешний и день будущий.

А потому все реже мы доверяем политикам, с пеной у рта клеймящим и отрекающимся от всего и вся, зовущим к разрушению, мести, суду. Куда уж дальше разрушать, когда все созданное за многие годы почти что рухнуло? Куда уж дальше мстить, если уже поставлен на колени многомиллионный народ, в одночасье ставший всемирным попрошайкой, задавленный очередями и дефицитами, запуганный голодом и не верящий в какие-либо перемены?

Время таких политиков уходит. И хоть злости и пены в их речах отнюдь не становится меньше, но все меньше желающих их слушать и верить им. Мы начинаем, наконец, прислушиваться к своему уму и сердцу, полагаться на здравый смысл, всегда зовущий к созиданию, а не к разрушению.

Взгляд фотокамеры беспристрастен. Всмотритесь в снимки, сделанные в столице накануне и в день проведения Всесоюзного референдума о сохранении нашего Союза. Три первые из них сняты на митинге БНФ, где было вылито немало грязи на нашу историю, на нашу страну,

Фрагмэнт прапагандысцкай публікацыі ў газэце ЦК КПБ «Белорусская нива».

«Хмель свабоды і ўсёдазволенасьці ўжо не п’яніць, а турбуе, калі на карту пастаўлены лёс краіны. А таму ўсё радзей мы давяраем палітыкам, якія зь пенай на губах кляймяць і адкідаюць усё, заклікаюць да разбурэньня, помсты, суду. (Ні да якай помсты ніхто не заклікаў, а пра суд сапраўды казалі — суд над КПСС. Падкрэсьліваю: не над камуністамі, а над КПСС. — С.Н.). Куды ўжо

далей разбураць, калі ўсё створанае за шмат гадоў абрынулася? Куды ўжо далей помсьціць, калі ўжо пастаўлены на калені шматмільённы народ?..»

«Час такіх палітыкаў сыходзіць. І хаця злосьці і пены ў іх прамовах зусім ня робіцца меней, але ўсё менш жадаючых іх слухаць і верыць ім...» (У фотарэпартажы быў толькі адзін пазнавальны твар — Пазьняка. Ніякай пены, зразумела, не было, тут ужо чытач мусіў паверыць аўтару.)

«Угледзьцеся ў здымкі, зробленыя ў сталіцы напярэдадні і ў дзень правядзеньня ўсесаюзнага рэфэрэндуму аб захаваньні нашага Саюзу. Тры першыя зь іх зьнятыя на мітынгу БНФ, дзе было выліта нямала бруду на нашу гісторыю, на нашу краіну...» (Тут ізноў прыпыню цытаваньне. Ня памятаю, каб хто-небудзь на мітынгах БНФ казаў нешта дрэннае пра пераможцаў бітвы пад Воршай, паўстанцаў Каліноўскага ці заснавальнікаў «Нашай Нівы», пляжыў Вялікае Княства Літоўскае ці Беларускую Народную Рэспубліку. Але казалі пра беларуска-расейскую вайну XVII стагодзьдзя, калі войскі цара Аляксея Міхайлавіча зьнішчылі або перасялілі на чужыну палову беларусаў, пра Курапаты, пра ГУЛаг, пра кінутых «саюзным цэнтрам» у бядзе жыхароў чарнобыльскіх раёнаў.)

Не хаваючы задавальненьня вынікам рэфэрэндуму («здаровы сэнс перамог»), аўтар нібыта наіўна дзівіцца, «што заява Кабінэту міністраў пра павышэньне розьнічных коштаў чамусьці робіцца менавіта на другі дзень пасьля рэфэрэндуму, а не за дзень да яго альбо хаця б на дзень пазьней». Але, «тым ня менш, мы аптымісты... калі яшчэ заўважаем вясну і прыгажосьць вакол сябе...» Ілюстраваўся гэты аптымізм фотаздымкам кабет у міні-спадніцах.

У рэпартажы былі скарыстаныя прыёмы, якія надоўга ўвойдуць у арсэнал афіцыйнай прапаганды — перакручваньне фактаў, абвінавачваньне апанэнтаў улады ў тым, што яны не рабілі і не казалі, замоўчваньне, нарэшце — выбар невыгоднага для апанэнта фотаракурсу.

Такіх публікацый у афіцыйных газэтах накладам у сто, дзьвесьце тысяч, пяцьсот тысяч экзэмпляраў у дні рэфэрэндуму былі дзясяткі.

І гэта дало падставы Юрыю Дракахрусту адразу пасьля галасаваньня зрабіць у «Навінах БНФ» выснову:

«Рэфэрэндум ня быў рэфэрэндумам па сваёй сутнасьці. Па ўсіх прыкметах гэта была хутчэй шырокамаштабная прапагандысцкая акцыя... Пэўна ж, можна весьці гаворку пра ўплыў сапраўды татальнае і вытанчанае камуністычнае прапаганды, якая надзвычай удала выкарыстала асаблівасьці масавае сьвядомасьці ў Беларусі... Галоўная з такіх асаблівасьцяў — адсутнасьць альтэрнатывы саюзу ў масавай сьвядомасьці беларускага жыхарства. Гэта ня значыць, што яе няма ў прыродзе — гэта значыць, што яе няма ў сьвядомасьці значнае колькасьці людзей».

Праўда, колькасьць такіх людзей (не без удзелу БНФ) рабілася ўсё меншай.

На другі дзень пасьля рэфэрэндуму, на якім, як заявілі яго ініцыятары, савецкі народ сказаў «так» «абноўленай фэдэрацыі раўнапраўных сувэрэнных рэспублік, у якой будуць у поўнай меры гарантавацца правы і свабоды чалавека», — уступіў у сілу закон «Аб савецкай міліцыі», які дазваляў міліцыянтам «ужываць кайданкі, гумовыя палкі, сьлезацечныя рэчывы».

Камуністы ў Вярхоўным Савеце радаваліся — і вынікам рэфэрэндуму, і новаму міліцэйскаму закону.

Да красавіцкай раніцы, калі на плошчы перад Домам ураду сабраліся больш за сто тысяч рабочых з патрабаваньнем вываду камітэтаў КПБ-КПСС з прадпрыемстваў, адстаўкі пракамуністычнага Вярхоўнага Савету і новых выбараў на шматпартыйнай падставе, заставалася два тыдні.

# Два зьезды і апошні шанец

Пахла паленым. Нашае з Пазьняком падарожжа ў сутарэньні будынку ЦК КПБ пасьля жнівеньскага путчу 1991-га можна было б параўнаць з вандроўкай у пекла — калі дапусьціць, што чэрці распальваюць вогнішчы з пастаноў і рэзалюцыяў Люцыпара. Нам расказалі, што ў тыя жнівеньскія дні паперы там спальвалі тонамі (нават нанялі трох качагараў). Але ўсяго зьнішчыць не пасьпелі.

Першы аркуш, які я падняў з падлогі (Пазьняк і цяпер кажа пра неймавернае супадзеньне) — быў плян, які прадугледжваў стварэньне камуністамі «альтэрнатыўнага Народнага фронту» яшчэ да жніўня 1988 году (камуністы імкнуліся згуляць «на апярэджаньне», але, як і шмат што іншае, правалілі справу). Другім быў дакумэнт з асабістым подпісам Машэрава.

Ну а далей — стосы дакумэнтаў, якімі я набіў некалькі валізак. Сярод іх — аналітычная запіска «Другі зьезд БНФ: апазыцыя карэктуе курс», напісаная «для ўнутранага карыстаньня» супрацоўнікамі ЦК.

Я сумняваўся, ці варта пісаць у кнізе, заснаванай на ўласных успамінах, пра II зьезд БНФ — падзею, у якой ня ўдзельнічаў, бо якраз у канцы сакавіка 1991-га ў Віцебску трапіў у шпіталь. Пра вынікі зьезду ведаў з аповедаў калег і газэтных публікацыяў, і таму аўтар гэтых радкоў — у роўных пазыцыях з чытачом. Сёньня перада мной некалькі старых газэтаў яшчэ «даінтэрнэтаўскай эпохі»



Васіль Быкаў сярод дэлегатаў зьезду БНФ

і тая знойдзеная з Пазьняком аналітычная запіска ЦК.

Але той зьезд быў ключавым у вызначэньні галоўных мэтаў самай уплывовай дэмакратычнай сілы (папраўдзе адзінай уплывовай — іншыя дэмакратычныя партыі толькі-толькі ўтвараліся). Бяз гэтага немагчыма скласьці поўнае ўяўленьне і пра ўмовы, у якіх давялося дамагацца незалежнасьці. Зрэшты, як немагчымае гэтае ўяўленьне і без звароту да зьезду камуністаў.

## «… адстаяць абноўлены Саюз»

Менавіта увесну 1991 году процістаяньне паміж КПБ і БНФ дасягнула найбольшай вастрыні, і галоўнай прычынай разыходжаньняў было якраз стаўленьне да незалежнасьці. Кіраўнікі кампартыі

Беларусі адрозьніваліся ад сваіх калегаў бадай з усіх «саюзных рэспублік» абсалютнай адданасьцю Маскве; крытыка Гарбачова зь іх вуснаў гучала якраз за палітычныя рэформы, якія, на іх думку, ставілі пад пагрозу існаваньне СССР.

За колькі месяцаў да таго, у канцы лістапада — на пачатку сьнежня 1990 году, прайшоў XXXI зьезд КПБ.

Пра зьезд камуністаў я ведаў ня толькі з газэтаў — бо дэлегатам гэтага апошняга для КПБ-КПСС зьезду быў і мой бацька, які займаў тады пасаду сакратара Віцебскага абкаму.

На тым зьезьдзе бацька быў адным зь нешматлікіх дэлегатаў, якія размаўлялі па-беларуску. Ён уваходзіў у лік дэлегатаў, якія вылучылі дзьве ініцыятывы. А менавіта — прыняць асобны ад КПСС статут кампартыі Беларусі і абраць першым сакратаром ЦК Уладзімера Бровікава. Той калісьці быў рэдактарам газэты «Віцебскі рабочы» і потым зрабіў імклівую партыйную кар'еру — сакратар абкаму, другі сакратар ЦК КПБ, старшыня Савету міністраў БССР. Пазьней разышоўся ў поглядах з Гарбачовым і трапіў у апалу.

Пасьля прапановы наконт Бровікава мяне паклікаў на канфідэнцыйную размову дэлегат зьезду і мой «шэф» па камісіі ў пытаньнях галоснасьці і правоў чалавека Іван Каратчэня, які падтрымліваў Малафеева:

«Раскажы мне, у чым тут падвох? Адкуль узьнік Бровікаў? Ён сябра твайго бацькі? Чаго яны хочуць?»

Я сказаў Каратчэню, што ўпершыню чую пра такую ідэю і што да бацькавых партыйных спраў ніякага дачыненьня ня маю і мець не хачу, што мне ў прынцыпе абсалютна ўсё роўна, хто стане

першым сакратаром ЦК — фінал будзе аднолькавы.

Здаецца, Каратчэня мне не паверыў.

Увогуле, яшчэ і сёньня ў мяне пытаюцца (а дваццаць гадоў таму пыталіся ці ня кожны дзень) пра стасункі з бацькам. У той час мне нават даводзілася чытаць у шавіністычных газэтках (і менскіх, і маскоўскіх), што бацька з сынам занялі розныя палітычныя пазыцыі, каб выйграць пры любым разьвіцьці падзеяў — і ў выпадку перамогі камуністаў, і пры трыюмфе БНФ.

Вядома, нічога падобнага не было. Бацька вельмі хваравіта ўспрыняў маю далучанасьць да БНФ, яшчэ з моманту ўстаноўчага сходу ў Чырвоным касьцёле. Вялікага энтузіязму ня выклікаў у яго і мой удзел у «нефармальным руху». Пры гэтым бацька ніколі не папракаў мяне нацыяналізмам (яго самога лічылі, і абсалютна справядліва, «нацыянал-камуністам»: ён быў у добрых стасунках зь пісьменьнікамі — Быкавым, Барадуліным, Караткевічам, Бураўкіным, і тое, што ў Коласаўскім тэатры ў 1970-я ўсё ж паставілі караткевічаўскія «Званы Віцебску», а затым і «Кастуся Каліноўскага», у немалой ступені — ягоная заслуга. У 1989-ым, яшчэ сакратаром абкаму, бацька быў адным з сузаснавальнікаў Таварыства беларускай мовы). Але мая антыкамуністычная пазыцыя выклікала непрыманьне. Зьяўляючыся ў свой час самым маладым у Савецкім Саюзе сакратаром абкаму, прабыўшы амаль два гады ў Кабуле ў якасьці дарадцы ЦК КПСС і атрымаўшы за гэта ордэн і асабістую падзяку Гарбачова — ён, безумоўна, меў цудоўную кар’ерную пэрспэктыву. Пэрспэктыву, якую перакрэсьліў уласны сын. Апрача таго, ад пачатку барацьбы супраць будаўніцтва Віцебскай АЭС

пэўныя асобы паспрабавалі падключыць бацьку да кампаніі супраць мяне (падобнае адбывалася ў той самы час і зь Вінцуком Вячоркам, але, як і ягоны бацька, мой таксама адмовіўся ўдзельнічаць ў цкаваньні). Скончылася тым, што на пачатку 1989-га Генадзь Бураўкін сказаў, што паколькі ні бацька, ні я мяняць сваіх пазыцыяў не зьбіраемся, дык мне было б лепш пакінуць Віцебск. Бураўкін знайшоў для мяне месца ў часопісе «Вожык» — праўда, бязь менскай прапіскі. Дарэчы, тады без прапіскі ўжо жыў у сталіцы і Ўладзя Арлоў, які перабраўся ў Менск з Наваполацку.

Увогуле, становішча «сына начальніка» часамі стварала для мяне пэўны псыхалягічны дыскамфорт — я вучыўся ня ў «спэц»-, а ў самай звычайнай «пралетарскай» школе; хоць ніхто з аднаклясьнікаў за дзесяць гадоў ніколі ні словам ня даў мне зразумець, што я «ня свой». Дый бацькі выхоўвалі ва ўмовах калі не спартанскіх, дык і не цяплічных — калі пасьля восьмай клясы я папрасіў купіць мне прайгравальнік, маці напоўніцу скарыстала сваё службовае становішча выкладчыцы пэдінстытуту і ўладкавала мяне на лета ў будаўнічы атрад (запісалі студэнтам) — «зарабляй сам». Два месяцы я грузіў скрыні. Праз год, перад дзясятай клясай — яшчэ адзін такі самы будатрад. Пазьней тэма «бацькоў і дзяцей» перайшла ў плоскасьць чыста палітычную, але, калі ў жніўні 1991-га КПСС спыніла сваё існаваньне, я адчуў вялікую палёгку яшчэ і з гэтай прычыны.

Пасьля жнівеньскага путчу бацька нейкі час наведваў сходкі камуністаў, потым перастаў — не прыняў выразна шавіністычнай, антыбеларускай пазыцыі. З 1997-га ён — старшыня Віцебскага абласнога аддзяленьня ТБМ. У 1999 годзе быў ад-

ным з намесьнікаў (разам з Георгіем Таразевічам) старшыні ЦВК Віктара Ганчара на «альтэрнатыўных» прэзыдэнцкіх выбарах. Неяк я спытаўся, ці ня крыўдна, што ён, маючы, як ніхто іншы ў Беларусі, самае непасрэднае дачыненьне да фармаваньня рашэньня аб вывадзе савецкіх войскаў з Афганістану, не атрымаў зацьверджаных Лукашэнкам мэдалёў у гонар спачатку 10-х, а потым і 20-х угодкаў вываду гэтых самых войскаў. Адказ парадаваў: «Я не прыняў бы ад Лукашэнкі ўзнагародаў».

Што да ініцыятывы вылучэньня Бровікава першым сакратаром ЦК, дык ён не набраў належнай колькасьці галасоў. (Празь нейкі час, у траўні 1991-га, Бровікаў за рулём сваёй «Волгі» падвозіў нашу невялікую віцебскую дэлегацыю, што накіроўвалася ў Францыю, з маскоўскага Беларускага вакзалу ў Шарамецьева. Між іншым Бровікаў расказваў, што менавіта яму як другому сакратару ЦК КПБ давялося паведаміць Брэжневу пра гібель Машэрава. Брэжнеў плакаў у тэлефонную слухаўку і лаяўся матам — што, трэба прызнаць, разыходзіцца з кансьпіралягічнай вэрсіяй аб зацікаўленасьці генсека ў сьмерці Машэрава.)

Не прайшла на зьезьдзе і прапанова аб уласным статуце КПБ. Большасьць дэлегатаў палічыла, што такі статут паставіць пад сумнеў непарушную еднасьць камуністычнай партыі Савецкага Саюзу і, барані Божа, выкліча падазрэньні ў сэпаратызьме. Празь некалькі месяцаў камуністы кусалі локці — яны не маглі абскардзіць забарону КПБ-КПСС, бо адсутнасьць уласнага статуту рабіла іх усяго толькі філіялам маскоўскай арганізацыі, якая спыніла існаваньне. Хаця зразумела, што той партыі не ўратавалі б і самыя дасканалыя статуты.

Ужо наколькі першы сакратар ЦК Яфрэм Сакалоў здаваўся дагматыкам, але абраны ў часе зьезду новы лідэр Анатоль Малафееў выглядаў ідэалягічным выкапнем. З усіх магчымых кандыдатур камуністы абралі найгоршую, і на сэсіі Вярхоўнага Савету ў жніўні гісторыя адвядзе Малафееву камічную ролю: мы згонім яго з трыбуны, ня даўшы сказаць ні слова.

Але выказваньне Малафеева пра захаваньне Саюзу («Нацыі патрэбны новы Саюзны дагавор, падпісаны на новай, дэмакратычнай аснове») на камуністычным зьезьдзе было, бадай, найбольш лагодным у параўнаньні з імпэтнымі заклікамі, якія гучалі ад іншых прамоўцаў. (Пад цытаванымі ніжэй урыўкамі я не прыводжу, як звычайна ў гэтай кнізе, поўнага імя разам з прозьвішчам — матэрыялы камуністычнага зьезду падаюць толькі ініцыялы. Як у войску.)

«Мы мяркуем, і ў палітычным, і ў ідэалягічным сэнсе неабходна называць Саюз як Саюз Савецкіх Сацыялістычных Сувэрэнных Дзяржаў. Тым самым будуць падкрэсьлены тры асноўныя моманты: захаваньне савецкай улады, сацыялістычнага ладу на тэрыторыі краіны, самастойнасьці саюзных дзяржаў» (Я. Сакалоў, першы сакратар ЦК КПБ).

«Цяжка зразумець сёньня людзей, народных дэпутатаў, якія катэгарычна выступаюць за абсалютызацыю сувэрэнітэту нашай рэспублікі, патрабуюць выхаду яе са складу Саюзу. Што гэта — бяспамяцтва, авантурызм або прыступы нацыяналізму?» (Ц. Чарнышоў, мэханізатар калгасу імя XXI зьезду КПСС Талачынскага раёну).

«Афармілася, усё гучней заяўляе пра сябе і антыкамуністычная апазыцыя. Мэты яе добра вя-

домыя: адціснуць на ўзбочыну палітычнага жыцьця Кампартыю Беларусі, вывесьці рэспубліку са складу Саюзу СССР… Мы павінны выкарыстаць увесь свой уплыў, каб адстаяць абноўлены Саюз Савецкіх Рэспублік» (М. Дземянцей, старшыня Вярхоўнага Савету БССР).

«Мяркую, сапраўдны сувэрэнітэт немагчымы па-за межамі Саюзу» (У. Грыгор’еў, першы сакратар Віцебскага абкаму КПБ).

«Лідэры БНФ вядуць адкрытую барацьбу за ўладу, ліквідацыю сацыялістычнага ладу, за выхад БССР са складу Савецкага Саюзу… Мы заклікаем вас маналітна выступаць у абарону найважнейшых заваёваў сацыялізму, за сяброўства савецкіх народаў, за адзіны і непарушны Саюз сувэрэнных сацыялістычных рэспублік» (У. Маласай, старшыня Маскоўскага раённага савету вэтэранаў вайны і працы Менску).

«Камуністы ня бачаць пэрспэктыў БССР па-за Саюзам. Прапаную даць даручэньне нашым дэпутатам у Вярхоўным Савеце выступіць з ініцыятывай аб правядзеньні ў рэспубліцы рэфэрэндуму па пытаньнях аб уваходжаньні ў новы саюз» (М. Вялічка, парторг гарадзенскага заводу «Радыёпрыбор»).

«Чаму пры абмеркаваньні найважнейшага для лёсу рэспублікі і яе грамадзянаў пытаньня аб сувэрэнітэце выбаршчыкі чулі ў асноўным толькі меркаваньне Пазьняка і кампаніі, а партыйная група народных дэпутатаў БССР палічыла за лепшае заставацца маўклівай большасьцю?» (М. Місуна, першы сакратар Менскага гаркаму КПБ).

Акрамя гэтых прамоўцаў, на зьезьдзе КПБ выступілі старшыня Саўміну Вячаслаў Кебіч, старшыня КДБ Эдуард Шыркоўскі, камандуючы

Беларускай вайсковай акругай генэрал Анатоль Кастэнка. Усе яны былі абраныя ў склад ЦК, як і старшыня Дзяржтэлерадыё, і рэдактары рэспубліканскіх газэт, і падтрымалі галоўную праграмную мэту КПБ — захаваньне Саюзу і камуністычнай улады.

Пазыцыі камуністаў умацаваў, як тады здавалася, і рэфэрэндум аб захаваньні СССР — натуральна, дзяржаўная прапаганда замоўчвала, што на тэрыторыі БССР яго легітымнасьць была, далікатна кажучы, сумнеўнай.

Камуністы хадзілі па Вярхоўным Савеце, падняўшы галовы. Нядаўні выступ Гарбачова ў Акадэміі навук, які камуністычная большасьць усрыняла (і, трэба сказаць, збольшага правільна), як пакаяньне генсека за «непрадумана пачатую перабудову» і вяртаньне да сацыялістычных ідэалаў , канчаткова пераканаў іх у непазьбежнасьці паразы ідэяў БНФ.

Вось у такіх умовах БНФ сабраўся на свой другі (або «першы неэміграцыйны», бо папярэдні былі вымушаныя праводзіць у Вільні) зьезд.

## «У нас ёсьць ўсё, няма толькі свабоды і незалежнасьці»

Увогуле, удзельнікі зьезду маглі б ганарыцца тым, што ўдалося Народнаму Фронту за два гады з моманту заснаваньня.

«Неаспрэчныя вынікі дзейнасьці БНФ — разбурэньне сьцяны маўчаньня, сакрэтнасьці і нават непрыхаванай хлусьні, пабудаванай вакол Чарнобыльскай зоны, канкрэтныя захады ў зьмякчэньні вынікаў катастрофы... Дзейнасьць Фронту стымулявала пачатак фармаваньня грамадзянскай су-

польнасьці, у прыватнасьці, стварэньне сапраўднай шматпартыйнасьці ў рэспубліцы. Пашыраліся ідэі свабоды і незалежнасьці Беларусі», — пісаў у тыя дні ў штотыднёвіку «Літаратура і Мастацтва» Андрэй Ганчароў.

Аднак лідэр БНФ Зянон Пазьняк зьвярнуўся да адказу на пытаньні, якія задавалі сабе многія актывісты Фронту. У Літве «Саюдзіс» практычна цалкам кантралюе Вярхоўны Савет і ўрад, у Латвіі прэм'ерам стаў актывіст Народнага Фронту, у Польшчы перамог Валэнса, у Чэхаславаччыне — Гавэл. Калі чакаць пераменаў у Беларусі?

«Чаму Беларускі Народны Фронт за больш чым два гады існаваньня ня стаў усеагульным масавым народным рухам, не дасягнуў такіх посьпехаў, як, скажам, народныя франты ў Прыбалтыцы? — пытаўся з трыбуны Зянон Пазьняк. — У Беларускай рэспубліцы на сёньняшні дзень ніякі грамадзкі рух яшчэ ня можа стаць масавым. Мы назіраем толькі масавую паслухмянасьць Маскве і начальству. Гэта тлумачыцца амаль поўным зьнішчэньнем грамадзянскай супольнасьці ў рэспубліцы і нізкім узроўнем нацыянальнай сьвядомасьці. Такі стан узьнік з-за антынароднай палітыкі камуністычных уладаў на Беларусі, накіраванай на працягу доўгіх дзесяцігодзьдзяў на вынішчэньне беларускай культуры, мовы, гісторыі, рэлігіі, традыцый, найлепшых прадстаўнікоў нацыі, на вынародваньне і русыфікацыю людзей... Такое насельніцтва ня здольнае на калектыўныя дзеяньні, на выжываньне і разьвіцьцё ў пэрыяды сацыяльных навальніц, экалягічных і грамадзкіх катастроф. Што нам яскрава засьведчылі перабудова, Чарнобыль, нядаўні гарбачоўскі рэфэрэндум ды іншыя падзеі. У грамадзтве нацыянальнай, культурнай

аморфнасьці і сацыяльных страсьцяў няма ідэй, якія маглі б усіх аб’яднаць. Вось чаму Беларускі Народны Фронт называецца «Адраджэньне». Пакуль ня будзе адроджаная здаровая жыцьцёвая аснова, што аб’ядноўвае людзей у культурны народ, кансалідацыя грамадзтва немагчымая. Без культурна-нацыянальнай кансалідацыі народу немагчымая свабода. А без свабоды нядзейсныя ніякія эканамічныя рэформы…»

Калі прыбраць з тэксту некаторыя тагачасныя актуаліі, формула выглядае ўнівэрсальнай і адказвае на шмат якія пытаньні і ў пачатку XXI стагодзьдзя. Тады, у 1991-м, БНФ не адступіўся ад ідэі выхаваньня нацыянальнай самасьвядомасьці, і мы разумелі, што гэты працэс запатрабуе вялікіх высілкаў і можа заняць шмат часу. Але былі надзённыя мэты, якія патрабавалася вырашаць як найхутчэй. І першая зь іх — незалежнасьць.

«У нас цудоўная прыўкрасная краіна, працавіты добры народ. Мы маем рукі і розум, разьвітую навуку і прамысловасьць, навуковыя кадры і спэцыялістаў, маем ворныя землі і пэўныя прыродныя рэсурсы. У нас ёсьць усё, каб жыць добра. Няма толькі свабоды і незалежнасьці. Дасягненьне свабоды і сувэрэнітэту Беларусі — найважнейшая задача нашага пакаленьня... Таму сувэрэнітэт у нашым змаганьні павінен быць першасным, антыкамунізм — другасным», — прапанаваў Пазьняк.

Камуністычная партыя была асноўнай палітычнай перашкодай у дасягненьні незалежнасьці. Мы, дэпутаты, добра адчувалі гэта на сэсіях, калі нашы папраўкі ў законапраекты, вынесеныя з мэтай умацаваньня сувэрэнітэту, блякаваліся парлямэнцкай камуністычнай большасьцю простым

галасаваньнем; камуністы звычайна нават не абцяжарвалі сябе аргумэнтацыяй.

І вось тут дарэчы згадаць аналітычную запіску ЦК КПБ.

«З. Пазьняк правёў аналёгію паміж камуністычнай і фашысцкай ідэалёгіяй: калі быў асуджаны фашызм, пачалося маральнае адраджэньне нямецкага народу; да таго часу, пакуль ня будзе асуджаная дзейнасьць КПСС-КПБ, маральнае аднаўленьне беларускага народу немагчымае... Нельга не заўважыць, што антыкамунізм З. Пазьняка ня толькі грубы і агрэсіўны, але і (на жаль) прымітыўны, што, зрэшты, не перашкаджае яго распаўсюджваньню (ня вельмі высокі ўзровень палітычнай культуры насельніцтва — але гэта, хутчэй, наша «заслуга»)... З. Пазьняк заклікае не судзіць усіх членаў КПСС-КПБ аднолькава. Некаторыя вымушаныя былі стаць членамі гэтай злачыннай арганізацыі ў сілу розных акалічнасьцяў, у тым ліку і намэнклятурных. Таму БНФ павінен аддзяляць юрыдычную адказнасьць партыі ад адказнасьці індывідуўма. Адсюль і развагі пра «падвойнае» сяброўства: калі камуніст прыходзіць у БНФ, значыць, ён ня згодны з таталітарызмам. Другі ягоны крок — выхад з КПСС-КПБ».

Заўважым, што аналітык ЦК прызнаў адказнасьць кампартыі за нізкую палітычную культуру насельніцтва (двурушніцтва: на сустрэчах у заводзкіх цэхах члены парткамаў нам крычалі «Хопіць вам на сэсіі палітыкі! Спыніце палітыканства! Займіцеся эканомікай!»). Заўважым, што вызначэньне кампартыі як злачыннай арганізацыі ў дакумэнце ЦК КПБ падаецца без двукосься (памылка машыніcткі?). Але больш прыкметна іншае: у запісцы зьвяртаецца ўвага на тое, што лідэр

БНФ прапануе «аддзяляць юрыдычную адказнасьць партыі ад адказнасьці індывідуўма», іншымі словамі, гаворка не ідзе пра суд над кожным камуністам. (Дакладна выказваньне Пазьняка гучала так: «Трэба даць магчымасьць звычайным людзям зрабіць выбар і пакінуць КПСС, а не ствараць сабе ворагаў там, дзе могуць быць сябры».) І кіраўніцтва кампартыі цудоўна ведала гэта, аднак з экранаў тэлебачаньня, у газэтах, на сходах людзей палохалі тым, што «Пазьняк заклікае судзіць камуністаў».

«У праграме-мінімум два асноўныя кампанэнты, — адзначаў аналітык ЦК, — па-першае, дасягненьне сувэрэнітэту, па-другое, антыкамунізм. Узаемасувязь гэтых элемэнтаў тлумачыцца З. Пазьняком без мудрагелістасьці: ліквідацыя СССР прывядзе да ліквідацыі ўлады камуністаў, а антыкамунізм — найлепшы сродак разбурэньня Саюзу».

Тэзіс Пазьняка аналітыкам ЦК пераказаны дакладна, і слушнасьць яго будзе даказаная ўжо праз некалькі месяцаў у тым самым 1991 годзе.

## «... Гісторыя дала нам апошні шанец»

«Я за тое, каб Іван Шамякін, Васіль Быкаў, Міхаіл Савіцкі, Іван Чыгрынаў, Рыгор Барадулін, Ігар Лучанок, Ніл Гілевіч, Заір Азгур і ўсе іншыя майстры нашай культуры сталі добрымі дарадчыкамі нашага ЦК», — выказаў на XXXI зьезьдзе КПБ пажаданьне сакратар Віцебскага абкаму Ўладзімер Грыгор’еў.

Чыгрынаў, Лучанок, Шамякін сталі паўнамоцнымі членамі ЦК КПБ.

Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін прыйшлі на зьезд БНФ, а Быкаў выступіў зь вітальным словам:

«Я ўжо гаварыў некалі пра нашу моладзь, можа, самую дэпалітызаваную і дэнацыяналізаваную ў сьвеце, якой камсамол за шмат год прышчапіў устойлівую агіду як да нацыянальнай культуры, так і да ўсякай палітыкі. Тым больш гонар тым нашым грамадзянам зь ліку сялян, рабочых, творчай і навуковай інтэлігенцыі, якія па закліку сваіх, не дарэшты счарсьцьвелых сэрцаў успомнілі, што, апроч абавязкаў камуніста, сямейніка, дзеяча культуры ці навукі, ёсьць яшчэ высокі абавязак перад Богам і справядлівасьцю. І здалі свае партбілеты, і ахвяравалі кар’ерай, і паўсталі перад вялікай страхавітай няпэўнасьцю дзеля барацьбы за народ і рэспубліку. Для іх сувэрэнітэт нацыі — не пустая папяровая дэкларацыя, яна для іх — зорка надзеі. Бо сусьветны вопыт, бадай, кожнай нацыі красамоўна сьведчыць, што наладзіць жыцьцё па справядлівасьці магчыма толькі ў межах цеснай суполкі — сям’і, роду, нацыі, згуртаваных на адзінстве веры, мовы, культуры, узроўню цывілізаванасьці. Няўклюдныя, стракатыя імпэрыі амаль усе рухнулі, дый наша дажывае апошнія дні… Цяпер сапраўды пытаньне стаіць так: ці ўратавацца паасобку, ці праваліцца ў тартарары ўсім разам? Зрабіць гэта ў маштабах імпэрыі, здаецца, магчыма з найбольшым посьпехам… Наш БНФ, ня грэбуючы ніводнай рысай сучаснага эўрапейскага дэмакратызму, зусім ня супраць жыцьцёвых інтарэсаў іншых нацый ці нацыянальных меншасьцяў. Але ён — за сябе, за Беларусь, за вольнае разьвіцьцё яе народу ў сям’і цывілізаваных народаў сьвету. Мы павінны выразна сабе ўсьвядоміць, што гісторыя дала нам апошні шанец, і ажыць-

цявіць яго наканавана цяперашнім пакаленьням. Ці мы яго нарэшце ажыцьцявім, ці нацыя разьвітаецца з тою ідэяй навек, каб самой бязь сьледу зьнікнуць зь зямлі…

Чалавецтва і Беларусь маюць вялікую надзею на БНФ, яго выпрабаванае кіраўніцтва… Ім ужо набыты пэўны і немалы палітычны капітал, тое прызнаюць ягоныя сябры, таксама як і ягоныя ворагі. І ў гэтым, вядома, найбольшая заслуга кіраўніцтва Фронту, старшыні Сойму Зянона Пазьняка ды ягоных найбліжэйшых паплечнікаў. Іхнія высілкі, безумоўна, ужо леглі ў гісторыю Беларусі, незалежна ад таго, як гэтая гісторыя паверне ў хуткім часе і чым скончыцца. Праўда, ня ўсім даспадобы нібыта радыкалізм Пазьняка, які, можа, і ўласьцівы гэтаму, безумоўна, выдатнаму сыну нашага занядбанага народу. Але я сказаў бы, што менавіта ў палітычнай выразнасьці — найбольшая вартасьць Народнага Фронту. У спалучэньні зь некаторымі іншымі асабістымі якасьцямі Зянона Станіслававіча тое — сьведчаньне яго грамадзянскай бескампраміснасьці, ідэйнай прынцыповасьці і патрыятызму. Дай яму Бог захаваць тыя якасьці як мага даўжэй, на карысьць справядлівасьці і Беларусі. Таму — жыве Беларусь!»

Словы Быкава пра Пазьняка ўспрымаліся ў той час як датычныя ня толькі яго, але і ўсяго Фронту.

Другі зьезд зьняў у назьве арганізацыі — «Беларускі Народны Фронт за перабудову «Адраджэньне» — словы «за перабудову». Зьезд вызначыў мэты, дыямэтральна процілеглыя тым, якія раней абвясьціў зьезд КПБ — дэкамунізацыю і незалежнасьць, і менавіта ў гэтым шмат каму бачыўся радыкалізм.

Тады, увесну 1991-га, незалежнасьць шмат каму здавалася або вельмі далёкай пэрспэктывай (справай «не цяперашніх пакаленьняў»), або нечым зусім непатрэбным і шкодным.

Або, як Станіславу Шушкевічу, — жартам.

Шушкевіч: «БНФу ж ніколі не падабалася, што я за справядлівы Саюз. Вы за тое, каб мы былі незалежныя. Я лічу гэта амаль што жартам. Я быў і застаюся прыхільнікам Саюзу, асабліва падкрэсьліваю — справядлівага Саюзу» (Навіны БНФ, 12 чэрвеня 1991 г.).

На XXXI зьезд КПБ Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч прыйшоў, нашага, фронтаўскага, зьезду не наведаў.

Вясной 1991-га нашыя пазыцыі ў стаўленьні да незалежнасьці і «абноўленага саюзу» з Шушкевічам, які стаў народным дэпутатам спачатку СССР, потым і БССР, а пазьней і першым намесьнікам старшыні Вярхоўнага Савету пры падтрымцы БНФ, — разышліся. Не знайшоўшы прыхільніка ў ягонай асобе, нам заставалася спадзявацца толькі на саміх сябе. І — на народ.

# Красавік

**2 красавіка. Прэм’ер-міністар СССР Валянцін Паўлаў падвышае кошты на асноўныя тавары і прадукты харчаваньня ў тры разы.**

**3 красавіка. Рабочыя менскага электратэхнічнага заводу перакрываюць трамвайны рух па вуліцы Даўгабродзкай, пратэстуючы супраць падвышэньня коштаў. Іх падтрымліваюць рабочыя іншых заводаў.**

**4 красавіка. Дзясяткі тысяч чалавек сьцякаюцца да Дому ўраду, распачынаецца стыхійны мітынг. Ад эканамічных патрабаваньняў рабочыя пераходзяць да палітычных, сярод якіх — «неадкладна распачаць выкананьне Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце»,**

«прыпыніць выплаты з рэспубліканскага ў саюзны бюджэт», «не падпісваць саюзнай дамовы да прыняцьця Канстытуцыі сувэрэннай Беларусі», «неадкладна нацыяналізаваць маёмасьць КПБ-КПСС». Распачынаецца ўсебеларускі страйк, які доўжыцца некалькі тыдняў. Ад імя кіраўніцтва перамовы з страйкамам вядзе першы намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету С. Шушкевіч (старшыня М. Дземянцей хварэе).

9 красавіка. У другую гадавіну падзеяў у Тбілісі Вярхоўны Савет Грузіі абвяшчае дзяржаўны сувэрэнітэт і незалежнасьць ад СССР.

16 красавіка. У прэсу перадаецца ініцыяваная дэпутатамі Апазыцыі БНФ заява 40 дэпутатаў аб скліканьні нечарговай сэсіі.

19 красавіка. Кіраўніцтва Вярхоўнага Савету і Саўміну адмаўляецца задаволіць патрабаваньні страйкоўцаў.

24 красавіка. Рабочыя ў Воршы перакрываюць чыгуначны рух. Прапанова дэпутатаў Апазыцыі БНФ аб неадкладным скліканьні нечарговай сэсіі ў справе разгляду патрабаваньняў страйкоўцаў Прэзыдыюмам Вярхоўнага Савету не прымаецца.

27 красавіка. У Доме літаратара БНФ праводзіць «Народны трыбунал» у справе аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Канстатуецца, што камуністычныя ўлады нясуць адказнасьць за ўтойваньне інфармацыі пра аварыю і непрыняцьце належных захадаў для ліквідацыі наступстваў катастрофы.

# Сто тысяч каля Дому ўраду

«Людзі добрыя! Мы даволі цярпелі. Але цярпець пасьля 2 красавіка больш нельга. Заўтра нам ня будзе чым карміць дзяцей. Вярхоўныя Саветы СССР і БССР, прэзыдэнт і кабінэт Паўлава — марыянэткі кампартыі...»

Так пачынаўся зварот, за які ўзьняліся тысячы рук на плошчы Леніна. За два крокі ад Дому ўраду.

Не ў пераносным сэнсе, а — літаральна за «два крокі».

Пазьней журналісты зь зьдзіўленьнем напішуць, што за ўсе красавіцкія дні 1991-га сто тысяч чалавек, якія прыходзілі да Дому ўраду, не пабілі ніводнай шыбы.

Праз два тыдні пасьля таго, як беларусы на рэфэрэндуме сказалі «так» «абноўленаму Саюзу», саюзны Кабінэт міністраў абнавіў цэны. 2 красавіка прадукты і тавары падаражэлі ў паўтара-два разы. 3 красавіка рабочыя менскага электратэхнічнага заводу спынілі працу і перакрылі трамвайныя лініі на вуліцы Даўгабродзкай, да іх далучыліся рабочыя заводу аўтаматычных ліній, шасьцерняў і трактарнага. Быў створаны менскі страйкавы камітэт, і ўжо 4 красавіка колькасьць прадпрыемстваў, дзе былі створаныя страйкамы, налічвала дзясяткі.

З розных канцоў Менску да Дому ўраду рушылі калёны рабочых МАЗу, трактарнага, маторнага заводаў ды іншых прадпрыемстваў.



Так пачынаўся страйк. 4 красавіка 1991 г.

Тысячы рабочых прыйшлі на плошчу і падышлі да самых дзьвярэй Дому ўраду. Лідэры страйкаму ўзьняліся на трыбуну, якая была часткай помніка Леніну. Ніколі ў пасьляваенны час на гэтай трыбуне ніхто не стаяў (у часе парадаў і дэманстрацыяў для кіраўнікоў БССР будавалі часовую, драўляную).

«З гранітнай урадавай трыбуны разам зь сябрамі стачкамаў, створаных напярэдадні, іншымі рабочымі, пэнсіянэрамі выступілі народныя дэпутаты БССР Я. Новікаў, С. Антончык, старшыня выканкаму Канфэдэрацыі працы Беларусі М. Со-

баль, намесьнік старшыні Сойму БНФ Ю. Хадыка», — толькі некалькі радкоў пасьпеў уставіць карэспандэнт «ЛіМу» ва ўжо падпісаны заўтрашні нумар.

На патрабаваньне рабочых у Дом ураду для асьвятленьня перамоваў страйкаму з урадам пусьцілі журналістаў незалежных выданьняў.

«Чаму Вы ня выйшлі на пляц да народу?» — запытаўся карэспандэнт у старшыні Вярхоўнага Савету Мікалая Дземянцея.

«Ёсьць парадак звароту ў Вярхоўны Савет. Мне як дзяржаўнаму дзеячу паложана ахова, і калі са мной нешта здарыцца, тыя, хто мяне ахоўваюць, пойдуць у турму, а ў іх сем'і».

Акрамя эканамічных (падвышэньне заробкаў), рабочыя вылучылі і палітычныя патрабаваньні. А менавіта — вывад КПСС з прадпрыемстваў, дэпартызацыя ўсіх дзяржаўных структураў, адстаўка прэзыдэнта СССР Гарбачова і саюзнага ўраду, роспуск Зьезду народных дэпутатаў СССР, Вярхоўных Саветаў СССР і БССР, новыя выбары ў Вярхоўны Савет БССР на шматпартыйнай аснове.

Менавіта на гэтым настойвалі і мы, актывісты БНФ.

Патрабаваньні рабочых былі перададзеныя намесьніку старшыні Савету міністраў Міхаілу Мясьніковічу.

Ён быў самым маладым з кіраўнікоў ураду і, як падавалася, успрымальным да прагрэсіўных прапановаў. Калі мне трэба было здабыць нешта для выбаршчыкаў маёй акругі (звычайна гэта былі дэфіцытныя каналізацыйныя трубы), я ішоў да Мясьніковіча. Не баяўся ён і палітычных дыскусіяў. За паўгода да страйку, калі я запрасіў Мясьніковіча паўдзельнічаць разам з дэпутатамі БНФ у тэлепе-

радачы, ён нечакана пагадзіўся. Ацэнкі паводзінаў Мясьніковіча ў першыя дні страйкаў розьняцца — некаторыя сьведчаць, што Мясьніковіч быў разгублены, і ў якасьці прыкладу прыводзяць словы пры адмове весьці перамовы: «Я ня ведаю, з кім мне дамаўляцца, я атрымаў розныя патрабаваньні ад розных людзей» (у першыя дні рабочыя яшчэ не былі добра арганізаваныя). Але гэта хутчэй сьведчыць пра здольнасьць добра арыентавацца ў сытуацыі, здольнасьць, якую Мясьніковіч потым не аднойчы прадэманструе на працягу сваёй палітычнай біяграфіі.

Што да арганізаванасьці, дык гэта было праблемай толькі першых двух дзён.

«Зьдзіўляе ня тое, што страйкі адбыліся стыхійна, але тое, як хутка яны перасталі быць такімі, — пісаў аглядальнік «Навінаў БНФ» Юры Дракахруст. — Менскія рабочыя выявілі здольнасьць да хуткае самаарганізацыі. Прадстаўнікоў у гарадзкі страйкам абіралі на сходах ці канфэрэнцыях заводаў. Усе заводы, якія падтрымалі забастоўку, былі прадстаўленыя ў страйкаме, таму й давер да яго ў рабочых быў поўны».

Сустаршынямі Менскага гарадзкога страйкавага камітэту былі абраныя Сяргей Антончык, Генадзь Быкаў і Георгі Мухін. Усе трое — актывісты БНФ: Антончык — дэпутат парлямэнцкай Апазыцыі БНФ і сябра Сойму, Быкаў — сябра Рады БНФ Партызанскага раёну, Мухін — член Сойму і Ўправы БНФ. Сустаршынём страйкаму 4-га рудакіраўніцтва быў абраны сябра Салігорскай Рады БНФ Іван Юргевіч.

Гэтая датычнасьць лідэраў новаўтворанага рабочага руху да БНФ сталася галоўнай тэмаю пра-

пагандысцкай хвалі, якая адразу, у першыя ж дні страйку, абрынулася на жыхароў Беларусі.

Праўда, тут у прапагандыстаў атрымалася «нестыкоўка» — калі страйк пачаўся, Зянон Пазьняк разам зь Лявонам Баршчэўскім і Ўладзімерам Заблоцкім быў за акіянам зь візытам на запрашэньне беларусаў ЗША і Канады.

Цэны імгненна «адкруцілі назад», але рабочыя не здымалі палітычных патрабаваньняў: адстаўка прэзыдэнта СССР і Зьезду народных дэпутатаў БССР, новыя выбары Вярхоўнага Савету БССР на шматпартыйнай аснове. Прапагандысцкая машына адразу падзяліла эканамічныя («справядлівыя») патрабаваньні і палітычныя («інсьпіраваныя дэструктыўнымі сіламі і безадказнымі палітыкамі»). Дакладней, саміх лідэраў спачатку не чапалі — усё ж рабочыя, і сустаршынямі абраныя рабочымі. У якасьці дэструктыўнай сілы быў названы, натуральна, БНФ, а «безадказнымі палітыкамі» — мы, дэпутаты парлямэнцкай апазыцыі.

Камуністычнае кіраўніцтва ні ў якім разе не хацела дапусьціць, каб ствaралася ўражаньне, што пралетарыят выступіў супраць кампартыі.

Але факт заставаўся фактам: рабочыя выкарысталі моцныя вызначэньні на адрас КПСС, заявіўшы, што «гэтая партыя прывяла нас да эканамічнага краху».

Нават калі б страйк пратрымаўся толькі два дні, нават тады ён быў бы магутным ударам па КПСС і па тэорыі «непарушнай еднасьці камуністаў і рабочай клясы».

## «Перадавая кляса»

«Руки рабочих,
Вы даёте движенье планете.
Руки рабочих, мы о вас эту песню поём.
Руки рабочих создают все богатства на свете,
Землю родную прославляя трудом!»

Гэтая песьня лілася з рэпрадуктараў у савецкія часы ці не штодня і ўляпілася ў памяць, я ня чуў яе больш за дваццаць гадоў, але вось цытую... Зьмест пярэчаньняў не выклікаў. Ну вядома, хто яшчэ стварае багацьці, як не рабочыя? Можна было прыгадаць і «калгаснае сялянства», але яно стварала прадукты, а тыя прадукты зьядаліся.

Іншае мне было незразумела — чаму, паводле такой абавязковай у ВНУ дысцыпліны, як навуковы камунізм, рабочая кляса лічылася самай перадавой і самай прагрэсіўнай клясай? Адным з тлумачэньняў было — таму, што, як казаў Маркс, «ім няма чаго губляць, акрамя сваіх ланцугоў».

Мне ж, наадварот, здавалася, што самай прагрэсіўнай клясай — у сэнсе, генэратарам новых, рэвалюцыйных ідэяў, ёсьць студэнцтва. Савецкія рабочыя збольшага мелі такую-сякую маёмасьць, былі забясьпечаныя такім-сякім жытлом, атрымлівалі больш за інжынэра, лекара ці настаўніка, а вось студэнту зь яго койка-месцам у інтэрнаце пры 40 рублях стыпэндыі сапраўды не было чаго губляць. Так што тут марксісцка-ленінская тэорыя давала збой.

І яшчэ я ніколі ня мог зразумець — чаму Камуністычная партыя называлася «партыяй рабочай клясы»? На пачатку стагодзьдзя, скарыстаўшы люмпэнізаваныя, найбяднейшыя слаі грамадзтва, бальшавікі крывавым шляхам зьмянілі дзяржаў-

ны лад. У савецкі час КПСС праз рэзыдэнтаў КГБ фінансавала заходнія кампартыі, падбухторвала рабочых да страйкаў і стварала галаўны боль кіраўнікам дэмакратычных краінаў. У СССР партыйная намэнклятура (натуральна, камуністычная, іншых партыяў не было) жыла значна лепш за рабочую клясу. І калі сыну партыйнага чыноўніка рыхтавалася нейкая кар’ера, ён ішоў на паўгода-год працаваць рабочым на завод — такі радок у біяграфіі здымаў усе магчымыя папрокі пры паступленьні ў самую прэстыжную саюзную ВНУ, якой у той час лічыўся маскоўскі МГІМО (дзе вучылі на дыпляматаў). У астатніх выпадках, хаця гэта і не агалошвалася, праца на заводзе лічылася ў сем’ях савецкага чынавенства вялікай няўдачай.

Але і сярод рабочых камуністычную намэнклятуру не любілі. На гэтым і паспрабаваў згуляць партапарат, калі ў 1989 годзе, пасьля перамогі над плянам будаўніцтва Віцебскай АЭС, мяне вылучылі ў народныя дэпутаты СССР. Вылучэньне адбылося на некалькіх буйных віцебскіх прадпрыемствах і было для мяне абсалютна нечаканым. Затое гаркам партыі зарыентаваўся імгненна і запусьціў на заводы агітатараў, якія ў якасьці кампрамату выдавалі, што вылучэнец — сын партыйнага работніка. У красавіку 1991-га супрацоўнікі ЦК КПБ і Менскага ГК, каб спыніць страйк, пойдуць пераконваць рабочых, што яны таксама супраць манаполіі КПСС — чаго толькі не нагаворыш, каб захаваць сябе пры ўладзе. Але аргумэнт віцебскіх партыйных прапагандыстаў ня меў эфэкту, і тады намэнклятура ўзяла сваё на акруговым сходзе, які і вырашаў, каго з вылучэнцаў унесьці ў выбарчыя бюлетэні. З трох сотняў удзельнікаў сходу — чле-

наў парткамаў і прафкамаў — за мяне прагаласавалі пару дзясяткаў чалавек, і ў выбарчыя бюлетэні я не патрапіў. Партыйны апарат паказаў, чаго вартае ў яго вачах меркаваньне рабочых, хай нават і самых буйных заводаў.

Праз год, на выбарах у Вярхоўны Савет БССР, калі ўжо не было акруговых сходаў, мне давялося шмат выступаць у цэхах віцебскіх станкабудаўнічых заводаў імя «Камінтэрну» і Кірава, у лякаматыўным дэпо, на іншых прадпрыемствах. Асноўныя лёзунгі, зь якімі выступаў БНФ (дэкамунізацыя, дэпартызацыя, эканамічная самастойнасьць Беларусі, праўда пра Чарнобыль) — рабочымі падтрымліваліся.

У выніку, у Віцебску выбаршчыкі «пралетарскага» Чыгуначнага раёну прагаласавалі за журналіста.

Але, вядома, самым прыкметным выразьнікам інтарэсаў рабочага люду ў Вярхоўным Савеце быў Сяргей Антончык.

За два дні да пачатку страйку Сяргей Антончык адзначыў свае 35-я ўгодкі. Сын рэпрэсаванага (бацька Сяргея быў арыштаваны ў пачатку 1930-х і правёў у ГУЛАГу сямнаццаць гадоў), Сяргей вызначаўся ўраўнаважанасьцю і вытрымкай. Ён ня шмат выступаў на сэсіях ад мікрафонаў ці з трыбуны, але заўсёды вельмі ёміста і вобразна. Сяргей рабіў шмат незаўважанай, чарнавой палітычнай працы. Антончык займаўся просьбамі грамадзян, якія няспынна, па некалькі зваротаў на дзень, ішлі да дэпутатаў Апазыцыі БНФ (у «камуністычных» дэпутатах выбаршчыкі расчараваліся), арганізоўваў нашы сустрэчы на менскіх прадпрыемствах.

Увесну 1990-га, перад пачаткам першай сэсіі, мы зь ім паехалі па «сакрэтных» аб’ектах пад



Сяргей Антончык (трэці зьлева) і Генадзь Быкаў (крайні справа) у перапынку паміж пасяджэньнямі страйкаму.

Менскам — не, не па сховішчах ядзернай зброі, а па дачах высокай намэнклятуры. З намі быў і кінарэжысэр Юры Хашчавацкі. Мае карэспандэнцкія навыкі не спатрэбіліся — Сяргей выдатна правёў тое, што завецца «журналісцкім расьследаваньнем», і Хашчавацкі зьняў цікавы фільм. У першыя месяцы працы Вярхоўнага Савету Сяргей усутыч займаўся тэмай прывілеяў намэнклятуры; у камуністычнага чынавенства ягонае імя выклікала страх.

Падзеі красавіка 1991-га паставілі Сяргея Антончыка ў эпіцэнтар палітычнага канфлікту, пад ціск такой неверагоднай сілы, які з нас, дэпутатаў Апазыцыі, зьведаў да яго, напэўна, толькі Пазьняк.

Менавіта Сяргею давялося весьці перамовы страйкаму з кіраўніцтвам Вярхоўнага Савету і

ўраду; на некаторых я прысутнічаў. Штодня супрацьстаяньне паміж страйкамам і ўладамі нарастала, і ўзьнікалі сумневы: ці хопіць у Сяргея моцы вытрымаць? Але вельмі хутка няпэўнасьць зьнікла: сын рэпрэсаванага, Антончык выявіў і сілу характару, і палітычную інтуіцыю. І — што было асабліва важна — нацыянальную сьвядомасьць. Пазьней ад старых эмігрантаў я чуў вызначэньне «моцны беларус», якое сьведчыла пра адданасьць нацыянальнай ідэі (частка якой — незалежнасьць ад Масквы). Дык вось, у красавіцкія дні 1991-га Сяргей Антончык паказаў сябе якраз такім моцным беларусам, не паддаўшыся спакусе «ісьці за людзтвам» у танны папулізм (што ў 1994 годзе зрабілі «маладыя ваўкі Лукашэнкі»).

Вытрымалі ціск і іншыя франтаўцы — лідэры рабочага руху. Не пішу пра іх так падрабязна толькі таму, што так блізка, як Сяргея, гэтых людзей ня ведаў.

4 красавіка рабочыя далі ўраду тыдзень на вывучэньне сваіх патрабаваньняў.

5 красавіка пра падзеі каля Дому ўраду напісалі вядучыя ўсясьветныя выданьні; многія былі зьдзіўленыя страйкам у «самай рахманай рэспубліцы», але ў наступныя дні падзеі разьвіваліся яшчэ больш дынамічна.

## «Заўтра можа быць позна»

— Ты паглядзі, як апранулася, які плашчык чысьценькі! А пастаяла б каля станка, была б не такая прыгожая. Пойдзеш, чысьценькая, працаваць на завод? Адчуеш, што такое працоўны рубель!..

Словы пажылой жанчыны падхапілі іншыя, і Галіне спачатку хацелася ўвогуле зьбегчы ад гэтых раззлаваных людзей назад, у гарсавет. Як зарабляецца рубель, яна ведала зь дзяцінства, але, працуючы ў адукацыі, атрымлівала куды менш за тых, хто цяпер запоўніў плошчу Леніна.

— Я дэпутат Менскага гарсавету Галіна Вашчанка. Я прыйшла да вас, каб спытаць, чаго вы хочаце. Цяпер у нас ідзе сэсія, і калі вы вылучыце пяць чалавек, паспрабую іх правесьці на сэсію.

Галіна Вашчанка была першай з дэпутатаў гарсавету, хто выйшаў на плошчу да рабочых у першы ж дзень, калі ў красавіку рабочыя прыйшлі да Дому ўраду (канешне, калі не лічыць лідэра страйкаму Сяргея Антончыка, які адначасна быў дэпутатам і Вярхоўнага Савету і Менскага гарсавету).

Праз дваццаць гадоў Галіна дакладна памятае тыя дыялёгі на плошчы, і ў сваёй кнізе «Беларусь у сэрцы» прыгадвае, як правяла некалькі рабочых праз міліцэйскі пост на чацьверты паверх, у залю пасяджэньняў гарсавету. Распавядае, як падыходзілі гэтыя людзі да трыбуны, гаварылі пра высокія цэны і пра цяжкую сваю працу. Але ніякіх канкрэтных прапаноў рабочыя ня выказалі і выйшлі з залі з высока ўзьнятымі галовамі.

Прыгадвае Галіна і тое, як нейкая жанчына, калі вялізная калёна рушыла да плошчы Перамогі да тэлецэнтру, каб запатрабаваць прамога тэлеэфіру, сказала: «Трэба сёньня дамагацца ад ураду ўсяго, бо сёньня мы, рабочыя, пойдзем за вамі і, калі трэба, разьнясем гэты тэлецэнтар па цагліне. Заўтра можа быць позна, няўжо ж вы гэтага не разумееце?»

У наступныя дні колькасьць рабочых на плошчы сапраўды паменшылася.

Пазьней мы вернемся да таго, што можна было б зрабіць у першыя дні (у сваёй кнізе «Беларусь у сэрцы» Галіна піша, што ў першы дзень мы нічога не дамагліся: катастрафічна не хапала лідэра»), а зараз — пра тое, чаго ўдалося дамагчыся.

## Якая роля БНФ у страйку?

«Да чыстага парыву рабочых прымазаліся тыя, хто шукае выгоды для сябе… У дзеяньнях страйкаму адчуваецца рука ўмелых арганізатараў...» — сказаў у тыя красавіцкія дні, выступаючы на Беларускім тэлебачаньні, першы намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Шушкевіч (у іншым інтэрвію ён канкрэтызаваў «арганізатараў» — дэпутаты апазыцыі БНФ). Шушкевіч фактычна выконваў функцыі фармальнага кіраўніка дзяржавы, бо адразу пасьля пачатку страйкаў Дземянцей захварэў.

Пакінуўшы ўбаку своеасаблівую лексыку («прымазаліся», «выгоды для сябе»), запытаюся: а што тады ёсьць майстэрства палітыка, як ня здольнасьць заахвоціць сваімі ідэямі найбольш актыўную ў пэўны гістарычны момант частку грамадзтва? Тут пытаньне крытэрыю — ці слушная, апраўданая ідэя. Вылучыўшы ідэю незалежнасьці, БНФ на чале зь Зянонам Пазьняком пасьлядоўна дамагаўся сваёй мэты, і было б проста недаравальна ня выкарыстаць шанец, які зьявіўся ў красавіку 1991-га.

У першы дзень страйк быў «каўбасным»: рабочыя выйшлі з заводзкіх цэхаў выключна з эканамічнымі патрабаваньнямі. На другі дзень, калі яны прыйшлі да Дому ўраду, ужо зьявіліся патрабаваньні палітычныя — дэпартызацыі і новых

выбараў. А ўжо праз некалькі дзён адным з галоўных лёзунгаў страйкоўцаў было наданьне Дэкларацыі аб сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы.

І гэта — вынік працы зь лідэрамі рабочага руху актывістаў БНФ, найперш — дэпутатаў парлямэнцкай апазыцыі.

«Якую ролю ў красавіцкіх падзеях адыграў БНФ? Немалую, — сьцьвярджаў у тыя дні ў «Навінах БНФ» Юры Дракахруст. — Па-першае, спрацавала двухгадовая дзейнасьць БНФ, мітынгі, выступы ў друку, праца апазыцыі ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі. За гэты час БНФ так і ня стаў масавым рухам. Шырокія сацыяльныя пласты нібы й ня слухалі праграмы захадаў па выхадзе з крызісу (і не маглі слухаць: праграмы БНФ не надрукавала ніводная афіцыйная газэта, іх замоўчвалі радыё і тэлебачаньне — С.Н.), заклікаў да стварэньня структураў уплыву, у тым ліку й страйкамаў. Як высьветлілася, ня слухалі, але нешта пачулі. І калі падышоў час, прыгадаліся і меры, і перамовы, і словы… Патрабаваньні страйкамаў падобныя на праграмныя мэты БНФ. На пляц перад Домам ураду рабочыя таксама пайшлі па шляху, пракладзеным БНФ. ...Апрача таго, БНФ паўплываў, так бы мовіць, арганізацыйна. У 1988 годзе ён абудзіў да грамадзянскага жыцьця розных людзей, аб'яднаных непрыняцьцем таталітарызму. Групы БНФ маглі быць вельмі маленькімі — некалькі чалавек на велічэзны завод, але яны былі амаль паўсюдна. Калі ж пачаліся страйкі, сябры БНФ апынуліся на сваім месцы. Многія зь іх увайшлі ў страйкамы, сталі іхнімі лідэрамі. Яны адразу надалі руху арганізаваныя формы.

Палітычны досьвед сяброў БНФ на заводах дапамог рабочым у іхняй барацьбе».

Ня буду хаваць: сфармуляваць палітычныя лёзунгі рабочым дапамаглі актывісты БНФ (уласна, сустаршыні страйкаму Сяргей Антончык, Георгі Мухін, Генадзь Быкаў, Іван Юргевіч былі членамі БНФ і ўваходзілі ў «франтаўскія» выбарныя органы, немалую ролю адыграў і сябра Сойму БНФ Віктар Івашкевіч).

Але магу сьведчыць: у тыя дні накінуць што-небудзь рабочым бязь іх жаданьня было абсалютна немагчыма (функцыянэры кампартыі, якая выступала за захаваньне СССР, так і ня здолелі гэтага зрабіць з дапамогай усёй сваёй прапагандысцкай машыны і «гэбэшнай» агентуры).

У чым жа прычына таго, што, вылучыўшы надзённыя палітычныя лёзунгі, страйк, нягледзячы на ягоную маштабнасьць, як гэта ні парадаксальна, ня меў выразнага, канкрэтнага палітычнага выніку?

## Зь лідэрамі страйку было ня проста

І тут я павінен сказаць пра тое, што не казалася публічна ўсе гэтыя гады — пра нашыя асабістыя дачыненьні зь некаторымі лідэрамі страйку.

Так, на чале страйкаму сталі актывісты рабочага руху, якія адначасна былі і актывістамі БНФ.

Але многія са страйкамаўцаў раўніва ставіліся да спробаў дэпутатаў Апазыцыі БНФ узначаліць рабочы пратэст. «Вы — палітыкі, мы — рабочыя». Здавалася б, натуральна: калі б нехта зь лідэраў страйкаму вырашыў параіць мне, журналісту, як трэба пісаць артыкул, баюся, што вытрымкі ў мяне хапіла б хвіліны на дзьве. Але тут была сфэ-

ра не вытворчая, тэхналягічная, а — палітычная, дзе падзел на «клясы» выглядаў неканструктыўна. Да таго ж, палітычнага досьведу ў нас было непараўнальна больш.

Адыгралі ролю і амбіцыі: яшчэ ўчора лідэры страйкамаў былі нікому не вядомыя, а сёньня яны — у цэнтры ўвагі, ад іхняга слова залежыць, куды пойдзе за імі сотня тысяч людзей, што зьбіраецца на плошчы, і таму зь імі перамаўляюцца кіраўнікі Вярхоўнага Савету і ўраду.

У мяне не было ніякіх праблемаў у стасунках зь Сяргеем Антончыкам, але вось зь некаторымі іншымі лідэрамі рабочага руху, якія не былі дэпутатамі, даводзілася выкарыстоўваць розныя дыпляматычныя захады, каб барані Божа не закрануць іх амбіцыі, і адначасна — дамагчыся патрэбнага нам палітычнага выніку. Часам гэта ўдавалася, часам — не.

Да прыкладу, наступная гісторыя.

Калі першапачатковая дамова страйкаму з уладамі аб атрыманьні штодня эфірнага часу парушылася, рабочыя 10 красавіка аднавілі страйк. У Дом ураду накіравалася дэлегацыя, і Сяргей Антончык папрасіў мяне пайсьці зь імі.

Перамовы вёў Станіслаў Шушкевіч.

У нейкі момант, калі я пабачыў, што Шушкевіч скіроўвае гаворку ўбок ад тэмы, мне давялося ўзяць слова і сказаць, як тэхнічна мусіць выглядаць атрыманьне эфіру. (Усё ж я быў на той момант адным з кіраўнікоў парлямэнцкай камісіі па СМІ, а ў якасьці каардынатара Апазыцыі БНФ займаўся «выбіваньнем» тэлеэфіру, так што досьвед стасункаў з кіраўніцтвам Дзяржтэлерадыё меў багаты). Акрамя некаторых тэхнічных момантаў, я прапаноўваў, каб страйкамаўцы самі выбіралі, хто

сядзе перад тэлекамэрамі. (Такім чынам, разам з рабочымі ў перадачах мелі б магчымасьць удзельнічаць і дэпутаты Апазыцыі БНФ, а па вяртаньні з ЗША і Пазьняк; паўгадзіны эфіру штодня маглі б кардынальна паўплываць на грамадзкую сьвядомасьць).

Станіслаў Станіслававіч адчуў небясьпеку. Ён запытаўся, у якой, уласна, якасьці я тут знаходжуся: калі як журналіст — дык павінен занатоўваць і маўчаць, калі палітык — дык якое дачыненьне маю да рабочага руху? Для мяне такая тактыка Шушкевіча не была ў навіну, але страйкамаўцы разгубіліся.

У ідэале, далей гутарка мусіла б ісьці наступным чынам: страйкамаўцы маглі б абвясьціць, што мы даверылі гэтаму дэпутату весьці перамовы пра эфір ад нашага імя, і мы падтрымліваем усё, што ён вам скажа.

І Сяргей Антончык паспрабаваў давесьці, што гэта яны, страйкамаўцы, запрасілі мяне на перамовы, але падтрымкі з боку іншых удзельнікаў сустрэчы не было. Давялося маўчаць. Страйкамаўцы пагадзіліся на тое, што ім прапанаваў Шушкевіч (ён нават даў «пісьмовыя гарантыі», але і палітычна, і юрыдычна гэта была пустая паперка), і ў выніку рабочых пазбавілі нават тых пяці хвілінаў эфіру, якія яны мелі.

## Штурм ЦК?

Як можна было б скарыстаць першыя два дні страйку, калі рабочыя прыйшлі да Дому ўраду?

Між іншым, ад пачатку рабочыя прыйшлі ня ў тое месца, дзе насамрэч у той час усё вырашалася — ва ўсялякім разе, у дні, калі не было сэсіі

Вярхоўнага Савету. Зусім ня ў Доме ўраду знаходзіўся цэнтар прыняцьця палітычных рашэньняў, а ў ЦК КПБ, ў будынку на вуліцы Карла Маркса (цяпер там месьціцца адміністрацыя прэзыдэнта). Кампартыя кантралявала Вярхоўны Савет, усё кіраўніцтва ўраду ўваходзіла ў склад ЦК КПБ і падпарадкоўвалася рашэньням Бюро ЦК.

Падпарадкоўваўся ім і Дземянцей. У першыя ж дні страйку Дземянцей захварэў, і абавязкі фармальнага кіраўніка дзяржавы выконваў ягоны намесьнік Шушкевіч. У адрозьненьне ад Дземянцея, ён не ўваходзіў у склад ЦК, але ў дні страйкаў дзейнічаў, як выглядала, у поўнай адпаведнасьці з інтарэсамі штабу камуністаў.

Дык як можна было б інакш і больш эфэктыўна выкарыстаць першыя два дні страйку, калі рабочых зьбіралася больш за сто тысяч?

Першае, што ўяўляецца — гэта перанакіраваць стотысячны натоўп да «штабу партыі рабочайклясы», да будынку ЦК. Падаецца, гэта было рэальна, шкада, што такая думка не прыйшла ў галаву рабочым лідэрам.

Але дапусьцім — прайшлі па праспэкце і падышлі да дому на Карла Маркса.

Але што далей?

Штурм?

Уявіце эфэктнае відовішча: рабочыя зьмінаюць дзяжурных міліцыянтаў (у ЦК стаялі толькі два чалавекі на кожным з двух уваходаў), сотні людзей запаўняюць фае, падымаюцца на пяты паверх — і вось ён, кабінэт першага сакратара ЦК Малафеева. Ну што, таварыш Малафееў, лідэр партыі рабочай клясы, народны дэпутат СССР — уніз, на плошчу, да рабочых, да народу! Ды не праз акно, і не на ліфце (раптам ліфт пацучыным ходам спа-

лучаны з мэтро, дык уцячэш) — па лесьвіцы, ножкамі, ножкамі!..

Выцягнулі б кіраўнікоў ЦК на плошчу, а сэйфы б у кабінэтах ускрылі, паказалі б усяму сьвету, чаго вартая «партыя пралетарыяту».

Дык ці маглі рабочыя ўзяць штурмам ЦК?

Мой адказ — так, маглі.

А вось на якое пытаньне ў мяне няма адназначнага адказу — якія наступствы меў бы штурм.

Для мяне бясспрэчна, што супраць рабочых былі б выкарыстаныя міліцыя і войскі. (Калі 24 красавіка аршанскія чыгуначнікі селі на рэйкі і Сяргей Антончык прыйшоў да Шушкевіча прасіць тэлеэфіру, каб зьвярнуцца да аршанцаў — той адмовіў, сказаўшы, што ва ўлады ёсьць іншыя сродкі. І ў Воршу быў пасланы спэцназ.) Нават калі ўявіць, што целаахоўнік Малафеева (ён яго меў як першы сакратар ЦК) ня ўжыў бы зброі (паводле інструкцыі быў абавязаны, але што зробіш пісталетам супраць натоўпу?) — у наступныя дні Менск быў бы ў рэжыме надзвычайнага становішча (пазьней стала вядома, што ў сутарэньні Дому ўраду 10-11 красавіка былі ўведзеныя сотні спэцназаўцаў, якіх прывезьлі ці то зь Сярэдняй Азіі, ці то з Каўказу). Ну, а на што здольныя былі савецкае войска і КДБ, за тры месяцы да менскіх страйкаў паказалі падзеі ў Літве. Мне падаецца таксама, што пад абаронай войскаў камуністычныя дэпутаты адчувалі б сябе ўпэўненымі, а не разгубленымі, як у жніўні, калі ўдалося абвясьціць незалежнасьць.

Хвілінны эфэкт ад штурму будынку ЦК быў бы сьцёрты танкамі на менскіх вуліцах.

Адзіная мадэль паводзінаў, якая бачыцца мне рэальнай і дарэмна не скарыстанай у той сытуацыі, — гэта каб рабочыя прыйшлі да ЦК, узялі

будынак у аблогу і дамагаліся выкананьня сваіх эканамічных і палітычных патрабаваньняў. Дзеля іх рэалізацыі існаваў толькі адзін мэханізм — прыняцьце адпаведных рашэньняў Вярхоўным Саветам. А значыць, неабходна было склікаць нечарговую сэсію.

## Без Пазьняка

«Адсутнасьць у Менску ў гэтыя крытычныя дні лідэра Фронту й дэпутацкае апазыцыі Зянона Пазьняка мае вельмі адмоўныя наступствы. Апазыцыя ў Вярхоўным Савеце БССР выглядае ў гэтыя дні крыху бездапаможна, нават да простай думкі пра збор подпісаў з патрабаваньнем склікаць пазачарговую сэсію яна прыйшла са значным спазьненьнем», — пісаў тады ў «Навінах БНФ» Юры Дракахруст.

Я падаю гэтую цытату, каб часткова пагадзіцца зь першай высновай (пра Пазьняка), і аспрэчыць другую (пра Апазыцыю). З другой і пачну.

Цяжка сказаць, на падставе чаго Юры Дракахруст зрабіў тады сваю выснову пра дэпутатаў. 4 красавіка, калі рабочыя ўпершыню выйшлі да Дому ўраду, мяне ў Менску не было, але празь некалькі дзён я вярнуўся зь Віцебску менавіта таму, што, як сказаў мне нехта з калег па Апазыцыі, трэба рыхтавацца да сэсіі.

У мяне захаваўся чарнавік заявы Апазыцыі БНФ — пачатак напісаны рукой Голубева, працяг — маёй. Аднак проста заявіць пра неабходнасьць скліканьня пазачарговай сэсіі недастаткова, трэба сабраць подпісы дэпутатаў.

Захаваўся і машынапісны арыгінал заявы з подпісамі дэпутатаў пад патрабаваньнем склікаць


Заява
дэпутатаў апазіцыі БНФ у
Вярхоўным Савеце БССР у сувязі
з рабочымі страйкамі на Беларусі

Чарнавік заявы дэпутатаў Апазыцыі БНФ, напісаны Валянцінам Голубевым і аўтарам.

сэсію — менавіта мне адразу пасьля прыезду зь Віцебску давялося зьбіраць тыя подпісы. Адбывалася тое прыблізна 6-7 красавіка, ня думаю, што гэта «значнае спазьненьне».

Зьбіраць подпісы было няпроста: большасьць дэпутатаў разьехаліся, давялося «сесьці на тэлефон» (нагадаю, што ні мабільных тэлефонаў, ні інтэрнэту тады не існавала) — але нават атрымаўшы згоду, трэба было здабыць і арыгінал подпісу, бо толькі ён меў юрыдычную сілу.

У заяве мы патрабавалі скліканьня нечарговай сэсіі з тым, каб надаць на ёй канстытуцыйную сілу Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце, прыняць пастановы аб дэпартызацыі, аб грамадзянстве Беларусі, аб прыватнай уласнасьці на зямлю, аб вайсковай службе, а таксама аб фармаваньні кааліцыйнага ўраду народнага даверу і антыкрызісным бюджэце. Таксама, мы прапаноўвалі прыняць распрацаваны намі новы закон аб выбарах на шматпартыйнай аснове.

16 красавіка я перадаў у прэсу гэтую заяву, пад якой было 25 дэпутацкіх подпісаў. Да 30 красавіка іх колькасьць дасягнула 40. Для скліканьня сэсіі патрэбна было мінімум 115 подпісаў.

Цяпер пра лідэра БНФ і дэпутацкай апазыцыі.

Пазьняка сапраўды ў Беларусі ў красавіку не было — разам з дэпутатамі Лявонам Баршчэўскім і Ўладзімерам Заблоцкім ён знаходзіўся на амэрыканскім кантынэнце. Гэтая паездка рыхтавалася беларускай дыяспарай ЗША і Канады і мела дзьве мэты. Першая, як яе вызначыў Пазьняк — «зламаць эканамічную блякаду вакол Беларусі», давесьці амэрыканскім палітыкам пазыцыю БНФ адносна пэрспэктываў існаваньня СССР і права беларусаў на незалежную дзяржаву. (Вашынгтон цалкам падтрымліваў Гарбачова і ні пра які сувэрэнітэт рэспублік, акрамя прыбалтыйскіх, не хацеў і чуць.) Другая мэта — распавесьці заходняму грамадзтву пра вынікі Чарнобыльскай катастро-

фы ў Беларусі. (Дапамога пацярпелым ужо была наладжана дыяспарай, ужо дзейнічаў у Канадзе фонд на чале з Івонкай Сурвілай, аднак маштаб катастрофы вымагаў дзяржаўнай дапамогі.)

Інфармацыя пра выхад рабочых да Дому ўраду 4 красавіка да Пазьняка дайшла (з улікам розьніцы паміж менскім і амэрыканскім часам), калі страйкам вырашыў узяць паўзу і даць кіраўніцтву БССР час на вывучэньне патрабаваньняў рабочых. Я ў тыя дні з Пазьняком не размаўляў — хатняга тэлефона ў мяне не было, зь Вярхоўнага Савету званіць у Амэрыку мы не маглі. Пазьняк звычайна тэлефанаваў на кватэру Валянціну Голубеву, які даваў падрабязную інфармацыю пра тое, што адбываецца ў Беларусі. Як потым мне расказваў Пазьняк, ён адразу пачаў высьвятляць, як можна было б вярнуцца ў Менск. Аказалася, што зрабіць гэта вельмі складана — трэба было замаўляць білеты, прычым вяртацца даводзілася б праз Маскву альбо Ленінград (прамых рэйсаў з амэрыканскага кантынэнту ў Менск тады не было). Заняло б усё, у найлепшым выпадку, пяць-шэсьць дзён. Апрача таго, гэта азначала — парушыць усе дамоўленасьці ў Кангрэсе ЗША, дзяржДэпартамэнце, іншых урадавых і грамадзкіх установах. Арганізатары паездкі пераканалі Пазьняка, што тэрмінова вяртацца ня варта.

Была і яшчэ адна прычына не перапыняць візыт: паступова страйк ішоў на спад. Самы «пік» (па колькасьці тых, хто выйшаў на вуліцы) прыпаў якраз на 4 красавіка.

Вядома, Пазьняк зь ягонай выключнай палітычнай інтуіцыяй, аналітычнымі здольнасьцямі, уменьнем мабілізаваць прыхільнікаў і блякаваць апанэнтаў (калі не ўдалося іх пераканаць) — здо-

леў бы зрабіць так, што страйк меў бы палітычны вынік. Гэта значыць — былі б выкананыя палітычныя патрабаваньні (незалежнасьць, дэпартызацыя, новыя выбары).

Але, зноў жа, дзеля таго мусіла быць скліканая нечарговая сэсія Вярхоўнага Савету, а склікаць яе мог толькі Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету альбо ягоны старшыня.

Аднак у тыя дні ў Менску быў чалавек, які валодаў значна большымі, чым Пазьняк, палітычнымі і адміністрацыйнымі магчымасьцямі. Ён фактычна кіраваў Прэзыдыюмам і выконваў функцыі старшыні Вярхоўнага Савету замест хворага Дзямянцея.

Гэта — першы намесьнік старшыні найвышэйшага заканадаўчага органу Станіслаў Шушкевіч. Усе свае дзяржаўныя «пасады» (народны дэпутат СССР у 1989-м, , народны дэпутат БССР і першы намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету БССР у 1990-м) ён атрымаў дзякуючы падтрымцы БНФ. І мы мелі поўнае права разьлічваць на ягоную падтрымку.

Аднак Шушкевіч стаў на бок камуністычнага кіраўніцтва.

## Быкаў: «Толькі бескампрамісная барацьба»

Красавіцкі страйк 1991 году, які пачаўся спантанна з прычыны росту цэнаў, хутка перарос у палітычны. Рабочыя ўспрынялі патрабаваньні, якія вылучыў Беларускі Народны Фронт — абвяшчэньне незалежнасьці Беларусі, вывад камуністычных структур з прадпрыемстваў, роспуск Зьезду народных дэпутатаў СССР, новыя выбары ў Вярхоўны Савет на шматпартыйнай аснове. Дэпутаты



Выдаецца са сьнежня 1988 г.
Кошт 60 кап.

НАВІНЫ

2'1991

Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»

Чарнобыль... Наперадзе новая катастрофа? с.5

«Вярхоўны Савет БССР распусьціць народ» с.3

ВАСІЛЬ БЫКАЎ – БЕЛАРУСКІМ РАБОЧЫМ: БОГ ВАМ У DАПАМОГУ!

Горача вітаю рабочы кляс гораду Менску, які гэтак геройчна выяўляе сваю рабочую згуртаванасьць у дасягненьні агульнародных мэтаў, у барацьбе за кавалак хлеба, дэмакратыю й галоснасьць.

Толькі Вашая бескампрамісная барацьба можа прывесьці да Ўсенароднай перамогі над грабежніцкімі захадамі Цэнтру й мяйсцовае партбюракратыі.

Жадаю Вам непахіснай цьвёрдасьці й вялікай рашучасьці.

Бог Вам у дапамогу!

Жыве Беларусь!

Народны пісьменьнік,
Васіль Быкаў.

Прывітаньне Васіля Быкава ўдзельнікам страйку «Навіны БНФ» зьмясьцілі на першай паласе.

Апазыцыі БНФ запатрабавалі скліканьня нечарговай сэсіі парлямэнту для вырашэньня палітычных і эканамічных патрабаваньняў рабочых.

«Горача вітаю рабочую клясу Менску, якая гэтак гераічна выяўляе сваю рабочую згуртаванасьць у дасягненьні агульнанародных мэтаў, у барацьбе за кавалак хлеба, дэмакратыю і галоснасьць, — зьвярнуўся ў тыя красавіцкая дні да страйкоўцаў Васіль Быкаў. — Толькі вашая бескампрамісная барацьба можа прывесьці да ўсенароднай перамогі над грабежніцкімі захадамі Цэнтру й мясцовае партбюракратыі. Жадаю вам непахіснай цьвёрдасьці й вялікай рашучасьці. Бог вам у дапамогу! Жыве Беларусь».

Гэты зварот у «Навінах БНФ» Быкаў падпісаў: «народны пісьменьнік».

Падтрымаў рабочых і Алесь Адамовіч. «Беларусы — цярплівая нацыя, але калі ўціск робіцца занадта моцны, яны ўздымаюцца на барацьбу за справядлівую справу. І калі ўжо беларусы ўзьняліся на гэтую барацьбу, значыць, яны маюць намер перамагчы. Бяз гэтага намеру яны маглі б яшчэ чакаць. Калі ж намер перамагчы нарадзіўся, умацаваўся, беларусы ідуць заўсёды да канца, — казаў у тыя дні Адамовіч, але папярэдзіў: — Беларусы павінны ўсьведамляць, што ім давядзецца сутыкнуцца зь вельмі актыўным супрацівам іх імкненьня да самастойнага і вольнага жыцьця».

Супраціў сапраўды быў магутны — кампартыя, якая захоўвала ўладу, выкарыстоўвала розныя мэтады, каб спыніць страйк і загнаць людзей з плошчаў назад у цэхі — усё роўна, як скаціну ў стойла.

Мы, дэпутаты БНФ, у дасягненьні галоўных мэтаў былі адзіныя зь лідэрамі страйкаму і выступалі сынхронна. Рабочыя ўбачылі ў нас абаронцаў сваіх інтарэсаў.

Усе нашыя зь лідэрамі рабочага руху супольныя намаганьні засяроджваліся на адным: прымусіць кіраўніцтва Вярхоўнага Савету склікаць нечарговую сэсію.

## «Калектыўны прэзыдэнт»

Але перш чым перайсьці да апісаньня драматычных падзеяў у правым крыле Дому ўраду, будзе дарэчы сказаць некалькі слоў пра структуру, якая супрацьстаяла Апазыцыі БНФ і страйкаваму камітэту — Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету.

У склад Прэзыдыюму ўваходзілі, паводле пасадаў, старшыня Вярхоўнага Савету Мікалай

Дзямянцей, ягоны першы намесьнік Станіслаў Шушкевіч, намесьнік Васіль Шаладонаў, а таксама старшыні пастаянных парлямэнцкіх камісіяў — усяго 25 чалавек.

З дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Прэзыдыюме быў толькі старшыня Камісіі па міжнародных справах і зьнешнеэканамічных сувязях Пётра Садоўскі. Часам нашыя заявы падпісваў старшыня Камісіі па пытаньнях працы, цэн, занятасьці і сацыяльнай абароны насельніцтва Аляксандар Сасноў.

Насуперак цяперашняму ўстойліваму меркаваньню, Генадзь Карпенка, старшыня парлямэнцкай камісіі па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе, нас, дэпутатаў БНФ, падтрымліваў рэдка, а часам і выступаў супраць. Карпенка ўвогуле вёў асобную палітычную гульню і ў 1991 годзе на Прэзыдыюме і на сэсіях зьяўляўся нячаста — ён быў абраны мэрам Маладэчна, але пасаду старшыні камісіі захоўваў за сабой. Зрэшты, Карпенка хаця б не перашкаджаў працаваць свайму намесьніку па камісіі Уладзімеру Заблоцкаму, які адначасова быў намесьнікам кіраўніка Апазыцыі БНФ Зянона Пазьняка.

Прэзыдыюм зьбіраўся недзе раз на тыдзень-два, зацьвярджаў праекты парадку дня сэсіі або вырашаў нейкія рутынныя пытаньні яе падрыхтоўкі. Увесну 1991 году палітычнае кіраўніцтва, як і ў папярэднія дзесяцігодзьдзі, заставалася ў руках бюро ЦК КПБ, куды ўваходзілі сакратары ЦК, старшыні Вярхоўнага Савету і Саўміну, старшыня КДБ і камандуючы Беларускай вайсковай акругай. Бюро ЦК ужо не адыгрывала той ролі, якую мела пры Машэраве, але ўспрымалася чынавенствам і камуністычнай большасьцю дэпутатаў як галоўны кіраўнічы орган.

Пасьля здабыцьця незалежнасьці 25 жніўня 1991 году бюро ЦК зьнікне (дзейнасьць кампартыі будзе прыпыненая), і Прэзыдыюм аўтаматычна возьме на сябе яго функцыі, зробіцца гэткім «калектыўным прэзыдэнтам» — будзе выклікаць на свае пасяджэньні віцэ-прэм’ераў і міністраў, генэралаў і кіраўнікоў буйных прадпрыемстваў, прызначаць амбасадараў, узнагароджваць, надаваць званьні і вызначаць лёс асуджаных на сьмерць.

Але гэта будзе потым, а пакуль, увесну 1991-га, самае галоўнае з правоў, якія меў Прэзыдыюм — прызначыць сэсію. І менавіта гэтага дамагаліся мы, дэпутаты, супольна зь лідэрамі страйкаму.

## Антончык: «Вы і толькі вы можаце спыніць страйк...»

19 красавіка члены Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету правялі сустрэчу з прадстаўнікамі страйкамаў у сваёй залі на другім паверсе правага крыла Дому ўраду.

На самым пачатку сустрэчы віцэ-прэм’ер Уладзімер Заламай паведаміў, што практычна ўсе эканамічныя патрабаваньні рабочых урад задаволіў.

Ён казаў пра падвышэньне заробкаў, пра скарачэньне — больш чым на чвэрць — чынавенскага апарату. І нават пра адмову ад так званага 5-працэнтнага «гарбачоўскага» падатку, паводле якога Беларусь выплачвала ў «саюзны бюджэт» болей, чым іншыя рэспублікі (апрача Расеі).

І, вядома, як вялікае дасягненьне падавалася рашэньне ўраду Кебіча — насуперак ранейшаму рашэньню Крамля — зьменшыць цэны (хаця і ня ўсе).

«Як можна казаць пра нейкі сувэрэнітэт, калі наш урад ня ведаў, якімі будуць цэны?» — запытаўся кіраўнік страйкаму «Гарызонту» Алесь Галькевіч.

Магчыма, у першыя гадзіны страйку такія рашэньні пра цэны і заробкі рабочых і задаволілі б. Але цяпер галоўнымі для страйкамаўцаў былі палітычныя патрабаваньні.

І тут да лідэраў рабочага руху зьвярнуўся Станіслаў Шушкевіч:

»Фактычна, у нас няма спрэчкі пра тое, што пастаўленыя вамі палітычныя пытаньні трэба разглядаць. Але ёсьць пэўныя тэмпы, вялікі вагон нельга хутка разагнаць... Немагчыма сабраць за некалькі дзён дэпутатаў на сэсію — у такім выпадку яны павінны будуць разагнаць наш Прэзыдыюм за непадрыхтаваную сэсію».

У гэтых словах Шушкевіча было няшмат праўды. Па-першае, пастановы аб наданьні Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы ці дэпартызацыі (гэтаксама як і аб датэрміновых выбарах) не патрабавалі шматдзённай працы. Па-другое, большасьць з дакумэнтаў былі ўжо распрацаваныя дэпутатамі Апазыцыі БНФ, мала таго — прапаноўваліся на папярэдніх сэсіях. Што да немагчымасьці склікаць сэсію цягам некалькі дзён — дык праз чатыры месяцы, у жніўні, нам удалося зрабіць гэта за тры дні (і за некалькі сутак дэпутаты БНФ падрыхтавалі блёк праектаў, якія заканадаўча аформілі незалежнасьць Беларусі). Фактычна, незалежнасьць магла быць заканадаўча абвешчаная яшчэ ў красавіку, на чатыры месяцы раней. Ва ўмовах таго насычанага імклівага году чатыры месяцы значылі шмат.

Аднак Шушкевіч настойваў на тым, што прымаць палітычныя патрабаваньні цяпер ня варта:

«Кампартыя сапраўды стала ўладальніцай такой вялікай маёмасьці не заўсёды, можа быць, самымі дастойнымі мэтадамі. Гэтае пытаньне павінна зрабіцца прадметам разгляду на Вярхоўным Савеце. Але я прыхільнік іншага падыходу — калі кампартыя сама вырашыла б перадаць якія-небудзь будынкі і гэтак далей. Зараз, калі будзем вырашаць гэта галёпам, можам спарадзіць у грамадзтве такую сытуацыю, калі 500 тысяч камуністаў скажуць: «Я ўсё жыцьцё плаціў складкі, а цяпер гэтая маёмасьць будзе размазаная».

«Шчыра кажучы, аргумэнт выклікае пэўнае сумненьне, — пракамэнтаваў словы Шушкевіча аглядальнік газэты «Знамя юности» Віталь Цыганкоў. — Сярод беларускіх камуністаў шмат хто, наколькі мне вядома, падтрымліваюць ідэю нацыяналізацыі, паколькі большасьць шараговых партыйцаў нічога з гэтага ня маюць».

У немэтазгоднасьці скліканьня сэсіі пераконвалі страйкамаўцаў і іншыя члены Прэзыдыюму.

«Назіраючы за дзеяньнямі страйкаму, прыгадваеш 1917 год, выступы бальшавікоў-агітатараў» (Дзьмітры Булахаў). «Мы ня хочам гармідару на гэтай сэсіі. Запэўніваем вас, што зробім высновы з сытуацыі, але трэба «сьпяшацца бяз сьпеху» (Уладзімер Гаркун). Як і Булахаў, Гаркун і наогул большасьць членаў прэзыдыюму праз месяц, 21 траўня, у першы дзень сэсіі, не падтрымаюць палітычных прапановаў рабочых.

Нарэшце, пасьля таго, як выказаліся і члены Прэзыдыюму, і прадстаўнікі страйкаму, сустаршыня страйкаму і дэпутат Апазыцыі БНФ Сяргей Антончык прапанаваў наступнае: «Зараз жа,

у гэтай залі, прагаласаваць пытаньні аб скліканьні пазачарговай надзвычайнай сэсіі для разгляду пастаўленых страйкоўцамі пытаньняў. Вырашыўшы станоўча гэтае пытаньне, вы і толькі вы можаце спыніць палітычны страйк у Беларусі. Мы не ўпаўнаважаныя цяпер вырашаць за калектывы, яны самі пастанавілі страйкаваць, але вы ўпаўнаважаныя прыняць рашэньне аб скліканьні сэсіі. Ёсьць дакумэнты, якія ўжо падрыхтаваныя, і тыя, за якія галасавалі народныя дэпутаты на папярэдніх сэсіях...» (Сяргей меў на ўвазе законапраекты, падрыхтаваныя Апазыцыяй БНФ, якія мы некалькі разоў спрабавалі ўключыць у парадак дня сэсіяў.)

Прапанова Антончыка была цалкам законнай: паводле Канстытуцыі, Прэзыдыюм меў поўнае права прызначыць сэсію. Як прапаноўвалі страйкамаўцы і дэпутаты БНФ, прызначыць яе можна было на 23 красавіка. Чатырох дзён хапіла б, каб падрыхтаваць некалькі найважнейшых палітычных пытаньняў.

Але Станіслаў Шушкевіч скарыстаў спосаб, які неаднаразова ўжываў спачатку як віцэ-сьпікер, а потым і як сьпікер.

Ён проста не паставіў прапанову Антончыка на галасаваньне.

Пасьля гэтага Шушкевіч абвясьціў закрытае пасяджэньне Прэзыдыюму. Закрытае ня толькі для журналістаў, але і для дэпутатаў Вярхоўнага Савету. Тое было наўпроставым парушэньнем часовага рэглямэнту Вярхоўнага Савету, — «асноўнага закону», паводле якога працаваў парлямэнт.

Член Прэзыдыюму, дэпутат Апазыцыі БНФ Пётра Садоўскі спрабаваў пераканаць калег склікаць сэсію, але — безвынікова. «Да нас далятае,

што дыскусія ідзе на падвышаных танах… — пісаў у сваім рэпартажы Віталь Цыганкоў. — Нечакана з залі, дзе яна праходзіць, літаральна выскоквае Пётра Садоўскі і хутка сыходзіць па калідоры. Празь некалькі хвілінаў выходзяць іншыя члены Прэзыдыюму і паведамляюць, што ўсе ўжо стаміліся, нічога ня вырашана і на наступны дзень Прэзыдыюм зьбярэцца зноў».

А на наступны дзень у эфіры Беларускага тэлебачаньня выступілі Станіслаў Шушкевіч і Міхаіл Мясьнікові, дзе першы і прамовіў ужо згаданыя словы: «Да чыстага парыву рабочых прымазаліся тыя, хто шукае выгады для сябе. У дзеяньнях страйкаму адчуваецца рука вопытных арганізатараў».

## Генпракурор: «Як інфармацыя для Прэзыдыюму апынулася на стале страйкаму?»

У сераду 24 красавіка мы з Галінай Сямдзянавай і Валянцінам Голубевым як «вопытныя арганізатары» (калі скарыстаць вызначэньне Шушкевіча) нешта распрацоўвалі (а можа, «шукалі выгоды для сябе» — цяпер ужо і не прыгадаю) у нашым «апазыцыйным» 363-м пакоі, калі нам патэлефанавалі з прыёмнай Шушкевіча і запрасілі на пасяджэньне Прэзыдыюму.

— Гэта нешта новае! — сказала Галіна. — У Станіславе Станіслававічы прачнуўся дэмакрат.

Запрашэньне нас на Прэзыдыюм сапраўды выглядала нечаканым, асабліва пасьля нядаўняга рашэньня Шушкевіча правесьці закрытае яго пасяджэньне.

Але хутка прычыны сюрпрызу раскрыліся.

Пасяджэньне было арганізавана з адной мэтай: паўплываць на нас, дэпутатаў БНФ. Прычым, паводле першапачатковай задумы, у ролі «цяжкай артылерыі» меліся выступіць запрошаныя на Прэзыдыюм старшыня Найвышэйшага Суду Ўладзімер Каравай, генэральны пракурор Георгі Тарнаўскі, старшыня КДБ Эдуард Шыркоўскі і міністар унутраных спраў Уладзімер Ягораў.

Перад пачаткам пасяджэньня нам паведамілі, што ў Воршы рабочыя вылучылі ўмову: калі не прызначаецца сэсія з разглядам палітычных патрабаваньняў, будзе перакрытая чыгунка — лінія Масква — Парыж, альбо Менск — Смаленск, як каму падабаецца, а таксама Ленінград — Адэса. Словам, увесь найважнейшы чыгуначны цэнтар эўрапейскай часткі СССР будзе заблякаваны.

Галіна Сямдзянава засталася ў пакоі апазыцыі на тэлефонах — падтрымліваць сувязь з Воршай. Мы спусьціліся на другі паверх, у залю Прэзыдыюму. У мяне захаваўся даволі падрабязны пратакол паседжаньня — здаецца, сёньня гэта адзіная крыніца інфармацыі пра тую падзею, калі не лічыць невялікай нататкі Ігара Герменчука ў «Свабодзе». Думаю, захаваўся і магнітафонны запіс з расшыфроўкай (усе пасяджэньні Прэзыдыюму запісваліся на стужку) — але недзе ў закрытых фондах. Зрэшты, іх маглі і зьнішчыць, як выкінулі на сьметнік з «палаты прадстаўнікоў» адзіны ў ёй поўны камплект стэнаграмаў сэсіяў Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня.

Пасьля кароткага ўступнага слова Шушкевіча першым далі выступіць генэральнаму пракурору. Тым самым адразу была зададзеная танальнасьць размовы: не аналіз сытуацыі і пошук палітычнага

выйсьця, а падбор адпаведных артыкулаў крымінальнага кодэксу.

Тарнаўскі: «... гэтым (ростам цэнаў — С.Н.) пасьпяшаліся скарыстацца сілы, зацікаўленыя ў дэстабілізацыі... Стыхія не бязь лідэраў Апазыцыі БНФ, Рабочага саюзу набыла арганізаваныя формы... Нас спрабуюць выкарыстаць у палітычным супрацьстаяньні. Патрабаваньні пра прыняцьце карных захадаў непрымальныя... Выявілася беспрынцыпная пазыцыя кіраўнікоў прадпрыемстваў».

«Як інфармацыя, падрыхтаваная для Прэзыдыюму, апынулася на стале страйкаму на другі дзень?» — абурыўся генпракурор.

Проста! — адкажу тагачаснаму генэральнаму пракурору сёньня. Праз супрацоўнікаў у апараце Вярхоўнага Савету (прозьвішчы якіх не лічу патрэбным называць нават сёньня і тым больш сёньня!) я меў доступ да такіх-сякіх дакумэнтаў. І, думаю, ня толькі я адзін. Натуральна, што перадаць інфармацыю рабочым я лічыў сваім абавязкам. На жаль, тады ў мяне не было машыны, таму даводзілася везьці ў страйкам копіі дакумэнтаў на тралейбусе, так што апэратыўнасьць была ня вельмі вялікая. Ну, але пасьпяваў.

«Артыкул 186-3 крымінальнага кодэксу БССР... Улічваючы аб'ём расьсьледаваньня, будзе створаная група, якая дасьць ацэнку», — завяршыў сваю прамову генпракурор і саступіў месца міністру ўнутраных справаў.

Ягораў: «Хто панясе адказнасьць, калі 1,5 тысячы чалавек у Воршы наткнуцца на тыя сілы, якія я туды паслаў? Нашы людзі ў працоўных калектывах расказваюць, у якіх выпадках міліцыя будзе ўмешвацца ў дзейнасьць калёнаў... Працяг-

лай затрымкі грамадзкага транспарту не было... Ставілася мэта не дапусьціць пагромаў грамадзкіх будынкаў і ўстановаў. Спыненая спроба пікетаваньня студэнтамі інстытуту замежных моваў палітэхнічнага інстытуту...»

Што зьбіраліся рабіць студэнты, мы так і не даведаліся: у гэты момант (у мяне дакладна пазначаны час — 15.25) у залю ўвайшла Галіна Сямдзянава з паведамленьнем з Воршы.

Сямдзянава: «Калі праз 7 хвілінаў ня будзе адказу, людзі лягуць на рэйкі».

Ягораў: «Мы маем спосабы, каб не спыніўся транспарт…»

## Генэрал Шыркоўскі: «КДБ не павінна быць убаку»

Пасьля Ягорава слова ўзяў старшыня КДБ БССР Эдуард Шыркоўскі:

«КДБ цьвёрда ўпэўнены: апошнім часам разгарнулася жорсткая барацьба за ўладу. Дастаткова прасачыць падзеі дый паслухаць аратараў. На жаль, КДБ пачынаюць уцягваць у гэтую барацьбу».

Выглядае, што, адпрацоўваючы лінію на максымальны (з улікам дэпутацкага статусу, пакуль толькі палітычны і псыхалягічны) ціск на парлямэнцкую апазыцыю, старшыня КДБ, як і генпракурор і міністар унутраных справаў былі супраць таго, каб іх сіламі Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету вырашыў тое, што сам мусіў вырашыць палітычна. Фактычна, і Шыркоўскі і Ягораў разумелі, што калі Прэзыдыюм ня прыме патрабаваньні Апазыцыі БНФ і страйкаму (незалежнасьць, дэпартыза-

цыя, новыя выбары) — іх прымусяць ужыць сілу, а потым іх жа і зробяць вінаватымі. Як зрабілі вінаватымі вайскоўцаў за падзеі ў Тбілісі ў 1988-м і Вільні ў студзені 1991-га. Гэтая засьцярога выявілася і ў прамове старшыні Вярхоўнага Суду Каравая, які сказаў, што яму не паступала матэрыялаў пра парушэньні ўказу аб масавых шэсьцях (а шэсьці 4 красавіка і ў іншыя дні налічвалі да ста тысяч чалавек!).

Шыркоўскі яшчэ казаў пра «эмісараў страйкамаў» (хваля страйкаў у той час ішла і ў Расеі), пра 29 замежных журналістаў, якія «трымаюць сябе непаважліва ў дачыненьні да нас» (было незразумела, да каго гэта да «нас» — да жыхароў Беларусі альбо да ўлады, а можа, да КДБ).

Старшыня КДБ таксама паведаміў, што «вядзецца вялікая праца спэцслужбамі замежных краінаў на развал нашай дзяржавы « (г. зн. СССР), выказаў занепакоенасьць, што дзясяткі тысячаў рабочых ужо прызвычаіліся зьбірацца ля Дому ўраду, і гэта небясьпечна, бо «можна ўсяго чакаць, нават штурму Дому ўраду». Аднак супакоіў членаў Прэзыдыюму: «У будынак яны ня ўвойдуць». (Як я ўжо казаў — ужо ў эміграцыі я даведаўся, што ў сутарэньнях Дому ўраду былі разьмешчаны сотні спэцназаўцаў, прысланых Масквой. Яны нічым не выдавалі сваёй прысутнасьці — магчыма, у Доме ўраду сутарэньні складаюць некалькі паверхаў і маюць аўтаномную сыстэму жыцьцезабесьпячэньня.)

«Ідзе палітычная барацьба, і КДБ не павінен быць убаку», — завяршыў прамову генэрал Шыркоўскі.

«Значыць, КДБ будзе перашкаджаць людзям ажыцьцяўляць свае палітычныя патрабавань-

ні?» — парыраваў дэпутат БНФ Мікалай Крыжаноўскі.

## Гілевіч: «Яны не ўспрымаюць чалавечае слова»

Члены Прэзыдыюму адзін за адным заклікалі нас «абдумацца», а да страйкамаўцаў прапаноўвалі «прымяніць уладу».

Ведучы паседжаньне, Станіслаў Шушкевіч нам слова не даваў, даводзілася перабіваць выступоўцаў рэплікамі; Ігар Гермянчук і Валянцін Голубеў на знак пратэсту супраць такога стылю вядзеньня пакінулі залю.

Я зь некаторымі іншымі калегамі (Мікалаем Крыжаноўскім, Юрыем Беленькім, Пётрам Садоўскім) застаўся ў залі — ужо ня памятаю, ці ўдалося мне выступіць. Калі і ўдалося, дык свой выступ я не запісаў. Затое занатаваў прамовы іншых калег па апазыцыі.

Так, Юры Беленькі зьвярнуў увагу на рэальнае скарачэньне даходаў: «Балянс даходаў і расходаў такі: расходы зьнізіліся ўдвая».

Пётра Садоўскі: «Надышоў час прыняцьця палітычных рашэньняў. Ніхто рабочых не інсьпіраваў. Узаемадачыненьні з Цэнтрам (Масквой — С.Н.) не рэгулююцца ніяк. Дэклярацыя аб сувэрэнітэце не выконваецца. Што гэта за Савет міністраў такі? Тэзіс пра «дэструктыўныя сілы» не адпавядае факталёгіі. Кебічу трэба браць на сябе адказнасьць».

Садоўскага падтрымаў іншы член Прэзыдыюму, Аляксандар Сасноў. Ён прапанаваў памяняць парадак дня будучай сэсіі і абмеркаваць альбо но-

вую праграму ўраду, альбо (калі яе няма) пытаньне «круглага стала» пра кааліцыйны ўрад.

Потым падняўся член Прэзыдыюму, старшыня камісіі па пытаньнях культуры і адукацыі Ніл Гілевіч. Паколькі ён вельмі ўважліва ставіцца да інтэрпрэтацый сваёй дзейнасьці, працытую запіс ягонай прамовы, не прапусьціўшы ніводнай літары. Думаю, што запісаў блізка да арыгіналу — Гілевіч казаў павольна, кожнае слова нібыта з бронзы адліваў.

Гілевіч: «Сытуацыя ў рэспубліцы непрадбачная. Палохае такі настрой, якім ахоплены людзі, у тым ліку і некаторыя нашы дэпутаты. Гэты настрой ні да чаго добрага не прывядзе. Не магу зразумець патрабаваньня неадкладна склікаць сэсію — «атака з ходу». Вось гавораць, што ўсю маёмасьць трэба зрабіць рэспубліканскай. Гэта — калясальная работа. Пра прыватную ўласнасьць на зямлю трэба ў народа запытацца. Людзей апантаў антыкамунізм. На заалягічнай нянавісьці да камуністаў ні да чаго добрага мы ня дойдзем. Калі вы (гэта да нас, дэпутатаў Апазыцыі БНФ — С.Н.) хочаце нешта добрае ўнушыць людзям, якія ўвайшлі ў забастовачны камітэт… Калі вы, апазыцыя, будзеце далей слухаць кіраўнікоў страйкаму, гэта будзе ваша трагічная памылка. Дамаўляцца зь імі няма ніякага сэнсу: яны не ўспрымаюць чалавечае слова, а мы чулі і чуем толькі мову ультыматумаў».

Як кантрастуюць гэтыя словы Ніла Гілевіча са зваротам да рабочых Васіля Быкава, які вітаў «рабочую згуртаванасьць» і зычыў страйкоўцам «непахіснай цьвёрдасьці і вялікай рашучасьці»!

## Шушкевіч: «Вы робіце стаўку на несьвядомасць»

Наўпрост да нас зьвярнуўся і Шушкевіч: «Я пайшоў на плошчу, усё хацеў зрабіць. Але глядзіце, на што вы робіце стаўку: на несьвядомасьць. У Воршы цяпер дваццаць чалавек селі на каляіну, але ўжывуць (супраць іх — С.Н.) належныя захады. Пазыцыя Антончыка — пазыцыя прадстаўніка гегемона. Мы павінны працаваць спакойна, як улада, і не ісьці на эмоцыі».

Калі генпракурор і старшыня КДБ палохалі нас адказнасьцю, дык Гілевіч і Шушкевіч вялі гульню больш тонкую, спрабуючы аддаліць нас ад рабочых паводле інтэлектуальнага і сацыяльнага ўзроўню — маўляў, і «чалавечае слова» яны не ўспрымаюць, і «несьвядомыя» яны, ну а мы — «улада» (выглядае, што Шушкевіч ужо цалкам атаясамліваў сябе з гэтай уладай, гэтым кіраўніцтвам).

Мы заявілі, што застаемся на сваім: нечарговая сэсія, абвяшчэньне рэальнай незалежнасьці, вывад камуністычных парткамаў з прадпрыемстваў.

## Людзі на рэйках

Калі мы выйшлі з залі пасяджэньня, даведаліся, што ў Воршы на рэйках ужо ня дваццаць чалавек, як сказаў Шушкевіч, а — сотні.

Рух цягнікоў быў спынены. Такое ў гісторыі Беларусі здарылася ўпершыню. Ды, здаецца, і ў гісторыі СССР апошніх дзесяцігодзьдзяў — таксама.



Людзі на рэйках. Фрагмэнт публікацыі ў газэце «Свабода».

Праз тры гадзіны блякаду зьнялі, але да забастоўкі далучыліся рабочыя Аршанскага лякаматыўнага дэпо.

У ноч з 24 на 25 красавіка супрацьстаяньне дасягнула максымальнай напружанасьці: раніцай рабочыя зноў селі на рэйкі.

Далей працытую газэтны рэпартаж.

«С. Шушкевіч... а 12-й гадзіне 25 красавіка катэгарычна адмовіў дэпутату С. Антончыку, калі той прыйшоў да яго па прамы эфір, каб тэрмінова заклікаць рабочых у Воршы ўстрымацца ад блякіроўкі чыгункі і гэтым папярэдзіць магчымае кровапраліцьце. «У нас дастаткова сілаў, каб бяз вашага звароту спыніць рабочых у Воршы», — адказаў Шушкевіч». (Свабода, травень 1991).

У вэрсіі самога Шушкевіча дыялёг гучаў наступным чынам: «Сп. Антончык сказаў, што «мы спынім бясчынствы ў Воршы, калі нам будзе выдзелены эфір». Я яму адказаў, што «бясчынствы будуць спыненыя ў адпаведнасьці з законам і законнымі мэтадамі, таму што нашая ўлада яшчэ ў стане забясьпечыць бясьпеку людзей» (Навіны БНФ, травень 1991).

Але вынік дыялёгу быў наступны:

«Ганьба Шушкевічу!» — скандавала шматтысячная грамада на пляцы». (Свабода, травень 1991).

Як ні цяжка мне пісаць гэтыя радкі, але ня Крэмль, не Лубянка, не ЦК КПБ на чале з Малафеевым, не Дземянцей, ня Кебіч, а менавіта Шушкевіч паслаў у Воршу паўтары тысячы байцоў спэцназу. «Мне здаецца, ім хочацца вайсковага становішча. Да гэтага часу мы выкарыстоўвалі плятанічныя мэтады, але шмат якія дзеяньні арганізатараў страйку мяжуюць з злачынствам», — пракамэнтаваў Шушкевіч свае ўласныя дзеяньні (Коммерсантъ-власть, № 67, 1991).

У Воршу былі пасланыя паўтары тысячы байцоў АМАПу — зь Менску, Віцебску і Магілёву.

У такіх умовах увечары 25 красавіка агульнанацыянальны страйкам быў вымушаны спыніць страйк.

Калі больш дакладна, то фармулёўка была іншай — «прыпыніць» да чарговай сэсіі Вярхоўнага Савету, якая была прызначана на 21 траўня. І на якой, натуральна ж, патрабаваньні рабочых і Апазыцыі БНФ прынятыя не былі.

## Хто абяззброіў рабочы рух?

Ніколі не пагаджуся з тымі, хто кажа, што той красавіцкі рабочы страйк ня меў выніку. Ён, бясспрэчна, нанёс магутны ўдар па камуністычнай сыстэме, разбурыў стэрэатып пра Беларусь як «рахманую» рэспубліку і пра беларусаў як «лагодны», нават «пакорлівы» народ. Для нас, дэпутатаў Апазыцыі БНФ, тыя красавіцкія дні былі добрай школай: назапашаны досьвед прыдаўся ў жніўні 1991-га.

І ўсё ж, хто вінаваты ў тым, што самы магутны ў гісторыі Беларусі выступ рабочых ня меў таго палітычнага выніку, на які можна было б разьлічваць? Бо калі б патрабаваньні страйкаму і Апазыцыі БНФ былі выкананыя — ужо ў красавіку адбылося б тое, што адбылося 24-25 жніўня. (Між іншым, Грузія прыняла Акт пра аднаўленьне незалежнасьці 9 красавіка 1991-га.)

Мы б выйгралі чатыры месяцы, а ў тым годзе, як цяпер зразумела, адзін дзень каштаваў месяцаў…

Здавалася б, адказ просты: вінаватыя тыя, хто меў уладу, супраць каго і былі накіраваныя страйкі. Аднак такі адказ падаецца занадта спрошчаным: сапраўды, наіўна было б чакаць, што кіраўніцтва

ЦК КПБ, Саўміну, Вярхоўнага Савету адразу пагодзіцца на патрабаваньні, якія ставілі крыж на іх манаполіі на ўладу.

І лідэры страйкавых камітэтаў, і кіраўнікі дэмакратычных партый, якія пачалі ўтварацца, чакалі, што ў абарону рабочых выступіць чалавек, які называў сябе дэмакратам і які дзякуючы менавіта сваёй дэмакратычнай рыторыцы ўзышоў на палітычны Алімп.

На выбарах народных дэпутатаў СССР увесну 1989 году ў Менску не перамог ніхто, каго не падтрымліваў альбо супраць каго агітаваў Народны Фронт. За прарэктара БДУ, фізыка Станіслава Шушкевіча актывісты БНФ праводзілі мітынгі і разносілі ўлёткі. Спрыяньне БНФ Станіслаў Станіслававіч атрымаў і на выбарах у Вярхоўны Савет БССР у сакавіку 1990-га. Да гэтых кампаніяў я ня меў дачыненьня, бо сам на выбары ішоў у Віцебску. Затое добра ведаю, колькі намаганьняў паклалі дэпутаты БНФ, каб на першай сэсіі Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня ў траўні 1990-га правесьці Шушкевіча на пасаду першага намесьніка старшыні ВС.

Паклаўшы руку на сэрца, мы мелі і палітычнае, і маральнае права спадзявацца на ўзаемнасьць. Але ўжо самыя першыя месяцы працы ў Вярхоўным Савеце разьвеялі нашыя ілюзіі. (Вось таму вышэй у ліку тых, хто ў часе страйкаў ускладаў спадзяваньні на Шушкевіча, я не назваў дэпутатаў БНФ.)

Устрымаюся ад уласнай ацэнкі — падам тую, што прагучала тады ў «Навінах БНФ»: «У справе абяззбройваньня беларускага дэмакратычнага рабочага руху Станіслаў Шушкевіч адыграў у пэўным сэнсе злавесную ролю. Ніхто: ні Мікалай

Дземянцей, ні Анатоль Малафееў, ні Аляксей Камай ня здолелі б зрабіць гэтага. Зь імі проста ня сталі б гаварыць. Узяўшы на сябе адказнасьць за далейшае разьвіцьцё падзеяў, С. Шушкевіч ад ранейшай арыентацыі на ўзаемаразуменьне з народам прыйшоў да адмаўленьня права рабочых на ўдзел у палітычным працэсе».

Гэта быў уступ да таго самага інтэрвію, у якім, сярод іншага, Шушкевіч выказаўся пра галоўнае палітычнае патрабаваньне страйкоўцаў і БНФ — наданьне Дэкларацыі аб сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы — як пра жарт.

Тады мне не прыйшла ў галаву гэтая аналёгія, а вось цяпер падумалася, што дзьве ключавыя фігуры, якія апынуліся па розныя бакі таго супрацьстаяньня рабочых і ўлады, два палітычныя антыподы — Антончык і Шушкевіч — мелі ў біяграфіі агульнае, тое, што, здавалася, павінна было б іх больш аб’ядноўваць, чым разьядноўваць. Бацькі абодвух адсядзелі ў ГУЛАГу: бацька Шушкевіча — 14, бацька Антончыка — 17 гадоў.

Чаму ж высновы, зробленыя імі з досьведу бацькоў, гэтак па-рознаму выявіліся ў дні, калі ўзьнік — магчыма, упершыню ў беларускай гісторыі — рэальны шанец зьнішчыць уладу камуністаў, уладу, якая гэтак бязьлітасна прайшлася па іх сем’ях?

У тыя самыя дні ў суседняй Расеі страйкавалі рабочыя, шахцёры — і таксама супраць ЦК КПСС і Крамля, і, як і ў Беларусі, патрабавалі выгнаць камуністычныя парткамы з заводаў, правесьці новыя выбары.

Іх падтрымаў палітык, які, як і Шушкевіч, мог бы сказаць пра сябе — «улада». І нават у большай ступені, бо быў ня першым намесьнікам, а

паўнамоцным старшынём парлямэнту, а да гэтага ўваходзіў у Палітбюро і кіраваў спачатку буйным рэгіёнам, а потым і сталіцай.

Старшыня Вярхоўнага Савету РСФСР Барыс Ельцын не абвінавачваў страйкамаўцаў у несьвядомасьці і гегеманізьме, не заклікаў дэмакратычных лідэраў паўплываць на іх, каб спыніць пратэсты, нарэшце, не зьвяртаўся да сілавых міністраў з патрабаваньнем паслаць на шахцёраў і рабочых АМАП. Ён, наадварот — у поўнай адпаведнасьці з клясычнымі законамі палітычнай барацьбы — скарыстаў рабочы рух Расеі для змаганьня з камуністычным кіраўніцтвам СССР. Так, Ельцын вёў змаганьне з Гарбачовым за ўладу — але здабыцьцё ўлады ёсьць адным з галоўных элемэнтаў палітыкі. Не адзіным, і на пэўных этапах разьвіцьця грамадзтва нават ня самым важным, але — істотным.

Для гісторыі важна, што Ельцын, дамагаючыся ўлады, наносіў удары па камуністычнай сыстэме. Потым, праўда, на парэштках той сыстэмы стварылі такое, што і блізка не нагадвае дэмакратыю.

Але тое ўжо іншая, расейская гісторыя. Ня наша.

# Травень

**5 траўня. Дырэктары, кіраўнікі прафкамаў і старшыні страйкамаў пяці найбуйнейшых прамысловых прадпрыемстваў Віцебску зьвяртаюцца ў Вярхоўны Савет з патрабаваньнем надаць Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце БССР канстытуцыйны характар.**

**7 траўня. Супрацоўнік газэты «Навіны БНФ» Валер Сядоў арыштаваны за ўдзел у антыкамуністычным мітынгу 7 лістапада 1990 году. Ён праводзіць пад арыштам 70 дзён і трымае палітычную галадоўку. Дэпутаты Апазыцыі БНФ патрабуюць ягонага неадкладнага вызваленьня.**

**15 ліпеня. Дэпутацкая група «Саюз» у Вярхоўным Савеце СССР заяўляе, што будзе дамагацца захаваньня СССР.**

**20 траўня. Вярхоўны Савет СССР прымае закон, які дазваляе свабодны выезд грамадзянаў Савецкага Саюзу.**

**21 траўня. Пачынаецца чацьвёртая сэсія Вярхоўнага Савету БССР. Большасьць дэпутатаў адмаўляецца ўключыць у парадак дня прапанаваныя Апазыцыяй БНФ пытаньні аб наданьні Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы, аб кааліцыйным урадзе народнага даверу і патрабаваньні, вылучаныя ўдзельнікамі красавіцкіх страйкаў.**

**Апазыцыі БНФ удаецца не дапусьціць увядзеньня прэзыдэнцтва, якога дамагалася камуністычная большасьць.**

**23 траўня. Вярхоўны Савет Малдаўскай ССР мяняе назоў МССР на Рэспубліка Малдова.**

**26 траўня. Былы дысыдэнт Зьвіяд Гамсахурдзія абраны прэзыдэнтам Грузіі.**

**27 траўня. Завершаны вывад савецкіх войскаў з Чэхаславакчыны.**

# Як мы не дапусьцілі прэзыдэнцтва

Рэакцыяй камуністычнага кіраўніцтва БССР на стотысячны страйк у красавіку 1991-га зрабілася не выкананьне палітычных патрабаваньняў рабочых, а абарона ўласных палітычных інтарэсаў.

Камуністы загаварылі пра неабходнасьць «жалезнай рукі», якая бачылася ім у асобе прэзыдэнта. А галоўнай небясьпекай для іх манапольнай улады ім уяўляліся (трэба сказаць, справядліва) — дэпартызацыя і нацыяналізацыя маёмасьці КПБ-КПСС.

Яшчэ ў сярэдзіне красавіка да нас дайшла інфармацыя, нібыта ва ўрадзе распрацоўваецца закон, які дазволіць ужываць надзвычайныя захады супраць страйкаў ці масавых выступаў (закон аб надзвычайным становішчы).

18 красавіка я занёс у прыёмную старшыні Савету міністраў Вячаслава Кебіча афіцыйны дэпутацкі запыт, які мы падпісалі разам з Валянцінам Голубевым, Уладзімерам Грыбанавым і Барысам Гюнтэрам:

«Паважаны Вячаслаў Францавіч, мы зацікаўленыя ў тым, каб атрымаць ад Вас як старшыні Савету міністраў БССР наступныя зьвесткі:

Ці даваў Савет міністраў указаньне Міністэрству юстыцыі БССР на падрыхтоўку праекту Закону БССР аб палітычных страйках;

У якой форме зроблена гэтае ўказаньне;

Яго мэты і тэрміны выкананьня;



НАРОДНЫ ДЭПУТАТ БЕЛАРУСКАЙ ССР | НАРОДНЫЙ ДЕПУТАТ БЕЛОРУССКОЙ ССР

№____ 18 . красавIка 199I г.

Такіх указанняў я не даваў.

СтаршынI Савета МIнIстрау БССР
спадару КебIчу В.Ф.

ДЭПУТАЦКІ ЗАПЫТ

Паважаны Вячаслау ФранцавIч,

мы зацIкаулены у тым, каб атрымаць ад Вас, як старшынI Савета МIнIстрау БССР, наступныя звесткI:

-- цI давау Савет МIнIстрау указанне МIнIстэрству юстыцыI БССР на падрыхтоуку праекта Закона БССР аб палIтычных страйках;

-- у якой форме зроблена гэтае указанне;

-- яго мэты I тэрмIны выканання;

-- у якой форме, калI I кIм мяркуецца прыняцце гэтага Закона.

Пры гэтым звяртаем Вашу увагу на тое, што абмеркаванне праекта гэтага Закона не уключана у парадак дня чарговы сесII ВС БССР, а толькI там ён можа быць прыняты.

Народныя дэпутаты БССР:

Запыт дэпутатаў Апазыцыі БНФ і адказ Вячаслава Кебіча.

У якой форме, калі і кім мяркуецца прыняцьце гэтага Закону.

Пры гэтым зьвяртаем Вашу ўвагу на тое, што абмеркаваньне праекту гэтага Закону ня ўключана ў парадак дня чарговай сэсіі Вярхоўнага Савету БССР, а толькі там ён можа быць прыняты».

Адказ ад Кебіча мы атрымалі імгненна — празь дзьве гадзіны ён вярнуў мне арыгінал нашага ліста са сваім уласнаручным тлумачэньнем (што было парушэньнем правілаў справаводзтва, затое не пакідала сьлядоў — хаця, магчыма, у сакратарыяце старшыні ўраду і пакінулі копію).

Не выключаю, што гэта адзіная рэзалюцыя, напісаная кіраўніком беларускага ўраду Кебіча на беларускай мове.

«Паважаныя дэпутаты! — пісаў Кебіч. — Такіх указаньняў я не даваў. СМ БССР таксама не даваў».

У сваім адказе Вячаслаў Францавіч напісаў чыстую праўду — праект закону распрацоўвалі ня ў сьценах Савету міністраў, а ў іншым будынку, куды прэм’ер-міністар быў абавязаны зьяўляцца раз на тыдзень на пасяджэньні бюро ЦК КПБ, распараджэньні гаспадара якога мусіў выконваць — бо і на яго, Кебіча, распаўсюджвалася партыйная дысцыпліна. Штаб супраціву страйку быў ня ў Доме ўраду, а ў ЦК КПБ.

Мне падаецца, што дыктат ЦК надакучыў і самому Кебічу — нягледзячы на ягонае ўласнае партыйнае мінулае сакратара гаркаму і абкаму ды загадчыка аддзелу ЦК.

Ён ужо пасьпеў звыкнуцца з роляй кіраўніка ўраду — прычым не старшыні Савету міністраў (хаця фармальна пасада называлася менавіта так), а — прэм’ера. Кебічу хацелася займацца ня толькі гаспадарчымі справамі, разьмеркаваньнем кволага бюджэту, аграсэктарам ды прамысловасьцю, але і палітыкай — тым, чым займаецца прэм’ер-міністар, да прыкладу, меншай за Беларусь Ісьляндыі. І ён разумеў, што мае на гэта ня меншае права, чым калегі зь бюро ЦК КПБ.




Пікет БНФ перад Домам ураду, дзе Вярхоўны Савет абмяркоўваў магчымасьць увядзеньня прэзыдэнцтва.

Аднак у ЦК глядзелі на Кебіча як на выканаўцу дырэктываў, на пажарнага, які мусіў тушыць там, дзе загарэлася.

А «гарэла» — паўсюль.

Пэўна ж, для Кебіча не было сакрэтам і тое, пад каго пачалі так шпарка рыхтаваць пасаду прэзыдэнта — а менавіта ў траўні 1991-га ідэя яе ўвядзеньня пачала фарсіравацца камуністычнай дэпутацкай большасьцю. У афіцыйных СМІ казалі пра неабходнасьць «гаспадара», «моцнай рукі» — гэта было для насельніцтва. Для кіраўнічай жа намэнклятуры, напалоханай рабочымі страйкамі, прэзыдэнцтва было магчымасьцю захаваць манаполію на ўладу, з гэтай задачай дыскрэдытаваны партыйны апарат справіцца ўжо быў няздольны.

Вылучаўся і чалавек, які быў гатовы ўзяць на сябе справу выратаваньня ад «разгулу дэмакратыі» — першы сакратар ЦК КПБ Анатоль Малафееў, які на пленуме ЦК КПСС у Маскве запатрабаваў ад Гарбачова ўвядзеньня надзвычайнага становішча.

## Таварыш Малафееў, галоўны камуніст

Малафееў замяніў на пасадзе першага сакратара ЦК КПБ Яфрэма Сакалова, які надаў Беларусі, паводле словаў Алеся Адамовіча, славу «антыперабудовачнай Вандэі», які не хацеў чуць ні пра якія кампрамісы з новаўтвораным Народным Фронтам. Больш безнадзейнага ў сваім дагматызьме кіраўніка, як Сакалоў, здавалася, быць ня можа.

Аказалася — можа.

Анатоль Малафееў увасабляў у сабе ўсё самае дагматычнае і коснае, што было ў камуністычным партыйным апараце. У поўнай гармоніі з ідэалягічнымі перакананьнямі было і ягонае аблічча — грузная фігура, нейкі цяжкі погляд. Я ня памятаю на ягоным твары хоць бы цень ўсьмешкі. Малафееў ня быў дэпутатам Вярхоўнага Савету БССР, але як народны дэпутат СССР меў права прысутнічаць на сэсіях — зрэшты, першага сакратара ЦК ніхто б не пасьмеў затрымаць і без дэпутацкага мандату. Ён часам сядзеў у правым сэктары, там, дзе ўрад — але ўладкоўваўся на адзін-другі шэраг вышэй за Кебіча, нібыта і гэтым падкрэсьліваў свой статус гаспадара рэспублікі.

Іронія палягала ў тым, што, адрозна ад усіх сваіх папярэднікаў (Мазурава, Машэрава, Кісялёва, Сьлюнькова, або таго самага Сакалова), якіх прызначала Масква, Малафееў быў абраны



Сакратары ЦК КПБ Валеры  Ціхіня, Аляксей Камай і Анатоль Малафееў

першым сакратаром на зьезьдзе КПБ у сьнежні 1990-га на альтэрнатыўных выбарах. Так бы мовіць — дэмакратычна (калі ў камуністаў магла існаваць дэмакратыя). Гэта быў найгоршы выбар, але ён адлюстроўваў настроі большай часткі камуністычнага апарату БССР. Пры гэтым нацыянальны нігілізм быў адметнай якасьцю гэтых настрояў.

На красавіцкім пленуме ЦК КПСС Малафееў быў сярод тых, хто рэзка скрытыкаваў Гарбачова — не за палавінчатасьць дэмакратычных рэформаў, а за тое, што ён увогуле гэтыя рэформы пачаў. Малафееў заявіў, што «партыі хопіць маўчаць», і запатрабаваў увядзеньня на тэрыторыі СССР надзвычайнага становішча — каб уратаваць краіну (то бок, імпэрыю) «ад развалу».

Тая прапанова Малафеева ў Маскве не прайшла (можа, і хацелі б у Крамлі вывесьці на вуліцы танкі, ды ўжо час быў ня той).

А вось у Беларусі, як здавалася Малафееву і ягоным калегам з ЦК КПБ, час можна было спыніць і нават разьвярнуць назад.

Менавіта дзеля захаваньня ўлады кіраўніцтва кампартыі вырашылі ўвесьці пасаду прэзыдэнта і даць яму ў рукі мэханізм надзвычайнага становішча — натуральна, пазбавіўшы нават мінімальнага кантролю з боку дэпутатаў.

Мы разумелі, што рэалізацыя такіх плянаў можа паставіць крыж на беларускай дэмакратыі, зрабіць дасягненьне незалежнасьці Беларусі вельмі аддаленай пэрспэктывай. Магчыма — нават справай наступных пакаленьняў. І таму падрыхтаваліся да жорсткага супрацьстаяньня на сэсіі з нашымі палітычнымі апанэнтамі.

## «...такое робяць людзі, якія сілай захапілі ўладу»

Яшчэ ў канцы красавіка на прэсавай канфэрэнцыі, камэнтуючы патрабаваньне дэпутатаў Апазыцыі БНФ склікаць нечарговую сэсію, Станіслаў Шушкевіч заявіў: «Лёгка быць сябрам народу на плошчы. Значна ж цяжэй напружана працаваць у тым жа Вярхоўным Савеце, шукаць шляхі збаўленьня ад пагрозьлівых цяжкасьцяў. Між тым, ад Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце не паступае прапаноў, па якіх можна працаваць, прымаць рашэньні. Можна, вядома, склікаць сэсію, будзе магчымасьць пагаварыць, але ня будзе магчымасьці нешта зрабіць».

Кажучы гэта, Шушкевіч забыўся, што на папярэдніх сэсіях Апазыцыя БНФ унесла на разгляд парлямэнту больш за дваццаць законапраектаў — пераважна эканамічных, якія атрымалі высокую

ацэнку экспэртаў. Але — ня толькі эканамічных. Вясной жа 1991-га галоўныя рашэньні, якія мы патрабавалі прыняць на сэсіі, не вымагалі шматдзённай працы: абвяшчэньне незалежнасьці Беларусі і дэпартызацыя, пазбаўленьне кампартыі манаполіі на ўладу афармляліся кароткімі пастановамі. І праекты такіх пастаноў, пра што Шушкевіч ведаў, мы мелі.

21 траўня Вярхоўны Савет нарэшце сабраўся на сэсію. Ад імя Прэзыдыюму ВС парадак дня агучыў Шушкевіч. Там не было пункту пра наданьне Дэкларацыі аб сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы, аб выбарах новага Вярхоўнага Савету — затое былі пытаньні пра ўвядзеньне пасады прэзыдэнцтва і праект Саюзнай дамовы.

З гэтым мы, дэпутаты БНФ, не пагадзіліся і ўступілі з Шушкевічам у дэбаты.

Навумчык: «Паважаны Станіслаў Станіслававіч! Калі месяц назад было пасяджэньне Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету і мы ад Апазыцыі ўносілі сваю павестку дня, Вы адказалі, што немагчыма склікаць нечарговую сэсію, таму што пытаньні непадрыхтаваныя. Цяпер мы, дэпутаты, атрымалі павестку дня ў апошні дзень. Дакладней, у дзень, калі пачалася сэсія. Гэта мне зусім незразумела.

Другое. Я лічу, што ўнясеньне ў заканадаўства зьмен і дапаўненьняў, якіх патрабуюць страйкамы і працоўныя калектывы, ажно толькі 27-м пунктам, пасьля таго, як будзе разгледжаны, скажам, закон аб банкруцтве, закон аб занятасьці, закон аб галасаваньні (рэфэрэндуме), гэта проста нелягічна. Таму што шэраг законаў можа быць прынятыя толькі пасьля дэпартызацыі, нацыяналізацыі

маёмасьці, а галоўнае, пасьля наданьня Дэкля-рацыі аб сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы.

Трэцяе. Я маю паўнамоцтвы ад камісіі ўнесьці ў парадак дня пытаньне пра выкананьне пастановы Вярхоўнага Савету БССР аб сродках масавай інфармацыі ВС БССР у той частцы, якая тычыцца «Народнай газеты» і ў прыватнасьці матэрыяльнага забесьпячэньня гэтага органа.

І чацьвёртае. У прэзыдыюм пададзена згодна з рэглямэнтам папера за подпісам дваццаці дэпутатаў з просьбай даць слова па павестцы дня народнаму дэпутату Пазьняку. Прашу гэта зрабіць».

(У выпадку, калі дваццаць дэпутатаў патрабавалі даць слова для нейкага дэпутата — сьпікер быў абавязаны яго даць. Але часам пра гэта «забываўся», таму даводзілася нагадваць.)

Станіслаў Шушкевіч: «Шаноўны Сяргей Іосіфавіч, я думаў, што Вы як дэпутат і як журналіст чытаеце тую газэту, аб якой так клапоціцеся. У ёй значна раней, чым вы кажаце, і ў адпаведнасьці з Рэглямэнтам быў надрукаваны прапанаваны парадак і пытаньні, якія ўносяцца».

Валянцін Голубеў: «Паважаны Станіслаў Станіслававіч, я не чытаў «Народнай газеты», дзе ўсё так тлумачыцца добра пра сэсію. Я працаваў, з аднаго боку, у Канстытуцыйнай камісіі, і з другога боку, удзельнічаў у распрацоўцы закону аб выбарах... Вось зараз Вы падрыхтаванае пытаньне не ўключылі, а пытаньне аб прэзыдэнцтве, не падрыхтаванае зусім, дзе дакумэнты ніякія не распаўсюджаны сярод народных дэпутатаў, пытаньне, якое не абмяркоўвала Канстытуцыйная камісія ў сваім поўным складзе, вы ўнесьлі сюды... Дзе ж лёгіка ў Вас, Станіслаў Станіслававіч?»



Валянцін Голубеў спрабуе ў нечым пераканаць Станіслава Шушкевіча, Мікалая Дземянцея і Васіля Шаладонава.

Станіслаў Шушкевіч: «Шаноўны Валянцін Фёдаравіч, Вы гаворыце, што ў мяне няма лёгікі. Я, прабачце, не скажу, што ў Вас яе няма. У Вас яна ёсьць. Але ў Вас яна своеасаблівая».

На патрабаваньне дваццаці дэпутатаў старшыня быў вымушаны даць слова старшыні Апазыцыі БНФ Пазьняку. Далей цытую стэнаграму.

Зянон Пазьняк: «Ні камуністычны Вярхоўны Савет, ні камуністычны Савет Міністраў за год свайго існаваньня рэальна нічога не зрабілі для паляпшэньня становішча народу Беларусі. Наадварот, сваім бязьдзеяньнем, антыдэмакратызмам, нізкапаклонствам перад Масквой і КПСС, сваёй антынароднай палітыкай падтрымкі каляніяльнага рэжыму ў рэспубліцы пагоршылі становішча і прывялі Беларусь на край бездані. Значна зьнізілася вытворчасьць. Дэфіцыт бюджэту рэспублікі за чатыры месяцы павялічыўся ўдвая і прадаўжае

павялічвацца. Да канца года ён можа дасягнуць 7 мільярдаў рублёў і скласьці 35 працэнтаў, што азначае фінансавы крах рэспублікі і эканамічнае банкруцтва.

У такіх варунках павінны быць праведзеныя хуткія, радыкальныя і завершаныя, не палавіністыя рэформы пераходу да рынку. Расьцягваць такія рэформы на доўгі час нельга. Бо часу няма. А палавіністасьць толькі павялічвае эканамічны крызіс.

Тым часам, вопыт паказаў, што ніякія рыначныя рэформы ня могуць ажыцьцявіцца пры адсутнасьці сувэрэнітэту. Зь Беларусі Масква забірае пяць з паловай мільярдаў рублёў так званага падатку з абароту. Звыш 7 мільярдаў — ваенныя расходы на ўтрыманьне савецкага войска, гарнізонаў і стратэгічных ядзерных базаў. Беларусь фактычна не распараджаецца вынікамі працы свайго народу, сваімі рэсурсамі і будучыняй.

Вопыт паказаў таксама, што ніякія рыначныя рэформы не магчымыя ў варунках манаполіі камуністычнага адміністрацыйнага рэжыму... Пад славаблудзтва аб рынку камуністы робяць пераразьмеркаваньне дзяржаўнай і нарабаванай у народу маёмасьці ў партыйную маёмасьць, імкнуцца мадэрнізаваць прагнілую адміністрацыйную сыстэму.

Такім чынам, сувэрэнітэт, незалежнасьць Беларусі, дэпартызацыя зьяўляюцца першаснымі ўмовамі для рынкавых рэформаў у Беларусі і гарантыяй паляпшэньня жыцьця народу. Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце прапануе ўключыць у павестку дня сэсіі наступныя пытаньні і разгледзець іх у першачарговым парадку.

Першае. Аб наданьні Дэкалярацыі аб сувэрэнітэце Беларускай ССР статусу канстытуцыйнага закону. Другое. Аб дэпартызацыі суду, пракуратуры, органаў МУС, КДБ, прадпрыемстваў і арганізацыяў. Трэцяе. Аб праекце закону пра выбары ў Беларускай СССР. Чацьвёртае. Аб фармаваньні пераходнага ўраду на кааліцыйнай аснове. Пятае. Аб асноўных прынцыпах разьдзяржаўленьня, прыватызацыі і разьвіцьця эканомікі Беларускай ССР. Шостае. Аб савецкім войску і вайсковай службе на тэрыторыі Беларускай ССР. Сёмае. Аб грамадзянстве Беларусі.

... Акрамя гэтага хачу дадаць, што я як народны дэпутат да сёньняшняга дня не атрымаў ніводнага дакумэнта, ніводнага законапраекту, які вынесены на гэтую сэсію. Парадак дня мы атрымалі толькі сёньня на століках перад уваходам у гэты зал».

## Камуністы ідуць у атаку

Увогуле, працэс унясеньня пытаньняў у парадак дня сэсіі быў для нас важны яшчэ і таму, што адбываўся ў першы дзень сэсіі, калі ішла прамая тэле— і радыётрансьляцыя і можна было данесьці свае погляды да мільёнаў жыхароў Беларусі.

Улічвалі гэта і камуністы.

Распачаў атаку другі сакратар ЦК КПБ Аляксей Камай. Ягоны выступ быў арыентаваны выключна на тэле— і радыёаўдыторыю.

Аляксей Камай: «Цяпер Апазыцыя БНФ патрабуе ад дэпутатаў перагляду законаў, прыняцьця патрэбных толькі ім рашэньняў, і пра гэта трэба сказаць наўпрост... Нашпігаваны сёньня да крайнасьці антыкамунізмам востры выступ народнага дэпутата Пазьняка сьведчаць пра тое, што апазы-

цыю не цікавяць пытаньні сацыяльна-эканамічнага становішча ў рэспубліцы (няпраўда — на той момант мы ўнесьлі два дзясяткі законапраектаў, і ўсе яны былі адхіленыя пракамуністычнай дэпутацкай большасьцю — С.Н.). Стрэлкі пераводзяцца на пытаньні палітычных праблемаў, і на іх засяроджваецца ўвага. Сёньня наўпрост скажу, што праблемы дэпартызацыі выклікалі цэлую хвалю чорных жарсьцяў, тэрору сапраўднага вакол камуністаў на сэсіі Вярхоўнага Савету. Уношу прапановы зьняць з пункту 27 павесткі дня тры пытаньні — аб дэпартызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый, аб дэпалітызацыі праваахоўных органаў і аб уласнасьці КПСС-КПБ».

Сяргей Навумчык: «Пасьля таго, як мы прынялі парадак дня, пункт 8, пункт 20, дзе прадугледжваецца закон аб прэзыдэнцтве і аб прававым рэжыме надзвычайнага становішча, то тым самым амаль стварылі перадумовы для ўсталяваньня жорсткага дыктатарскага рэжыму. І гэты жорсткі рэжым можа быць рэальны пры той умове, калі мы ня выканаем патрабаваньні, якія выказвалі, паважаны дэпутат Камай, не апазыцыя і ня нейкія палітычныя партыі, а народ, якія выказвалі сотні тысяч людзей».

Сяргей Антончык: «Мне вельмі спадабаўся выступ паважанага народнага дэпутата Камая. Для ўсіх, і для мяне, і для ўсёй Беларусі, стала зразумела, што камуністычная партыя Беларусі ніколі не адмовіцца ад той маёмасьці, якую сама прысабечыла, і ніколі не дэпартызуецца».

Валер Ціхіня (сакратар ЦК КПБ): «Паважаныя народныя дэпутаты! Патрабаваньні пра дэпалітызацыю, дэпартызацыю носяць антыканстытуцый-

ны характар. Яны супярэчаць нормам савецкага права і міжнароднага права».

Пётра Садоўскі: «Паважаны таварыш Ціхіня і паважаны таварыш Камай ужываюць паняцьці «партыя», «наша камуністычная партыя». Ставіцца знак роўнасьці паміж ёй і парлямэнцкімі партыямі, якія маюцца на ўвазе ў міжнародных дакумэнтах. Гэта не адно і тое ж. Як ужо гаварылася, гэта партыя асобная. Гэта партыя, якая зьлілася зь дзяржавай».

Калі сэсія перайшла да разгляду прапанаванага Апазыцыяй БНФ пакету прапаноў, дыскусія зрабілася яшчэ больш напружанай. Найважнейшым для нас было пытаньне пра незалежнасьць.

Сяргей Навумчык: «Станіслаў Станіслававіч, як Вы разумееце, тыя прапановы, якія былі вынесеныя Апазыцыяй па парадку дня, павінны ісьці першымі. Таму што бязь першай прапановы, без наданьня Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнага закону немагчыма кардынальнае рашэньне ніякіх іншых праблем».

Мікалай Дземянцей: «Калі камісіі не разглядалі, калі камісіі свае адносіны не выказваюць, дык Вярхоўны Савет экспромтам гэтага не прымаў і прымаць ня будзе».

Дземянцей хітраваў — у парлямэнцкіх камісіях большасьць таксама займалі камуністы, і нам было вельмі цяжка, практычна немагчыма правесьці праз іх рашэньні. Дарэчы, потым фраза «працуйце праз камісіі!» стане стандартнай у вуснах Шушкевіча ўжо як сьпікера.

Другім стандартным заклікам праўладных дэпутатаў было — канчайце балбатню, ня трэба палітыкі (і гэта — у парлямэнце!), трэба заняцца

эканомікай (пра тое, як камуністы заняліся эканомікай, крыху пазьней).

Вось дэпутат Апазыцыі БНФ Алесь Шут выступае з крытыкай ураду:

Аляксандар Шут: «За апошні год толькі і чутно: Кебіч даў справаздачу на бюро ЦК КПБ, Мясьніковіча заслухалі там жа, Заламай даклаў па тым жа адрасе. Перад кім, таварышы, вы даяце справаздачу? Зацьвярджаў жа кабінэт міністраў Вярхоўны Савет. І не дарэмна беларускі народ не задаволіўся эканамічнымі патрабаваньнямі. Вячаслаў Францавіч, будзьце мужнымі і чэснымі. Год прайшоў — і крах відавочны. Падайце заяву аб адстаўцы ўсяго кабінэту міністраў. Крок гэта незвычайны для нашай рэліктавай рэспублікі, але гэта будзе сумленны крок. А гэта, у сваю чаргу, дазволіць стварыць пераходны ўрад...»

Не пасьпеў Шут сесьці на месца, як выходзіць на трыбуну дэпутат, старшыня калгасу Іван Данілевіч і зачытвае ліст «простай калгасьніцы, 43 гады адпрацавала»:

«Вельмі просім вас на сэсіі абараніць, як можаце, наш урад. Нам здаецца, ён вельмі ўдалы. Хіба сёньня што зьменіцца, калі мы яго зьменім? Не, канешне. Не дапускайце палітычных амбіцый... І на сэсіі не павінна быць ніякіх палітычных пытаньняў, а павінны разглядацца дзелавыя пытаньні».

За уключэньне ў парадак дня сэсіі пытаньня аб фармаваньні кааліцыйнага ўраду народнага даверу прагаласавалі 42 дэпутаты. Прапанова не прайшла.

## Камуністы ідуць у бізнэс, і зь бюджэту зьнікаюць 100 000 000

Абвінаваціўшы вуснамі другога сакратара ЦК Камая Апазыцыю БНФ у тым, што нас «не цікавяць пытаньні сацыяльна-эканамічнага становішча ў рэспубліцы», камуністычная парлямэнцкая большасьць своеасабліва паставілася да фактаў, якія мелі самае непасрэднае дачыненьне і да эканомікі, і да сацыяльнай сфэры.

Пра іх сказаў у сваім выступе дэпутат Апазыцыі БНФ Юрась Беленькі — адзін з нашых найлепшых эканамістаў, пра якога прэм’ер-міністар Кебіч казаў, што гатовы прапанаваць яму пасаду намесьніка міністра фінансаў (казаў, але ніколі не прапаноўваў).

Беленькі: «Паважаныя дэпутаты! 7 сакавіка гэтага году першы намесьнік нашага прэм’ера Мясьніковіч падпісаў ад імя Савету міністраў Беларускай ССР пагадненьне з Прамбудбанкам СССР. У парушэньне закону Беларускай ССР аб банках і банкаўскай дзейнасьці і прынятай намі пастановы аб акцыянаваньні Прамбудбанку Беларускай ССР. Я б назваў гэта ня проста парушэньнем, а цынічным парушэньнем і надзвычай грубым парушэньнем... Фактычна, перададзеная Прамбудбанку Саюзу ССР адна трэцяя частка крэдытных рэсурсаў. Я ўзяў дакумэнты ў Нацыянальным банку, зрабіў запыт. Паводле іх разьлікаў Беларусь страчвае ад гэтага каля ста мільёнаў рублёў у год... Прашу ўключыць у парадак дня і разгледзець гэтае пытаньне».

Такім чынам, зь бюджэту выводзілася штогод 100 мільёнаў рублёў (яшчэ тых, паўнаважкіх рублёў).

Гэта — бюджэт невялікага (але і ня самага малога) гарадка. У дэмакратычным парлямэнце такая сытуацыя была б прадметам адмысловага разбору, магчыма, стварэньня адмысловай камісіі.

У нашым пракамуністычным Вярхоўным Савеце выступ Беленькага таксама не застаўся без увагі — на яго імгненна зрэагаваў старшыня пляна-ва-бюджэтнай камісіі Раман Унучка, у нядаўнім мінулым — першы сакратар Наваградзкага гаркаму камуністычнай партыі.

Раман Унучка: «Паважаныя народныя дэпутаты! Сапраўды, такое пагадненьне ёсьць, падпісанае Мясьніковічам і прадстаўнікамі Прамбудбанку СССР. Я думаю, няма неабходнасьці ўносіць гэтае пытаньне сёньня на разгляд сэсіі. Я думаю, што мы ў камісіі разгледзім і знойдзем агульныя падыходы».

Станіслаў Шушкевіч: «Хто за тое, каб уключыць у парадак дня пытаньне аб парушэньні Саветам міністраў Беларускай ССР заканадаўства БССР?»

«За» — толькі 73 дэпутаты.

Такім чынам, пытаньне ў сэсію не ўключылі, ну а на пасяджэньні камісіі Беленькі ды іншыя дэпутаты БНФ маглі выступаць колькі заўгодна — пасяджэньні гэтыя праходзілі за зачыненымі дзьвярыма, без удзелу прэсы, і рашэньні прымаліся галасаваньнем пры поўнай перавазе камуністаў.

(Далейшая біяграфія Рамана Ўнучкі — ілюстрацыя слоў Пазьняка, якія прагучалі ў той дзень, пра «пераразьмеркаваньне маёмасьці» і прыклад таго, як камуністы ўладкаваліся ў бізнэсе, дый ня толькі ў бізнэсе. Яшчэ займаючы пасаду старшыні парлямэнцкай камісіі, Унучка стаў старшынём праўленьня «Белінвэстбанку», потым быў памоч-

нікам прэзыдэнта Беларусі, віцэ-прэм’ерам, а па дасягненьні пэнсійнага ўзросту — старшынём назіральнай рады «Аграпрамбанку»).

## Калі ёсьць сэнс змагацца

Пытаньні на парадак дня на сэсіі прадстаўляў Станіслаў Шушкевіч, і стэнаграма зафіксавала адметны дыялёг, які дае ўяўленьне пра стаўленьне Станіслава Станіслававіча да прапаноў дэпутатаў Апазыцыі БНФ.

Яўген Цумараў: «Пастанова аб беларускай мове і дзяржаўных сродках масавай інфармацыі. Гэта ўсё гатова і ўзгоднена і запратакаліравана на камісіі. Чаму гэта нават не выносіцца на галасаваньне? Я разумею, сэсія можа прагаласаваць супраць, але ж Вы дайце галасаваньне».

Станіслаў Шушкевіч: «Адказаць Вам шчыра, чаму?»

Яўген Цумараў: «Калі ласка».

Станіслаў Шушкевіч: «Таму, што вынікі яго вядомыя. І мы проста марнуем час з Вамі».

Яўген Цумараў: «Вельмі мудра для намесьніка старшыні Вярхоўнага Савету, вельмі мудра».

Станіслаў Шушкевіч: «Я проста аналізаваў сытуацыю. Я магу гэтым быць незадаволены. Калі ласка, я запісаў вашы прапановы».

Заўважу, што — калі кіравацца такой мудрасьцю і такім аналізам — увогуле не было б сэнсу нам, дэпутатам БНФ, нічога прапаноўваць і за нешта змагацца. Нагадаю, нас жа была ў парлямэнце толькі дзясятая частка, і вырашала не аргумэнтацыя, а арытмэтыка.

Але мы прапаноўвалі, змагаліся і часта — перамагалі.

У той дзень, 21 траўня, прапанова аб уключэньні ў парадак дня пытаньня аб наданьні Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнага закону (фактычна, абвяшчэньне незалежнасьці Беларусі) набрала толькі 118 галасоў.

Але ў наступныя дні нам удалося прадухіліць і ўвядзеньне надзвычайнага становішча, і ўвядзеньне пасады прэзыдэнта.

## «... магчымасьць для выратаваньня прагнілага, праклінанага ўсім народам рэжыму»

Праз два тыдні працы сэсіі дэпутат БНФ Міхаіл Крыжаноўскі папрасіў слова на пачатку аднаго з пасяджэньняў. Ён заўважыў, што да заканчэньня сэсіі засталося няшмат часу, аднак ні па водным з галоўных пытаньняў рашэньня не прынята (меліся на ўвазе наданьне Дэклярацыі аб сувэрэнітэце канстытуцыйнай сілы і дэпартызацыя). «Учора, напрыклад, зьбіралі дэпутатаў ад Менскай вобласьці, і шаноўныя дэпутаты Цішкевіч і Каратчэня паведамілі, што нам ужо хутка трэба прыняць, зацьвердзіць і абраць прэзыдэнта нават на гэтай сэсіі. Чаму ў членаў Прэзыдыюму ёсьць матэрыялы аб прэзыдэнце, а ў дэпутатаў няма? Чаму мы ня маем ніякіх матэрыялаў па тых пытаньнях, якія ўздымаліся рабочымі ў час красавіцкіх выступленьняў?»

Паводле ацэнкі парлямэнцкага карэспандэнта «Народнай газеты» Сяргея Плыткевіча, абмеркаваньне закону «Аб прававым статусе надзвычайнага становішча» (прадстаўлялі яго намесьнік міністра юстыцыі Леанід Дашук і старшыня пар-

лямэнцкай камісіі Мечыслаў Грыб) «было вельмі і вельмі бурным». Вось некаторыя цытаты.

Рыгор Вячэрскі: «Мы толькі што асудзілі тыя рэпрэсіўныя меры, якія былі ўжо ў нашай гісторыі, і зараз ізноў імкнемся выдаць закон, у якім практычна ўсё рэабілітуецца і рэанімуецца. Дзе ж сэнс?»

Леанід Дашук (намесьнік міністра юстыцыі) спаслаўся на тое, што ўжо прыняты «саюзны» закон «Аб прававым рэжыме надзвычайнага становішча», а таксама што, маўляў, ня трэба ўвязваць магчымасьць увядзеньня надзвычайнага становішча толькі з палітычнымі матывамі — могуць быць стыхійныя бедзтвы, катастрофы і эпідэміі.

Мечыслаў Грыб (старшыня парлямэнцкай камісіі па абароне і барацьбе са злачыннасьцю) выступаў з судакладам і, натуральна, падтрымаў прыняцьце закону.

Сяргей Навумчык: «Я вельмі ўважліва чытаў праект гэтага закону, таму што напярэдадні, як вядома, на пленуме ЦК КПСС выступіў народны дэпутат СССР, першы сакратар кампартыі Беларусі Малафееў і прапанаваў увесьці нешта падобнае ў межах Саюзу. Але за 73 гады мы ўпэўніліся, што ўсе гэтыя мэтады дыктату нічога нам не далі. І зараз я не пагаджуся з дакладчыкамі, што мы, маўляў, толькі ўносім нормы, і гэта ня значыць, што мы будзем уводзіць надзвычайнае становішча. Паважаныя дэпутаты, давайце ня будзем падманваць сябе!»

Ігар Пырх: «Семдзесят гадоў для надзвычайнага становішча не было абсалютна ніякіх законных падстаў, але рэжым такі існаваў. І вынікі яго відавочныя. Чаму так адбылося? Таму што манаполія ўлады ў руках адной палітычнай сілы вядзе да

таго, што ў грамадзтве і дзяржаве няма кантролю за рэалізацыяй надзвычайнага становішча. І цяпер у нас нічога не зьмянілася. Праўда, магчыма, прыйшоў час, калі цяжка вырашаць пытаньні аб падтрымцы надзвычайнага становішча ў кабінэтах. Таму ўзьнікла неабходнасьць прыняць закон, каб выкарыстаць любую магчымасьць для ратаваньня прагнілага, праклінанага ўсім народам рэжыму. І няма тут ніякай сацыяльнай абароны людзей, закон будзе выкарыстоўвацца для націску адной палітычнай сілы на іншыя».

Аляксандар Шут: «Якія мэты закону, і ці былі сытуацыі ў нашым жыцьці, каб прымяняць яго? Цяпер страсьці распальваюцца напярэдадні дэпартызацыі і нацыяналізацыі вядомай усім нам маёмасьці. А вось у 1986 годзе, калі сапраўды была трагедыя, ніхто чамусьці ня ўспомніў пра такі закон, людзі выходзілі на першамайскія дэманстрацыі і нічога ня ведалі пра небясьпеку».

Генадзь Лавіцкі (генэрал, намесьнік старшыні КДБ): «Мне таксама несымпатычны гэты закон, на маю думку, гэта адзіны закон, які ніколі не павінен уступаць у дзеяньне ў нашай рэспубліцы, але прымаць яго трэба».

Уладзімер Новік: «Паважаныя дэпутаты! Я раю ўсім вам паглядзець на артыкул шосты Канстытуцыі Беларускай ССР, дзе грамадзянам гарантуюцца асноўныя правы, свабоды. Дадзены закон не спасылаецца на гэты артыкул, а дае сваё вызначэньне правам грамадзян. Як мы можам разглядаць закон, які робіць замах на Канстытуцыю?»

Валеры Ціхіня (сакратар ЦК КПБ): «Дэмакратыя па-за законам — гэта анархія з усімі адпаведнымі вынікамі. І мы ня можам у нашай рэспубліцы навесьці канстытуцыйны парадак, калі самаволь-

ства, анархія, заклікі да зьвяржэньня існуючага грамадзкага ладу ня будуць спыняцца. Аб гэтым і гаварыў Анатоль Аляксандравіч Малафееў. Таму я падтрымліваю прапанову камісіі па законнасьці аб неабходнасьці прыняцьця Закону «Аб прававым рэжыме надзвычайнага становішча».

Валянцін Голубеў: «Тое, што можа ўводзіцца асаблівая форма кіраваньня, што могуць адмяняцца ўсе законы, магчыма толькі пры антыдзяржаўным перавароце; такое робяць людзі, якія сілай захапілі ўладу альбо ня могуць больш кіраваць у адпаведнасьці зь дзяржаўнымі законамі».

Гэта быў той самы выпадак, калі нам, дэпутатам Апазыцыі БНФ, удалося пасьпяхова скарыстаць і дэпутацкую трыбуну (аргумэнтацыю і эмацыйнасьць), і парлямэнцкія кулюары (шмат з кім з тых, хто вагаўся, праводзілі перамовы «самнасам» — і «за» прагаласавалі 158 дэпутатаў.

Прыхільнікам увядзеньня надзвычайнага становішча не хапіла 15 галасоў (для станоўчага рашэньня патрабавалася 173)».

Закон аб надзвычайным становішчы ня быў прыняты.

І калі 19 жніўня 1991 году самаабвешчаны ў Маскве ГКЧП такое надзвычайнае становішча на тэрыторыі СССР увёў — гэта давала нам права паставіць пад сумнеў ягоную законнасьць.

## Прэзыдэнцтва адкладаецца на тры гады

Пацярпеўшы фіяска з надзвычайным становішчам, камуністы фарсіравалі ідэю прэзыдэнцтва.

Прычым прапанавалі абраць прэзыдэнта як найхутчэй — на сэсіі.

Тады, у чэрвені 1991-га, шмат каму здавалася, што прэзыдэнцтва плянавалася «пад Кебіча». На карысьць такой вэрсіі — палажэньне ў адным з праектаў аб тым, што прэзыдэнтам можа быць толькі народны дэпутат БССР. Кебіч ім быў, Малафееў — не. Але Малафееў быў народным дэпутатам СССР, і ў момант галасаваньня асобнага артыкулу закону парлямэнцкая большасьць лёгка магла ўнесьці дадатак «...альбо народным дэпутатам СССР». Ці — увогуле прыбраць згадку пра дэпутацтва.

«Апазыцыя рашуча абвясьціла аб тым, што не прымае самой ідэі. Перад пачаткам галасаваньня Зянон Пазьняк назваў прапанаваныя законапраекты антынароднымі», — адзначала «Народная газета».

Сапраўды, мы былі перакананыя, што ўвядзеньне пасады прэзыдэнта (прычым нават і ўсенародна абранага) прывядзе да празьмернай канцэнтрацыі ўлады ў адных руках і непазьбежна скончыцца дыктатурай.

Але калі наконт закону аб надзвычайным становішчы мы маглі знайсьці саюзьнікаў сярод «нэўтральных» дэпутатаў, дык з прэзыдэнцтвам было цяжэй. Ды што казаць — проста безнадзейна. За ўвядзеньне пасады прэзыдэнта быў Шушкевіч (ён, праўда, вагаўся, але ўрэшце пагадзіўся). З прэзыдэнцтвам зьвязвалі сваю палітычную будучыню Генадзь Карпенка і Віктар Ганчар — і тут ніякія нашы апэляцыі да законаў грамадзкага разьвіцьця не спрацоўвалі.

І хаця большасьць дэпутатаў так званым рэйтынгавым галасаваньнем у чэрвені 1991-га выказалася за ўвядзеньне — у пэрспэктыве — пасады прэзыдэнта, у тыя дні нам удалося зрабіць галоў-

нае: не дапусьціць увядзеньня прэзыдэнцкай пасады адразу і абраньня прэзыдэнта на сэсіі.

Малафееў пацярпеў фіяска.

Я перакананы, што калі б у жніўні 1991-га Малафееў меў паўнамоцтвы прэзыдэнта, падзеі маглі б разгортвацца паводле найгоршага для беларускай незалежнасьці сцэнару. Зноў жа нагадаю, што ўжо тады, калі лёс путчу быў зразумелы, Малафееў на пасяджэньні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР быў адзіны, хто ўстрымаўся ад асуджэньня путчыстаў — такое вялікае было ў яго жаданьне захаваць імпэрыю ў яе нязьменным, камуністычным варыянце. Праз два дні, 24 жніўня, мы сагналі Малафеева з трыбуны — як збанкрутаванага першага сакратара збанкрутаванай партыі. Гэтае відовішча (усёмагутнага першага сакратара ЦК КПБ зганяюць з трыбуны) зламала волю камуністаў да супраціву і дазволіла нам правесьці свае рашэньні. З прэзыдэнтам зрабіць гэта, мяркую, было б немагчыма. І нават калі б 25 жніўня нам і ўдалося надаць Дэкларацыі аб сувэрэнітэце канстытуцыйную сілу, пры аўтарытарным прэзыдэнце Беларусь ня мела б тых трох гадоў адноснай свабоды да ліпеня 1994-га, гадоў, якія, хай і не ў ідэальным варыянце, але далі магчымасьць для нацыянальнага Адраджэньня.

У тыя чэрвеньскія дні нам удалося адцягнуць надыход аўтарытарызму — на тры гады, але адцягнуць....

# Чэрвень

**7 чэрвеня. Вярхоўная Рада Ўкраіны вырашае неадкладна перавесьці саюзныя прадпрыемствы, разьмешчаныя на тэрыторыі рэспублікі, пад юрысдыкцыю УССР.**

**8 чэрвеня.** Агульнанацыянальны кангрэс чачэнскага народу абвяшчае незалежную Чачэнскую рэспубліку.

**11 чэрвеня.** ЗША выдаткоўваюць СССР чарговы крэдыт 1,5 мільярда даляраў на прадукты харчаваньня.

**12 чэрвеня.** Барыс Ельцын абраны прэзыдэнтам РСФСР.

**12 чэрвеня.** Вярхоўны Савет БССР галасуе за падпісаньне прапанаванай М. Гарбачовым саюзнай дамовы. Дэпутаты Апазыцыі БНФ выказваюцца супраць.

**13-14 чэрвеня.** Вярхоўны Савет абмяркоўвае справаздачу сваёй Часовай камісіі аб ацэнцы дзеяньняў службовых і іншых адказных асобаў у сувязі зь ліквідацыяй наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

**16 чэрвеня.** Барыс Ельцын заяўляе на пасяджэньні Эўрапарлямэнту, што Расея не выступае за распад СССР.

**17 чэрвеня.** У Нова-Агарове пад Масквой дзевяць рэспублік СССР (у тым ліку Расея і Беларусь) парафіруюць праект новай «саюзнай дамовы».

**25 чэрвеня.** Харватыя і Славенія абвяшчаюць незалежнасьць ад Югаславіі.

**28 чэрвеня.** Ліквідаваны Савет эканамічнай узаемадапамогі былых сацыялістычных краінаў, вядомы ў СССР СЭВ.

# Як БНФ дамогся праўды пра Чарнобыль

Чарнобыльская тэма сапраўды была адной з галоўных для Беларускага Народнага Фронту зь першых дзён заснаваньня.

У траўні 1990-га дэпутаты БНФ запатрабавалі расьсьледаваньня абставінаў утойваньня інфармацыі аб Чарнобыльскай катастрофе. Ад мікрафона з такой прапановай ужо ў першы дзень першай сэсіі Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня выступіў Лявон Баршчэўскі. Праз некалькі дзён створаная часовая парлямэнцкая камісія па ацэнцы дзейнасьці службовых і іншых адказных асобаў у сувязі зь ліквідацыяй наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Мяне ўключылі ў яе склад, а ўзначаліў яе лекар, доктар мэдычных навук Рыгор Вячэрскі.

Мы апыталі навукоўцаў і грамадзкіх дзеячоў — прафэсара Васіля Несьцярэнку, пісьменьніка Алеся Адамовіча ды іншых, хто адразу пасьля Чарнобыльскай катастрофы папярэджваў пра пагрозу, а таксама тагачасных высокіх чыноўнікаў, міністраў і генэралаў, якія праўду пра Чарнобыль утойвалі. Праўда, не ўдалося пагутарыць з былым старшынём Савету Міністраў СССР Мікалаем Рыжковым і генэральным сакратаром ЦК КПСС Міхаілам Гарбачовым (кароткую гутарку з Гарбачовым у лютым 1991-га я ўжо прыгадваў; ён абяцаў сустрэцца і адказаць на нашыя пытаньні, але не сустрэўся). Аднак мы атрымалі абсалютна дакладныя зьвесткі, што ў Крамлі ўжо ў самыя першыя дні мелі дастаткова поўную інфармацыю

пра ступень небясьпекі, і менавіта адтуль пайшла жорсткая каманда: маўчаць!

Паступова перад намі вымалёўвалася карціна суцэльнага падману, куды, як у варонку, уцягваліся партыйныя сакратары, міністры, навукоўцы, лекары. У Беларусі мэханізм хлусьні кантраляваўся кампартыяй і КДБ.

13-14 чэрвеня 1991 г. наша камісія зрабіла справаздачу Вярхоўнаму Савету.

Паводле яго рашэньня, справаздачы і дэбаты былі цалкам паказаныя па тэлебачаньні, і я запісаў гэтыя два дні сэсіі на відэамагнітафон.

Наколькі ведаю, гэта адзіны поўны відэазапіс разгляду нейкага пытаньня на сэсіі, які захаваўся не ў дзяржаўнай установе (іншыя існуюць толькі ў фрагмэнтах). Мне расказалі, што ўжо пры Лукашэнку на Беларускім тэлебачаньні зьнішчылі запісы з тысячамі гадзінаў унікальнага архіўнага матэрыялу — спэктакляў і тэлепастановак, творчых вечарынаў (у тым ліку і 50-годзьдзя Ўладзімера Караткевіча), інтэрвію зь пісьменьнікамі, мастакамі — словам, шмат з таго, што назапашвалася дзесяцігодзьдзямі і зьяўляецца культурным здабыткам нацыі. Зусім магчыма, што размагнічаныя і запісы сэсіяў Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, які галасаваў за незалежнасьць Беларусі — ва ўсякім разе, у канцы 2000-х гадоў поўны камплект стэнаграмаў выкінулі з Дому ўраду на сьметнік.

Але запіс абмеркаваньня чарнобыльскага пытаньня ў мяне захаваўся, і ён даносіць да нас галасы тых дзён.

Агульную справаздачу камісіі зрабіў яе старшыня Рыгор Вячэрскі:

«Першы сакратар ЦК КПБ Сьлюнькоў, бюро ЦК КПБ валодалі інфармацыяй у поўным аб’ёме ўжо

29 красавіка 1986 году. Аналягічную інфармацыю меў і старшыня Савету міністраў Кавалёў, у якога ў гэты самы дзень адбылася апэратыўная нарада, у якой удзельнічалі міністар аховы здароўя БССР Саўчанка, яго супрацоўнікі Кондрусеў, Іўчанка, а таксама Мазай, старшыня Мінгарвыканкаму Міхасёў і начальнік штабу грамадзянскай абароны БССР Грышанін. І таварыш Сьлюнькоў, і таварыш Кавалёў раілі не панікаваць і не хваляваць народ, бо нічога, маўляў, страшнага не адбылося. У выніку такіх безадказных паводзін першых кіраўнікоў рэспублікі, а таксама і адпаведных кіраўнікоў вобласьцяў і райцэнтраў рэспублікі, жыхары Беларусі разам зь дзецьмі былі паўсюль выведзеныя на першамайскую дэманстрацыю. Сьлюнькоў і Саўчанка, якія выступілі потым з экранаў тэлебачаньня, суцяшалі насельніцтва рэспублікі байкамі аб тым, што «страшнага нічога не адбылося, ніякай дапамогі Беларусі не патрэбна, і мы хутка самі справімся з гэтай аварыяй».

Злачынным зьяўляецца тое, што ўсё зьвязанае з Чарнобыльскай катастрофай было строга засакрэчана ад народу і абсалютнай большасьці мэдыцынскіх работнікаў. Гэтыя каманды паступалі асабіста ад Рыжкова (у нас ёсьць дакумэнтальны запіс гутаркі на стужцы), ад Петрасьянца, Шчарбіны, Шульжэнкі, Бакшутава і Ізраэля. Аднак, усе тэлеграмы аварыйнага пэрыяду зьнішчаны. Указаныя вышэй кіраўнікі ўхіліліся ад вырашэньня неадкладных праблем, спароджаных катастрофай, хавалі праўду ад свайго народу...

Быў дадзены загад зьмешваць брудныя і чыстыя тушы жывёлін у прапорцыях ад адной да дзесяці да адной да адной. Забруджанае мяса непрыхавана развозілася па рэспубліцы і краіне. Толькі

са складу «Заходні», што ў Смалявічах, які наведала наша камісія, дзясяткамі і сотнямі тонаў забруджанае радыенуклідамі мяса было адгружанае ў 55 пунктаў рэспублікі. Каля 2000 тонаў забруджанага радыенуклідамі мяса знаходзіцца на гэтым складзе і да сёньня. Гэтае мяса адпраўлялася «ад Масквы да самых да акраін» — ад Брэсту да Ташкенту. Гэта сьвядомае злачынства, бо мяса ішло ў ежу людзям, у тым ліку і дзецям».

Калі мы апытвалі міністраў і генэралаў, нам казалі, што ня варта засяроджвацца на мінулым («што было, тое прайшло»), трэба жыць рэчаіснасьцю. Але ў рэчаіснасьці злачынствы працягваліся, і распараджэньні зноў ішлі з ЦК КПБ. Пра гэта і казаў у справаздачы нашай камісіі яе старшыня.

Рыгор Вячэрскі: «Сяўба і збор ураджаю (у Чарнобыльскай зоне — С.Н.) пачынаючы зь вясны 1986 году і па сёньняшні дзень выконваецца сыстэматычна. Усё ідзе ў ежу людзям і на корм жывёле. Сабраны і фактычна спажыты ўраджай і 1990 году. І гэтая практыка сьвядома працягваецца.

29 жніўня 1990 году на сумесным паседжаньні бюро ЦК КПБ і Савету міністраў БССР, пратакол нумар 17/10 пад старшынствам Івана Кеніка, было прынятае рашэньне аб сеяньні азімых культур пад ураджай 1991 году на тэрыторыях са шчыльнасьцю забруджваньня ад 15 да 40 кюры на квадратны кілямэтар. Праведзеная веснавая сяўба ў гэтых раёнах і ў гэтым годзе. Усё гэта сьведчыць, што ў забруджаных раёнах сельскагаспадарчая дзейнасьць вядзецца сыстэматычна, нягледзячы на выключэньне шэрагу земляў зь севазвароту.

Толькі ў Веткаўскім раёне Гомельскай вобласьці, які фактычна ўвесь амаль падлягае адсяленьню, у 1990 годзе быў сабраны ўраджай з плошчы

7000 га. І ўжо рэалізаваны. Аналягічная карціна назіраецца ў Буда-Кашалёўскім, Нараўлянскім, Краснапольскім і іншых раёнах рэспублікі. Як бачыце, па ўказцы кіруючых і адказных асоб пры гэтым прынамсі сьвядома насельніцтва рэспублікі знаходзіцца пад уплывам зьнешняга і ўнутранага радыеактыўнага апраменьваньня».

Было сказана і пра тых навукоўцаў, якія прапанавалі «35-бэрную канцэпцыю», якая апраўдвала пражываньне людзей на так званых «слабазабруджаных» тэрыторыях — хоць ужо ў 1991 годзе меліся дадзеныя пра адмоўны ўплыў малых дозаў радыяцыі на здароўе.

Рыгор Вячэрскі: «Такім чынам, вывучыўшы і прааналізаваўшы вялізную колькасьць фактычных матэрыялаў і дакумэнтаў і на аснове сустрэч з шэрагам дзяржаўных і другіх адказных асобаў, камісія прыйшла да наступных высноў:

Першае: Дзейнасьць службовых і другіх адказных асобаў, закліканых зрабіць поўныя і эфэктыўныя захады па ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС у шэрагу выпадкаў зьяўляецца безадказнай і злачыннай. Неабходна акрэсьліць ступень віны кожнага кіруючага работніка, які не зрабіў неабходных захадаў па забесьпячэньні бясьпечных жыцьцёвых умоваў насельніцтва Беларусі і аб выніках паведаміць Вярхоўнаму Савету БССР.

Другое: неабходна строга забараніць выкарыстаньне забруджаных зямельных угодзьдзяў для вытворчасьці сельгаспрадукцыі і гадоўлі жывёлы ўсюды, дзе нельга атрымаць чыстыя прадукты харчаваньня для насельніцтва

Трэцяе: неабходна ўтварэньне пазаведамаснага рэспубліканскага цэнтру радыяцыйнай абароны насельніцтва, незалежнага ў вызначэньні ўмоваў



З дакладам выступае старшыня часовай парлямэнцкай камісіі Рыгор Вячэрскі; фрагмэнт тэлетрансьляцыі.

пражываньня і арганізацыі дзейснага кантролю за выкананьнем нормаў радыяцыйнай небясьпекі у ведамасных радыелягічных службах, а таксама для забесьпячэньня выкананьня жорсткіх патрабаваньняў аб чыстым і бясьпечным харчы для народу. На думку камісіі, такі цэнтар павінен быць падпарадкаваны Вярхоўнаму Савету БССР.

Чацьвёртае: камісія лічыць няпоўнай і неаб'ектыўнай ацэнку маштабаў чарнобыльскай трагедыі, якая дадзеная экспэртамі ў рамках Міжнароднага чарнобыльскага праекту з той прычы-

ны, што яна ня ўлічвае мноства фактараў, якія мелі месца ў востры пэрыяд аварыі. А таксама праз чатыры гады і да сёньня, бо яна заснаваная на малой выбарцы, ня ўлічвае ліквідатараў, якіх амаль 700 тысяч, і многае іншае.

І апошняе: камісія лічыць сваю работу скончанай».

Вось з апошняй высновай Вячэрскага — з тым, што трэба завяршыць працу камісіі — мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, якія ўваходзілі ў яе склад, не пагаджаліся. Былі ў нас і іншыя прапановы. Мне давялося першым уступіць у дыскусію, дзе я зьвярнуў увагу на тэму палітычнай адказнасьці.

Першыя выступы па чарнобыльскай тэме і мы, дэпутаты БНФ, і камуністы слухалі ўважліва, але падчас майго выступу (і гэта можна заўважыць у відэазапісе), дэпутат ад Шклоўскай выбарчай акругі 310 Аляксандар Лукашэнка хадзіў па зале і пра нешта размаўляў зь іншымі дэпутатамі. Расьсьледаваньне чарнобыльскай сытуацыі патрабавала карпатлівай працы, вывучэньня сотняў дакумэнтаў і не давала ніякіх асабістых палітычных дывідэндаў. І, выглядае, ня вельмі цікавіла Аляксандра Лукашэнку. Заўсёды гаваркі, пры абмеркаваньні гэтага «чарнобыльскага пытаньня» Лукашэнка ніводнага разу ня выступіў — ні з трыбуны, ні ад мікрафона.

Сяргей Навумчык: «Часта даводзіцца чуць: «А навошта вось гэтыя разборы, навошта дасьледаваньні тых падзеяў, якія былі і пяць, і шэсьць гадоў назад? Што гэта зьменіць, ці дасьць гэта нейкі паратунак? Зрэшты, тое, што зроблена — тое зроблена». Гэта, безумоўна, ня так, таму што відаць, праслухаўшы выступ дэпутата Вячэрскага, вы пераканаліся, што мадэль, якая працавала ў пачатку



Аўтар у часе дыскусіі ад мікрафона. Фрагмэнт тэлетрансляцыі.

1986 году, працуе і цяпер. Як і раней, вырабляецца сельскагаспадарчая прадукцыя, як і раней, яна (можа, ужо не ў такіх аб'ёмах), ідзе ў «чыстыя» зоны, у тым ліку на Віцебшчыну і за межы рэспублікі, І ўжо, відаць, у нас няма абсалютна «чыстых» зонаў.

Дык хто ж канкрэтна вінаваты? Рыжкоў, ці Сьлюнькоў, ці Кавалёў, ці хто іншы? Я не ўскладаю асаблівых надзеяў на працу і пракуратуры СССР, і нават нашай пракуратуры. Як гэта заўсёды ў нас бывае, знаходзяць «стрэлачнікаў», а сапраўдныя віноўнікі застаюцца непакаранымі. Ды, відаць, і пытаньне нейкай крымінальнай адказнасьці тут ня можа ўставаць, бо самае парадаксальнае — што гэтыя людзі дзейнічалі быццам бы паводле закону. Паводле таго закону, які тады і цяпер, прынамсі, дзейнічае. Прычым я маю на ўвазе не закон у звычайным разуменьні. Вось правільна заўважыў

Алесь Адамовіч некалі: чаму Сьлюнькоў і іншыя, маючы такую інфармацыю, яе хавалі? Чаму яны не пайшлі і не сказалі народу? Ды таму не сказалі, што ўжо да таго часу іх душа была сотні разоў закладзеная д'яблу. Працуючы ў гэтай сыстэме, яны дзясяткі і тысячы разоў хлусілі — і народу, і самім сабе. Таму яны дзейнічалі «абсалютна правільна», але «правільна» — у рамках тых маральных каардынатаў, што для іх вызначала сыстэма, якая ў нас даўно пануе. Я асабіста лічу, што калі гаварыць пра палітычную адказнасьць... Вось дарэчы, учора тут паважаны дэпутат Смоляр прыгадваў, што ня трэба нам з Чарнобылю рабіць нейкія палітычныя гульні. Гульні сапраўды рабіць ня трэба. І ня трэба на Чарнобылі спэкуляваць. Таму што Чарнобыль — гэта сьмерці, і самае страшнае, што Чарнобыль накіраваны не ў мінулае, а ў будучыню. Гэта будзе праз пакаленьні. Але такія катастрофы якраз і вымушаюць рабіць палітычныя высновы. Я выкажу сваю ўласную думку, я не ўзгадняў яе з членамі нашай камісіі... Але я лічу, што ў любой цывілізаванай краіне (і хай таварышы камуністы мне тут даруюць), калі б любая партыя столькі зрабіла ва ўтойваньні інфармацыі пра катастрофу маштабу чарнобыльскай столькі, колькі ў нас зрабіла КПСС — такая партыя не магла б прэтэндаваць на ўладу як мінімум пры жыцці тых пакаленьняў, якія на сабе спазналі вось гэтыя вынікі».

Дэпутат БНФ Юрась Беленькі пабудаваў увесь свой выступ на адной цытаце з артыкулу колішняга сакратара ЦК КПБ Пячэньнікава — але нагэтулькі красамоўнай, што яна і не патрабавала ніякіх камэнтароў.

Юры Беленькі: «Я думаю, на пытаньне, хто зьяўляецца злачынцам за ўтойваньне праўды пра

наступствы Чарнобылю, лепш не адкажа ніхто, як самі злачынцы. Хачу прывесьці адну цытату з кнігі, якая называецца «Аргумэнтавана, наступальна, эфэктыўна» з падзагалоўкам «З вопыту ідэалягічнай працы ў Беларусі», выдадзенай у Маскве ў выдавецтве палітычнай літаратуры ў 1988 годзе. Артыкул Валерыя Пячэньнікава, на той час сакратара ЦК кампартыі Беларусі, «Самы пераканаўчы аргумэнт у ідэалягічным супрацьстаяньні». На старонцы 12 напісана: «ЦК кампартыі ўсямерна падвышае адказнасьць партыйных камітэтаў і арганізацый, кіраўнікоў усіх зьвеньняў за лёсы сацыяльных плянаў...», — і далей: — «Так было, у прыватнасьці, у часе ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, вакол якой спачатку асобныя ворагі на Захадзе разьвязалі шумную антысавецкую кампанію выкрыўленьня рэчаіснасьці, прамых перадзёргваньняў і домыслаў. Партыйныя і савецкія органы рэспублікі, абапіраючыся на падтрымку ўсёй краіны, апэратыўна ажыцьцявілі шырокую праграму сацыяльна-эканамічных захадаў у раёнах Гомельскай вобласьці, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджваньню. Гэтыя меры прадугледжвалі тэрміновую эвакуацыю часткі насельніцтва зь небясьпечных зонаў, забесьпячэньня яго добраўпарадкаваным жытлом, мэдычным абслугоўваньнем і харчаваньнем, працоўнаматэрыяльнай дапамогай. Яны ўключалі таксама правядзеньне дэзактывацыі і добраўпарадкаваньня населеных пунктаў, спэцыяльнай апрацоўкі сельскагаспадарчых земляў і зьмены структуры пасяўных плошчаў, устанаўленьня жорсткага радыеактыўнага кантролю. Дакладнае выкананьне комплексу мераў дазволіла ў адносна сьціслыя тэрміны стабілізаваць абстаноўку ў пацярпелых

раёнах, забясьпечыць нармальныя ўмовы для жыцьця і працы насельніцтва, тым самым быў абумоўлены правал мэтаў антысавецкай прапаганды, крызіс яе вэрсіяў пра чарнобыльскую трагедыю». Мне здаецца, дадаць да гэтага больш няма чаго. Адзінае, што я не магу зразумець: атрымоўваецца нейкая д'ябальшчына. Чым больш злачынстваў зрабілі людзі, там на Чарнобылі, тым хутчэй яны ў сваёй структуры растуць. Так было, дарэчы, і зь Пячэньнікавым, калі ў мінулым годзе яго прызначылі старшынём рэвізійнай камісіі ЦК КПБ, так было са Сьлюньковым і астатнімі».

На трыбуне — старшыня Апазыцыі БНФ.

Зянон Пазьняк: «Часта з боку намэнклятуры можна пачуць фальшывыя сэнтэнцыі, што вось, маўляў, з Чарнобылю — з гора народнага — хтосьці хоча зрабіць палітыку. Чарнобыль, шаноўныя спадары, воляю лёсу зьяўляецца вялікай, жорсткай і нават міжнароднай палітыкай. І вы, шаноўныя кіруючыя партыйныя работнікі, ёй пасьлядоўна займаецеся. Перш за ўсё ў сваіх інтарэсах, а ня ў інтарэсах народу, які пакутуе з-за вас, з-за вашай дзейнасьці, за якую рана ці позна прыйдзецца адказаць спаўна.

У 1988 годзе, калі Беларускі Народны Фронт толькі пачынаў «таранiць» тую подлую сьцяну сакрэтнасьці, якую пабудавалі вакол чарнобыльскай бяды на Беларусі, мы добра ўсьведамлялі, што за магутная, злобная, цёмная сіла стаіць за гэтай сьцяной. І тым ня менш сьцяна абвалілася. І я ўпэўнены: прыйдзе час — гэтак жа, як і тая сьцяна, абваліцца і ўся гэтая подлая антынародная палітыка, і кожны атрымае сваё».

Эмацыйна выступіў Пётра Садоўскі (Апазцыя БНФ):



На трыбуне старшыня Апазыцыі БНФ Зянон Пазьняк.
Фрагмэнт тэлетрансьляцыі

«Паважаныя калегі! Я сам, як і вы, сярэдні грамадзянін Беларусі, і будучы ў Нямеччыне, зрабіў сабе храмасомны аналіз. Я даў таварышу Канаплю ў інстытут гэтыя вынікі. І там напісана, што было са мной чатыры гады назад. Калі кожны з вас праверыцца — у вас таксама ўжо ня ўсё ў парадку. Што будзе з вашымі ўнукамі? І вы... (стэнаграма фіксуе: «сьмех у залі»). Яны зноў сьмяюцца!.. Людзі, што гэта, чаму мы сьмяемся? (сьмех у залі) Чаму міністар, які заклікаў нас на сьмерць, сёньня ўзначальвае дабрачыннасьць?»

Пазьняк: «Відаць, гэты сьмех можна растлумачыць толькі тым, што радыяцыя вельмі дзейнічае на псыхіку...»

Аднак мы ня толькі шукалі вінаватых — ня менш важна было спыніць збор ураджаю на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях.

Сяргей Папкоў (Апазыцыя БНФ): «Вінаваты ў гэтым цэнтральны камандны апарат — ён да гэтага часу нічога не зрабіў. І гэта адказнасьць сёньняшніх старшыняў выканкамаў абласных. Яны тут у абарону сваю выступалі, але ж яны добра ведаюць, што там ідзе праца на палях. Там жывуць людзі, там будуюцца, туды ўкладаюцца сродкі. Колькі раз шаноўны дэпутат Маісееў выходзіў і казаў, што Ліпаўка будуецца на мяжы якраз з забруджанай тэрыторыяй? Будуецца! Добра ведаюць і паважаны магілёўскі старшыня выканкаму, што да сёньняшняга дня саўгас ў Касьцюковіцкім раёне, Саматэвіцкі саўгас не адселеныя. А там 40 кюры і вышэй. Краснапольскі раён не адселены. Гэтыя людзі ведаюць і ня вырашылі пытаньне».

Алесь Шут: «Я прашу дэпутатаў са Слуцку, Мёраў, Ушачаў, Гомлю, Бабруйску, Магілёва, Барысава, Бярозы, Крычава, Гародні, быць асабліва пільнымі, паколькі на мясакамбінатах менавіта гэтых гарадоў перапрацоўвалася мяса са Смалявіцкай лядоўні, якое ішло на харчаваньне нашых жыхароў бяз выбару полу, узросту і месца жыхарства. Ці толькі туды накіраванае мяса са сховішча «Заходняе»? Не. На прыкладзе мясцовага маштабу я вам пакажу, як распаўсюджвалася гэтая зараза. У Лагойскім раёне перапрацавалі радыеактыўнае мяса на заводзе мясакоснай мукі і адправілі на корм скаціне. На зьверафэрмах саўгасаў «Іскра», «Коранскі» гадаваліся норкі на радыеактыўных прадуктах. І відавочна «сьвецяцца» тыя шапкі і каўняры, якія пайшлі «ў народ». Толькі была «непрыемнасьць»: пасьля радыеактыўнага мяса пачалі нараджацца норкі-пачвары, і давялося ад такога корму адмовіцца. 2 000 тонаў яшчэ ў запасе на сховішчы ў Смалявічах маецца. Хачу прапанаваць

тым, хто лічыць, што ў нас ёсьць радыефобія, што ў нас бясшкодна жыць і харчавацца такім мясам — выдаць кожнаму па ялавічынай тушы альбо сьвіной для харчаваньня сваёй сям'і і нашчадкаў. Напэўна, не пагодзяцца?... Дый у сталовую Саўміну трэба завезьці пэўную долю «ядзернага запасу» для патрэбнай актыўнасьці. Зусім танна прадавалі апошнім часам гэтае мяса — па пяць капеек за кілаграм! Нядаўна ў нас на камісіі была размова з адным з вэтэранаў, які даказваў, што ў 1986 годзе мяса закуплялі ў насельніцтва — і гэта галоўны крытэр ягонай чысьціні. Але, верагодна, вэтэран ня ведаў, што ў 1986 годзе Саўмінам БССР зацьверджаны загад аб закупцы мяса без уліку ягонай радыеактыўнай забруджанасьці. Дакумэнт маецца ў Саўміне, і копія зьнятая. Але перад вачыма стаіць тэлеграма, якая прыйшла ў Лагойскі раён пад грыфам «сакрэтна» 5 траўня 1986 году, у якой загадана ад імя Мінаховыздароўя СССР і ВЦСПС усім асобам, якія шпіталізаваныя з зоны, пацярпелай ад Чарнобыльскай аварыі, ставіць дыягназ у шпітальным лісьце «вэгетасудзінная дыстанія».

Барыс Гюнтэр (Апазыцыя БНФ): «... зьявіўся пратакол, пра цынізм якога і казаць не даводзіцца. Ён па сутнасьці скасоўвае заканадаўчы акт, прыняты Вярхоўным Саветам. Напрошваецца пытаньне: дык у каго ж улада — у Вярхоўнага Савету ці ў ЦК КПБ? І дзе пракуратура, якая абавязаная сачыць за выкананьнем закону? Дзякуючы пункту 3.1 гэтага дакумэнту, землі ліквідаваных у сувязі зь немагчымасьцю пражываньня калгасаў і саўгасаў Веткаўскага раёну далучаныя да саўгасу «Веткаўскі» і засеяныя азімымі. На гэтых землях у тым годзе я браў жыта на аналіз. Дарэчы, яно пайшло на агульны ток саўгасу «Веткаўскі».

Дык вось, узровень радыеактыўнасьці ў тры разы перавышаў часова дапушчальны ўзровень. Акт аналізу маецца. Мэханізатары, якія зьбіралі гэтае жыта, скардзіліся на галаўны боль і сухасьць у роце. Бо ўборкі збожжа бяз пылу не бывае. А узровень гама-фону складаў 200 мікрарэнтгенаў на гадзіну. Акт маецца. Факт уборкі, дарэчы, зьняты на відэакасэту... Кіраўніцтва саўгасу «Веткаўскі» ўтрымлівае дойны статак і бычкоў для адкорму ў кароўніках ліквідаваных вёсак і корміць іх сенам, гама-фон якога 200 мікрарэнтген на гадзіну, а самі кароўкі «сьвецяцца» з узроўнем 80-100 мікрарэнтген на гадзіну. Вы ўяўляеце, якое мяса і які хлеб будзе з гэтага зроблены? Падобная карціна... (шум у залі)... Паважаныя таварышы, трэба езьдзіць па раёнах! Падобная карціна назіраецца па ўсёй Гомельскай вобласьці. Усе дакумэнты былі накіраваныя ў пракуратуру БССР. І намесьнік пракурора рэспублікі Сашчэка ня ўгледзеў магчымасьці пракурорскага рэагаваньня. Ён нават ня ўбачыў, што дадзены пратакол супярэчыць пастанове па Чарнобылі, прынятай на першай сэсіі Вярхоўнага Савету і не спыніў яго дзеяньне...У Веткаўскім раёне ўсё ідзе, як у 1986 і наступных гадах. Выпрабляюцца радыеактыўныя прадукты харчаваньня, а потым развозяцца па рэспубліцы... Чаму гэта адбываецца? Ды таму, што па-ранейшаму ля кіраўніцтва рэспублікі стаяць тыя людзі, якія ўдзельнічалі ў хаваньні наступстваў ядзернай катастрофы... Я прапаную, у адрозьненьне ад таварыша Вячэрскага, працягнуць працу камісіі».

Выступы дэпутатаў Апазыцыі партыйным кіраўнікам не спадабаліся. На трыбуне — старшыня Гомельскага аблвыканкаму, у часе Чарнобыль-

скай катастрофы — сакратар Гомельскага абкаму кампартыі Мікалай Вайцянкоў.

«Я зьвяртаюся і да сваіх землякоў па выступе дэпутата Гюнтэра. Я хачу сказаць, ня першы раз слухаю ягоныя развагі на тэмы Чарнобылю, і нічым іншым, як гэтыя маленькія інтрыгі, што сыходзяць ад гэтага чалавека, нічога больш для сябе я ўзяць не магу. Ня трэба бегаць па палях, ня трэба размахваць камэрамі, ня трэба здымаць, што Вы там спрабуеце рабіць. Не сьмяшыце мэханізатараў! Я ўжо дастаткова валодаю інфармацыяй пра тое, што Вы там рабілі. Я хачу зьвярнуцца да Вас, дэпутат Навумчык. Ня трэба інфармацыю выдаваць, зыходзячы з узроўню ведаў хатняй гаспадыні, якая час ад часу на кухні слухае радыё. Нельга!»

Сакратар Магілёўскага абкаму Уладзімір Канавалаў:

«Выступы прадстаўнікоў апазыцыі мне яскрава нагадалі перадвыбарчую кампанію ў Вярхоўны Савет рэспублікі ў мінулым годзе. Тыя самыя заклінаньні, тыя самыя масавыя бязадрасныя абвінавачаньні, тыя самыя палітычныя амбіцыі і нічым не апраўданая энэргія, накіраваная толькі на тое, каб заваяваць нейкі палітычны пэрспэктыўны аўтарытэт. Я абіраўся ў Слаўгарадзкім раёне, які пацярпеў найбольш цяжка зь іншых раёнаў нашай рэспублікі. Што ён чакае ад нас, ад Вярхоўнага Савету, ад рэспублікі? І хачу вам дакласьці, людзі кажуць, што надакучыла гэтая палітычная траскатня, і, груба кажучы, непарлямэнцкай мовай — балбатня вакол чарнобыльскай праблемы. Любая катастрофа — гэта комплекс безадказнасьці, авантурызму альбо парушэньня тэхналягічных працэсаў. Такая самая катастрофа адбылася і

ў Чарнобылі. Ну што ж, давайце бясконца пра гэта казаць? Безумоўна, трэба даць ацэнку адказнасьці асобаў, якія маюць дачыненьне да гэтай справы. Трэба даць ацэнку і асобам, якія ўскладнялі гэтую праблему. Дэпутат Пазьняк! Я хачу зьвярнуцца да Вас і сказаць: што ў адрас Сьлюнькова можна яшчэ ў дзясяткі разоў болей сказаць як палітычнага дзеяча. Але сёньня гэта палітычны нябожчык, і нам няма чаго да яго вяртацца. Нас абвінавачваюць часам у тым, што мы ведалі і хавалі праблему, вось я кажу пра партыйных работнікаў... Таварышы! Я разам зь іншымі людзьмі як сакратар абкаму 1 мая сьвяткаваў, і быў разам зь людзьмі, і нічога пра гэта ня ведаў!»

Выступае камуніст дэпутат Георгій Чэх:

«З гэтай трыбуны ў асноўным прадстаўнікі Апазыцыі БНФ заявілі, што насельніцтву пацярпелых раёнаў, як я зразумеў, пагражае сьмерць. Захворвальнасьць і сьмяротнасьць людзей павялічыліся ў 5-10 разоў. Дазвольце, паважаныя калегі, з такімі высновамі не пагадзіцца. Вашыя высновы нічым не пацьверджаныя. І капітал на падобных заявах вы не назапасіце. У канчатковым выніку, за падобныя заявы неабходна трымаць і адказ».

Валянцін Голубеў паспрабаваў апэляваць да сумленьня кіраўнікоў-камуністаў:

«Страшна сядзець у гэтай залі і глядзець, як вялікая колькасьць людзей, адказных у многім за тое, што адбылося, якія зараз там працуюць і ведаюць, што робіцца ня ўсё, што трэба для ратаваньня людзей, — ніхто зь іх ня выйшаў сюды і не сказаў: так, мы зрабілі у 86-м годзе памылкі, мы вінаватыя, але мы не маглі зрабіць інакш. Так, нам загадвала партыя, няправільна, але загадвала, ёй загадвалі з Масквы. Мы не маглі зрабіць інакш.

І зараз ёсьць памылкі. Дарагія дэпутаты, дарагія людзі! Зрабілі мы памылкі, ну так адбылося. Зараз мы так рабіць ня будзем. Што зараз адбываецца? Што вы робіце? Вы шукаеце вінаватых у апазыцыі, сярод людзей, якія зь першага дня спрабавалі расказаць праўду. Узьняць народ, каб і людзі зразумелі, што нас дураць. Вы шукаеце вінаватых сярод навукоўцаў. Успомнім, што было два гады назад, калі ў Менску тысячы людзей 26 красавіка выйшлі на плошчу Леніна. Як нас не выпускалі з работы, каб мы ня выйшлі сюды. Як нам забаранілі правесьці мітынг у гэты дзень і сказалі, што будуць караць крымінальнай адказнасьцю. Людзі прыйшлі, тысячы людзей! — і каб не каралі, прыйшлі з транспарантамі і зрабілі «гадзіну смутку». Людзі гадзіну прастаялі, не сказаўшы ні слова, трымаючы ў руках сьвечкі і плачучы. Тут былі ня толькі менчукі, былі прадстаўнікі з усіх забруджаных раёнаў Беларусі. А што зрабіла ўлада? А ўлада ў гэты час вывела на плошчу імя Леніна ў Менску ваенны духавы аркестар і іграла ўсю гэтую гадзіну бравурныя маршы».

Своеасаблівы аргумэнт прывёў намесьнік старшыні Дзяржтэлерадыё і кіраўнік усяго тагачаснага радыё Беларусі дэпутат Баляслаў Сушкевіч:

«Некаторыя нашыя народныя дэпутаты, навукоўцы таксама прыходзяць да «ўсясьветнага вываду», што Чарнобыль — гэта дзіцця сацыялізму. Я хачу спытаць у гэтых паважаных апанэнтаў: калі у 1945 годзе зь яснага неба паляцелі атамныя бомбы на Хірасіму і Нагасакі, чыя рука накіроўвала туды самалёт? Сацыяліста? Камуніста? Не! Рука капіталіста, а дакладней — імпэрыяліста!»

Адказала Сушкевічу Галіна Сямдзянава:

«Паважаны народны дэпутат Сушкевіч, выступаючы перада мной, вельмі добра адзначыў сутнасьць нашай сыстэмы. Ён сказаў, што на Хірасіму і Нагасакі скінулі бомбу імпэрыялісты. Гэта якраз правільная пасылка. Бо цягам усяго году Апазыцыя і кажа пра тое, што існуючы рэжым у СССР, існуючая сыстэма — гэта менавіта імпэрыялістычная сыстэма. Гэта менавіта імпэрыя, і за гэтую імпэрыю не далей як учора вы тут прагаласавалі... Я летам мінулага году была ў Гародычах, на льнозаводзе. Дык вось, даводжу да вашага ведама: летам там перапрацоўвалі лён вытворчасьці 1986-га году, які ішоў якраз з забруджаных месцаў. І гэта нікога не хвалюе».

Практычна ў кожным выступе дэпутатаў апазыцыі гаварылася пра небясьпеку. Паказальная дыскусія, якая разгарнулася паміж старшынём Апазыцыі БНФ Зянонам Пазьняком і першым намесьнікам старшыні Вярхоўнага Савету Станіславам Шушкевічам.

Але перш чым прывесьці цытаты, нагадаю, што ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х ішла барацьба з прыхільнікамі так званай «35-бэрнай канцэпцыі», якія меркавалі, што на тэрыторыях з малымі дозамі радыяцыі можна жыць і працаваць. Такая канцэпцыя падтрымлівалася МАГАТЭ і атамным лобі. БНФ (натуральна, са спасылкай на навукоўцаў), даказваў, што «малыя дозы» — небясьпечныя.

Зянон Пазьняк: «Што ж адбываецца са здароўем нашых людзей і што адбылося за гады чарнобыльскіх пакутаў, дзякуючы дзяржаўна-партыйнай палітыцы? Вось зьвесткі, таксама нідзе не апублікаваныя, пра захворваньні насельніцтва Веткаўскага раёну Гомельскай вобласьці. У параўнаньні з

1985 годам захворваньні псыхічныя павялічыліся ў 10 разоў. На ўлік па анкалягічных захворваньнях людзей стала больш у два разы, сьмяротнасьць павялічылася ў 10 разоў. Сухоты — павялічыліся ў 10 разоў. Агульная сьмяротнасьць у горадзе — у пяць разоў. Нараджальнасьць зьменшылася ў два разы. Інваліднасьць рабочых і служачых павялічылася ў тры разы, калгасьнікаў — у 11 разоў. Прыроджаная паталёгія — у 10 разоў.

Вось наступныя зьвесткі, таксама неапублікаваныя, аб захворваньні дзяцей да 14 гадоў у Веткаўскім раёне Гомельскай вобласьці. У параўнаньні з 1986-м годам на 1989 год захворваньні сардэчна-судзінныя павялічыліся ў пяць разоў, лёгачныя — у чатыры разы, кішэчнага тракту — у 11 разоў, скураныя захворваньні — у пяць разоў, паталёгія шчытападобнай залозы — у тры разы, лейкацытны сындром — у 23 разы.

Беларускай рэспубліцы да сёньняшняга дня не ўдалося дабіцца кампэнсацыі ад Савецкага Саюзу за Чарнобыльскую катастрофу. Аднак нават тыя мізэрныя сродкі, якія выдзеленыя Беларусі на двухгадовую праграму неадкладных захадаў па пераадоленьні наступстваў аварыі на ЧАЭС — 82 мільёны рублёў — разьмяркоўваюцца не на карысьць Беларусі. 11 мільёнаў, напрыклад, выдадзена Дзяржгідрамэту СССР — таму самаму Дзяржгідрамэту на чале з Ізраэлем, які шмат зрабіў, каб схаваць ад усіх рэальную небясьпеку радыяцыйнага заражэньня ў нашай рэспубліцы. 5 мільёнаў перададзена саюзнаму маламу прадпрыемству для стварэньня аўтаматычнай сыстэмы маніторынгу. 3,5 мільёны Дзяржкамітэт БССР па праблемах Чарнобыльскай катастрофы перадаў на навуковыя дасьледаваньні акадэміку Ільіну —

стваральніку «35-бэрнай канцэпцыі». У той жа час на разьвіцьцё навуковых дасьледаваньняў беларускімі вучонымі не выдзелена фактычна нічога».

Станіслаў Шушкевіч: «Паважаны Зянон Станіслававіч! Я лічу, што Вы зрабілі вельмі многа для адраджэньня беларускай культуры, беларускага самабыту, беларускіх традыцый. Але, калі ласка, не рабіце заключэньняў з нагоды падзеяў, якіх Вы, прабачце... у якіх Вы не разьбіраецеся. Прабачце мне за гэта. Тут ужо гаварылі. Я трымаю паказчыкі... Вы ведаеце, я ўвесь час займаюся гэтай справай. Калі ўзьнікла гэта пытаньне, я зьвярнуўся да Казакова, паважанага міністра аховы здароўя, і атрымаў гэтыя матэрыялы. І я хачу Вам прывесьці дадзеныя, як сьмяротнасьць дзіцячая ў Веткаўскім раёне мянялася за апошнія гады, а Вы сказалі, што яна ўзрасла ў пяць разоў. Гэта статыстыка дакладная... У 10 нават разоў! Слухайце, паважаны Зянон Станіслававіч! 1976 год, на тысячу народжаных жывымі — у Гомельскай вобласьці ў Веткаўскім раёне памерла 36,9 дзіцяці. 1977 год — 36, 1978 — 22,9, я магу прайсьціся па ўсіх гадах. Слухайце, што было далей! 1985 год, да аварыі — 27, 6, 1986-ты — 12,3, 1987-мы — 12,9, 1988-мы — 29,3, 89 — 15,6. Дзе ж гэта сьмяротнасьць?»

Зянон Пазьняк: «Шаноўны Станіслаў Станіслававіч! У мэдычнай статыстыцы мы з Вамі разьбіраемся аднолькава. Толькі справа ўся ў тым, што Вы кіруецеся зьвесткамі міністэрства аховы здароўя, а я кіруюся непасрэдна зьвесткамі, якія атрымліваю з мэдыцынскіх установаў Веткаўскага раёну. Вы ведаеце, што нашая ахова здароўя кіруецца інструкцыямі мінздраву СССР аб закрыцьці зьвестак, і менавіта зьвесткі, якія даваў наш

мінздраў, паўзьдзейнічалі на тыя пастановы, якія прыняло МАГАТЭ, і аб гэтым шаноўны дэпутат Смоляр якраз і гаварыў. Аб той неразьбярысе ў статыстыцы, якую даваў наш мінздраў. Што датычыць зьвестак, пра якія гаварыў я, дык я вам прывяду яшчэ некалькі зьвестак, якія невядомыя Вам (галасы дэпутатаў «Не надо!»). У 1990 годзе (званок сьпікера) у Веткаўскім раёне нарадзілася 326 чалавек...»

Мікалай Дземянцей: «Я прашу прэкраціць!..»

Зянон Пазьняк: «... памерла 581...»

Мікалай Дземянцей: «Прэкраціць трансьляцыю!»

Зянон Пазьняк: «... за тры месяцы 1991 году нарадзіўся 61 чалавек, памёр 171 чалавек…»

Далей лідэр БНФ прамаўляць ня мог — мікрафон быў адключаны.

Зрэшты, падчас абмеркаваньня чарнобыльскага пытаньня па некаторых пазыцыях нам удалося дасягнуць кампрамісу зь часткаю камуністаў — гэта вынік кулюарнай працы, не адлюстраванай у стэнаграме.

Увогуле, практычна ўсе дэмакратычныя дасягненьні ў Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня былі вынікам спалучэньня самай рознай тактыкі — і ня толькі наступу, але часам і кампрамісу, здольнасьці дамаўляцца з нашымі палітычнымі апанэнтамі.

Я прапанаваў, каб Савет міністраў падрыхтаваў справаздачу аб расходаваньні сродкаў, якія ўжо на той момант пачалі паступаць у якасьці дапамогі і ахвяраваньняў з-за мяжы. Паводле нашых зьвестак, грошы ўсё часьцей асядалі ў кішэнях чыноўнікаў і іх набліжаных; у чарнобыльскія групы на аздараўленьне ўключаліся дзеці начальнікаў з раёнаў, далёкіх ад чарнобыльскіх.

Падобную прапанову ўнёс і мой калега па Апазыцыі Мікалай Крыжаноўскі.

Прыблізна гэта прапанаваў і дэпутат камуніст Зянон Ломаць (той самы Ломаць, які пры Лукашэнку стане ўсёмагутным «кантралёрам», а тады ён быў першым сакратаром Слуцкага гаркаму партыі).

Такое здавалася ня часта, каб першы сакратар райкаму КПБ пагадзіўся з прапановай дэпутатаў Апазыцыі БНФ. Больш за тое — Ломаць прапанаваў узяць мой варыянт за аснову і нават выступіў у падтрымку.

І рашэньне было б прынята, каб не паводзіны Станіслава Шушкевіча, які выказаў сумненьне, ці можа Саўмін рыхтаваць справаздачу ў дачыненьні да дабрачынных фондаў. Прычым Шушкевіч літаральна на вуха нашаптаў Дземянцею свае сумненьні (на відэазапісе гэта бачна і чутно), ну а той ужо выказаўся ў мікрафон. Заўвага Шушкевіча мела другасны характар, ня кажучы ўжо пра тое, што ўрад быў абавязаны выканаць пастанову парлямэнту (дзеля такой праверкі ў яго меліся мэханізмы ў МУС і ў КДБ). Але сваю ролю заўвага Шушкевіча адыграла — прапанова не набрала належнай колькасьці галасоў і не была прынятая (калі таблё паказала адмоўны вынік, Шушкевіч пракамэнтаваў: «Уже всё!»). Праз гады стала вядома, у якіх гіганцкіх маштабах раскрадаліся чарнобыльскія ахвяраваньні...

Можна толькі здагадвацца, чым былі выкліканыя такія паводзіны Станіслава Станіслававіча Шушкевіча; ніякай карысьці ў тым, каб «заваліць» нашую прапанову, не было — хіба што гэта дало Шушкевічу нейкае задавальненьне, сэнс якога я зразумець ня ў стане.

Наогул, перачытваючы цяпер даступныя мне стэнаграмы сэсіяў Вярхоўнага Савету, я зьдзівіўся, наколькі часта Шушкевіч «тарпэдаваў» прапановы дэпутатаў Апазыцыі БНФ — не радзей, чым «камуністычны сьпікер» Дземянцей.

Але мне хацця б удалося аргумэнтаваць сваю прапанову. У Валянціна Голубева, калі ён, скарыстоўваючы прамую радыётрансьляцыю на мільёны людзей, папярэджваў пра тое, што на забруджаных радыенуклідамі землях працягваюць сеяць, адключылі мікрафон.

Валянцін Голубеў: «Людзі! Слухайце! Слухае Беларусь! У гэтым годзе кіраўніцтва кампартыі і Савет міністраў прынялі рашэньне... (мікрафон адключаны)... сеяць на забруджаных тэрыторыях...»

Мікрафоны нам адключалі, і на таблё для галасаваньня высьвечваліся лічбы, недастатковыя для прыняцьця нашых прапаноў — але галоўнае было зроблена: названыя імёны вінаватых ва ўтойваньні чарнобыльскай праўды, і кіраўніцтву рэспублікі давялося спыніць сяўбу і збор ураджаю на сьмяротна небясьпечных землях. Тыя, хто слухаў у чэрвеньскія дні 1991-га трансьляцыю, зразумелі, што паратунку ад Чарнобылю ў камуністычнага кіраўніцтва Беларусі шукаць ня варта.

У Масквы — таксама.

1 ліпеня. У Празе падпісаны пратакол аб ліквідацыі Варшаўскай дамовы (вайсковага альянсу сацыялістычных краінаў на чале з Масквой).

Завершаны вывад савецкіх войскаў з Вугоршчыны.

5 ліпеня. Канцлер Нямеччыны Гэльмут Коль заяўляе Міхаілу Гарбачову: «Важна пазьбягаць дзеяньняў, якія б стваралі на Захадзе адчуваньне таго, што СССР вось-вось разваліцца на канглямэрат асобных рэспублік».

14 ліпеня. У Менску праходзіць «Усерасейская ўстаноўчая канфэрэнцыя бальшавіцкай плятформы ў КПСС».

29 ліпеня. РСФСР прызнае незалежнасьць Літвы.

30 ліпеня. Прэзыдэнт ЗША Джордж Буш заяўляе Міхаілу Гарбачову: «Ні ў якім разе не зьбіраюся падтрымліваць сэпаратызм».

31 ліпеня. На літоўска-беларускай мяжы каля вёскі Мядзінінкай забітыя восем літоўскіх мытнікаў і паліцэйскіх.

31 ліпеня. У Маскве Джордж Буш і Міхаіл Гарбачоў падпісваюць Дамову аб скарачэньні стратэгічнай зброі.

# Голас Быкава

Ключавую ролю ў нацыянальным Адраджэньні і дасягненьні незалежнасьці Беларусі адыграў Васіль Уладзімеравіч Быкаў.

Менавіта незалежнасьць беларускай дзяржавы Быкаў лічыў галоўным для нацыі, і гэтай упэўненасьці ня страціў і ў апошнія гады свайго жыцьця. У пацьверджаньне — некалькі цытатаў. «Падпісаньне саюзнай дамовы — гэта ўвогуле злачынства стагодзьдзя, гэта, безумоўна, генацыд беларускай нацыі» (сьнежань 1999). «Свабоды без незалежнасьці альбо незалежнасьці без свабоды — не бывае» (сьнежань 2000). «Толькі пры свабодзе і незалежнасьці магчымы працяг беларускай гісторыі» (люты 2001). «Калі б Беларусь была незалежная, няхай бы яна была бедная, неразьвітая, адсталая — усё астатняе прыклалася б» (чэрвень 2002).

Мне падумалася, што куды больш цікавымі будуць ня ўласныя разважаньні, а словы самога Васіля Ўладзімеравіча, урыўкі зь ягоных выступаў ад самага ўтварэньня Народнага Фронту — таму прыводжу шмат цытатаў. Зрэшты, большасьць гэтых выказваньняў невядомыя сучаснаму маладому пакаленьню: публіцыстыку Быкава ў Беларусі афіцыйныя выдавецтвы не друкуюць. І пра ягоную грамадзянскую, палітычную пазыцыю — ні слова ў прысьвечаных пісьменьніку манаграфіях, некаторыя зь якіх налічваюць сотні старонак.

Да моманту, калі Пазьняк адкрыў Курапаты і вырашыў ствараць Народны Фронт, Быкаў меў усе магчымыя для савецкага пісьменьніка рэгаліі

і сусьветную вядомасьць маштабу, якога ня меў ніводзін беларускі літаратар. Ён мог бы спакойна абмежавацца творчасьцю, аднак аддаў свой час і аўтарытэт справе, у посьпех якой тады мала каму верылася — нацыянальнаму Адраджэньню і дасягненьню незалежнасьці. Ён сьвядома падставіў сябе пад удары камуністычнай прапагандысцкай машыны, прычым удары значна больш моцныя і цынічныя, чым у 1960-я гады, калі Быкава цкавалі за ягоныя творы.

Кнігі камуністычныя правадыры яшчэ маглі цярпець; выступы супраць іхняй манаполіі на ўладу — ніколі.

І тут я павінен запярэчыць тым, хто лічыць, што палітычная і грамадзкая дзейнасьць Быкава пазбавіла нас твораў, якія ён мог бы напісаць, калі б ня траціў час на тое, чым, як яны лічаць, пісьменьнік займацца не павінен.

Па-першае, чым займацца — вызначае сам пісьменьнік. Быкаў зрабіў свой выбар сьвядома (увогуле, трэба зусім ня ведаць Васіля Ўладзімеравіча, каб думаць, што нехта мог яму нешта навязаць насуперак ягонай волі).

Зразумела, што ў нацыянальную гісторыю Быкаў увайшоў як творца, як адзін з найбольш выбітных пісьменьнікаў за ўсе часы існаваньня беларускай літаратуры. Ягоныя творы дойдуць да наступных пакаленьняў. Але пры ўсім гэтым, на мой погляд, забывацца на палітычную ды грамадзянскую пазыцыю Быкава — гэта зьбядніць асобу Быкава. Кожны творца жыве ў сваім часе, але ня кожнаму выпадае гэтак паўплываць на свой час, як гэта ўдалося Быкаву.

І нарэшце — а ці не згубіў бы Быкаў як творца, калі б не займаўся грамадзкай ды палітычнай

дзейнасьцю? На адных толькі Соймах БНФ, якія Васіль Уладзімеравіч наведваў рэгулярна, ён сустракаўся зь дзясяткамі людзей з розных куткоў Беларусі, і гэта, не сумняваюся, давала яму новыя ўражаньні. Калі хочаце — давала тое, што завецца «матэрыялам». Быкаўская проза апошніх гадоў, дзе гучаць тэмы БНР, Слуцкага паўстаньня, рэпрэсіяў — у нечым, магчыма, вынік гутарак пісьменьніка з тымі, з кім ён мог бы і не сустрэцца, калі б ня быў у Фронце. Ну, а ягоныя прыпавесьці ўвогуле не маглі б нарадзіцца безь цікавасьці Быкава да палітыкі.

І калі прызнаць, што апошняя ў часе хваля нацыянальнага Адраджэньня пачалася з утварэньня Беларускага Народнага Фронту, а больш дакладна — з публікацыі 3 чэрвеня 1988 году ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» артыкулу Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога сьмерці», дык Быкаў стаў ля самых вытокаў Адраджэньня і стварэньня БНФ.

Пазьняк неаднаразова казаў, што выхад артыкулу быў бы праблематычным, калі б не прадмова, якая суправаджала публікацыю.

Ён прыгадвае, як патэлефанаваў Быкаву, а потым звазіў яго ў Курапаты, да раскрытых магілаў. Ёсьць здымак Быкава ва ўрочышчы. Удзельнік самай крывавай у гісторыі чалавецтва вайны ня раз глядзеў у твар сьмерці, але тут, у Курапатах, ён, як мне падаецца, выглядае ўзрушаным — бо ўбачыў вынікі злачынства супраць уласнага народу, злачынства, якое дзесяцігодзьдзі хавалася.

Далейшыя крокі Быкава вызначаюцца матэматычнай выверанасьцю.

Быкаў напісаў прадмову да артыкулу: «У нас ёсьць нямала велічных помнікаў ахвярам нямец-

кага фашызму, сьведчаньне гераізму беларускага народу ў барацьбе з гэтым заклятым ворагам чалавецтва. Але нішто ў нас яшчэ не напамінае пакаленьням аб ахвярах сталіншчыны. Тое недаравальна і няправільна! Мы павінны памятаць аб іх — не героях, а бязьвінных ахвярах тырана — спрацаваных рабочых, галодных калгасьніках, першых народных інтэлігентах, мужчынах і жанчынах — якія з куляю ў патыліцы клаліся ў самімі ж выкапаныя ямы, вымаўляючы не праклён, не пратэст, а адзінае, марнае і трагічнае слова «Завошта?». Яны ўжо ніколі не пачуюць адказу на тое сваё пытаньне, затое адказ на яго павінны зразумець мы».

Пад прадмовай Быкаў падпісаўся не як народны пісьменьнік, а як ляўрэат Ленінскай прэміі. Не як герой сацыялістычнай працы ці дэпутат Вярхоўнага Савету. У гэтым бачыцца дакладны і прагматычны разьлік. І справа ня ў тым, што герояў і дэпутатаў у БССР былі дзясяткі і сотні, а колькасьць ленінскіх ляўрэатаў можна было пералічыць на пальцах. Так, тытул народнага пісьменьніка даваў бы права казаць ад імя некалькіх пакаленьняў народу, які ў часы бальшавіцкага тэрору згубіў найлепшых сваіх прадстаўнікоў. Але ўзгадка імя Леніна рабіла для ЦК ленінскай партыі вельмі няпростай забарону публікацыі — гэта пагражала скандалам, якога ў Беларусі яшчэ не здаралася. Артыкул надрукавалі, і гэта быў той самы рэдкі для Беларусі выпадак, калі афіцыйныя рэгаліі спрацавалі супраць сыстэмы.

У той час я жыў у Віцебску і бачыў, як артыкул пра Курапаты распаўсюджвалі на ксэраксах (тады яшчэ вельмі нешматлікіх, кожны зь іх быў пад пільным наглядам «асобых аддзелаў» — філіялаў

КДБ). А празь некалькі тыдняў хлопцы аднаго зь віцебскіх НДІ прапанавалі памножыць і мой артыкул — супраць будаўніцтва Віцебскай АЭС. У горадзе пачаўся стыхійны рух (цяпер яго назвалі б антыядзерным), супраць атамнай станцыі на Віцебшчыне падпісаліся дзясяткі тысяч чалавек — па тых часах лічба для абласнога цэнтру вялікая. Аднак я перакананы, што лёс АЭС вырашыла публікацыя ў маскоўскай «Литературной газете» ліста выбітных беларускіх літаратараў — Уладзімера Арлова, Рыгора Барадуліна, Янкі Брыля, Аляксея Дударава, Сяргея Законьнікава, Віктара Казько, Пімена Панчанкі… Сярод іх быў і Васіль Быкаў.

Між іншым, адзін паэт, якому прапанавалі паставіць свой подпіс, адмовіўся, сказаўшы, што як кіраўнік Саюзу пісьменьнікаў ён ня мае права казаць за ўсю арганізацыю, а ўласнае ягонае імя для адмыслоўцаў у ядзернай энэргетыцы неаўтарытэтнае.

Быкаў жа паставіў подпіс супраць АЭС без ваганьняў.

А 19 кастрычніка я прыехаў у Менск на ўстаноўчы сход «Мартыралёгу Беларусі» — ён адбыўся ўвечары ў будынку тагачаснага Дому кіно, які месьціўся ў адабраным у вернікаў Чырвоным касьцёле. Зянон Пазьняк кажа, што пра плян стварэньня ў гэты вечар аргкамітэту Народнага Фронту ведалі, акрамя яго самога, яшчэ два чалавекі: Васіль Быкаў і Міхась Дубянецкі. Што да канкрэтнага пляну дзеяньняў — гэта, пэўна, было так. Але ідэя стварэньня Народнага Фронту, як кажуць, лётала ў паветры — ва ўсякім разе, калі мы ішлі зь Сяргеем Дубаўцом у Дом кіно, дык гаварылі пра гэта, а першае, пра што спытаўся ў мяне пры сустрэчы Ўладзя Арлоў, які ўжо некалькі месяцаў

жыў у Менску і ўводзіў мяне, правінцыяла, у курс сталічных справаў, было: «Ну ты ж ведаеш, што сёньня будзем ствараць Народны Фронт?».

Мы сядзелі з Арловым побач у першым радзе і зусім не таму, што хацелася вылучыцца — проста заднія шэрагі, куды мы спачатку накіраваліся, спрэс былі занятыя асобамі з ордэнскімі калодкамі; былі нават і героі Савецкага Саюзу. Пэўна, Менскі гарком ня горш за нас адчуваў настроі і грунтоўна падрыхтаваўся, нагнаўшы ў залю вэтэранаў, камсамольцаў і «перадавікоў вытворчасьці», якія павінны былі «даць адпор нефармалам».

Але адпору не атрымалася. Дзякуючы шмат у чым Быкаву.

Васіль Быкаў выступіў з уступным словам. На шчасьце, я прыхапіў магнітафон — на сёньня гэта адзіны вядомы аўдыёзапіс той гістарычнай падзеі ў Чырвоным касьцёле (вялася і відэаздымка, але яе сьлядоў адшукаць не ўдалося).

«На працягу стагодзьдзяў наш народ моўчкі цярпеў прыгнёт, — казаў Быкаў. — Ліў сваю кроў, ахвяраваў мільёнамі жыцьцяў і маўчаў. Маўчаў, бо ягоныя гісторыкі пазбавілі яго праўдзівай гістарыяграфіі, яго філёзафы ўнушалі яму фальшывую ідэю аб мудрай правільнасьці ягонага бязьмежнага цярпеньня. Ягоныя рыцары прыгожага пісьменства спаборнічалі між сабой аб тым, хто найлепш апяе тое, што варта было выбуху гневу і абурэньня. Ягоныя палітыкі і дзяржаўныя дзеячы былі пазбаўленыя ўласнай палітыкі, магчымасьці дзейнічаць на карысьць народу, а шмат хто зь іх сам стаў ахвяраю тэрору, уласнае сьлепаты і заблуджэньня.

Але мы болей ня хочам жыць, каб ня памятаць як аб нашым гонары, так і аб нашых ахвярах, на-

шых пакутніках. Урэшце прыйшоў час сказаць людзям праўду і зрабіць зь яе пэўныя высновы. Найперш, праўду трэба сказаць пра мільёны безымянных людзей Беларусі, рабочых, калгасьнікаў, інтэлігентаў з народу, беларусах, рускіх, паляках, яўрэях, людзях іншых нацыянальнасьцяў, панішчаных у гады сталіншчыны безь віны, бяз права, бязь сьледу ў народнай памяці. Сымбалем тых, панішчаных, сёньня сталі ўжо славутыя Курапаты. Але Курапаты — толькі адна кропля ў моры людзкой крыві.

Мы павінны таксама назваць імёны катаў нашых ахвяр. Хто былі гэтыя нелюдзі?.. Як даўно вядома, кат і ахвяра інфэрнальным чынам зьвязаныя між сабой, і чалавецтва павінна ведаць і памятаць абодвух. Гэта патрэбна ў імя справядлівасьці, у імя дэмакратыі, у імя нашай будучыні. У тым наш сьвяты абавязак перад гісторыяй, маральны абавязак перад наступнымі пакаленьнямі, каб ім не давялося дакараць нас за тое, што мы мелі магчымасьць і ўпусьцілі яе. Мабыць, ніхто з нашых папярэднікаў ня меў такой магчымасьці, якую лёс ці гісторыя далі нам, і было б найвялікшай гістарычнай несправядлівасьцю ня выкарыстаць яе.

Але зьдзейсьніць гэты абавязак, мабыць, будзе нялёгка, Сілы рэакцыі, сталіншчыны ня склалі сваёй выпрабаванай зброі і гатовы ўзяць рэванш за іхняе паражэньне ў галоснасьці. Каб пераканацца ў тым, даволі хоць зрэдку браць у рукі газэту «Вечерний Минск», орган менскага гаркаму і гарсавету народных дэпутатаў, і паглядзець, хто і супраць чаго там выступае. Сілы зла цяпер перажываюць невялікую паўзу ў сваёй антынароднай дзейнасьці, перабудова і галоснасьць блытае іх адпрацаваныя за гады карты. Але яны ўжо па-




Васіль Быкаў.

чалі прыстасоўвацца і да атмасфэры перабудовы. А ў некаторых выпадках — і браць яе пад сваё кіраўніцтва. Кіравацць з такім разьлікам, каб хутка і бяз стратаў вярнуць так любы іхнім лёкайскім душам таталітарызм з падаўленьнем, рэпрэсіямі, п’яным і пакорным існаваньнем заняволенага народу. Таму ўсе, каму дарагія прынцыпы дэмакратыі і

сацыялізму, лёс нацыі, павінны быць пільныя, ня даць сябе ашукаць ні крывадушнай бюракратыі, ні амаральнай навуковасьці, ні тым правакатарам ад перабудовы, якія маюць заданьне пусьціць яе на злом галавы, адвярнуўшы ад высакароднай мэты дэмакратычнага Адраджэньня нацыі, растварыць ідэалы дэмакратызацыі ў нацыянальных, рэгіянальных, ведамасных і амбіцыёзных сварках і супярэчнасьцях.

Мы павінны скласьці велічны мартыралёг нашых страт і нашых пакутнікаў. Гэта ляжа вуглавым каменем у падмурку нацыянальнай сьвядомасьці, стане важным элемэнтам гістарычнай памяці і гарантам. Гарантам будучыні народу, які праз генацыд, кроў і зьнявагу з упартасьцю асуджанага рвецца да сонца, дабра і справядлівасьці» (воплескі).

На тым сходзе быў вызначальны момант — галасаваньне па кандыдатуры старшыні «Мартыралёгу». Бо старшыня новаўтворанай арганізацыі мусіў весьці сход далей, і ад яго залежала, ці будзе пастаўленае на галасаваньне пытаньне аб утварэньні аргкамітэту Народнага Фронту.

Быкаў прапанаваў абраць старшынём Зянона Пазьняка.

Прадстаўнік ЦК КПБ Расьціслаў Бузук сунуўся на трыбуну, каб сарваць галасаваньне, але Быкаў рашуча ўзяў мікрафон.

Быкаў: «Наступнае, што павінна быць: хто супраць кандыдатуры? Прашу падняць рукі! Хто ўстрымаўся? Няма! Усё!» (воплескі).

Бузук: «И это — демократия?»

Галасы з залі: «Так, дэмакратыя!»

Далей сход вёў Пазьняк, які ўрэшце паставіў на галасаваньне стварэньне Аргкамітэту БНФ. У 22.15 аргкамітэт быў утвораны.

І наступная гісторыя Беларусі рабілася ўжо пры ўдзеле Народнага Фронту.

Першай прыкметнаю падзеяй былі Дзяды 30 кастрычніка 1988-га, калі ўпершыню ў Менску супраць людзей, якія выйшлі памянуць продкаў, быў выкарыстаны сьлезацечны газ. Пазьняк павёў людзей у Курапаты, і па дарозе адбыўся мітынг — у атачэньні салдат унутраных войскаў (як выглядала, пераважна ўраджэнцаў Сярэдняй Азіі).

Празь некалькі дзён маскоўскія выданьні надрукавалі камэнтар Быкава, а яшчэ празь нейкі час на сустрэчы генэральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова з творчай інтэлігенцыяй Быкаў выступіў і расказаў пра тое, што адбылося пад Курапатамі. Гарбачоў, па яго словах, ня меў той інфармацыі — кіраўніцтва ЦК КПБ і КДБ далі яму зусім іншыя зьвесткі.

«Ён быў як агалены нэрв», — гэткай фразай ахарактарызаваў Быкава Гарбачоў у інтэрвію, якое даў мне ў 2003 годзе. А ў 1988-ым заклапочанасьць Быкава ня вельмі ўсхвалявала генсека — мяркуючы па тым, што камуністычнае кіраўніцтва Беларусі ня зьменшыла, а шматкроць узмацніла ціск на новаўтвораны народны рух.

Была абраная і асоба, на якой засяродзілася атака прапагандыстаў: Зянон Пазьняк, бо менавіта ён першым сказаў пра неабходнасьць дасягненьня сувэрэнітэту Беларусі. «У час актыўнага змаганьня за незалежнасьць і справядлівасьць Васіль Уладзімеравіч быў для мяне тым найпершым чалавекам, на якога можна было абаперціся, калі

акружала і кусала цябе воўчая зграя», — скажа Пазьняк у дзень сьмерці Быкава.

Выбары ў Вярхоўны Савет 12-га скліканьня праходзілі пад моцным ціскам адміністрацыйнай сыстэмы, але і ва ўмовах нацыянальнага ўздыму. Я балятаваўся ў Віцебску. У лютым 1990-га Аляксандар Лукашук патэлефанаваў Васілю Ўладзімеравічу і папрасіў сказаць некалькі словаў у маю падтрымку. Быкаў адгукнуўся — і гэтыя некалькі радкоў актывісты нашай «каманды» ўключылі ва ўлётку. На тых выбарах я перамог у першым туры, але перавагай усяго 500 галасоў — зразумела, што колькасьць тых, хто прагаласаваў пад уплывам звароту Быкава, была значна большай. Таму лічу, што дэпутацкім мандатам я абавязаны Быкаву.

Васіль Уладзімеравіч ніколі не прыходзіў на пасяджэньні сэсіі Вярхоўнага Савету, хаця як народны дэпутат СССР такое права меў. Аднойчы (здаецца, у 1991-м годзе) я прапанаваў яму наведаць сэсію і выступіць, але ніякай цікавасьці ён ня выказаў, і больш такіх прапановаў я ўжо не рабіў.

Прызнаюся, гэта мне здавалася крыху дзіўным, таксама як і маўчаньне Быкава ў 1989-1991 гадах на Зьездах народных дэпутатаў СССР.

Іншая рэч — найбліжэйшы сябар Быкава Алесь Адамовіч. Алесь Міхайлавіч рваўся на трыбуну крамлёўскага палацу зьездаў, і ягоныя выступы былі аднымі з самых запамінальных і непрыемных для партыйнага апарату, яны рабіліся падзеяй грамадзкага жыцьця. У сьнежні 1990-га, калі Вярхоўны Савет БССР разглядаў наш законапраект аб зямлі (мы прапаноўвалі ўвесьці на яе прыватную ўласнасьць) — я сабраў некалькі дзясяткаў подпісаў дэпутатаў з просьбаю даць слова народнаму дэпутату СССР Алесю Адамовічу. Адамовіч

прыйшоў у Дом ураду, выйшаў на трыбуну — і сутыкнуўся з агрэсіўнай антыпатыяй большасьці дэпутатаў, якую, здавалася, можна было адчуць фізычна. Апошнія свае словы Адамовіч дагаворваў пад зласьлівыя рэплікі дэпутатаў — «аграрыяў». Шмат гадоў я адчуваў віну перад Адамовічам: усё ж той выступ здароўя яму не дадаў. І толькі нядаўна ягоная дачка Натальля расказала, што Алесь Міхайлавіч, вярнуўшыся з сэсіі дадому, жыва пераказваў і свой выступ, і рэакцыю залі — і быў тым днём задаволены. Вядома, па сваёй натуры Адамовіч належаў да экстравэртаў, ён нібыта насычаўся энэргетыкай звонку, і дэбаты былі ягоным «коньком». Васіль Уладзімеравіч быў чалавекам іншага кшталту.

Але рознасьць характараў толькі часткова можа патлумачыць маўчаньне Быкава на дэпутацкіх зьездах у Крамлі.

Неяк ён расказаў, як, будучы членам саюзнай парлямэнцкай камісіі па абароне, прыйшоў на пасяджэньне ў Крэмль і мусіў выслухоўваць гнеўныя прамовы генэралаў, якія абураліся наступам дэмакратаў на аўтарытэт Савецкай арміі і разбурэньнем вайскова-прамысловага комплексу. «Больш я на гэтую камісію не хадзіў», — сказаў Васіль Уладзімеравіч.

І разам з тым — выступы на кожным зьезьдзе Беларускага Народнага Фронту, рэгулярнае наведваньне пасяджэньняў Сойму БНФ. На Соймах ён сядзеў звычайна побач з Барадуліным, і Рыгор Іванавіч зрэдку падаваў трапныя, часам гнеўныя, часам гумарныя рэплікі, але, наколькі памятаю, ніколі не выступаў. А вось Васіль Уладзімеравіч выступаў даволі часта.

І вось у чым бачыцца прычына такой розьніцы паводзінаў у крамлёўскім палацы зьездаў і ў БНФ. На Зьездах народных дэпутатаў СССР, нягледзячы на прысутнасьць паблізу таго самага Алеся Адамовіча (а ў Вярхоўным Савеце БССР, дзе Быкаў таксама не выступаў — Бураўкіна ды Гілевіча, якія няўхільна трымаліся нацыянальнай ідэі) — на тых дэпутацкіх форумах Быкаў быў, усё ж, у аблозе апанэнтаў, вельмі часта настроеных да яго варожа. У Народным Фронце атмасфэра была зусім іншая — тут ён знаходзіў аднадумцаў, якія яго паважалі і цанілі.

Васіль Уладзімеравіч надзвычай пільна сачыў за тым, што адбывалася ў Вярхоўным Савеце і шмат якія мае калегі з Апазыцыі БНФ узгадваюць, што ён дэталёва арыентаваўся ў парлямэнцкіх дэбатах (глядзеў тэлетрансьляцыі, якія тады вяліся).

Але што больш паказальна — ён дакладна разумеў сутнасьць палітычных падзеяў, што выявілася і ў 1990-1991 гадах, калі БНФ дамагаўся незалежнасьці Беларусі.

І ў 1991-м, калі змаганьне за незалежнасьць дасягнула найбольшай вастрыні, мы, дэпутаты БНФ, увесь час адчувалі падтрымку Васіля Ўладзімеравіча.

У студзені, адразу пасьля ўводу савецкіх танкаў у Вільню, Быкаў падтрымаў літоўцаў у іх змаганьні супраць імпэрскага цэнтру.

У сакавіку, на ІІ зьезьдзе БНФ, Быкаў кажа, што «зорка надзеі» — гэта «сувэрэнітэт нацыі».

У красавіку ён падтрымлівае рабочых, якія абвясьцілі страйк і запатрабавалі ня толькі эканамічных зьменаў, але і наданьня Дэклярацыі аб сувэрэнітэце канстытуцыйнай сілы.

19 жніўня Быкаў выступае супраць ГКЧП, які спрабаваў захаваць савецкую імпэрыю.

Нарэшце, мы дамагаемся скліканьня нечарговай сэсіі, і 25 жніўня 1991 году Вярхоўны Савет Беларусі абвяшчае незалежнасьць — Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце надаецца канстытуцыйны статус.

Пазьней Быкаў казаў пра тыя падзеі:

«Вядома, што кожная гістарычная зьява набывае сваё выразнае разуменьне з адлегласьці часу. У маштабах гісторыі вельмі цяжка зблізку зразумець тое ці іншае. Асабліва такую зьяву лёсавызначальную, як сувэрэннасьць той ці іншай краіны. Або яе шлях да гэтай сувэрэннасьці. Ну але што датычыць сувэрэннасьці Беларусі, дык можна ўжо сказаць пэўна, што ўсё-такі тое, што адбылося, хаця і не прынесла плёну, але, безумоўна, яго нельга пераацаніць у гістарычных маштабах…

Што ж датычыцца Апазыцыі ў Вярхоўным Савеце, то я думаю, што ў тых умовах, у той час менавіта Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту зрабіла гераічны ўчынак з таго, што дамаглася сувэрэннасьці. Гэта, канешне, яе заслуга. І чым далей, незалежна ад таго, чым гэта скончыцца — незалежна ад гэтага, ад лёсу Беларусі наогул, — зноў жа, у гістарычным вымярэньні гэта будзе вельмі значна і гэта будзе ацэнена празь вякі».

А для нас, актывістаў Народнага Фронту, дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце і тых тысяч людзей, якія стаялі на плошчы перад Домам ураду ў тыя жнівеньскія дні 1991-га, — слова і аўтарытэт Васіля Ўладзімеравіча Быкава былі тым, без чаго наўрад ці ўдалося б дасягнуць незалежнасьці.

# Жнівень

14 жніўня. Маскоўская газэта «Известия» паведамляе, што падпісаньне Саюзнай дамовы заплянаванае на 20 жніўня ў Маскве. Дэпутаты Апазыцыі БНФ зьмяшчаюць у друку адкрыты ліст на імя М. Дземянцея, у якім адзначаецца, што зьменены тэкст не разглядаўся Вярхоўным Саветам.

19 жніўня. У Маскве «Дзяржаўны камітэт па надзвычайным становішчы» («ГКЧП») заяўляе, што прэзыдэнт СССР М. Гарбачоў ня здольны выконваць свае абавязкі па стане здароўя. Прэзыдэнт РСФСР Б. Ельцын заяўляе пра неканстытуцыйнасьць ГКЧП. Кіраўніцтва ЦК КПБ на чале зь першым сакратаром А. Малафеевым выказвае падтрымку ГКЧП. Дэпутаты Апазыцыі БНФ заяўляюць аб неканстытуцыйнасьці ГКПЧ і ацэньваюць

яго ўтварэньне як спробу захаваць савецкую імпэрыю шляхам усталяваньня ваеннай дыктатуры. Увечары БНФ праводзіць мітынг перад Домам ураду.

20 жніўня. Пакой 363 Дому ўраду, дзе зьбіраюцца дэпутаты Апазыцыі БНФ, пераўтвараецца ў штаб супраціву путчу. Трымаецца пастаянная сувязь з сакратарыятам прэзыдэнта РСФСР Б. Ельцына. БНФ зьбірае на мітынг некалькі тысяч чалавек.

21 жніўня. Колькасьць дэпутатаў, якія патрабуюць скліканьня надзвычайнай сэсіі ВС, павялічваецца да 82-х. На плошчы перад Домам ураду БНФ праводзіць мітынг. Увечары паведамляецца, што путч праваліўся.

Латвія абвяшчае незалежнасьць ад СССР.

22 жніўня. Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету вымушаны склікаць нечарговую сэсію ВС, якую мяркуе правесьці цягам аднаго дня. Прапануецца прыняць толькі дзьве пастановы — «Аб бягучым моманце» і «Аб Саюзнай дамове». Дэпутаты апазыцыі БНФ вылучаюць свае прапановы, сярод якіх — наданьне Дэкларацыі аб сувэрэнітэце канстытуцыйнага статусу.

23 жніўня. У ноч з 22 на 23 жніўня дэпутаты БНФ на чале з З. Пазьняком рыхтуюць пятнаццаць заканадаўчых пастаноў у мэтах абвяшчэньня і ўмацаваньня незалежнасьці Беларусі. Увечары дэпутаты Апазыцыі БНФ выступаюць у прамым эфіры Беларускага тэлебачаньня і заклікаюць людзей прыйсьці

раніцай 24 жніўня да Дому ўраду, каб падтрымаць патрабаваньне аб абвяшчэньні незалежнасьці Беларусі і забароне КПБ-КПСС.

24 жніўня. На плошчы перад Домам ураду зьбіраюцца дзясяткі тысяч грамадзян. У 9.30 пачынаецца нечарговая сэсія Вярхоўнага Савету. У Авальную залю Г. Сямдзянава ўносіць бел-чырвона-белы сьцяг. З. Пазьняк уздымае пытаньне аб адказнасьці М. Дземянцея і членаў Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, якія падтрымалі путч, і прапануе, каб сэсію вёў першы намесьнік старшыні С. Шушкевіч. Дэпутаты БНФ патрабуюць надаць Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статус канстытуцыйнага закону.

Украіна абвяшчае незалежнасьць.

25 жніўня. На плошчы перад Домам ураду — дзясяткі тысяч людзей. Дэпутаты зганяюць з трыбуны першага сакратара ЦК КПБ А. Малафеева, які падтрымаў путч. М. Дземянцей падае ў адстаўку, функцыі выканаўцы абавязкаў старшыні пераходзяць да С. Шушкевіча. Сэсія прымае пастановы аб прыпыненьні дзейнасьці КПБ-КПСС. Ствараецца Часовая камісія ВС па ацэнцы дзейнасьці членаў ГКЧП і грамадзка-палітычных утварэньняў, органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня, службовых асобаў і грамадзянаў, якія іх падтрымалі (старшыня — Ігар Пырх). Дэпутат А. Лукашэнка выступае супраць наданьня Дэклярацыі аб сувэрэнітэце канстытуцыйнай сілы і папярэджвае, што ў выпадку абвяшчэньня незалежнасьці «Беларусь можа апынуцца ў эканамічнай і палітычнай

ізаляцыі ад Расеі і іншых рэспублік». Слова бярэ З. Пазьняк, які засьцерагае дэпутатаў ад празьмернай эўфарыі адносна Ельцына, выказвае сумневы ў «дэмакратычным характары будучай Расеі», абвінавачвае Маскву ў нафтавым шантажы і заяўляе, што «калі мы ня будзем мець дзяржаўнай незалежнасьці, мы ня зможам супрацьстаяць гэтай палітыцы». Пасьля выступу Пазьняка пытаньне аб канстытуцыйнасьці Дэклярацыі ставіцца на галасаваньне.

У 20 гадзін 12 хвілінаў таблё галасаваньня ў Авальнай залі высьвечвае лічбу: «за» — 253 дэпутаты (для станоўчага рашэньня патрабуецца 232 галасы). На плошчы перад Домам ураду адбываецца шматтысячны мітынг.

26 жніўня. Газэта «Звязда» выходзіць з шапкай на першай паласе: «Беларусь — незалежная!».

27 жніўня. Малдова абвяшчае незалежнасьць.

30 жніўня. «Народная газета» друкуе зварот дэпутатаў Апазыцыі БНФ, якія заклікаюць былых членаў КПСС і ЛКСМБ да стваральных дзеяньняў і прапаноўваюць ім уключацца «ў дэмакратычны працэс, у рух адраджэньня вольнай суверэннай Беларусі».

Азэрбайджан абвяшчае незалежнасьць.

31 жніўня. Сойм Польшчы прымае пастанову, у якой вітае абвяшчэньне незалежнасьці Беларусі.

Кіргізія і Узьбекістан абвяшчаюць незалежнасьць.

# «Масква забірае ў нас усё»

У ліпені мы з Галяй набылі турыстычную пуцёўку на дзесяць дзён у Крым (зьвяртацца па санаторную пуцёўку ў «лечкамісію» — адмысловую структуру, якая абслугоўвала высокапастаўленых чыноўнікаў і да якой «прымацавалі» дэпутатаў, я палічыў немагчымым). Жылі па адной-дзьве ночы ў сьціплых гатэлях і нават у інтэрнаце («зручнасьці на калідоры») — але адсутнасьць зручнасьцяў не бянтэжыла, успрымалі гэта як рамантычнае падарожжа. Якое можна было лічыць і вясельным, хоць пасьля вясельля прайшоў больш за год (вясельле ў нас супала з выбарчай кампаніяй). Па дарозе зь Ялты ў Севастопаль каля Фаросу экскурсавод прапанавала паглядзець у бок мора — «Зараз будзе дача Гарбачова!» На некалькі сэкундаў у акне аўтобуса мільгануў чырвоны дах з круглымі акенцамі — мы яшчэ зьдзівіліся ягонай арыгінальнай канфігурацыі. Праз пару тыдняў будынак пад аранжавым дахам апынецца ў эпіцэнтры гістарычных падзеяў.

Яшчэ ў Крыме я прачытаў у газэтах пра фарсіраваньне прыняцьця «саюзнай дамовы», а па вяртаньні ў Менск даведаўся, што справа зайшла далёка і што кіраўніцтва Вярхоўнага Савету цалкам пагадзілася з усім, што прапанаваў Крэмль.

Галоўным рэфлексам камуністычнага кіраўніцтва БССР была вернасьць Маскве.

Загадаў Гарбачоў Дземянцею прыняць фармальную Дэклярацыю аб сувэрэнітэце, у якой падкрэсьлівалася б неабходнасьць існаваньня

СССР — той і выконваў (дэпутатам Апазыцыі БНФ вялізнымі высілкамі ўдалося правесьці «незалежніцкія» палажэньні).

Загадаў Гарбачоў прымаць «саюзны дагавор», гэткую мадэрнізаваную форму імпэрыі — Дзямянцей пасьлядоўна рупіўся пра гэта і, як на працу, езьдзіў у Нова-Агарова, дзе Гарбачоў зьбіраў кіраўнікоў рэспублік (падрыхтоўка дамовы атрымала назоў — «новаагароўскі працэс»).

Цяперашнім маладым альбо тым, хто ў той час слаба сачыў за палітычнымі падзеямі, сёньня цяжка зразумець, як спалучаліся ў 1990-1991 гадах Дэклярацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце БССР і прынятае 12 чэрвеня 1991 г. рашэньне Вярхоўнага Савету БССР падпісаць новую саюзную дамову.

Рэч у тым, што камуністычнае кіраўніцтва Беларусі не хацела ніякай незалежнасьці. Дэклярацыя для іх была ня больш чым фармальнасьцю. Яны проста ўявіць не маглі, як гэта можна — жыць без Масквы. Апрача таго, нагадаю, падчас прыняцьця Дэклярацыі камуністычная большасьць адмовілася надаць ёй канстытуцыйную сілу (гэта значыць, прызнаць вяршэнства Канстытуцыі і законаў БССР над «саюзнымі») і прагаласавала за артыкул 11-ты, які прадугледжваў «неадкладна прыступіць да распрацоўкі Дагавору аб саюзе сувэрэнных дзяржаў». Гэта было якраз тое, да чаго імкнуўся Крэмль і што Дзямянцей паслухмяна выконваў. Да таго ж, ён заставаўся членам бюро ЦК КПБ і праводзіў рашэньні камуністычнага кіраўніцтва, якое пра незалежнасьць і чуць не хацела.

І тут, падаецца, будзе цікавай ацэнка Дэклярацыі (у тым выглядзе, у якім яна існавала да 25 жніўня 1991 году), дадзеная Васілём Быкавым літаральна праз пару дзён пасьля яе прыняцьця, у

ліпені 1990-га. Зрабіць гутарку зь пісьменьнікам мне прапанавала рэдакцыя штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».

Падрыхтаваўшы праект Дэклярацыі і змагаючыся за кожнае слова, мы, дэпутаты БНФ, былі вымушаныя выйсьці з Авальнай залі — абгрунтаваўшы гэта нежаданьнем парлямэнцкай большасьці надаваць Дэклярацыі канстытуцыйную сілу і імкненьнем падпісаць Саюзную дамову, што перакрэсьлівала сэнс дакумэнту. Насамрэч, гэта быў тактычны крок — такім чынам мы хацелі прымусіць камуністаў прагаласаваць за Дэклярацыю (шмат што яны рабілі насуперак Пазьняку).

Я нагадаў, што прыняцьце Дэклярацыі віталі перад Домам ураду некалькі сотняў чалавек — грамадзтва ж у сваёй масе паставілася да гэтага індыфэрэнтна, людзі тады былі занятыя праблемай фізычнага выжываньня.

«Мабыць, гэта яшчэ добра, калі дакумэнт такога роду можа каго-небудзь узрушваць. Значыцца, людзі не зусім зьняверыліся, ня зжылі ў сабе памкненьне да ідэалу, — адказаў Васіль Уладзімеравіч. — Я адношуся да гэтай дэклярацыі спакойна. Прыняцьце яе (або непрыняцьце), па сутнасьці, нічога ня можа зьмяніць у жыцьці рэспублікі, так што значэньне дэклярацыі чыста тэарэтычнае. Добра, канешне, што наш парлямэнт намогся на такі крок, напэўна, архірадыкальны ў ягоных вачах. Але, мабыць, ня трэба асаблівай палітычнай праніклівасьці, каб вызначыць рэальную цану такога кроку».

«Дэклярацыя мае нямала сваіх аналягаў-папярэднікаў, выдатных ва ўсіх адносінах, складзеных з самых патасных фраз, а часам і з найлепшых пажаданьняў, — працягваў Васіль Уладзімеравіч. — Мабыць, каб дакумэнты такога роду адпавя-

далі свайму наміналу, патрэбны адпаведны палітычны ўзровень народнай сьвядомасьці, выразна дэмакратычная воля яго кіраўніцтва. А тут якая воля, калі ў залі Вярхоўнага Савету, які прымаў дэклярацыю, панаваў амаль хаўтурны настрой, бо ўсё гэта рабілася супраць волі большасьці, пры крайняй раздражнёнасьці некаторых дэпутатаў з партгрупы. Левыя дэпутаты (гэтак тады называлі дэпутатаў БНФ — С.Н.) самааддана змагаліся за кожнае слова пры відавочнай пасіўнасьці правых (камуністаў — С.Н.), якія, аднак, адчувалі сваю сілу ў іншым — у галасавальнай працэдуры. Яна ўсё і вырашала. Можна было зразумець тых, хто пакінуў залю, калі сэсія падышла да перадапошняга артыкулу, які, па сутнасьці, зрабіў малаэфэктыўнымі (калі не зусім бескарыснымі) усе астатнія, нават самыя ўзьнёслыя і рамантычныя, але пазбаўленыя сэнсу.

Напрыклад, што практычна азначае заключная частка артыкулу 10 аб бязьядзернай зоне? Ці можа цяперашняе кіраўніцтва рэспублікі дамагчыся таго, ня толькі ліквідаваць, а хоць бы зьменшыць колькасьць ракетных баз — на адну-дзьве адзінкі? Хоць бы на тую, паблізу ад Менску, якая кожнага дня пагражае сталіцы ня меншымі вынікамі, чым Чарнобыль. Як цяпер, так і пасьля заключэньня саюзнага дагавору, гэтае пытаньне будзе цалкам у кампэтэнцыі міністэрства абароны СССР, а не Вярхоўнага Савету БССР. Які ж тады практычны сэнс тае фразы, апроч як чыста прапагандысцкі?..

Так што рэальнага напаўненьня гэтай звонкагалосай дэклярацыі няма ніякага, і цяжка меркаваць, каб з такім выразным, мякка кажучы, кансэрватызмам КПБ і Саветаў яго магчыма будзе дасягнуць у бліжэйшым будучым... Відаць, ажыць-

цяўляць сувэрэннасьць магчыма толькі ва ўмовах сувэрэнітэту, — во ў чым парадокс часу».

Сёньня тым, хто слаба знаёмы з тагачаснымі рэаліямі, такая ацэнка Быкавым Дэклярацыі аб сувэрэнітэце можа падацца нечаканай, але яна цалкам супадае з нашым, дэпутатаў БНФ, стаўленьнем да яе ў той час: без канстытуцыйнай сілы яна ня мела таго значэньня, якое, напрыклад, для Літвы меў Акт аб аднаўленьні незалежнасьці.

Я не хачу сказаць, што значэньне дня 27 ліпеня 1990 году, калі прынялі Дэклярацыю, перабольшанае — што да афіцыйнай прапаганды ў часы Лукашэнкі, яно, наадварот, недаацэненае, ды наогул гэта проста замоўчваецца. Аднак у параўнаньні з 25 жніўня 1991 году, калі была абвешчаная незалежнасьць, прыняцьце Дэклярацыі мела хутчэй сымбалічнае значэньне. А вось што было вельмі важна — гэтае тое, што мы прымусілі дэпутатаў-камуністаў вымавіць слова «сувэрэнітэт» і прагаласаваць за дэкляраваньне сувэрэнітэту (хай нават і з агаворкай пра «саюзную дамову»). І пасьля 27 ліпеня мы пастаянна спасылаліся на палажэньні Дэклярацыі — асабліва тады, калі трэба было схіліць дэпутацкую большасьць да нейкіх радыкальных крокаў у справе стварэньня незалежнай краіны (тут ім не было чым крыць — самі ж прагаласавалі за «сувэрэнітэт»).

## Незалежнасьць ня «ўпала зь неба»

Раз-пораз гучыць меркаваньне, што беларусы не хацелі незалежнасьці, што яна на іх «упала зь неба».

Гісторыя сьведчыць, што стагодзьдзямі беларускі народ змагаўся за незалежнасьць — і ахвя-

раваў дзеля гэтага жыцьцямі сваіх найлепшых людзей. У XX стагодзьдзі Слуцкі збройны чын, што абараняў БНР, даў прыклад такога змаганьня — змаганьня ня словам, а зброяй. А былі яшчэ дзясяткі тысячаў, хто за ідэю вольнай ад Масквы Беларусі пайшоў у ГУЛаг і ў Курапаты.

На шчасьце, у 1990-1991 гадах мы маглі змагацца за незалежнасьць бяз зброі.

А пра тое, што неабходнасьць незалежнасьці ўсьведамлялі ня толькі трыццаць чалавек у парлямэнцкай Апазыцыі альбо трыццаць тысячаў у Народным Фронце, сьведчыць дакумэнт, які мне перадалі ў чэрвені 1991 году зь Віцебску.

Гэта — зварот у Вярхоўны Савет і Савет міністраў Беларусі сходу прадстаўнікоў віцебскіх прадпрыемстваў: станкабудаўнічага заводу імя Кірава, тэлевізійнага заводу «Віцязь», заводу заточных станкоў імя XX зьезду КПСС, станкабудаўнічага заводу імя Камінтэрну і вытворчага аб’яднаньня «Маналіт». Пяць найбуйнейшых прадпрыемстваў, на якіх працавалі дзясяткі тысяч чалавек (думаю, у Віцебску не было б сям’і, у якой нехта з блізкіх не працаваў бы на адным з гэтых заводаў; так, у мяне на тэлевізійным — цётка і стрыечны брат). Ад кожнага прадпрыемства пад зваротам па тры подпісы — генэральнага дырэктара, старшыні прафкаму і старшыні страйкаму.

У звароце — вялікі пералік эканамічных і сацыяльных патрабаваньняў, сярод якіх: усталяваць верхні ўзровень падатку на прыбытак 35 адсоткаў, скасаваць 5-адсоткавы «гарбачоўскі» падатак, заканадаўча пацьвердзіць скасаваньне абмежаваньня базавага фонду аплаты працы, які прымаецца для налічэньня фонду спажываньня — і іншыя.

А завяршаецца зварот палітычнымі патрабаваньнямі, першым зь якіх — «надаць Дэкларацыі аб сувэрэнітэце Беларусі канстытуцыйны характар».

Для дзясяткаў тысяч віцяблян, якіх рэпрэзэнтавалі падпісанты гэтага звароту, незалежнасьць дакладна не «звалілася зь неба».

Падобныя звароты атрымліваў кожны дэпутат Апазыцыі БНФ.

Пэрыяд 1990-1991 гадоў быў часам, калі, як кажуць, дзень ішоў за месяц (калі не за год), і дасягненьне поўнай незалежнасьці было ня толькі мэтай, але і з кожным днём рабілася неадкладнай умовай разьвіцьця Беларусі.

Літва, Латвія, Эстонія ўжо больш за год ішлі па шляху незалежнасьці, імкліва стваралі ўласныя войскі, банкаўскія сыстэмы, набывалі досьвед самастойнай міжнароднай палітыкі — а мы, беларусы, гублялі час.

Але ўсе гэтыя месяцы мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, дамагаліся ад парлямэнцкай пракамуністычнай большасьці надаць Дэкларацыі канстытуцыйны статус. Такое патрабаваньне гучала і на вулічных мітынгах, і з парлямэнцкай трыбуны. Мы прапаноўвалі Вярхоўнаму Савету законы, якія забясьпечвалі стварэньне дзяржаўных інстытуцыяў незалежнай дзяржавы і пераход да рынку — але яны не прымаліся. Праўда, некаторыя палажэньні — шляхам вялікіх намаганьняў і ў Авальнай залі, і ў кулюарах — нам удавалася правесьці.

Дэкларацыя аб сувэрэнітэце была, так бы мовіць, «замарожаная», але падзеі разьвіваліся імкліва і не на карысьць незалежнасьці. Хутчэй наадварот — у пачатку жніўня 1991 году актывізаваўся працэс падпісаньня так званай «новай саюзнай дамовы».

## Крэмль фарсіруе «саюзную дамову»

Спробы навязаць рэспублікам новую «саюзную дамову» Крэмль рабіў пачынаючы зь лета 1990 году. Ужо ў лістападзе 1990-га Апазыцыя БНФ прапанавала Вярхоўнаму Савету наступную пазыцыю адносна «Саюзу»:

Ініцыятыва стварэньня Саюзу незалежных дзяржаў павінна сыходзіць ад саміх гэтых дзяржаў як сувэрэнных суб'ектаў;

Працэс адбываецца паэтапна шляхам кансультацый паміж рэспублікамі і заключэньня міжрэспубліканскіх дамоўленасьцяў, у тым ліку і стварэньня эканамічных садружнасьцяў рэспублік;

Першай умовай павінна стаць прызнаньне Вярхоўным Саветам і прэзыдэнтам СССР Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце БССР;

Перад пачаткам перамоваў урад СССР павінен перадаць Беларусі яе долю ў агульнасаюзнай маёмасьці, а таксама з алмазнага, валютнага фонду і залатога запасу (права Беларусі на гэтую долю было зафіксаванае ў Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце БССР).

Мы прапаноўвалі, акрамя іншага, неадкладна прыступіць да перамоў з рэспублікамі СССР і найперш з Расеяй аб заключэньні двухбаковых эканамічных ды іншых пагадненьняў.

А таксама — прыступіць «да кансультацый з урадамі Эстоніі, Латвіі, Літвы, Украіны аб разьвіцьці ўзаемадачыненьняў, каардынацыі дзеяньняў у галіне эканомікі, разьвіцьці адносін у палітыцы і гуманітарным супрацоўніцтве дзяржаў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёну. Разгледзець магчымасьць узаемадапамогі і эканамічнай садружнасьці гэтых краін, стварэньня міжпарля-

мэнцкай камісіі па выпрацоўцы эканамічнай дамовы».

Дэпутацкая камуністычная большасьць адкінула нашыя прапановы.

12 чэрвеня Вярхоўны Савет БССР, нягледзячы на наш, дэпутатаў Апазыцыі БНФ, супраціў, прыняў пастанову з даручэньнем старшыні Мікалаю Дземянцею падпісаць новую саюзную дамову.

На наступны дзень, 13 чэрвеня, Вярхоўны Савет пачаў разглядаць чарнобыльскае пытаньне, і з вуснаў дэпутатаў-камуністаў гучалі словы адчаю, што, маўляў, мы апынуліся ў бядзе, ніхто нам не дапаможа, і толькі некаторыя асьмельваліся кідаць рэплікі ў бок «саюзнага Цэнтру».

Камуністы разумелі, што «саюз» са сваім «цэнтрам» не дапаможа — але галасавалі за гэты «саюз».

З простай прычыны — нежаданьня бачыць Беларусь незалежнай краінай.

Прагаласаваўшы за фарсіраваньне «новай саюзнай дамовы» дэпутаты неўзабаве разьехаліся ў адпачынкі.

## Гарбачоў пераўтвараецца ў «нуль»

На пачатку жніўня 1991 году штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» пісаў:

«Пакуль прэзыдэнт СССР адпачывае на поўдні, у палітычным жыцьці краіны адбываюцца істотныя зьмены. На першы плян паступова выходзяць адносіны паміж рэспублікамі, інтарэсы Цэнтру пры гэтым адкрыта ігнаруюцца. Дня не праходзіць без паведамленьня пра заключэньне «гістарычных» дамоваў аб супрацоўніцтве між сувэрэннымі рэспублікамі. На гэтым тыдні іх падпісалі Казахстан

і Кіргізстан, Туркменія і Таджыкістан, Літва і Арменія... У Ташкенце адбылася сустрэча прэзыдэнтаў чатырох сярэднеазіяцкіх рэспублік з удзелам Азербайджану і Казахстану, але без удзелу Цэнтру. Зьявілася і новая формула: 15+0 — у Алма-Аце плянуецца сустрэча лідэраў былых 15 саюзных рэспублік, зноў жа без удзелу Цэнтру... (у тыя дні на слыху была формула Гарбачова «15+1», дзе пад «адзінкай» меўся на ўвазе Цэнтар, г.зн. Гарбачоў. Лідэры рэспублік, як бачым, пераўтварылі яго ў «нуль» — С.Н). Яшчэ трохі, і чарговы адпачынак прэзыдэнта можа пераўтварыцца ў заслужаны (у савецкія часы выраз «заслужаны адпачынак» быў сынонімам пэнсіі — С.Н.)...

Беларусь жа па-ранейшаму «свае надзеі зьвязвае з моцным Цэнтрам». Толькі так можна растлумачыць перанясеньне тэрміну падпісаньня дамовы рэспублікай з 3 верасьня на 20 жніўня, бо канчатковага тэксту дамовы яшчэ ніхто, вядома, акрамя яго аўтараў, ня бачыў і не чытаў» (ЛіМ, жнівень 2011).

У пастанове Вярхоўнага Савету, прынятай 12 чэрвеня, быў пункт трэці — «Даручыць камісіі Вярхоўнага Савету Беларускай ССР па падрыхтоўцы праекту Саюзнага дагавору і вызначэньні парадку яго заключэньня абагульніць прапановы і заўвагі пастаянных камісіяў Вярхоўнага Савету Беларускай ССР, народных дэпутатаў, працоўных Беларускай ССР і ўлічваць іх у працэсе ўзгадненьня канчатковай рэдакцыі праекту Саюзнага дагавору».

Фармулёўка цьмяная — бо адсутнічалі крытэрыі вызначэньня «слушнасьці» альбо «няслушнасьці» прапановаў, якія камісія павінна была «абагульняць». Дый нерэальным выглядала абагуль-

неньне прапановаў камуністаў, якія выступалі за «адзіны саюз», з нашай пазыцыяй: ніякага новага «саюзу», толькі незалежнасьць.

Але нават члены камісіі Вярхоўнага Савету па падрыхтоўцы праекту Саюзнай дамовы даведаліся пра падпісаньне з прэсы — 12 жніўня газэта «Известия» паведаміла, што падпісаньне Дамовы заплянаванае на 20 жніўня ў Маскве.

Пры гэтым ніхто з нас, дэпутатаў, канчатковага тэксту дамовы ня бачыў.

Мы з Пазьняком вырашылі, што трэба рабіць нешта тэрміновае.

Але — што? Быў жнівень, дэпутаты ў адпачынку. Напісаць заяву ад Апазыцыі — паўгадзіны-гадзіна, але вось сабраць пад ёй подпісы, калі людзі ня ў Менску — справа некалькіх дзён. Таму напісалі кароткі ліст Дземянцею, пад якім падпісаліся тыя, хто быў у той дзень у Вярхоўным Савеце.

«Паважаны Старшыня Вярхоўнага Савету! — пісалі мы. — У сувязі зь нечаканым паведамленьнем газэты «Известия» 12 жніўня гэтага году аб тым, што «паўнамоцная дэлегацыя» БССР будзе падпісваць 20 жніўня Саюзны Дагавор, са зьмененым тэкстам якога не знаёмыя народныя дэпутаты БССР і на Вярхоўным Савеце ён не абмяркоўваўся, заяўляем аб неправамернасьці, безадказнасьці Вашых дзеяньняў. Вы імкняцеся заключыць дагавор пра лёс Беларусі без праходжаньня ўсіх неабходных у такіх выпадках экспэртызаў, абмеркаваньняў і рашэньняў. Калі, нягледзячы ні на што, і такі дагавор будзе Вамі падпісаны, ён усё роўна ня будзе мець юрыдычнай, прававой і палітычнай сілы, бо ня можа быць прызнаны ні беларускім грамадзтвам, ні міжнароднай супольнасьцю. Фактычна, размова ідзе аб падпісаньні новага каляніяльнага

для Беларусі дагавора. Крок, які Вы зьбіраецеся зрабіць, ставіць пытаньні аб Вашай асабістай адказнасьці перад Беларускім народам».

Ліст падпісалі пяць дэпутатаў — тыя, хто быў у той дзень у будынку Дому ўраду — Зянон Пазьняк, Уладзімер Заблоцкі, Сяргей Навумчык, Уладзімер Новік, Яўген Новікаў.

## Бальшавіцкая традыцыя: «Время, вперёд!»

У тыя самыя дні Выканкам Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады (БСДГ) зрабіў заяву, у якой выказаў стаўленьне да падпісаньня саюзнай дамовы. «БСДГ у прынцыпе не выступае супраць Саюзу Сувэрэнных Дзяржаў. Ідэалам беларускай сацыял-дэмакратыі зьяўляецца садружнасьць свабодных і роўных нацый, садружнасьць дэмакратычных прававых дзяржаваў», — казалася ў заяве.

Прызнацца, з таго часу я забыўся і цяпер зь невялікім зьдзіўленьнем адзначаю, што БСДГ не была супраць саюзнай дамовы ў прынцыпе. У БНФ у 1988-89-ых, нават на пачатку 1990 году часам таксама казалі пра магчымасьць саюзу сувэрэнных дзяржаў (акцэнт — на «сувэрэнных»). Што ж, ня ўсе і не адразу прыйшлі да разуменьня неабходнасьці існаваньня незалежнай дзяржавы і ў Беларускім Народным Фронце. Аднак ужо ў траўні 1990-га БНФ заявіў пра сувэрэнітэт як пра галоўную палітычную мэту, і ў першай палове 1991-га змаганьне супраць ідэі новага «абноўленага саюзу» было для нас часткай працэсу дасягненьня незалежнасьці.

Пры гэтым дэпутаты Алег Трусаў, Лявон Дзейка, Яўген Цумараў ды іншыя дэпутаты — члены БСДГ нароўні з усімі іншымі дэпутатамі Апазы-

цыі БНФ дамагаліся на сэсіях наданьня Дэклярацыі канстытуцыйнага статусу.

Заява БСДГ была важнай для ацэнкі ня толькі саюзнай дамовы, але і працэдуры яе падрыхтоўкі.

Выканкам Цэнтральнай Рады БСДГ зьвярнуў увагу на пасьпешлівасьць, зь якой рыхтуецца падпісаньне. «Гэтая пасьпешлівасьць цалкам адпавядае бальшавіцкай традыцыі прысьпешваць падзеі і час». «Не запатрабаваўшы кампэнсацыі за шкоду, спрычыненую Чарнобыльскай катастрофай, кіраўніцтва БССР пасьля падпісаньня новага Дагавору страціць права прад'яўляць прэтэнзіі гэтак званаму цэнтру. Дапамогі ад іншых рэспублік, якія знаходзяцца ў цяжкім эканамічным становішчы, чакаць нельга». І далей: «...Падпісаньне юрыдычна няўзважанага саюзнага дагавору не гарантуе грамадзянскага міру, не прывядзе да нармалізацыі адносін паміж паасобнымі рэспублікамі і цэнтрам, ня спыніць міжнацыянальных канфліктаў. Захаваньне цяперашняй структуры ўзброеных сілаў СССР, якія прыцягваюцца для вырашэньня міжэтнічных і міжнацыянальных сутычак, вядзе да таго, што Беларусь ізноў будзе губляць сваіх сыноў на гэтай неабвешчанай вайне...»

## Пра што расказаў генэрал КДБ

Пасьпешлівасьць Гарбачова зрабілася зразумелай пазьней, калі прыадчыніліся некаторыя архівы. Улада выцякала зь ягоных рук, яна ўжо не магла падмацоўвацца «эканамічным рэсурсам». Казна СССР была пустая. Гарбачоў стаяў перад Захадам з працягнутай рукой — і тут не было б вялікай бяды, каб Гарбачоў прызнаў, што камуністычны экспэрымэнт пацярпеў паразу. Але не —

просячы грошай, ён працягваў прысягаць на вернасьць «ідэям Леніна». І, між іншым, заставаўся генэральным сакратаром ЦК камуністычнай партыі. А ў ліпені 1991-га нават правёў пленум ЦК, на якім было вырашана ствараць новую (якую ўжо па ліку?) праграму гэтай самай партыі.

У кнізе «СССР. Канец праекту» былы супрацоўнік ЦК КПСС Мікалай Зяньковіч прыводзіць урывак са свайго дзёньніка, які раскрывае некаторыя акалічнасьці падрыхтоўкі варыянту саюзнай дамовы, якую плянавалі падпісаць 20 жніўня:

«31 ліпеня. Кажуць, што ўчора і пазаўчора ў Нова-Агарове праходзіла неафішаваная сустрэча Гарбачова, Ельцына і Назарбаева, якія бяруць удзел у савецка-амэрыканскіх перамовах. Нібыта дасягнутая дамоўленасьць аб падпісаньні Саюзнай дамовы ня ў верасьні-сьнежні, як меркавалася, а 20 жніўня... (Удакладненьне 2009 году. Як стала вядома пазьней, на гэтай сустрэчы Гарбачову было прапанавана правесьці кардынальныя перастаноўкі ў найвышэйшым эшалёне ўлады. Замене падлягалі Лук'янаў (старшыня Вярхоўнага Савету СССР — С.Н.), Янаеў (віцэ-прэзыдэнт СССР), Паўлаў (прэм'ер-міністар СССР), Пуга (міністар ўнутраных справаў СССР), Кручкоў (старшыня КДБ СССР) ды іншыя. Размова, якая адбывалася на бальконе рэзыдэнцыі ў Нова-Агарове, была запісаная КДБ і прадстаўленая Кручкову, які пазнаёміў зь яе зьместам іншых фігурантаў — будучых удзельнікаў ГКЧП.

Генэрал КДБ Шыронін распавядаў мне ў прыватнай гутарцы, што менавіта гэтае рашэньне паскорыла набліжэньне жнівеньскага путчу. Бо праект Дамовы трымалі ў таямніцы ня толькі ад грамадзкасьці, але і ад найвышэйшых службовых

асобаў дзяржавы» (Н. Зенькович, «СССР. Конец проекта», Москва, 2009).

З гэтага запісу можна зрабіць дзьве высновы.

Першая: ня маюць рацыі тыя, хто кажа, што Беларусь атрымала незалежнасьць дзякуючы Ельцыну — як бачым, Ельцын з Гарбачовым і Назарбаевым дамаўляюся пра перадзел улады, пры якім цэнтар, хаця і не з ранейшымі функцыямі, але заставаўся. Проста пазбаўляліся ад непажаданых людзей. Прадстаўніка Беларусі на гэтую размову нават не запрасілі.

І другая: «саюзная дамова», якая вызначала лёс народаў, рыхтавалася ўпотайкі — нават Вярхоўныя Саветы саюзных рэспублік ня мелі яе тэксту.

## Уступіць — лёгка. Выйсьці — немагчыма

Зрэшты, праз некалькі дзён пасьля ліста да Дземянцея я, як і іншыя дэпутаты Вярхоўнага Савету, атрымаў ад яго тэкст новага варыянту «Саюзнай дамовы». СССР захоўваў абрэвіятуру, але мяняў назоў: пераўтвараўся ў «Саюз Савецкіх Суверэнных Рэспублік».

У «сфэры вядзеньня Саюзу ССР» былі войска, памежная служба, унутраныя, спэцыяльныя, тэхнічныя войскі, каардынацыя дзейнасьці органаў бясьпекі рэспублік (натуральна, з Лубянкі). Таксама — «ажыцьцяўленьне зьнешняй палітыкі», падпісаньне міжнародных дамоваў.

А яшчэ — зьнешнеэканамічная дзейнасьць (куды ж без валютных даходаў?). Ну і — ажыцьцяўленьне грашовай эмісіі (гэта значыць, агульныя грошы, і друкаваліся б яны ня ў Менску ці ў Кіеве, а ў Маскве), залаты запас, алмазны і валютны фонды. Прыгадалася, што яшчэ ў дзень прыняць-

ця Дэклярацыі 27 ліпеня 1990 году на сэсіі Зянон Пазьняк так ацаніў самы першы праект саюзнай дамовы: «Масква плянуе забраць сабе ўсё, а нам пакідае толькі Чарнобыль». Тое самае можна было сказаць і пра апошні варыянт.

А вось яшчэ прыклад поўнага ігнараваньня Гарбачовым і ягоным атачэньнем (менавіта яны распрацоўвалі праект) прапановаў тых, хто, у прынцыпе, не выступаў супраць Саюзнай дамовы, як БНФ — але выказваўся за права беларускага народу размаўляць на сваёй мове.

Увесну 1991 году Рада Таварыства беларускай мовы зрабіла адмысловую заяву з нагоды палажэньня ў праекце Саюзнай дамовы аб прызнаньні за расейскай мовай статусу афіцыйнай мовы СССР. Такое палажэньне супярэчыла Закону БССР аб мовах і Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце БССР, таму Рада ТБМ прапанавала Вярхоўнаму Савету «не падпісваць Саюзны дагавор у той частцы, якая вызначае статус рускай мовы як афіцыйнай на тэрыторыі СССР». «Артыкул 20 праекту Саюзнага дагавора, — гаварылася ў заяве Рады ТБМ, — прапануем назваць «Дзяржаўныя мовы» і даць у наступнай рэдакцыі: «Моўныя ўзаемадачыненьні дзяржаў-удзельніц Дагавору вызначаюцца адпаведнымі заканадаўчымі актамі — Законамі аб мовах».

14 траўня 1991 году гэтую прапанову ТБМ падтрымала і Рада Саюзу пісьменьнікаў Беларусі.

Нарэшце, 31 траўня старшыня парлямэнцкай камісіі па адукацыі, культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч зьвяртаецца да Мікалая Дземянцея з заўвагай, што ў раздрукаваных для дэпутатаў папраўках прапанова Рады ТБМ адсутнічае. І паведамляе, што камісія, якую ён уз-

начальвае, падтрымлівае прапанову Таварыства беларускай мовы і Саюзу пісьменьнікаў.

Аднак прапанова ўлічаная не была. У праекце Дамовы, які меркавалася падпісаць 20 жніўня, артыкул 20 пазбавіўся палажэньня пра рускую мову як «афіцыйную мову» СССР, прадугледжвалася нават, што «рэспублікі самастойна вызначаюць сваю дзяржаўную мову», — але канстатавалася, што «мовай міжнацыянальных зносін удзельнікі Дамовы прызнаюць расейскую мову».

Атрымаўшы тэкст дамовы, я адразу пачаў шукаць — ну а як жа Беларусь, падпісаўшы яе, зможа з гэтага «Саюзу ССР» выйсьці? А ніяк.

Артыкул 1 «Членства ў Саюзе» нібыта прадугледжваў, што «дзяржавы, якія ўтвараюць Саюз, захоўваюць права свабоднага выхаду зь яго ў парадку, вызначаным удзельнікамі Дамовы і замацаваным у Канстытуцыі і законах Саюзу». Сам парадак у дамове не вызначаўся — тое было аддадзена канстытуцыі і законам, якія яшчэ трэба было ствараць (і невядома, хто і як бы іх прымаў). Затое артыкул 26 вызначаў, што «гэтая Дамова альбо асобныя палажэньні могуць быць скасаваныя, зьмененыя альбо дапоўненыя толькі са згоды ўсіх дзяржаваў, якія ўтвараюць Саюз».

Такім чынам, паставіўшы подпіс пад дамовай, Беларусь патрапіла б у пастку: магчыма, давялося б прасіць дазволу на выхад у кіргізаў, таджыкаў, казахаў — народаў паважаных, якім аднак, не да нашых праблемаў.

Але гэтыя б, можа, і пагадзіліся. А расейцы?

Тэкст «саюзнай дамовы» я знайшоў у пакеце ўрадавай пошты ў паштовай скрыні 18 жніўня.

На наступны дзень мы даведаліся, што ў Маскве пераварот.

# Путч. Супраціў

19 жніўня ў 91-ым большасьць беларусаў прачнулася пад паведамленьне пра ўвядзеньне з 4 гадзінаў раніцы надзвычайнага становішча; Гарбачоў адхілены, на яго месцы — фармальна віцэ-прэзыдэнт Янаеў, а рэальна краінай кіруе «ГКЧП» (у перакладзе з расейскай — «дзяржаўны камітэт па надзвычайным становішчы»). Надзвычайнае становішча — гэта, звычайна, камэнданцкая гадзіна, патрулі. Ну і танкі, іншая бронетэхніка — як жа бязь іх? ГКЧП складаўся зь віцэ-прэзыдэнта СССР, старшыні КДБ, міністраў абароны і ўнутраных справаў і яшчэ зь некалькіх прыхільнікаў жорсткіх захадаў дзеля захаваньня камуністычнай імпэрыі.

А я ехаў са свайго Ўручча, з вуліцы Гінтаўта, у Дом ураду і нічога гэтага ня ведаў, бо тэлевізар раніцай не ўключыў, а хатняга тэлефона ў мяне тады не было. У аўтобусе ж і ў мэтро па тварах людзей неяк не выглядала, што нешта здарылася.

Калі мяне не падводзіць памяць, у той дзень мы меліся сустрэцца з Пазьняком у Доме ўраду дзеля падрыхтоўкі заявы з нагоды заплянаванага на заўтра ў Маскве падпісаньня «саюзнай дамовы». Дамовіліся на час пасьля абеду, але я паехаў раней, бо трэба было перадаць машыністкам на раздрукоўку нейкія законапраекты. Словам, звычайныя рутынныя палітычныя справы.

І толькі прыехаўшы ў Вярхоўны Савет (было недзе крыху болей за 9 гадзінаў раніцы), я даведаўся пра пераварот. Першым, як аказалася, прыехаў



Члены ГКЧП Барыс Пуга, Генадзь Янаеў і Алег Бакланаў на прэсавай канфэрэнцыі

Лявон Баршчэўскі — ён жыў бліжэй за ўсіх да Дому ўраду. (Пазьняк прыехаў каля 11-й, ад яго-най Ангарскай транспарт ішоў дрэнна, ды яшчэ трэба было рабіць перасадкі.) У памяшканьні Апазыцыі БНФ, 363-м пакоі, паступова сабраліся ўсе, хто тады быў у Менску — Валянцін Голубеў, Алег Трусаў, Уладзімер Заблоцкі, Барыс Гюнтэр, Ігар Гермянчук, Юрась Беленькі, Галіна Сямдзянава, Лявон Дзейка, Павал Холад…

## «Яго — сёньня, цябе — заўтра»

Чым пагражае ГКЧП — гэта мы зразумелі адразу.

Між іншым, пра саму абрэвіятуру, якую адмыслова не перакладаю з расейскай.

На пачатку 1990-ых гадоў, у часы нядоўгай і непасьлядоўнай беларусізацыі, расейскія абрэвіятуры перакладаліся ў прэсе дакладна: «НКУС» («на-

родны камісарыят унутраных справаў», «ДКНС» («дзяржаўны камітэт па надзвычайным становішчы»). Лічу, што ўжываць гэтыя прыдуманыя ў Маскве словы варта так, як яны зафіксаваліся ў сьвядомасьці — па-расейску. Бо, як і КГБ, гэтыя абрэвіятуры зрабіліся паняцьцямі, зьявамі — не перакладаем жа мы запазычанае з лаціны слова «інквізыцыя».

Таму тут і далей буду ўжываць, без перакладу, ГКЧП — «Государственный комитет по чрезвычайному положению».

Члены ГКЧП заявілі, што Гарбачоў «паводле стану здароўя» ня можа выконваць прэзыдэнцкія абавязкі, і бралі ўладу ў свае рукі. Гарбачоў быў ізаляваны на летняй рэзыдэнцыі ў крымскім Фаросе, на вуліцы Масквы выйшлі танкі. Тыя маскоўскія падзеі дастаткова добра апісаныя, і я ня буду на іх спыняцца, патлумачу толькі, чаму ўтварэньне ГКЧП адразу ўспрынялося намі як вялізная небясьпека.

Па-першае, у ягоны склад увайшлі тыя, хто найбольш зацята выступаў за захаваньне СССР — нагэтулькі зацята, што нават прапанаваная Гарбачовым «саюзная дамова» ім падавалася «разбуральнай». Па сутнасьці, гэта былі прыхільнікі рэстаўрацыі імпэрыі ў яе самым жорсткім, «сталінскім» варыянце.

І ў выпадку ўмацаваньня іхнага рэжыму незалежнасьць Беларусі магла яшчэ доўгія гады заставацца недасягальнай марай.

Па-другое, усталяваньне дыктатарскага рэжыму адбывалася б ня проста жорстка, а з крывёю, і яе б пралілі шмат: старшыня КГБ Кручкоў, які ўвайшоў у склад ГКЧП (і, як потым выявілася, быў галоўным ініцыятарам яго стварэньня) вы-

разна прадэманстраваў усяму сьвету свой стыль у студзені 1991-га ў Вільні, калі КДБ справакаваў выкарыстаньне савецкімі вайскоўцамі сілы і загінулі 14 чалавек.

Нарэшце, утварэньне ГКЧП, абвяшчэньне надзвычайнага становішча і адхіленьне ад пасады Гарбачова было парушэньнем Канстытуцыі СССР. Мы дамагаліся выхаду з СССР і ня мелі ніякіх ілюзіяў адносна Гарбачова — але лічылі, што парушэньне Канстытуцыі СССР сілавымі міністрамі прывядзе да некантраляваных працэсаў.

Так, пасьля візыту Гарбачова ў Менск у лютым 1991-га і праграмнай заявы на сустрэчы ў Акадэміі навук, дзе ён адкінуў сваю ранейшую дэмакратычную рыторыку, заявіўшы пра вернасьць «камуністычнаму выбару» і аблаяўшы «нацыяналістаў», ілюзіі адносна яго страцілі нават тыя сябры БНФ, якія іх яшчэ мелі. Гарбачоў дамагаўся захаваньня імпэрыі, і тут ягоныя намеры супадалі з мэтамі камуністычнага кіраўніцтва Беларусі.

І пры ўсім гэтым — тое, што рабіла з Гарбачовым ГКЧП, было гвалтоўным парушэньнем законнасьці дый проста справядлівасьці. Мы выступалі не ў абарону Гарбачова як палітыка, а ў абарону законна абранага прэзыдэнта, у абарону прыярытэту права і дэмакратыі.

Зрэшты, лепш за ўсіх стаўленьне да Гарбачова перадаў невядомы мне хлапец, які ў тыя дні прыйшоў на наш мітынг перад Домам ураду з партрэтам Гарбачова, на якім напісаў: «Яго — сёньня, цябе — заўтра». (Дарэчы, фотаздымак гэтага хлопца з плякатам я перадаў Гарбачову ў 1996 годзе ў Нью-Ёрку. Потым я даведаўся, што здымак-плякат зрабіў прадпрымальнік Яўген Ліпковіч: разам з жонкай яны набылі ў кнігарні некалькі

партрэтаў Гарбачова, зрабілі надпісы і прынесьлі на плошчу).

Мы разумелі, што для нас гэтае «заўтра» можа мець самы прамы сэнс.

## Дземянцей: «Я ж не пацанёнак»

Мы вырашылі высьветліць сытуацыю зь першых вуснаў — у старшыні Вярхоўнага Савету Мікалая Дземянцея, які назаўтра меўся ехаць у Маскву і падпісваць з Гарбачовым «саюзную дамову». Акрамя таго, Дземянцей у адпаведнасьці з пасадай меў права склікаць нечарговую сэсію.

Да Дземянцея нас пайшло шасьцёра — Лявон Баршчэўскі, Юрась Беленькі, Ігар Гермянчук, Валянцін Голубеў, Уладзімер Заблоцкі і я. Мы зь Ігарам Герменчуком рабілі запіс на дыктафоны (дыктафон я ўзяў у кагосьці з дэпутатаў, што застаўся ў пакоі апазыцыі, і адразу вярнуў, таму запіс у мяне не захаваўся). Праз колькі дзён тэкст быў зьмешчаны ў «Свабодзе» і «Знамени юности». У «Свабодзе» тэкст быў скарочаны праз эканомію газэтнай плошчы, у «Знамени юности» словы адных дэпутатаў прыпісаныя іншым (гэта ня ў якасьці папроку: мы не прадстаўляліся, а журналісты маглі і не разабрацца, дзе чый голас). Тут падаю дыялёг максымальна набліжаным да рэальнага.

Гутарка адбылася ў кабінэце Дземянцея.

Заблоцкі: «Аналіз сытуацыі сьведчыць, што з парушэньнем Канстытуцыі і законаў СССР уладу ў Крамлі спрабуе захапіць так званы камітэт па надзвычайным становішчы. Апазыцыя лічыць неабходным тэрмінова склікаць сэсію і абмеркаваць становішча. Мы думаем, што 7 чалавек, якія

ўвайшлі ў склад гэтага камітэту, ня маюць права вырашаць за кожную рэспубліку».

Дземянцей: «Нічога яны за нас не вырашаюць».

Заблоцкі: «Яны за нас вырашаюць усё. Гэта — відавочна. Таму Вярхоўны Савет БССР, як мы лічым, павінен тэрмінова сабрацца і заявіць, што гэты камітэт антыканстытуцыйны і не паўнамоцны ўводзіць надзвычайнае становішча».

Голубеў: «Мікалай Іванавіч, наш Вярхоўны Савет павінен вызначыць: падтрымліваем мы гэтых самазванцаў ці будзем усё ж кіравацца канстытуцыйнымі прынцыпамі. Мы ведаем, што Вы званілі Лук'янаву (старшыні Вярхоўнага Савету СССР, які быў на баку путчыстаў — С.Н.). Зразумела, яму нічога не заставалася сказаць Вам, як толькі тое, што «ўсё робіцца паводле закону». Але Беларусь павінна вырашаць сама за сябе».

Дземянцей: «Вы з Гарбачовым асабіста сустракаліся? Вы ведаеце, чаму нарадзілася ў яго гэтая заява?»

Голубеў: «Якая заява?»

Дземянцей: «Ну будзе яна, гэтая заява. Я ж не ад Гарбачова прыехаў. Вы, калі хочаце, едзьце да Гарбачова. Калі ласка, калі хочаце, пазваніце яму».

Навумчык: «Давайце пазвонім ад Вас па ВЧ» (так называлі адмысловую высокачастотную сувязь асаблівай сакрэтнасьці — С.Н.).

Дземянцей: «Я ж не пацанёнак. Вы можаце сябе так толькі ў дзіцячым садку паводзіць. Але вы тут знаходзіцеся з дарослым чалавекам. Не размаўляйце вы так са мной. Не сьпяшайся, не сьпяшайся. Ты ўсё ведаеш, ты ўсё можаш, можаш быць нават прэзыдэнтам краіны».

Голубеў: «Не».

Дземянцей: «Не, чаму, мог бы быць прэзыдэнтам. Вось вы разумееце, калі ў мяне надыдзе момант, што я адмоўлюся ад сваёй пасады, вы што, мяне прымусіце?»

Голубеў: «А другой гадзіне ночы?»

Дземянцей: «Вы былі там? Якія вы маеце адносіны, што з Гарбачовым і якую ён заяву зрабіў? Вы ведаеце пра гэта альбо не?»

Голубеў: «Я грамадзянін гэтай дзяржавы, я дэпутат Вярхоўнага Савету, і мой абавязак — стаяць на абароне Канстытуцыі».

Дземянцей: «І стойце, заўсёды стойце. Але стаяць трэба пасьлядоўна. Калі вы напішаце заяву аб складаньні сваіх дэпутацкіх паўнамоцтваў, дык — хто б як бы ні разважаў — вы напісалі заяву».

Голубеў: «Я не напішу».

Дземянцей: «Ну, не напісалі, і добра. Дык вось. Калі Гарбачоў за шэсьць гадоў прыйшоў да такога цяжкага стану, у якім ён, як і заўсёды, быў і працягвае заставацца, прыйшоў ён да такога стану. Я кажу гэта не паводле маіх службовых абавязкаў, а па-чалавечы. Ён прыйшоў да такога стану. І кожны чалавек можа прыйсьці да такога стану. І ён прыйшоў да такога стану. (Гэта ня стужка ў магнітафоне заядае, гэта гаворыць Дземянцей — С.Н.). І гэтая група, дакладней сказаць, Янаеў, былі зь ім разам, знаходзіліся, і гэтая нарадзілася заява разам з Гарбачовым. Па стану ягонага здароўя, яшчэ раз паўтараю...»

Навумчык: «Дзе заключэньне дактароў?»

Дземянцей: «Калі вы мяне хочаце слухаць — так, калі ўсё ведаеце — прашу, тады не перашкаджайце... Я вам кажу: у Гарбачова выцеклі, скажам, усе псыхалягічныя моманты, што яму далей казаць? І ён гаворыць: я далей ня рухаюся, давай-

це думаць разам. Вось і давялося па Канстытуцыі часова выконваць абавязкі Янаеву. Прэзыдэнт за суткі да гэтага пайшоў у адстаўку. На працягу тыдня будзе скліканая сэсія Вярхоўнага Савету СССР. Усё робіцца па Канстытуцыі. У нашыя рэспубліканскія справы ніхто ня ўмешваецца. Нам няма патрэбы зьбіраць сэсію. Гарбачоў сам за сябе вырашыў. Ён сышоў, а жыцьцё будзе працягвацца. Нам, беларусам, нішто не пагражае. І ня трэба падбухторваць людзей».

Гермянчук: «Выходзіць, што Вы прызнаяце законнасьць камітэту на чале зь Янаевым і будзеце выконваць яго распараджэньні?»

Дзямянцей: «А што Вы хочаце, каб я выконваў?»

Гермянчук: «Канстытуцыю і законы, а ня ўказы незаконнага камітэту. У Маскве на вуліцах ужо бронетэхніка. Вашае бязьдзеяньне можа прывесьці да таго, што танкі зьявяцца на вуліцах Беларусі».

Дзямянцей: «Усё, я далей ня буду працягваць размову. Паўтараю: Гарбачоў падаў у адстаўку. Абавязкі прэзыдэнта выконвае віцэ-прэзыдэнт Янаеў».

Заблоцкі: «Вы можаце казаць нам што заўгодна. Аднак усе разумеюць, што ў СССР адбываецца нэабальшавіцкі пераварот. Таму мы настойваем на тэрміновым скліканьні сэсіі Вярхоўнага Савету БССР. Калі Вы адмаўляецеся гэта зрабіць, мы будзем зьбіраць патрэбныя 115 подпісаў дэпутатаў».

Было зразумела, што Дзямянцей падтрымлівае путчыстаў. Пазыцыя старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі выглядала вельмі здрадніцкай на фоне інфармацыі, якая пачала паступаць з Масквы — там прэзыдэнт Расеі Барыс Ельцын выступіў з

асуджэньнем ГКЧП і заклікаў не выконваць загады хунты.

Тады ж Уладзімер Заблоцкі канкрэтызаваў журналістам нашы патрабаваньні да сэсіі, якая мелася прыняць папраўку да артыкулу 72 Канстытуцыі «Аб вяршэнстве законаў БССР на яе тэрыторыі» і — што даўно было галоўнай мэтай БНФ — надаць Дэкларацыі аб сувэрэнітэце канстытуцыйны статус.

«Многае павінны зразумець і людзі, якія дагэтуль не задумваліся пра сутнасьць «абноўленага Саюзу», пра тое, чаму неабходны сувэрэнітэт кожнай рэспублікі і чаму трэба яго дамагацца. Гэта будзе самая слушная выснова, якую зараз зробіць беларускі народ. Я спадзяюся на гэта!» — сказаў Уладзімер Заблоцкі ў інтэрвію газэце «Свабода».

## Што нас чакала

20 жніўня карэспандэнт газэты «Свабода» зрабіў здымак на чыгуначнай станцыі Менск-Радыятарны: туды падагналі некалькі вагонаў з закратаванымі вокнамі. У такіх вагонах на этап вазілі зьняволеных. Празь некалькі дзён, пасьля правалу путчу, краты з вокнаў былі зрэзаныя.

Калі мы празь некалькі дзён пабачылі гэты здымак у газэце, у нас не было ніякіх сумневаў, каго запіхнулі б у тыя вагоны ў выпадку перамогі ГКЧП і ў які накірунак нас павезьлі б.

Пазьней сталі вядомыя іншыя сьведчаньні намераў хунты ў дачыненьні да тых, хто перашкаджаў бы ёй вярнуць народ у камуністычнае стойла. Зь імі не зашкодзіла б пазнаёміцца тым, хто праз гады будзе называць путч «апэрэтачным». Некаторыя з тых, хто ўвайшоў у ГКЧП, сапраўды



Гэты здымак быў зроблены 20 жніўня ў Менску на ст. Радыятарная. Адкуль і зь якой мэтаю прыгналі сюды восем вагонаў —"закаў", зробленых, відавочна, насьпех? Цікава таксама, што праз два дні краты з вагонаў пачалі зразаць.

№12 ВЕРАСЕНЬ 1991

Фрагмэнт публікацыі ў газэце «Свабода».

нагадвалі камічных пэрсанажаў, але сапраўднымі арганізатарамі былі кіраўнікі КГБ — установы, якая з моманту свайго ўтварэньня ў 1918 годзе не спынілася перад мільёнамі ахвяраў.

Адмысловая парлямэнцкая камісія, створаная пасьля правалу путчу, не атрымала ад КДБ ніводнага дакумэнта, які б адлюстроўваў пляны гэтага ведамства па «ўкараненьні ў жыцьцё» (як тады прынята было казаць) рашэньняў ГКЧП. Але гэта зусім не азначае, што такіх плянаў не існавала (дарэчы, КДБ увогуле ня даў камісіі ніякіх дакумэнтаў) — асабліва калі ўлічыць, што галоўным рухавіком ГКЧП быў старшыня дзяржбясьпекі СССР Уладзімер Кручкоў. Я перакананы, што дакумэнты былі зьнішчаныя ў першыя ж гадзіны пасьля правалу путчу.

Намесьнік міністра інфармацыі і друку СССР Аляксандар Гаркаўлюк распавядаў сьледчым пракуратуры Расеі пра нараду, якую ў першы дзень перавароту, 19 жніўня, правёў прэм'ер-міністар СССР Валянцін Паўлаў:

«Пачаў ён гэтую нараду словамі: «Ну што, мужыкі, будзем страляць альбо будзем саджаць?» Пачаўшы гэтай фразай, Паўлаў увесь час трымаў прысутных у псыхалягічным напружаньні. На працягу вечара ён некалькі разоў казаў аб выкарыстаньні ракет тыпу «стынгер», вайсковых фармаваньняў, прыгаворваў: «Або мы іх, або яны нас!» (Мариэтта Чудакова, «Егор», Москва, 2012).

Гэта, заўважу, кажа не азлоблены вайсковы пэнсіянэр, а дзейны прэм'ер-міністар.

Тагачасны генэральны пракурор Расеі Валянцін Сьцепанкоў спасылаецца на дадзенае сьледзтву паказаньне начальніка службы спэцпадразьдзяленьня КГБ Старадубцава, які заявіў начальству, што вырашыў ня ўдзельнічаць у штурме Белага дому і папрасіў дазволу пакінуць кабінэт. У адказ ён пачуў ад намесьніка ўпраўленьня КГБ па Маскве і Маскоўскай вобласьці Карабанава: «Ня трэба. Калі што, мы цябе расстраляем» (Мариэтта Чудакова, «Егор»).

А вось яшчэ адзін паказальны эпізод.

«У адным з артыкулаў публіцыста і пісьменьніка Дзяніса Драгунскага падаецца аповед ягонага знаёмага, які ў жніўні 1991 году працаваў у апараце расейскага ўраду. У першыя дні пасьля паразы змоўшчыкаў КГБ быў у вялікай разгубленасьці, у поўнай невядомасьці адносна свайго лёсу. У гэтыя дні да суразмоўцы Драгунскага зайшоў малады афіцэр КГБ. Ён прыйшоў з адзінай просьбай — захаваць жыцьцё ягонай жонцы і аднагадоваму

сыну. У тым, што сам ён у найбліжэйшым часе будзе расстраляны, ён не сумняваўся, як чалавек вайсковы, лічыў гэта заканамерным і аб літасьці не прасіў. Перакананы, што рэпрэсіі напаткаюць усю ягоную сям'ю, ён прасіў літасьці толькі да іх... Суразмоўца Драгунскага казаў, што, слухаючы маладога афіцэра, ён упершыню за гэтыя дні па-сапраўднаму спужаўся, ды так, што халодны пот пацёк у яго па хрыбце. Я зразумеў, што яны зьбіраліся зрабіць з намі ў выпадку іх перамогі...» (Мариэтта Чудакова, «Егор»).

Гэтыя сьведчаньні не пакідаюць сумневаў, які лёс нас чакаў — калі б мы не маўчалі. А мы — не маўчалі.

Праўда, застаецца дыскусійным пытаньне: як доўга магло б пратрымацца ГКЧП з улікам катастрафічнай эканамічнай сытуацыі ў СССР? Менавіта гэтую сытуацыю Ягор Гайдар лічыць адным з галоўных фактараў недаўгавечнасьці ГКЧП.

«Эканамічная сытуацыя, якая склалася ў СССР да жніўня 1991 году, усталёўвала жорсткія межы магчымых варыянтаў разьвіцьця падзеяў, — перакананы Гайдар. — Нават калі б арганізатары перавароту здолелі ўтрымаць уладу, гэта не зьмяняла эканамічнага становішча краіны. Ад банкруцтва, спыненьня выплатаў па зьнешніх запазыках, краіну аддзялялі тыдні — і гэта пры поўным спыненьні разьлікаў за імпартныя пастаўкі. Пра буйныя заходнія крэдыты ў выпадку посьпеху ГКЧП думаць не даводзілася. Новым уладам давялося б прымаць рашэньні пра далейшае скарачэньне закупак харчаваньня, зьніжэньне пагалоўя жывёлы, скарачэньне імпарту іншых харчовых тавараў, спыненьне заводаў праз адсутнасьць імпартных

камплектуючых» (Егор Гайдар, «Гибель империи. Уроки для современной России». Масква, 2006).

Нібыта ўсё слушна — ды вось толькі гісторыя СССР сьведчыць, што пры рэпрэсіўным здушэньні народ трываў куды большую нястачу. І трываў гадамі. А тыя кроплі свабоды, якія ўдавалася схапіць ці то ў часы НЭПу ці ў гады хрушчоўскай адлігі, чэкісты і войска выціскалі вельмі хутка.

Зусім магчыма (і нават верагодна), што ГКЧП не пратрымаўся б вельмі доўга — але і двух-трох гадоў хапіла б, каб колькасьць ахвяраў імпэрскай рэпрэсіўнай машыны павялічылася не на адну тысячу.

## «Мы маем дачыненьне з таталітарным прыёмам захопу ўлады»

У калідорах Вярхоўнага Савету пачалі зьяўляцца і нашыя палітычныя апанэнты, дэпутаты-камуністы. Настрой у іх быў бадзёры, некаторыя паблажліва паляпвалі нас па плячы — маўляў, трымайцеся, хлопцы, раней было так, жартачкі, а вось зараз у вас пачнуцца цяжкія часы. Некаторыя зласьліва казалі: вы на свабодзе апошнія дні.

Ці ўсьведамлялі мы ўсю небясьпеку асабіста для нас, дэпутатаў, у тым выпадку, калі б ГКЧП замацаваўся? У той момант мы ня ведалі ўсіх пляноў змоўшчыкаў у дэталях, але добра памяталі гісторыю панаваньня камуністычнага рэжыму — з Курапатамі і ГУЛагам. Але цікава вось што: я не магу прыгадаць, каб мы ў Апазыцыі БНФ абмяркоўвалі, што з намі могуць зрабіць — арыштаваць, выслаць, пасадзіць у турму альбо забіць. Пра ўсё гэта за тры дні путчу я ня чуў ні слова. Кожны з

нас, вядома, думаў пра такое — але ўголас мы не выказваліся. Дый хапала неадкладнай працы.

У тралейбусе па дарозе ў Вярхоўны Савет Пазьняк зрабіў накіды заявы, але паколькі мы (Баршчэўскі, Голубеў і я) дабраліся раней і мелі перад сабой тэксты Канстытуцыі і законаў, дык тэкст ужо быў складзены (тыя паперы ў мяне захаваліся, тэкст напісаны рукой Лявона Баршчэўскага). Пазьняк ухваліў наш тэкст: зводзіць два варыянты ў адзін проста не было часу, мы зрабілі нейкія дадаткі і падпісалі.

Пазьняк адразу ўзяў справу ў свае рукі. У экстрэмальных сытуацыях ён заўсёды дзейнічаў рашуча: пачаў абзвоньваць людзей, аддаваць распараджэньні. Галоўным вызначыў — арганізаваць масавы супраціў хунце (гэта на плошчах) і дамагчыся скліканьня нечарговай сэсіі. Адначасна вырашылі правесьці мітынг перад Домам ураду.

Мы надрукавалі заяву і перадалі яе журналістам.

«Заява народных дэпутатаў БССР ад апазыцыі Беларускага Народнага Фронту.

У ноч з 18 на 19 жніўня г.г. у Маскве шэрагам асобаў, якія займаюць адказныя дзяржаўныя пасады Саюзу ССР, зроблена спроба дзяржаўнага перавароту. Гэтая спроба парушае арт. 127-3 п. 15 дзейнай Канстытуцыі СССР і арт.15 Закону Саюзу ССР «Аб прававым рэжыме надзвычайнага становішча». Згодна з гэтымі заканадаўчымі актамі, прэзыдэнт Саюзу СССР можа абвяшчаць надзвычайнае становішча ў асобных рэгіёнах СССР толькі са згоды адпаведных органаў дзяржаўнай улады рэспублік «у інтарэсах гарантаваньня бясьпекі грамадзян СССР пры стыхійных бедзтвах, буйных аварыях альбо катастрофах, эпізаотыях, а


Заява народных дэпутатаў БССР ад Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Беларускай ССР

У ноч з 18 на 19 жніўня г.г. у Маскве шэрагам асоб, якія займаюць адказныя дзяржаўныя пасты Саюза ССР, зроблена спроба дзяржаўнага перавароту. Гэтая спроба парушае арт. 127³ ч. 15 Канстытуцыі СССР і арт. 12 Закона Саюза ССР "Аб прававым рэжыме надзвычайнага становішча", згодна з якім Прэзідэнт Саюза ССР можа абвяшчаць надзвычайнае становішча ў асобных рэгіёнах СССР толькі са згоды адпаведных органаў дзяржаўнай улады рэспублік. Разам тым праз 10 гадзін пасля абвяшчэння надзвычайнага становішча адсутнічае Заява Прэзідэнта СССР

Чарнавік заявы дэпутатаў Апазыцыі БНФ з асуджэньнем маскоўскага праімпэрскага путчу, напісаны Лявонам Баршчэўскім. Раніца 19 чэрвеня 1991 г.

таксама пры масавых беспарадках. Такім чынам, законных падставаў для ўвядзеньня надзвычайнага становішча у Беларусі і ў СССР няма. Разам з тым, праз 10 гадзін пасьля абвяшчэньня надзвычайнага становішча адсутнічае Заява прэзыдэнта СССР М.С. Гарбачова аб добраахвотным намеры

спыніць выкананьне сваіх паўнамоцтваў і мэдыцынскае заключэньне аб стане яго здароўя. У сувязі з гэтым, законным кіраўніком Саюзу ССР застаецца прэзыдэнт СССР, які можа быць адхілены ад сваёй пасады ня менш як 2/3 галасоў ад агульнай колькасьці Зьезду народных дэпутатаў СССР.

Зьдзейсьненым 18-19 жніўня г.г. актам бальшавікі-камуністы яшчэ раз пацьвярджаюць сваю прыхільнасьць да гвалтоўнага вырашэньня сацыяльных і іншых праблем. Мы маем дачыненьне з таталітарным прыёмам захопу ўлады.

Дэпутаты ад Апазыцыі ў Вярхоўным Савеце Беларускай ССР заклікаюць усіх грамадзян Беларусі захоўваць арганізаванасьць, вытрымку й дысцыпліну, выконваць толькі рашэньні канстытуцыйных органаў улады. Заклікаем нашых выбаршчыкаў правесьці 20 жніўня, у нерабочы час, пасьля 18 гадзін, сустрэчы з народнымі дэпутатамі ўсіх узроўняў і запатрабаваць спыненьня дзейнасьці незаконнага «Дзяржаўнага камітэту па надзвычайным становішчы ў СССР».

Мы зьвяртаемся да ваеннаслужачых савецкіх Узброеных сіл, супрацоўнікаў МУС і КДБ БССР з заклікам захоўваць вернасьць Канстытуцыі Беларускай ССР і Саюзу ССР, свайму службоваму абавязку, пазьбягаць ужываньня сілы і ўстрымацца ад падтрымкі неканстытуцыйных органаў.

Апазыцыя ў Вярхоўным Савеце Беларускай ССР патрабуе тэрміновага скліканьня надзвычайнай сэсіі ВС БССР для абмеркаваньня становішча і прыняцьця неабходных захадаў.

Народныя дэпутаты БССР Л. Баршчэўскі, Ю. Беленькі, І. Германчук, В. Голубеў, Г. Грушавы, Б. Гюнтэр, Л. Дзейка, У. Заблоцкі, Л. Зданевіч, В.Какоўка, М. Крыжаноўскі, С. Навумчык, У. Но-



Барыс Ельцын зачытвае зварот з танка ля Белага дому.

вік, Я. Новікаў, З. Пазьняк, С. Папкоў, П. Садоўскі, С. Слабчанка, У. Станкевіч, Г. Сямдзянава, А. Трусаў, Я. Цумараў. 19 жніўня 1991 г.».

Крыху пазьней Пазьняк напісаў лісты да старшыні Савету міністраў Вячаслава Кебіча, старшыні КДБ Эдуарда Шыркоўскага і міністра ўнутраных спраў Уладзімера Ягорава з заклікам «праявіць дзяржаўную мудрасьць, вытрымку, вернасьць Беларускай рэспубліцы, не прымаць ніякіх патрабаваньняў і загадаў так званага камітэту па надзвычайным становішчы, выконваць законы і Канстытуцыю БССР». Кожны ліст падпісалі некалькі дэпутатаў БНФ, якія ў той момант былі ў пакоі апазыцыі.

Пётра Садоўскі, які ўзначальваў парлямэнцкую камісію па міжнародных сувязях, быў адзіным

з дэпутатаў БНФ, які меў факс, і неўзабаве нам удалося ўсталяваць сувязь з атачэньнем Барыса Ельцына. З Масквы нам перaслалі тэксты ўказаў — пад усімі, акрамя подпісу, Ельцын пазначаў і канкрэтны час.

У тыя трывожныя дні путчу 363-ці пакой Апазыцыі БНФ ператварыўся ў штаб супраціву хунце.

Разам з намі запатрабаваў склікаць сэсію Станіслаў Шушкевіч — ён зьвязаўся з кіраўніком Кіргізстану Аскарам Акаевым, які не падтрымаў КГЧП. Званіў ён і некаторым іншым дэмакратычным палітыкам «пры пасадах»: у яго як у першага намесьніка старшыні Вярхоўнага Савету быў тэлефон адмысловай урадавай сувязі, так званая лінія ВЧ, доступ да якой мелі найвышэйшыя кіраўнікі СССР, рэспублік і рэгіёнаў, камандуючыя вайсковых акругаў і ўпраўленьняў КГБ. (Увесну таго самага 1991-га Яўген Будзінас выдаваў зборнік артыкулаў Андрэя Сахарава і папрасіў мяне дамовіцца з мэрам Ленінграду Анатолем Сабчаком, які лічыўся паплечнікам Сахарава па міжрэгіянальнай дэпутацкай групе наконт прадмовы да кнігі. Мы з Сабчаком не былі знаёмыя, і я пайшоў да Шушкевіча. Ён пасунуў да мяне тэлефон ВЧ — «Званіце!» Сабчака на месцы не аказалася, і я перадаў просьбу ягонаму вельмі ветліваму памочніку. Прозьвішча памочніка — Пуцін — нічога мне не казала.)

Шушкевіч зьвярнуўся да Дземянцея з прапановай склікаць нечарговую сэсію, але станоўчага адказу не атрымаў. Пазыцыя Шушкевіча як першага намесьніка старшыні Вярхоўнага Савету ў дні путчу, асабліва тое, што ён выказаўся за нечарговую сэсію, была для нас падтрымкай.

## Менчукі выйшлі на плошчу

Але мы разумелі, што наўрад ці здолеем нешта зрабіць без падтрымкі людзей.

А з гэтым было цяжка. У нас не было доступу да тэлебачаньня і радыё (кіраўнік дзяржтэлерадыё Аляксандар Сталяроў у той дзень памяняў праграмную сетку, каб трансьляваць распараджэньні ГКЧП), афіцыйныя газэты назаўтра зьмясьцілі загады ГКЧП на першых палосах. У нас заставаліся «Свабода», «Навіны БНФ», вядома, была сувязь і з карэспандэнтамі радыё «Свабода». Асноўныя мітынгі мы разьлічвалі правесьці 20 жніўня (эфір «Свабоды» быў толькі ўвечары 19-га, а раніцай 20-га маглі ўжо выйсьці нашыя газэты, раней паведаміць пра месца і час акцыяў не было як), але праз «каналы» БНФ мы заклікалі прыйсьці людзей да Дому ўраду ўжо сёньня, увечары 19-га.

Некаторыя прыйшлі на гэты заклік, некаторыя — самі.

Людзей было мала.

У параўнаньні з колькасьцю, якую сабрала падвышэньне цэнаў у красавіку (тады штодня стаяла некалькі дзясяткаў тысяч), прыйшла, можна сказаць, мізэрная колькасьць, добра калі дзьвесьце чалавек. А магчыма, і менш.

Людзей было ў той, першы дзень путчу, няшмат, але галоўнае — яны прыйшлі.

І гэта былі людзі, якія прыйшлі бараніць свабоду і Беларусь, і ніякія падачкі не прымусілі б іх адмовіцца ад сваіх намераў.

Мы выступілі ўсе — маю на ўвазе тых дэпутатаў БНФ, якія былі ў Доме ўраду, — распавялі пра паход да Дземянцея, пра пазыцыю Ельцына, патлумачылі, чаму вымушаныя падтрымаць Горба-




Мітынг супраць ГКЧП, арганізаваны БНФ. Менчукі на заклік БНФ прыйшлі выказаць пратэст супраць путчу.

чова і чаму патрабуем склікаць нечарговую сэсію, і папрасілі людзей прыйсьці на плошчу заўтра і прывесьці знаёмых.

Мы імкнуліся трымацца бадзёра — хаця ўсьведамлялі ўсю складанасьць сытуацыі. Магчыма, было б лягчэй, калі б на плошчу прыйшло ня дзьве сотні, а некалькі тысяч. І ўсё ж бачыць твары аднадумцаў тады, увечары 19 жніўня, было для нас важна.

Нехта з калег-дэпутатаў сказаў мне напаўжартам «Можа быць, мы выступаем на гэтай плошчы апошні раз!»

Ніхто з нас ня ведаў, што выказваньне магло спраўдзіцца: 20 жніўня на станцыю Менск-Рады-

ятарная падагналі тыя восем закратаваных вагонаў...

Але ўвечары 20-га на наш заклік на плошчы сабраліся ўжо тысячы.

19-20 жніўня 1991 году мы ў апазыцыі абмяркоўвалі, колькі працягнецца дзейнасьць ГКЧП? Здаецца, пагадзіліся на тым, што нядоўга: годпаўгода.

Потым мне распавядалі, як на некаторых «інтэлігенцкіх кухнях» у Менску дэмакратыю пахавалі і абмяркоўвалі, ці хутка закрыюць межы: эміграцыя выглядала рэальнай альтэрнатывай шматгадовай палітычнай і духоўнай багне. Мы, дэпутаты, ужо больш ведалі пра «рэсурс» апарату і разумелі, што «доўгіх гадоў» у новай улады ня будзе. Але гэта было слабым суцяшэньнем: году хапіла б, каб загнаць пад асфальт усё тое, што прабілася на сьвятло ў апошні час.

І толькі Пазьняк сказаў: «Пратрымаюцца дні тры, ну максымум — тыдзень».

Мне гэта падалося проста нерэальным.

На тыдзень я не разьлічваў. Думаў, што год хунта дакладна пратрымаецца, і таму часы наперадзе цяжкія. (Пэўна, так меркаваў і Валянцін Голубеў, які на мітынгу сказаў: «Надыходзяць часы цяжэйшыя».)

У тыя тры «путчаўскія» дні да мяне вярнулася адчуваньне, якое я перажыў сем гадоў раней, калі «забралі» ў войска: тады было поўнае ўсьведамленьне, што наперадзе — два страчаныя, выкрэсьленыя зь біяграфіі гады, якія пройдуць без усякага плёну, і пакуль былыя аднакурсьнікі будуць нешта рабіць і нечага дасягаць, я буду марнаваць час у казарме і на палігонах. (Памыляўся: войска сапраўды забрала час, але і дало нешта такое, чаго



2.

Над Россией, над всей страной сгустились тучи террора и диктатуры. Но они не могут превратиться в вечную ночь. Закон восторжествует на нашей земле и наш многострадальный народ вновь обретет свободу. Теперь уже - раз и навсегда!

Солдаты! Верю, в этот трагический час вы сумеете сделать правильный выбор. Честь и слава российского оружия не будет обогрена кровью народа.

Борис Ельцин
Президент Российской Федерации

17 гас. 10 хвіл.

Фрагмэнт факса, атрыманага дэпутатамі БНФ з маскоўскага Белага дому

не атрымаў бы, працуючы ў газэце.) Але разам з адчуваньнем наканаванасьці лёсу, які на бліжэйшыя два гады ня зьменіш, была і пэўнасьць: толькі два гады. Цяпер жа наперадзе — невядомасьць. І пры гэтым ніякага выбару — у тым сэнсе, што адмовіцца ад палітыкі, выйсьці з Народнага Фронту, «залегчы на дно» ці вярнуцца ў «чыстую журналістыку» — такія варыянты я не разглядаў. Пэўнасьць што да характару маёй будучай палітычнай дзейнасьці была абсалютнай. І разуменьне таго, што назад дарогі няма, давала нейкую лёгкасьць.

Але тады на рэфлексіі не было часу. Мы, дэпутаты, разумелі, што ні на сэкунду не павінны выказваць сумненьне ў перамозе, што на нас глядзяць, і што калі хочам арганізаваць супрацу —трэба выглядаць аптымістамі.

Праз дваццаць гадоў мне перадалі з архіву Ўладзімера Кармілкіна некалькі сотняў здымкаў, на якіх зафіксаваныя тыя жнівеньскія дні і нашыя мітынгі. І толькі на адным Кармілкін «падлавіў» момант, дзе ў нас з Пазьняком нейкі «небаявы» настрой. Але гэта падманлівае ўяўленьне: насамрэч настрой быў самы рашучы, можа, проста на некалькі сэкундаў выявілася стомленасьць (у тыя дні мы моцна недасыпалі). На астатніх здымках усе выглядаем бадзёра.

Але што змоўшчыкі пратрымаюцца тры дні — не, тут я з Пазьняком быў нязгодны.

## «Захоўваць спакой» — адчуваць сябе быдлам

Камуністычнае кіраўніцтва Беларусі сустрэла путч з энтузіязмам: Бюро ЦК КПБ на чале зь першым сакратаром Малафеевым падтрымала членаў ГКЧП.

Зрэшты, сакратары ЦК Малафееў, Камай, Ціхіня мелі досьвед стасункаў у самых верхніх эшалёнах улады і ведалі, якім зьменлівым бывае тое, што яшчэ сёньня выглядае несакрушальным. У дачыненьні да камуністычнай партыі яны такога, вядома, уявіць сабе не маглі, а вось датычна асобных палітычных фігур — тое выглядала рэальным. Сёньня Янаеў замяніў Гарбачова, а заўтра нехта заменіць Янаева. За тры дні путчу ня ўсе сакратары ЦК асабіста выказаліся публічна (ва ўсякім разе, у друку), хоць палітычная іх пазыцыя падтрымкі путчу была выразна выяўленая ў заяве Бюро ЦК КПБ. Магчыма, проста не пасьпелі.

Затое ў правінцыі — ці, як любілі казаць камуністычныя кіраўнікі, «на месцах» — партыйныя органы раскрыліся напоўніцу.

«Першыя ж дакумэнты Дзяржаўнага камітэту па надзвычайным становішчы ў СССР, абнародаваныя 19 жніўня 1991 году, паказваюць, што абвешчаныя надзвычайныя меры па выхаду краіны з глыбокага ўсебаковага крызісу адпавядаюць інтарэсам людзей працы і ня супярэчаць прынцыпам і бліжэйшым мэтам Камуністычнай партыі. Падтрымліваем дзеяньні Дзяржаўнага камітэту па надзвычайным становішчы, накіраваныя на стабілізацыю абстаноўкі ў краіне, і заклікаем камуністаў, працоўных гораду захоўваць вытрымку, спакой, узважанасьць у закліках і дзеяньнях, усямерна садзейнічаць аднаўленьню дысцыпліны і парадку, стабільнасьці ў рабоце працоўных калектываў», — гаварылася ў заяве сакратароў пярвічных партыйных арганізацый камуністаў Магілёву, прынятай праз некалькі гадзін пасьля абвяшчэньня надзвычайнага становішча.

І такіх заяваў у кожнай вобласьці былі дзясяткі.

Праз некалькі дзён створаная Вярхоўным Саветам адмысловая камісія на чале зь Ігарам Пырхам выявіць, што падтрымка хунты камуністычнымі кіраўнікамі ў рэгіёнах была татальнай.

У Мазыры старшыня гарвыканкаму Іван Замулка 20 жніўня выступіў па кабэльным тэлебачаньні і абвясьціў пра стварэньне «мясцовай камісіі па надзвычайным становішчы» (маскоўскага ГКЧП падавалася недастаткова).

У Рэчыцы старшыня гарвыканкаму Іван Бамбіза (наш калега па парлямэнце) сказаў на нарадзе, што падзяляе кожны пункт заявы путчыстаў. На

гэтай нарадзе іншы дэпутат Вярхоўнага Савету, Анатоль Турак, спрабаваў асудзіць хунту — але намэнклятура была маналітнай у сваім жаданьні скончыць з дэмакратычнымі пераменамі.

У Лагойску бюро райкаму КПБ сумесна з кіраўніцтвам райсавету выказаліся ў падтрымку хунты.

У Бабруйску першы сакратар райкаму КПБ сумесна з камандуючым 5-ай арміяй сабраў сход у Доме афіцэраў і агітаваў прысутных падтрымаць КГЧП. У самім гаркаме хуценька арганізавалі камітэт у падтрымку хунты і, як даведаўся наш калега дэпутат Эдуард Багаўцоў, пачалі складаць «чорныя сьпісы» з прыхільнікаў дэмакратыі.

У Воршу 20 жніўня быў уведзены АМАП, байцы якога адразу ж затрымалі ўдзельнікаў інфармацыйнага пікету БНФ З. Дзядзенку і Г. Сініцына, вызваліць якіх удалося толькі пасьля ўмяшаньня дэпутата Вярхоўнага Савету Яўгена Глушкевіча.

(Праз некалькі дзён па шмат якіх фактах падтрымкі хунты пракуратура распачне справы — але ніводная ня скончыцца судом альбо нават нейкімі вялікімі непрыемнасьцямі для фігурантаў. Напрыклад, прыгаданы Іван Бамбіза праз пару гадоў займе пасаду віцэ-сьпікера Вярхоўнага Савету, а пры Лукашэнку будзе прызначаны членам ураду. Увогуле, найбольш зацятых прыхільнікаў хунты Лукашэнка ўзьнясе на высокія пасады (да прыкладу, Малафееў узначаліць так званы «сэнат»).

«Захоўваць вытрымку і спакой» — гэта значыла, не зьбірацца на мітынгі, не пратэставаць, адчуваць сябе быдлам.

Разам з партыйнымі сакратарамі, кіраўнікамі рэгіёнаў падтрымалі путч і шмат якія кіраўнікі прадпрыемстваў.

Генэральны дырэктар Менскага гадзіньнікавага заводу Ўладзімер Абрамчык 19 жніўня выдаў загад №489, у якім абавязваў «строга і рашуча спыняць якія заўгодна парушэньні працоўнай дысцыпліны і ўнутрызаводзкага распарадку… Увесьці на пэрыяд надзвычайнага становішча дзяжурствы на прадпрыемстве адказных работнікаў».

Газэта «Свабода» потым паведамляла, што адразу пасьля абвяшчэньня заявы ГКЧП на гадзіньнікавы завод прыбег другі сакратар Менскага гаркаму партыі Віктар Чыкін, і на інфармацыйных стэндах зьявіліся пастановы путчыстаў. На другі дзень сябры страйкаму вывесілі ўлёткі з асуджэньнем хунты, аднак заводзкая адміністрацыя выклікала міліцыю, і міліцыянты «паўдня лазілі па цэхах, зрываючы ўлёткі».

Журналісты газэты «Свабода» высьветлілі, што падпісаны дырэктарам загад рыхтаваў начальнік так званага «першага» аддзелу заводу Бабіцкі, які раней кіраваў управай КДБ Савецкага раёну Менску.

Увогуле пра тое, чым займаліся ў тыя дні гэбісты, мы ўжо ніколі не даведаемся. Навідавоку іх дзейнасьць, як заўсёды, не была, пазьней старшыня КДБ Эдуард Шыркоўскі даводзіў, што «камітэт» не падтрымліваў путчыстаў, а, як яму і належыць, быў «на варце законнасьці». Але некаторыя гэбісты ўсё ж сваю пазыцыю выказаць пасьпелі. Так, у віцебскай газэце «Віцьбічы» (якая заўсёды вызначалася антыбеларускай, антынацыянальнай і праімпэрскай накіраванасьцю, узначальвала яе добра вядомая мне па працы ў Віцебску Ніна Тулінава), адзін з кіраўнікоў абласной управы КДБ Віктар Бурак пра канстытуцыйнасьць сказаў крыху больш, чым потым ягоны шэф Шыркоўскі: «Як

орган дзяржаўнага кіраваньня мы стаім на варце канстытуцыйнага ладу. Камітэт па надзвычайным становішчы ў СССР створаны ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй СССР, з гэтага вынікае, што мы будзем кіравацца ягонымі рашэньнямі».

Ні Канстытуцыяй БССР, ні Дэклярацыяй аб дзяржаўным сувэрэнітэце, а загадамі праімпэрскай хунты зьбіраўся кіравацца кадэбісцкі начальнік.

## Шаладонаў: «Застаўся дагавор 1922 году»

У той самы дзень, 20 жніўня, адбылося пасяджэньне Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету Беларусі. Дэпутаты Апазыцыі спрабавалі на ім перадаць Прэзыдыюм асудзіць ГКЧП — але безвынікова. На тым пасяджэньні я выказаў пратэст генэральнаму пракурору Георгію Тарнаўскаму з прычыны забароны выхаду газэты «Знамя юности» (у нумары меліся зьявіцца меркаваньні тых, хто не падтрымаў путч).

Стэнаграма таго пасяджэньня Прэзыдыюму захоўваецца недзе ў архівах , а ў мяне захаваўся толькі фрагмэнт запісу, калі дэпутат Апазыцыі БНФ Алег Трусаў, заклікаючы членаў Прэзыдыюму падтрымаць прэзыдэнта РСФСР Ельцына ў ягоным супраціве ГКЧП, апэляваў да нядаўна падпісаных паміж БССР і РСФСР пагадненьняў (іх падпісалі Ельцын і Дземянцей). Паказальная пазыцыя двух юрыстаў — генэральнага пракурора Георгія Тарнаўскага і намесьніка старшыні Вярхоўнага Савету Васіля Шаладонава:

«Трусаў: Беларусь падпісала з Расеяй адпаведныя юрыдычныя пагадненьні.

Тарнаўскі: Я ў падпісаньні ня ўдзельнічаў.

Шаладонаў: Не было абмену ратыфікацыйнымі граматамі!

Заблоцкі: Майце сорам! Павінна быць сумленьне!

Гаркун: Спакойна!

Дземянцей: Напэўна, не безь ягонай, Гарбачова, згоды гэта адбывалася. Янаеў (сказаў), у самым цяжкім становішчы ён цяпер.

Булахаў: Я — за абноўлены Саюз. Але парадак і дэмакратыя (павінны ўсталёўвацца) толькі мэтадамі, якія абапіраюцца на законы».

Дзьмітры Булахаў быў не адзіным членам Прэзыдыюму, хто ацаніў ГКЧП як антыканстытуцыйнае ўтварэньне: акрамя яго гэта зрабілі Станіслаў Шушкевіч, старшыні парлямэнцкіх камісій Генадзь Карпенка, Валер Курдзюкоў, Аляксандар Сасноў, Міхаіл Сьлямнёў і, канешне, фронтавец Пётра Садоўскі.

Сьлямнёў паспрабаваў выказаць стаўленьне да перавароту па радыё, але кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё даць яму эфір адмовілася.

Затое раніцай 20 жніўня, на Беларускім радыё прагучала інтэрвію намесьніка старшыні Вярхоўнага Савету Васіля Шаладонава. Ён сказаў, што верыць «тым людзям, якія заяўляюць, што прэзыдэнт хворы, і хацеў бы нагадаць, што сёньня дзейнічае Канстытуцыя Саюзу ССР. Мы не падпісалі новага саюзнага дагавору, а таму няма новай прававой базы. Застаўся дагавор 1922 году. Таму мы павінны выконваць усе законы, якія дзейнічаюць і прынятыя ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй Саюзу ССР».

Пра Дэклярацыю аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі Шаладонаў нават і не ўзгадаў. Затое вы-

казаўся пра нашае патрабаваньне неадкладна сабраць сэсію.

«Сёньня я прачытаў у «Народнай газеце» заяву народных дэпутатаў склікаць нечарговую сэсію, — працягваў Шаладонаў. — Я ня бачу ў гэтым неабходнасьці. Калі Прэзыдыюм палічыць, што нейкае рашэньне патрабуе ацэнкі шырокага кола дэпутатаў, ён у любым выпадку зьбярэцца, і ня будзе Прэзыдыюм ніколі прымаць рашэньні, якія супярэчылі б разьвіцьцю дэмакратыі й стабілізацыі становішча ў цэлым па рэспубліцы».

Што да інтарэсаў дэмакратыі, дык Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету БССР ніколі ня быў заўважаны ў сымпатыі да дэмакратычных сілаў і ўвогуле дэмакратычных працэсаў. Якраз заклікі да «стабільнасьці» былі традыцыйнай прапагандысцкай шырмай дзеля таго, каб спыніць усялякія дэмакратычныя перамены.

Шаладонаў таксама заклікаў «больш надаць увагі ўборцы ўраджаю» і выказаў спадзяваньне, што «будзем імкнуцца да навядзеньня правапарадку ў цэлым па краіне, гэта відаць, надасьць сілы і ўпэўненасьці ў рабоце праваахоўных органаў».

Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету прыняў заяву, у якой шмат гаварылася пра «канстытуцыйнасць» і «спакой», але — ні слова з асуджэньнем путчу.

Потым члены Прэзыдыюму ВС БССР апраўдваліся, што ў Беларусі надзвычайнага становішча ня ўводзілася. Але насамрэч іх нежаданьне супрацьстаяць хунце, адсутнасьць асуджэньня ГКЧП і яго антыканстытуцыйнай дзейнасьці азначала згоду зь дзеяньнямі змоўшчыкаў, фактычную легітымізацыю іх намераў на тэрыторыі Беларусі.

Вось чаму мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, пасьля правалу путчу прапанавалі Вярхоўнаму Савету

«асудзіць бязьдзейнасьць і безадказнасьць у справе абароны Канстытуцыі і сувэрэнітэту Беларускай ССР членаў Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР Дземянцея М.І., Шаладонава В.І., Гаркуна У.Г., Гілевіча Н.С., Грыба М.І., Жуковіча Я.Б., Жукоўскага М.Д., Капытава М.Я., Каратчэні І.М., Козіка Л.П., Кулічкова А.М., Котава С.М., Леўчыка У.К., Міцько П.Я., Савіцкага Б.П., Смоляра І.М., Сівіцкага Д.А., Унучкі Р.І. у часе спробы дзяржаўнага перавароту 19-21 жніўня г.г. … Лічыць немагчымым далейшае выкананьне імі абавязкаў членаў Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР».

## Садоўскі: «Мы разам кажам путчыстам: Не!»

20 жніўня дэпутаты Апазыцыі БНФ прынялі зварот да народных дэпутатаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў і ведамстваў Беларускай ССР», у якім пазначылі, што «дзеяньні путчыстаў у СССР зьяўляюцца крымінальным злачынствам, а створаны імі самазваны «Камітэт па надзвычайным становішчы» — антызаконным. Таму ніякія патрабаваньні і распараджэньні змоўшчыкаў з «камітэту» на тэрыторыі Беларусі не павінны брацца пад увагу і тым больш выконвацца. Выкананьне гэтых распараджэньняў можа расцэньвацца як спрыяньне дзяржаўным злачынцам. Заклікаем дэпутатаў усіх узроўняў, кіраўнікоў прадпрыемстваў і ведамстваў Беларускай ССР разам з усімі людзьмі добрай волі адстаяць сувэрэнітэт Рэспублікі, правы чалавека, законы і дэмакратычныя пераўтварэньні ў Беларусі». Падпісалі — З. Пазьняк, В. Голубеў, У. Заблоцкі, С. Навумчык, У. Станкевіч, А. Трусаў, Б. Гюнтэр, Л. Дзейка, Л. Баршчэўскі, Я. Цумараў, В. Зяленін, С. Папкоў.




Зянон Пазьняк, Лявон Баршчэўскі, Уладзімер Заблоцкі на мітынгу сурацъ ГКЧП.

Нас вельмі рашуча падтрымалі дэмакратычныя дэпутаты Менскага гарсавету, якія выступілі са зваротам да жыхароў сталіцы «захоўваць вернасьць законна абраным органам улады і дамагацца ўсімі канстытуцыйнымі мэтадамі спыненьня дзейнасьці Дзяржаўнага камітэту па надзвычайным становішчы». Зварот падпісалі дэпутаты Менгарсавету Міхась Бусьнюк, Галіна Вашчанка, Андрэй Завадзкі, Рыгор Куневіч, Міхась Расолька, Міраслаў Кобаса, Міхась Пліска, Валер Несьцер, Алесь Бяляцкі — усяго 29 дэпутатаў; свой подпіс паставіў і народны дэпутат СССР Аляксандар Дабравольскі.

У Пінску гарсавет быў падзелены на дзьве дэпутацкія групы. Тая, куды ўваходзіла пераважная большасьць кіраўнікоў прадпрыемстваў, мела на-

зоў «За грамадзянскую згоду» (камуністы любілі слова «згода»), і ў дадзеным выпадку пазыцыя гэтай групы цалкам адпавядала назову: згода з путчыстамі. Але была і група, якая складалася з актывістаў БНФ і прыхільнікаў дэмакратычных рэформаў. Менавіта яны 19 жніўня сабралі патрэбную колькасьць подпісаў і прымусілі старшыню гарсавету склікаць сэсію, якая сабралася 20 жніўня. Адбылося гэта шмат у чым дзякуючы дырэктару Пінскай дзіцячай школы выяўленчага мастацтва, «франтаўцу» Яўгену Шатохіну. На сэсіі першы сакратар райкаму партыі заклікаў «не сьпяшацца з высновамі», але для дэмакратаў высновы былі зразумелыя. Яны пераконвалі асудзіць путчыстаў, і ў выніку ім удалося сабраць належную для прыняцьця адпаведнай заявы колькасьць прыхільнікаў. «Разам з вамі я падпісаў сабе прысуд», — сказаў тады старшыня гарсавету.

Па факсе зь Віцебску я атрымаў зварот, падпісаны дырэктарам заводу заточных станкоў Я. Кісялёвым і старшынём прафкаму Я. Белагузавым, дзе ГКЧП называлася «злачыннай хунтай», а дэпутатаў заклікалі «даказаць сваю адданасьць народным інтарэсам».

Гэты настрой супраціву выявіўся ўвечары 20 жніўня на плошчы перад Домам ураду, дзе адбыўся мітынг і дзе, акрамя іншага, было абвешчана пра стварэньне БЗВ — Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў.

Захаваліся ўнікальныя кінакадры — у тыя дні Алесь Лукашук і Юры Гарулёў здымалі фільм пра дэпутатаў Вярхоўнага Савету, і апэратар быў у памяшканьні апазыцыі. Ён і зазьняў, як дэпутаты БНФ выйшлі на плошчу (на відэа зафіксаваныя таксама моманты працы над дакумэнтамі да сэсіі



Зянон Пазьняк на мітынгу супраць путчу.

Вярхоўнага Савету, якая абвясьціла незалежнасьць — гэта адзіныя і ўнікальныя здымкі, больш у памяшканьні Апазыцыі БНФ у тыя жнівеньскія дні ніхто, здаецца, не здымаў).

У мяне захаваліся фрагмэнты стэнаграмы мітынгу 20 ліпеня на плошчы Леніна.

Пётра Садоўскі: «У КГБ баяліся, што зьявіліся ўлёткі і людзі прыйдуць на плошчу на сустрэчу са сваімі дэпутатамі і выкажуцца, што яны думаюць супраць гэтых путчыстаў. А мы разам гаворым путчыстам: «Не!» (галасы на плошчы «Не! Не!»)… Я хачу сказаць, што дэпутацкая Апазыцыя ў Вярхоўным Савеце выступіла з ініцыятывай аб скліканьні нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету Беларусі,

дзе мы маглі б даць ацэнку і тым падзеям, якія адбыліся ў імпэрскім цэнтры ў спробе захопу ўлады, каб мы маглі даць ацэнку тым нашым кіраўнікам Беларусі, якія яшчэ ў нядзелю лісьліва даказвалі нам, што трэба ехаць у Маскву падпісваць з Гарбачовым саюзны дагавор, і праз некалькі гадзін яны ўжо адмовіліся і пачалі служыць новым панам (сьвіст з натоўпу, воклічы «Далоў! Далоў!»). Людзі! Зараз галоўнае — арганізаваць еднасьць, згуртаваньне, змаганьне за канстытуцыйныя правы, за захаваньне ўсіх законаў, паводле якіх мы жывём, і галоўнае — пабудову нашай незалежнай Беларускай дзяржавы».

Алег Трусаў: «Я хачу вам у двух словах сказаць, што ня толькі зараз мянчане абмяркоўваюць гэтую сытуацыю, якая здарылася ў краіне, але і дэмакратычныя дэпутаты розных узроўняў у Маладэчне, Пінску, Наваполацку, Магілёве, Гомелі і ў шмат якіх іншых гарадах (Воплескі). Сярод нас прысутнічаюць таксама прадстаўнікі Смалявіч, Бабруйску ды іншых гарадоў, якія прыехалі спэцыяльна на нашу плошчу (Воплескі).Таксама зараз гэтае пытаньне абмяркоўваюць шахцёры Салігорску. Такім чынам, мы бачым, што ўсё дэмакратычнае насельніцтва Беларусі разумее, чым можа скончыцца путч. Гэта паварот да 37-га году, гэта зноў ГУЛаг. Гэта зноў зганьбаваньне ўсіх нацыянальных сьвятыняў, зноў зганьбаваньне нашай занядбанай спадчыны. І таму мне здаецца, што ў наш такі складаны час трэба не забываць, што мы беларусы, што зараз, калі пачынаецца новы навучальны год, трэба аддаваць сваіх дзяцей менавіта ў беларускамоўныя клясы, трэба разьвіваць беларускамоўную культуру. Бо толькі нацыя, якая валодае мовай, гісторыяй і культурай, можа быць



Выступае Уладзімер Заблоцкі. Ззаду – Яўген Новікаў, Зянон Пазьняк, Лявонці Зданевіч, Лявон Баршчэўскі.

незалежнай нацыяй. Жыве Беларусь!» (Воклічы «Жыве!», воплескі).

Вядоўца: Шаноўныя сябры! Слова для інфармацыі мае падпалкоўнік Статкевіч.

Мікола Статкевіч: «Заява Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў. 20 жніўня ў горадзе Менску групай афіцэраў створанае Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў. Мы… (Воплескі, воклічы «Ура!»). Мы, афіцэры, якія ўвайшлі ў Згуртаваньне, зьвяртаемся да беларускага народу, да Вярхоўнага Савету рэспублікі, і заяўляем наступнае. Спроба дзяржаўнага перавароту, пачатая ў ноч на 19 жніўня ў Маскве, паказала, што асобай гарантыяй незваротнасьці дэмакратычных зьмен і сувэрэнітэту рэспублікі могуць стаць толькі дэпартызаваныя нацыянальныя вайсковыя злучэньні. У сувязі з

гэтым мы выступаем супраць антыканстытуцыйнага перавароту і будзем канстытуцыйным крокам змагацца за стварэньне беларускага войска (Воклічы «Ура!», воплескі). Цяпер яшчэ адзін дакумэнт, мы зьвярнуліся да вайскоўцаў Беларускай вайсковай акругі. (Далей гаворыць па-расейску). «Памятайце, вы давалі прысягу на службу Радзіме, на абарону яе свабодаў, вы не давалі прысягу абараняць намэнклятуру КПСС ад гневу народа (Воплескі). Вы ня маеце юрыдычнага права выконваць загады, якія зыходзяць ад неканстытуцыйнага органу. Мы заклікаем войска не прымаць удзел у перавароце. Сёньня вы маўчыце, заўтра вам аддадуць загад страляць у свой народ, у вашых бацькоў, маці, братоў, сёстраў. Выбар трэба зрабіць сёньня. Заўтра можа быць позна. Заўтра можа пачацца грамадзянская вайна. Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў».

Сяргей Навумчык: »Я прыгадваю, як некалькі месяцаў таму, у лютым, давялося сядзець на сустрэчы з Гарбачовым у Акадэміі навук, як Міхаіл Сяргеевіч лаяў і абражаў дэмакратаў, а за два мэтры за ім сядзелі задаволеныя, усьміхаючыся, малафеевы, камаі, кастэнкі, дземянцеі. І вось сёньня, калі ён аказаўся блякаваны путчыстамі, ніхто з гэтых людзей ня стаў у яго абарону, а «так званыя дэмакраты» — сталі. Тая пазыцыя, якую займаў Гарбачоў, лягічна прывяла да гэтых падзей. І гэта паказвае ўсю беспэрспэктыўнасьць так званага цэнтрызму, і так званай памяркоўнасьці, якую, на жаль, вызнаюць многія ў нашым Вярхоўным Савеце… Сёньня раніцай… была забароненая газэта «Знамя юности». Яна ня выйшла толькі таму, што асьмелілася ў вельмі сьціплых выразах сказаць пра ўчорашні дзяржаўны пераварот. І ня выйшла таму,



Аўтар і Зянон Пазьняк на мітынгу супраць ГКЧП

што паступіў адпаведны загад, ну, вядома, адтуль, зь вядомага нам будынку на Кастрычніцкай плошчы, з будынку Цэнтральнага камітэту кампартыі бальшавікоў (галасы «Далоў!», сьвіст)… Я заклікаю блякаваць, не выпісваць ні «Правду», ні «Советскую Россию», ні «Советскую Белоруссию»ні «Звязду», калі яны будуць несьці тую лухту, якую нясуць зараз. Ніводнай працоўнай капейкі дзеля бальшавіцкай лухты! Жыве Беларусь» (Воклічы «Жыве!»», воплескі).

## Анямелая «Звязда» і рашучая «Свабода»

У той дзень, 20 жніўня, сапраўды ня выйшла «Знамя юности», і з гэтай прычыны на пасяджэньні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету я заявіў пратэст генэральнаму пракурору Георгію Тарнаўскаму.

Нашую прынятую раніцай 19 жніўня заяву з заклікам не выконваць распараджэньні ГКЧП на другі дзень, 20 жніўня, не апублікавала ніводная афіцыйная газэта. У тым ліку — і парлямэнцкая «Народная газета». ( У тыя дні рэдактара Іосіфа Сярэдзіча не было ў Менску. Праўда, «Народная газета» зьмясьціла артыкул Паўла Якубовіча, у якім дзеяньні ГКЧП былі пастаўленыя пад сумнеў.)

Газэта «Звязда» 20 жніўня на першай паласе побач з загалоўкам надрукавала: «Краіна ў шоку. І мы анямелі…» Разумей, як хочаш — ад радасьці анямелі ці ад роспачы?

«Звязда» (орган ЦК КПБ, Вярхоўнага Савету і Савету Міністраў Беларускай ССР праз тры дні, калі путч праваліўся, надрукуе рэпліку ў мой адрас (на першай паласе!), дзе выкажа незадаволенасьць, што «народны дэпутат БССР былы журналіст С. Навумчык» прайшоўся па адрасе «Звязды»: маўляў, іх журналістам не хапіла мужнасьці і грамадзянскай сьмеласьці…». У рэпліцы — спасылка на заяву «Выбар», зьмешчаную у той самай «Звяздзе» 21 жніўня, дзе, сапраўды, частка журналістаў не пагадзілася прыняць ГКЧП як канстытуцыйны орган — і такая заява, безумоўна, вымагала ад журналістаў зрабіць выбар.

Але ж прафэсійны абавязак журналіста — даваць чытачу аб'ектыўную інфармацыю, твая асабістая пазыцыя чытача цікавіць у апошнюю чаргу.

«Звязда» і 20, і 21 жніўня на першай паласе друкавала распараджэньні ГКЧП — і ні радка не дала пра заклікі не падтрымліваць хунту. Хаця былі заявы і дэпутатаў Апазыцыі БНФ, і нават некаторых членаў Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету. (Рэ-

дакцыя магла б «прыкрыцца» Законам аб статусе дэпутата, паводле якога прэса была абавязаная даваць дэпутатам слова.)

Нарэшце, на наступны дзень пасьля правалу путчу, 22 жніўня, добрую палову першай паласы «Звязды» занялі «Пастанова нумар 3» ГКЧП, а таксама паведамленьне камэнданта г. Масквы і загад камэнданта г. Масквы. («На пэрыяд дзеяньня надзвычайнага становішча забараніць правядзеньне забастовак, сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў і дэманстрацый. Відовішчныя і іншыя масавыя мерапрыемствы праводзіць з дазволу камэндантаў раёнаў па тэрытарыяльнасьці». Ужо нават не сакратары райкамаў вырашалі, а палкоўнікі! Падрабязна быў расьпісаны падзел тэрыторыі Масквы па раёнах. Толькі навошта пра гэта так пільна ведаць чытачам у Беларусі?)

А ўнізе першай паласы нібыта апраўдаліся: «Матэрыялы гэтага нумару былі падрыхтаваныя да таго, як наступіла разьвязка: замыслы экстрэмістаў праваліліся, антыканстытуцыйны пераварот ня ўдаўся. Каб не зрываць выхад газэты, а магчыма, і дзеля гісторыі, мы пакідаем усё, як ёсьць».

Заявы Апазыцыі БНФ з асуджэньнем ГКЧП — «для гісторыі» — «Звязда» не зьмясьціла.

І ўсё ж у дні путчу мы ўбачылі сваю заяву надрукаванай — у газэце «Свабода», якую рэдагаваў Ігар Гермянчук. Нумар быў падрыхтаваны яшчэ да путчу, але Віктар Корзун, які вёз нумар, калі ўжо даехаў да друкарні, пачуўшы ў аўтобусе пра путч, зьвязаўся па тэлефоне з рэдакцыяй і вярнуўся ў Менск, Сяргей Харэўскі намаляваў карыкатуру, Ігар Гермянчук скарыстаў запіс нашай гутаркі зь Дземянцеем, Сяргей Шупа вычытаў карэктуру

— і першая паласа выйшла пад заклікам «Ніякай падтрымкі хунце!».

Магчыма, хлопцы ў «Свабодзе» таксама былі ў шоку, але тое, што яны рабілі, ніяк не назавеш «аняменьнем»...

Не анямелі і журналісты ў некаторых афіцыйных рэгіянальных выданьнях.

Рэдактар пінскай газэты «Пінскі весьнік» (органу гаркаму КПБ!) Пётра Сыцін 19 жніўня даручыў журналістам сабраць меркаваньні дэпутатаў гарсавету — і ў друкарню пайшоў нумар са зваротам да жыхароў з асуджэньнем хунты. «Я і мае калегі не былі ўпэўненыя, што нумар дойдзе да чытача, меркавалі, што КДБ увесь наклад можа канфіскаваць яшчэ на выхадзе з друкарні, а таму аддрукавалі для рэдакцыі дадаткова 100 асобнікаў і тут жа забралі. На наша зьдзіўленьне, на наступную раніцу газэта паступіла ў кіёскі «Саюздруку», свае асобнікі своечасова атрымалі падпісчыкі», — прыгадваў рэдактар пазьней. У той самы дзень, 20 жніўня, Пётра Сыцін аднёс у гарkам заяву аб выхадзе з КПСС.

Позна ўвечары 20 жніўня, фактычна ўжо ўначы, мы з жонкай прыехалі да Алеся і Сьвятланы Лукашукоў. Хацелася проста пабыць у кампаніі, крыху адключыцца — але, натуральна, не атрымалася. Дый наўрад ці ў тыя дні я мог апынуцца ў нейкай кампаніі, дзе б не размаўлялі пра палітыку і не прагназавалі, якія зьмены чакаюць наперадзе. Мне налілі грамаў сто гарэлкі — каб зьняць стрэс. У Лукашукоў была і Вераніка Чаркасава, і, здаецца, яе муж Дзьмітры Філімонаў — яны жылі па суседзтве. Дэталяў той начной размовы ўжо не прыгадаю, але памятаю вельмі зьедлівыя характарыстыкі, якія давала Вераніка путчыстам. Праз

гады, у эміграцыі, мы былі ўзрушаныя паведамленьнем пра забойства Веранікі, якая тады працавала ў «Салідарнасьці».

Ужо глыбокай ноччу мы выйшлі ад Лукашукоў, разьвіталіся зь Веранікай і, калі дабраліся дадому, уключылі «Свабоду». У Маскве пралілася кроў — пад коламі вайсковай тэхнікі загінулі тры чалавекі.

## Супраціў у Менску і вырашальная ноч у Маскве

Усяго праз некалькі гадоў пасьля путчу будзе ствараецца міт, што ў Беларусі людзі моўчкі пагадзіліся з маскоўскім пераваротам, што не было ніякага супраціву, ніякіх масавых акцыяў. Пры Лукашэнку падзеі жніўня 1991-га пачнуць замоўчвацца, найперш з імкненьня паказаць беларусаў абыякавымі, няздольнымі на рашучыя дзеяньні. Мяркую, не апошнюю ролю адыграе і палітыка скажэньня інфармацыі пра Беларускі Народны Фронт і яго лідэраў.

З папярэдніх старонак гэтай кнігі чытач мог пераканацца, што нязгода з утварэньнем і праграмай ГКЧП (прычым — рашучая нязгода, з кваліфікацыяй дзеяньняў змоўшчыкаў як дзяржаўнага злачынства) была выказаная намі, дэпутатамі Апазыцыі БНФ, ужо ў першыя гадзіны пасьля абвяшчэньня пра ГКЧП. І адразу быў арганізаваны супраціў, які выявіўся на самых розных узроўнях. Гэта і наш ціск на кіраўніцтва Беларусі (жорсткая гутарка зь Дземянцеем, удзел у пасяджэньні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету з патрабаваньнем асудзіць путчыстаў, зварот Пазьняка да сілавых міністраў і генпракурора з патрабаваньнем не вы-

конваць загады змоўшчыкаў), і арганізацыя супраціву як менскімі, гэтак і рэгіянальнымі структурамі БНФ (мітынгі, улёткі і гэтак далей).

Я параўнаў ступень арганізаванага Фронтам супраціву ў Беларусі з тым, што адбывалася ў тыя дні ў іншых рэспубліках былога СССР. Калі не лічыць рэспублікі Прыбалтыкі і Грузію, дзе супраць перавароту адразу і рашуча выступіла найвышэйшае кіраўніцтва (але там лідэры народных рухаў былі ва ўладзе), дык хіба толькі дзеяньні нацыянальна-дэмакратычных сілаў ва Ўкраіне можна параўнаць з тым, што было ў нас. У большасьці рэспублік сапраўды было ціха.

Безумоўна, лёс ГКЧП вырашаўся ў Маскве. Так, у Менску на вуліцы выйшла колькасна меней людзей, чым у Маскве, у першы дзень перад Домам ураду сабралася, як я ўжо казаў, некалькі сотняў (можа быць, дзьвесьце) чалавек.

Але вось сьведчаньне Барыса Мінаева, аўтара палітычнай біяграфіі Ельцына, пра першую ноч путчу ў Маскве: «Да ночы (першай ночы) колькасьць тых, хто сабраўся каля Белага дому, крыху паменшала, паводле майго сябра, які знаходзіўся ў гэты час у Белым доме і званіў мне па тэлефоне: «Тут усяго некалькі сотняў чалавек, ну максымум тысяча» — так бачылася яму сытуацыя з акна будынку» (Борис Минаев, «Ельцин», Москва, 2010).

Калі параўнаць колькасьць жыхароў у той час у Маскве і Менску (9 мільёнаў і 1,5 мільёна адпаведна, пры гэтым ня будзем улічваць падмаскоўныя «гарады-спадарожнікі»), дык у прапорцыі атрымліваецца аднолькава. Калі ж улічваць і прадмесьці (да цэнтру Масквы ў той час на электрычцы можна было дабрацца за гадзіну, на аўтамабілі — за

паўгадзіны), дык Менск у гэтым сэнсе выглядае лепей.

Але, вядома ж, тыя, хто тады сабраўся вакол Белага дому, у якім знаходзіўся Ельцын, адыгралі выключную ролю. Менавіта дзякуючы ім змоўшчыкам не ўдалося ажыцьцявіць свае пляны. І тут будзе дарэчы працытаваць урыўкі з кнігі тагачаснага генэральнага пракурора Расеі Валянціна Сьцепанкова і журналіста Яўгена Лісава «Кремлёвский заговор. Версия следствия» (Москва, 1992), дзе адноўленая храналёгія падзеяў ночы з 20 на 21 жніўня.

20 жніўня група КГБ «А» (больш вядомая як «Альфа») атрымала ад путчыстаў заданьне нэўтралізаваць Ельцына:

«Паводле ўдакладненага пляну дзеяньняў група «Б» (асобны навучальны цэнтар КГБ) павінна была «апрацаваць» 1-ы і 2-і паверхі сакрэтнай зброяй велізарнай разбуральнай сілы, — сьведчыць начальнік аддзяленьня групы «А» Леанід Гумянны. — Пасьля такой «апрацоўкі» абодва паверхі перасталі б існаваць. А задача арыштаваць Ельцына, якую паставіў Карпухін (камандзір «Альфы» — С.Н.), была нерэальнай з той прычыны, што пасьля «зачысткі», зробленай намі, усё, у тым ліку і прэзыдэнт Расеі, былі б зьнішчаныя...»

Аднак да Белага дому «Альфе» трэба было яшчэ дабрацца. А зрабіць гэта аказалася вельмі праблематычна, бо —

«Удзень, распрацоўваючы апэрацыю, ніхто ня думаў, што на абарону Белага дому прыйдзе столькі людзей. Па розных крыніцах, да вечара на плошчы перад будынкам Вярхоўнага Савету Расеі ў абароне стаяла ад 50 да 100 тысяч чалавек».

І таму прайсьці да Белага дому можна было толькі праз калідор, ператварыўшы жывых людзей у трупы. У гіганцкую колькасьць трупаў.

«Узяліся не за рукі, а пад рукі, і вельмі моцна, — прыгадвае тую ноч маскоўская пісьменьніца Марыета Чудакова. — І ўсю ноч — прыблізна да чатырох-паловы пятай раніцы — кожныя паўгадзіны з балькона Белага дому нам абвяшчалі, што, па інфармацыі чарговага лазутчыка з шэрагаў КГБ, штурм можа пачацца ў бліжэйшыя 30-40 хвілінаў. І зноў і зноў прасілі адцягнуцца ад будынку і папярэджвалі, што пры зьяўленьні любой групы мужчынаў з вокнаў Дому будзе распачаты агонь без папярэджаньня. Мы стаялі шэрагамі, моцна трымаючыся пад рукі. Напружанасьць не сьціхала да сьвітанку. Незвычайна для маскоўскага жніўня холадна. Гэткім жа незвычайным было тое, што дробненькі дождж сеяўся ўжо другія суткі, не спыняючыся ні на хвіліну...» (Мариэтта Чудакова, «Егор»).

«Каб зьнішчыць абаронцаў Белага дому, трэба было зладзіць неверагодную крывавую бойню, перад якой патухлі бы жахі плошчы Цяньаньмэнь, — пішуць Сьцепанкоў і Лісаў. — У гэтых умовах штурм, нягледзячы на велізарную перавагу, абярнуўся б значнымі стратамі і для атакуючага боку. Паводле ацэнкі начальніка аддзяленьня Леаніда Гумяннога, які ўдзельнічаў у рэкагнасцыроўцы, падчас штурму група «А» страціла б 50 адсоткаў асабістага складу. Кожны другі б загінуў...»

Такім чынам, менавіта людзі, што сабраліся вакол Белага дому (сярод іх, між іншым, былі і жыхары Беларусі) не дазволілі захапіць кіраўніцтва Расеі, што ў выніку, уключна з іншымі фактарамі, прывяло да паразы ГКЧП.

## Дземянцей і мыла

21 жніўня стаў апошнім днём путчу.

Пазьней Мікалай Дземянцей будзе казаць і нават напіша ў сваіх мэмуарах, што перад пачаткам сэсіі (насамрэч — у дзень правалу путчу, 21 жніўня, у 16 гадзін) да яго «ў працоўны кабінэт зайшла група дэпутатаў ад апазыцыі на чале з З. Пазьняком і С. Навумчыкам. Двое апошніх папярэдзілі мяне, каб я не выступаў за захаваньне Саюзу ССР, інакш можа здарыцца непрадбачанае. Я пажартаваў: «Павесіце на вяроўцы бяз мыла?» Яны зьбянтэжыліся і, сказаўшы нешта няўцямнае, сышлі…»

Гэтак піша ў мэмуарах Дземянцей — відавочна, па памяці. Я ж занатоўваў тую гутарку ў кабінэце Дземянцея, як пазьней будзе звычкай казаць, «у рэжыме рэальнага часу».

Вось як усё выглядала насамрэч.

Нас было чацьвёра: акрамя Пазьняка і мяне былі яшчэ Валянцін Голубеў і Юрась Беленькі. Пра «саюзны дагавор» у запісах няма, але зусім магчыма, што фразу такую я проста не пасьпеў запісаць, ну а «непрадбачанае» тычылася б, вядома, ня лёсу Дземянцея, а лёсу Беларусі, якая ўцягвалася імпэрскімі гульнямі ў небясьпечныя працэсы. Вядома, у нашых словах ніякіх пагрозаў фізычнай расправы не было, як не было і зьбянтэжанасьці і няўцямнасьці: Пазьняк у канцы зрабіў Дземянцею абсалютна канкрэтную прапанову.

«Дземянцей: Добры дзень!

Пазьняк: Добры. Шаноўны Мікалай Іванавіч, мы да Вас ужо ня першы раз заходзім, і мы зварот ад дэпутатаў Апазыцыі Вам абавязаны ўручыць. Вось, калі ласка, прачытайце…



21 [illegible], 16 гадзін.

Дэлегацыя ў складзе: Пазьняк, Голубеў, Беленькі, Навумчык, Котікаў, Варонін, Лекеса, М. Дземянцоў.

Дземянцоў: Добры дзень!
Пазьняк: Добры.
Шаноўны Мікалай Іванавіч, мы да вас ужо не першы раз заходзілі, і мы зварот ад депутацкай апазіцыі ўсе абавязаны ўручыць. Вось, калі ласка, пазнаёмцеся...
Дземянцоў: Вы присаживайтесь.
Пазьняк: Не трэба...
Голубеў: Ведаеце, сякія звесткі ідуць па цэнтральнаму радыё? Ведаеце?
Дземянцоў: Нет...
Навумчык: І мы ніколі не заклікалі да пятлі...
Дземянцоў: Ну хорошо... С мылом, без мыла...
Навумчык: І ніколі не заклікалі да пятлі.
Дземянцоў: Ну я с вами тоже очень вежливо, вежливо...
Пазьняк: Мікалай Іванавіч, калі вам хочацца пагаварыць, то ў 18 гадзін мы можам пагаварыць тут, на плошчы. Калі ласка, мы вас запрашаем.
Дземянцоў: Спасибо...

Запіс гутаркі ў кабінэце Мікалая Дземянцея.

Дземянцей: Вы прысаджвайцеся.

Пазьняк: Ня трэба.

Голубеў: Ведаеце, якія зьвесткі ідуць па цэнтральным радыё? Ведаеце?

Дземянцей: Не…

(Якраз у гэтым месцы Дземянцей зьвярнуўся да мяне са словамі кшталту: «Ну што, будзеце цяпер вешаць мяне? А вяроўка будзе з мылам ці бяз мыла?»)

Навумчык: Мы ніколі не заклікалі да пятлі…

Дземянцей: Ну, добра… З мылам, бяз мыла…

Навумчык: Ніколі не заклікалі да пятлі.

Дземянцей: Ну я з вамі таксама вельмі ветліва, ветліва...

Пазьняк: Мікалай Іванавіч, калі Вам хочацца пагаварыць, то а 18-ай гадзіне мы можам пагаварыць тут, на плошчы. Калі ласка, мы Вас запрашаем…

Дземянцей: Дзякуй…»

## «Калі добрыя камуністы аб'ядноўваюцца — ператвараюцца ў банду»

Натуральна, на мітынг Дземянцей не прыйшоў. Патрабаваньне ягонай адстаўкі гучала ў выступоўцаў як адно з галоўных.

Валянцін Голубеў: «Спадара Дземянцея дэпутаты Апазыцыі папярэджвалі некалькі разоў, што ён не павінен падтрымліваць путчыстаў, што ён павінен выказаць пратэст супраць таго, што робіцца, а калі ён баіцца, хай скліча сэсію Вярхоўнага Савету. Дэпутаты скажуць усё, а калі ня ўсё, то скажа Апазыцыя. Я хачу сказаць, што мы выступалі за адстаўку гэтага Прэзыдыюму, мы выступалі за роспуск гэтага Вярхоўнага Савету і зараз, ці будзе чарговая сэсія, ці нечарговая, будзем выступаць за адстаўку ў першую чаргу Дземянцея. Верыць такому чалавеку я не магу, і думаю, што вы ня можаце. Людзі! Добра, што мы ўсе разумеем, што наша будучыня — у незалежнасьці, калі мы станем усе вольнымі, калі мы станем поўнасьцю незалежнымі, то выберам таго, хто нам трэба, тых людзей, у каго мы верым, і толькі будзем спачуваць тым краінам і рэспублікам, у якіх камуністы змогуць што-небудзь зрабіць. А ў нас гэтага не павінна быць. Жыве Беларусь!»

Стэнаграма таго мітынгу 21 жніўня перадае эмацыйны настрой людзей, але эмоцыі не пераш-

кодзілі выступоўцам ужо тады зрабіць дакладны аналіз і на дзіва трапны прагноз.

Пётра Садоўскі: «Дарагія людзі (у стэнаграме пазначана: «Прамоўцу цяжка гаварыць, бо душаць сьлёзы»). … Прабачце, мужчыны. Далібог, нешта са мной здарылася… А я б хацеў праінфармаваць вас яшчэ раз, што ў нас адбыўся пэўны зрух, у гэты цяжкі час пазнаюцца людзі, і ў Прэзыдыюме Вярхоўнага Савету таксама адбыўся пэўны зрух… У нас сем членаў Прэзыдыюму, у тым ліку па альфабэце: Булахаў, Карпенка, Курдзюкоў, Садоўскі, Сьлямнёў, Сасноў і Шушкевіч падпісалі заяву, паводле якой… даюць прававую ацэнку таму, што адбылося, і лічаць неабходным сабраць Вярхоўны Савет неадкладна, каб усе дэпутаты паказалі свой твар, сваю думку...»

Сяргей Папкоў: «Настаў час, калі ўсе прадпрыемствы сапраўды павінны стаць уласнасьцю нашай Беларусі, нашай незалежнай Беларусі, і гэта будзе наш уклад у стварэньне незалежнай інтэлектуальнай Беларусі. У нас хапае інтэлекту жыць самім не па ўказцы нейкіх там «цэнтраў» і гэтак далей, не пад кіраўніцтвам ніякіх хунтаў. Я заклікаю вас, я таксама буду працаваць у гэтым накірунку. Каб наша Беларусь, маючы такі магутны інтэлект, усё ж стала свабоднай дзяржавай. Жыве незалежная Беларусь!»

Сяргей Антончык: «Мы можам сказаць пра нашую перамогу толькі тады, калі Беларусь будзе вольная ад камунізму. Таму што гісторыя паказвае, што дэмакратыя і камунізм несумяшчальныя. Паталягічнай нянавісьці няма да камуністаў, таму што сярод іх, асабліва сярод шараговых камуністаў, ёсьць шмат нядрэнных людзей. Але раптам гэтыя нядрэнныя людзі аб’ядноўваюцца ў адну ар-



Выступае Пётра Садоўскі.

ганізацыю і ператвараюцца ў самую сапраўдную банду. Небясьпечней за КПСС для нас цяпер няма, няма і няма. КПСС, менавіта КПСС. Калі мы ня зможам скарыстаць сёньняшнюю іхнюю разгубленасьць, калі не дакажам ім, урэшце не зразумеем усе, што не адхіліўшы КПСС, мы ня прыйдзем да свабоды. Калі сёньня мы будзем заклікаць да таварыша Гарбачова як да пакутніка, я думаю, што мы далёка ня дойдзем у сваёй барацьбе за дэмакратыю. Мы не абараняем Гарбачова, мы абараняем сваё права, сваю свабоду. Дзякуй за ўвагу. Менскі страйкам будзе дзейнічаць і далей».

Барыс Гюнтэр: «Вы цудоўна разумееце, што путч, які адбыўся ў Маскве, нарадзіўся ў ЦК КПСС. Гэта самае галоўнае. Вы цудоўна ведаеце: Саюз, бальшавіцкі рэжым замешаны на крыві, пачынаючы з 1917 году».

Вера Церлюкевіч: «Дарагія мае землякі-беларусы. Мне вельмі шкада, што я не магу размаўляць на сваёй роднай мове. Я выхоўвалася на Каўказе, так склаліся мае абставіны жабрацкага майго жыцця. Таму я не навучылася размаўляць па-беларуску. У свае пяцьдзясят гадоў прыкладу ўсе намаганьні і хоць перад сьмерцю. Але навучуся. Мілая мая Беларусь! Я вельмі радая, што такое здарылася, што самазванцы пацярпелі крах. Як яны прыйшлі да гэтай улады з ганьбай, гэтак яны з ганьбай і праваліліся. Я два дні, шчыра вам скажу, ня спала. Я старшыня страйкавага камітэту трактарнага заводу. І я вельмі ўдзячная страйкамаўцам гораду Менску. Гэта людзі моцныя духам, яны верылі ў перамогу нашага народу, нашага страйкаму… У мяне вялікі калектыў — 1200 чалавек — абраў страйкам. Я ганарылася гэтым, я сёньня таксама клеіла ўлёткі на будынку КГБ, я ні пра што ня думала (воплескі). Але калі кагэбісты падышлі і пачалі пераконваць, я сказала: «Вы таксама хунта! Паколькі спрыяеце і падтрымліваеце».

Зянон Пазьняк: «Паважаная грамада! Яшчэ ідуць працэсы, дзеля якіх мы тут сабраліся. А ўжо можна рабіць высновы, я пастараюся зрабіць некалькі зь іх, таму што Народны Фронт і дэмакратычныя лідэры гаварылі пастаянна, з 88-га году, вы памятаеце, што пакуль будзе камуністычны рэжым у Беларусі, ня будзе ніякай дэмакратыі, ніякіх рэформаў, і ніякай свабоды. Слухалі, кожны думаў па-свойму. І вось гісторыя пацьвярджае правільнасьць гэтых слоў. Другое, што гаварылася пастаянна і над чым мы пастаянна думалі. Пакуль мы ня будзем свабоднымі, пакуль ня будзем мець незалежнасьць і сувэрэнітэт — ня будзем мець ні рэформаў, ні паляпшэньня жыцця,



Прамаўляе Вера Церлюкевіч.

ні разьвіцьця культуры — нічога. Таму што гэты путч — растаптаньне. Яны імкнуліся растаптаць наш гонар, нашае ўсьведамленьне незалежнасьці. Яны не лічыліся з намі, мы ня маем нічога, ні законаў неабходных канстытуцыйных, бо Дэкларацыя — гэта толькі дэкларацыя. Мы ня маем нашага войска, мы для іх ніхто, мы для іх — гразь. Яны так з намі і хацелі абысьціся. Мы павінны рабіць з гэтага высновы. Трэцяя выснова, якую мы можам зрабіць. Некалі Вальтэр казаў, што мне не падабаецца, што вы гаворыце, але я гатовы аддаць жыцьцё за тое, каб вы мелі права гэта сказаць. Гэта прынцып дэмакратыі, прынцып свабоды чалавечай, павагі. Паважаць чалавека — гэта значыць прымаць чалавека такім, які ён ёсьць. Мы не падтрымліваем палітыкі Гарбачова, мы ведаем, як

яна праваліліся. Яго палітыку з Чарнобылем, яго праімпэрскую палітыку з Савецкім Саюзам. Усё гэта мы крытыкавалі і паказвалі, але калі да ўлады вырашыла прыйсьці крывавая хунта бандыцкімі мэтадамі, то справа ўжо не ў палітыцы Гарбачова, а справа ў легітымнасьці яго ўлады. Справа ў дэмакратычных прынцыпах, дзеля якіх мы змагаемся і жывём. Можа стацца так, што хунта, напэўна, пацерпіць паразу. Я памыліўся, я казаў, што пратрымаюцца максымум тыдзень, але пратрымаюцца яны менш. Дык вось, на гэтай хвалі, калі былі ўжо чалавечыя ахвяры, і калі столькі разоў было напружаньне, можа здарыцца так, што саюзны дагавор, які нам пятля на шыю, будзе прыняты «на ўра»… Я хацеў бы засьцерагчы нас усіх. Таму што мы павінны памятаць, што гарбачоўская — гэта адна група, а гэтая, якая прыйшла і хацела прыйсьці — гэта другая група, яны аднаго кораня, толькі адны бандыты крымінальныя, а другая, як кажуць, мафія партыйная… Я хачу з вамі падзяліцца сваёй інтуіцыяй. Яна мяне не пакідае ўсе гэтыя тры дні, і чаму хачу падзяліцца — таму што многія мае калегі выказваюць тое, што думаю я. Шаноўныя людзі, мяне не пакідае адчуваньне нейкай д’ябальскай змовы. Вось і сёньня што адбываецца... Нешта тут нячыста, нешта было прадугледжана. А вы будзьце асьцярожнымі, хунта пойдзе, яны будуць асуджаныя, але будзем асьцярожныя, каб тыя, што вялі нас у пятлю, у сьмерць ад Чарнобылю, вялі нас у пятлю гэтага каляніяльнага дагавору, каб яны пад нашае «ўра» не завялі ў тупік…»

Гэтыя інтуітыўныя меркаваньні Пазьняка наконт «д’ябальскай змовы» потым, праз гады, неаднойчы пацьвярджаліся ў выказваньнях некаторых

членаў ГКЧП, што Гарбачоў нібыта ведаў загадзя пра ўвядзеньне надзвычайнага становішча і нават даў «дабро» змоўшчыкам, але потым адмовіўся ад падтрымкі путчу. На карысьць такой вэрсіі прыводзяць і словы самога Гарбачова на прэсавай канфэрэнцыі ў першыя ж дні пасьля путчу: «Усёй праўды я вам усё роўна не скажу». Як там было насамрэч (мне ўсё ж падаецца, што Гарбачоў ня меў дачыненьня да арганізацыі перавароту). пэўна, застанецца адной з таямніцаў XX стагодзьдзя.

Але тое ўжо — частка расейскай гісторыі.

Для беларусаў жа ГКЧП, кім бы ён ні ініцыяваўся, быў вялізнай пагрозай. Узьнікла небясьпека ліквідацыі ўсіх дэмакратычных свабодаў, якіх мы з такой цяжкасьцю дамагаліся і, галоўнае, — у выпадку перамогі путчыстаў Беларусь ня хутка здолела б вырвацца з імпэрыі.

Зрэшты, і ажыцьцяўленьне плянаў Гарбачова падпісаць «саюзную дамову» (цырымонія, нагадаю, плянавалася на 20 жніўня, ды путч перашкодзіў) не сумяшчалася з нашым імкненьнем бачыць Беларусь вольнай.

Адразу пасьля мітынгу мы прыступілі да падрыхтоўкі нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету, на якой трэба было дамагчыся незалежнасьці.

Дамагчыся якімі заўгодна мірнымі сродкамі.

І якім заўгодна коштам.

# Дні, якія стварылі краіну

У верасьні 2011-га, падчас запісу праграмы «Два на Два» на «Белсаце» Дзьмітрый Гурневіч і Павал Мажэйка вярнулі нас зь Зянонам Пазьняком у жнівеньскія дні 1991-га і запыталіся: ці ўсьведамлялі, ці адчувалі мы, дэпутаты Апазыцыі, гістарычнасьць падзеяў, у прыватнасьці, абвяшчэньня незалежнасьці?

Мне падаецца, што ў поўнай меры такое ўсьведамленьне прыйшло пазьней, а тады найпершым было — пасьпець скарыстаць час. Увогуле ж, цяжка прыгадваць уласныя эмоцыі праз дваццаць гадоў, але галоўнае адчуваньне, канешне ж, памятаецца.

Гэта — адчуваньне шчасьця.

Канец жніўня — пачатак верасьня, гэтыя некалькі дзён пасьля правалу путчу ды абвяшчэньне незалежнасьці Беларусі былі самымі шчасьлівымі ў маім жыцьці і, напэўна, у жыцьці калег па дэпутацкай Апазыцыі БНФ. «Гістарычна шчасьлівымі» — кажа Пётра Садоўскі. Пры тым, што больш напружаных, проста псыхічна і фізычна зьняможных дзён у мяне ніколі не было.

Але вось што адметна: многія з маіх калег па Апазыцыі БНФ ня могуць прыгадаць храналёгію падзеяў ва ўсіх дэталях. Верагодна, гэта вынік якраз той максымальнай напружанасьці, бо выкладаліся мы, як кажуць, да апошняга, і адразу пасьля тых дзён уключыўся нейкі мэханізм псыхалягічнай самаабароны, бо далей трымаць усе гэтыя эмоцыі было цяжка. Цалкам пагаджуся зь

Лявонам Баршчэўскім, які сказаў, што больш зрабіць у тых умовах было немагчыма. Пагаджуся, але з удакладненьнем, што зрабілі значна больш, чым уяўлялася рэальным.

## «Не скарыстаем шанец — потым сабе не даруем»

22 жніўня пад націскам дэпутатаў Апазыцыі БНФ (нас падтрымалі яшчэ некалькі дзясяткаў дэпутатаў) Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету быў вымушаны прызначыць нечарговую сэсію на 24 жніўня.

Парадак дня, які прапанаваў Прэзыдыюм, складаўся з двух пунктаў. Першы — «Аб бягучым моманце». Другі — «Пра Саюзны дагавор». І больш — нічога.

Колькі разоў члены Прэзыдыюму адкідвалі нашыя, дэпутатаў Апазыцыі БНФ, законапраекты на той падставе, што яны, нібыта, не былі дакладна сфармуляваныя альбо былі юрыдычна некарэктныя — і тут самі высоўваюць расплывістую фармулёўку пра «бягучы момант»... І, вядома, зноў — Саюзны дагавор. А пра незалежнасьць — ні слова.

Зянон Пазьняк падаў Дземянцею нашыя прапановы з абсалютна канкрэтнымі фармулёўкамі ў парадак дня нечарговай сэсіі:

«— Аб дзеяньнях членаў Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР і службовых асобаў рэспублікі ў часе перавароту.

— Аб дзеяньнях грамадзка-палітычных арганізацый у часе спробы дзяржаўнага перавароту.

— Аб наданьні канстытуцыйнага статусу Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце БССР.



Валянцін Голубеў, Зянон Пазьняк і аўтар у часе падрыхоўкі дакумэнтаў аб абвяшчэньні Незалежнасьці. Фрагмэнт зь фільму «Дэпутаты».

— Аб зьменах у артыкуле Канстытуцыі БССР.

— Аб Саюзным дагаворы.

— Аб асноўных пытаньнях парадку дня пятай сэсіі Вярхоўнага Савету БССР».

Але трэба было падрыхтаваць тэксты законапраектаў — і на гэта мы мелі крыху больш за суткі.

Гэтыя суткі мы правялі ў нашым 363-м пакоі Дому ўраду. Разьмеркаваліся па групах: адны рыхтуюць пакет пад канстытуцыйнасьць Дэклярацыі, другія — пастановы пра адстаўкі старшыні і Прэзыдыюму, трэцiя — рашэньні пра забарону дзейнасьці КПБ-КПСС і нацыяналізацыю партыйнай маёмасьці, чацьвертыя — аб перападпарадкаваньні войска, КДБ, МУС і пракуратуры.

Пазьней мне так і не ўдалося знайсьці фатаздымкаў нашай працы тых дзён у памяшканьні

апазыцыі — я перакананы, што апрача здымачнай групы фільму «Дэпутаты», які рабілі Аляксандр Лукашук і Юры Гарулёў, там ніхто і не здымаў (ва ўсялякім разе, пры мне не здымалі дакладна). У фільме ёсьць некалькі сэкундаў — і гэта ўсё, што засталося для гісторыі.

І тое вельмі лёгка патлумачыць. Нават дэмакратычна арыентаваныя журналісты ў тыя дні засяродзілі ўвагу не на Менску, а на Маскве, дзе, як лічылася, адбываюцца галоўныя падзеі: ідуць арышты ўдзельнікаў ГКЧП, нехта з путчыстаў страляецца, нехта з чыноўнікаў выкідваецца з акна, Гарбачоў прыяжджае да расейскіх дэпутатаў, Ельцын падпісвае ўказ аб забароне дзейнасьці КПСС...

Дый нічога радыкальнага, рэвалюцыйнага ад пракамуністычнага Вярхоўнага Савету БССР журналісты не чакалі. Тады і прагучала па Радыё Свабода меркаваньне, што максымум, на што можа пайсьці дэпутацкая большасьць — гэта дэпартызацыя (вывад камуністычных камітэтаў з прадпрыемстваў, дзяржаўных установаў і войскаў). І нават гэта здавалася маларэальным.

Увогуле, у той дзень, калі мы раніцай сабраліся ў нашым пакоі ў Доме ўраду, Пазьняк сказаў: у нас ёсьць некалькі дзён, магчыма, нават менш за тыдзень. І калі мы за гэтыя дні не скарыстаем шанец — потым сабе не даруем. Бо можа здарыцца, што больш такой магчымасьці і такіх умоў у нас ня будзе.

Сапраўды, тыя дні былі адметныя: уздым і надзвычайная палітычная актыўнасьць народу і — страх камуністычных кіраўнікоў. Але мы разумелі, што і радасьць, і страх — гэта пачуцьці, а ўсялякія эмоцыі — недаўгавечныя, хай бы нават

яны і ахоплівалі вялікую частку людзей. Але пакуль такія эмоцыі існуюць — іх трэба скарыстаць. Зьявіўся рэальны шанец, змарнаваць які было недаравальна.

Тры «путчаўскія» дні ўзялі багата нэрваў і фізычных сілаў, а распрацоўка дакумэнтаў вымагала максымальнай засяроджанасьці. Мы ўсьведамлялі, вядома, якога кшталту дакумэнты рыхтуем — магчыма, самыя важныя для лёсу Беларусі. Таму юрыдычныя фармулёўкі мусілі быць дасканалымі як ніколі.

На шчасьце, у нас ужо была практыка стварэньня заканадаўчых дакумэнтаў — хай нашыя прапановы часьцей за ўсё не праходзілі, а адкідаліся пракамуністычным Вярхоўным Саветам, але досьведу мы назапасілі дастаткова, каб у падрыхтоўцы да сэсіі адчуваць сябе ўпэўнена.

Нічога не магу прыгадаць з той дзённай ды начной працы акрамя вялікага напружаньня і шкадаваньня, што ня можаш падзяліцца на два, тры, чатыры чалавекі: у памяшканьні апазыцыі мы пісалі законапраекты, а побач няспынна званіў тэлефон — зь Менску, з розных гарадоў Беларусі людзі паведамлялі, хто зь мясцовага начальства і якім чынам падтрымаў пераварот, пыталіся, што трэба рабіць...

БНФ тады ня меў свайго памяшканьня, і некалькі чалавек з Сойму сядзелі ў нашым пакоі «на тэлефонах». Але часта людзі, якія званілі, прасілі падысьці да тэлефонаў менавіта дэпутатаў — бо ў дзяржаўных установах на дэпутацкія запыты рэагавалі шпарчэй.

А з пошты нам прыносілі сотні тэлеграмаў з патрабаваньнямі адстаўкі Дземянцея і забароны КПБ-КПСС. Шмат дзе праводзіліся сходы, і цэлыя



ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСЬ

220600, Мінск, праспект Машэрава, 11
Тэл. (0172) 23 87 42.
Факс (0172) 23 87 31

23.08.91/455

Пятай нечарговай сесіі
Вярхоўнага Савета БССР,

дэпутатам ад нашых акруг
Голубеву, Здановічу, Канаплі,
Паўлаву, Шушкевічу

Супрацоўнікі выдавецтва "Беларусь" вітаюць дзейнасць членаў дэпутацкай апазіцыі БНФ і ўсіх тых сумленных дэпутатаў, якія ў дні антыдзяржаўнага перавароту адстойвалі Канстытуцыю і свабоду.

Мы патрабуем прыцягнення да адказнасці калабрацыяністаў — старшыню Вярхоўнага Савета БССР Дземянцея, тых членаў прэзідыума, якія не адмежаваліся, а фактычна падтрымалі путчыстаў, а таксама ўрада Беларусі, іншых службовых і афіцыйных асобаў, кіраўніцтва ЦК КПБ, якія сталі на шлях здрадніцтва.

Патрабуем неадкладнай дэпартызацыі ўсіх дзяржаўных устаноў, прадпрыемстваў, КДБ, МУС, арміі, нацыяналізацыі маёмасці КПСС—КПБ.

Па даручэнню сходу

В. Дубоўскі, дырэктар
А. Лукашук, галоўны рэдактар
А. Вячорка, вядучы рэдактар

23 жніўня 1991 г.

Зварот калектыву выдавецтва «Беларусь» да дэпутатаў Вярхоўнага Савету напярэдадні надзвычайнай сэсіі.

калектывы прымалі рэзалюцыі — адно такое рашэньне нам перадаў галоўны рэдактар выдавецтва «Беларусь» Аляксандар Лукашук, і яно выразна адлюстроўвае настроі тых дзён.

З акна нашага пакою ў Доме ўраду плошча бачыла бел-чырвона-белы сьцяг — яго прымацаваў Аляксандар Шут.

Увечары 23 жніўня мы перадалі ў сакратарыят Вярхоўнага Савету два дзясяткі законапраектаў — пастановы пра наданьне Дэкларацыі аб сувэрэнітэце канстытуцыйнай сілы, пра забарону дзейнасьці КПБ-КПСС і нацыяналізацыі маёмасьці, а таксама аб дэпартызацыі, аб падпарадкаваньні МУС, КДБ і пракуратуры Вярхоўнаму Савету і Саўміну Беларусі — усяго 22 аркушы.

І адразу пасьля гэтага мы — Зянон Пазьняк, Уладзімер Заблоцкі, Валянцін Голубеў і я — паехалі ў тэлецэнтар на Макаёнка на прамы эфір.

Гэты эфір мы запатрабавалі яшчэ на пасяджэньні Прэзыдыюму, запатрабавалі катэгарычна і менавіта ў прайм-тайм. Гэта, здаецца, быў адзіны выпадак, калі кіраўнік Дзяржтэлерадыё Сталяроў даў нам яго адразу (і раней, і пазьней перамовы зь ім забіралі ў мяне не адзін дзень, хоць выхад на тэлебачаньне нібыта і быў нам гарантаваны Законам аб статусе дэпутата).

У студыі працавалі прамыя тэлефоны, і на нас абрынулася інфармацыя з розных куткоў Беларусі пра падтрымку ГКЧП мясцовым начальствам. Мы патлумачылі, чаго будзем дамагацца ад дэпутацкай большасьці на нечарговай сэсіі — галоўнымі пытаньнямі былі адстаўка Дземянцея і Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, спыненьне дзейнасьці КПБ-КПСС і незалежнасьць.

Мы заклікалі людзей прыйсьці на плошчу перад Домам ураду з самага пачатку сэсіі, каб падтрымаць дэпутатаў БНФ. Мы ведалі, што парлямэнцкая «большасьць» не ператварылася ў «меншасьць». У тыя дні аўтарытэт кіраўніцтва



У час прамога тэлеэфіру прагучаў заклік да менчукоў прыйсьці да Дому ўраду і падтрымаць дэпутатаў Апазыцыі БНФ. Уладзімер Заблоцкі, Валянцін Голубеў, Зянон Пазьняк і аўтар. 23 жніўня 1991 г. Здымак з тэлеэкрана.

БССР быў на нулі — але мы ўжо мелі досьвед стасункаў з камуністычнымі дэпутатамі, ведалі, што яны здольныя галасаваць насуперак здароваму сэнсу і нават інстынкту самазахаваньня. А тысячы людзей на плошчы прымусілі б камуністаў больш уважліва паставіцца да нашых патрабаваньняў.

Ня ведаю, ці рабіў хто-небудзь відэазапіс таго эфіру — у архіве Ўладзімера Кармілкіна захавалася некалькі фотакадраў з тэлевізара.

Дэталяў нашых выступаў ня памятаю, узгадваецца толькі, што пад тэлевізійнымі сафітамі было вельмі горача, дый эфір быў даволі працяглы, гадзіны паўтары. Здаецца, першы і апошні раз нам не абмяжоўвалі час.

## Перамагчы арытмэтыку

Дні путчу ў Менску былі халодныя, як для жніўня, а вось раніца 24-га прыгадваецца цёплай. Першае пасяджэньне кожнай сэсіі Вярхоўнага Савету звычайна пачыналася а 10-й гадзіне, але гэтым разам было прызначанае на 12-ю. На плошчы ўжо сабралася даволі шмат людзей — яны павесілі на міліцэйскія загароджы плякаты з патрабаваньнямі адстаўкі Дземянцея і забароны КПБ-КПСС.

Перад самым пачаткам сэсіі мяне папрасілі выступіць перад людзьмі: на плошчу таксама выйшлі Алег Трусаў і Яўген Глушкевіч. Гучалі заклікі ісьці да ЦК і вынесьці адтуль камуністаў «уперад нагамі». Увогуле, людзі мелі рашучы настрой. Мы заклікалі да цывілізаваных спосабаў — дзейнасьць КПБ-КПСС мусіць быць прыпыненая, але легітымным шляхам.

На пачатку сэсіі Галіна Сямдзянава ўнесла ў Авальную залю бел-чырвона-белы сьцяг, замацавала яго за трыбунай разам з Валянцінам Голубевым, а Зянон Пазьняк зрабіў прапанову, каб нацыянальны сьцяг заставаўся ў залі. Дземянцей паставіў на галасаваньне (а мог бы і проста сказаць «Добра»). За — толькі 107 дэпутатаў. Пазьняк прамовіў: «Мы пачакаем», і Валянцін Голубеў прыбраў сьцяг са сцэны і паставіў яго ў «менскім сэктары» — усю сэсію сьцяг быў з намі ў залі.

(Потым невядома адкуль узьнік міт, што нібыта першым сьцяг у Авальную залю ўнёс Лукашэнка. Насамрэч, на другі дзень, вяртаючыся пасьля абеду ў гатэлі на сэсію, дэпутат касманаўт Уладзімер Кавалёнак падышоў да людзей на плошчы, узяў сьцяг і прынёс яго ў залю — раптам зь ім выпадкова ўвайшлі ў залю Аляксандар Лукашэнка



Выступ аўтара на плошчы перад пачаткам надзвычайнай сэсіі.

з Інэсай Драбышэўскай (будучы міністар аховы здароўя).

Што да самога Лукашэнкі, дык у пачатку сэсіі ён толькі адзін раз прагаласаваў супраць парадку дня, а потым заявіў, што ня хоча ўдзельнічаць у працы сэсіі, каб браць на сябе адказнасьць, паставіў пад сумнеў неабходнасьць сувэрэнітэту і не рэгістраваўся).

Вынік галасаваньня пра сьцяг паказваў, што нашыя засьцярогі наконт неразуменьня сытуацыі значнай часткай дэпутатаў-камуністаў аказаліся слушнымі. Калі ўявіць, што прапанаваныя намі на парадак дня сэсіі пытаньні зьбяруць такую самую колькасьць прыхільнікаў, дык для прыняцьця рашэньняў пра адстаўку Дземянцея і Прэзыдыюму ВС, дэпартызацыі і спыненьня дзейнасьці КПБ-КПСС нам ня хопіць амаль 70 галасоў. А для абвяшчэньня незалежнасьці — тут ужо патрабава-

лася канстытуцыйная большасьць — не хапала амаль 130 галасоў.

Звычайна, каб перацягнуць на свой бок 15-20 дэпутатаў, нам даводзілася прыкладаць вялізныя намаганьні — весьці кулюарныя перамовы, шукаць дадатковую аргумэнтацыю, што займала ня дзень і ня два. Але пераканаць пару дзясяткаў дэпутатаў зьмяніць пазыцыю было рэальна, калі ж не хапала 130 галасоў — ня памятаю, каб мы настойвалі на хуткім перагаласаваньні. У такой сытуацыі было зразумела, што пытаньне давядзецца адкласьці на доўгі час. Але цяпер гэта было немагчыма: сэсію, як мы ведалі, кіраўніцтва Вярхоўнага Савету плянавала правесьці за адзін дзень.

Таму 130 дэпутатаў, галасоў якіх нам не хапала — гэта ў тых умовах была вялізная, амаль недасягальная лічба — усе папярэднія сэсіі паказвалі ўсёмагутнасьць арытмэтыкі. Стала зразумела, што лёгкага посьпеху на хвалі перамогі над ГКЧП не атрымаецца. Цяпер усё залежала ад нашых дзеяньняў у Авальнай залі. А таксама — ад людзей на плошчы.

Увогуле, гэтая сэсія — прыклад удалага спалучэньня стратэгіі і дакладна пралічанай тактыкі.

Стратэгія палягала ў тым, каб прымусіць парлямэнцкую большасьць прыняць нашыя прапановы, абвясьціць незалежнасьць і забараніць КПБ-КПСС.

Адзіная тактыка, якая падавалася пэрспэктыўнай — спалучэньне ціску і пераконваньня. У душах камуністаў панавалі страх і неакрэсьленасьць уласнай будучыні. Што да ціску, дык тут нам вельмі дапамагалі людзі на плошчы: голас народу праходзіў праз вокны ў фае Дому ўраду і празь дзьверы — у Авальную залю. У самой залі пася-

джэньняў мы пастаянна ціснулі на дэпутатаў — ва ўсялякім разе, мая роля вымалёўвалася пераважна менавіта такой. Я то зачытваў пратакол пасяджэньня Прэзыдыюму, большасьць членаў якога фактычна падтрымалі ГКЧП, то цытаваў гнеўныя тэлеграмы «зь месцаў», то маляваў пэрспэктывы ў тым выпадку, калі б народ з плошчы прарваўся ў Авальную залю.

Тое самае рабіў і Яўген Глушкевіч — зразумела, што папярэджаньні з вуснаў былога камуністычнага сакратара для дзейных партыйных сакратароў гучалі пераканаўча.

У Валянціна Голубева ці Зянона Пазьняка мэта была крыху іншая. Валянцін агучваў нашыя прапановы ў парадак дня, праўда, і тут ён таксама выявіў свой бліскучы прамоўніцкі талент, надаў эмоцый — але ў меру. Пазьняк рабіў палітычны даклад, тут усё было выверана і ўзважана, але ацэнкі камуністам Пазьняк даваў зьнішчальныя. У канцы сэсіі ён нечакана для парлямэнцкай большасьці згуляе на кантрасьце — зьвернецца да іх з просьбай, якая кардынальна памяняе сытуацыю.

Вось прыклады выкарыстаньня такой тактыкі ў нашых выступах, цытую па стэнаграме:

Навумчык: «...Мы стаялі фактычна перад пагрозай тэрору. Вось цытаты з газэты «Віцьбічы». Бурак, выканаўца абавязкаў начальніка ўпраўленьня КДБ па Віцебскай вобласьці, цытата: «как орган государственного управления мы стоим на страже конституционного строя. Комитет по чрезвычайному положению в СССР создан в соответствии с Конституцией СССР. Следовательно, будем руководствоваться его решениями». Вось такі Бурак мог быць дэтанатарам. Я спадзяюся, што таварыш Шыркоўскі ўжо аддаў загад зьняць яго з пасады.

Але мы не павінны пакладацца на сумленных альбо несумленных людзей. Таму мы павінны сёньня зрабіць тое, што робіцца ў Маскве. Першае. Апячатаць літаральна сёньня, зараз, будынак Дзяржаўнай бясьпекі БССР, каб пазьбегнуць зьнішчэньня архіваў. (У тыя гадзіны паступіла інфармацыя, што ў Маскве Лубянка нібыта апячатаная — але зьвесткі былі памылковыя. Апячаталі будынкі ЦК КПСС, а КГБ не кранулі. Што датычыць Бурака, дык яго ня толькі ня здымуць з пасады — праз некалькі гадоў ён будзе дэпутатам Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, куды не прапусьцяць ніводнага з нас, фронтаўцаў — С.Н.) Тут шмат казалася пра партыю. Літаральна цяпер неабходна зрабіць захады, каб пазьбегнуць зьнішчэньня дакумэнтацыі, і апячатаць будынак ЦК кампартыі Беларусі. Я прапаную прыняць гэта рашэньне адразу, тут, у залі».

І вось яшчэ адзін мой выступ (як і папярэдні, ад мікрафона):

«Паважаныя дэпутаты-камуністы! Тое, што прапанавала Апазыцыя, падтрымана дзясяткамі, сотнямі прадпрыемстваў у абласьцях, у раёнах. Сёньня, калі за 10 хвілін да пачатку гэтай сэсіі мы з калегам Глушкевічам, калегам Трусавым выступалі перад тымі тысячамі людзей, якія стаяць на плошчы, мы іх прасілі — былі заклікі пайсьці граміць ЦК і гэтак далей — мы іх прасілі захоўваць спакой. Мы ўсё вырашым законным, канстытуцыйным шляхам. Дык вам чаго хочацца? Калі вы гэтыя прапановы ня прымеце — дэпартызацыю і нацыяналізацыю народ правядзе, але ён правядзе гэта ня так, як мы прапануем, — культурна, цывілізавана, а ён правядзе, выцягваючы вас за валасы. Я гэтага вельмі не хачу. Апазыцыя гэтага



Прапановы дэпутацкай Апазіцыі БНФ
у павестку дня надзвычайнай сесіі
Вярхоўнага Савета БССР
24 жніўня 1991 г.

1. Аб дзеяньнях Старшыні Вярхоўнага Савета БССР у час спробы дзяржаўнага перавароту ў СССР
2. Аб дзеяньнях членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і службовых асобаў рэспублікі ў час перавароту
3. Аб дзеяньнях грамадска-палітычных арганізацый у час спробы дзяржаўнага перавароту
4. Аб наданьні канстытуцыйнага статуса Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР
5. Аб зьменах у артыкуле 72 Канстытуцыі БССР
6. Аб Саюзным дагаворы
7. Аб асноўных пытаньнях павесткі дня пятай сесіі Вярхоўнага Савета БССР

22 08 1991
БСС/7663

Старшыня дэпутацкай Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце БССР Зянон Пазьняк

22 жніўня 1991 г.

Прапановы Апазыцыі БНФ па парадку дня нечарговай Сэсіі Вярхоўнага Савету.

вельмі ня хоча. Давайце рабіць так, як зрабіў Ельцын. Давайце будзем рабіць цывілізавана. Мы вас вельмі просім».

Адразу пасьля гэтага майго выступу Яўген Глушкевіч падышоў да мікрафона і зьвярнуўся да тых, хто слухаў і глядзеў тэлерадыётрансьляцыю:

«Я зьвяртаюся да мінчанаў, тых, хто нас цяпер слухае. Нам патрэбна ваша дапамога. Прыходзьце на плошчу, нам патрэбна ваша падтрымка».

Рэмарка ў стэнаграме «Шум у зале» фіксуе абурэньне камуністаў адкрытым заклікам да людзей (як яны разумелі, «натоўпу») прыйсьці да Дому ўраду і, магчыма, умяшацца ў «заканатворчы працэс» (ня выключана, што і шляхам выцягваньня за валасы, пра што намякнуў папярэдні прамоўца).

Пазыцыю Прэзыдыюму (разгледзець два пытаньні — пра бягучы момант і пра саюзную дамову — і скончыць сэсію за адзін дзень — прадстаўляў ад імя Прэзыдыюму Станіслаў Шушкевіч.

Мы з такой прапановай былі катэгарычна ня згодныя, бо вырашаўся лёс Беларусі, і дэпутаты павінны былі правесьці ў Авальнай залі столькі часу, колькі спатрэбіцца.

Належнай колькасьці галасоў не набрала ні прапанова Прэзыдыюму, ні прапанова Апазыцыі.

Градус напружанасьці павялічваўся.

Віктар Ганчар заклікаў Прэзыдыюм зьняць сваю прапанову, аднак Шушкевіч заявіў, што «не магу зьняць тое, што прапанавана Прэзыдыюмам».

Да мікрафона падыходзіць Пазьняк: «Шаноўны Станіслаў Станіслававіч, галасаваньне паказала ўсю беспэрспэктыўнасьць вашай прапановы, таму што за прапанову Прэзыдыюму не хапіла галасоў і за прапанову Апазыцыі не хапіла галасоў. Так што выхад з гэтага тупіку ёсьць толькі адзін. Гэта тое, што прапанаваў калега Ганчар. Трэба, каб Прэзыдыюм зьняў сваю прапанову...»

Свой варыянт прапануе Ігар Гермянчук (канкрэтызаваць першы пункт прапановамі апазыцыі і дэпутатаў), нарэшце, Пётра Садоўскі як член Прэзыдыюму прапануе зрабіць перапынак і ўсім членам Прэзыдыюму сабрацца, каб перагледзець сваё стаўленьне да парадку дня. Дземянцей абвяшчае перапынак.

Пасьля перапынку Шушкевіч ізноў агучвае прапанову Прэзыдыюму, гэтым разам у новай форме, там ужо ёсьць пытаньне дэпартызацыі, але ўзьнікае новае: «Аб дзяржаўным забесьпячэньні КПБ». Гэта значыць, ні многа ні мала, узяць кампартыю на дзяржаўнае забесьпячэньне!

Дземянцей хоча ставіць прапанову на галасаваньне, але да мікрафона падыходзіць Валянцін Голубеў:

«Паважаны Станіслаў Станіслававіч! Тое размазваньне, пра якое я гаварыў на пачатку, працягваецца. Пытаньне аб дзеяньнях старшыні Вярхоўнага Савету падчас путчу вы, Прэзыдыюм, зьнялі поўнасьцю. Пытаньне, якое ставіла Апазыцыя, аб дзеяньнях членаў Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, усяго Прэзыдыюму, вы зьнялі поўнасьцю. Пытаньне аб дзеяньнях службовых асобаў вы зьнялі поўнасьцю… Пяройдзем далей да кампартыі Беларусі. Ці ня лічыце вы, што зараз трэба забараніць ці прыпыніць дзейнасьць гэтай злачыннай арганізацыі? Гэтага няма. Дзе пытаньне аб нацыяналізацыі маёмасьці кампартыі Беларусі?.. Паважаны дэпутат Шушкевіч! Дзе падзелася пытаньне аб наданьні статусу канстытуцыйнага закону Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце? Што, мы зноў уцяклі, ізноў баімся сказаць, што мы беларусы і Вярхоўны Савет Беларусі павінен ахоўваць сваю рэспубліку? Тут шэраг пытаньняў. Прапала пыта-

ньне аб пракуроры. Зьніклі іншыя пытаньні, і мы, Апазыцыя, Дэмакратычны клюб і іншыя дэмакратычныя дэпутаты, настойваем, каб парадак дня прымаўся так, як ён быў пастаўлены Апазыцыяй, як ён быў пастаўлены народам».

На плошчы зьявіўся плякат: «Шушкевіч! Памяркоўнасьць і маразм — не адно і тое ж!»

Вядома, для нас найважнейшым пытаньнем была незалежнасьць, але тут мы не адчулі падтрымкі Станіслава Шушкевіча; наадварот, ён пасьлядоўна даказваў немэтазгоднасьць уключэньня пытаньня пра наданьне Дэклярацыі аб суверэнітэце канстытуцыйнага статусу.

У нейкі момант Дземянцей, як заўсёды, пачаў блытацца, і тады Шушкевіч папрасіў яго даць яму весьці дыскусію — а фактычна, весьці сэсію. Шушкевіч упарта адстойваў пазыцыю Прэзыдыюму (разглядзець толькі два пытаньні, у якіх нідзе не было месца незалежнасьці). Паўтаралася сытуацыя, што ўзьнікла на травеньскай сэсіі, калі Шушкевіч рабіў усё, каб не ўключыць у парадак дня прапанаваныя Апазыцыяй БНФ і падтрыманыя страйкавым рухам пытаньні пра дэпартызацыю і канстытуцыйны статус Дэклярацыі аб суверэнітэце. Толькі цяпер такая пазыцыя Шушкевіча магла значна даражэй каштаваць грамадзтву, паколькі мог быць змарнаваны ўнікальны шанец.

Не перабольшу, калі скажу, што ад пачатку сэсіі нам, дэпутатам Апазыцыі БНФ, давялося змагацца на два фронты: з камуністамі і з Шушкевічам. Пазыцыя Шушкевіча адносна незалежнасьці даўно не была для нас сакрэтам — ён жа яшчэ ў траўні ў інтэрвію «Навінам БНФ» заявіў, што незалежнасьць — гэта «жарт». Аднак цяпер, калі патрабаваньні канстытуцыйнага статусу для Дэклярацыі




Дэпутаты Валянцін Голубеў, Зянон Пазьняк і Вольга Галубовіч.

сталі тэмай сходаў на заводах і ўстановах, калі сотні тэлеграм на адрас сэсіі пачыналіся са словаў пра незалежнасьць — такое стаўленьне выглядала проста, далікатна кажучы, дзіўным.

Станіслаў Шушкевіч: «Паважаны Валянцін Фёдаравіч! Вы мне прабачце, я рэдка ўжываю слова «нонсэнс», а часьцей ужываю беларускае слова «бязглузьдзіца». Дык вы, прабачце, на грані бязглузьдзіцы. Наданьне канстытуцыйнага статусу Дэклярацыі БССР — гэта пярэчыць самой Дэклярацыі».

Пазьняк кажа, што калі Вярхоўны Савет няздольны прыняць патрэбныя рашэньні, яго трэба

распускаць, Шушкевіч у адказ прапануе Пазьняку самому скласьці дэпутацкія паўнамоцтвы.

Нарэшце галасуем. За варыянт Прэзыдыюму — 210 дэпутатаў.

Дземянцей ставіць на галасаваньне «пытаньне, якое ўносіў дэпутат Пазьняк — «Аб наданьні канстытуцыйнага статусу Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі».

Вынікі: «за» — 161, а трэба — 174.

Пытаньне не праходзіць.

Пасьля гэтага ў эфіры «Радыё Свабода» карэспандэнтка Каміла Малевіч скажа, што па самых аптымістычных разьліках аналітыкаў, максымум, што магла б прыняць сэсія — рашэньне аб дэпартызацыі дзяржаўных органаў.

Мы лічылі інакш.

## «Патрэбны поўны і рэальны, а не дэклараваны сувэрэнітэт»

Прасоўваньне нашых патрабаваньняў у парадак дня ішло вельмі цяжка, але мы разумелі, што яшчэ больш складана будзе дамагчыся патрэбных для нас вынікаў галасаваньня.

Для выступаў у спрэчках запісалася некалькі дзясяткаў дэпутатаў, але ўдалося выступіць толькі палове. Мы, дэпутаты БНФ, засяроджваліся на трох галоўных тэмах: адстаўка Прэзыдыюму на чале зь Дземянцеем, забарона КПСС і абвяшчэньне незалежнасьці.

Камуністычныя сакратары спрабавалі давесьці, што кампартыя — чыстая, што яна не падтрымала путч.

Праблема палягала ў тым, што, з аднаго боку, мы павінны былі даказаць антыканстытуцыйнасьць пазыцыі кіраўніцтва Вярхоўнага Савету і ЦК КПБ, а з другога — іх, камуністаў, галасамі атрымаць перамогу. Нашых галасоў для перамогі не хапала — нават з улікам даволі значнай у тыя два дні падтрымкі так званых «нэўтральных дэпутатаў».

Што рабіць, як будаваць свае выступы?

Весьці з камуністамі гульню? Прасіць іх? Мы ніколі гэтага не рабілі, а падзеі жнівеньскага путчу ўвогуле паставілі кампартыю па-за законам. Варыянт быў адзін — паказаць палітычнае і маральнае банкруцтва камуністычнага кіраўніцтва, не пакінуць кампартыі шанцу ўтрымаць ранейшыя кіроўныя пазыцыі (а лепей увогуле спыніць яе існаваньне) — і разам з тым паказаць выйсьце: адмоўцеся ад заганнай ідэалёгіі і далучайцеся да будаўніцтва незалежнай Беларусі.

Падзеі паказалі, што абраная тактыка была слушнай.

За больш чым год існаваньня Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня дэбаты ўпершыню дасягнулі такой эмацыйнай напружанасьці.

Дзямянцей пачаў свой выступ упэўнена: маўляў, у Беларусі ўсё было паводле Канстытуцыі, не былі забароненыя мітынгі, не прыпынялася дзейнасьць ніводнай грамадзкай структуры. Потым паскардзіўся, што дэпутаты Апазыцыі БНФ распаўсюджваюць «хлусьлівыя абвінавачаньні на адрас Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, яго старшыні». Гэтаму, паводле ягоных словаў, папярэднічалі «падтасоўкі, бястактнасьць, бесцырымоннасьць і хамства» — што ўжо датычыла пэрсанальна нас з Пазьняком. Дзямянцей паскардзіўся, што ад нас

яму і членам дэлегацыі на падпісаньне саюзнай дамовы давялося вытрымаць «пагрозы і шантаж». Скончыў старшыня свой выступ заклікам прыняць новую Канстытуцыю.

Далей пачаліся спрэчкі.

Альфонс Цішкевіч, старшыня Менскага аблвыканкаму: «Сёньня ясна бачна, што той-сёй хоча скарыстаць перамогу дэмакратыі ў сваіх мэтах, вельмі далёкіх ад сапраўдных інтарэсаў нашага грамадзтва, беларускага народу. Мы шукаем ворагаў там, дзе іх няма і не было. Я катэгарычна пярэчу супраць разьвязваньня ў рэспубліцы антыкамуністычнай гістэрыі... Але ж усё часьцей вылучаюцца патрабаваньні абвясьціць «крыжовы паход» супраць камуністычнай партыі ў цэлым. Раздаюцца заклікі расправіцца з камуністамі».

Анатоль Кастэнка, генэрал-палкоўнік, камандуючы Беларускай вайсковай акругай: «Паверце, я вам сёньня павінен сумленна сказаць, што цяжка было скідваць зь сябе путы падпарадкаваньня, якія панавалі ў гэтай сыстэме. Хай мы не ўзьняліся адкрыта, не расчахлілі зброю і не павярнулі танкі на ўсход (а няблага было б — танкі зь Беларусі рушылі на Маскву скідваць ГКЧП — С.Н.). Але ўсё роўна гэта таксама была нашая пазыцыя. Вытрымка і разважлівасьць беларускага народу, працоўны рытм гарадоў і вёсак, прадпрыемстваў і калгасаў умацавалі сытуацыю. Путч захлынуўся там, дзе ён пачаўся, і эскаляцыя яго была выключаная і не дапушчаная. Я перакананы, што ў рэспубліцы павінна быць свая нацыянальная гвардыя. Арганізацыйныя формы могуць быць розныя. Гэта значыць у складзе акругі, зьвязаныя з пытаньнямі арганізацыі баявой і прафэсійнай падрыхтоўкі, падпарадкаваньня яны могуць быць іншага



У часе дэбатаў. Аўтар разам з дэпутатам Генадзем Майсеевым.

альбо падвойнага. Ва ўсіх выпадках тады можна будзе запабегчы пагрозе дыктату. Я перакананы ў тым, што важныя вайсковыя кадры павінны прызначацца з санкцыі рэспублікі (І толькі. Пра сваё Беларускае войска ні слова — С.Н.)».

Генадзь Майсееў: «Мікалай Іванавіч (Дземянцей), як можна было сядзець тры дні, маючы ўрадавую сувязь, маючы ўсе магчымасьці, маючы пэрсанальны самалёт. Можа, не пэрсанальны, але ва ўсялякім разе самалётам Вы былі забясьпечаныя. Практычна Вы кінулі свайго кіраўніка (Гарбачова — С.Н.), не валодаючы сытуацыяй. А заява, якая была зробленая Прэзыдыюмам Вярхоўнага Савету рэспублікі? Ледзь не сказана: маўляў, мы працуем у галіне сельскай гаспадаркі, вырошчваем і зьбіраем хлеб для хунты. Для рэспублікі і хунты. Прапаную канкрэтна і прашу запісаць: дэпартызацыя ўсіх структураў рэспублікі, нацыяналізацыя

будынку ЦК КПБ, Дому палітасьветы і ўсёй маёмасьці, разьмеркаваньне гэтай маёмасьці пэўнай камісіяй паміж усімі партыямі, якія сёньня будуць афіцыйна зарэгістраваныя...»

Анатоль Андрэеў, народны дэпутат СССР, старшыня арганізацыі вэтэранаў: «Рэспубліканская арганізацыя цьвёрда стаіць на пазыцыі кансалідацыі ўсіх прагрэсіўных сілаў, прагрэсу эканомікі на падставе рацыянальнага спалучэньня ўсіх формаў уласнасьці. (Насамрэч, дэпутаты-вэтэраны заўсёды галасавалі супраць прыватнай уласнасьці на зямлю — С.Н.)».

Міхаіл Сукач: «ЦК КПБ падтрымаў курс захопу ўлады неканстытуцыйным шляхам... Асабліва будзе злачынна, калі мы ня вырашым пытаньне пра дэпартызацыю праваахоўных органаў».

Віктар Ганчар: «Крызіс паказаў, што партыя, і ў прыватнасьці КПБ як структурнае падразьдзяленьне КПСС, зьяўляецца магутнай дзяржаўнай структурай, якой належыць усё: і праваахоўныя органы, і войска, і сродкі масавай інфармацыі. Калі неадкладна на гэтай сэсіі не прыняць рашэньня аб дэпартызацыі, пачнецца ўнізе масавы стыхійны пратэст. Гэта рэальнасьць».

Барыс Гюнтэр (Апазыцыя БНФ): «Зьвярніце ўвагу на «Советскую Белоруссию», орган ЦК КПБ. 22 жніўня. Хунта арыштаваная, але «Советская Белоруссия» дае матэрыялы, пратакол нумар 3 ды іншыя дакумэнты гэтай хунты. Гэта зрабілі і газэта «Звязда»... Гомельскі гарсавет 20 жніўня на сваім пасяджэньні адмежаваўся ад хунты і абвясьціў, што законы, указы хунты ня дзейнічаюць на тэрыторыі Гомелю. Што робіць народны дэпутат Вайцянкоў, старшыня аблвыканкаму? Ён сваім рашэньнем прэзыдыюму скасоўвае рашэньне гар-

савету і падтрымлівае хунту. Прычым спасылаецца на Гомельскага пракурора Трубачкіна...»

Антон Зеляноўскі, сакратар ЦК КПБ, народны дэпутат СССР: «Антыкамуністычны псыхоз, учынены сёньня парлямэнцкай Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце нашай рэспублікі, назваць дэмакратыяй ніяк нельга. Гэтак жа, як нельга назваць дэмакратыяй і тое, што сёньня адбываецца на плошчы імя Леніна. Гэта ахлякратыя, улада натоўпу. Ідзе адкрыты псыхалягічны тэрор супраць камуністаў, абразы і нават фізычны гвалт. У перапынку сэсіі натоўпам на плошчы быў абражаны, прыніжаны і падвергнуты фізычнаму гвалту народны дэпутат БССР, сакратар ЦК кампартыі Беларусі Ціхіня Валеры Гур’евіч, які вымушаны быў зьвярнуцца па хуткую дапамогу ў паліклініку... Што датычыць пытаньня нацыяналізацыі маёмасьці КПБ, дык гэта відавочна супрацьзаконная акцыя...»

Сяргей Папкоў (Апазыцыя БНФ): «Я пратэстую супраць прадастаўленьня слова арганізацыі, якая практычна фармавала тут путч у рэспубліцы... Трэба забараніць гэтай арганізацыі, членам бюро ЦК і ЦК КПБ выступаць з гэтай трыбуны».

Сяргей Навумчык (Апазыцыя БНФ): «Лічу абавязковым удакладніць тую інфармацыю, якую зрабіў тут вам і народу рэспублікі, які слухае трансьляцыю, сакратар ЦК Зеляноўскі. Наколькі мне вядома, падчас перапынку да Валерыя Гур’евіча Ціхіні не было зроблена ніякіх спробаў фізычнага ўзьдзеяньня. Адзінае, што ён быў ачэплены колам і абпляваны ў літаральным сэнсе. Дарэчы актыўны ўдзел у вызваленьні Ціхіні з гэтага кола прыняў Яўген Міхайлавіч Глушкевіч...



Выступае Уладзімер Кавалёнак. Справа — Юры Хадыка.

Вы, таварышы камуністы, кажаце, што кампартыя не падтрымала путчыстаў. Выбачайце, вось газэта чэрвеньская, вось бюро райкаму партыі, вось — «Пастанова нумар адзін Дзяржаўнага камітэту па надзвычайным становішчы абавязана стаць праграмай дзеяньняў кожнага грамадзяніна. У сувязі з гэтым з новай актыўнасьцю павінна ўзяцца за работу раённая кантрольная камісія, раённая партарганізацыя, рабочы кантроль, пракуратура, усе прававыя органы».

І вось ваша, спадар Малафееў, ваша, спадар Зяляноўскі, ваша, спадар Ціхіня, ваша спадар Камай, заява Бюро ЦК. Дык што, не падтрымала партыя? Падтрымала. І я думаю, што члены Прэзыдыюму таму менавіта вялі такую палітыку, што яны глядзелі ў рот ЦК, як яны глядзелі, у сваёй большасьці, цэлы год. Гэта першае.

Другое. Вось вы ставіце сабе ў заслугу, што заклікалі да спакою. А ўявіце, калі б Хасбулатаў, калі б Ельцын, калі б Сілаеў таксама заклікалі да спакою, калі б не было гэтых пікетаў і барыкадаў на вуліцах Масквы, калі б не было энэргічных дзеяньняў расейскіх дэпутатаў, дзе былі б мы з вамі?! Вы, можа, і сядзелі б у залі, а мы, відаць, сядзелі б у іншым месцы. А што было б з народам — пра гэта цяжка думаць. А таму тое патрабаваньне нацыяналізацыі маёмасьці і спыненьня дзейнасьці Кампартыі Беларусі, якое выстаўляе тут Апазыцыя, гэта ня толькі патрабаваньне Апазыцыі — гэта патрабаваньне народу. Вам можна цяпер прад'явіць дзясяткі, сотні тэлеграм, дзе дзясяткі тысяч подпісаў. Давайце ня будзем абплёўваць адзін аднаго ў прамым і пераносным сэнсе, давайце канстытуцыйным шляхам вырашаць гэтыя пытаньні. Бо калі мы цяпер гэтага ня зробім, зробіць за нас народ але вось ня вельмі культурна… Народ высновы зрабіў, але, відаць, мы тут высновы ня зробім, таму правільна адзінае нармальнае выйсьце з гэтай сытуацыі — гэта роспуск гэтага Вярхоўнага Савету, дэпартызацыя ўсіх структур і новыя выбары. Інакш народ наш будзе каціцца ў бездань».

Адразу пасьля майго выступу Пазьняк рабіў даклад ад імя Апазыцыі БНФ з палітычнай ацэнкай сытуацыі.

Зянон Пазьняк: « Якія высновы можна зрабіць зь мінулых падзей? Перш за ўсё, гэта быў замах на нашу народную чалавечую і нацыянальную годнасьць. Наша дзяржава Беларусь апынулася безабароннай перад крымінальным аблічча хунты, нам не было чым бараніць свой сувэрэнітэт і свой шлях да свабоды. Пакуль Беларусь ня будзе

мецьсродкаў для абароны свайго народу, сваёй дзяржавы — ні пра якую свабоду і ні пра які суверэнітэт ня можа быць і гаворкі. З намі ніколі ня будуць лічыцца ні таталітарызм, ні таталітарны і агрэсіўны Савецкі Саюз, ні маладая імпэрская Расея, што адраджаецца ў форме дэмакратыі, ні ўсходняя мафія, ні ўсялякая крымінальная група: ці то капээсэсаўскі АМОН, ці то камуністычная хунта.

Беларусі трэба Беларускае нацыянальнае войска, дзяржаўная сыстэма нацыянальнай бясьпекі, структура аховы краю і грамадзтва. Беларусі трэба поўны і рэальны, а не дэкляраваны сувэрэнітэт. І першым крокам да яго павінна стаць неадкладнае наданьне Дэклярацыі аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай ССР статусу канстытуцыйнага закону.

КПБ ня мае ніякага юрыдычнага і маральнага права на існаваньне. Яна павінна быць зачыненая і распушчаная. Павінна адбыцца дэпартызацыя і дэкамунізацыя вытворчасьці і ўсіх установаў рэспублікі. Павінна быць нацыяналізаваная ўся маёмасьць КПБ-КПСС, нарабаваная ў народа. Усе камуністычныя газэты, якія дэзінфармавалі людзей і друкавалі матэрыялы ў падтрымку перавароту, павінны быць перарэгістраваныя і пераведзеныя ў стан незалежных газэт. Беларусь не павінна падпісваць Саюзны дагавор, а абʼявіць пра сваю незалежнасьць і прыступіць да стварэньня нацыянальнага войска і іншых органаў абароны сувэрэнітэту рэспублікі.

Зацяжны крызіс заканадаўчай улады можа быць вырашаны толькі шляхам дачаснага роспуску Вярхоўнага Савету БССР і правядзеньня новых выбараў у прафэсійны парлямэнт на шматпартый-

най аснове і аснове дэмакратычнага закону. Толькі ў вольнай і незалежнай некамуністычнай дэмакратычнай Беларусі можа знайсьці сваё шчасьце і свабоду беларускі народ. Дэпутаты Апазыцыі БНФ лічаць, што старшыня Вярхоўнага Савету таварыш Дземянцей, які падтрымаў ГКЧП, ня можа знаходзіцца на сваёй пасадзе... Выступ спадара Дземянцея, які мы тут праслухалі — гэта ўзор цынізму і дэмагогіі... Адбываецца глумленьне над народным сэнсам, над народам, над будучыняй нашай рэспублікі, і сядзіць спадар Дземянцей, і кіруе гэтым паседжаньнем, і ўхмыляецца. Што, Вам весела? Над чым тут весяліцца?

Я лічу, што, улічваючы, як ідзе гэтая сэсія, ніякага канструктыўнага рашэньня вынесена тут ня будзе. Камуністычная большасьць вядзе сэсію да зрыву, да забалбатаньня яе і непрыняцьця ніякіх рэальных пастановаў. Таму я вымушаны зьвярнуцца да людзей Беларусі — улічваць, якая сытуацыя складаецца ў нас, і рыхтавацца да ўсеагульнай беларускай забастоўкі. (Тут Пазьняк скарыстаў наяўнасьць прамой радыётрансьляцыі — С.Н.). Толькі такім мэтадам — шляхам грамадзкага непадпарадкаваньня — мы можам дасягнуць нашай мэты. І трэба памятаць, што ўсе дзеяньні народу, накіраваныя на падтрымку Канстытуцыі, на падтрымку дэмакратыі, накіраваныя супраць суўдзельнікаў у дзяржаўным пераваРоце, зьяўляюцца законнымі і яны апраўданыя. Таму я прашу перадаць па ўсіх прадпрыемствах, па ўсіх страйкамах, па ўсіх вытворчасьцях — рыхтавацца да ўсеагульнай забастоўкі супраць суўдзельнікаў у злачынстве. Жыве Беларусь!»

## 1-га сакратара ЦК КПБ пагналі з трыбуны

Дзьве падзеі пераламалі ходу сэсіі на нашу карысьць: выштурхоўваньне з трыбуны першага сакратара ЦК кампартыі Анатоля Малафеева і прамова Пазьняка з заклікам да камуністаў прагаласаваць за незалежнасьць.

А шостай раніцы 25 жніўня над віцебскай ратушай беларускія патрыёты ўзьнялі бел-чырвона-белы сьцяг.

А ў Авальнай залі дэпутат-касманаўт Уладзімер Кавалёнак заклікае прыняць прапановы Апазыцыі БНФ. Генадзь Карпенка зачытвае заяву некалькіх членаў Прэзыдыюму з патрабаваньнем да Мікалая Дземянцея і Васіля Шаладонава сысьці ў адстаўку. Яўген Глушкевіч кажа, што «калі мы ня вызначымся цягам гэтых дзьвюх гадзінаў, паралельная структура будзе створаная. Цяпер ужо фармуецца нацыянальная гвардыя, 300 чалавек запісалася».

І тут адбылася кульмінацыйная падзея: да трыбуны пайшоў галоўны камуніст Малафееў.

Малафееў падтрымаў ГКЧП, і нават калі кіраўніцтва ЦК КПСС асудзіла путчыстаў (ужо пасьля іх правалу) — выказваўся ў падтрымку путчу. Ён ня быў дэпутатам Вярхоўнага Савету БССР, але быў народным дэпутатам СССР і таму, паводле рэглямэнту, меў права на выступ. Пасьля выступу Глушкевіча і Ганчара, калі абвінавачаньні ў бок камуністаў дасягнулі, як яму падалося, гранічнай мяжы, ён устаў з «урадавага сэктару», па-камандзірску даў пальцам знак Дземянцею (маўляў, зараз буду выступаць) і пайшоў да цэнтральнай трыбуны.



Дэпутаты зганяюць з трыбуны 1-га сакратара ЦК КПБ Анатоля Малафеева.

Малафееў ішоў як гаспадар — павольна, з адчуваньнем уласнай перавагі.

Але не дайшоў.

Першай на трыбуне апынулася Галіна Сямдзянава і загарадзіла сабой мікрафон. Мы паўскоквалі зь месцаў — Яўген Глушкевіч, Ігар Гермянук, Павал Холад, Віктар Ганчар, Валянцін Голубеў, Іван Герасюк, Мікалай Крыжаноўскі, Алесь Шут — і атачылі Малафеева, крычалі ў твар: «Пайшоў вон!» Памятаю, цяжка было стрымацца, каб не схапіць яго за каўнер, але — стрымаліся, запас нэрваў усё ж заставаўся і пасьля бяссонных начэй.

Дарэчы, гэты эпізод зафіксаваны ня толькі фатографамі, але і кінаапэратарам, ён патрапіў у фільм Юрыя Гарулёва і Аляксандра Лукашука

«Дэпутаты», і ўжо праз некалькі гадоў я ўбачыў тое, чаго не заўважыў тады. Лукашэнка мітусіўся паміж трыбунай і Дземянцеем, спрабуючы ўгаварыць Сямдзянаву пусьціць Малафеева на трыбуну — гэта вельмі добра бачна ў фільме.

(За колькі месяцаў да таго Лукашэнка, стварыўшы фракцыю «Камуністы за дэмакратыю», жорстка дыскутаваў з Малафеевым і абвінавачваў яго ў аўтарытарызьме ды непрыманьні іншых поглядаў. Пройдзе час, і прэзыдэнт Лукашэнка прызначыць Малафеева кіраўніком свайго «сэнату».)

Малафееў быў вымушаны пайсьці з трыбуны на сваё месца. І гэта псыхалягічна зламала камуністаў: усёмагутны першы сакратар, валадар лёсаў — быў сагнаны, фізычна адпрэчаны палітычнымі праціўнікамі. Такога сьцены Авальнай залі ня бачылі.

Разгублены Дземянцей абвяшчае перапынак на паўгадзіны – але зацягваецца ён нашмат даўжэй. У перапынку ён “раіцца з таварышамі” – але таварышы-камуністы дэмаралізаваныя. Тыя члены Прэзыдыюму ВС, якія здольныя адэкватна ацаніць сытуацыю, раяць яму выканаць патрабаваньне аб адстаўцы.

Для нас гэта азначала адно — выкарыстаць яшчэ большы націск, каб дамагчыся наданьня Дэклярацыі аб сувэрэнітэце канстытуцыйнага статусу. У перапынках мы зьбіраемся ў нашым 363-м пакоі і карэктуем тактыку.

У нейкі момант каля дзьвярэй зьявіўся Вячаслаў Кебіч. «Я падаю ў адстаўку», — каротка сказаў прэм’ер-міністар. Чаму Кебіч пайшоў паведаміць пра гэта нам? Наколькі сур’ёзны быў ягоны намер? Я ніколі ў яго пра гэта не распытваў, а ў сваіх даволі аб’ёмістых мэмуарах Вячаслаў Францавіч

абышоў гэты эпізод. Думаю, што тут быў элемэнт гульні, а магчыма, ён хацеў нейкіх дамоўленасьцяў з Апазыцыяй БНФ. Але размовы не атрымалася: Кебіча адразу ўзяў пад рукі касманаўт Уладзімер Кавалёнак, палітычная арбіта якога ў тыя дні круцілася вакол БНФ. Касманаўт павёў прэм'ера па даўгім калідоры трэцяга паверху і пачаў угаворваць: «Вячаслаў Францавіч, ні ў якім разе, што ж будзе з эканомікай, Вы спэцыяліст» — і гэтак далей. Тых словаў Кебічу хапіла, каб перадумаць; значыць, і не было ў яго сур'ёзнага намеру сыходзіць, проста прамацваў глебу. Зрэшты, праз некалькі гадзін пасьля свайго тэатральнага дэмаршу Кебіч падтрымаў Пазьняка, і з улікам ягонага аўтарытэту ў намэнклятуры гэтая падтрымка станоўча паўплывала на вынік галасаваньня аб наданьні Дэклярацыі канстытуцыйнай сілы.

Пасьля перапынку Дземянцей заяўляе, што сыходзіць у адстаўку.

Шушкевіч дзякуе Дземянцею «за работу на пасадзе старшыні» і кажа гэтулькі шмат добрых слоў, колькі мы, дэпутаты БНФ, на свой адрас ад яго ніколі ня чулі (і не пачуем). Але знаходзяцца словы і для нас — у зьвязку з выгнаньнем з трыбуны першага сакратара ЦК КПБ.

Станіслаў Шушкевіч: «Мне сорамна за тое, што адбылося ў нас у залі Вярхоўнага Савету! Нідзе, нават на Нюрнбэрскім працэсе, не было такога, каб той, каго абвінавачваюць, каго падазраюць, ня меў слова. Я быў сьведкам той зьявы, што народны дэпутат СССР ня змог выступіць на трыбуне. Мы ня можам ісьці такім шляхам, як бы мы да каго ні ставіліся...»

Адметна, што, калі Дземянцей выключаў мікрафоны праціўнікам камуністаў — дэпутатам

Апазыцыі БНФ, Шушкевіч ніколі не заступіўся і ня выказаўся на карысьць магчымасьці народных дэпутатаў «выступіць на трыбуне». Пазьней ужо ён сам адключаў нам мікрафоны.

Шушкевіч прапанаваў «з канстытуцыйных пазыцый спакойна правесьці сэсію і закончыць яе».

«Павінна быць дадзеная ацэнка дзейнасьці Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, які ня выканаў сваіх канстытуцыйных абавязкаў. Сэсію закрываць сёньня так, як вы хочаце, нельга», — пераконваў Валянцін Голубеў.

Слова бярэ дэпутат Апазыцыі БНФ Вольга Галубовіч: «Вам, Станіслаў Станіслававіч, сорамна за нас, народных дэпутатаў, за тое, што мы не далі магчымасьці гаварыць з самай высокай народнай трыбуны чалавеку. Лідэру партыі, якая была ідэйным натхняльнікам антыдзяржаўнага перавароту, якая хацела зьнішчыць свайго генэральнага сакратара. А мне, паважаны Станіслаў Станіслававіч, было горка і балюча за тое, што ўчора, калі Расея стаяла над трунамі ахвяр антыдзяржаўнага перавароту, у гэтай самай высокай залі рэспублікі што было? Падман і спроба завуаляваць сваю злачынную бязьдзейнасьць».

Шушкевіч пачаў апраўдваць Прэзыдыюм, адстаўкі якога мы настойліва патрабавалі. І першае, што ён зрабіў пасьля таго, як абвясьціў, што бярэцца выконваць функцыі старшыні — даў слова Малафееву.

Мы на знак пратэсту падчас выступу Малафеева пакінулі залю, хоць здагадваліся, што Малафееў пачне адступаць. Так яно і сталася: у фае праз трансьляцыю чулі, што першы сакратар, як раней і ягоныя калегі з ЦК, спрабаваў давесьці, нібыта КПБ не падтрымлівала путчыстаў і КПБ выхо-



Людзі на плошчы перад Домам ураду.

дзіць з КПСС, і нават сказаў пра «дэмакратычную свабодную Беларусь». Мы разумелі, што гэта — ня болей, чым фарысэйства, спроба ўратаваць партыю, якая канчаткова збанкрутавала.

Намэнклятура ў Авальнай залі зразумела, што Малафееў капітуляваў і ўжо не валодае сытуацыяй. Фактычна, камуністы страцілі лідэра, а разам зь ім — і волю да барацьбы. Іншага выйсьця, як прымаць прапановы Апазыцыі БНФ, у іх не было.

Пасьля гэтага імпэту прыбавілася і ў раней «памяркоўных» дэпутатаў, якія адзін за адным выступалі з гнеўнымі прамовамі. Ужо і Вячаслаў Кебіч

заявіў, што ня браў удзелу ў пасяджэньні Бюро ЦК КПБ, на якім была прынятая заява з падтрымкай путчу, а таксама дадаў наступнае: «Нам трэба карэнным чынам перагледзець нашую ацэнку, што нібыта рэспубліка ў бязьмежнай залежнасьці ад іншых рэгіёнаў. Урэшце, у сьвеце ня так ужо і шмат краінаў, якія маюць увесь набор мінэральна-сыравінных і паліўных рэсурсаў. Аднак жывуць, і жывуць няблага». (Шкада, што праз пару гадоў Кебіч забудзецца на гэтыя словы.)

Увечары 24 жніўня стала вядома, што Гарбачоў зьняў зь сябе абавязкі генэральнага сакратара ЦК КПСС; на дзень раней у Маскве прэзыдэнт РСФСР Барыс Ельцын падпісаў указ аб прыпыненьні дзейнасьці КПСС на тэрыторыі Расеі. Фактычна, беларускія камуністы апынуліся без гаспадароў, і ў Авальнай залі камуністы-дэпутаты загаварылі што КПБ будзе самастойнай, а Беларусь стане суверэннай дзяржавай. Узьнікала небясьпека ператварэньня рэспублікі ў камуністычны запаведнік. Тым больш важным было дамагчыся спыненьня дзейнасьці кампартыі.

Нашая тактыка пачынала даваць плён, які высьвечваўся на таблё вынікаў галасаваньня.

Прымаецца пастанова з асуджэньнем дзеяньняў ГКЧП. Ствараецца камісія па ацэнцы дзеяньняў службовых асобаў і ўстаноў у дні путчу на чале з дэпутатам Апазыцыі БНФ палкоўнікам міліцыі Ігарам Пырхам, прымаецца рашэньне аб дэпартызацыі. Нарэшце, дэпутаты пагаджаюцца ўзяць за аснову наш праект пастановы аб забароне дзейнасьці КПБ-КПСС на тэрыторыі Беларусі: 185 галасоў пры патрэбных 174-х.

Усяго за пастанову прагаласуе 212 дэпутатаў.

## «Сувэрэнітэт дасьць нам магчымасьць стаць свабоднымі і незалежнымі»

Станіслаў Шушкевіч пераходзіць да пытаньня аб незалежнасьці: «У нас ёсьць праект пастановы «Аб наданьні статусу канстытуцыйнага закону Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце». Вы захоўваеце гэтую прапанову? (Маецца на ўвазе Апазыцыя БНФ. Натуральна ж, мы захоўвалі яе: гэта было галоўнае, дзеля чаго мы патрабавалі склікаць нечарговую сэсію — С.Н.). Вы ведаеце, канстытуцыйная большасьць патрэбная нам. Я б хацеў зьвярнуць вашу ўвагу, што вельмі цяжка гэтае пытаньне нават пры самых станоўчых адносінах вырашыць».

Гэта была рэпліка, якую ні ў якім разе нельга было вымаўляць: пасьля адстаўкі Дземянцея для значнай колькасьці дэпутатаў Шушкевіч ужо ўспрымаўся «начальнікам», яны прызвычаіліся галасаваць так, як скажа начальнік, а тут — начальнік сумняваецца ў выніку галасаваньня. Дык, можа, і ня варта галасаваць?

Апрача таго, перад гэтым выступіў дэпутат Аляксандар Лукашэнка, які ў сувэрэнітэце ўбачыў пагрозу ізаляцыі ад Расеі і ад Гарбачова. Як я ўжо адзначаў, Лукашэнка ўвогуле адмовіўся рэгістравацца і браць удзел у сэсіі. Але пры гэтым пакінуў за сабой права выступаць: ішла прамая трансьляцыя, тое, што адбывалася ў Авальнай залі, слухалі, без перабольшаньня, мільёны, і страціць магчымасьць чарговы раз «засьвяціцца» ён не хацеў. Дырэктар саўгасу «Гарадзец» узначальваў групу «Камуністы за дэмакратыю», і некалькі галасоў у нашу падтрымку маглі адпасьці.

І вось тады ўзяў слова Пазьняк. Ён выступаў спантанна, без падрыхтоўкі, але гэта, я перакананы, была самая дзейсная прамова ў найноўшай гісторыі Беларусі. Калі сёньня параўноўваць яе зь іншымі прамовамі Пазьняка, можна знайсьці значна больш аналітычныя, лепшыя паводле стылю, і нават больш эмацыйныя. Але менавіта тая прамова, сказаная без падрыхтоўкі ад мікрафона, інтуітыўна, «на адным дыханьні», самым непасрэдным чынам паўплывала на тое, што на мапе сьвету зьявілася новая краіна — Беларусь. Сказаная яна была ў патрэбны момант і тымі словамі, якія толькі і маглі паўплываць на людзей, ад якіх увечары 25 жніўня 1991 году залежала, ці спраўдзіцца мара пакаленьняў.

Прамаўляў Пазьняк у поўнай цішыні; я памятаю нейкае пашчоўкваньне, калі адзін з апэратараў у другім канцы залі павярнуў сваю тэлекамэру.

Тую гістарычную прамову Зянона Пазьняка падам тут цалкам:

«Я хачу зрабіць некалькі заўваг па гэтым пытаньні, паколькі тут у зале выступалі некаторыя дэпутаты, у прыватнасьці, дэпутат Лукашэнка, які проста заблытаў гэтае пытаньне.

Справа ў тым, шаноўныя калегі, што зараз мы ўступілі ў прынцыпова новую сытуацыю. Усе рэспублікі вакол нас абʼявілі аб сваёй нацыянальнай дзяржаўнай незалежнасьці. У тым ліку ўчора гэта зрабіла Ўкраіна. Практычна пытаньне аб Саюзным дагаворы здымаецца на нейкі пэрыяд. Саюз існуе толькі намінальна. І калі ў гэтай сытуацыі мы ня прымем адпаведнага закону аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, мы трапім у вельмі кепскае становішча. Таму што тыя рэспублікі, якія вакол нас, яны будуць разьвівацца, і разьвівацца

як нацыянальныя дзяржавы на прынцыпова новай аснове. Яны ідуць да рынку, у іх будзе больш мабільная эканоміка, і мы трапім у непасрэдную залежнасьць ад гэтых рэспублік. Тым больш, я ў сваім дакладзе гаварыў (а я дастаткова добра знаёмы з расейскай дэмакратыяй на працягу многіх гадоў) і з усёю адказнасьцю магу сказаць, што на Ўсходзе ў нас фармуецца маладая агрэсіўная імпэрыя ў форме дэмакратыі. Тыя дэмакраты, якіх мы добра ведаем, не прызнаюць фактычна нас як нацыю, яны не глядзяць на нас як на асобную дзяржаву і на асобную тэрыторыю, а глядзяць на нас як на вотчыну, на якую яны маюць пэўнае права.

На вялікі жаль, гэта так. І менавіта зыходзячы з гэтых меркаваньняў я неаднойчы выказваўся і пісаў аб тым, што я сумняваюся ў дэмакратычным характары будучай Расеі. Таму што асноўны прынцып дэмакратыі — гэта прызнаньне права нацыі на самавызначэньне. Калі ў грамадзтве існуе імпэрская мэнтальнасьць, дасягнуць дэмакратыі поўнасьцю вельмі цяжка. І тыя высновы, якія мы можам зрабіць зараз, сутыкаючыся з палітыкай з Усходу, прыводзяць нас да думкі, што зараз нам, каб выратаваць наш народ, нашу эканоміку, абавязкова патрэбны дзяржаўны сувэрэнітэт. Тыя хуткія тэмпы, якімі зараз пойдуць разьвівацца дзяржавы, якія заснаваны на дзяржаўнай незалежнасьці, яны прывядуць да таго, што іхняя эканоміка высмакча з нашай рэспублікі рабочую сілу, высмакча тавары. І калі ў нас ня будзе сваёй валютнай сыстэмы (а мы можам яе мець толькі тады, калі будзем мець нацыянальную незалежнасьць), мы трапім у вельмі цяжкае эканамічнае і залежнае становішча. Ужо Расея некалькі тыдняў назад

паведаміла, Ельцын паведаміў аб тым, што зьбіраецца павысіць цэны на нафту. Гэта быў у пэўнай ступені шантаж нашай рэспублікі. І ён быў ня першы раз.

Калі мы ня будзем мець дзяржаўнай незалежнасьці, ня зможам свае рэсурсы, ўсе свае сродкі, свае вынікі працы ўкладваць на дабро нашага народу і нашай дзяржавы, мы ня зможам супрацьстаяць гэтай палітыцы. А яна будзе, і будзе абавязкова.

Мы ўступаем у новы стан дзяржаўных узаемаадносінаў. Таму, шаноўныя калегі, я вельмі вас прашу, паколькі палітычная абстаноўка зьмянілася рэзка і хутка і некаторыя з нас не пасьпелі яе адразу ацаніць, я заклікаю ўсіх дэпутатаў зараз ацаніць гэтую абстаноўку самым належным чынам. Таму што ўсякае замаруджваньне пойдзе нам на шкоду.

Ня трэба баяцца, што тут, як казалі некаторыя дэпутаты, узьнікне Альбанія, Куба, Карэя. Нічога падобнага. Працэсы, якія пайшлі ў нас, нават ход нашай сэсіі пацьвярджаюць: яны неабарачальныя, яны ідуць на карысьць нашаму грамадзтву. А суверэнітэт дасьць нам магчымасьць стаць свабоднымі і незалежнымі, дасьць нам магчымасьць разьвіць тыя асновы, якія мы закладваем, ідучы да рэформаў. Я прашу вас паставіць гэтае пытаньне і вырашыць яго сёньня. Бо заўтра можа быць позна. Нас тут ня вельмі многа, і патрэбна канстытуцыйная большасьць. Таму я вырашыў выступіць перад вамі, і, можа, для некаторых было гэта нечаканым. Але я дастаткова добра ведаю, якія ўзаемаадносіны ў тых маладых структурах, якія зараз нараджаюцца. І калі мы спаткаемся з імі потым, не падрыхтаваўшыся, мы проста апынемся ў невырашальным стане. Дзякуй за ўвагу».



ЗАКОН

Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

Аб наданні статуса канстытуцыйнага закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі п а с т а н а ў л я е:

I. Надаць статус канстытуцыйнага закона Беларускай ССР Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

2. У выпадках, калі артыкулы дзеючай Канстытуцыі /Асноўнага Закона/ Беларускай ССР уваходзяць у пярэчанне з палажэннямі Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, кіравацца Дэкларацыяй, як канстытуцыйным законам Беларускай ССР.

3. Даручыць Камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па заканадаўству падрыхтаваць да наступнай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР папраўкі да дзеючай Канстытуцыі Беларускай ССР.

4. Даручыць Канстытуцыйнай камісіі прывесці тэкст праекта рыхтуемай Канстытуцыі рэспублікі ў адпаведнасць з палажэннямі Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Першы намеснік Старшыні
Вярхоўнага Савета Беларускай ССР С.ШУШКЕВІЧ

25 жніўня 1991 г.
гор.Мінск

Закон аб наданьні канстытуцыйнага статусу Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце. Аўтарызаваная копія з архіву аўтара.

Пазьняк папрасіў камуністаў прагаласаваць за незалежнасьць — але апэляваў не да беларускай гісторыі (гэта не спрацавала б), не да права нацыі мець сваю дзяржаву (яны не любілі слова «нацыя»), а да пачуцьця самазахаваньня. Яны чакалі

ад Пазьняка ўхваленьняў пераможца Ельцына, а лідэр БНФ сказаў, што сумняваецца ў дэмакратычным характары будучай Расеі, што на ўсходзе фармуецца новая імпэрыя.

Словы Пазьняка сапраўды былі для камуністаў вельмі нечаканымі, як нечаканым, шакавальным была і форма звароту («мы», «нам») ад чалавека, які некалькі гадзінаў таму заявіў, што ня хоча ў гэтай залі дыхаць адным паветрам з тымі, хто падтрымаў хунту.

Пасьля Пазьняка слова адразу ўзяў нефармальны лідэр камуністаў Міхаіл Мачуленка (да спыненьня дзейнасьці КПБ-КПСС — другі сакратар Гомельскага абкаму КПБ):

«Я стопрацэнтна падтрымліваю народнага дэпутата Пазьняка і прапаную тут жа, зараз жа прагаласаваць за тое, што ён сказаў (Воплескі)».

Дзьмітры Булахаў папярэджвае, што «мы парушаем Канстытуцыю рэспублікі», але ля мікрафона — старшыня Віцебскага аблвыканкаму Уладзімер Кулакоў:

«Я прасіў бы таксама падтрымаць пытаньне, каб мы прынялі гэтае рашэньне, таму што, сапраўды, становішча ў эканоміцы сёньня такое, што калі нам цяпер не абараніць эканамічна і палітычна рэспубліку, будзе хаос і рэспубліка пойдзе да эканамічнага краху. Таму трэба падтрымаць».

Прэм’ер-міністар Вячаслаў Кебіч: «Я толькі што меў размову зь вельмі высокапастаўленымі кіраўнікамі Расеі. І мушу заклікаць вас пасьля гэтай размовы менавіта прыняць такі закон, таму што абстаноўка падпісаньня саюзнай дамовы вельмі зьмянілася. Наўрад ці такое падпісаньне ў найбліжэйшым часе ўвогуле адбудзецца. Таму я таксама заклікаю вас знайсьці такую форму, каб

нам не парушаць Канстытуцыю. Але такі закон трэба сёньня прыняць (Воплескі.)

Міхаіл Жэбрак, былы першы сакратар Ваўкавыскага райкаму кампартыі: «Я да ўчорашняга дня стаяў за абноўлены Саюзны дагавор. Але пасьля ўчорашняга дня, тое, што адбылося на Украіне, мяне прымушае зрабіць заяву пра тое, што калі мы сёньня ня прымем такі закон, тое, што прапануе Зянон Станіслававіч Пазьняк, дык трэба тады прымаць рашэньне аб уваходзе Заходняга краю ў склад Расейскай Фэдэрацыі. Іншага выйсьця няма. І Беларусь ня будзе існаваць, таму што тады Беларусі абсалютна ня будзе. Я ў гэтым перакананы і прашу падтрымаць і прыняць такі закон. Давайце ставіць на галасаваньне».

Ідзе галасаваньне: паэтапна, за прыняцьце «за аснову» («за» — 249 галасоў), за ўдакладненьне назвы («Аб наданьні статусу канстытуцыйнага закону Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларускай ССР» («за» — 252 галасы), закон прымаецца ў першым чытаньні («за» — 253). З кожным разам колькасьць прыхільнікаў павялічваецца. Затым галасуюцца некаторыя асобныя пункты, і нарэшце — закон цалкам. «За « — 256 дэпутатаў. Супраць — 0, устрымалася — 0.

На гадзіньніку — 20.12.

Станіслаў Шушкевіч віншуе жыхароў Беларусі.

Далей прымаем неабходныя зьмены ў 72-і артыкул Канстытуцыі і прапанову Саўміну аб перадачы ў падпарадкаваньне Беларусі органаў пракуратуры, МУС, КДБ і ўсёй маёмасьці, якая знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі.

У гэты вечар Беларусь робіцца незалежнай дзяржавай.

Перамога!!!

Мы выйшлі на плошчу, да тысяч людзей, якія віталі нас воплескамі. Пазьняк узьняўся на імправізаваную трыбуну — грузавік з гукаўзмацняльнай апаратурай. На жаль, у аўдыёзапісе, які ў мяне ёсьць, няма пачатку выступу — там лідэр БНФ папярэдзіў, што ня варта недаацэньваць тых, хто яшчэ некалькі дзён таму падтрымаў праімпэрскі путч:

«Яны зьвядуць да таго, што ўсе гэтыя заваёвы ня будуць выконвацца. Таму трэба іх прымушаць. І гэта — толькі першы крок. Толькі першы крок, але наступны крок, якім мы выйдзем — гэта з узьнятымі сьцягамі аптымістычна, зь песьнямі, з патрабаваньнямі, на законнай аснове, не баючыся, нікога не зьневажаючы, а як свабодныя людзі, спраўджваючы тое, што дасягнуў наш Вярхоўны Савет супроць КПБ, якая яшчэ існуе і многа можа нарабіць шкоды. Мы зараз законна будзем змагацца з гэтай гідрай, і ў гэтым сэнсе вельмі важна нам гэта зразумець.

Калі такая падтрымка будзе — то я ўпэўнены: Беларусь будзе і свабоднай, і незалежнай, і некамуністычнай. І — дэмакратычнай. І вельмі заможнай. І вельмі хутка. Вельмі хутка! Калі мы толькі пяройдзем да рэформаў, калі мы вырашым пытаньні зь зямлёй, з уласнасьцю, з усімі нашымі сродкамі — вельмі хутка будзе вынік. Вельмі хутка будзе вынік! Ёсьць разьлікі, элемэнтарна мы тады праз год адчуем паляпшэньне.

Праз тры гады мы ўжо будзем добра стаяць на нагах. А разьлікі ўсе паказваюць — пры добрай хадзе спраў за восем гадоў мы можам стаць на ўзровень Фінляндыі, на ўзровень дастаткова заможнай эўрапейскай краіны. Гэта пры ідэальным

варыянце. Чым меншая краіна — тым хутчэй ідзе абарачэньне. Скажам, для Ўкраіны такі разьлік — 15-25 гадоў. Для Савецкага Саюзу, калі б ён пачаў тыя рэформы — 50 гадоў, таму што краіна велізарная… У нас Беларусь — 10 мільёнаў, кампактная тэрыторыя, найвыдатнейшае геапалітычнае становішча, найвыдатнейшае. Усе шляхі, і паветраныя — усе ідуць праз нас.

Атрымаўшы незалежнасьць, мы можам выкарыстоўваць гэта вельмі эфэктыўна, калі мы выкарыстаем і нашую электроніку, нашыя розумы, нашыя мазгі, калі мы будзем любіць нашую Бацькаўшчыну моцна, то ў нас ёсьць усе магчымасьці стаць свабодным, шчасьлівым, заможным народам. І нас будуць паважаць, шанаваць. І тады жыцьцё наша будзе радасным. А жыць добра — гэта самая найвялікшая каштоўнасьць. Проста мы даўно не жылі, мы не жылі яшчэ пры свабодзе. Мы яшчэ добра не ўсьведамляем, што гэта такое. І вось — пачынаецца раніца. Дык давайце ж памятаць аб тым, што ад нас будзе залежаць, як будзе доўжыцца наш сьветлы дзень! Жыве Беларусь!»

А потым Пётра Садоўскі падняўся на грузавік і засьпяваў купалаўскія «Тры дарожанькі...» — засьпяваў так, што голас разьлёгся далёка за плошчай. І толькі тыя, хто стаяў побач, бачылі ў яго на вачах сьлёзы...

... У той дзень адбылася яшчэ адна падзея, сымбалічнасьць якой я ўсьвядоміў пазьней. Мужчына сталага веку прынёс на плошчу Трэцюю Ўстаўную грамату БНР, я трымаў яе ў руках. Тое, пра што марылі ў сакавіку 1918-га — ажыцьцявілася ў жніўні 1991-га.

# Смак перамогі, альбо Як Славу КПСС хавалі

У адзін з жніВеньскіх дзён 1991-га былы першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў, які толькі што вярнуўся з адпачынку ў Менск, выклікаў замацаваную за ім «волгу», каб прыехаць у ЦК (гісторыя не ўдакладняе, зь якой мэтай, магчыма, заплаціць партыйныя ўзносы). Аўтамабіль спыніўся на пляцоўцы перад цэнтральным уваходам. Сакалоў выйшаў і — апынуўся перад труной.

Труна была зачыненая, там, дзе павінны былі быць ногі нябожчыка, прымацаваная зорка, а побач шыльда зь імем нябожчыка — «Слава КПСС», датамі нараджэньня і сьмерці — «1917-1991» (не зусім дакладна супадае з годам заснаваньня РСДРП-ВКП(б)-КПСС, але будзем лічыць, што мэтрыка згубілася). Прычым дзьве апошнія літары былі напісаныя стылізаванай лацінкай — гэтак, як пры Гітлеры абазначалі СС. Былі і жалобныя вянкі: «Сацыялістычны выбар». «Розум, гонар і сумленьне нашай эпохі»…

Тры гады да таго кіраўнік кампартыі Беларусі (і ўсёй Беларусі) ня мог і ўявіць сабе такога фіналу. Сярод людзей, што сабраліся на пляцоўцы, былі і тыя, каго на Дзяды 1988-га патруцілі «чаромхай», каго абражалі падпарадкаваныя Сакалову газэты, каго прыціскалі на працы, бо першы сакратар ЦК называў сябраў Народнага Фронту не інакш як «дэструктыўнымі элемэнтамі» і «экстрэмістамі» — але ніхто зь іх і пальцам не крануў Сакалова. Легенда кажа, што Яфрэм Яўсеевіч абышоў труну, пахітаў галавой, сеў у машыну і вярнуўся дахаты.




Шэсьце да будынку ЦК КПБ.

Тая труна была прынесеная да будынку ЦК з плошчы Леніна, ад Дому ўраду, і пранесеная праз увесь Ленінскі праспэкт — натуральна, без усякай санкцыі ўладаў. Мы зь Зянонам Пазьняком, Сяргеем Антончыкам ды Лявонам Баршчэўскім прыехалі да ЦК, калі там ужо ішоў мітынг.

Потым некаторыя казалі, што занадта непрыгожа зрабілі ініцыятары таго «пахаваньня». Думаю, непрыгожа было б іншае — калі б людзі фізычна распраўіліся з партыйнымі работнікамі (напрыклад, павесілі іх на слупах), спалілі б той ЦК, абкамы і райкамы. Аднак разьвітаньне з камунізмам увасобілася ў гумарыстычную, тэатралізаваную, карнавальную форму. Гэтае пахавальнае

шэсьце ні дэпутаты Апазыцыі БНФ, ні Сойм Народнага Фронту не арганізоўвалі — яно было народнай ініцыятывай. Філёзаф Міхаіл Бахцін пісаў пра карнавал як пра відовішчную частку культуры Рэнэсансу, які мае яшчэ адзін назоў — Адраджэньне. У Менску тыя найбольш узьнёслыя дні нацыянальнага Адраджэньня супалі з карнаваламі. Людзі хавалі «Славу КПСС», сьмяяліся зь мінулага — і верылі, што з адыходам камунізму надыдзе лепшы час.

Што праўда, гаворачы пра карнавал як форму неафіцыйнага жыцьця без бар'ераў і герархій, Бахцін адзначаў яе кароткатэрміновасьць, а адчуваньне свабоды называў «утапічным». І ўсё ж, адчуваньне свабоды ў тыя дні было надзвычайным, бо накладалася на пачуцьцё перамогі...

Між іншым, засталіся і матэрыяльныя сьведчаньні тых падзеяў: нехта ўсё ж адкалоў кавалак граніту ад будынку ЦК, і Лявон Баршчэўскі зь Пётрам Садоўскім падаравалі сувэнір (альбо — трафэй?) Уладзімеру Арлову на ягоны дзень народзінаў — якраз 25 жніўня 1991 году.

У жніўні 2011-га, калі адзначалася 20-годзьдзе незалежнасьці, я прачытаў нататку маладога ўдзельніка падзеяў тых жнівеньскіх дзён Міколы Пачкаева пра ягоныя адчуваньні пасьля паразы хунты: «Стала ясна, што савецкай сыстэме і сапраўды канец, ды што й СССР, пасьля такога, пэўна ня жыць: а значыць, расчыніліся такія гарызонты будучыні, якія раней цяжка было сабе ўявіць і тады яшчэ было цяжка ўсьвядоміць. Агулам, такога надзвычайнага абсалютнага смаку перамогі, як тады, ніколі пасьля не даводзілася адчуць у жыцьці. А ён быў завостраны і раптоўнай палёгкай: адбылася поўная, татальная перамога, рэванш во-




Каля будынку ЦК КПБ

рага ўжо немагчымы, а значыць, у гэтай барацьбе ўжо не загінеш, ня будзеш скалечаны, і нават не патрапіш пад рэпрэсіі... І нават ня выключаць «за ўдзел» з унівэрсытэту! Усё, што адбывалася навокал — адчувалася так, як быццам стаўся сьведкам цуду».

Так піша чалавек, які, здаецца, яшчэ не пасьпеў адчуць увесь «асартымэнт» жыцьця пры камуністычнай уладзе. Але тут усё супадае з маімі асабістымі адчуваньнямі: і перамога, і палёгка...

Мы ў Апазыцыі БНФ, аднак, былі далёкія ад эўфарыі і разумелі, што так проста камунізм не адыдзе. Яшчэ ў першы дзень надзвычайнай сэсіі, калі дзейнасьць кампартыі не была прыпыненая, я

запатрабаваў апячатаць будынкі ЦК і КДБ (дзяржбясьпека лічылася «баявым атрадам партыі»). Тое самае прапаноўвалі і іншыя дэпутаты Апазыцыі БНФ і Дэмклюбу. Мэр Менску Герасіменка прыняў рашэньне пра апячатаньне гаркаму і райкамаў у Менску; актывісты Народнага Фронту разам зь міліцыяй зрабілі гэта за пару гадзінаў.

На другі дзень, 26 жніўня, разам зь Сяргеем Антончыкам і Валянцінам Голубевым мы прыехалі да будынку ЦК. На плошчы людзей было меней, але нам адразу сказалі, што ў будынак заходзяць супрацоўнікі ЦК, нібыта дзейнасьць кампартыі і не прыпынялася.

Мы пайшлі ў цэнтральны ўваход — дзяжурны афіцэр спачатку не хацеў нас пускаць. Ня дзейнічалі нават словы Голубева, што як народныя дэпутаты БССР мы маем доступ ва ўсе дзяржаўныя ўстановы і будынкі на тэрыторыі Беларусі. Пэўна, міліцыянт працаваў тут здаўна і прызвычаіўся, што праходзілі ў гэтыя сьцены не паводле закону, а па партыйных загадах. Пачаў званіць начальству, там сказалі — прапусьціць. Здаецца, ён і паказаў, як прасьцей дабрацца да кабінэту першага сакратара — налева, на ліфце на пяты паверх (гэты кабінэт потым зоймуць, пасьлядоўна, Шушкевіч, Грыб і Лукашэнка).

Пра тое, што адбывалася пазьней, лепш сьведчыць артыкул, напісаны ў той самы дзень і надрукаваны ў канцы жніўня ў газэце «Знамя юности» — здаецца, ён няблага перадае атмасфэру тых дзён:

«Як жа гэта так, таварышы дарагія? З учорашняга дня дзейнасьць вашай партыі прыпыненая, а тут...

Гэта альбо прыблізна гэта вымавілі мы ў адзін голас, калі а 17-ай 26 жніўня ўвайшлі ў кабінэт першага сакратара ЦК КПБ. Мы — гэта народныя дэпутаты БССР Валянцін Голубеў, Сяргей Антончык і аўтар гэтых радкоў, якія вырашылі праверыць, як выконваецца пастанова Вярхоўнага Савету БССР аб часовым прыпыненьні дзейнасьці КПБ — КПСС на тэрыторыі Беларусі. Заўважу, што візыт наш зусім ня быў капрызам — у абавязкі дэпутатаў уваходзіць праверка прынятых імі самімі рашэньняў.

За доўгім сталом — 1-шы сакратар ЦК А. Малафееў, сакратар ЦК А. Зеляноўскі, загадчык ідэалягічным аддзелам А. Савосьценка і работнік ЦК А. Кухарчук. У руках у кожнага — старонкі машынапісу. Ствараецца зварот да камуністаў — нешта накшталт таго, што партыя чыстая, створаная парлямэнтам камісія разьбярэцца, сыдзе хваля антыкамуністычнай гістэрыі, і...

Разгубленасьць удзельнікаў нарады саступае месца абурэньню: ды як вы асьмеліліся?!

Ды вось — асьмеліліся. Яшчэ зусім нядаўна гэты кабінэт уяўляў сабой сьвятыню сьвятыняў — не, ня партыі нават, а ўсёй дзяржаўнай структуры. Тут сыходзілася ў сваёй вяршыні піраміда ўлады, тут каралі і даравалі, і нешматлікія, вельмі нешматлікія маглі ўвайсьці ў гэтыя сьцены, не адчуўшы трымценьня ў каленях. І ўжо безумоўна — запрошаных сюды, акрамя традыцыйнага пачуцьця «глыбокага задавальненьня», ахоплівала і ўсьведамленьне асаблівай абранасьці.

«Ніхто не пазбаўляў нас права зьбірацца!» — перакананы Анатоль Малафееў, і ў гэтым ён мае рацыю, як гаворыцца, на ўсе сто. Для гэтага ёсьць вуліца, сквэр насупраць, урэшце, кватэра. Але



Супрацоўнікі ЦК КПБ выходзяць з будынку.

ўжо з 20 гадзінаў учорашняга дня, калі завяршылася сэсія, усялякая дзейнасьць у будынку мусіла спыніцца. Чыста па-чалавечы я дапускаю, што супрацоўнікі апарату маглі б з раніцы зайсьці на пяць хвілінак і забраць асабістыя рэчы — але ня больш за тое. На жаль, мы бачылі парушэньне закону: партыя ўсё яшчэ дзейнічала.

Праўда, да 17-й гадзіны ўжо быў адключаны тэлефон ВЧ, які зьвязваў Малафеева з Гарбачовым, партрэт якога вісіць насупраць вокнаў (цікава, ці здымалі яго ў дні дзейнасьці ГКЧП?) . Але так званая «тройка» (спэцыяльная сувязь найвышэйшых кіраўнікоў рэспублікі і абласьцей) працавала

спраўна. Сяргей Антончык заўважае пад сталом першага сакратара загадкавую скрыню.

«Праслухоўвальная апаратура?» — «Ды Вы што!» — абураецца гаспадар кабінэту, проста апарат для сьмецьця.

Прынцып працы гэтага прыстасаваньня быў тут жа прадэманстраваны нам самім Анатолем Аляксандравічам: апускаецца ў вузкую шчыліну аркуш паперы, апарат уключаецца — і папера ператвараецца ў дробную крошку. Ці не праз такія апараты і перамалолі тоны дакумэнтацыі ў адным з расейскіх абкамаў, пра што распавяло тэлебачаньне?

Трэба заўважыць, што гэтым вечарам ажыўленьне назіралася ня толькі ў кабінэце першага сакратара, але і ў іншых шматлікіх кабінэтах гэтага вялізнага будынку. Апячатаныя былі толькі архіў, службы сувязі, сакрэтны (ад каго — ад народу?) аддзел — у адрозьненьне ад комплексу будынкаў ЦК КПСС у Маскве, уваход у які, як вядома, для супрацоўнікаў апарату зачынены.

Словам, мы бачылі парушэньне закону: партыя ўсё яшчэ дзейнічала, бо баявы штаб працягваў выпрацоўваць рашэньні...

Пра што адразу ж па вяртаньні з ЦК я і давёў да ведама пракурора БССР Тарнаўскага.

Але самае дзіўнае чакала нас на другі дзень: намесьніца міністра юстыцыі БССР Падгруша разаслала па Саветах народных дэпутатаў тлумачальную запіску, у якой рэглямэнтуецца мэханізм прыпыненьня дзейнасьці партыі. У адпаведнасьці з гэтым тлумачэньнем, адказным супрацоўнікам партыйных камітэтаў забаронена займацца функцыянальнай дзейнасьцю, але прыходзіць у свае працоўныя кабінэты — дазваляецца.

Ня думаю, каб работнікі абмяжоўваліся там расьпіцьцём гарбаты».

Такі вось артыкул быў надрукаваны ў апошнія дні жніўня. А значна пазьней мы даведаліся, што ў тым самым будынку ЦК у першы дзень пасьля путчу палілі архівы і нават нанялі для гэтага качагара.

Нам удалося дамагчыся спыніць дзейнасьць КПБ-КПСС, але што было рабіць з былымі камуністамі?

Па сутнасьці, улада — і ў Вярхоўным Савеце, і ў Савеце міністраў, і ў абл— і райвыканкамах — заставалася ў тых, хто меў партбілеты, і яны не зьбіраліся дзяліцца ёю з Народным Фронтам. Так, мы заявілі, што неабходна правесьці выбары ў новы Вярхоўны Савет (новая краіна — новы парлямэнт), але пры гэтым трэба было скарыстаць шанец для ўмацаваньня дзяржаўнасьці. Дзеля гэтага варта было аб'яднаць як мага большую колькасьць людзей — у тым ліку і ў дзяржаўным апараце. У тым ліку і тых, хто яшчэ ўчора меў партбілеты з профілем Леніна. (Агаваруся: мы разумелі, што найлепшым варыянтам была б люстрацыя — але, у адрозьненьне ад Чэхаславаччыны, мы ня мелі магчымасьці яе правесьці. На люстрацыю саміх сябе большасьць дэпутатаў Вярхоўнага Савету не пагадзілася б.)

Адразу пасьля надзвычайнай сэсіі мы прынялі адмысловую заяву.

«Тры гады ад пачатку руху Народнага Фронту мы мэтанакіравана ішлі да свабоды і сувэрэнітэту. І вось за тры дні ганебна развалілася бальшавіцкая імпэрыя КПСС. Няма больш чырвонага монстра, і адыходзіць у нябыт камуністычны кашмар.




Сапраўдная пераможца.

Наперадзе вялікая праца па замацаваньні нашай свабоды і незалежнасьці, па будаўніцтве вольнай Беларусі. Заклікаем усіх людзей рэспублікі да стваральных дзеяньняў. Падтрымлівайце законы і пастановы, прынятыя на пятай надзвычайнай сэсіі Вярхоўнага Савету БССР. Падтрымлівайце дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, стварайце суполкі Народнага Фронту, змагайцеся за волю і дэмакратыю.

Трэба неадкладна ажыцьцявіць дэпартызацыю нашага працоўнага жыцьця. Закрывайце, распускайце, выводзьце парткамы і партыйныя арганізацыі злачыннай КПБ-КПСС і ЛКСМБ. Дапамагайце органам улады апячатваць і ахоўваць будынкі, архівы, гаражы — усю нарабаваную маёмасьць КПБ-КПСС і ЛКСМБ, бо гэта ўласнасьць народу, ажыцьцяўляйце грамадзкі кантроль за ходам

дэпартызацыі, апячатваньня і аховы маёмасьці, закрыцьця банкаўскіх рахункаў, стварайце дзеля гэтага грамадзкія пікеты і патрулі.

Усе сумленныя людзі, што тым або іншым шляхам апынуліся ў КПБ-КПСС і ЛКСМБ, — пакідайце гэтыя антынародныя арганізацыі, выходзьце зь іх — вы свабодныя. Уключайцеся ў дэмакратычны працэс, у рух адраджэньня вольнай сувэрэннай Беларусі. У нашай культурнай, памяркоўнай, дэмакратычнай Бацькаўшчыне ніхто не павінен і ня будзе перасьледаваць чалавека толькі за членства ў камуністычнай партыі ці камсамоле.

Што гэта так — пацьвярджае палітыка Беларускага Народнага Фронту за ўсе гады змаганьня. Дарога ў народны рух заўсёды адчыненая. Набліжайма ж нашу вольную будучыню, абаронім яе, адбудуем і засьцеражом. Жыве Беларусь!

Народныя дэпутаты апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце БССР: З. Пазьняк, Г. Сямдзянава, С. Навумчык, А. Трусаў, І. Гермянчук, В. Галубовіч, Ю. Беленькі, У. Станкевіч, Б. Гюнтэр, А. Сасноў, Я. Новікаў, У. Заблоцкі, С. Слабчанка, В. Зяленін, У. Новік, В. Голубеў». (Надрукавана на першай паласе «Народнай газеты» 31 жніўня 1991 г.)

Падаю тэкст гэтага звароту цалкам, бо пазьней пачаліся (і не спыняюцца дасюль) спэкуляцыі наконт таго, што нібыта Пазьняк і іншыя лідэры БНФ заклікалі да расправы над камуністамі (ажно да іх вешаньня). Вячаслаў Кебіч нават заявіў аднойчы, што «бачыў такое кіно». Бясспрэчна, што калі б такое кіно існавала — яго б ужо дзясяткі разоў пракруцілі па БТ — і пры Кебічу, і пры Лукашэнку.

Якраз наадварот — быў заклік да камуністаў далучацца да сумеснай стваральнай працы. І зьмясьцілі яго на першай паласе парлямэнцкай газэты.

Вось толькі ня ўсе былыя камуністы прыслухаліся да гэтага закліку.

Другі папрок, які раз-пораз гучыць ужо з дыямэтральна супрацьлеглага боку — што ў жнівеньскія дні 1991-га мы (гэта значыць, дэпутаты Апазыцыі БНФ) не «далі каманду» «разграміць» будынак ЦК і ўзяць камуністаў «цёпленькімі».

Тут заўважу, што яшчэ ў часе сэсіі (здаецца, 24 жніўня) Юры Хадыка, які вёў мітынг на плошчы перад урадам, перадаў у Авальную залю запіску, што людзі на плошчы заклікаюць ісьці да будынку ЦК і браць яго ў аблогу (ці нават пачаць штурм — дакладна цяпер ня памятаю). Тады такую прапанову мы расцанілі як глупства, але сёньня, калі пішу гэтыя радкі, я ўспрымаю гэта як вельмі небясьпечную правакацыю, якая магла дорага каштаваць лёсу беларускай дзяржаўнасьці.

Чаму?

Бо дакладна ведаю, *што* ў выпадку штурму будынку ЦК адбылося б Авальнай залі.

Даведаўшыся пра штурм (ці аблогу) ЦК, 30-40 дэпутатаў Вярхоўнага Савету — сакратароў абкамаў і райкамаў — паўскоквалі б з крэслаў і зьбеглі б з Авальнай залі, каб як найхутчэй дабрацца да сваіх партыйных кабінэтаў і ўратаваць тое, што яшчэ можна ўратаваць. Нам не хапіла б галасоў для наданьня Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы.

Мы проста ня здолелі б 25 жніўня 1991 году абвясьціць незалежнасьць, і гэта для мяне самы галоўны аргумэнт у слушнасьці абранай намі тактыкі.

...На другі дзень пасьля абвяшчэньня незалежнасьці мы ўбачылі рэакцыю «надзеі і абаронцы расейскай дэмакратыі» (як пісала пра яго ў тыя дні прэса) Барыса Ельцына на памкненьне савецкіх народаў да незалежнасьці

26 жніўня прэсавы сакратар Барыса Ельцына Павал Вашчанаў выступіў з заявай, якая не пакідала ніякіх двухсэнсоўнасьцяў адносна стаўленьня «дэмакратычнай Расеі» да ідэі незалежнасьці былых савецкіх рэспублік:

«У апошнія дні ў шэрагу саюзных рэспублік абвешчаная дзяржаўная незалежнасьць, заяўлена аб выхадзе з Саюзу ССР. Магчымыя і іншыя рашэньні, якія істотна зьмяняюць балянс адносінаў у рамках адзінай фэдэрацыі. У сувязі з гэтым я ўпаўнаважаны прэзыдэнтам РСФСР зрабіць наступную заяву. Расейская Фэдэрацыя ня ставіць пад сумнеў канстытуцыйнае права кожнай дзяржавы і народу на самавызначэньне. Аднак існуе праблема межаў, неўрэгуляванасьць якой магчымая і дапушчальная толькі пры наяўнасьці замацаваных адпаведнай дамовай саюзьніцкіх адносінаў. У выпадку іх спыненьня РСФСР пакідае за сабой права паставіць пытаньне аб пераглядзе межаў. Сказанае мае дачыненьне да ўсіх сумежных рэспублік, за выключэньнем трох прыбалтыйскіх (Латвійскай, Літоўскай, Эстонскай), дзяржаўная незалежнасьць якіх ужо прызнаная Расеяй, чым пацьверджаная вырашанасьць тэрытарыяльнай праблемы ў двухбаковых адносінах».

Прэсавы сакратар патлумачыў, што маюцца на ўвазе найперш Украіна і Казахстан. Якія рэспублікі меў на ўвазе Крэмль? З Расеяй, акрамя рэспублік Балтыі, межавалі толькі Азербайджан, Беларусь, Грузія, Казахстан і Ўкраіна. Грузія заявіла

пра незалежнасьць яшчэ ў красавіку, Азербайджан заявіць 30 жніўня, Казахстан — толькі 16 сьнежня. Балтыйскія рэспублікі прэсавы сакратар выключыў, застаюцца дзьве: Беларусь і Ўкраіна. Мы мелі поўнае права прыняць заяву на свой адрас. Але калі крамлёўцы і ня мелі на ўвазе Беларусь — імпэрскія амбіцыі былі выяўлены празрыста.

«Зрэшты, на другі дзень, 27-га, Ельцын сам зрабіў гэткую заяву, прычым двойчы: на сустрэчы з Гарбачовым, Назарбаевым і Акаевым і на асобнай сустрэчы з Назарбаевым. Пазыцыя расейскага прэзыдэнта: пытаньне пра перагляд межаў будзе ставіцца толькі ў дачыненьні да тых рэспублік, якія выходзяць са складу СССР... Маскоўскі мэр Гаўрыіл Папоў у сваім тэлевыступе 27 жніўня прапанаваў адчляніць ад Украіны на карысьць Расеі акрамя Крыму і Левабярэжжа яшчэ і Адэскую вобласьць з Прыднястроўем» (Олег Мороз, «Так кто же развалил Союз?», Москва, 2011).

Болей тэрытарыяльных прэтэнзіяў Ельцын у тыя дні не заяўляў, але за захаваньне «саюзу» выказаўся адназначна.

«Ідэя Саюзу сябе ня вычарпала, — заявіў Ельцын 29 жніўня на расейскім радыё. — Нас не павінна пужаць абвяшчэньне шэрагам рэспублік сваёй незалежнасьці. У Саюз будуць аб’ядноўвацца паўнавартасныя дзяржавы, а ня прывіды. Толькі тады яны атрымаюць магчымасьць сапраўды дэлегаваць ў Саюз шэраг сваіх функцыяў. Рэспублікі самі створаць новы Цэнтар, органы кіраваньня па важнейшых накірунках, каардынацыі эканамічнай рэформы, узброеныя сілы, ядзерны патэнцыял і іншыя... Павінны існаваць адзіныя Ўзброеныя сілы Саюзу».

**2 верасьня. ЗША прызнаюць незалежнасьць Латвіі, Літвы і Эстоніі.**

**3 верасьня. Польшча прызнае незалежнасьць Беларусі.**

**5 верасьня. Менскі гарсавет прымае пастанову пра неабходнасьць вяртаньня беларускай сталіцы гістарычнай назвы «Менск» і вызначае, што ў сталіцы нароўні зь дзяржаўным сьцягам БССР выкарыстоўваецца нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг.**

**6 верасьня. Зьезд народных дэпутатаў СССР прызнае незалежнасьць Латвіі, Літвы і Эстоніі.**

**9 верасьня. Таджыкістан абвяшчае незалежнасьць.**

**15 верасьня. Распачынаецца нечарговая сэсія Вярхоўнага Савету. На патрабаваньне Апазыцыі БНФ у парадак дня ўключанае пытаньне пра новую сымболіку. У фае Дому ўраду для дэпутатаў зробленая выстава, прысьвечаная нацыянальным гістарычным сымбалям.**

**18 верасьня. Станіслаў Шушкевіч абраны старшынём Вярхоўнага Савету БССР.**

**19 верасьня. Вярхоўны Савет зацьвярджае бел-чырвона-белы сьцяг і герб «Пагоня» у якасьці дзяржаўных сымбаляў, а таксама новую назву краіны — Рэспубліка Беларусь.**

**23 верасьня. Арменія абвяшчае незалежнасьць.**

# Апошнія спробы ўратаваць «саюз»

У першыя тыдні пасьля абвяшчэньня незалежнасьці ў друку прайшлі дыскусіі, якія даволі выразна адлюстравалі пазыцыі як прыхільнікаў стварэньня самастойнай дзяржавы, так і апанэнтаў гэтай ідэі. У іх — ня толькі палітычныя пазыцыі і меркаваньні аўтараў, але і атмасфэра той восені 1991-га.

Эпоха, нагадаю, была «даінтэрнэтная», газэтаў тых у сеціве няма, таму я палічыў мэтазгодным падаць даволі даўгія цытаты — зь мінімальнымі камэнтарамі.

Пад канец жніўня ў «Знамени юности» адбылася дыскусія паміж Сямёнам Букчыным і Віталём Цыганковым. Букчын быў незадаволены, што «незалежнасьць Рэспублікі мы атрымалі з потных рук партакратычнай большасьці ў Вярхоўным Савеце» (а іншай дэпутацкай большасьці не было; дзякуй Богу, што нам удалося яе напалохаць і прымусіць прагаласаваць так, як трэба). Віталь Цыганкоў адказаў, што «сама ідэя сувэрэнітэту не вінаватая ў тым, што да яе прысмакталася розная камуністычная шваль».

6 верасьня «Народная газета» надрукавала артыкул Васіля Быкава «Народны лідэр». Ён быў цалкам прысьвечаны аднаму чалавеку — Зянону Пазьняку.

У краінах Усходняй Эўропы да ўлады прыйшлі апанэнты камуністаў — у Беларусі адбылося інакш. Быкаў быў перакананы, што такое становішча трэ-

ба зьмяніць і кіраваць новай краінай павінен той, хто найбольш для гэтага здатны. Наўрад ці Быкаў лічыў рэальным, што Пазьняк зойме месца, якое пасьля адстаўкі Дзямянцея было ў тыя дні вакантным — старшыні Вярхоўнага Савету. На гэта парлямэнцкая большасьць не пагадзілася б. Але Быкаў лічыў неабходным менавіта цяпер, калі Беларусь дамаглася незалежнасьці, нагадаць пра асноўныя этапы дзейнасьці Народнага Фронту і яго лідэра ды вызначыць прыярытэты для грамадзтва.

«Трэба спадзявацца, народу Беларусі калі-небудзь стане вядомы ўвесь грандыёзны комплекс высілкаў, якія зрабіў БНФ для ажыцьцяўленьня галоўнай нацыянальнай ідэі — сувэрэнітэту Беларусі. Цяпер некаторыя зь нядаўніх праціўнікаў незалежнасьці спрабуюць прыпісаць сабе найбольшыя ў тым заслугі. Увогуле, гэта магчыма зрабіць, калі ўлічыць усю складанасьць абставінаў замоўчваньня і паўлегальнасьці, у якіх доўгі час працаваў БНФ.

Калі ж сувэрэнітэт Беларусі фармальна зьдзейсьніўся, галоўны акцэнт кіраўніцтва БНФ, безумоўна, пераносіцца на канструктыўную працу па яго фактычным ажыцьцяўленьні... — пісаў Васіль Быкаў і завяршаў свой артыкул такімі словамі: «Апостал народнае праўды заўжды апярэджвае свой час. Як сапраўдны беларус і палітык Зянон Пазьняк цярпліва марыць пра росквіт нацыянальнай культуры, пагарджанай беларускай мовы. Але ён ведае, што той росквіт настане толькі пры адной-адзінай умове: поўнай незалежнасьці Беларусі, калі яна на справе стане сувэрэннай дзяржавай, роўнай у суполцы эўрапейскіх народаў. Здаецца, такі час набліжаецца. І ў тым, што ён стаў нарэшце магчымым, адна з найпершых заслуг на-

лежыць прызнанаму лідэру нацыі, вернаму сыну Беларусі Зянону Пазьняку».

Быкаў ясна і недвухсэнсоўна выказаў уласнае стаўленьне да праблемы лідэрства, якая ў часы гістарычных катаклізмаў набывае найбольшую вастрыню. Ён называў БНФ авангардам нацыянальнага руху, а яго кіраўніку аддаваў права быць нацыянальным лідэрам.

І ў іншых сваіх публікацыях і інтэрвію пачатку 1990-х Быкаў (між іншым, член Сойму БНФ зь першага дня яго ўтварэньня), не адкідваючы прынцыпу шматпартыйнасьці, заклікаў (менавіта так — заклікаў!) усе дэмакратычныя сілы аб’яднацца вакол БНФ і яго лідэра. І тое, я перакананы, было цалкам слушна. І ў сэнсе стратэгічным — бо толькі БНФ і яго дэпутацкая фракцыя мелі цэласную канцэпцыю нацыянальнага Адраджэньня і стварэньня сувэрэннай дзяржавы (у Саўміну, нягледзячы на вялізны апарат, не было нічога). Правільна гэта было і з тактычных меркаваньняў — у часе, калі дарагі быў кожны дзень, калі грамадзянская супольнасьць толькі пачынала фармавацца, недаравальнай раскошай выглядала раздрабленьне сілаў.

Тыя восеньскія дні былі адметныя жорсткім супрацьстаяньнем прыхільнікаў поўнай незалежнасьці Беларусі і тых, хто выступаў за захаваньне Саюзу у, як тады казалі, «абноўленай форме».

З 25 жніўня 1991-га Беларусь дэ-юрэ была незалежнай дзяржавай — такой, як Францыя, ЗША ці Польшча. Або як Літва, Латвія, Эстонія. Але калі Літву, Латвію і Эстонію прызналі тыя самыя ЗША і Францыя (увогуле, Захад ніколі і не прызнаваў анэксіі краінаў Балтыі), дык Беларусь успрымалася як частка Савецкага Саюзу. Той Саюз меў свай-

го прэзыдэнта, свой урад, войска, спэцслужбы, фінансавую сыстэму... І прэзыдэнт, і ўрад імкліва страчвалі ўладу (яшчэ большымі тэмпамі дэвальваваўся рубель), аднак Захад упарта не хацеў прызнаваць незалежнасьці постсавецкіх рэспублік (у тым ліку Беларусі) і падтрымліваў Гарбачова ў ягоных спробах захаваць імпэрыю ў розных формах (найперш таму, што баяўся за лёс гіганцкага ядзернага патэнцыялу). Гарбачоў зьбіраў кіраўнікоў рэспублік ва ўрадавай рэзыдэнцыі ў Нова-Агарове; тыя абмеркаваньні ўсё новых праектаў «саюзных дамоваў» атрымалі назоў «новаагароўскага працэсу», і Станіслаў Шушкевіч актыўна ў ім удзельнічаў.

Нашая ж пазыцыя была выразна акрэсьленая: ніякіх «саюзаў», толькі поўная незалежнасьць з усімі атрыбутамі дзяржавы — сваёй грашовай сыстэмай, уласным войскам, памежнай службай, самастойнай зьнешняй палітыкай.

Ведаючы на ўласным досьведзе, як важна бывае імгненна скарыстаць шанец (так, як гэта ўдалося 24-25 жніўня), мы і цяпер імкнуліся ня страціць унікальных магчымасьцяў. Мы бачылі, што яны з кожным днём звужаюцца, што расейскае кіраўніцтва (Ельцын) падграбае пад сябе так званую «саюзную маёмасьць». Аднак у нас, дэпутатаў Апазыцыі БНФ, не было тых магчымасьцяў, якімі валодалі Шушкевіч і Кебіч.

БНФ патрабаваў поўнай незалежнасьці. Але былі і іншыя меркаваньні.

Праз некалькі дзён пасьля прыгаданага артыкулу Васіля Быкава, 11 верасьня, у той самай «Народнай газеце» сваю пазыцыю выказаў Анатоль Майсеня. Тады ён быў аглядальнікам «Народнай газеты». Упершыню гэтае імя я пачуў у 1987 го-

дзе, калі Майсеня ў «Советской Белоруссии» пачаў друкаваць артыкулы з крытыкай ініцыятараў першых «Дзядоў».

(У БНФ мы добра ведалі Анатолеву сястру, Людмілу, якую асабіста я лічу надзвычай важнай фігурай у беларускім Адраджэньні — як аўтарку першага ў найноўшай гісторыі беларускамоўнага падручніка матэматыкі, што даказала: можна выкладаць дакладныя навукі і па-беларуску — было б жаданьне.)

Пазьней Аляксандар Тамковіч у адной са сваіх кніг працытуе Станіслава Багданкевіча, які называе Майсеню «значным дзеячом беларускага Адраджэньня». Дапускаю, што для Багданкевіча (ад якога як ад старшыні Нацбанку Беларусі ў часы кадэнцыі Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня я ні слова ня чуў па-беларуску), ці для Аляксандра Тамковіча (які ў 1991 годзе як супрацоўнік газэты «Во славу Родины» пазьдзекаваўся зь мітынгу БНФ супраць сакавіцкага рэфэрэндуму аб захаваньні СССР і адмаўляў ідэю стварэньня беларускага войска) кожны, хто мог пісаць па-беларуску, быў дзеячам Адраджэньня, і нават «значным». Але мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ — так ужо атрымалася — былі, кажучы вайсковай лексыкай, на пярэднім рубяжы змаганьня за незалежнасьць маладой дзяржавы, і разам з прыхільнікамі Адраджэньня ў Менску і ў рэгіёнах адваёўвалі яе кроплю за кропляй у імпэрыі. І таму ясна бачылі і цудоўна разумелі, хто дапамагаў у гэтым змаганьні (нам дарагое было кожнае слова падтрымкі), а хто — мякка кажучы, не спрыяў.

Артыкул Майсені называўся «Амін» Саюзу?». Пытальнік у загалоўку ставіў пад сумнеў нашае

імкненьне разьвітацца з імпэрыяй. Артыкул быў напісаны па-расейску, тут даю пераклад.

«Самае галоўнае цяпер — гэта ўстрымацца ад катэгарычнага «не» Саюзу, не адкідваць адразу ідэю абноўленага Саюзу, — пісаў А. Майсеня. — Бо, урэшце, за намі канчатковае рашэньне, і ніхто ўжо ня здолее загнаць нас дубінай у рай. Сказаць «не» ніколі ня будзе позна, права на выхад з Саюзу нам гарантаванае, але можам на многія гады спазьніцца з нашым «так». На гэтым дэмакратычным фоне нават новаагароўскі працэс паўстае апаратнай творчасьцю...» (Нагадаю, што выхад з СССР быў «гарантаваны» і ў 1922 годзе. Тысячы і тысячы людзей заплацілі жыцьцямі за спробы рэалізаваць гэтую «гарантыю» — С.Н.)

«Калі нехта аддае перавагу таму, — працягваў Майсеня, — каб апынуцца свабоднай захалуснай дзяржавай на задворках Эўропы, а ня быць у Саюзе, міжнародны аўтарытэт якога і вагу можна будзе паставіць на карысьць рэспублікі, дык я не пайду разам з гэтымі людзьмі. Калі нехта верыць, што можна быць свабоднымі на паперцы, што дзеля свабоды можна цярпець бясконцыя страты, і ўсё дзеля адной ідэі, дык я ніколі не пагаджуся зь імі. Нацыянальнай свабоды і незалежнасьці бяз моцнага ідэалягічнага падмурку ня можа быць. Сувэрэнная Беларусь можа існаваць толькі ў адзінай эканамічнай прасторы цяперашняга Саюзу…

Рэспубліка, эканоміка якой больш чым на 80 працэнтаў залежыць ад паставак сыравіны і матэрыялаў, проста ня мае права гэтак легкадумна адмовіцца ад рэжыму найбольшага спрыяньня, які ёй будзе належаць як удзельніцы садружнасьці дзяржаваў...

І апошняе. Ужо столькі было спэкуляцыяў вакол вынікаў рэфэрэндуму 17 сакавіка! 82 працэнты жыхароў Беларусі, якія прынялі ўдзел у рэфэрэндуме, прагаласавалі за захаваньне абноўленага Саюзу. Круцілі гэтымі лічбамі партапаратчыкі як хацелі, слова не прамовіўшы пры гэтым, за які абноўлены Саюз аддалі галасы людзі. Для іх рэфэрэндум быў толькі спэктаклем марыянэтак, яго вынікамі спрабавалі прыкрыць крыху ўпрыгожанага ўнітарнага монстра.

Іншая рэч цяпер — мы самі вызначаем гэты Саюз і прынцыпы ўдзелу ў ім Беларусі. Ці не пра гэта думала большасьць з тых, хто 17 сакавіка падыходзіў да урнаў і вырашаў кожны для сябе лёс Саюзу?! Не лічыцца зь іх воляй сёньня будзе вялікім грэхам перад дэмакратыяй. Не, не сьпяшайцеся казаць «амін» Саюзу».

Гэтак скончыў Анатоль Майсеня свой артыкул, прыгадаўшы самую фарысэйскую прапагандысцкую акцыю Крамля гэтага году — рэфэрэндум аб захаваньні СССР з мудрагелістым пытаньнем, затыканьнем ратоў апанэнтам і фальсыфікацыямі на ўчастках.

Контраргумэнты выказаў дэпутат Апазыцыі БНФ Алег Трусаў у артыкуле ў «Народнай газеце», што, як і Майсеня, ён таксама скончыў пытаньнем: «Ці трэба баяцца незалежнасьці?»

«Ці трэба Беларусі незалежнасьць, альбо, як піша А.Майсеня, «полный и неделимый национальный суверенитет»? Не, адказвае ён, бо ў прыродзе, а тым больш палітычнай, «неделимого и полного» няма. Таму дастаткова мець нешта сярэдняе паміж калёніяй і дзяржавай, а інакш ня возьмуць беларусаў у «обновленный Союз». Але прабачце, шаноўныя спадары, у сьвеце ніколі не

было «няпоўнага» сувэрэнітэту, як і не было «няпоўнай» дэмакратыі, а тым больш дэмакратыі з «сацыялістычным тварам або выбарам». Сувэрэнітэт або ёсьць, або няма, і ня трэба яго падмяняць ідэяй «обновлённого Союза» і спасылацца на Назарбаева, які ў Казахстане захаваў цалкам кампартыю з усёй яе маёмасьцю.

Дык, можа, паслухаем тую прапанову, што, як ні дзіўна, прагучала ў мінулым годзе ў Ваўкавыску, выйдзем са складу ААН і папросімся ў склад РСФСР на правах аўтаномнай рэспублікі? — працягваў Трусаў. — Тым больш, што спадар Майсеня абяцае нам адразу «единое экономическое пространство» і ў дадатак «режим наибольшего благоприятствования».

Ня трэба нас палохаць тым, што Беларусь на 80% залежыць ад паставак сыравіны і матэрыялаў, бо ў Прыбалтыцы сытуацыя значна горшая. Давайце параўнаем некалькі лічбаў. Агульная плошча Латвіі, Літвы і Эстоніі крыху большая, чым 175 тысячы кв. км пры насельніцтве каля 8 мільёнаў чалавек. Беларусь жа мае 207 тысяч кв. км. і больш за 10 млн. жыхароў. Пры гэтым у мінулым годзе вытворчасьць сельскагаспадарчай прадукцыі прыбалтыйскіх рэспублік склала 8,9 млрд. рублёў (у цэнах 1983 г.), закаўкаскіх рэспублік — 7,4 млрд. рублёў, Малдовы — 4,4 млрд. рублёў, а Беларусі — 11,9 млрд. рублёў. Давайце паглядзім на краіны ўсходняга сьвету. Так, напрыклад, маленькі Тайвань (яго плошча ўсяго 36 тыс. кв. км) практычна ня мае ніякай сыравіны. Тым ня менш толькі ў ЗША гэтая краіна штогод пастаўляе тавараў на 10 млрд. даляраў. Такога ўзроўню незалежная Беларусь, улічваючы працавітасьць беларускага народу, можа дасягнуць праз 8-10 гадоў.

Анатоль Майсеня справядліва лічыць, што Беларусь мае гістарычнае права на былы саюзны рынак і адпаведна — на яго частку на тэрыторыі Расеі. Але сучаснае расейскае кіраўніцтва ня хоча гэтага заўважаць і прысвойвае сабе ўсю былую саюзную маёмасьць на сваёй тэрыторыі, у тым ліку і культурныя каштоўнасьці Эрмітажу, саюзных музэяў у Маскве і Санкт-Пецярбургу, таксама немалыя сродкі Савецкага фонду культуры…

Спадар Майсеня пратэстуе супраць адрыву ад дэмакратычных сіл Расеі і лічыць, што мы цалкам абавязаны вынікам перамогі расейскім дэмакратам. Не адмаўляючы мужнасьці масквічоў і пецярбуржцаў, можна задаць А. Майсеню толькі адно пытаньне. А ці змагла б перамагчы маскоўская дэмакратыя ў жніўні 1991-га, каб не двухгадовае змаганьне за сваю незалежнасьць літоўцаў, латышоў і эстонцаў, каб не было Баку і Тбілісі, Курапатаў, антыкамуністычнага шэсьця (у Менску — С.Н.) 7 лістапада 1990 г. (якое так асуджала лібэральная беларуская інтэлігенцыя), вясновых страйкаў менскіх працоўных? Усё гэта зьвёны аднаго дэмакратычнага ланцуга, і мы схіляем галовы перад мужнасьцю Юрыя Афанасьева, Алены Бонэр і іх прыхільнікаў, што не паддаліся сьвяточнай эўфарыі і выступілі з асуджэньнем імпэрскіх амбіцый каманды Ельцына. Дарэчы, 14 верасьня мы даведаліся, што «Дэмакратычная Расея» перайшла ў Маскве ў апазыцыю да адміністрацыі Гаўрыіла Папова.

Сьмешным выглядаюць спасылкі А. Майсені на вынікі сакавіцкага рэфэрэндуму, які незаконна адбыўся (бо Вярхоўны Савет БССР ня даў на гэта згоды) на тэрыторыі Беларусі і быў амаль цалкам сфальсыфікаваны, асабліва ў сельскай мясцовась-

ці, камуністамі. Я не сумняваюся, што новы рэфэрэндум, які можна праводзіць толькі пад наглядам прадстаўнікоў ААН, дасьць зусім іншыя вынікі, асабліва пасьля ўкраінскага. Але ці варта траціць на гэта народныя грошы, калі Беларусі, заснавальніцы СССР і ААН, дастаткова толькі дэнансаваць Саюзнае пагадненьне 1922 году, тым больш што тады ніхто ніякіх рэфэрэндумаў не праводзіў, а само пагадненьне ніколі да канца не выконвалася і нават не было ратыфікавана найвышэйшымі органамі БССР. Таму, сказаўшы «амін» Саюзу, трэба тэрмінова пачынаць нялёгкую працу па аднаўленьню сваёй некалі страчанай дзяржаўнасьці, бо незалежнасьць — найвышэйшая каштоўнасьць для кожнага народу» («Народная газета», 21 верасьня 1991 г.).

Майсеня адказаў Трусаву вялізным артыкулам у той самай «Народнай газеце» пад назовам «Не гаруйце, нехлямяжыя беларусы», гэтым разам ужо па-беларуску.

«Гора беларусам таму, што шчасьця свайго не разумеюць... што тут зробіш, сабраліся ў панургавы статак «нехлямяжыя» (слова рэдкае, таму для ўсіх растлумачу, што «нехлямяжы» — гэта нязграбны, плюгавы) беларусы, і, хоць трэсьні, не ідуць за правадырамі з парлямэнцкай апазыцыі БНФ. У самім парлямэнце такіх «нехлямяжых» беларусаў, як паказала сацыялягічнае апытаньне, набіраецца аж 72,9 працэнты: 22,5 працэнтаў народных дэпутатаў зь ліку апытаных выступаюць за Саюз Сувэрэнных Дзяржаваў на фэдэратыўнай аснове, 41,4 працэнты хацелі б бачыць будучым дзяржаўным аб'яднаньнем канфэдэрацыю і 9 працэнтаў схіляюцца да таго, каб Рэспубліка Беларусь увайшла ў Саюз асацыяваным членам. Новы стар-

шыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч таксама засьведчыў сваю «нехлямяжасьць» прамовай падчас выбараў: «Тое, што ў нас зараз пасяліліся тэндэнцыі на поўнае адлучэньне ад Саюзу, мне проста не падабаецца». «Нехлямяжасьць» — ні даць ні ўзяць. Да таго ж, сярод простых людзей такіх дзівакоў, што шчасьця свайго цураюцца, таксама процьма. Мабыць, калі сур'ёзна, гэта такая нацыянальная рыса беларусаў, зьведаўшых за свой гістарычны лёс шмат бяды і пакут, — зь недаверам і асьцярогай ставіцца да лёгкага шчасьця. Нездарма ж на Беларусі здаўна прыказка ходзіць: «Шчасьце ня конь — у аглоблі не запражэш».

Апэляцыя Майсені да прыхільнасьцяў дэпутатаў як да ісьціны выглядала недарэчна: зыходзячы з такой лёгікі, наўрад ці ўвогуле варта было дамагацца і незалежнасьці, і забароны КПБ-КПСС, камуністы ж у Вярхоўным Савеце складалі 90 адсоткаў.

Што да «лёгкага шчасьця», дык Апазыцыя БНФ зь першага дня пасьля абвяшчэньня незалежнасьці сьцьвярджала, што стварэньне дзяржавы будзе працэсам вельмі няпростым, цяжкім. Гэтаксама нельга было пагадзіцца і з абвінавачаньнямі Фронту ў манапольным кантролі «над самой ідэяй незалежнасьці»: яшчэ ў жніўні дэпутаты Апазыцыі БНФ заклікалі ня толькі прадстаўнікоў партыяў, але і былых членаў КПБ-КПСС аб'ядноўвацца ў будаўніцтве незалежнай Беларусі. Пры гэтым застаецца фактам, што цэласная канцэпцыя такога будаўніцтва была толькі ў Беларускага Народнага Фронту.

(Вядома, сёньня можна колькі заўгодна разважаць, ці атрымалі б беларусы шчасьце, калі б пайшлі за БНФ. У 1994 годзе пайшлі за Лукашэн-

кам, у якім Анатоль Майсеня тады бачыў «беларускага Валэнсу».)

У артыкуле Майсені — фармулёўкі, якія потым падхопіць афіцыйная прапаганда: «русафобія стала адным зь фірменных знакаў кіраўніцтва БНФ», «БНФ спрабуе ўстанавіць манапольны кантроль над самой ідэяй незалежнасьці». А галоўная выснова наступная:

«Тое, што ў імя нацыянальнай незалежнасьці адстойвае шаноўны дэпутат — дэнансаваць Саюзны дагавор 1922 г. і заняцца стварэньнем поўнасьцю адасобленай ад Саюзу дзяржавы — гэта, апроч усяго, замах на права выбару, што ляжыць у аснове дэмакратыі. Яшчэ не адчыніўшы дзьверы, яшчэ не паглядзеўшы ўнутр, што зь сябе ўяўляе новы Саюз, апазыцыя БНФ ад ганку крычыць яму «не». Выбачайце, але гэта не палітыка, гэта звычайнае дактрынэрства».

Так лічыў Анатоль Майсеня. Мы ж лічылі інакш, бо ня бачылі ніякіх падстаў верыць Крамлю.

І тут не было асаблівай розьніцы паміж былымі камуністычнымі сакратарамі і тымі, хто называў сябе «рэфарматарамі». У адрозьненьне ад нас, расейскія дэмакраты па-іншаму ўспрымалі распад савецкай імпэрыі. Вось што пазьней пісаў пра свае адчуваньні ўвосень 1991-га Ягор Гайдар, які неўзабаве ў якасьці віцэ-прэм’ера расейскага ўраду будзе адказваць за эканамічныя рэформы:

«Цяпер, пасьля жнівеньскай перамогі, уся адказнасьць за тое, што адбываецца ў Расеі і ў значнай ступені на тэрыторыі ўсяго былога Савецкага Саюзу, кладзецца на плечы расейскіх лідэраў. На гэтым палітычным фоне яшчэ заставалася, як мне тады здавалася, адзіная магчымасьць захаваць

СССР: Гарбачоў неадкладна адракаецца ад сваёй пасады, перадае яго Ельцыну як прэзыдэнту найбуйнейшай рэспублікі Саюзу. Ельцын легітымна падпарадкоўвае сабе саюзныя структуры і, валодаючы безумоўным у тую пару аўтарытэтам агульнанароднага лідэра Расеі, забясьпечвае зьліцьцё двух цэнтраў улады, барацьба паміж якімі і служыць адной з асноўных прычын развалу. Так узьнікае надзея» (Егор Гайдар, «Дни поражений и побед», Москва, 2000).

Увогуле, паказальная пазыцыя адносна незалежнасьці былых савецкіх рэспублік у тых, хто ў якасьці ключавых фігур увайшоў у ельцынскі «ўрад рэформаў». У пачатку 1991 году «Гайдар паранейшаму лічыў рэальнымі рэформы ў маштабах усяго Саюзу і галасаваў на рэфэрэндуме за яго захаваньне. Таго самага пункту гледжаньня прытрымліваўся і Авэн... У верасьні Авэн, Васільеў, Чубайс і Шохін (у хуткім будучым усе яны — члены расейскага ўраду — С.Н.) сустрэліся ў вёсачцы Альпах у аўстрыйскім Тыролі. «Аналізуючы палітычную прастору, мы, з пэўным жахам для сябе, прыйшлі да высновы аб тым, што захаваньне СССР немагчымае, — кажа Чубайс. — Нам стала відавочна, што савецкіх рэформаў быць ня можа. Дарэчы, пытаньне пра непазьбежнасьць развалу СССР, калі я ўпершыню пачуў гэтую думку, было для мяне вялікім шокам, трэба сказаць» (Forbes, расейскае выданьне, сакавік 2010 г.).

У гэтых успамінах я вылучу словы «жах» і «шок», зь якім расейскія рэфарматары ўспрымалі тое, што для нас было і марай, і палітычнай мэтай.

Завяршу цытатай з водгуку на дыскусію Майсені і Трусава доктара гістарычных навук, прафэ-

сара Анатоля Грыцкевіча (надрукаваны ў тым самым, што і артыкул Майсені, нумары «Народнай газеты» за 1 кастрычніка):

«Вынікам перамогі дэмакратычных сіл было ня толькі абвяшчэньне сувэрэнітэту БССР у мінулым годзе (27 ліпеня 1990 г. — С.Н.), але і абвяшчэньне незалежнасьці Беларускай рэспублікі (25 жніўня 1991 — С.Н.). Дэмакратычны рух і барацьба за незалежнасьць ідуць у адным рэчышчы; яны не супрацьстаяць адно аднаму, а, наадварот, узаемна сябе падтрымліваюць...

Таму ў цяперашні пераходны пэрыяд трэба рэальна аднаўляць беларускую дзяржаўнасьць, надаючы ёй усе ўласьцівыя незалежнай рэспубліцы правы і структуры».

Гісторыя паказала — і даволі хутка — што спадзяваньні на «абноўлены» Саюз не апраўдаліся.

# Калі Мінск ізноў мог стаць Менскам

Нам, дэпутатам Апазыцыі БНФ, адразу пасьля абвяшчэньня незалежнасьці было зразумела, што трэба вярнуць тое, што належала нацыі — сьцяг, герб і гістарычныя назовы.

Пазьней нашыя апанэнты будуць пісаць, што, маўляў, БНФ займаўся толькі «сьцяжкамі» і назвамі. Абвергнуць гэта можна хоць бы падзеямі верасьня 1991-га, калі мы запатрабавалі скліканьня нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету.

Беларусь ужо была незалежнай, але ў кіраўніцтва Прэзыдыюму яшчэ дзейнічаў «саюзны рэфлекс» — на паседжаньні Прэзыдыюму намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Васіль Шаладонаў паведаміў, што парадак дня сэсіі распрацаваны «з улікам рашэньняў зьезду».

Шаладонаў меў на ўвазе пазачарговы Зьезд народных дэпутатаў СССР, які прайшоў на пачатку верасьня ў Маскве і на якім прысутнічала дэлегацыя Вярхоўнага Савету БССР (у тым ліку і група дэпутатаў Апазыцыі БНФ на чале зь Зянонам Пазьняком).

Зьезд той быў скліканы пасьля правалу ГКЧП, адным з ідэйных натхняльнікаў якога быў студэнцкі сябар Гарбачова, старшыня Вярхоўнага Савету СССР Анатоль Лук'янаў, а кіраўніком — прызначаны на папярэднім зьезьдзе віцэ-прэзыдэнтам СССР Генадзь Янаеў. На прапанову Гарбачова Зьезд прыняў рашэньне пра самароспуск і перадаў свае паўнамоцтвы новаўтворанаму органу, які

павінен быў фармавацца з роўнай колькасьці дэпутатаў ад кожнай рэспублікі, а таксама і абвясьціў «пераходны пэрыяд» для падпісаньня дамовы аб «саюзе сувэрэнных дзяржаў».

Фактычна тое была ціхая агонія: лёс такой дамовы і такога «саюзу» быў перадвызначаны Вярхоўнымі Саветамі большасьці рэспублік, якія прагаласавалі за незалежнасьць.

На зьезьдзе зрабіліся відавочнымі і палітычнае фіяска Гарбачова, і моцная пазыцыя Ельцына, які недвухсэнсоўна даў зразумець кіраўнікам былых рэспублік, хто ў Маскве цяпер гаспадар.

Аднак гаспадарамі Ельцын і яго каманда хацелі быць ня толькі ў Маскве, але і на абшарах усяго СССР.

Па вяртаньні з Масквы Пазьняк на пасяджэньні Апазыцыі БНФ зьвярнуў увагу на відавочнае ў часе зьезду «дамінаваньне Расеі, якая імкнецца накласьці лапу на ўласнасьць». Ён сказаў таксама, што «рыхтуецца нешта накшталт анэксіі Беларусі», і «мы (Вярхоўны Савет — С.Н.) павінны тэрмінова ўсё прыняць», маючы на ўвазе стварэньне структураў незалежнай дзяржавы.

«Улічваючы, што сытуацыя мяняецца не па днях, а па гадзінах, мы спазьняемся», — казаў Зянон Пазьняк членам Прэзыдыюму.

«Страта трох дзён — справа надзвычайная», — заклікаў не цягнуць з прыняцьцем патрэбных рашэньняў Пётра Садоўскі.

«Ня трэба нагнятаць», — супакойваў нас старшыня парлямэнцкай бюджэтна-фінансавай камісіі Раман Унучка.

Як звычайна, Прэзыдыюм ня меў нічога, апрача жаданьня выканаць рашэньні маскоўскага зьезду. Мы ж распрацавалі зьмястоўны пакет прапановаў.

За дваццаць дзён — з 26 жніўня да 16 верасьня 1991 году — мы падрыхтавалі і прапанавалі ў Вярхоўны Савет 31 законапраект для нечарговай сэсіі. Большасьць зь іх тычылася дзяржаўнага будаўніцтва і абароны — таго, без чаго не магла існаваць толькі што ўтвораная краіна. (Пазьней яны будуць прынятыя.) Мы прапанавалі Прэзыдыюму 16 пунктаў парадку дня — аб грамадзянстве, аб уласнай мытні, аб замежнапалітычнай дзейнасьці, аб прызнаньні права прыватнай уласнасьці на зямлю і ўнясеньні зьменаў у заканадаўства, аб дэнансацыі Саюзнага дагавору 1922 году ды іншыя. Быў і аб'ёмісты «вайсковы блёк», за падрыхтоўку якога адказвала Галіна Сямдзянава — 16 законапраектаў, што падводзілі юрыдычную базу пад стварэньне свайго войска, сыстэмы памежнай аховы, уласнай вайсковай пракуратуры і гэтак далей.

Але першымі пунктамі парадку дня сэсіі мы прапанавалі тое, без чаго ня можа існаваць толькі што ўтвораная краіна — назву, сьцяг і герб.

Быў у нас пункт і пра вяртаньне беларускай сталіцы яе гістарычнай назвы — Менск. Нам падавалася, што гэтая прапанова мае неблагі шанец рэалізавацца. Нагадаю, што 5 верасьня 1991 году Менскі гарадзкі савет, дзе была даволі моцная фракцыя БНФ (на выбарах 1990 году сталіца прагаласавала больш дэмакратычна, чым правінцыя) прыняў пастанову «Аб вяртаньні гораду яго гістарычнай назвы Менск»:

«Зыходзячы зь неабходнасьці аднаўленьня гістарычнай справядлівасьці і з нагоды 400-годзьдзя наданьня месту Менску герба, Менгарсавет лічыць неабходным вярнуць гораду яго спрадвечнае гістарычнае найменьне — Менск — і пацьвердзіць герб, нададзены яму 12 студзеня 1591 г.

ПРАПАНОВЫ

Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце БССР
аб парадку дня нечарговай 6-й сесіі
Вярхоўнага Савета БССР 12-га верасьня
1991 г.

Апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце БССР прапануе пачаць сесію 12-га верасьня 1991 г. у сувязі з рашэньнямі, прынятымі на нечарговым У зьезьдзе народных дэпутатаў СССР, якія маюць непасрэднае дачыненьне да палітычнай будучыні Беларусі.

Прапануецца ўключыць у парадак дня наступныя пытаньні:

1. Праект пастановы Аб назве Рэспублікі.

2. Праект пастановы Аб дзяржаўна-нацыянальным сьцягу Беларускай ССР.

3. Праект пастановы Аб дзяржаўным гербе Беларускай ССР.

4. Аб падпарадкаваньні мытнай службы.

5. Праект Закона Аб грамадзянстве Беларускай ССР.

6. Аб Генеральным пракуроры Беларускай ССР.

7. Аб сістэме абароны і нацыянальнай бясьпекі Беларускай ССР

а/ аб стварэньні дзяржаўнай сістэмы абароны і нацыянальнай бясьпекі Беларускай ССР

б/ аб Ваенным міністры Беларускай ССР

в/ аб стварэньні Беларускага Войска

г/ Пастанова Аб рэспубліканскай гвардыі Беларускай ССР

д/ аб падпарадкаваньні ваенных камісарыятаў і падразьдзяленьняў Грамадзянскай абароны на тэрыторыі Беларускай ССР

е/ аб ДТСААФ БССР

ё/ аб дзяржаўнай мяжы Беларускай ССР і стварэньні Корпуса Памежнай Варты

ж/ аб парадку праходжаньня вайсковай службы грамадзянамі Беларускай ССР.

Прапановы Апазыцыі БНФ на 6-ай нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савету.

Згодна са сказаным вышэй сэсія Менгарсавету прымае рашэньне:

1. Пацьвердзіць герб, нададзены гораду 12 студзеня 1591 г. у выніку атрыманьня Магдэбурскага права ў 1499 г.

2. Зьвярнуцца ў Вярхоўны Савет БССР з прапановай адмяніць рашэньне 2-й сэсіі Вярхоўнага Савету БССР 1-га скліканьня ад 29 ліпеня 1939 г., згодна зь якім горад Менск быў перайменаваны ў Мінск».

Рашэньне падпісаў старшыня Менгарсавету Аляксандар Герасіменка.

Герб гарсавет меў права зацьвердзіць, а вось дзеля зьмены назову сталіцы патрабавалася пастанова парлямэнту. Нас падтрымала і камісія па пытаньнях адукацыі, культуры і захаваньня гістарычнай спадчыны на чале зь Нілам Гілевічам.

Адным з нашых галоўных аргумэнтаў было тое, што сталіца мела назоў «Менск» да 1939 году — гэта значыць, добрая палова дэпутатаў засьпела той час (хоць ён мог прыпадаць і на іх маленства).

Цікава, што некаторыя ў гэта проста ня верылі — аж пакуль мы не раздрукавалі копіі афіцыйных дакумэнтаў (у тым ліку — пратаколы пасяджэньняў Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР у 1930-я гады). Да пэўнага часу ў друку і ў афіцыйным справаводзтве на расейскай мове пісалі «Минск», на беларускай — «Менск». Аднак 29 ліпеня 1939 г. — у рэчышчы палітыкі русыфікацыі — пастановаю Вярхоўнага Савету 1-га скліканьня «е» замянілі на «і» і ў беларускім напісаньні.

Мы заклікалі сваіх калег дэпутатаў вярнуць гістарычны назоў сталіцы, што было б аднаўленьнем гістарычнай справядлівасьці. На жаль, і ў верасьні 1991-га ўсё вырашыла арытмэтыка. «За» прагаласавалі 142 дэпутаты, а для станоўчага рашэньня патрабавалася 173. Не хапіла 31 голасу.



# ПРАТАКОЛ № 3

пасяджэння
ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА
БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

27 верасня 1938 г. г. Менск

Старшынстваваў—тав. НАТАЛЕВІЧ Н. Я.

Прысутнічалі:

Намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР . тав. Мальцаў С. І.

Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР . . . . тав. Папкоў Л. Е.

Члены Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР . . . . . . т. т. Марозаў С. І., Матвееў А. П., Казачонак Д. Е., Казлоў К. І., Ягодкін В. М., Шарко О. К., Мелкіх С. М., Вінакурава Н. Я., Немчэнка О. А., Акулёнак А. І.

Пракурор БССР тав. Новік С. Я.

Ксэраксы гэтага дакумэнту са словам «Менск» былі распаўсюджаныя сярод дэпутатаў.

Вынік галасаваньня аб назове сталіцы паказаў, што страх, які кіраваў камуністамі на сэсіі 24-25 жніўня і які дазволіў нам зламаць іх псыхалягічна і абвясьціць незалежнасьць — гэты страх сышоў, і Вярхоўны Савет імкліва вяртаецца ў стан, калі прапановы Апазыцыі БНФ набіралі ў найлепшым выпадку 90-110 галасоў (а звычайна — 50-60).

Для прыняцьця «Пагоні» і бел-чырвона-белага сьцяга ў якасьці дзяржаўных сымбаляў неабходна было ўнесьці зьмены ў Канстытуцыю, а значыць, нам патрабавалася падтрымка дзьвюх трацінаў дэпутацкага корпусу — 231 голас.

Было зразумела, што трэба мяняць тактыку. Прычым мяняць літаральна за суткі — разгляд пытаньня пра дзяржаўныя сымбалі плянаваўся на 19 верасьня.

# Як нацыянальныя сымбалі сталі дзяржаўнымі

18 верасьня 1991 году старшынём Вярхоўнага Савету быў абраны Станіслаў Шушкевіч (вылучаліся чатыры кандыдаты — Уладзімер Заблоцкі (Апазыцыя БНФ), Генадзь Карпенка, Вячаслаў Кебіч і Станіслаў Шушкевіч. У другі тур выйшлі Шушкевіч і Кебіч, перад галасаваньнем Кебіч зьняў сваю кандыдатуру. «Вячаслаў Францавіч — сумленны чалавек», — пракамэнтаваў гэты ўчынак Станіслаў Станіслававіч.

На другі дзень пасьля выбараў старшыні, 19 верасьня, быў заплянаваны разгляд пытаньняў пра назоў краіны, дзяржаўныя герб і сьцяг. У той самы дзень разам са старшынём камісіі па міжнацыянальных зносінах Міхаілам Сьлямнёвым мы меліся ляцець на запрашэньне парлямэнту Малдовы ў Кішынёў.

Раніцай 19 верасьня, перад пачаткам сэсіі, я прыйшоў у прыёмную Шушкевіча — ён яшчэ не перайшоў у «дземянцееўскі» кабінэт і быў у сваім «старым», «намесьнікаўскім», у левым крыле, якраз пад пакоем апазыцыі. Звычайна прыёмная Шушкевіча была пустая, цяпер жа яна поўнілася супрацоўнікамі сакратарыяту і нейкімі незнаёмымі мне асобамі — выглядала, што большасьці зь іх хацелася патрапіць на вочы новаму найвышэйшаму кіраўніку. У прыёмнай быў і Сьлямнёў. Дыялёг у нас атрымаўся кароткі: «Паляціш?» — запытаўся ў мяне Сьлямнёў. — «Не». —«Я таксама».

Шушкевіч прыняў нас адразу, па-за чаргой, і мы паведамілі, што ў сытуацыі, калі чакаецца такое важнае галасаваньне, пакідаць сэсію ня можам і ў Малдову не паляцім. Шушкевіч сказаў, што гэта слушнае рашэньне і што малдаване зразумеюць і не пакрыўдзяцца.

Цяпер колькі словаў пра нашу тактыку.

На папярэдняй, жнівеньскай сэсіі, калі галоўнымі мэтамі былі абвяшчэньне незалежнасьці і спыненьне дзейнасьці КПБ-КПСС, мы выкарыстоўвалі тактыку, якую я б назваў тактыкай «кантрастнага душу». Адна група дэпутатаў выходзіла да мікрафонаў і (ня будзем ужываць слова «пагражала») з выкарыстаньнем экспрэсіўнай (але ў межах парлямэнтарызму) лексыкі папярэджвала дэпутацкую большасьць пра верагодныя для яе вельмі кепскія наступствы ў выпадку, калі тая не прымае нашых умоў. Камуністам нагадвалі пра тысячы людзей перад Домам ураду, казалі пра фармаваньне на плошчы «нацыянальнай гвардыі», паказвалі стосы тэлеграмаў ад выбаршчыкаў, якія патрабавалі «забараніць злачынную КПБ-КПСС». Асабліва вызначыліся мы з Яўгенам Глушкевічам, выступаючы часам «дуплетам» (зазначу, што асабістыя стасункі ў мяне з былым загадчыкам аддзелу абкаму КПБ, які ў 1988 годзе зьняў з паласы «Віцебскага рабочага» мой артыкул пра Віцебскую АЭС, былі няпростыя — але тут ужо забыліся старыя крыўды, справа была агульная і стаяла вышэй за ўсё).

І на гэтым фоне — грунтоўныя выступы Зянона Пазьняка і Валянціна Голубева з палітычнымі абгрунтаваньнямі неабходнасьці незалежнасьці. Яны нібыта паказвалі: мы не заганяем вас, камуні-

стаў, у кут, вось яно, выйсьце — галасуйце за незалежнасьць.

Такая тактыка патрапіла, як кажуць, у «дзясятку» — незалежнасьць была абвешчаная, дзейнасьць кампартыі спыненая.

Але, дамогшыся незалежнасьці, мы ня мелі сілаў замяніць намэнклятуру: увесь гэты вялізны апарат чынавенства так і застаўся на сваіх месцах.

Цяпер, у сярэдзіне верасьня, страх у намэнклятурных дэпутатаў сышоў. На іх ужо нельга было ціснуць — трэба было пераконваць. І — прасіць. Нават угаворваць. Бо прымаць «Пагоню» і бел-чырвона-белы сьцяг трэба было іхнімі галасамі, галасамі апанэнтаў. Нашых галасоў дзеля гэтага не ставала. Прасіць, пераконваць, але рабіць гэта максымальна лагодна, каб набраць належную колькасьць галасоў. Мы разумелі: вырашаць не аргумэнты, не гістарычныя факты, не палітычная лёгіка, а псыхалягічны настрой.

У такой сытуацыі трэба было выключыць усё, што магло раздражніць дэпутацкую большасьць. Асабліва гэта датычылася дэпутатаў-вэтэранаў; гэтыя трыццаць чалавек маглі вырашыць вынік галасаваньня.

Мне было зразумела, што пасьля маіх надзвычай рэзкіх выступаў на мінулай сэсіі ў жніўні выходзіць на трыбуну цяпер — значыць, настроіць залю супраць, незалежна ад таго, якая аргумэнтацыя гучала б з маіх вуснаў. Не запісваліся для выступаў і некаторыя іншыя дэпутаты апазыцыі. Пазьняк падрыхтаваў вельмі спакойны выступ, тое самае зрабілі Голубеў і Трусаў.

Хаця тактыку карэктавалі ў дні сэсіі, але рыхтаваліся да пытаньня пра сымболіку за некалькі

тыдняў. Пазьняк папрасіў мастакоў — Яўгена Куліка, Міколу Купаву, Аляксея Марачкіна, Уладзімера Крукоўскага, Лявона Бартлава ды іншых распрацаваць эталён герба і сьцяга.

Мастакі-франтаўцы разам з нашымі гісторыкамі зрабілі выставу, прысьвечаную гісторыі «Пагоні» і бел-чырвона-белага сьцяга. І калі дэпутаты прыехалі на сэсію, у фае перад Авальнай заляй яны ўбачылі стэнды, на якіх была адлюстраваная гісторыя нацыянальных сымбаляў пачынаючы ад Грунвальдзкай бітвы. Стэнды разьмясьцілі па пэрымэтры вакол калёнаў, і дэпутаты гэтак шчыльна іх атачылі, што ў першыя хвіліны я ня мог прабіцца скрозь сьцяну цікаўных.

Але яшчэ перад тым, як прыйсьці ў Дом ураду, дэпутаты ўбачылі бел-чырвона-белы сьцяг над будынкам Менскага гарсавету: ужо дзейнічала ягоная пастанова, што нацыянальны сьцяг у сталіцы выкарыстоўваецца нароўні зь дзяржаўным сьцягам БССР, усталёўваецца ў залі пасяджэньняў і на будынку гарсавету.

Усім дэпутатам былі раздадзеныя заключэньні навуковай рады Інстытуту гісторыі і прэзыдыюму Акадэміі навук БССР з рэкамэндацыямі прыняць нацыянальныя сымбалі ў якасьці дзяржаўных (тут пастараліся Зянон Пазьняк і Валянцін Голубеў, якія працавалі ў згаданым інстытуце).

Напярэдадні сэсіі Шушкевіч параіў Пазьняку зьвярнуцца да Георгія Таразевіча, які ў той час быў членам Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР, да гэтага — старшынём Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР, а яшчэ раней — мэрам Менску, і меў вялікі аўтарытэт у намэнклятурных дэпутатаў. Гэтая парада Шушкевіча была вельмі карыснай — выступ Таразевіча адыграў важную ролю.

Магчыма, ні да воднага пытаньня (апроч, зразумела, незалежнасьці) не рыхтаваліся мы так грунтоўна, ніколі так дакладна не выяралі расклад у Авальнай залі, як цяпер, калі прымалі сымболіку.

Небясьпека чакала адтуль, дзе мы менш за ўсё маглі яе прадбачыць.

З асноўным дакладам па гэтым пытаньні выступаў старшыня камісіі па пытаньнях адукацыі, культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч. Ён успрымаўся намэнклятурай як «свой»: ніколі не сказаў на сэсіі ні слова супроць партыйнага кіраўніцтва, на пасяджэньнях Прэзыдыюму звычайна выказваўся супраць прапаноў Апазыцыі, у час страйкаў быў на баку ўладаў, а ягоная пазыцыя ў дні путчу прымусіла нас патрабаваць ягонай адстаўкі ў шэрагу іншых членаў Прэзыдыюму ВС, якія ня выступілі ў абарону дэмакратыі і сувэрэнітэту.

У прынцыпе, да Ніла Гілевіча дэпутацкая большасьць павінна была паставіцца прыхільна, ніякага сюрпрызу мы тут не чакалі.

Але ён здарыўся.

Гілевіч у сваёй прамове пачаў рэзка выказвацца на адрас дэпутатаў-камуністаў, узгадаў пэрсанальна Дземянцея — ды так, што ў стэнаграме пазначана: «Шум у зале». Шум сапраўды быў, і немалы.

Выступ Ніла Сымонавіча сваёй палемічнасьцю мог упрыгожыць том публіцыстыкі ягонага поўнага збору твораў — але тут, у Авальнай залі, у гэты канкрэтны момант ён цалкам нішчыў нашую тактыку.

Далей працытую ўспамін Пазьняка:

«Мы аслупянелі ад нечаканасьці. Я бачу, што ўся гэтая камуністычная публіка проста разьят-

рылася: вочы гарачь, злосныя, крычаць. Пачалі яго зганяць з трыбуны. Стала зразумела, што ўсё, канец, катастрофа. Мы іх тыдзень супакойвалі, рыхтавалі, а гэты непрадбачаны «трыбун» перакрэсьліў нам усё адным махам. Гэта было жахліва. У мяне, памятаю, аж далоні сталі вільготнымі.

Першае, што я зрабіў, — напісаў запіску Станіславу Шушкевічу ў Прэзыдыюм, што здымаю сваё выступленьне. Бо зразумеў, што ў гэтай сытуацыі мне ня варта выступаць. (Артадоксам трэба было адразу сарваць злосьць, а тут — іхны галоўны апанэнт.) Патрэбныя былі выступы на нашу карысьць, але больш нэўтральных людзей, і пажадана — зь іхнага асяродзьдзя, каб яны супакоіліся. Потым я абышоў (тут жа, у залі, бо трэба было дзейнічаць імгненна) усіх сяброў, дэпутатаў Апазыцыі БНФ, і сказаў, каб тэрмінова карэктавалі выступы і тэматыку, бо неабходна псыхалягічна выправіць і згладзіць канфліктную сытуацыю ў залі».

Пазьняк папрасіў першым выступіць Трусава: Алег валодаў здольнасьцю казаць людзям тое, што яны хочуць чуць, што ў шмат якіх парлямэнцкіх калізіях было якасьцю проста неацэннай. Заля крыху супакоілася. Але напружанасьць у часе дыскусіі адчувалася.

Вельмі важным быў выступ народнага дэпутата Георгія Таразевіча.

Пра значэньне гэтага выступу шмат пісалася, але, наколькі мне вядома, ён ніколі не публікаваўся — таму зьмяшчаю яго тут цалкам (у перакладзе з расейскай):

«Паважаны Вярхоўны Савет! Прыйшоў час, калі на самым высокім заканадаўчым узроўні разглядаюцца пытаньні зацьвярджэньня гістарыч-

на-нацыянальных сымбаляў беларускага народу — бел-чырвона-белага сьцяга і герба «Пагоня» у якасьці дзяржаўных сымбаляў беларускай дзяржавы.

Пытаньні, як тут ужо казалася, вельмі важныя, складаныя і заблытаныя як палітыкамі, гэтак і навукоўцамі. Склалася так, што мы цяжка і доўга ішлі да ўсьведамленьня неабходнасьці зрабіць менавіта гэта. Ня буду называць прычыны, зь якіх тое не было зроблена раней. Можна толькі сказаць, што ў мінулым была і нерашучасьць у доказах з боку навукоўцаў, зьвязаная, відаць, з палітыканствам, непрыманьнем некаторымі коламі рэальных гістарычных і нацыянальных асаблівасьцяў нашага народу.

Я ў свой час даволі падрабязна вывучаў гэтую праблему. Уважліва пазнаёміўся з высновамі і прапановамі Інстытуту гісторыі Акадэміі навук БССР, прэзыдыюму Беларускай Акадэміі навук, вядомага навукоўцы, прафэсара Анатоля Грыцкевіча. Яны, на мой погляд, дастаткова пераканаўчыя і даказваюць неабходнасьць зацьвярджэньня ў якасьці дзяржаўных сымбаляў Беларусі бел-чырвона-белага сьцяга і герба «Пагоня».

Праўда, ёсьць і матэрыялы (пра гэта казалася з гэтай трыбуны), якія гавораць, што нацыянальная сымболіка выкарыстоўвалася ў свой час праціўнікамі народу, захопнікамі ў гады Вялікай айчыннай вайны. Некаторыя таварышы ставяць пытаньне: а ці можам мы пасьля гэтага выкарыстоўваць названыя сымбалі ў якасьці дзяржаўных? Народны дэпутат Трусаў ужо адказваў на гэтае пытаньне. Я хачу толькі дадаць, што фашыстоўскія прапагандысцкія службы дзейнічалі вельмі спрытна і хітра. Тыя дзеячы выкарыстоўвалі гістарычную

нацыянальную сымболіку ня толькі ў нас у Беларусі, але і практычна ва ўсіх акупаваных краінах. Гэта тычыцца і Францыі, і Польшчы, і Украіны, і нават Расеі.

Рабілася гэта дзеля таго, каб у чыста прапагандысцкіх мэтах заваяваць грамадзкую думку, давер, каб прыцягнуць насельніцтва на свой бок і паказаць сябе зь лепшага боку перад усясьветнай супольнасьцю. На нашай зямлі гэта было тым болей зручна і выйгрышна, паколькі тут у свой час настойліва адмаўлялася старая гістарычная сымболіка і паўсюль уводзілася новая.

Апроч сказанага, гэтыя прыклады паказваюць толькі тое, на мой погляд, што гэтая сымболіка рэальная і ў свой час гістарычна была агульнапрызнаная. Нейкіх іншых нацыянальна-гістарычных сымбаляў (больш папулярных, больш распаўсюджаных), Беларусь ня мела. І самае галоўнае: тое, што здаўна належыць народу, нікому ніколі нельга ні запляміць, ні забраць, ні зьмяніць.

Несумненна, што аднаўленьне нацыянальнай дзяржавы, умацаваньне яе сувэрэнітэту, немагчыма без нацыянальна-гістарычнай сымболікі. Станоўчае рашэньне гэтага пытаньня Вярхоўным Саветам Беларусі, на мой погляд, асабліва важна цяпер для рэспублікі, паколькі гэта засьведчыць, што ў Беларусі існуе нацыянальная згода, кансалідацыя ўсіх сілаў у вырашэньні самых складаных задач, якія стаяць перад грамадзтвам. Пакажа, што наша рэспубліка цьвёрда пайшла новым, дэмакратычным шляхам разьвіцьця і не зьбіраецца з гэтага шляху адступаць (Воплескі)».

Цяпер можна сказаць, што матэрыялы і асноўныя тэзісы Таразевічу падрыхтавалі Зянон Пазь-

няк і Алег Трусаў — аднак пісаў свой выступ ён сам.

У прамове Таразевіча было некалькі важных сэнсавых і псыхалягічных момантаў. Па-першае, крытыка ў бок «нерашучых» навукоўцаў — прыхільнікаў гістарычнай сымболікі. Насамрэч, паспрабавалі б тыя самыя навукоўцы выявіць большую рашучасьць у адстойваньні нацыянальных сымбаляў у 1970-я гады, калі разьвівалася партыйная кар'ера Таразевіча і большасьці прысутных у залі дэпутатаў! Аднак гэты папрок як бы здымаў з камуністаў значную частку віны — ну, таварышы, пры чым тут мы, калі навукоўцы ў званы ня білі! Па-другое, тут прысутнічаў элемэнт недаверу і да навукоўцаў увогуле, што, як ні парадаксальна гэта прагучыць, у той момант было няблага, бо кідала цень на тых вучоных, якія выступалі супраць нацыянальнай сымболікі. (Хутка сытуацыя ўсталюецца на карысьць прыхільнікаў «Пагоні» і бел-чырвона-белага сьцягу дзякуючы выступам Валянціна Голубева, а затым і Уладзімера Платонава, прэзыдэнта акадэміі навук.)

Нарэшце, аргумэнтацыю «гэты сьцяг выкарыстоўвалі фашысты» Таразевіч разьбіў звыклай для камуністаў лексыкай: што такое «прапагандысцкая машына», яны ведалі добра.

Ну і, безумоўна, Таразевіч успрымаўся парлямэнцкай большасьцю як свой, «плоць ад плоці» намэнклятурна-партыйнага апарату, які прайшоў усе яго прыступкі і дасягнуў самага верху — другой (пасьля 1-га сакратара ЦК КПБ) пасады ў рэспубліцы. А пераехаўшы ў Маскву на запрашэньне Гарбачова, не апынуўся ў шэрагах «здраднікаў партыі» Якаўлева ды Шэварднадзэ.

Што да пазыцыі навукоўцаў, дык яснасьць унёс Валянцін Голубеў:

«Ня трэба спасылацца на тое, што сярод гісторыкаў, навукоўцаў няма агульнай думкі. Яна існуе, існуе даўно. Усе гісторыкі — і тыя, якія былі ў XVIII–XIX стагодзьдзях, і нашы сучасьнікі ў XX стагодзьдзі, сумленныя гісторыкі, якія пішуць праўду, — гавораць толькі адно: у нашага народу былі нацыянальна-дзяржаўнымі сымбалямі бел-чырвона-белыя колеры і дзяржаўны герб «Пагоня», якія пазначаныя на першай Канстытуцыі фэадальнага грамадзтва ўвогуле ў Эўропе, Статуце Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Гэты герб замацаваны на Статуце, на гэтай Канстытуцыі, якая была перакладзеная амаль на ўсе тагачасныя мовы Эўропы, якой карысталася ўся Эўропа. І там быў замацаваны ў якасьці дзяржаўнага герб «Пагоня». Тое, што ў гісторыкаў ёсьць агульная думка, сьведчаць дакумэнты, якія вам раздадзеныя. Тут ёсьць заключэньне Інстытуту гісторыі АН БССР, пытаньне разглядалася на вучоным савеце, яго рашэньне ляжыць у кожнага з вас на стале. Потым гэтае пытаньне абмяркоўвалася ў аддзяленьні грамадзкіх навук Акадэміі навук, дзе прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх грамадазнаўчых інстытутаў. Рашэньне прынята таксама адназначна. І далей Прэзыдыюм Акадэміі навук Беларускай ССР вырашыў аднагалосна рэкамэндаваць Вярхоўнаму Савету прыняць зараз гэтыя сымбалі як сымбалі дзяржаўныя...

Зараз я хачу сказаць некалькі слоў пра Беларускую Народную Рэспубліку, створаную ў сакавіку 1918 году. Яна была створаная ў той час, калі Беларусь, па сутнасьці, па Берасьцейскай дамове, аддалі не фашысцкай Германіі, а кайзэраўскай Германіі

аддалі. І вы ведаеце, хто і зь якога боку падпісваў гэтую дамову. І вось тыя людзі, выбраныя народам на Усебеларускі зьезд, які адбыўся ў 1917 годзе, у сьнежні, і які быў потым разагнаны, як і «Учредительное собрание» ў Расеі было разагнанае... Вось тыя людзі выступілі ва ўмовах акупацыі супраць таго, каб дзялілі нашу Беларусь бяз нашай згоды. Ні немцы, ні расейцы, ні хто іншы. Заявілі пра тое, што Рэспубліка Беларусь мае права на існаваньне. І яны ўзьнялі менавіта гэтыя нацыянальныя сымбалі. І я скажу паважанаму народнаму дэпутату вэтэрану, які гаварыў, што ў 1918 годзе фашысты былі на Беларусі і што багата пра гісторыю гаварыў: калі ласка, ня трэба. Не было яшчэ фашыстаў у 1918 годзе, і ня трэба ўсё так блытаць.

Я проста прашу сваіх калегаў. Тут усё зразумела. Мы можам займацца палітыканствам, можам гаварыць усё, што ўздумаецца, і нават крыўдзіць адзін аднаго. Давайце падумаем пра сучасны момант. Што адбываецца вакол нас? Усе суседзі — Расея, Украіна, Прыбалтыйскія дзяржавы — усе прынялі нацыянальную сымболіку ў якасьці дзяржаўнай. Вы бачыце, як гэта ўплывае на міжнародным узроўні ў адносінах іншых дзяржаваў да гэтых краін. І мы, пакуль ня прымем нашу нацыянальную сымболіку, мы ня станем у вачах міжнароднай супольнасьці сапраўды самастойнай незалежнай дзяржавай... Гэта справа вельмі і вельмі сур'ёзная. Вы можаце сказаць, што цяпер і так за мяжой, калі нешта друкуецца пра Беларусь, пакуль няма афіцыйнага сьцяга, скрозь ідзе бел-чырвона-белы сьцяг. Гэта яшчэ адно пацьверджаньне, што міжнародная супольнасьць ва ўсіх краінах гэта ўжо ведае і чакае ад нас, калі ж мы зробім правільны крок».

Вельмі важным быў выступ фармальнага лідэра вэтэранаў — Міхаіла Жукоўскага:

«Я вельмі ўважліва выслухаў усхваляваны выступ па гэтым пытаньні старшыні камісіі паважанага Ніла Сымонавіча Гілевіча, аргумэнтаваныя выступы многіх народных дэпутатаў, і таварыша Трусава, таварыша Голубева і як грамадзянін сваёй рэспублікі не магу не ганарыцца тымі, хто быў пад Грунвальдам у 1410 годзе, тымі беларускімі харугвамі, якія разам з рускімі, літоўскімі прыпынілі рух на ўсход і захавалі нашыя землі... Мы можам, вядома, вельмі шмат спрачацца, але мы ведаем, што на харугвах нашых быў герб «Пагоня» пад Грунвальдам, быў ён і ў іншыя моманты гісторыі нашай рэспублікі. Але мы не павінны забываць і іншае — прыйдзе час, і з вышыні гэтага часу самай паказальнай падзеяй у гісторыі нашай рэспублікі, відавочна, будзе ўсё ж подзьвіг, зьдзейсьнены разам з цывілізаванымі народамі ў 1941-1945 гадах... Я, Георгій Станіслававіч, з усімі Вашымі аргумэнтамі пагаджаюся, але не магу пагадзіцца толькі з адным. Так, да народных сымбаляў ніякі бруд не павінен прыліпнуць. Яны вышэйшыя за гэта. Але мы не павінны ўсё ж забываць, што два мільёны дзьвесьце тысяч нашых суайчыньнікаў на нашай роднай беларускай зямлі загінулі ў гады вайны. Засталіся іх дзеці, засталіся іх унукі, засталіся іх праўнукі. І ў іх сьвядомасьці, відавочна, яшчэ на доўгія гады застанецца, што іх блізкія — дзед, бацька, маці, бабуля — загінулі і ад тых, хто здрадзіў свайму народу, хто вывешваў вось гэтыя нашы народныя сымбалі разам з фашысцкай свастыкай. Думаю. што нам таксама гэта ў нейкай ступені трэба ўлічваць».

Выступ Жукоўскага, які займаў пасаду старшыні парлямэнцкай камісіі па справах вэтэранаў, у пэўнай ступені ўскладніў сытуацыю (бо ізноў было прыгадана, што «сымбалі выкарыстоўвалі фашысты»), але важна тое, што ён не адмаўляў гістарычнасьці нацыянальных сымбаляў. І менавіта гэта потым скарыстаў Пазьняк.

Аднак з вуснаў тых, хто быў нязгодны з прыняцьцем нацыянальных сымбаляў у якасьці дзяржаўных, пачалі больш выразна гучаць не «лабавыя» аргумэнты наконт выкарыстаньня іх акупантамі, а прапановы наконт «давайце прыдумаем нешта новае» або «адкладзем на наступную сэсію», «давайце параімся з народам». Выявілася гэта ў выступах Пятра Пракаповіча, Міхаіла Марыніча ды Аляксандра Лукашэнкі.

Аляксандар Лукашэнка: «Паколькі гэта сур'ёзнае пытаньне — давайце яго ня будзем вырашаць наскокам, не адразу, не на пазачарговай сэсіі. Давайце яго вырашаць прадумана, узважана і пісьменна».

Міхаіл Марыніч: «Лічу, што Вярхоўны Савет рэспублікі павінен абвясьціць конкурс на дзяржаўную сымболіку, паколькі ўпершыню ў нашай гісторыі Беларусь атрымоўвае незалежнасьць… І конкурс, я веру, улічыць усе этапы гісторыі Беларусі, яе зямлі і людзей, нацыянальныя традыцыі беларусаў».

Пятро Пракаповіч: «Упершыню з гэтай трыбуны я выступаю не па вытворчых і эканамічных пытаньнях, а па іншых. І гэта не выпадкова. Справа ў тым, што пытаньні дзяржаўнай сымболікі — гэта пытаньні важныя, складаныя. Я за тое, каб нашая дзяржаўная сымболіка была новай, каб мы прынялі новую сымболіку. Але мне незразумела

як дэпутату і як грамадзяніну нашай рэспублікі, чаму гэтае надзвычай важнае пытаньне мы абмяркоўваем так пасьпешліва, непадрыхтаваным. Пытаньне вынесенае намі на пазачарговую сэсію, хоць мы чакалі, што яно будзе абмяркоўвацца на чарговай сэсіі. Мы хацелі яшчэ ў кастрычніку сустрэцца з выбаршчыкамі, параіцца зь імі, абмеркаваць усё. Думаю, што і шырокага абмеркаваньня гэтага пытаньня не было ні ў друку, ні па тэлебачаньні... Ёсьць варыянты, ёсьць прапановы. Мы павінны іх абмеркаваць і вынесьці на рэфэрэндум... Вось тут навукоўцы кажуць што, маўляў, наш народ не сасьпеў для гэтага. Я ня веру ў гэта, гэта абраза нашага народу».

Усё тое азначала: адкласьці справу на няпэўны тэрмін, завалтузіць яе, а ў выніку — пакінуць краіну без нацыянальнай сымболікі (так, між іншым, і адбылося з гімнам, па якім абвясьцілі конкурс — замест таго, каб выбраць паміж «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і «Магутны Божа»). Гэтыя і падобныя аргумэнты давялося аспрэчваць. Выступалі ня толькі дэпутаты БНФ, але і Дэмклюбу.

Уладзімер Грыбанаў: «Не хацелася б, вядома, прыгадваць тут прозьвішча Лукашэнкі, але ён застаўся верны сам сабе. Нават у такім бясспрэчным пытаньні ён знайшоў магчымасьць самавыявіцца і заявіць пра свой пункт гледжаньня. Ён не арыгінальны. Ён кажа пра тое, што няма часу абмяркоўваць гэтае пытаньне».

Анатоль Лябедзька: «Выбачайце, але сьвядома ці несьвядома вы, шаноўныя калегі, выступаеце супраць саміх сябе. Што значыць сёньня ставіць пытаньне пра рэфэрэндум? Калі мы кажам пра грошы, то хто ацэніць, у колькі гэта абыдзецца? ... Калі мы здымем гэтае пытаньне з парадку дня,

то тады мы павінны сказаць, ці давяраем мы сваёй Акадэміі навук, Інстытуту гісторыі. Не асобным гісторыкам, якія маюць права на асабісты погляд, а гэтым органам».

Яўген Цумараў: «Тут нашы паважаныя народныя дэпутаты выказвалі думку, што пытаньне непадрыхтаванае. Ну, калі лічыць, што тысячагадовая гісторыя Беларусі і гісторыя станаўленьня беларускай дзяржаўнасьці за апошнія 70 гадоў не падрыхтавалі гэтага пытаньня, то, безумоўна, яно непадрыхтаванае... Якраз гісторыя нам яго падаравала і падрыхтавала. Вельмі здарыцца трагічная, недарэчная памылка, калі мы апынемся непадрыхтаванымі ўспрыняць і працягваць сваю гісторыю. Выказвалася думка, што гэтае пытаньне трэба вынесьці на рэфэрэндум. Але давайце ўспомнім, што ў нашым законе аб рэфэрэндуме нельга выносіць пытаньні гістарычнай спадчыны, культуры, маралі і духоўнасьці».

Анатоль Вярцінскі: «27 ліпеня мінулага году мы прынялі Дэкларацыю аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларускай ССР. 25 жніўня гэтага году мы надалі ёй статус канстытуцыйнага закону. Дык вось, артыкулам 9 гэтай Дэкларацыі мы сьведчым, што Беларуская ССР забясьпечвае функцыянаваньне беларускай мовы ва ўсіх сфэрах грамадзкага жыцьця і захаваньне нацыянальных традыцый гістарычнай сымболікі. Давайце будзем трымацца лёгікі Дэкларацыі, лёгікі нашых пастановаў, нашых законаў».

Міхаіл Сьлямнёў: «Калі б мы зараз правялі рэфэрэндум, то хутчэй за ўсё атрымалі б адмоўныя вынікі. Мне здаецца, што на гэта і разьлічваюць тыя, хто ўносіць такія прапановы. У сувязі з гэтым я хацеў бы нагадаць выраз французскага

філёзафа Дэкарта, які сказаў, што ісьціна ніколі не дасягаецца простым галасаваньнем. Яе носьбітамі спачатку зьяўляецца меншасьць людзей. І толькі зь цягам часу да яе далучаецца большасьць. І нам ня трэба сёньня падстаўляць беларускі народ, навязваць яму рэфэрэндум па тых пытаньнях, якімі ён не па сваёй віне (аб чым тут добра гаварыў народны дэпутат Булахаў) як сьлед не валодае. Гэта было б вялікім ашуканствам і абразай. Нам, народным дэпутатам, Вярхоўнаму Савету, трэба браць адказнасьць на сябе. Тыя, хто нас выбіраў, лічылі, што мы разумныя людзі, здольныя глядзець крыху ўперад. І калі мы сёньня ня прымем пастановы аб нашай новай дзяржаўна-нацыянальнай сымболіцы, палітычны імідж парлямэнту, дарэчы вельмі невысокі, упадзе да нуля. Многія ж дзяржавы проста ня сядуць з намі за стол перамоваў са сваёй сымболікай. Вельмі прашу вас, не зрабіце грубую палітычную памылку. Нам будзе потым вельмі сорамна. Як сорамна сёньня за тую ўпартасьць, зь якой дэпутацкая большасьць адмаўляла тыя парлямэнцкія прапановы апазыцыі, якія сёньня прыняты».

У залі зьяўляецца прэзыдэнт Акадэміі навук БССР, народны дэпутат СССР Уладзімер Платонаў. (Пазьняк патэлефанаваў яму і папрасіў тэрмінова прыехаць.)

Ён пераконвае дэпутатаў прыняць нацыянальныя сымбалі ў якасьці дзяржаўных і разьбівае аргумэнты нязгодных: «Калі мы паспрабуем цяпер зрабіць конкурс і стварыць новы сьцяг і новы герб, дык мы адмовімся ад сваёй гісторыі і тым самым нібыта пагодзімся з тымі нашымі апанэнтамі, якія кажуць: «А вы ведаеце, у вас жа і гісторыі няма, і таму ня можа быць такога народу рэальнага, і та-

кой дзяржавы Беларусь і няма і не было ніколі». Было б памылкай, шаноўныя народныя дэпутаты, калі б мы сказалі: давайце праводзіць рэфэрэндум. Вось тады б мы ўцягнулі наш народ у незразумелыя выпрабаваньні і развагі. Ну як вы будзеце даносіць усе дэталі да людзей?»

Нарэшце, галасаваньне. І — адмоўны вынік. За сьцяг галасуе 201 дэпутат — а трэба 231.

Выйсьце з сытуацыі прапанавала намесьнік міністра юстыцыі Валянціна Падгруша: «Шаноўныя народныя дэпутаты, мне падаецца, ёсьць дастойнае выйсьце са становішча, якое склалася. У дзейнай Канстытуцыі ёсьць апісаньне афіцыйнага нашага дзяржаўнага сьцяга (артыкул 168). Калі мы выключым з Канстытуцыі артыкул 168, дык можна будзе прыняць закон пра сьцяг і герб простым галасаваньнем» (гэта значыць — не канстытуцыйнай большасьцю ў 231 голас, а простай — 173).

Гэта было лягічна і абсалютна прымальна: канстытуцыі шмат якіх дзяржаў ня ўтрымліваюць апісаньня дзяржаўных сымбаляў.

З такой прапановай пагадзілася і камісія па заканадаўстве — выключыць з Канстытуцыі артыкулы 168 і 169, у якіх даецца апісаньне сьцяга і герба, а ўключыць тэкст з праекту новай Канстытуцыі, над якой ужо больш як год працавала адмысловая камісія. Пры такім варыянце для прыняцьця рашэньня дастаткова было папярэдняга галасаваньня.

З гэтым не пагадзіўся дэпутат Лукашэнка:

«Скажыце, калі ласка, вось дзеля чаго нам зараз ісьці на зьмены артыкулаў Канстытуцыі, дзеля чаго мы гэта робім? Дзеля таго, каб з другога боку зайсьці і прыняць тое рашэньне, якое намі не прынята, так я зразумеў?»

(Паводле пратаколу аб пайменным галасаваньні па пытаньнях прыняцьця бел-чырвона-белага сьцяга і «Пагоні» ў якасьці дзяржаўных сымбаляў, Лукашэнка ўстрымаўся. Гэтак сама ён галасаваў і па назьве краіны.)

Шушкевіч ставіць на галасаваньне прапанову пра ўнясеньне паправак у Канстытуцыю: «за» 221 дэпутат, да патрэбнай лічбы 231 не хапае 10 галасоў.

Шушкевіч ізноў прапануе галасаваць.

Перад гэтым Пазьняк зьвярнуўся да дэпутата-вэтэрана Міхаіла Жукоўскага, таго самага, які казаў пра загіблых у часе вайны. Вось як тагачасны кіраўнік Апазыцыі БНФ прыгадвае свае словы:

«Кажу: «Міхаіл Дзьмітрыевіч, нацыянальная дзяржава вышэйшая за ўсялякую партыйную ідэалёгію. Калі мы ня будзем яе мець, ня будзем мець яе нацыянальных сымбаляў, то мы ня будзем мець нічога. Мы станем нічым. Я вельмі Вас прашу... Адзін раз у жыцьці... Прагаласуйце за сьцяг, дзеля нашай будучыні. Мы ж — беларусы!». Ён быў ашаломлены. Але гэта быў прыстойны чалавек, і ён сказаў: «Добра. Я прагаласую». І прагаласаваў».

Жукоўскі галасуе «за». Галасуюць «за» і дзевяць іншых дэпутатаў, якія да гэтага моманту сумняваліся.

Вынік — 231 голас. Роўна столькі, колькі трэба для станоўчага рашэньня.

«Пагоня» і бел-чырвона-белы сьцяг робяцца дзяржаўнымі сымбалямі.

У гэты самы дзень была зьмененая назва краіны — замест Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі яна ператварылася ў Рэспубліку Беларусь.

**12 кастрычніка. У Кіргізіі прэзыдэнтам абіраецца Аскар Акаеў.**

**12–13 кастрычніка. На канфэрэнцыі БНФ «Незалежнасьць і Адраджэньне» абмяркоўваюцца мадэлі дзяржаўнага ўладкаваньня Беларусі і пацьвярджаецца непажаданасьць увядзеньня ў краіне пасады прэзыдэнта. Прапановы перадаюцца ў Вярхоўны Савет.**

**15 кастрычніка. Парлямэнт Босьніі і Герцагавіны абвяшчае незалежнасьць ад Югаславіі.**

**27 кастрычніка. Туркменія абвяшчае незалежнасьць.**

**У Польшчы праходзяць першыя свабодныя парлямэнцкія выбары.**

# Кебіч, КДБ і мільярды КПСС

Доўгі час асоба першага прэм'ер-міністра незалежнай Беларусі Вячаслава Кебіча заставалася для мяне супярэчлівай і ў пэўным сэнсе загадкавай.

Першая мая асабістая сустрэча з Кебічам пакінула ад яго добрыя ўражаньні.

Аднойчы дырэктары віцебскіх станкабудаўнічых заводаў зьвярнуліся да мяне з просьбай паспрыяць стварэньню галіновай асацыяцыі, Ня памятаю дэталяў, але патрабавалася падтрымка прэм'ера. Каб патрапіць на прыём да яго, дырэктарам маглі спатрэбіцца месяцы, а дэпутатам — паўгадзіны. Да таго ж, у Кебічу дырэктары бачылі нядаўняга калегу — у свой час ён кіраваў станкабудаўнічым заводам у Менску.

Вядома, я грунтоўна падрыхтаваўся да гэтай сустрэчы, і мне тады падалося, што Кебіч быў зьдзіўлены і ўражаны глыбінёй майго разуменьня праблемаў станкабудаўнічай галіны. Цяпер мне відавочна, што прэм'ер зь першых жа маіх фразаў зразумеў, што перад ім — дылетант, які нахапаўся тэрмінаў. Але хвіліны дзьве-тры Вячаслаў Францавіч даў мне магчымасьць пагаварыць. Пасьля спыніў, сказаўшы, што ўсё зразумеў, што прапановы цалкам слушныя, патрабуюць вывучэньня і, магчыма, нейкай дапрацоўкі, але я правільна зрабіў, што прыйшоў менавіта да яго, ён дасьць адпаведныя даручэньні і пракантралюе.

Уласна, на гэтым мэта майго візыту (а значыць, і мэта віцебскіх дырэктараў) была дасягнутая, і я пачаў разьвітвацца, але Кебіч папрасіў застацца.

«Пачакай. Ты бачыш, што робіць Масква? Глядзеў учора мой выступ у Маскве?» — «Не, Вячаслаў Францавіч, не глядзеў. У мяне тэлевізара няма». — «Ды ты што! І чаму?» — «Ды ў мяне і кватэры няма». — «А як так? Ёсьць жа рашэньне Вярхоўнага Савету пра забесьпячэньне кватэрамі дэпутатаў на прафэсійнай аснове». — «Ды якая кватэра, мне Мінгарвыканкам адмаўляе нават ў прапісцы ў інтэрнаце». — «Сволачы!»

Кебіч ужыў менавіта гэтае слова — «сволачы», і залішне казаць, што такая характарыстыка цалкам адпавядала і маёй уласнай ацэнцы.

Запала маўчаньне.

Магчыма, Вячаслаў Францавіч чакаў ад мяне просьбы дапамагчы з кватэрай. Калі б я яе выказаў — не сумняваюся, што праз некалькі дзён я меў бы ордэр. (У кіраўніцтва справамі Саўміну, які падпарадкоўваўся непасрэдна старшыні ўраду, быў уласны жыльлёвы фонд, і некаторыя дэпутаты атрымалі кватэры менавіта ад Кебіча.) Аднак просьбы такой я ня выказаў і пазьней, як і іншыя дэпутаты, якія перайшлі працаваць у парлямэнцкія камісіі, атрымаў кватэру ад Вярхоўнага Савету.

З гэтага моманту на нейкі час (ва ўсякім разе, на 1990-1991-я гады) у мяне ўсталяваліся з Кебічам дачыненьні, якія можна было б у працоўным сэнсе вызначыць як канструктыўныя, а ў міжасабовым — як добрыя. Я яшчэ некалькі разоў заходзіў да яго і ў справе віцебскіх станкабудаўнікоў, і з патрэбамі сваёй Віцебскай-Чыгуначнай акругі. Ён дапамагаў.

Але чым далей, тым болей бачыў я ў асобе Вячаслава Францавіча супярэчнасьцяў.

Чаму чалавек, якога ўлетку1990-га Васіль Быкаў назваў «прэм’ерам спадзяваньняў», праз некалькі гадоў стане прыкладам таго, як можна змарнаваць час?

Зь якіх прычынаў палітык, што на пачатку часьцей за іншых кіраўнікоў ішоў на кантакт зь лідэрамі БНФ (і пры гэтым, як выглядала, не адчуваў ніякага дыскамфорту), у канцы прэм'ерства апынецца ў атачэньні адыёзных асобаў, якія не хавалі варожага стаўленьня і да дэмакратыі, і да нацыянальнага Адраджэньня?

Як здарылася, што прэм’ер-міністар, які на сэсіі 25 жніўня 1991-га падтрымаў выступ Пазьняка пра наданьне Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнага закону і праз некалькі хвілінаў пасьля гэтага гістарычнага рашэньня прапанаваў ад імя ўраду пастанову пра забесьпячэньне палітычнай і эканамічнай самастойнасьці Беларусі, пазьней будзе ствараць умовы для ліквідацыі беларускай дзяржаўнасьці, уцягваць краіну ў арбіту вайсковага ўплыву Расеі і намагацца ўвесьці расейскі рубель?

Пералік супярэчнасьцяў сапраўды ўражвае.

Прэм’ер-міністар, які разам з Барысам Ельцыным, Генадзем Бурбулісам, Станіславам Шушкевічам, Леанідам Краўчуком і Віктарам Фокіным у Віскулях паставіў свой подпіс пад пагадненьнямі аб ліквідацыі савецкай імпэрыі, ужо праз год публічна выкажа раскаяньне, што прыклаў руку да скасаваньня СССР.

Чалавек, які хадзіў у танным касьцюме і стаптаных чаравіках і асабіста для сябе ўзяў ад улады ў параўнаньні са сваімі неабмежаванымі магчымасьцямі даволі мала, дазволіць свайму атачэньню, дый увогуле чынавенству красьці гэтак нахаб-

на і ў такіх памерах, што тэма карупцыі ў масавай сьвядомасьці зробіцца галоўнай праблемаю.

Старшыня Савету міністраў, які ў жніўні 1991-га здольны рызыкаваць сваёй пасадай, які мог выйсьці перад дэпутатамі і заявіць пра адстаўку (разумеючы, што яна можа быць і прынятая), у 1994-м, апантаны жаданьнем захаваць сваю ўладу, прымусіць падкантрольную яму дэпутацкую большасьць увесьці прэзыдэнцтва, што дазволіць на доўгія гады прыйсьці на гэтую пасаду чалавеку, для якога асабістая ўлада ёсьць каштоўнасьцю вышэйшаю за чалавечыя жыцьці палітычных апанэнтаў…

Як укласьці гэтыя супярэчлівыя, дыямэтральна супрацьлеглыя палітычныя ўчынкі ў біяграфію аднаго чалавека? Чаму адбыліся яны не на працягу жыцьця (што было б натуральна: на пераломе фармацыяў людзі часта і абсалютна шчыра мяняюць погляды) — а літаральна за два гады?

Я доўга шукаў для сябе тлумачэньне гэтых мэтамарфозаў, і — да моманту прачытаньня мэмуараў былога прэм’ера — не знаходзіў адказу.

Мэмуары Вячаслава Кебіча «Искушение властью» выйшлі ў 2008 годзе ў Менску ў выдавецтве «Парадокс».

Гэтая кніжка прымусіла мяне зьдзівіцца двойчы. Першы раз— шчырасьцю прызнаньняў аўтара. Другі — тым, што гэтыя прызнаньні прайшлі практычна незаўважанымі, непракамэнтаванымі палітыкамі ды журналістамі. А таксама гісторыкамі — хоць інфармацыя, выкладзеная аўтарам, прымушае паглядзець на падзеі вызначальнага для лёсу сучаснай Беларусі пэрыяду пад іншым ракурсам.

Былы прэм’ер неаднаразова ўзгадвае аўтара гэтых радкоў у нэгатыўным сьвятле, але прыемна, што ўрывак з маёй кнігі «Сем гадоў Адраджэньня, альбо Фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988-1995)» (Варшава-Прага, 2006) — ці не адзіны абзац па-беларуску ва ўсім расейскамоўным выданьні. Адказваю Вячаславу Францавічу падобна, але не зусім так: вытрымкі зь ягонай кнігі я таксама падаю па-беларуску, але ў перакладзе.

Папярэджваю, што цытаты будуць вялікія, затое зь мінімумам камэнтаваньня. Нагадаю, што Кебіч узначальваў урад краіны, яе выканаўчую ўладу. Зрэшты, ён сьцьвярджае, што Шушкевіч «быў намінальным кіраўніком дзяржавы, а рэальныя рычагі кіраваньня эканомікай знаходзіліся ў старшыні Савету міністраў» (стар. 228). Пра тое, што кіраваў гэтымі рычагамі Вячаслаў Францавіч у інтарэсах Масквы, у 1991-1994 гадах парлямэнцкая Апазыцыя БНФ казала ці ня ў кожнай заяве, але шмат каму такія абвінавачаньні падаваліся неаб’ектыўнымі ці значна перабольшанымі.

А дарэмна.

## Масква «слухае» Шушкевіча

Вось Кебіч прыгадвае размову з кіраўніком расейскага ўраду Чарнамырдзіным у часе перамоваў пра ўвядзеньне расейскага рубля ў якасьці адзінага плацёжнага сродку на тэрыторыі Беларусі (студзень 1994 году): «Віктар Чарнамырдзін распавёў мне, што расейскія спэцслужбы перахапілі сакрэтную размову Станіслава Багданкевіча са Станіславам Шушкевічам... Шушкевіч быў няўхільны: падпісваць пагадненьне я табе катэгарычна забараняю!» (стар. 383).

Інфармацыя пра тое, што ўрадавая сувязь праслухоўваецца спэцслужбай іншай дзяржавы — гэта ў якой заўгодна краіне скандал на ўзроўні як мінімум парлямэнцкага абмеркаваньня (зь верагоднымі адстаўкамі цэлага ланцугу кіраўнікоў адпаведных ведамстваў, начальнікаў контравыведкі). Нічога падобнага ў 1994 годзе ня здарылася.

Прачытаўшы мэмуары Кебіча, у траўні 20100 я патэлефанаваў Станіславу Шушкевічу і запытаўся, ці распавёў Кебіч яму пра тую гаворку. «Не», — быў адказ.

Такім чынам, старшыня ўраду даведваецца, што спэцслужба іншай дзяржавы праслухоўвае тэлефонныя размовы (па ўрадавай сувязі!) найвышэйшай службовай асобы ягонай дзяржавы (у дадзеным выпадку — з кіраўніком Нацыянальнага банку) і — маўчыць.

Значыць, Лубянка (ці Ясенева, дзе месьцілася зьнешняя выведка) працягвала слухаць Шушкевіча. І, пэўна ж, ня толькі яго.

Застаецца здагадвацца, якія яшчэ сакрэты беларускай дзяржавы ведалі расейскія спэцслужбы.

## «Золата партыі»

Прызнаюся, да кнігі Кебіча я насьцярожана ўспрымаў інфармацыю пра «золата КПСС», якое пасьля ліквідацыі кампартыі бясьсьледна зьнікла, адносіў падобнае да кансьпіралягічных тэорыяў ды сюжэтаў таннага чытва. Але Кебіч сьцьвярджае, што КПСС удалося схаваць гіганцкія сродкі.

«Золата партыі» ўсё ж існавала, — піша Кебіч. — Тэрмін «золата», вядома ж, ня трэба разумець толькі ў літаральным сэнсе. Відавочна, існавалі

недзе і партыйныя скарбы ў натуральных залатых зьлітках. Але найперш гаворка ідзе пра фінансавыя авуары, раскіданыя па ўсім сьвеце.

Мне прапаноўвалі стаць адным з захавальнікаў часткі гэтай глыбокай таямніцы. У адзін з трывожных перабудовачных дзён, калі стала зразумела, што КПСС, як легендарны «Тытанік», наткнуўшыся на айсбэрг дэмакратыі, пойдзе на дно (верагодна, гаворка ідзе пра 1990-1991 гады — С.Н.), мне патэлефанавала пляменьніца былога першага сакратара Маскоўскага гаркаму КПСС Грышына, папрасіла прыехаць для сур'ёзнай размовы. Я быў знаёмы з гэтай жанчынай, ведаў, што яна карыстаецца вялікім уплывам у найвышэйшых партыйных колах, і таму паставіўся да запрашэньня сур'ёзна. На сустрэчы, якая праходзіла на адной з прыватных кватэраў ва ўмовах падвышанай сакрэтнасьці, ішла размова якраз пра тое, што рабіць зь фінансамі КПСС, якія рана ці позна маглі дастацца ворагам. Прапаноўваліся самыя розныя варыянты: ад частковага абнаяўленьня і захоўваньня ў нумарных сэйфах швэйцарскіх банкаў, набыцьця на падстаўных асобаў акцыяў і аблігацыяў да інвэставаньня ў розныя камэрцыйныя праекты. Памеры гэтага своеасаблівага запасу, калі лічыць з дакладнасьцю да слана, ацэньваліся прыблізна ў 400-500 мільярдаў амэрыканскіх даляраў, — паведамляе Кебіч і ўдакладняе: — У «золаце партыі» была пэўная частка сродкаў і КПБ» (стар. 147).

Далей Кебіч піша, што адмовіўся, і прызнае, што «гэтыя грошы былі патаемна ўзятыя ў народу, хоць у момант эканамічнага крызісу маглі адыграць не апошнюю ролю ў стабілізацыі абстаноўкі і, магчыма, нават дапамагчы захаваць Савецкі Саюз» (стар. 148).

Пакінем роздумы пра лёс Савецкага Саюзу Кебічу, але што бясспрэчна — тыя велізарныя сродкі маглі б істотна дапамагчы ўзьняцца з каленяў эканоміцы сувэрэннай, незалежнай Беларусі.

Я пацікавіўся ў прафэсара Станіслава Багданкевіча, якім чынам можна найбольш аб'ектыўна ацаніць (хай і досыць умоўна) долю Беларусі ў нейкім агульнасаюзным здабытку (напрыклад, у тых самых «партыйных грошах»)? Багданкевіч лічыць, што трэба зыходзіць з прапорцыі насельніцтва БССР і СССР. Калі лічыць, што доля насельніцтва Беларусі складала прыблізна тры адсоткі ад агульнасаюзнага, і паводле такой прапорцыі вымяраць «беларускую» частку гіганцкай ценявой партыйнай касы (могуць быць і іншыя, больш выгодныя для Беларусі сыстэмы падлікаў, але возьмем самую сьціплую), дык доля Беларусі ад сумы, якую назваў Кебіч, складае мінімум 12-15 мільярдаў даляраў.

Гэтая сума ў некалькі разоў перавышала гадавыя бюджэты Беларусі на пачатку 1990-х гадоў (нават праз дваццаць гадоў мэтаю Нацыянальнага банку было павялічыць золатавалютныя рэзэрвы да 6 мільярдаў даляраў).

У часе свайго прэм'ерства (1990-1994 гады) пра тыя магчымасьці Кебіч не сказаў ні слова. Баяўся? Магчыма.

Але, думаецца, спэцслужбы Беларусі былі здольныя, у выпадку патрэбы, гарантаваць бясьпеку для Кебіча — калі б ён узьняў тэму вяртаньня краіне таго, што, як сам прызнаецца, было забрана ў беларускага народу і, значыць, належала яму па праву.

Мяркую, прычынай маўчаньня быў ня клопат пра ўласную бясьпеку.

І Кебіч захаваў ня толькі гэтую таямніцу. Бо, як вынікае зь ягоных мэмуараў, рабіў гэта прафэсійна.

А прафэсія ў Вячаслава Францавіча была — не дырэктар заводу, сакратар абкаму ці старшыня Савету міністраў. Прафэсія была — як піша сам Кебіч — разьведчык.

## Размова з капітанам Івановым

«Працуючы на заводзе інжынэрам, аднойчы я атрымаў позву, якая патрабавала зьявіцца ў Камітэт дзяржаўнай бясьпекі... Капітан Іваноў (і цяпер памятаю ягонае прозьвішча) запрасіў да сябе ў кабінэт і без усякіх разважаньняў сказаў:

— Мы за вамі назіраем яшчэ са студэнцкіх часоў. Ведаем, што чалавек вы ідэйна вытрыманы, добра падрыхтаваны. Інстытут закончылі з чырвоным дыплёмам. Такія людзі нам патрэбныя. Запрашаем вас на службу ў Камітэт дзяржаўнай бясьпекі.

Убачыўшы маю нерашучасьць, прапанаваў:

— З адказам не прысьпешваю. Падумайце. Але падумайце добра!

Па апошніх ягоных словах я зразумеў: адхіляць падобныя прапановы не прынята. Але ўсё ж зь нейкай паважнай прычыны адмовіўся. Даведаўшыся пра маё рашэньне, Іваноў з усьмешкай сказаў:

— Ну што ж, працуйце. Сустрэнемся пазьней!

І праз паўгода мяне паклікалі на трохмесячныя курсы вывучэньня крыптаграфіі, якія праводзіліся па лініі Галоўнага ўпраўленьня выведкі. І пайшло-паехала! Праз паўгода — новыя трохмесячныя зборы і званьне лейтэнанта; праз год — яшчэ адны і званьне капітана...» (стар. 256-266).

## Заданьне, пра якое ня ведалі нават у ЦК КПБ

На пачатку 1960-х гадоў Хрушчоў ініцыяваў рашэньне Прэзыдыюму ЦК КПСС, якое выводзіла партыйную намэнклятуру з-пад кантролю КДБ. Ня толькі камуністычныя кіраўнікі, але і іхнія сямейнікі, пачынаючы ад першага сакратара райкаму партыі і вышэй не маглі быць узятыя ў апэратыўную распрацоўку альбо завэрбаваныя КДБ. Гэты загад ня быў скасаваны і наступнымі кіраўнікамі.

У дачыненьні да тых, хто спачатку быў завэрбаваны, а потым пайшоў па «партыйнай лесьвіцы», напэўна, маглі дзейнічаць іншыя правілы.

«Праз шмат гадоў, у 1984-м, калі я ўжо быў другім сакратаром Менскага абкаму партыі, мне давялося апошні раз прыгадаць пра *сваю прафэсію разьведчыка* (вылучана мной — С.Н.). Трэба было выявіць аднаго здрадніка, які акапаўся ў Заходняй Нямеччыне. Сытуацыя нечым нагадвала тую, што ў фільме «Мёртвый сезон»... І тады мяне па лініі ЦК КПСС накіравалі ў ФРГ на чале дэлегацыі для абмену вопытам з кампартыяй адной з фэдэральных земляў. Пра сапраўдны характар гэтай місіі ня ведаў ніхто нават у ЦК КПБ. Заданьне я выканаў. Больш падрабязна ў дэталі гэтай апэрацыі паглыбляцца ня буду. Хаця даўно ўжо няма той дзяржавы, якой я прысягаў, і падпіска аб неразгалошваньні страціла сваю сілу, але ёсьць унутраны абавязак. Я не разумею тых людзей, якія, зьняўшы мундзір, сьпяшаюцца ў палітычных мэтах разбалбатаць усе службовыя таямніцы... Я такім чынам аўтарытэт сабе ніколі не набываў. Дарэчы, і мундзір з гэтай прычыны таксама ніколі не апранаў, хаця маю права яго насіць. Ён вісіць у мяне

дома як памяць пра маю незвычайную вайсковую службу» (стар. 267-268).

Адзначу, што, знаходзячыся ў адстаўцы ці ў запасе, мундзір маюць права насіць толькі кадравыя афіцэры (застаецца толькі здагадвацца, які мундзір вісіць у экс-прэм'ера ў шафе — КДБ ці ГРУ (Галоўнае разведвальнае ўпраўленьне міністэрства абароны СССР, пазьней — Расейскай Фэдэрацыі), бо Вячаслаў Францавіч не ўдакладняе назоў, хоць прыгадвае абедзьве ўстановы — капітан Іваноў запрашаў яго ў КДБ, але крыптаграфію ён вывучаў у ГРУ. Зрэшты, ён патлумачыў, чаму не ўдакладняе — «унутраны абавязак..»).

Усе гэтыя прызнаньні — не фантазіі колішніх палітычных апанэнтаў Кебіча. Ён зрабіў іх сам, і запісаў (альбо надыктаваў), і выдаў накладам для Беларусі гіганцкім — 50 тысяч асобнікаў.

І нічога не застаецца, як зрабіць выснову: у лёсавызначальны пэрыяд фармаваньня беларускай дзяржаўнасьці на чале беларускага ўраду быў кадравы афіцэр спэцслужбы. І гэта шмат што ў дзеяньнях прэм’ер-міністра тлумачыць.

У кнізе нямала розных іншых прызнаньняў. Аўтар даволі падрабязна і, што важна, вельмі шчыра апісвае, сярод іншага, сваё змаганьне зь Беларускім Народным Фронтам і пэрсанальна зь Зянонам Пазьняком. Кебіч раскайваецца ў тым, што падпісаў пагадненьні ў Віскулях («сёньня я зрабіў бы ўсё, каб Белавескага пагадненьня не было», стар. 212), распавядае , як супраціўляўся ўвядзеньню нацыянальнай валюты.

Нарэшце, апагей: на выбарах 1994 году ніякімі супернікамі («па сутнасьці справы») Кебіч і Лукашэнка не былі, а найвялікшай сваёй палітычнай

заслугай аўтар кнігі называе тое, што не дапусьціў да ўлады нацыянальныя, адраджэнскія сілы:

«Цяпер, праз шмат гадоў, я не лічу, што пацярпеў скрышальную паразу. Па сутнасьці справы, мы выступалі з Аляксандрам Лукашэнкам з аднолькавых палітычных пазыцыяў, змагаліся не паміж сабой, а за прэзыдэнцкае крэсла, розьніца была толькі ў падыходах да дасягненьня пастаўленых мэтаў. І таму галоўным вынікам першага туру трэба, мяркую, лічыць паразу стаўленікаў нацыяналістычных сілаў Зянона Пазьняка і Станіслава Шушкевіча. Чый уклад у агульную перамогу над кандыдатамі ад БНФ (Шушкевіч ня быў кандыдатам БНФ — С.Н), мой альбо Аляксандра Лукашэнкі, аказаўся больш важкім, хай вырашыць час» (стар. 433-434).

Кебіч не ўдакладняе, было гэта «заданьнем» ці «ўнутраным абавязкам»...

**6 лістапада.** Прэзыдэнт Расеі Барыс Ельцын падпісвае ўказ аб спыненьні дзейнасьці кампартыі і нацыяналізацыі партыйнай маёмасьці.

**9 лістапада.** Апазыцыя БНФ прымае заяву, у якой канстатуе, што Дэкларацыя аб сувэрэнітэце не выконваецца ў поўным аб'ёме. Адзначаецца, што краіна страчвае час, замест стварэньня інстытутаў дзяржаўнасьці найвышэйшае кіраўніцтва Беларусі ўцягнулася ў ініцыяваны М. Гарбачовым «новаагароўскі працэс» у справе стварэньня канфэдэрацыі. Апазыцыя БНФ пацьвярджае неабходнасьць увядзеньня ўласных грошай, стварэньня незалежнага ад Масквы войска.

**11 лістапада.** Прэзыдэнт Грузіі Зьвіяд Гамсахурдзія абвяшчае нацыяналізацыю маёмасьці ўзброеных сілаў СССР на тэрыторыі Грузіі.

**15 лістапада.** Барыс Ельцын фармуе новы ўрад і прызначае Ягора Гайдара адказным за эканамічныя рэформы.

**25 лістапада.** У Нова-Агарове пад Масквой для абмеркаваньня праекту саюзнай дамовы зьбіраецца Дзяржсавет СССР. «Я перакананы прыхільнік саюзнай дзяржавы», — заяўляе на ім С. Шушкевіч.

**27 лістапада.** Публікуецца апошні варыянт Дамовы аб Саюзе сувэрэнных дзяржаў.

Польшча прынятая ў Раду Эўропы.

# Гімн, які пакуль ня стаў дзяржаўным

У лістападзе 1991-га Васіль Уладзімеравіч Быкаў перадаў мне ліст, якім, паводле ягоных словаў, я мог распарадзіцца па ўласным меркаваньні. Але адзін асобнік (усяго іх было тры, аддрукаваныя на машынцы), ён папрасіў занесьці Іосіфу Сярэдзічу ў «Народную газету», рэдакцыя якой мясьцілася тады ў Доме ўраду. Прачытаўшы, я сказаў, што перадам ліст таксама афіцыйна, з рэгістрацыяй, у сакратарыят Вярхоўнага Савету.

Ліст падпісалі Алесь Адамовіч, Рыгор Барадулін і Васіль Быкаў. Адзін асобнік я занёс у сакратарыят, другі аддаў Сярэдзічу, а трэці пакінуў сабе.

Гэты аркуш цяпер перада мной.

Прозьвішча Быкава ў подпісах на апошнім месцы, паводле альфабэту. Але я зразумеў ужо тады, што пісаў яго Васіль Уладзімеравіч — нават у гэтых некалькіх радках адчуваўся стыль быкаўскай публіцыстыкі.

Гаворка ішла пра гімн новаўтворанай Беларускай дзяржавы:

«Агульнавядома, што без нацыянальнай сымболікі немагчыма пасьпяховае ажыцьцяўленьне высакароднай ідэі самавызначэньня народу. Выдатна, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь нарэшце зразумеў важнасьць у гэтай справе нацыянальна-гістарычнага падыходу, і народу вернуты ягоны гістарычны сьцяг і старажытны герб. Застаецца гімн. Цяпер аб’яўлены конкурс на тэкст

гімну і ягоную музыку. Але ці трэба нам новы, сьвежаствораны, не ахрышчаны часам і гісторыяй каньюнктурны гімн? Ці хутка ён стане аднай з найважнейшых сьвятыняў нацыі? Асабліва калі ў гістарычнай народнай памяці яшчэ велічна гучыць колішні, ахрышчаны нешчасьлівым лёсам (дарэчы, тым, які хрысьціў беларускі народ і саму Рэспубліку Беларусь) гімн на словы Макара Краўцова. А між тым, гэта велічная мэлёдыя і выдатны тэкст. І ня так важна, што некаторыя моманты яго не адэкватныя сучаснай палітыцы Беларусі, што яны, можа, палітычна састарэлыя. Гэта зусім ня той выпадак, калі патрэбная злабадзённасьць. Тэксты гімнаў цывілізаваных краінаў звычайна архаічныя, але яны нязьменна кананічныя, ахрышчаныя крывавай гісторыяй, і ў гэтым іх мастацкая і духоўная сіла.

Мы прапануем узаконіць гімн на словы М. Краўцова, ажыцьцявіўшы тым надзвычай важны дзяржаўны акт на шляху да сапраўднай сувэрэннасьці Рэспублікі Беларусь.

Алесь Адамовіч, Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, 13 лістапада 1991 г.»

Гаворка ішла пра надрукаваны ў 1919 годзе ў газэце «Беларусь» верш «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», які хутка стаў гімнам Беларускай Народнай Рэспублікі, які сьпявалі слуцкія паўстанцы, што ўзьняліся на абарону БНР.

Аўтарам тэксту быў Макар Краўцоў (1891-1939), дэлегат Першага Ўсебеларускага зьезду, аўтар кнігі «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі». Музыку напісаў Уладзімер Тэраўскі (1871-1938), кіраўнік хору, які ў сьнежні 1917 годзе ўдзельнічаў ва ўрачыстым адкрыцьці Першага Ўсебеларускага зьезду, пазьней — галоўны хормайстар БДТ-1 (Ку-

палаўскага тэатру). У 1921-м арыштаваны чэкістамі за антысавецкую дзейнасьць і асуджаны да расстрэлу, які замянілі зьняволеньнем. Абодва арыштоўваліся польскімі акупацыйнымі ўладамі за беларускую нацыянальную дзейнасьць. За тое самае былі схопленыя НКВД. Месца іх расстрэлу і пахаваньня невядомае, але Тэраўскі, верагодна, ляжыць у Курапатах.

Калі Быкаў перадаў мне ліст, у Беларускім Народным Фронце «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» ужо ведалі як гімн БНР. Яшчэ гады тры перад тым мала хто мог сказаць нешта пра яго, як і пра «Пагоню» ды нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг: савецкая прапаганда дзесяцігодзьдзямі вынішчала гістарычную памяць. Тады нацыянальную ідэю (як і нацыянальныя сымбалі) перахоўвала дыяспара, і гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» гучаў на кожнай імпрэзе ў замежных беларускіх асяродках.

Зрэшты, традыцыя не спынілася, ім адкрываюцца многія імпрэзы, у тым ліку і ў Беларусі. А завяршаюцца выкананьнем гімну «Магутны Божа» Міколы Равенскага на словы Натальлі Арсеньневай. На пачатку 1990-х гэты твор таксама называўся як магчымы дзяржаўны гімн Беларусі.

Алесь Адамовіч, які ў юнацтве ваяваў у партызанскім атрадзе, і Рыгор Барадулін, які страціў на вайне бацьку, адказалі тады, у 1991-ым усім тым, хто засьцерагаў ад гімну Краўцова-Тэраўскага на той падставе, што яго «сьпявалі калябаранты».

А праз нейкі час Быкаў, які прайшоў усю вайну з нацыстамі, выкажа стаўленьне і да гімну «Магутны Божа». У сакавіку 2003-га, у Празе, Васіль Уладзімеравіч на ўрачыстым пасяджэньні ў Люстраной залі праскага Клемэнтынуму, прысьвеча-

ным гадавіне БНР, разам з усімі прасьпявае «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і «Магутны Божа» і выступіць з прамовай. Гэта была апошняя публічная прамова Быкава.

Між іншым, у сьвеце ёсьць прыклады суіснаваньня двух гімнаў — дзяржаўнага і духоўнага. Самы вядомы — у Злучаных Штатах Амэрыкі. Там дзяржаўным гімнам зьяўляецца The Star-Spangled Banner («Зорны сьцяг»), а «другім», неафіцыйным — God Bless America («Божа, блаславі Амэрыку». Музыку да яго, дарэчы, напісаў народжаны ў Магілёве Ірвінг Бэрлін.)

У сваёй кнізе «Сем гадоў Адраджэньня...» я выказаў сумнеў, што наўрад ці тады, у лістападзе 1991-га, «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...» мог быць зацьверджаны ў якасьці дзяржаўнага гімну Вярхоўным Саветам: былыя камуністы ўжо ачомаліся ад «пасьляпутчаўскага» шоку і блякавалі прапановы Апазыцыі БНФ. Але з другога боку, эталёны дзяржаўных сымбаляў — «Пагоні» і бел-чырвона-белага сьцяга — былі зацьверджаныя Вярхоўным Саветам яшчэ пазьней, у сьнежні.

Значыць, шанец усё ж быў.

Праўда, каб яго ўрэчаісьціць, прапанову, як мінімум, мусіла падтрымаць «профільная» парлямэнцкая камісія — па адукацыі, культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны. Але яна гэтага не зрабіла, выказаўшыся за правядзеньне конкурсу.

Лёс дзяржаўнага гімну Беларусі склаўся зусім ня так, як прапаноўвалі тры выбітныя пісьменьнікі.

Конкурс цягнуўся некалькі гадоў — пакуль не прыйшоў да ўлады Лукашэнка, і зьняважа нацыянальных каштоўнасьцяў зрабілася часткай дзяржаўнай палітыкі. Пазьней адзін з членаў пар-

лямэнцкай камісіі, Алег Трусаў, у эфіры «Свабоды» скажа, што прычынай валтузьні было жаданьне некаторых паэтаў самімі стаць аўтарамі гімну. Пры гэтым імёнаў Трусаў не назваў. А вось у пачатку 1990-ых дэпутаты ВС называлі толькі адно прозьвішча.

Старшынём камісіі Вярхоўнага Савету па адукацыі, культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны быў Ніл Гілевіч.

Учытаемся ў тэкст Макара Краўцова.

«Гвалту мы дамо адпор», «магутны, сьмелы наш беларускі вольны дух», «на бой!», «браты, цярпелі мы даволі, на бой — усе да аднаго!», «сілу беларуса, няхай пачуе й ўбачыць той, хто сьмее нам чыніць прымусы», «хай гром грыміць яшчэ мацней!» — лексыка, якая выяўляе рашучасьць «народнага руху», які пакрыў «штандар наш белчырвона-белы». Рашучасьць абараніць сваю зямлю, свой гонар, сваю свабоду.

Не магу ўстрымацца ад параляляў і параўнаньня з прынятым пры Лукашэнку дзяржаўным гімнам Рэспублікі Беларусь.

І ўсё ж, пагаджаючыся з трапным вызначэньнем Быкава пра архаічнасьць тэксту гімнаў як іх станоўчую адметнасьць, трэба прадбачыць, што два апошнія радкі гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» ў постлукашэнкаўскай Беларусі набудуць актуальнае гучаньне, канстатуючы цяжкую працу стварэньня дэмакратычнай дзяржавы і — даючы веру ў посьпех.

У крывавых муках мы народзім
Жыцьцё рэспублікі сваёй!

# Cherchez la femme. Из-под Твери

У канцы жніўня, праз некалькі дзён пасьля абвяшчэньня незалежнасьці, дэпутаты Апазыцыі БНФ атрымалі факс з Парыжу. Даслала факс дачка Міхася Навумовіча, аднаго з кіраўнікоў «Хаўрусу» — беларускай суполкі ў Францыі. Гэта былі копіі артыкулаў, надрукаваных у найбуйнейшых францускіх газэтах.

«Беларусь з 20 мільёнамі насельніцтва (так у тэксьце — С.Н.) была таксама захопленая вялікай хваляй незалежніцкіх памкненьняў. Аднак, у адрозьненьне ад Украіны, Беларусь ня мае выразных нацыянальных асаблівасьцяў. Беларуская нацыя ня мае гісторыі. Беларуская мова была створаная ў 1920-я гады савецкімі ўладамі на падставе мясцовых гаворак. І, у выніку іроніі гістарычнага лёсу, калі савецкая ўлада прыдумала гэтую штучную Беларусь, каб аслабіць сапраўдныя нацыі, зраўняўшы іх у становішчы зь іншымі — штучнымі, яна ўрэшце здолела пераканаць беларусаў, што яны існуюць як нацыя. У 1991 годзе Беларусь хоча быць незалежнаю і нават выстаўляе да сваіх суседзяў тэрытарыяльныя прэтэнзіі, вакол якіх узьнікаюць спрэчкі і нават можа загаварыць зброя…»

Гэтыя радкі былі надрукаваныя 28 жніўня ў газэце «Le Figaro» і належалі Элен Карэр д'Анкос.

А за дзень да гэтага, 27 жніўня, на сваёй першай старонцы ня менш знакамітая і ўплывовая «Le Monde» зьмясьціла наступнае:

«Прызнаючы, што для Францыі настаў час удакладніць свой гадзіньнік, спадар Ралян Дзюма (тагачасны міністар замежных справаў Францыі — С.Н.) быў вымушаны ў нядзелю ўвечары прызнаць пэрспэктыву хуткай незалежнасьці балтыйскіх краінаў. Аднак ён дадаў, што патрабаваньні іншых савецкіх рэспублік, якія абвясьцілі ці пацьвердзілі волю да незалежнасьці пасьля няўдалага путчу, выглядаюць праблематычнымі. Але ж як, напрыклад, можна заўтра адмовіць у незалежнасьці Ўкраіне, калі гэтая рэспубліка з волі Сталіна і празь недагляд Захаду ўжо мае месца сярод Аб’яднаных Нацыяў? Тое самае, дарэчы, і зь Беларусьсю, нацыянальныя асаблівасьці якой больш чым сумнеўныя».

Мы перадалі факсы рэдактару газэты «Свабода» Ігару Герменчуку, і на старонках газэты зьявіўся камэнтар, дзе адзначалася, што «французы ставяць свой «гадзіньнік» на Гарбачова й Ельцына. І яшчэ, магчыма, на лідэраў балтыйскіх дзяржаваў. А ў Беларусі яны не разгледзелі «нацыянальных асаблівасьцяў». Тлумачэньне наіўнае. Францыя шукае сабе геапалітычных партнэраў і, паставіўшы на Гарбачова й Ельцына, будзе цяпер ва ўгоду ім абплёўваць і Беларусь, і Украіну гэтаксама, як яшчэ паўгода таму плявала на Летуву» (Свабода, №12, верасень 1991 г).

У гэтым камэнтары Сяргея Паўлоўскага (псэўданім Сяргея Дубаўца) усё слушна, хіба што трэба зрабіць адно ўдакладненьне: такую пазыцыю займала ў тыя дні ня толькі Францыя, але і ўсе вядучыя краіны Захаду. Гэта можна было б патлумачыць разгубленасьцю заходніх палітыкаў у першыя дні пасьля абвяшчэньня незалежнасьці (яны такога не чакалі), але і ў наступныя тыд-

ні і нават месяцы такое стаўленьне практычна не зьмянілася.

Пазьней сталі вядомымі пратаколы гутарак заходніх лідэраў зь Міхаілам Гарбачовым, і яны цалкам разбураюць міт, нібыта Захад і асабліва ЗША былі зацікаўленыя ў распадзе СССР.

«Я нядаўна чуў заяву Ўкраіны пра тое, што яна хоча ўвесьці ўласную валюту. Наступствы гэтага былі б жахлівыя» (старшыня Камісіі эўрапейскіх супольнасьцяў Жак Дэлёр, 19 ліпеня 1990 г.).

«Важна пазьбягаць дзеяньняў, якія б стваралі на Захадзе адчуваньне таго, быццам СССР вось-вось разваліцца на канглямэрат асобных рэспублік» (канцлер Нямеччыны Гельмут Коль, 5 ліпеня 1990 г.).

«У рэспублік Савецкага Саюзу зараз ёсьць унікальны шанец пазьбегчы фазы адасабленьня нацыянальных дзяржаваў і адразу ступіць у эпоху канфэдэратыўных формаў дзяржаўнага жыцьця» (міністар замежных справаў Нямеччыны Ганс-Дытрых Геншэр, 9 верасьня 1991 г.).

«Эўропа імкнецца да аб’яднаньня, а вы шукаеце якія заўгодна нагоды, каб разьяднацца. Гэта парадаксальна і ня можа быць нічым апраўдана» (той самы Геншэр, 26 кастрычніка 1991 г.).

«Казахстан як такі — гэта нонсэнс. Аддзяленьне — гэта абсурд» (прэм’ер-міністар Гішпаніі Фэліпэ Гансалес, 29 кастрычніка 1991 г.).

«Мы маем кантакты з рэспублікамі, імкнучыся, каб яны не падрывалі Вашыя (Гарбачова — С.Н.) пазыцыі» (прэзыдэнт ЗША Джордж Буш, 29 кастрычніка 1991 г.).

«Я разважаю абсалютна холадна: у інтарэсах Францыі, каб на ўсходзе Эўропы існавала цэнтральная сіла… Я з тых, хто хоча мець у Вашай

асобе моцнага партнэра — новы Саюз. Інакш што — Расея, Украіна, Беларусь, Грузія, нейкія яшчэ дзяржавы?.. Францыя ня будзе спрыяць цэнтрабежным сілам. І, я думаю, на такіх пазыцыях стаяць усе старыя эўрапейскія краіны з даўняй гісторыяй, у якіх старажытныя традыцыі і глыбокі эўрапейскі досьвед. Я маю на ўвазе Англію, Францыю, Гішпанію, Партугалію…» (прэзыдэнт Францыі Франсуа Мітэран, 30 кастрычніка 1991 г.).

І вось яшчэ словы Мітэрана на той самай сустрэчы ў цытаваньні прэсавага сакратара Гарбачова: «Вы можаце не сумнявацца: Францыя ніколі, ні пры якіх умовах ня будзе заахвочваць разбурэньня Савецкага Саюзу» (Андрей Грачёв, «Кремлёвская хроника», Москва, 1994).

«Для мяне няма сумневаў у неабходнасьці захаваньня Саюзу як моцнай дзяржавы. Гэта ў інтарэсах і Гішпаніі, і Эўразьвязу, і ўсяго Захаду. Рэальна Джордж Буш ня хоча развалу Савецкага Саюзу. Больш за тое. Ён на Захадзе — найбольш сур'ёзны і пасьлядоўны прыхільнік, разам з Бэйкерам (дзяржсакратар ЗША — С.Н.), захаваньня Савецкага Саюзу, ён усьвядоміў неабходнасьць гэтага... Дзіўнаватыя школьніцкія разважаньні некаторых маіх калегаў, якія сур'ёзна гавораць пра гэты дрэнны жарт — права нацыяў на самавызначэньне. Нам патрэбны Гарбачоў, і нам патрэбны стабільны, моцны інстытут прэзыдэнта СССР» (прэм'ер-міністар Гішпаніі Фэліпэ Гансалес, 30 кастрычніка 1991 г.).

Гэтыя рэплікі стануць нам вядомыя толькі праз дваццаць гадоў, але халоднае (калі не сказаць — варожае) стаўленьне да незалежнай Беларусі мы, дэпутаты Вярхоўнага Савету, у тыя дні адчувалі добра.

Аднак трэба сказаць, што ў наступныя гады незалежнасьці мы ўбачылі шчырую зацікаўленасьць дыпляматаў, якія першыя прадстаўлялі свае краіны ў Беларусі. Найперш, амбасадараў Польшчы — Альжбеты Смулковай, ЗША — Дэйвіда Сўорца, Італіі — Джанлюкі Бэртынэта, Францыі — Клёда Жаліфа, Турэччыны — Тансу Акандана, Вялікабрытаніі — Джона Эвэрарда, Індыі — Шуклы Рамэша Чандры, Ізраілю — Элі Валка. Іх зацікаўленасьць у тым, каб Беларусь інтэгравалася ў усясьветную супольнасьць была для нас палітычнай і маральнай падтрымкай.

А тады, увосень 91-га, у «Народнай газеце» я надрукаваў артыкул «Блякада. Ці пераадолеем яе?», дзе закранаў чарнобыльскую праблему: «Нас напаткаў яшчэ адзін удар, нанесены экспэртамі МАГАТЭ, якія ў вачах сусьветнага грамадзтва паставілі чарнобыльскую трагедыю на ўзровень падзеі, ня вартай асаблівай увагі». А таксама — і тэму СМІ: «Спрыяць прарыву блякады магло б БелТА — адзінае дзяржаўнае агенцтва. Аднак па сёньняшні дзень уся інфармацыя зь Менску фільтруецца праз замежны аддзел ТАСС, і можна ўявіць, у якой інтэрпрэтацыі яна выходзіць з маскоўскіх офісаў на Ройтэрз альбо Асошыэйтэд прэс. Значыць, трэба шукаць прамыя кантакты зь міжнароднымі агенцтвамі. Мэтазгодна было б адкрыць у Менску філіял беларускай рэдакцыі Радыё Свабода, якое мае мільёны слухачоў па ўсім сьвеце. Нарэшце, у той самай Маскве ёсьць дзясяткі карэспандэнцкіх пунктаў ледзь ня ўсіх уплывовых выданьняў, журналісты якіх вымушаны карыстацца ТАССаўскай стужкай і (я пераканаўся на ўласным досьведзе) вельмі ўдзячныя за апэратыўную інфармацыю зь першых рук. Дарэчы, і

«Народная газета» — парлямэнцкае выданьне суврэннай Беларусі — магло б мець сваіх карэспандэнтаў у найбуйнейшых дзяржавах сьвету: напачатку ў Парыжы, Нью-Ёрку і суседняй Варшаве».

Артыкул быў надрукаваны 4 кастрычніка, і слова, вынесенае ў назву «блякада», потым часта выкарыстоўвалася і ў прэсе, і на сэсіях Вярхоўнага Савету.

А праз некалькі тыдняў, у лістападзе, мне давялося самому памацаць муры той блякады вакол Беларусі. І адчуць, як ставіліся ў тыя дні на Захадзе да новаабвешчанай краіны.

Разам са здымачнай групай фільму, які рабілі Аляксандар Лукашук і Юры Гарулёў, некалькі лістападаўскіх дзён мы правялі ў Парыжы. Адразу заўважу, што Вярхоўнаму Савету, увогуле дзяржаўнаму бюджэту тая паездка не каштавала ніводнага франка. Нас найперш цікавіла тэма ядзернай энэргетыкі (у Францыі, як вядома, разьвітая атамная энэргетыка, але і моцны антыядзерны рух), але кіраўнік «Хаўрусу» Лявон Шыманец, малодшы брат Івонкі Сурвілы, якая тады яшчэ не была старшынёй Рады БНР, падрыхтаваў для нас разнастайную праграму.

Сярод іншага, каб распавесьці пра Беларусь, наведалі мы рэдакцыі двух найбуйнейшых выданьняў — «Libération» і «Le Figaro».

У «Libération» нам з Аляксандрам Лукашуком наладзілі экскурсію — я ўпершыню патрапіў у рэдакцыю заходняга выданьня, і ўсё было ў навіну. У «Le Figaro» была сустрэча толькі з рэдактарам аднаго аддзелу, затое вельмі важнага — міжнароднага.

Недзе каля гадзіны я распавядаў, што мы, беларусы, абвясьцілі незалежнасьць, што БНФ дамага-

ецца беларускага войска і беларускіх грошай, што «саюзнае кіраўніцтва» — ня больш чым фантом і яму засталіся лічаныя месяцы (тут я памыліўся — лік ішоў на дні), што Савецкага Саюзу хутка ня будзе — уласна, яго і цяпер няма, таму што былыя рэспублікі ператварыліся ў незалежныя дзяржавы.

Сказаць, што француські журналіст слухаў мяне зь недаверам — значна спрасьціць гаму эмоцыяў, якія чыталіся на ягоным твары. Мае словы ён успрымаў так, як бы я распавядаў, што днямі ў Менску высадзіцца цэлая эскадрыльля міжплянэтных караблёў, і тады беларусы ўступяць зь імі ў кантакт, што, натуральна, зьменіць усё жыцьцё беларусаў. Тэарэтычна — магчыма? Магчыма. Але чалавеку, які зьбіраецца плянаваць жыцьцё з улікам кантакту з іншаплянэтнікамі, месца не ў парлямэнце...

Здаецца, апошнім пытаньнем, якое задалі мне ў «Le Figaro», было:

«А як вы пры ўсім, што вы тут нагаварылі, прадбачыце палітычную будучыню Міхаіла Гарбачова?» — «Адстаўка». — адказаў я.

На гэтым размова была скончаная, з намі разьвіталіся, і мы пакінулі будынак адной з найстарэйшых французскіх газэтаў. Натуральна, у наступныя дні ня мела сэнсу шукаць на яе старонках сваё інтэрвію — усё, пра што я казаў, было, пэўна, аднесенае да катэгорыі ненавуковай фантастыкі. Праз месяц інфармацыю пра адстаўку Гарбачова «Le Figaro» надрукуе на першай паласе як сэнсацыю.

Пасьля «Le Figaro» мы наведалі фірму, якая займалася вытворчасьцю каштоўных папераў, і вось там нам паказалі тое, што ўжо мне падалося

фантастычным — хаця пра гэтую «фантастыку» я сам неаднойчы казаў з трыбуны парлямэнту.

У той фірме (напэўна, яе трэба называць карпарацыяй), дзе мы апынуліся па пратэкцыі аднаго вельмі паважнага бізнэсоўца (у мінулым знакамітага лётчыка, які адным зь першых пасадзіў самалёт на палубу эсьмінца), нам паказалі рэч незвычайную. Але перад гэтым з нас узялі слова, што мы на працягу бліжэйшых двух гадоў нідзе ня скажам пра гэта публічна. Просьба тлумачылася дадзеным замоўцу абяцаньнем замоўніку трымаць у сакрэце факт замовы. Але ў нас, прадстаўніках сілы, якая, як лічылі ў карпарацыі, абавязкова прыйдзе да ўлады, яны таксама бачылі патэнцыйных замоўцаў.

Нам далі альбом — кшталту тых, у якіх захоўваюць фатаздымкі. Толькі замест іх тут былі грошы. Дакладней, будучыя грошы — украінскія грыўні.

Прычым не эскізы, а ўжо аддрукаваныя экзэмпляры.

Мы, дэпутаты БНФ, дамагаліся ўвядзеньня нацыянальнай валюты, але ні Шушкевіч, ні Кебіч увосень 1991-га не жадалі пра яе і чуць. У суседняй Украіне мара Вячаслава Чарнавіла ды іншых лідэраў «Руху» ператваралася ў рэальнасьць, і яе, гэтую рэальнасьць, можна было ўзяць у рукі. Зразумела, што ўкраінскія грошы францускай фірме замаўляла найвышэйшае кіраўніцтва Ўкраіны.

Я вяртаў альбом з адчуваньнем зайздрасьці да ўкраінцаў.

Выглядае, што тут умелі пралічыць будучыню значна больш дакладна, чым у адміністрацыі Мітэрана альбо ў аўтарытэтных парыскіх выданьнях.

Па вяртаньні ў Менск я распавёў пра грыўні Пазьняку. Як і абяцалі, мы нідзе не казалі пра гэта публічна, але насядалі на Вярхоўны Савет з патрабаваньнем увесьці нацыянальную валюту зь яшчэ большым імпэтам.

Між іншым, Лявон Шыманец тады сказаў нам, што аўтарка артыкулу ў «Le Monde» Элен Карэр д'Анкос — мадам у Францыі вельмі аўтарытэтная. Яна нават увайшла ў лік «бесьсьмяротных», як называюць у Францыі чальцоў Акадэміі, што была заснаваная яшчэ кардыналам Рышэльс. Урэшце яна стала пажыцьцёвым сакратаром Акадэміі — першай жанчынай на такой пасадзе ў гісторыі гэтай інстытуцыі. Але ў інтэрнэце найчасьцей прыгадваюць мадам Карэр д'Анкос у сувязі зь яе візытамі ў Маскву, а артыкул пра яе ў французскай Вікіпэдыі на момант, калі я пішу гэтыя радкі, ілюструецца ўсяго адным фатаздымкам побач з Уладзімерам Пуціным. Апрача трох ордэнаў Ганаровага легіёну, мадам узнагароджаная расейскім ордэнам Гонару. А ў біяграфіі пазначаецца, што адзін з продкаў мадам Карэр д'Анкос графскага паходжаньня, з Расеі, аднекуль з-пад Цьвяры.

…У Парыжы мы пасяліліся ў самым цэнтры, на вуліцы Гравіе, 65, у доме XVII стагодзьдзя, з вузкай стромкай лесьвіцай, па якой, магчыма Д'Артаньян мог прабірацца да сваёй мадам Банасье... Але для беларусаў той дом каштоўны не літаратурнымі рэмінісцэнцыямі. Начавалі мы ў кватэры, якая дзесяцігодзьдзямі была цэнтрам беларускага жыцьця ў Францыі. У 1991-м гэта ўжо быў адзін сярэдняга памеру пакой, але раней ён быў падзелены на два маленькія. Калісьці тут жыў старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык, пазьней — знакаміты рэлігійны дзяяч Леў Гарошка. Тут беларусы зьбіраліся на

багаслужбы, тут адзначалі дзень 25 сакавіка, гадавіны Слуцкага паўстаньня. Тут друкавалася беларуская газэта «За волю». Тут месьціўся «Хаўрус» — згуртаваньне беларусаў Францыі, тут перахоўваўся ягоны архіў, ягоная бібліятэка, у якой былі і кнігі, падпісаныя Васілём Быкавым. (Пазьней, у 2006-м, каталіцкая місія, якой належала кватэра, прапануе беларусам яе выкупіць, і Лявон Шыманец зьвернецца ў гэтай справе да дыпляматаў з амбасады Рэспублікі Беларусь. Хай бы кватэра належала амбасадзе, маглі б сяліць камандзіровачных ці здаваць за сымбалічную плату практыкантам зь Беларусі. Прадстаўнік беларускай амбасады, ветлівы, з афіцэрскай выпраўкай, адкажа, што «это место для нас совершенно не представляет интереса».)

У адзін зь вечароў Лявон Шыманец запрасіў нас з Аляксандрам Лукашуком у свой дом у мястэчку Сартрувіль. Пазьней я пабываю ў дзясятках гасьцінных беларускіх дамоў на чужыне — але той дом Шыманцоў пад Парыжам быў для мяне першым домам беларускай дыяспары.

Лявон прывёз нас да сябе адвячоркам, нас ужо чакалі ягоная маці спадарыня Эвэліна і жонка.

Гаспадаром быў Лявон, але ў сьценах (ці, больш дакладна — на сьценах) адчувалася прысутнасьць іншага, старэйшага гаспадара, ягонага бацькі, які калісьці з дапамогай жонкі, дзяцей і сяброў самастойна пабудаваў увесь дом. Палотны Ўладзімера Шыманца былі паўсюль — з выявамі старажытных беларускіх храмаў, зь беларускімі краявідамі, партрэтамі беларусаў. Можна было б сказаць, што маляваньне было для Шыманца-старэйшага хобі — каб ён не дасягнуў у ім, як на мой погляд,

майстэрства. Ці, можа, гэта было для яго спосабам вяртацца — няхай так — на Бацькаўшчыну?

У Беларусь, калі мець на ўвазе геаграфічнае паняцьце, Уладзімер Шыманец пасьля вымушанага ад'езду ў 1944-м так і не вярнуўся, але ён ніколі не разьвітваўся з Бацькаўшчынай: сям'я яшчэ не пасьпявала атабарыцца ў новай краіне, а ён ужо ўключаўся ў беларускае жыцьцё. Уладзімер Шыманец быў міністрам фінансаў ва ўрадзе БНР за часамі прэзыдэнцтва Міколы Абрамчыка, выступаў арганізатарам шмат якіх беларускіх імпрэзаў у Парыжы.

І, вядома, нельга не сказаць пра знакамітыя маркі БНР, якія былі зробленыя паводле эскізаў Уладзімера Шыманца: з выявай «Пагоні», партрэтамі Пётры Крачэўскага і Васіля Захаркі, з этнічнай мапай Беларусі. Філятэлісты мяне папрявяць і скажуць, што іх не зусім можна называць маркамі, паколькі яны выдадзеныя не ў адпаведнасьці з усімі міжнароднымі правіламі... Думаю, што праблема лёгка вырашыцца перавыданьнем марак Шыманца (як і ранейшых марак БНР) у незалежнай і ўжо дэмакратычнай Беларусі.

Спадарыні Эвэліне Шыманец было за восемдзесят, але яна распавядала пра жыцьцё ў Беларусі так, нібыта гэта было не паўстагодзьдзя таму, а ўчора. Казала, што для яе вялікае шчасьце дажыць да часоў, калі Беларусь стала незалежнай, і асабліва эмацыйна гаварыла пра дзяржаўнасьць бел-чырвона-белага сьцяга і «Пагоні». Прыгадала спадарыня Эвэліна і дачку Івонку, якая пераняла ад бацькі талент маляваньня, мае дзьвюх прыгожых і разумных дачок і жыве з мужам Янкам у Канадзе. (Ніхто тады ня мог падумаць, што праз шэсьць гадоў Івонка будзе абраная старшынёй Рады БНР.)

Як і ў папярэднія дзясяткі гадоў, беларуская дыяспара ў Францыі — цяпер пераважна ў асобах Лявона Шыманца і Міхася Навумовіча — прадстаўляла інтарэсы Бацькаўшчыны, і яны, гэтыя інтарэсы, разыходзіліся з мэтамі савецкіх дыпляматаў. Дыпляматы ў 1991-м былі савецкія і арыентаваліся на Маскву — інакш і быць не магло, бо беларускай амбасады ў Францыі не існавала. Як, зрэшты, і ў іншых краінах.

Інфармацыйную блякаду трэба было прабіваць нетрадыцыйнымі спосабамі.

У рэдакцыях «Libération» і «Le Figaro» нам сказалі, што калі б кіраўніцтва Беларусі правяло ў Менску прэсавую канфэрэнцыю для замежных журналістаў (такога ніколі ў беларускай сталіцы не было), дык яны (гэтаксама як і ўсе ўплывовыя заходнія выданьні) накіравалі б туды сваіх карэспандэнтаў. Былі і іншыя прапановы, зь якімі адразу па вяртаньні я прыйшоў да Шушкевіча.

Гэта, напэўна, была нашая самая кароткая гутарка. Дакладней, мой маналёг доўжыўся некалькі хвілінаў, а вось кіраўнік дзяржавы, якой жыцьцёва неабходна было заявіць пра сябе сьвету, сказаў толькі адну фразу.

Шмат куды больш важных эпізодаў той восені 1991-га сьцерліся з памяці, а вось тая сустрэча зафіксавалася ў дэталях. Шушкевіч узьняўся з-за пісьмовага стала, падышоў да вокнаў, што выходзілі на слаба асьветленую плошчу Леніна. Выслухаўшы ўсе мае прапановы, Станіслаў Станіслававіч павярнуўся да мяне і адказаў: «Ведаеце, я прыблізна гэтак уплываю на сродкі масавай інфармацыі і іншае, пра што вы тут кажаце, як уплывае на іх сьвятло Месяца».

Што тут дадаць? Словы фізыка.

# «...і ўвесьці сваю валюту — беларускі талер»

Неяк я пачуў ад знаёмага: «Ці не надакучыла табе пісаць пра дзевяностыя гады? Той час ужо — гісторыя. Ёсьць жа і актуальныя тэмы».

Сапраўды — чаму я вяртаюся да таго часу? Ці толькі ў тым прычына, што ў сучаснай афіцыйнай беларускай гістарыяграфіі і публіцыстыцы гэтая тэма — табу, і маладым часам проста няма адкуль даведацца пра нядаўнюю гісторыю сваёй краіны? Ці толькі ў тым, што менавіта ў 1991-м адбылася найважнейшая падзея ў гісторыі беларускага народу — абвяшчэньне дзяржаўнай незалежнасьці, падзея, да якой мы, дэпутаты БНФ, мелі непасрэднае дачыненьне?

Адказаць на такое пытаньне паспрабую, узяўшы ў прыклад клясыкаў — аўтараў так званай «ваеннай прозы».

Пакаленьне, якое прайшло вайну — я маю на ўвазе тых, хто потым браўся за пяро, — абірала для сваіх твораў розныя тэмы, але ўрэшце вярталася да вайны, і самыя лепшыя творы Алеся Адамовіча, Васіля Быкава, Георгія Бакланава, Віктара Някрасава — на ваенную тэму. Тут, вядома, можна шмат разважаць пра тое, што экстрэмальныя сытуацыі, якія на вайне здараюцца ці не штодня, давалі багаты матэрыял для раскрыцьця характараў і дачыненьняў, ня кажучы ўжо пра сюжэтныя павароты. Усё гэта так. Але, падаецца, былі і псыхалягічныя прычыны.

Напрыканцы жыцьця яны казалі, што вайна — самае галоўнае, што было ў іхнім лёсе. Найперш, вядома, з прычыны перамогі над тым, у чым яны бачылі абсалютнае зло — над фашызмам. У травеньскія дні 1945-га яны адчувалі сябе ўдзельнікамі сапраўды гістарычнага дасягненьня, ад посьпеху якога — і гэта не гіпэрбала — залежаў лёс чалавецтва. Дні тыя яны прыгадвалі як самыя шчасьлівыя: зьнікла неймавернае напружаньне, адчуваньне штодзённай, штохвіліннай рызыкі, і зьявілася пачуцьцё свабоды — такой, якой яны ніколі ня зьведалі ў жыцьці. Але — толькі пачуцьцё. Як выявілася, вельмі кароткае.

Празь дзесяцігодзьдзі Быкавым было сказана: «Атрымаўшы перамогу, мы не здабылі свабоды». Зразумела, пісьменьнік меў на ўвазе мэтафізычны кантэкст, свабоду распараджацца сваім лёсам, так, як маглі ім распараджацца іхнія «калегі па перамозе» — брытанскія, амэрыканскія, францускія салдаты ды афіцэры. Савецкія ж пераможцы заставаліся пад ціскам начальства, пад кантролем НКВД, пад уплывам ідэалёгіі.

Цікавую спробу вырвацца з-пад такога ціску (спробу вельмі кароткую) прыгадвае ў сваіх мэмуарах паэт Аляксандар Дракахруст (ён выдаваў кнігі лірыкі, але самыя пранікнёныя радкі, на мой погляд, напісаў ва ўспамінах пра вайну). У траўні 1945-га некалькі савецкіх афіцэраў, ап’янелыя ад паветра перамогі (а можа, і ня толькі паветрам), прыхапіўшы маладых лекарак, рванулі на аўтамашынах з Бэрліну ў Парыж. Іх там сустракалі як герояў, і можна толькі ўявіць, якія тосты гучалі ў іх гонар на Шанзэлізэ — ды «парыскія канікулы» хутка абарваліся: нехта з савецкай місіі іх «застукаў» і куды трэба «настукаў». Па вайско-



Праект
уносіцца Апазіцыяй
БНФ у ВС Беларусі

Пастанова
Вярхоўнага Савета Рэспублікі
Беларусь
«Аб стварэнні грашовай
сістэмы Рэспублікі Беларусь»

Кіруючыся Канстытуцыйнымі законамі Рэспублікі Беларусь — Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Савету Міністраў, Нацыянальнаму банку Рэспублікі Беларусь неадкладна прыступіць да стварэння нацыянальнай грашовай сістэмы і ўвядзення уласнай валюты Рэспублікі Беларусь.
2. Савету Міністраў, Нацыянальнаму банку з мэтай абароны інтарэсаў насельніцтва з 1 студзеня 1992 года ўвесці купонную сістэму на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.
3. Пастанова ўступае ў дзеянне з моманту прыняцця.

Старшыня Вярхоўнага Савета — С. Шушкевіч

Праект пастановы Вярхоўнага Савету аб увядзеньні ўласных грошай, напісаны Зянонам Пазьняком.

вых частках зачыталі загад маршала Георгія Жукава: афіцэраў разжалавалі, лекарак выгналі. Але, прыгадвае Аляксандар Дракахруст, гэты загад ён слухаў з адчуваньнем зайздрасьці. Бо «самаволь-

шчыкі» сапраўды глынулі свабоды — як кажуць, на поўныя грудзі.

Думаю, што зайздрасьць — хоць на некалькі сэкундаў — не абмінула ў момант падпісаньня і маршала Жукава. Які, нягледзячы на сваю неабмежаваную ўладу з правам распараджацца лёсамі сотняў тысяч, насамрэч быў гэткі ж несвабодны, як лейтэнанты і маёры. І ўжо значна лепей за афіцэраў, на прыкладзе колішніх сваіх знаёмцаў, уяўляў няпэўнасьць лёсаў пры сталінскім кіраўніцтве: сёньня ты — маршал на трыбуне Маўзалею, а заўтра лейтэнант НКВД у падвале Лубянкі выбівае табе зубы.

Аляксандар Дракахруст перакананы, што тыя «самавольшчыкі» прыгадвалі дні сваіх уцёкаў як самыя шчасьлівыя дні жыцьця.

Дык вось, нешта падобнае адчувалі і мы ў жніўні 1991 году. І таксама прыгадваем тыя дні як самыя шчасьлівыя і — вельмі кароткія.

Дый ня толькі мы, дэпутаты БНФ.

У сярэдзіне верасьня 91-га рэдакцыя «ЛіМу» прапанавала сваім чытачам адказаць на пытаньне: якія першачарговыя крокі патрэбныя для ўсталяваньня сапраўднага сувэрэнітэту Беларусі?

Адказы адлюстроўваюць настроі тых дзён.

Валянцін Падаляцкі, інжынэр-электронік, 45 гадоў, Менск: «У першую чаргу ўзаконіць прыватную ўласнасьць, тэрмінова прыняць закон аб грамадзянстве, распусьціць гэты склад Вярхоўнага Савету... Ня ўводзіць прэзыдэнцкую, а захаваць парлямэнцкую форму кіраваньня. Прапаную правесьці выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі 7 лістапада».

Янка Бурак, музыкант, 25 гадоў, г. Менск: «Новы закон аб выбарах і новы парлямэнт...»

Уладзімер Цупранаў, інжынэр-канструктар: «Назоў дзяржавы! Адсюль пачуцьцё нацыянальнай сьвядомасьці, незалежнасьці. Калі ў нас сапраўднае адраджэньне, дык трэба вярнуць гістарычную назву нашай Бацькаўшчыне — «Літва». Калі ж пакідаць расейскае «Беларусь», «Белая Русь» — дык трэба такое адраджэньне лічыць ад пачатку стагодзьдзя і сьцьвярджаць гэтым, што мы — маладзенькая дзяржава, якая ніколі ня мела ні Вітаўта, ні Каліноўскага. Калі ў нас ёсьць гонар і розум, канчаткова трэба вярнуць усё на свае месцы. А калі не — дык застанемся тутэйшымі. Другі крок — нацыянальна-эканамічная праграма. І яшчэ — важкі «шкілет дзяржаўнасьці», каб не задзьмула нас ні з Усходу, ні з Захаду».

Васіль Базылеўскі, інжынэр, 33 гады, Менск: «Зрабіць беларускую мову рабочай у Вярхоўным Савеце...»

Лідзія Валько, 50 гадоў, Баранавічы: «Выбраць Зянона Пазьняка старшынём Вярхоўнага Савету рэспублікі. Кандыдатуру Станіслава Шушкевіча адмаўляю».

Эдуард Валасевіч, пісьменьнік, 72 гады, Менск: «Эканамічны саюз з Расеяй, бо рэспубліка ня выцягне адна гаспадарчы крызіс. Што тычыцца аспэктаў адміністрацыйнага і палітычнага, дык тут — поўны сувэрэнітэт. Калі хопіць сродкаў, утрымліваць нацыянальнае войска. Вырашыць пытаньне дзяржаўнай мяжы, памежнай службы, мытні...»

Анатоль Мяльгуй, журналіст, 33 гады, Менск: «У першую чаргу праз тэлебачаньне, радыё і друк разгарнуць кампанію па прапагандзе ідэі незалежнасьці Беларусі. Палітычныя лідэры зь лічбамі і дакладнымі фармулёўкамі павінны растлумачыць

насельніцтву Беларусі, што дасьць сувэрэнітэт кожнаму з нас...»

Пятро Коўдзель, будаўнік, 36 гадоў, Даўгаўпілс, Латвійская Рэспубліка: «Як мага хутчэй трэба выходзіць з Савецкага Саюзу. Для ўсталяваньня сувэрэнітэту Беларусі можна ўзяць лепшыя законы сакавіка 1918 году, калі была абвешчана БНР, і кіравацца імі ў сваёй дзейнасьці. Паслаць у парлямэнт больш такіх людзей, як Зянон Пазьняк».

Ніна Ўдарава, інжынэр, працоўная пэнсіянэрка, 56 гадоў, г. Менск: «…Хоць я руская па нацыянальнасьці, а муж мой — паляк, нам крыўдна за людзей, якія ня могуць зразумець, што Беларусь — наш дом, і мова беларуская мусіць быць сьвятой для ўсіх, хто жыве ў гэтым доме».

Аляксандар Пігін, інжынэр, 46 гадоў, Менск: «Трэба найперш пазбавіцца ад трох мітаў. Першы міт — пра Чарнобыль. На ўсіх пасяджэньнях, з усіх трыбун лямантуюць, што мы ня выжывем, бо нас спасьцігла чарнобыльская бяда, і толькі з дапамогай Савецкага Саюзу мы адолеем гэтую навалу. Другі міт — пра тое, што мы наагул загінем без Расеі».

Мікола Бусел, настаўнік, вёска Дуброва Сьветлагорскага раёну: «Нельга навучыцца плаваць, ня трапіўшы ў ваду. Трэба аддзяляцца, тады ўсё пачне працаваць на Беларусь, на незалежнасьць. Гэта — па-першае. Па-другое, наш паратунак — жорсткае змаганьне з антынацыянальнай гідрай».

Напэўна, з адлегласьці часу некаторыя з гэтых прапановаў камусьці могуць падацца наіўнымі, але іх аўтары выявілі сапраўднае дзяржаўнае мысьленьне — нашмат глыбейшае, чым у тагачасных кіраўнікоў Вярхоўнага Савету і рэгіёнаў. Апошнія проста няздольныя былі ўсьвядоміць сябе паліты-

камі незалежнай дзяржавы. А некаторыя і вельмі пашкадавалі пра рашэньні, прынятыя 25 жніўня.

І вось красамоўны прыклад.

Вышэй я ўжо падаваў тэкст заявы, якую ў канцы жніўня, адразу пасьля абвяшчэньня незалежнасьці, прыняла Апазыцыя БНФ — з заклікам да былых камуністаў далучацца да стварэньня сувэрэннай дзяржавы. Ніхто з былых функцыянэраў КПБ ці ЛКСМБ у БНФ — а менавіта Фронт быў тады авангардам у справе стварэньня сувэрэннай дзяржавы — не прыйшоў. Што да іхняга стаўленьня да новаўтворанай дзяржавы, дык яно было выказанае ў пастанове Гомельскага абласнога Савету народных дэпутатаў, якім працягваў кіраваць наш даўні апанэнт Вайцянкоў, які 19—21 жніўня актыўна падтрымаў ГКЧП. Празь дзевяць дзён пасьля абвяшчэньня незалежнасьці, 4 верасьня, абласны Савет крытыкаваў Вярхоўны Савет — за прыняцьце гэтай самай незалежнасьці:

«На апошняй сэсіі Вярхоўнага Савету БССР дэпутаты прынялі шэраг лёсавызначальных для рэспублікі рашэньняў без таго, каб параіцца з народам. У першую чаргу гэта тычыцца закону аб самастойнасьці Беларусі і, па сутнасьці, нэгатыўнага стаўленьня да падпісаньня саюзнай дамовы. Пры абмеркаваньні гэтых пытаньняў былі праігнараваныя вынікі ўсенароднага рэфэрэндуму аб захаваньні абноўленага Саюзу ССР. У сувязі з гэтым Гомельскі абласны Савет народных дэпутатаў вырашыў:

Патрабаваць ад Вярхоўнага Савету БССР захаваньня дэмакратыі і правоў беларускага народу пры прыняцьці найбольш важных рашэньняў, якія датычаць у першую чаргу дзяржаўнага пераўтварэньня.

Лічыць неабходным абавязковае правядзеньне агульнанародных рэфэрэндумаў па ўсіх буйных пытаньнях будучага Беларусі.

Старшыня абласнога Савету М.Г. Вайцянкоў».

16 верасьня 1991 году намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету Васіль Шаладонаў наклаў на гэты дакумэнт рэзалюцыю: «Памножыць і раздаць народным дэпутатам».

Сёньня тая гомельская пастанова можа быць моцным аргумэнтам у спрэчцы з тымі, хто кажа, што калі б не прынялі рашэньня 25 жніўня — нікуды б ня дзеліся, прынялі б праз месяц ці тры.

Не праз месяц ці тры месяцы — нават праз тыдзень абвяшчэньне незалежнасьці магло б не прайсьці, калі б мы не запатрабавалі скліканьня нечарговай сэсіі і ня выціснулі з камуністычнай большасьці рашэньня надаць Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статус канстытуцыйнага закону. (Гомельскія кіраўнікі нават ня здолелі правільна назваць гэты закон.) Прыняцьце ў верасьні нацыянальных сымбаляў у якасьці дзяржаўных і ратыфікацыя ў сьнежні Віскулёўскіх пагадненьняў былі непасрэдным вынікам таго рашэньня 25 жніўня. Не было б Сэсіі Незалежнасьці — не было б нічога.

Я ўвогуле не выключаю, што БССР магла ўвайсьці ў склад Расеі ці стварыць, па сутнасьці, канфэдэрацыю з падпарадкаваньнем Маскве (што і прапаноўваў Гарбачоў увосень 1991-га і з чым фактычна пагаджаўся Шушкевіч). Ва ўсякім разе, у такім варыянце мне бачыцца менш дзіўнага, чым у прэзыдэнце, які, замест таго каб мацаваць сувэрэнітэт, пачаў ствараць «саюзную дзяржаву».

Але вернемся ў восень 1991-га.

Беларусь імкліва страчвала час — з кожным днём рабілася ўсё больш відавочнай неабход-

насьць увесьці свае грошы і стварыць уласнае войска. Гэта было яшчэ больш надзённым з улікам палітыкі, якую праводзіла ў дачыненьні да былых саюзных рэспублік кіраўніцтва Расеі — палітыкі наступальнай і цынічнай.

Красамоўны эпізод прыводзіць у сваёй кнізе Андрэй Грачоў, прэсавы сакратар Міхаіла Гарбачова, калі апісвае пасяджэньне дзяржсавету ў Маскве з удзелам кіраўнікоў рэспублік. Аўтар цытуе словы Ельцына:

«Пры падпісаньні эканамічнага пагадненьня мы падлічылі, што ў пераліку на сусьветныя кошты ўзаемных абавязаньняў паміж Украінай і Расеяй розьніца на нашу карысьць павінна скласьці 80 мільярдаў даляраў. Калі Ўкраіна пагодзіцца ўвайсьці ў Саюз — можам на гэтую пазыку забыцца, калі не — хай плацяць, — сказаў ён і ухмыльнуўся, задаволены створаным эфэктам» (Андрей Грачёв, «Кремлёвская хроника», Москва, 1994).

У прынцыпе, калі разабрацца, дык, па вялікім рахунку, Ельцын дзейнічаў у поўнай адпаведнасьці з інтарэсамі сваёй краіны і свайго народу. Ён ня быў абавязаны дбаць пра інтарэсы іншых дзяржаваў — там ёсьць свае кіраўнікі і свае парлямэнты. Небясьпека была ў тым, што кіраўніцтва Беларусі пра інтарэсы свайго народу ня дбала.

Той час спарадзіў такія звыродлівыя зьявы і гэтак перакруціў паняцьці, што праз гады чалавеку, незнаёмаму з рэаліямі тых дзён, шмат што падасца абсурдным.

Ну, напрыклад — чаму мы выступалі супраць вывазу харчовых і прамысловых тавараў за межы Беларусі? Бо, здавалася б, экспарт — гэта крыніца папаўненьня бюджэту, кожная краіна зацікаўле-

ная, каб зь яе як мага больш вывозілі, пакідаючы ў ёй грошы.

Вось менавіта — грошы. Увосень жа 1991-га савецкія рублі, хоць яшчэ не зазналі той інфляцыі, якая пачнецца праз некалькі месяцаў, але ўжо не выконвалі клясычнай функцыі грошай, якімі можна аплаціць набыцьцё тавараў. Бо ў крамах не было чаго купляць. Мая жонка, вяртаючыся з працы і бачачы нейкую чаргу, станавілася ў яе і толькі потым пыталася: а што даюць? Часам давалі лямпачкі, часам — посуд ці якую драбязу. А вось набыць мэблю, напрыклад, не было ніякай магчымасьці. Гандляры (ці, як іх называлі, «спэкулянты») з паўднёвых рэспублік (дый ня толькі адтуль) прывозілі ў Беларусь валізы грошай і па дамове з кіраўнікамі гандлёвых арганізацый скуплялі ўсё, што маглі.

Таму беларускія грошы (ці, як тады казалі, «уласная валюта») былі для нас ня толькі нейкай абстракцыяй, атрыбутам дзяржаўнасьці — але і надзённай патрэбай.

Ня менш драматычнай выглядала і сытуацыя з так званым савецкім войскам.

Беларусь павінна была ўтрымліваць шматтысячнае войска, якое ёй не належала і падпарадкоўвалася Маскве. Прапановы дэпутатаў БНФ у верасьні, кастрычніку і лістападзе разгледзець на сэсіі пытаньне аб стварэньні ўласнага Міністэрства абароны адкідаліся. Ня кажучы ўжо пра фактар небясьпекі для сувэрэнітэту (вайскоўцы не былі прыведзеныя да прысягі на вернасьць Беларусі), гэта быў вялізны бюджэтны цяжар. Намер Крамля фінансаваць савецкае войска мог увесьці ў зман толькі наіўных людзей: фінансавалі б, натуральна, абясцэненымі рублямі.

Таму мы штодня (я не перабольшваю — штодня) настойвалі на неадкладным вырашэньні дзьвюх першачарговых задач. Іх у маладой дзяржавы было шмат, але мы вызначалі дзьве неадкладныя: увядзеньне ўласных грошай і стварэньне беларускага войска зь Міністэрствам абароны. Пытаньні ўтрыманьня (і вываду) вайсковых падразьдзяленьняў, якія не падпарадкоўваліся б Менску, павінна было вырашацца асобнымі пагадненьнямі. (Тут Беларусь магла б запатрабаваць за ўтрыманьне валюту альбо паліва.)

Ні ў якіх сваіх прапановах мы не знаходзілі дапамогі ў старшыні Вярхоўнага Савету. Станіслаў Шушкевіч ніколі (падкрэсьліваю — ніколі) не падтрымаў пытаньня сваёй валюты і ўласнага войска пры ўнясеньні іх у парадак дня спачатку адной, а потым другой восеньскай сэсіяў. Наадварот, ён уцягнуўся ў так званы «новаагароўскі працэс», рэгулярна езьдзіў у Нова-Агарова, дзе Гарбачоў спрабаваў рэанімаваць «абноўлены саюз».

Вось што піша пра пасяджэньне у Нова-Агарове 14 лістапада сьведка: «Ельцын нагадаў пра Украіну: «Трэба было б нешта для іх прадугледзець, нейкую магчымасьць далучэньня. Бо калі яны створаць свае ўзброеныя сілы і ўвядуць сваю валюту, дык ужо ня вернуцца». — «А ў канфэдэрацыю Украіна б пайшла», — летуценна працягнуў Шушкевіч. Ён жа прапанаваў яшчэ больш гнуткі кампраміс: «Давайце пачнем з канфэдэрацыі, а потым давядзем яе да фэдэрацыі» (Андрей Грачёв, «Кремлёвская хроника», Москва, 1994).

Але такая пазыцыя Шушкевіча — гэта было б паўбяды, калі б не суцэльны супраціў ідэям БНФ з боку так званых «мясцовых кіраўнікоў» у рэгіёнах. Працытаваная раней пастанова Гомельскага

аблсавету — толькі адзін прыклад актыўнага нежаданьня рабіць Беларусь незалежнай дзяржавай. Як бачым, пачалося гэта зь першых жа дзён пасьля абвяшчэньня незалежнасьці.

І тут я бачу некалькі прычынаў.

Першая — небеларускасьць чынавенства. У адрозьненьне ад рэспублік Балтыі, дзе кіраўнікі кампартыяў калі ня самі ўзначалілі рух за незалежнасьць, дык актыўна спрыялі яму (дастаткова прыгадаць Альгірдаса Бразаўскаса, які прапанаваў правесьці ўстаноўчы зьезд БНФ у Вільні), у Беларусі сярод партыйнага кіраўніцтва практычна не было нацыянал-камуністаў. У нейкім інтэрвію былы сакратар Менскага гаркаму партыі Пётра Краўчанка сказаў, што сярод высокай намэнклятуры нацыянальна арыентаваных сакратароў было два — ён і сакратар Віцебскага абкаму Іосіф Навумчык (вядома, словы пра «нацыянальную арыентацыю» тут трэба ўспрымаць з пэўнымі агаворкамі). Былога загадчыка сэктару літаратуры ЦК КПБ Сяргея Законьнікава прызначылі рэдактарам «Полымя», былога члена ЦК КПБ, старшыню Дзяржтэлерадыё Генадзя Бураўкіна адаслалі далей — ажно ў Нью-Ёрк, прадстаўніком БССР у ААН. Прызначылі міністрам замежных справаў і Краўчанку. Сакратар ЦК КПБ Аляксандар Кузьмін, які сымпатызаваў Быкаву, Адамовічу і Караткевічу, пасьля канфлікту са Сьлюньковым з-за Чарнобылю быў даўно адпраўлены на пэнсію.

Да моманту прыпыненьня дзейнасьці КПБ-КПСС у жніўні 1991-га партыйны апарат быў ня проста дэнацыяналізаваны — ён адмоўна і агрэсіўна ўспрымаў саму ідэю стварэньня незалежнай Беларускай дзяржавы.

І другі фактар, пра які, здаецца, ніхто ніколі не казаў, але які, на маю думку, адыграў немалую ролю ў найноўшай беларускай гісторыі.

Структура і практыка кіраўніцтва, якая складалася дзесяцігодзьдзямі — і на ўзроўні Менску, і ў рэгіёнах — была наступная: партыйны орган (ЦК, абкам, гаркам, райкам) прымаў рашэньні, а выканаўчы орган (Саўмін, аблвыканкам, гарвыканкам, райвыканкам) іх выконваў. Досьвед прыняцьця рашэньняў, адказнасьць за гэтыя рашэньні, калі хочаце — самастойнасьць, здольнасьць да рызыкі ў сакратароў абкамаў ці райкамаў была значна большая, чым у старшыняў аблвыканкамаў ці райвыканкамаў. Вячаслаў Кебіч хоць і прыйшоў калісьці ў Саўмін з пасады сакратара Менскага абкаму, але на ўзроўні рэспублікі заставаўся выканаўцам рашэньняў, якія прымалі ў ЦК.

І вось пры канцы жніўня 1991-га ЦК, абкамы, гаркамы ды райкамы былі ліквідаваныя. Ніхто з партыйных кіраўнікоў не застаўся бяз працы — але, у большасьці, яны перайшлі ў апарат выканкамаў на невысокія пасады (напрыклад, былы першы сакратар ЦК КПБ Анатоль Малафееў стаў начальнікам аднаго з упраўленьняў Саўміну — пасада ніжэйшая, чым намесьнік міністра). Кіраваць і Беларусьсю, і рэгіёнамі пачалі людзі, якія прызвычаіліся выконваць чужыя загады. Але аддаваць загады не было каму. І новыя кіраўнікі пачалі чакаць загадаў з Масквы. Але там быў ненавісны ім Гарбачоў і страшны Ельцын, які прыстукнуў кампартыю.

Намэнклятура разгубілася.

Але пра яе разгубленасьць можна казаць толькі датычна стаўленьня да інтарэсаў маладой дзяржавы (хоць тут больш пасуе іншае слова — абыяка-

васьць). У сэнсе ж асабістага ўзбагачэньня намэнклятура якраз выявіла актыўнасьць: тут яна мела багаты досьвед.

І пасьля жніўня 1991-га, страціўшы кантроль над сабой з боку партыйных камітэтаў, чынавенства з выканаўчых структураў рэалізавала свой «гаспадарчы навык» напоўніцу — на карысьць асабістага ўзбагачэньня. Ствараліся фірмы, куды пераводзілася дзяржаўная маёмасьць. За капейкі акцыянаваліся (зразумела, пры ўдзеле чынавенства) прадпрыемствы. Сёстры, жонкі, дзеці, пляменьнікі, нават бацькі-пэнсіянэры чыноўнікаў рабіліся бізнэсоўцамі і ўладальнікамі ўчора яшчэ дзяржаўнай маёмасьці. Шмат якія буйныя фірмы ды карпарацыі часоў Лукашэнкі ўзьняліся на глебе той «намэнклятурнай» прыватызацыі, якую людзі называлі «прыхватызацыяй».

Мы бачылі, што намэнклятура ачуняла ад «пасьляпутчаўскага» шоку, перагрупавалася і ўмацоўвае свае пазыцыі, пры гэтым не зьбіраючыся і пальцам варухнуць дзеля ўмацаваньня дзяржаўнасьці.

Перада мной — чатыры старонкі тэксту Заявы апазыцыі БНФ ад 6 лістапада 1991 г. Гэта — другі ня вельмі выразны экзэмпляр машынапісу, у тэкст унесеныя папраўкі ад рукі (почырк нібыта Валянціна Голубева). Уверсе алоўкам пазначана — «Праект», почырк, адназначна, Пазьняка. У мяне няма падпісанай копіі заявы ці газэтнай выразкі — таму цытую гэты машынапіс; думаю, ён і быў канчатковым варыянтам. У кожным разе, гэта гістарычны дакумэнт, які адлюстроўвае атмасфэру той восені.

«Настаў крытычны час для нашай Бацькаўшчыны — Беларусі. 25 жніўня перамаглі дэмакра-

тычныя ідэі Народнага Фронту і яго прыхільнікаў, але ўсе структуры кіраваньня, уся ўлада ў Беларусі засталіся, як і раней, поўнасьцю ў руках камуністычнай намэнклятуры. Савет міністраў, узначалены былым членам бюро ЦК КПБ Вячаславам Кебічам, бязьдзейнічае і праводзіць вузкую эгаістычную палітыку ў інтарэсах кіруючай групы людзей і былога партапарату, ажыцьцяўляе незаконную прыватызацыю дзяржаўнай маёмасьці, ня дбаючы пра народ, яго сацыяльна-эканамічнае становішча, будучыню і сувэрэнітэт Беларускай дзяржавы...

Ні Савет міністраў, ні Вярхоўны Савет, нягледзячы на прапановы дэпутацкай Апазыцыі БНФ, не зрабілі нічога дзеля таго, каб падрыхтаваць выпуск беларускіх грошай, стварыць нацыянальную фінансава-крэдытную сыстэму, зрабіць захады, каб абараніць таварны рынак, запабегчы гіпэрінфляцыі, нястрымнаму росту цэнаў, вывазу прадуктаў і прамысловых вырабаў зь Беларусі. Доўжыліся размовы і ашуканства.

У выніку Беларусь апынулася ў хвасьце палітыкі Расеі і балтыйскіх краінаў, стала залежнай ад разбуральных працэсаў у эканоміцы гэтых рэспублік, ад падвышэньня цэнаў і эканамічнага шантажу, стала аплачваць цаной працы свайго народу балячкі чужога грамадзтва, жывіць маскоўскіх спэкулянтаў, паўднёвыя мафіі, рынак Польшчы, Латвіі і Літвы. Урад ня змог забясьпечыць насельніцтва нават па талёнах, якія выпусьціў дзеля гарантаванага разьмеркаваньня.

Апазыцыя БНФ лічыць, што неабходна як найхутчэй вызначыць сацыяльную будучыню і статус савецкага войска ў Рэспубліцы, падыходзячы да яго з пазыцыі закону і павагі правоў чалавека.

Аднак намэнклятурныя Вярхоўны Савет і Савет міністраў аказаліся няздольнымі своечасова вырашыць пытаньні часовага знаходжаньня савецкай арміі на тэрыторыі Беларусі, стварэньня беларускага войска, вайсковага міністэрства і тым самым паставілі Рэспубліку перад абліччам вайскова-сацыяльнага абвалу, грамадзкага канфлікту і страты незалежнасьці...

Першым чынам павінен будзе пайсьці ў адстаўку ўрад разам з прэм'ерам В. Кебічам. Трэба стварыць новы ўрад народнага даверу. Народ можа атрымаць магчымасьць ужыць ціск на Вярхоўны Савет, патрабуючы неадкладнага прыняцьця новага дэмакратычнага закону аб выбарах, які даўно ўжо падрыхтаваны Апазыцыяй БНФ, і прызначэньня нечарговых выбараў у прафэсійны беларускі парлямэнт.

Калі ж ізноў усё застанецца незразуметым і будзе адкінутае, тады можна тэрмінова прыступіць да падрыхтоўкі і ўсенароднага рэфэрэндуму па гэтых пытаньнях — адстаўка ўраду, роспуск Вярхоўнага Савету, нечарговыя выбары, а заадно — перадача маёмасьці КПБ-КПСС-ЛКСМБ народу (дзяржаве) і спыненьне дзейнасьці КПБ-КПСС.

Самы вялікі наш грамадзкі набытак, які ігнаравалі камуністы і ня цэніць кіроўная намэнклятура — гэта незалежная дзяржава. Маючы незалежную дзяржаву, зьбярогшы і ўсталяваўшы дзяржаўны сувэрэнітэт, народ можа забясьпечыць сабе сацыяльную, культурную і гістарычную будучыню, ажыцьцявіць эканамічныя і палітычныя пераўтварэньні, памножыць дабрабыт.

Выходзячы з крызісу, нам трэба рухацца да рынкавай эканомікі, усталяваўшы раўнапраўнасьць усіх формаў уласнасьці. Мы павінны пачынаць

на гэтым шляху зь вёскі, ратуючы сельскую гаспадарку і сялянаў, збалянсаваўшы падаткі і цэны, гарантуючы законам права ўласнасьці на зямлю і на тэхнічнае забесьпячэньне. Мы павінны праводзіць такую прыватызацыю дзяржаўнай маёмасьці, такі пераход да рынку, які забясьпечваў бы роўныя стартавыя магчымасьці для ўсіх грамадзянаў Беларусі. Мы павінны захаваць наш таварны рынак, эканоміку ад разбурэньня і ўвесьці сваю валюту — беларускі талер, а на падрыхтоўчы пэрыяд — пераходныя грошы (купоны). Мы павінны ажыцьцявіць канцэпцыю незалежнай Беларускай дзяржавы як свабоднай эўрапейскай краіны. Нам трэба ўнікаць усялякіх саюзаў і супольнасьцяў, што вядуць да рэанімацыі СССР, да стварэньня ўнітарнай дзяржавы, да эканамічнай залежнасьці Беларусі, пазбаўляцца ад вынікаў бальшавіцкага імпэрыялізму і савецкага каляніялізму. Мы павінны ажыцьцяўляць канцэпцыю актыўнай, партнэрскай, накіраванай ва ўсе бакі міжнароднай палітыкі, каб дасягнуць міжнароднага прызнаньня і супрацоўніцтва. Нам, імкнучыся да нэўтральнай бязьядзернай дзяржавы, трэба ажыцьцяўляць сваю палітыку на аснове двухбаковых, а ня блёкавых пагадненьняў, нам трэба гандляваць».

Гэтая заява была напісаная 6 лістапада; яе апошні пададзены тут абзац — фактычна міні-праграма першачарговых крокаў будаўніцтва сувэрэннай дзяржавы і выхаду з крызісу. Але літаральна пад кожны тэзіс гэтай праграмы мы, Апазыцыя БНФ, мелі ўжо распрацаваныя законапраекты, якія прапаноўвалі Вярхоўнаму Савету. І толькі некаторыя палажэньні ўдавалася зь вялікімі цяжкасьцямі правесьці. Большасьць дэпутатаў не хацела рабіцца парлямэнтам сувэрэннай краіны.

# Сьнежань

**1 сьнежня. Ва Ўкраіне адбываецца рэфэрэндум пра падтрымку «Акту аб абвяшчэньні незалежнасьці Ўкраіны». 90,32 адсоткаў галасуюць «за».**

**4 сьнежня. Большасьць дэпутатаў, нягледзячы на пратэсты дэпутатаў Апазыцыі БНФ, падтрымліваюць пазыцыю старшыні ВС С. Шушкевіча і выказваюцца за падпісаньне «саюзнай дамовы».**

**5 сьнежня . На запрашэньне дэпутатаў БНФ С. Шушкевіч наведвае пасяджэньне Апазыцыі БНФ і выказваецца за саюзную дамову і супраць стварэньня ўласнага войска.**

**7 сьнежня. У Беларусь прыбываюць прэзыдэнт Расеі Барыс Ельцын і прэзыдэнт Украіны Леанід Краўчук. Ельцын выступае перад дэпутатамі Вярхоўнага Савету.**

8 сьнежня. У Віскулях Б. Ельцын, Г. Бурбуліс, Л. Краўчук, В. Фокін, С. Шушкевіч і В. Кебіч канстатуюць, што СССР спыняе існаваньне і заяўляюць пра стварэньне Садружнасьці Незалежных Дзяржаў (СНД).

10 сьнежня. Вярхоўны Савет Беларусі ратыфікуе «белавескія пагадненьні». Супраць галасуе адзін дэпутат — былы сакратар ЦК КПБ Валер Ціхіня.

16 сьнежня. Казахстан абвяшчае незалежнасьць.

21 сьнежня. У Алма-Аце зьбіраюцца кіраўнікі былых рэспублік СССР. У складзе беларускай дэлегацыі — С. Шушкевіч, В. Кебіч, П. Краўчанка. З. Пазьняк. Да СНД далучаюцца Азербайджан, Арменія, Казахстан, Кіргізстан, Малдова. Таджыкістан, Туркменістан, Узьбекістан. Канчаткова канстатуецца ліквідацыя СССР.

23 сьнежня. Лідэр лібэральна-дэмакратычнай партыі Расеі У. Жырыноўскі спрабуе прайсьці ў Вярхоўны Савет Беларусі, але дэпутаты спускаюць яго зь лесьвіцы. Жырыноўскі атрымлівае на БТ эфір, у часе якога выступае супраць незалежнасьці Беларусі.

25 сьнежня. Прэзыдэнт СССР Міхаіл Гарбачоў падае ў адстаўку.

ЗША прызнаюць незалежнасьць Армэніі, Беларусі, Казахстану, Расеі і Украіны.

28 сьнежня. Беларусь усталёўвае дыпляматычныя адносіны з ЗША.

# Шушкевіч — Пазьняку: «Дазвольце не станавіцца пад вашыя штандары»

Калі раніцай 7 сьнежня 1991 году я выйшаў са свайго дому ў Менску і накіраваўся ў бок аўтобуснага прыпынку, то мусіў спыніцца перад картэжам Ельцына («маскоўскую» трасу ў раёне Ўручча ў той час рэканструявалі, і машыны ехалі ў аб'езд якраз па нашай вуліцы Гінтаўта). Памятаю, падумаў: «Ну вось, яшчэ адна расейская пятля-ўдаўка». Пра візыт Ельцына мы, дэпутаты, ведалі, але нічога добрага ад яго не чакалі. Калі б мне сказалі, што праз пару гадзінаў я апынуся за мэтар ад Ельцына, зусім не зьдзівіўся б: высокія візыцёры ўсё часьцей наведвалі Вярхоўны Савет і выступалі перад дэпутатамі. Але ўявіць, што праз тры дні, 10 сьнежня, мне і маім калегам-дэпутатам выпадзе магчымасьць прагаласаваць за зьнікненьне з мапы сьвету абрэвіятуры «СССР» — не, гэтаму я ня даў бы веры.

Што Савецкі Саюз скончыць сваё існаваньне, я не сумняваўся.

Сапраўды, Беларусь дэ-юрэ ўжо была незалежнай дзяржавай; незалежнасьць абвясьцілі і большасьць іншых савецкіх рэспублік. І што такое цяпер «Савецкі Саюз» — пра гэта ў тым сьнежні наўрад ці мог сказаць і яго прэзыдэнт Міхаіл Гарбачоў. Але паняцьце СССР існавала — апарат прэзыдэнта, міністэрства замежных справаў, нарэшце, вайсковае ведамства… (Праўда, у першыя дні сьнежня Гарбачоў ліквідаваў КДБ, перадаўшы ягоныя функцыі «рэспубліканскім» органам дзяржаў-

най бясьпекі; ды Лубянка, зразумела, засталася на сваім месцы.) Усё гэта ўплывала на сьвядомасьць бальшыні дэпутатаў Вярхоўнага Савету Беларусі, якія ўпарта адмаўляліся ствараць атрыбуты сувэрэннай дзяржавы.

Пра тое, што барацьба з «цэнтрам» і з інэртнасьцю палітычнага мысьленьня парлямэнцкай большасьці можа цягнуцца даволі доўга, сьведчылі паперы, якія я нёс з сабой у «дыплямаце».

Першым назаву ліст, які я напярэдадні атрымаў у сакратарыяце — зварот прэзыдэнта СССР Міхаіла Гарбачова да дэпутатаў парлямэнтаў «саюзных рэспублік».

Яшчэ ў верасьні 1990-га, калі Гарбачоў наклаў рэзалюцыю на мой зварот з просьбай прыняць дэпутатаў-сяброў парлямэнцкай камісіі па расьсьледаваньні замоўчваньня вынікаў Чарнобыльскай катастрофы — рэдактар «Народнай газеты» Іосіф Сярэдзіч адразу надрукаваў і той ліст, і рэзалюцыю на першай паласе як сэнсацыю. Тады Гарбачоў яшчэ меў аўтарытэт і ў СССР, і ў сьвеце.

У лютым 1991-га пра кароткую гутарку з Гарбачовым мяне зь цікавасьцю распытвалі ня толькі беларускія, але і маскоўскія журналісты. Ён усё яшчэ ўспрымаўся як нашчадак Сталіна і Брэжнева на пасадзе генсека, паўнавартасны прэзыдэнт аднэй шостай часткі сьвету, уладар тысячаў ядзерных боегаловак.

Цяпер Гарбачоў цікавіў толькі заходніх палітыкаў, якія мелі ілюзіі адносна захаваньня СССР, і — журналістаў. І, прызнаюся, калі б мне тады выпала магчымасьць зь ім пагутарыць — я не прапусьціў бы такой журналісцкай ўдачы. Але як палітыку, меркаваньне Міхаіла Сяргеевіча мне ўжо было мала цікавае. Такое стаўленьне было і ў іншых

дэпутатаў Апазыцыі БНФ. Прадстаўнікі ж «пераважнай дэпутацкай большасьці», хоць і не маглі дараваць Гарбачову «перабудовы», але ўспрымалі ягоныя спробы аднавіць СССР спачувальна.

«... Я прашу вас, паўнамоцных прадстаўнікоў сваіх народаў, у бліжэйшыя дні абмеркаваць праект Дагавор пра саюз сувэрэнных дзяржаваў і ўхваліць яго.

Яшчэ раз настойліва паўтараю: ня справіцца нам з адраджэньнем грамадзтва, ня выйсьці з крызісу і не злучыцца з цывілізаваным сьветам, горш за тое — не пазьбегнуць агульнай катастрофы, калі мы ня спынім працэс дэзінтэграцыі. Я прашу вас сказаць "так" такой форме раўнапраўнага супрацоўніцтва і ўзаемадзеяньня, якая дазволіць усім нам сумесна — а інакш не атрымаецца — прайсьці вельмі цяжкую і вельмі небясьпечную паласу сваёй агульнай гісторыі.

Дзяржаўны савет у сваім звароце да парлямэнтаў выказаў пажаданьне, каб Дагавор быў падрыхтаваны да падпісаньня ў гэтым годзе. Паўнамоцныя дэлегацыі Вярхоўных Саветаў змогуць канчаткова ўлічыць заўвагі на апошнім этапе працы над Дагаворам, з тым каб нарэшце з падпісаньнем гэтага дакумэнту краіна з палёгкай уздыхнула, набыла вельмі важную кропку апоры і надзею на сумесны рух наперад", —так завяршаў свой зварот Гарбачоў.

Тое, што абмеркаваньне дамовы аб «Саюзе сувэрэнных дзяржаваў» у нашым Вярхоўным Савеце адбудзецца, можна было не сумнявацца: тры папярэднія месяцы большасьць дэпутатаў ігнаравала нашы заклікі не глядзець на Маскву і стаць, нарэшце, палітыкамі самастойнай дзяржавы.

У маім «дыплямаце» былі і пяць старонак, якія напярэдадні даў мне Зянон Пазьняк — з просьбай падумаць, якому выданьню можна было б прапанаваць гэты артыкул (зь менскіх газэтаў выбар быў невялікі: «Народная газета» Сярэдзіча ці «Свабода» Герменчука).

Гэтыя пяць старонак (аўтарскі асобнік, з праўкамі) — цяпер на маім стале. Артыкул Пазьняка называецца «Сьнежань. Палітычнае становішча на Беларусі». Тады ён ня быў надрукаваны, а цяпер успрымаецца як дакладная фіксацыя недаравальнай страты тагачасным кіраўніцтвам Беларусі магчымасьцяў для руху наперад.

«Беларусь застыла ў самагубчым супрацьстаяньні, — пісаў Пазьняк. — З аднаго боку ідэалягічна падарваная і скампрамэтаваная намэнклятурная сыстэма былой камуністычнай улады, з другога — усё грамадзтва, якое трапіла ў палон дэмакратычных ілюзіяў і фразэалёгіі. У выніку, Рэспубліка Беларусь, стаўшы дэ-юрэ незалежнай дзяржавай, не праводзіць палітыкі незалежнай дзяржавы. Ня рухаюцца рыначныя эканамічныя рэформы, не адбываецца пераарыентацыі вытворчасьці на ўнутраны таварны рынак, які адкрыты бяскрайнім прасторам калапсіруючай галоднай і агрэсіўнай Расеі, не ствараецца ўласная валюта, войска, мытная сыстэма, не ўпарадкоўваюцца межы, не наладжваюцца міжнародныя сувязі, няма канцэпцыі замежнай палітыкі. Па прывычцы намэнклятурнае кіраўніцтва Беларусі глядзіць на ўсход, на Маскву, якую цяпер адначасна ня любіць і баіцца, бяздумна завязвае кантакты з Азіяй і мусульманскім сьветам, замест таго, каб вяртацца ў Эўропу, выкарыстаць свае эканамічныя, навуковыя, прамысловыя, геапалітычныя перавагі перад

іншымі рэспублікамі, свой высокі ўзровень разьвіцьця…

Апазыцыя БНФ яшчэ ў 1990 годзе, прадбачачы падзеі, паставіла перад урадам пытаньне аб падрыхтоўцы нацыянальнай валюты — беларускага талера. Прапанова не была адкінутая, але і зроблена нічога не было… Беларускія грошы? — «Гэта сьмешна». Сувэрэнітэт? — «Гэта жарт!» — усклікае ў стане няспыннай эўфарыі ад улады наш новы старшыня Вярхоўнага Савету…

Ня вырашана і пытаньне з войскам… Апазыцыя БНФ яшчэ ў верасьні падрыхтавала пакет законапраектаў па войску і дамаглася скліканьня нечарговай сэсіі. Прапаноўвалася падпарадкаваць войскі на тэрыторыі Беларускай вайсковай акругі Вярхоўнаму Савету Рэспублікі, узяць іх на свой бюджэт, тут жа правесьці скарачэньне асабовага складу і прыступіць да фармаваньня беларускіх узброеных сілаў, стварыць вайсковае міністэрства, прывесьці да прысягі афіцэраў і салдат, прыступіць да вырашэньня пытаньня пра вывад астатніх войскаў, пра міжрэспубліканскія пагадненьні па супрацьпаветранай абароне, стратэгічных сілах, пра канвэрсію, раззбраеньне і г.д. Аднак намэнклятурныя дэпутаты Вярхоўнага Савету не зразумелі нічога і прагаласавалі супраць рэальных прапановаў апазыцыі…

Адмаўленьне Ўкраіны ад «саюзнага дагавору» правaліла гарбачоўскую авантуру і дае надзею Беларусі, але мала што зьменіць у яе становішчы. Ня выключана, што Расея і Ўкраіна паспрабуюць дамовіцца паміж сабой аб прыярытэтах, як даў зразумець спадар Краўчук. Ня выключана, што за кошт інтарэсаў нашай Рэспублікі.

Для Беларусі няма іншай альтэрнатывы, як вяртаньне на Захад, як шлях у аб'яднаную Эўропу, як незалежная дзяржаўная палітыка ў інтарэсах свайго народу. Таму пытаньне пра зьмену ўраду і ўлады на Беларусі, пра ўрад народнага даверу, аб новых дэмакратычных выбарах на шматпартыйнай аснове застаецца надзейным і неабходным».

Падзеі, якія адбудуцца праз некалькі дзён у Віскулях, прымусяць Пазьняка пісаць іншы артыкул — хоць у асноўных сваіх палажэньнях (нежаданьне ствараць уласныя грошы і беларускае войска) ягоныя высновы яшчэ доўга не састарэюць. А валаводжаньне з выбарамі ў новы парлямэнт і ўвогуле стане для лёсу беларускай дэмакратыі фатальным.

І, нарэшце, у маім»дыплямаце» ляжаў пратакол сустрэчы дэпутатаў апазыцыі БНФ са старшынём Вярхоўнага Савету Станіславам Шушкевічам, якая адбылася 5 сьнежня ў нашым 363-м пакоі Дому ўраду.

Гэта быў першы і апошні раз, калі Шушкевіч прыйшоў да нас у апазыцыю.

Ініцыятыва сустрэчы сыходзіла ад нас і была выкліканая трывогай за лёс дзяржавы ў сувязі з намечаным прыездам у Беларусь прэзыдэнта Расеі Барыса Ельцына. Мы ўжо добра бачылі, што палітыка «дэмакратычнага» кіраўніцтва посткамуністычнай Расеі робіцца ўсё больш імпэрскай, і мелі сумнеў, што Шушкевіч здолее ёй супрацьстаяць. Апрача таго, мы настойвалі на правядзеньні новых выбараў — Шушкевіч жа прапаноўваў рэфармаваць парлямэнт, скараціўшы колькасьць дэпутатаў, якія працавалі на пастаяннай аснове, такім чынам, што захоўваўся статус-кво (ён называў гэта «зьлепак»). Гэта значыць, БНФ у Вяр-

хоўным Савеце, як і раней, мела б толькі дзясятую частку, паводле ягонай мадэлі — толькі пяцьшэсьць чалавек. Ну і , нарэшце, мы хацелі яшчэ раз пераканаць старшыню ў неабходнасьці стварэньня нацыянальнай валюты і беларускага войска. Шушкевіч упарта не хацеў выступаць з такой ініцыятывай і прапаноўваў нам спачатку зьвяртацца ў парлямэнцкія камісіі (якімі кіравалі пераважна намэнклятурныя дэпутаты і якія стабільна «хавалі» большасьць нашых прапаноў).

Запіс гэтай сустрэчы дае добрае ўяўленьне пра настроі як Шушкевіча, так і дэпутатаў Апазыцыі. У дужках — цяперашнія тлумачэньні.

## Несакрэтны пратакол

Дыялёг адбыўся вельмі экспрэсіўны.

Напачатку Пазьняк сказаў, што мы разьлічваем укласьціся ў 40 хвілін і абмеркаваць рэформу Вярхоўнага Савету, пытаньні незалежнасьці і саюзнай дамовы, а таксама ўвядзеньня ўласных грошай і стварэньня ўласнага войска. А яшчэ — візыт прэзыдэнта Расеі Ельцына і прэзыдэнта Ўкраіны Краўчука.

Шушкевіч: «Гэтую сустрэчу арганізаваў я — спатканьне кіраўнікоў трох рэспублік».

Баршчэўскі: «Прапануем абмеркаваць наступнае. Суадносіны палітычных сілаў у грамадзтве. Вызначэньне нашай далейшай дзейнасьці. Рэфэрэндум па вызначэньні лёсу. Ідэя, якая кансалідуе — рух да незалежнасьці, да дэмакратыі. Калі гэта прымаецца — пачакаем з выбарамі і паспрабуем рэфармаваць Вярхоўны Савет. Зьбірацца не радзей за 2 разы на год. Сойм. Суадносіны ў бок сіл дэмакратычных . Сыстэма рэгістрацыі членаў Сойму».



Нататкі з сустрэчы дэпутатаў Апазыцыі БНФ са Станіславам Шушкевічам, зробленыя аўтарам.

Шушкевіч: «Прапанова непрымальная, бо на яе ня пойдзе Вярхоўны Савет».

Баршчэўскі: «Стварэньне паралельнага органу — установчага Сойму ці Рады. Слабасьць улады відавочная».

Шушкевіч: «Вы працавалі ў кантакце з камісіямі? Можа, камісіі ўлічаць гэта?»

Баршчэўскі: «Згодна з рэглямэнтам, маем права ўносіць (мінуючы камісіі, адразу на сэсію)».

Шушкевіч (чамусьці пераходзіць на расейскую мову, але я даю пераклад): «Зьлепак Вас не задавальняе, а большага я ня выцягну. Зьлепак будзе — інакш недэмакратычна. Па колькасьці апазыцыянэраў — чысты зьлепак вы не жадаеце — ня ўсе з вас патрапяць. Больш як 90 чалавек рабіць — бессэнсоўна. 65 — у значнай ступені лепшая час-

тка парлямэнту». (Такім чынам, Шушкевіч лічыў «недэмакратычным» павелічэньне прысутнасьці дэпутатаў БНФ у новай структуры)

Голубеў: «Незалежнасьць. Ня ведаем Вашу пазыцыю ў адносінах да будучыні Беларусі. Саюзная дамова. Вы сказалі, што — за падпісаньне эканамічнага пагадненьня. Заявілі, што палітычнае (падпісваць) ня будзеце, а цяпер гэта робіце. Мы ня бачым плюсаў для Беларусі. Чаму старшыня Вярхоўнага Савету не праводзіць палітыку па войску? Ельцын можа ператварыць яго ў акупацыйнае войска: хто плаціць грошы, той заказвае музыку».

Пазьняк: «Уяўленьне ад Вашай дзейнасьці: ігнараваньне гэтых фактараў падводзіць да страты сувэрэнітэту, крызісу эканомікі. Палітык павінен мець апору. Вы разьвіваліся на нашых вачах. Ня можаце абаперціся ні на Фронт, ні на КПСС. Абапіраецеся на палітыку Ельцына, Гарбачова. Мы стаім на парозе згубы сувэрэнітэту».

Шушкевіч: «Палітык не павінен быць дурнем... У вас непасьлядоўная палітыка. Мне блізкі сацыял-дэмакратычны рух. На здаровы сэнс абапіраюся. Вы ўвялі ў страх палову насельніцтва Беларусі (гэта быў зварот пэрсанальна да мяне і меліся на ўвазе мае выступы і артыкулы пра Чарнобыль. Свой адказ Шушкевічу я не запісаў). Я — за самастойны шлях, але вашымі мэтадамі проста немагчыма...

Саюзная дамова — усё праўда. Я лічу гэта палітыкай. Дазвольце мне не станавіцца пад вашы штандары... Вялікае войска ніколі ня ўтворыцца (пад «вялікім» мелася на ўвазе звычайнае, клясычнае войска, стварэньня якога мы дамагаліся, а не дэкаратыўны полк). Ельцын можа паставіць

супраць Беларусі войска вельмі проста. Я больш бачу памылак ва ўрадзе, чым вы. Але трэба нітку зачапіць, а потым швэдар зьняць».

Заблоцкі: «Мы заўсёды падкрэсьліваем неабходнасьць эканамічных сувязяў. Прыклад — агульны рынак. А Вы — што дзяржава перашкаджае ўсталяваньню эканамічных сувязяў. Валютная рэформа (увядзеньне ўласных грошай). Мытні, межы. Забесьпячэньне ўстойлівых актываў. Крэдыт пад заклад, заклад — дзяржпрадпрыемствы. Прывязаць валюту да маркі Нямеччыны — і па намінале, і па пакупніцкай здольнасьці».

Малашка: «Грошы!»

Шушкевіч: «Расея перакрые каналы».

Пазьняк: «Пытаньне войска. Мы былі ініцыятарамі, каб склікаць надзвычайную сэсію (увосень 1991-га). Мы не пераканалі Вярхоўны Савет. Але цяпер апынуліся ў найбольш невыгодным становішчы. Альбо мы возьмем гэтае войска — прыступім да стварэньня і прывядзем яго да прысягі. На якой аснове зь Ельцыным дамаўляцца? Схема: войска ўзяць. Структура. Міністар. Бюджэт — расходы на войска ўключыць... Чаму Вы праводзіце палітыку супраць дзяржавы?»

Шушкевіч: «Вы — дрэнны тактык і лічыце сябе вялікім стратэгам».

Пазьняк: «Вы ў гэтай сытуацыі несяце адказнасьць. Вы яе будзеце несьці. Не для таго, каб дыскутаваць. Пасьля размовы мы зробім выснову».

Шушкевіч: «Вы — мышы, сабраліся і хочаце кату павесіць званочак на хвост. Хоць хто-небудзь папрацаваў ва ўрадзе? Начхаць на саюз з Малдовай і Прыбалтыкай — у іх нафты няма! Я чакаю, што яны (кіраўнікі Расеі) могуць пайсьці на

паралізаваньне гаспадаркі Беларусі. Але ў нас ва ўрадзе не такія дурні...»

Пазьняк: «Вы правільна ацэньваеце Расею ... Чаму Ваша палітыка ўвесь час глядзець на Расею? А не на Прыбалтыку, Захад?»

Шушкевіч: «Да палітыкі, якую можа праводзіць дзяржава, нам трэба ісьці доўга... (Пра меркаваную сустрэчу) Спатканьне Краўчука і Ельцына. Правесьці перамовы па пытаньнях эканамічных пагадненьняў, фінансаў, шэрагу іншых. Размова адзін на адзін зь Ельцыным, Краўчуком у абставінах ізаляваньня ад астатняга сьвету».

На заканчэньне Шушкевіч выказаў дэпутатам апазыцыі пажаданьне мець «добрую тактыку».

Пасьля таго, як Шушкевіч з ахоўнікам пакінулі 363-ці пакой, мы абмяняліся ўражаньнямі. Пазьняк сказаў: «Шушкевіч — у стане агрэсіўнай эўфарыі... Ён паводзіць сябе як хам... Чалавек не зразумеў, чаго ад яго хацелі». Валянцін Голубеў прапанаваў правесьці 15 сьнежня мітынг на плошчы Леніна (заяўку трэба было падаць за дзесяць дзён). Ігар Пырх выказаўся за стварэньне паралельнай парлямэнцкай структуры.

Мы вырашылі склікаць і прэсавую канфэрэнцыю (арганізаваць і весьці яе даручылі мне) з удзелам Заблоцкага, Пазьняка, Голубева і Баршчэўскага. Канфэрэнцыю мы правялі ў будынку гарвыканкаму — для беларускіх і некалькіх дзясяткаў заходніх журналістаў, якія прыехалі «асьвятляць» візыт Ельцына і Краўчука, але былі пакінутыя «галоўнымі героямі», якія вылецелі ў Белавескую пушчу. Надарылася цудоўная магчымасьць выкласьці нашую канцэпцыю пабудовы незалежнай дзяржавы. Але гэта было ўвечары 7 сьнежня.



Барыс Ельцын выступае ў Вярхоўным Савеце Беларусі. У прэзыдыюме – Вячаслаў Кебіч, Васіль Шаладонаў, Станіслаў Шушкевіч, Генадзь Бурбуліс, Ягор Гайдар.

А ў першай палове таго самага дня Ельцын выступіў перад дэпутатамі Вярхоўнага Савету.

Заля была поўная — акрамя парлямэнтарыяў, прыйшлі і члены ўраду, шмат журналістаў. У часе выступу Ельцын падараваў Вярхоўнаму Савету выяву Белага дому, каля якога ён у дні жнівеньскага путчу на танку чытаў свае ўказы пра непрызнаньне ГКЧП. Затым высокі госьць перадаў Шушкевічу копію «Ахоўнай граматы Воршы 1664 году» і назваў яе сымбалем вызваленьня беларусаў расейскімі войскамі.

Дарадцы забыліся патлумачыць прэзыдэнту Расеі, што ў сярэдзіне XVII стагодзьдзя беларусы змагаліся з маскоўцамі (у тым ліку і асабліва пасьпяхова пад Воршай), і што ў той час войскі з усходу зьнішчылі палову беларускага насельніцтва.

А магчыма, падаецца мне цяпер, тое было зроблена адмыслова.

Мы, фронтаўскія дэпутаты, паўскоквалі са сваіх месцаў.

Ельцын выглядаў разгубленым.

Ён пашукаў вачыма каго-небудзь, хто мог бы патлумачыць прычыну тых рэплік, што выкрыкваліся з розных канцоў залі (а можа і спыніць дэпутатаў, што беглі да трыбуны), і неяк па-дзіцячаму, нібыта апраўдваючыся, прамовіў: «А что? Что-то не так? Да? Извините…»

Памятаю, Ельцын двойчы папрасіў прабачэньня і вымавіў гэта так шчыра, што асабіста ў мяне адпала ахвота ўступаць у дыскусію. Ці пагатоў сьцягваць яго з трыбуны, як у жніўні мы зрабілі зь першым сакратаром ЦК Малафеевым.

Ельцын усьміхнуўся, разьвёў рукамі, і ў мяне чамусьці адклалася ў памяці, што ў яго не хапае двух пальцаў — здаецца, на левай руцэ.

Ён неяк абяззброіў сваёй шчырасьцю і адкрытасьцю — магчыма, прыроднай, а можа, набытай на шматлікіх будоўлях, на якіх працаваў з маладосьці, дзе дрэнна пакладзеная муроўка — гэта дрэнна пакладзеная муроўка, адсутнасьць бэтону — гэта адсутнасьць бэтону, п'яны прараб — гэта п'яны прараб, а не агентурны работнік пры выкананьні апэратыўнага заданьня.

А праз дзень мы (разам з усім сьветам) даведаліся пра падпісаньне ў Віскулях пагадненьняў аб ліквідацыі СССР і ўтварэньні СНД.

У мяне могуць запытацца: у якой ступені тая нашая сустрэча ў 363-ім пакоі паўплывала на зьмену пазыцыі Шушкевіча? Адказваю — у ніякай. Станіслаў Станіслававіч ня з тых людзей, якіх палітычныя апанэнты могуць пераканаць сілаю аргумэнтаў.

Потым удзельнік сустрэчы ў Віскулях Ягор Гайдар прыгадваў: «Больш за ўсіх, мне здаецца, перажываў, хваляваўся Шушкевіч. У ягоных сло-

вах гучаў ляйтматыў: мы маленькая краіна, прымем усякае ўзгодненае рашэньне Расеі і Ўкраіны. Але вы ж, вялікія. Усё прадумалі?» (Егор Гайдар, «Дни поражений и побед», Москва, 1996).

Думаю, подпіс Шушкевіча пад пагадненьнем — гэта вынік абставінаў, якія склаліся на сустрэчы кіраўнікоў трох дзяржаваў. Але ў той самай ступені і подпісы Ельцына і Краўчука — вынік тых самых абставінаў, — ніхто зь іх ці іхняе сьвіты (пра што сьведчаць пазьнейшыя ўспаміны) не плянаваў падпісаць такія дакумэнты. Але ўсе шасьцёра (Ельцын, Бурбуліс, Шушкевіч, Кебіч, Краўчук і Фокін), хто паставіў свае подпісы, апынуліся ў той момант на вышыні цьвярозага разуменьня палітычнай неабходнасьці.

Адзінае, мне падаецца, што ў выпадку з Шушкевічам пэўную ролю адыграла прысутнасьць Вячаслава Кебіча, старшыні Савету міністраў, які быў больш рашучым палітыкам, чым Шушкевіч, і апрача таго кантраляваў большасьць дэпутацкага корпусу ў Вярхоўным Савеце.

Хоць сам Шушкевіч у сьнежні 2009 году ў інтэрвію для «Радыё Свабода» дае такое тлумачэньне паводзінам Кебіча: «Ён мне сказаў: «Ведаеш, відавочна, калі выканаўчая ўлада і прадстаўнічая ўлада будуць разам, дык гэта будзе лепш». Ён вельмі хацеў паставіць подпіс пад гэтым пагадненьнем. Але ў чым тут справа? Галоўныя словы ў Белавескім пагадненьні належаць Бурбулісу, які сказаў 7 сьнежня , што СССР як геапалітычная рэальнасьць перастае існаваць. І нелягічна было гэта ня ўжыць і не папрасіць Бурбуліса паставіць подпіс. І Ельцын прапанаваў, каб падпісаў Бурбуліс. Ну, тады было лягічна, каб падпісаў і Кебіч. Хаця яму, дарэчы, Краўчанка ня раіў гэта рабіць. Але Кебіч

быў вельмі дасьведчаным намэнклятуршчыкам, ён падумаў так: калі будуць асуджаць далей, ён скажа, што паколькі першая асоба (значыцца, я) падпісала, і я вымушаны быў падпісаць».

Наяўнасьць подпісу Кебіча пад Віскулёўскімі пагадненьнямі адыграла станоўчую ролю і пры іх ратыфікацыі ў Вярхоўным Савеце.

... Праз некалькі дзён пасьля падпісаньня Віскулёўскіх пагадненьняў сталы прадстаўнік Беларусі ў ААН Генадзь Бураўкін ад імя Беларусі, Расеі і Украіны ўручыў дакумэнты аб ліквідацыі СССР прэзыдэнту ЗША — і Джордж Буш вымушаны быў памацаць рукамі тое, у верагоднасьць чаго ня мог паверыць яшчэ некалькі тыдняў таму.

# Пра што марылі мы ў БНФ і чаго не хацелі

У сваіх інтэрвію з нагоды 20-годзьдзя Віскулёўскіх пагадненьняў Станіслаў Шушкевіч адмаўляе, што напярэдадні сустрэчы кіраўнікоў трох рэспублік плянавалася падпісаньне нейкага пагадненьня: «Мы — Фокін, Краўчук, Кебіч і я — сабраліся прасіць Расію аб пастаўках нам вуглевадароднай сыравіны зімой 1991/1992 гадоў не на рыначных умовах — таму што рынак мы не цягнулі. Вось была наша мэта — каб не замерзнуць» (інтэрвію агенцтву БелаПАН). І яшчэ, у інтэрвію «Салідарнасці»: «Незалежнасьць Беларусі ўпершыню за 200 гадоў была прызнаная Расеяй. Пра гэта і марыць не маглі нарадафронтаўцы».

Што да нашых мараў — дык пасьля 25 жніўня 1991 году прызнаньне Беларусі незалежнай краінай іншымі дзяржавамі (у тым ліку і суседняй Расеяй) павінна было стаць толькі эпізодам зьнешнепалітычных дачыненьняў. І выпрацоўку самастойнай зьнешняй палітыкі мы (без усякіх мараў, вельмі прагматычна і, як гаворыцца, «па пунктах») прапаноўвалі кіраўніцтву Вярхоўнага Савету, таму самаму Шушкевічу. Толькі тады Станіслаў Станіслававіч нас ня слухаў.

А вось на тэме спантаннасьці падпісаньня Віскулёўскага пагадненьня хачу спыніцца крыху больш падрабязна.

У выдадзенай у «Бібліятэцы Свабоды» кнізе «Мой шыбалет» Пётра Садоўскі ўзгадвае пра Белавескія пагадненьні так: «Калі ўсё адбылося, я

як беларус ня мог не вітаць гэтага. Аднак як старшыня камісіі замежных справаў нацыянальнага парлямэнту я ня мог не разумець, што працэдура прыняцьця такога рашэньня ня лезе ні ў якія вароты. Я ня думаю, што Гарбачоў пачаў бы высаджваць у пушчы дэсант, калі б Ельцын і ягоныя калегі хаця б дзеля палітэсу апэратыўна запрасілі ў Віскулі прадстаўнікоў парлямэнтаў. Гэта не была пакрыўджаная амбіцыя старшыні камісіі замежных справаў. Я разумею, што магло здарыцца і нешта горшае, пад чым, напрыклад, Кебіч, які разам з Шушкевічам быў там, мог бы паставіць подпіс». І там сама: «Можна было падпісаць нешта горшае, чым тое пагадненьне».

Што не задаволіла дэпутата апазыцыі БНФ Пётру Садоўскага ў Віскулёўскіх пагадненьнях, якія канстатавалі спыненьне існаваньня СССР і, здавалася б, значна спрашчалі стварэньне незалежнай Беларускай дзяржавы?

Думаю, для незадавальненьня былі дзьве прычыны.

Пра першую было намі заяўлена 10 сьнежня ў часе ратыфікацыі пагадненьняў: мы, Апазыцыя БНФ, выступалі супраць стварэньня СНД, ацэньваючы садружнасьць ня проста як абсалютна непатрэбную структуру, але і як арганізацыю, здольную зь цягам часу ператварыцца ў мэханізм рэалізацыі Масквой імпэрскіх памкненьняў. Далейшыя падзеі з Дамовай аб калектыўнай бясьпецы СНД (1993) і Мытным саюзам (2011) выявілі слушнасьць нашага прагнозу.

Другая прычына — найважнейшы дакумэнт ствараўся без узгадненьня з тымі, хто мог бы даць кваліфікаваныя парады. Садоўскі сьціпла адкідае свае «амбіцыі», але я перакананы: прысутнасьць у

Віскулях таго самага Садоўскага (і шэрагу іншых дэпутатаў) не зашкодзіла б.

Так, пагадненьне нарадзілася спантанна, ні Ельцын, ні Краўчук, ні Шушкевіч яго не плянавалі. Але праз дваццаць гадоў некаторыя ўдзельнікі тых падзеяў з расейскага боку (міністар замежных справаў Андрэй Козыраў і дарадца прэзыдэнта Расеі Сяргей Шахрай) прызналіся, што заклалі ў тэкст некалькі пунктаў, якія павінны былі ў пэрспэктыве значна ўскладніць (і насамрэч ускладнілі) становішча Ўкраіны, і ўкраінская дэлегацыя гэта праглынула. Так што спантаннасьць не зашкодзіла масквічам рабіць шматхадовыя камбінацыі.

Пра беларусаў Козыраў і Шахрай змаўчалі; пэўна ж, галоўным апанэнтам бачылі Кіеў. Але ўжо празь некалькі дзён у Алма-Аце, як цяпер зразумела, Масква абыграла лідэраў постсавецкіх рэспублік практычна ў адкрытую. Але пра гэта пазьней.

10 сьнежня, калі ішло абмеркаваньне, мы, дэпутаты БНФ, выказваліся за ратыфікацыю пагадненьняў, але былі супраць стварэньня СНД, у якім (і гэта засьведчана ў выступе Пазьняка) бачылі правобраз будучага «саюзу».

Адзіным дэпутатам, які не галасаваў за ратыфікацыю пагадненьняў, быў мой сусед па Авальнай залі, былы сакратар ЦК КПБ Валер Ціхіня — пабачыўшы, што ён цісьне кнопку «супраць», я ўступіў зь ім у дыскусію, якую назваць «джэнтэльмэнскай» можна толькі зь вялікім перабольшваньнем.

Ну а дэпутат Лукашэнка, які потым заяўляў, што гэта ён прагаласаваў «супраць» — увогуле, як сьведчыць пратакол электроннага галасаваньня, у залі адсутнічаў.

У той самы дзень (але пасьля нас) ратыфікавала пагадненьні і Вярхоўная Рада Ўкраіны, а на наступны дзень — Вярхоўны Савет Расеі.

Апошняя кропка у існаваньні СССР была пастаўленая 21 сьнежня на сустрэчы кіраўнікоў дзяржаваў былога СССР у Алма-Аце. Праз чатыры дні Міхаіл Гарбачоў падаў у адстаўку з пасады прэзыдэнта СССР.

Той алма-ацінскі саміт рэдка ўзгадваецца сёньня, але ён, я перакананы, меў важнае значэньне для канчатковай ліквідацыі СССР. Хоць Беларусь, Расея і Ўкраіна і лічылі сябе правапераемнікамі-заснавальнікамі СССР і заявілі пра скасаваньне яго як геапалітычнай рэальнасьці, але іншыя дзевяць рэспублік (Латвія, Эстонія і Літва ў працэсе ня ўдзельнічалі) маглі заявіць, што не пагаджаюцца і захоўваюць СССР. Напрыклад, з цэнтрам у Алма-Аце. І такі варыянт быў зусім не фантастычны: Нурсултан Назарбаеў, як вядома, падтрымліваў Гарбачова ў ягоным памкненьні захаваць СССР (той абяцаў казахскаму лідэру пасаду прэм'ер-міністра «абноўленага саюзу»), не паляцеў у Віскулі і цягнуў з абвяшчэньнем незалежнасьці да апошняга. Уласна кажучы, Назарбаеў мог бы ў сваіх інтарэсах скарыстаць міжнародны аўтарытэт Гарбачова (які прызнаваўся Захадам як прэзыдэнт СССР і пасьля Віскулёў, да моманту сваёй адстаўкі 25 сьнежня 1991 г.). Вядома, такі квазі-СССР праіснаваў бы нядоўга, але праблемаў бы мог нарабіць багата.

Таму важна, што ў Алма-Аце лідэры рэспублік пагадзіліся зь неабходнасьцю ліквідацыі СССР.

На сустрэчу ў Алма-Ату Шушкевіч запрасіў лідэра Апазыцыі БНФ Пазьняка.

Па вяртаньні з Алма-Аты Пазьняк сабраў дэпутатаў Апазыцыі БНФ у 363-ім пакоі Дому ўраду і праінфармаваў пра саміт.

Ён адзначыў моманты, якія і дагэтуль шырока не асьветленыя, але зафіксаваныя мной у пратаколе пасяджэньня Апазыцыі. Так, некаторыя лідэры азіяцкіх рэспублік хацелі «скасаваць берасьцейскае пагадненьне», каб самім лічыцца заснавальнікамі». (У тыя дні падпісанае 8 сьнежня пагадненьне яшчэ не займела назву «белавескага» ці «віскулёўскага» — называлі яго па адміністрацыйным цэнтры вобласьці, дзе было падпісанае — «берасьцейскім», а часам і «менскім»). Была падрыхтаваная дэкларацыя пра «адзіную эўразійскую прастору».

Пазьняк таксама расказаў, што Ельцын паводзіў сябе як гаспадар і ўжо адвячоркам не асабліва адмаўляў сабе ў алькаголі. Папросту быў п’яны; у нейкі момант захістаўся і, каб не Шушкевіч з Кебічам, якія падтрымалі яго, мог бы зваліцца зь лесьвіцы.

Аднак Масква мусіла быць удзячная кіраўніцтву беларускай дэлегацыі зусім не за фізычную падтрымку цела першага прэзыдэнта Расеі.

Каманда Ельцына, нягледзячы на экстравагантныя паводзіны свайго патрона, выявіла прафэсіяналізм у адстойваньні расейскіх інтарэсаў. Доступу на саміт Пазьняк, як і большасьць удзельнікаў беларускай дэлегацыі, ня меў і ня мог даваць парады Шушкевічу і Кебічу непасрэдна ў часе дыскусіі. Аднак і тыя рэкамэндацыі, якія дэлегацыя давала Шушкевічу, не заўсёды выконваліся сьпікерам (у прыватнасьці, пра немэтазгоднасьць далучэньня да СНД Арменіі і Азербайджану як краінаў у стане вайны).

Але самае нечаканае (і непрыемнае) здарылася пры канцы саміту.

Слова — аднаму з удзельнікаў падзеі, тагачаснаму міністру замежных справаў Пятру Краўчанку:

«У асноўнай частцы алма-ацінскага саміту, якая праходзіла за зачыненымі дзьвярыма, удзельнічалі толькі першыя асобы рэспублік — кіраўнікі дзяржаваў і ўрадаў. Астатнія члены дэлегацый чакалі вынікаў перамоваў у іншым памяшканьні. Пасьля завяршэньня сустрэчы да беларускай дэлегацыі выйшаў Станіслаў Шушкевіч і распавёў пра прынятыя рашэньні. Як бы паміж іншым ён адзначыў, што на просьбу Барыса Ельцына ўсе ўдзельнікі саміту пагадзіліся прызнаць Расею правапераемніцай Савецкага Саюзу ў Радзе Бясьпекі ААН і ўласьнікам ядзернай зброі. Мы адчулі сапраўдны шок. Атрымлівалася, што Шушкевіч нас проста здаў! Здаў нацыянальныя інтарэсы Беларусі, якая адным махам пазбавілася галоўных козыраў на перамовах з Расеяй — аб падзеле ўласнасьці былога Саюзу. Вядома, ён ня меў права прымаць такія рашэньні, не параіўшыся з усім складам дэлегацыі. Не даводзілася сумнявацца, што цяпер мы не атрымаем ад Ельцына нічога! Памятаю, як я накінуўся на сьпікера, спрабуючы патлумачыць яму, што ён нарабіў, але Шушкевіч у адказ мармытаў нешта няўцямнае... Другім чалавекам у нашай дэлегацыі, які цалкам усьвядоміў увесь драматызм сытуацыі, быў мой даўні апанэнт Зянон Пазьняк. Ён спахмурнела назіраў за нашай перапалкай і, сумна ўздыхнуўшы, вымавіў такую фразу: — «Шушкевіч не клапоціцца аб дзяржаўных інтарэсах Бацькаўшчыны!» (Пётр Кравченко,

«Беларусь на распутье, или Правда о Беловежском соглашении», «Время», Москва, 2006).

Тут адзначу, што такое рашэньне Шушкевіча было наўпроставым парушэньнем Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце, 5-ты артыкул якой, сярод іншага, канстатуе, што Беларусь «мае права на сваю долю ў агульнасаюзнай маёмасьці адпаведна ўкладу беларускага народу і як рэспубліка-заснавальніца Савецкага Саюзу, якая была яго праваздейным суб'ектам, мае права на сваю долю ад алмазнага, валютнага фондаў і залатога запасу СССР».

З гэтага моманту пра сваю долю ў алмазным фондзе і залатым запасе СССР (гэтаксама як і пра долю ў газавых, нафтавых ды іншых распрацоўках, якія рабіліся не без удзелу Беларусі) можна было, сапраўды, толькі марыць. Што да маёмасьці за мяжой, дык савецкія дыпляматычныя місіі ў некаторых сталіцах налічвалі да шасьцідзесяці будынкаў; карпусы ў Вашынгтоне і Парыжы займаюць квартал. Усё гэта адышло да Масквы — беззваротна.

Такія рашэньні тады апраўдвалі тым, што ў якасьці «кампэнсацыі» Масква бярэ на сябе зьнешнія запазычанасьці СССР.

Мы ў Апазыцыі БНФ былі нязгодныя з такім варыянтам — яшчэ ўвосень 1990-га прынялі зварот да міжнароднай супольнасьці, у якой папярэджвалі, што беларускі народ ня будзе плаціць за пазыкі, якія набірае Гарбачоў для ўтрыманьня збанкрутаванай сацыялістычнай эканомікі.

Быў і яшчэ адзін фактар, які прыгадаў Краўчанка — ядзерная зброя. Наяўнасьць ядзернай зброі давала магчымасьць — не, не шантажаваць, а прасіць Захад пра значную фінансавую дапамогу

(ці як варыянт, скасаваць «беларускую» долю запазычанасьці, калі б ад яе не ўдалося адбіцца).

БНФ быў ініцыятарам абвяшчэньня бязьядзернасьці Беларусі, і я асабіста пісаў варыянты гэтага палажэньня падчас прыняцьця Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце (што такое «ядзерная мафія», я добра ведаў з часу змаганьня супраць Віцебскай АЭС у 1988 г.). Але мару пра свабодную ад атамных боегаловак краіну мы лічылі неабходным ажыцьцяўляць прагматычнымі шляхамі, з абавязковым улікам інтарэсаў Беларусі .

Тэма ядзернай зброі складаная, яна тады выклікала зразумелую нэрвовасьць у заходніх лідэраў. Што ж, у 1991-м нэрвовасьць выклікала ў іх і тэма незалежнасьці Беларусі. Яны проста не хацелі гэтай незалежнасьці.

Я перакананы, што з Захадам мы б дамовіліся — у ягоных інтарэсах, але і з рэалізацыяй патрэбаў Беларусі. (У дужках адзначу, што супакой Захаду пасьля перадачы ўсёй ядзернай зброі Маскве аказаўся заўчасным: з пачатку 2000-х боегалоўкі апынуліся ў руках былых афіцэраў КДБ; пра такое немагчыма было сьніць у кашмарных снах нават у часы «халоднай вайны».)

Між іншым, Пазьняк тады расказаў, што на алма-ацінскім саміце альтэрнатываю перадачы Расеі крэсла ў Радзе Бясьпекі ААН была магчымасьць заняць гэтае крэсла Японіяй. Як па мне, дык Японія была зусім неблагім варыянтам з улікам таго, як наступныя дзесяцігодзьдзі галасавала Расея ў Радзе Бясьпекі.

На тым пасяджэньні апазыцыі пасьля Алма-Аты Лявон Баршчэўскі сказаў фразу, якую я і сёньня чую даслоўна і з адпаведнай інтанацыяй:

«Імпэрыя разваліласяся. Крыві было праліта, але магло быць значна болей».

25 сьнежня Міхаіл Гарбачоў заявіў пра адстаўку. І як ні дзіўна, але я слухаў ягоную прамову (яна трансьлявалася) са спачуваньнем да яго як да чалавека. Пры ўсёй непасьлядоўнасьці, а ў апошнія гады і антыдэмакратычнасьці ягонай палітыкі, менавіта Гарбачоў (безумоўна, не прадбачыўшы выніку) паклаў пачатак разьняволеньню грамадзтва. Прыстойнасьць Гарбачова ў ягоным рашэньні аб адстаўцы ацэнена будзе значна пазьней, калі прэзыдэнты і правадыры будуць чапляцца за ўладу танкамі, дубінкамі, укідваньнем у выбарчыя урны фальшывых бюлетэняў і зьняволеньнем палітычных апанэнтаў.

У той дзень з крамлёўскага купала быў спушчаны чырвоны сьцяг, і СССР канчаткова спыніў існаваньне.

Але Масква засталася Масквой.

# Чужое войска і пустыя прылаўкі

Калі я жыў у кватэры без тэлефона, даводзілася штодня па некалькі разоў бегаць у суседні двор да аўтамата (а часам і далей, калі апарат быў сапсаваны). Мабільнікаў у тыя часы не было. Калі ж у канцы 1991-га тэлефон нарэшце паставілі, давялося мала спаць: начныя званкі, у тым ліку і ад незнаёмых людзей, хутка зрабіліся нормай.

Неяк уначы мне патэлефанавалі зь Віцебску. Усхвалявана паведамілі, што з вайсковага аэрадрому пачынаюць пераганяць сем самалётаў у Расею. Адзін за адным.

Я пачаў абзвоньваць прыёмныя Кебіча і Шушкевіча — там сказалі, што могуць толькі зафіксаваць паведамленьне. Дазваніўся да намесьніка старшыні Вярхоўнага Савету Шаладонава — ён параіў пазваніць у штаб Беларускай вайсковай акругі. Там да майго паведамленьня паставіліся спакойна — нібыта так яно і павінна быць.

І ў гэтым не было нічога дзіўнага: вайскоўцы на тэрыторыі Беларусі (усе вайскоўцы, за выняткам некалькіх чалавек) — не падпарадкоўваліся кіраўніцтву Беларусі. Бо Вярхоўны Савет упарта не прымаў нашу, дэпутатаў БНФ, прапанову пра стварэньне ўласнага войска і міністэрства абароны. Стварылі толькі міністэрства ў справах абароны, штат якога складаўся зь пяці (калі не памыляюся) чалавек, уключна з шафёрам; вось гэтыя пяцёра на чале зь міністрам генэрал-палкоўнікам Пятром Чавусам і падпарадкоўваліся Вярхоўнаму Савету і Савету міністраў.

Падпісаныя 8 сьнежня ў Віскулях пагадненьні не прадугледжвалі мэханізму падзелу былога савецкага войска, і на нейкі час склалася сытуацыя пэўнай нявызначанасьці. Хоць зь юрыдычнага пункту гледжаньня Беларусь з 25 жніўня мела поўнае права ствараць свае ўзброеныя сілы, ні парлямэнт, ні ўрад пра гэта ня рупіліся. Тым часам як кіраўніцтва Расеі рабіла тое, што ў кулюарах Вярхоўнага Савету тады ацэньвалася фразай «Масква падграбае пад сябе ўсё».

30 сьнежня ў Менск прыбыў галоўнакамандуючы ўзброенымі сіламі СНД маршал Яўген Шапашнікаў. Як расказаў у інтэрвію карэспандэнту «Навінаў БНФ» міністар у справах абароны Рэспублікі Беларусь Пётра Чавус, «у маршала Шапашнікава было жаданьне працягнуць цяперашняе становішча, каб міністэрства па справах абароны Рэспублікі Беларусь займалася сваімі прыватнымі пытаньнямі, а Беларуская вайсковая акруга, застаючыся ў падпарадкаваньні Масквы, вырашала свае пытаньні самастойна. Яму было афіцыйна заяўлена, што Беларусь як незалежная дзяржава мае права ствараць уласныя ўзброеныя сілы, і мы маем намер гэтым займацца. Пакуль гэтая праблема застанецца адкрытай, але, мяркую, яна вырашыцца на бліжэйшай сэсіі Вярхоўнага Савету ў інтарэсах нашага народу і дзяржавы».

Закон аб узброеных сілах Вярхоўны Савет сапраўды прыме, але толькі ў сакавіку 1992-га, страціўшы не адзін месяц у той час, калі сапраўды дзень ішоў за год і пры тым, што адпаведныя праекты мы падалі ў Вярхоўны Савет яшчэ ў верасьні 1991-га.

У эканоміцы сытуацыя была ня менш драматычнай.

У сьнежні 1991 году інфляцыя (больш правільна — гіпэрінфляцыя) дасягала гіганцкіх памераў, грошы імкліва абясцэньваліся. Старыя, «савецкія» грошы, бо ўласныя Вярхоўны Савет і ўрад уводзіць не зьбіраліся.

Прылаўкі ў крамах былі пустыя.

«Тавары ў крамах ня зьявяцца, пакуль няма стымулу да іх вытворчасьці, — папярэджваў у тыя дні дэпутат БНФ, намесьнік старшыні парлямэнцкай камісіі па навуцы і тэхніцы Уладзімер Заблоцкі. — Гэта аксіёма. Апазыцыя, напрыклад, прапаноўвала ўвесьці натуральны прадуктовы падатак у якасьці платы за зямлю памерам 25 % ад выробленага. 75% заставалася б вытворцам для свабоднага гандлю. Урад адхіліў гэтую прапанову. Страчаны час і для ўвядзеньня беларускага талера... Прэм’ер-міністар В. Кебіч горда заяўляў пра тое, што з 1 студзеня Беларусь будзе ў стане перайсьці на ўласную валюту. Але гэтыя заявы аказаліся звычайным ашуканствам дэпутатаў і ўсяго народу. Сёньня мы ня можам надрукаваць нават дастатковае колькасьці шматразовых купонаў, якія могуць быць падробленыя на любым японскім ксэраксе. А калі ўлічыць, што пераход на ўласную грашовую сыстэму — гэта ня проста друкаваньне грашовых знакаў, а вялізны комплекс эканамічных і дзяржаўных мерапрыемстваў, дык можна сказаць, што да пераходу на ўласную валюту мы абсалютна непадрыхтаваныя. Мы, як заўсёды, спыніліся й не пасьпяваем за іншымі рэспублікамі».

У сьнежні 1991-га мы ўдакладнілі канцэпцыю эканамічных рэформаў, якую на кожнай сэсіі прапаноўвалі Вярхоўнаму Савету. Яна мела вялікі сацыяльны блёк, захады ў справе абароны спажывецкага рынку (лібэралізацыю цэнаў, перавод дзярж-

закупак на свабодныя і розьнічныя цэны, зьмену структуры датацыяў у дзяржбюджэце, увядзеньне мытнага кантролю), заканадаўчае забесьпячэньне пераходу да рынку (блёк законаў — аб органах дзяржмаёмасьці, аб інтэлектуальнай уласнасьці, органах фінансава-падатковай сыстэмы). Вялікую ўвагу мы надавалі сельскай гаспадарцы. Так, прапаноўваліся «скасаваньне актаў перадачы зямлі ў вечную ўласнасьць калгасам, збалянсаваньне падаткаў і цэнаў у сфэры сяльгасвытворчасьці, гарантаваньне селяніну магчымасьці бесьперашкодна гандляваць на рынках, стварэньне Сялянскага банку для забесьпячэньня зямельнай рэформы і льготнага фінансаваньня фэрмэрскіх гаспадарак». Нарэшце, мы лічылі неабходным «пераарыентацыю прамысловасьці рэспублікі на выпуск тавараў паўсядзённага попыту» — што было вельмі актуальна ў часе, калі за ўсім — ад лямпачкі да посуду — выстройваліся вялізныя чэргі. Мэблю ці лядоўню і ня згадваю — іх было «не дастаць».

«Хопіць палітычнай балбатні, давайце думаць, як дапамагчы працаўнікам сяла!» — такія адказы чуліся з вуснаў «дэпутатаў-аграрыяў» кожны раз, калі мы спрабавалі заклікаць парлямэнт да абмеркаваньня надзённых палітычных пытаньняў.

Неяк Станіслаў Шушкевіч назваў усіх гэтых старшыняў калгасаў і дырэктараў саўгасаў «чырвонымі баронамі». Яны страшэнна пакрыўдзіліся і ніколі не даравалі Шушкевічу тых слоў. Між тым, шкода, якую нанесьлі гэтыя «аграры» беларускай эканоміцы — гіганцкая: кожныя паўгода на іх заклік Вярхоўны Савет выдзяляў неапраўдана вялікія бюджэтныя сродкі на падтрымку збанкрутаванага аграрнага сэктару. З такім самым посьпехам тыя мільярды можна было выкідаць на

сьметнік; асабліва дрэнна было тое, што яны яшчэ больш накручвалі інфляцыю. Потым мне паказалі катэджы некаторых былых дэпутатаў, якія папракалі нас, фронтаўцаў, абыякавасьцю да праблемаў «простага селяніна»: ня ведаю, як мільярдэр, але «просты» амэрыканскі ці чэскі мільянэр маштабам тых маёнткаў пазайздросьціў бы дакладна.

Яны былі аграрыямі, прамыслаўкамі, вайскоўцамі, камунальнікамі, усе гэтыя дэпутаты з «парлямэнцкай большасьці» — і ўпарта не зьбіраліся рабіцца палітыкамі.

У тыя дні непрафэсійнасьць большасьці дэпутатаў Вярхоўнага Савету рабілася ўсё больш відавочнай. У лістападзе Шушкевіч прапанаваў свой варыянт парлямэнцкай рэформы, зь якім, аднак, мы пагадзіцца не маглі. У мяне захаваўся напісаны мной 6 сьнежня тэкст заявы для журналістаў — наколькі памятаю, ён нідзе не друкаваўся (праз два дні галоўнай тэмай зрабіліся Віскулі):

«Рэформа Вярхоўнага Савету, якую прапаноўвае С. Шушкевіч, прадугледжвае стварэньне стала дзейнага парлямэнту колькасьцю 90 дэпутатаў, цяперашні ж Вярхоўны Савет абвяшчаецца зьездам. Заганнасьць такога варыянту відавочная. Па-першае, усе 346 цяперашніх дэпутатаў маюць паўнамоцтвы сваіх выбаршчыкаў на заканатворчую дзейнасьць у поўным аб’ёме, і якое б яно ні было абразаньне іхніх правоў супярэчыць Канстытуцыі. Па-другое, С. Шушкевіч не хавае таго, што новы Вярхоўны Савет будзе зьлепкам старога па суадносінах палітычных сілаў. Паводле ягоных словаў, цяпер члены Апазыцыі складаюць дзясятую частку ад агульнай колькасьці дэпутатаў (37:346), прычым 8 дэпутатаў ад Апазыцыі працуюць на прафэсійнай аснове. У выпадку, калі Вяр-

хоўны Савет будзе фармавацца давыбарамі новых дэпутатаў зь ліку дэпутатаў (65+25=90), і восем апазыцыянэраў патрапляюць у ягоны склад («Я буду дамагацца і абраньня лідэра апазыцыі Пазьняка» — заявіў Шушкевіч у Наваполацку), дык, такім чынам, працэнтныя суадносіны застануцца ранейшымі: 1:10. Пры тым — і гэтага ня можа ня ведаць Шушкевіч — шмат якія прапановы Апазыцыі зьбіралі больш чым палову галасоў у парлямэнце. Калі ўлічыць, што ў лік новых прафэсійных дэпутатаў увойдуць, у асноўным, партыйныя функцыянэры, што засталіся бяз працы, дык такая рэформа толькі ўмацуе пазыцыі пракамуністычнай намэнклятуры. Зрэшты, Апазыцыя пагадзілася б на рэформу структуры Вярхоўнага Савету — але толькі ў тым выпадку, калі на прафэсійную аснову дэпутаты пераходзілі б па ўласным жаданьні, а не па волі парлямэнцкай большасьці».

Як бачна, мы згодныя былі нават на стварэньне прафэсійнага парлямэнту са складу дэпутатаў Вярхоўнага Савету, тэарэтычна нават пры ўключэньні туды ўсіх 346-ці, але — менавіта прафэсійнага, у якім дэпутаты былі б палітыкамі і заканатворцамі. Але і гэтая нашая прапанова была адкінутая.

Галоўнай прэтэнзіяй да дэпутацкай большасьці Вярхоўнага Савету з нашага боку заставалася нежаданьне рабіцца парлямэнтам сувэрэннай краіны, прымаць палітычныя рашэньні, якія б умацоўвалі дзяржаўнасьць.

Вычарпаўшы за чатыры месяцы з моманту абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі ўсе магчымасьці ўзьдзеяньня на Вярхоўны Савет і ўрад (выступы з трыбуны і ад мікрафонаў, дыскусіі на пасяджэньнях парлямэнцкіх камісіяў, размовы ў кулюарах, пераконваньне, угаворваньне, — сло-

вам, увесь парлямэнцкі арсэнал), мы прыйшлі да высновы, якую 29 сьнежня Зянон Пазьняк выклаў на Сойме БНФ: «Пасьля алма-ацінскай сустрэчы расклад сілаў зьмяніўся ў некарысны для Беларусі бок. Інтарэсы Расеі і Ўкраіны застаюцца процілеглымі, але ранейшае патрэбы ў Беларусі з ростам колькасьці ўдзельнікаў садружнасьці ў іх няма. Кіраўніцтва ж Рэспублікі мае ілюзіі, быццам сапраўды ўтварылася нейкая садружнасьць. Унутраная сытуацыя ў Беларусі пагаршаецца. Не ствараецца ўласнае войска, не рыхтуецца ўвядзеньне сваёй валюты. У такім становішчы Апазыцыя БНФ абвясьціла пра стварэньне ініцыятыўнае групы дзеля правядзеньня рэфэрэндуму пра роспуск Вярхоўнага Савету і новыя выбары».

Такім чынам, мы запатрабавалі новых выбараў, на якіх разьлічвалі, як мінімум, узмацніць пазыцыі прыхільнікаў незалежнасьці і дэмакратычных каштоўнасьцяў. І тады, у 1991-м і на пачатку 1992-га, шанец павялічыць сваю прысутнасьць у парлямэнце БНФ, дый іншыя дэмакратычныя партыі сапраўды мелі.

У самым канцы 1991-га кіраўніцтва БНФ прыняло рашэньне пра ініцыяваньне рэфэрэндуму аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савету і правядзеньні новых выбараў паводле новага закону, які прадугледжваў зьмешаную партыйна-прапарцыйную сыстэму. БНФ сабраў 442 тысячы подпісаў (закон патрабаваў 350 тысяч). Аднак Шушкевіч выступіў супраць рэфэрэндуму, і ў кастрычніку 1992-га Вярхоўны Савет адмовіўся яго прызначыць. Я згодны з тым, што менавіта тады быў страчаны калі не апошні, дык найбольш рэальны шанец на дэмакратычны, эўрапейскі шлях Беларусі.

# Як мы спусьцілі зь лесьвіцы Жырыноўскага

Уладзімір Жырыноўскі — ня птушка, хаця лётаць любіць. Па Расеі лётае пэрсанальнымі рэйсамі, пераважна прыватнымі самалётамі. «Сокалы Жырыноўскага» — так называюць сябе актывісты Лібэральна-дэмакратычнай партыі Расеі. «Сокал Жырыноўскага» — назоў газэты ЛДПР. І ў гербе партыі Жырыноўскага — сокал, які расправіў крылы. Словам, птушынае племя, «люди большого полёта», як сьпявалася ў савецкай песьні.

Але сам Жырыноўскі ў Беларусі ў сьнежні 1991-га ляцеў ня ўверх, а — уніз. Праз дзьве-тры прыступкі лесьвіцы, не пасьпяваючы чапляцца рукамі за гранітныя сьцены Дому ўраду.

У сярэдзіне сьнежня ў СМІ прайшла інфармацыя, што Жырыноўскі едзе ў Беларусь.

На абшарах былога СССР Жырыноўскі на той час быў ужо добра вядомай адыёзнай фігурай. У чэрвені 91-га ён балятаваўся на пасаду прэзыдэнта Расеі, у жніўні адкрыта падтрымаў ГКЧП. У палітыцы паводзіў сябе як блазан, пры гэтым выказваў імпэрскія, шавіністычныя ідэі.

Пазьней палітолягі заўважаць, што Жырыноўскі выказваў тое, што не маглі сказаць уголас крамлёўскія кіраўнікі. З часам ён трапіць у Дзяржаўную думу Расеі і надоўга зойме там пасаду віцэ-сьпікера.

Увогуле, больш як 20-гадовы досьвед вывучэньня палітычных працэсаў (а часам і непасрэдны ўдзел у палітыцы) прывёў мяне да цікавага назіра-

ньня над дзеяньнем мадэлі, якую выкарыстоўваюць у тым ліку і спэцслужбы. Вельмі часта нейкія сумнеўныя ідэі ўкідваюцца ў грамадзтва блазнамі — і спачатку, натуральна, успрымаюцца большасьцю як ідыятызм ці, у лепшым разе, як абсурд. Але блазнаў пастаянна трымаюць у інфармацыйным полі, пра іх пішуць журналісты (і некаторыя журналісты — вельмі настойліва), іх пачынаюць абмяркоўваць палітолягі (і некаторыя палітолягі — вельмі часта). У выніку, пэўная, а часам і значная частка грамадзтва пачынае ўспрымаць гэтыя ідэі. Што да Жырыноўскага, дык у сваіх мэмуарах былы член Палітбюро ЦК КПСС Аляксандар Якаўлеў піша, што да стварэньня ягонай партыі яшчэ ў час панаваньня КПСС меў непасрэднае дачыненьне старшыня КДБ Уладзімер Кручкоў. Паказальна, што ў дні путчу Жырыноўскі актыўна падтрымаў ГКЧП, куды ўваходзіў і Кручкоў.

Візыт Жырыноўскага ў Менск шырока рэклямаваўся, анансаваўся і ягоны выступ па Беларускім тэлебачаньні ў прамым эфіры.

Мы, дэпутаты Вярхоўнага Савету, зь цяжкасьцю маглі дамагчыся эфіру — Жырыноўскаму ж была дадзена больш як гадзіна ў «прайм-тайм» і ў самай папулярнай у той час праграме «Крок». (Такое спрыяньне шавіністу потым стала зразумелым: галоўным рэдактарам рэдакцыі моладзевых праграмаў працавала Ніна Чайка, вядомая сваімі праімпэрскімі, прарасейскімі перакананьнямі. Тая самая Чайка, якая праз дзесяць гадоў узначаліць часопіс «Нёман» і ў апошнія месяцы жыцьця Васіля Быкава надрукуе гнюсны тэкст з абразамі на адрас Васіля Уладзімеравіча.)

Я зьвярнуўся да генэральнага пракурора Беларусі Мікалая Ігнатовіча з патрабаваньнем не даз-

воліць выступы Жырыноўскага ў Менску, а Алег Трусаў і Ўладзімер Заблоцкі накіравалі Шушкевічу запыт — хто запрасіў Жырыноўскага ў Беларусь, хто арганізаваў ягоны заплянаваны выступ у перадачы «Крок» на дзяржаўным тэлебачаньні і хто будзе аплачваць гэты выступ. Шушкевіч на запыт не адказаў.

22 сьнежня на сэсіі Шушкевіч быў вымушаны зачытаць яшчэ адзін запыт. Цытую стэнаграму.

Станіслаў Шушкевіч: «Шаноўныя дэпутаты, многія дэпутаты настойваюць, каб была зачытана адна запіска: «З друку стала вядома, што ў Менск прыяжджае і атрымлівае найбольшую ў Беларусі залю для выступленьня фашыстоўскі дэмагог Жырыноўскі. Няма сумненьня, што яго ваяж моцна спрацуе на палітычную дэстабілізацыю ў рэспубліцы. Думаю, што ўрад Беларусі павінен прыняць захады, каб не дапусьціць гэтага. Я ўжо не кажу пра маральны аспэкт справы. Прагрэсіўнай грамадзкасьцю Беларусі агітвізыт няпрошанага госьця будзе ўспрыняты як абраза для нашай нацыянальнай годнасьці. Ніл Гілевіч, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь».

Я як чалавек падзяляю думку Ніла Сямёнавіча. Але... Гэта камэрцыйнае мерапрыемства, за ўласны кошт альбо за кошт тых арганізацый, якія ёсьць на Беларусі, набываецца заля, і там выступаюць... Тут могуць толькі праваахоўныя органы, калі яны знаходзяць нейкія парушэньні, альбо фінансавыя органы... забараніць. (Шум у зале). Дык самую вялікую аўдыторыю купляюць за вялікія грошы. Я ня бачу тут парушэньня закону. Шаноўныя народныя дэпутаты! Калі ёсьць парушэньне законаў, у нас ёсьць праваахоўныя органы, ёсьць гарадзкія ўлады. І мне здаецца, гэта ня тая асоба,

каб мець такі гонар, каб абмяркоўвалі яе паводзіны на Вярхоўным Савеце. Усё».

Аднак Шушкевічу не ўдалося скамечыць тэму Жырыноўскага — яе ізноў узьняў Яўген Цумараў:

«Сапраўды, пытаньне пра Жырыноўскага ня варта таго, каб два словы тут гаварыць, але... Справа ў тым, што хацелася б, каб старшыня Вярхоўнага Савету прыняў гэта да ведама і даручыў адпаведным органам... Справа ў тым, што гэты чалавек заклікае, у парушэньне нашай Канстытуцыі (гэта відаць з публікацый газэты «Сем дзён» і розных інтэрвію)... Ён фактычна не прызнае сувэрэнітэту рэспублікі і заклікае ліквідаваць Рэспубліку. Трэба даручыць адпаведным органам пракантраляваць яго выступленьні».

Станіслаў Шушкевіч: «Я прашу вас не даваць мне парады, якія ня трэба даваць. Таму што гэта пытаньне вырашаецца законным шляхам на законных падставах. І тое, пра што мне сёньня напісалі, я ведаў дзесяць дзён назад, і адпаведныя захады былі прыняты».

Апошняя фраза Шушкевіча нас зьдзівіла. Аказваецца, ён ведаў пра прыезд Жырыноўскага і ніяк не запярэчыў гэтаму візыту. Не хацелася, вядома, думаць, што «адпаведныя захады», пра якія згадаў сьпікер — гэта рэклямныя інтэрвію ў дзяржаўных газэтах. Інтэрвію, у якіх ставілася пад сумнеў існаваньне Беларусі як незалежнай дзяржавы.

На другі дзень, 23 сьнежня, з запытам на сэсіі выступіў дэпутат Апазыцыі БНФ Валянцін Голубеў. Ізноў цытую стэнаграму.

Валянцін Голубеў : «Шаноўныя народныя дэпутаты! Я ўчора ня змог прысутнічаць на сэсіі і таму вельмі ўважліва вечарам глядзеў тэлевізар, каб ведаць, што ў нас было і што рабіць мне сёнь-

ня. Перад гэтым я паглядзеў перадачу «Крок», дзе выступаў спадар Жырыноўскі, які гаварыў пра тое, што наша дзяржава ня можа быць незалежнай. Пра тое, што гэта будзе толькі губэрня яго імпэрыі. Абражаў наш парлямэнт і старшыню Вярхоўнага Савету, заяўляючы, што, прыйшоўшы да ўлады, ён пасадзіць яго на 15 гадоў. І пасьля гэтага я паглядзеў тое, што адбылося ў нас у Вярхоўным Савеце. Як наш Вярхоўны Савет не хацеў разглядаць гэтае пытаньне. Дарэчы, я хачу сказаць і пра наш камітэт Дзяржтэлерадыё. Калі перад рэфэрэндумам аб захаваньні Саюзу ССР народны дэпутат Голубеў змог сказаць у праграме «Крок», што ён будзе галасаваць супраць гэтага пытаньня і заклікае сваіх выбаршчыкаў зрабіць так, то тыя людзі, якія вялі «Крок», былі адлучаныя ад эфіру на тры месяцы. Што робіцца зараз? Хто такі Жырыноўскі ў Беларусі? Чаму мы маўчым, калі чалавеку, які выступае супраць незалежнасьці Беларусі, мы не даем ніякай ацэнкі?»

Станіслаў Шушкевіч: «Шаноўныя народныя дэпутаты! Я хачу яшчэ раз сказаць, што калі Беларускі Народны Фронт патрабуе маёй адстаўкі, патрабуе адстаўкі ўраду ў сродках масавай інфармацыі, то мы аналізуем гэтыя пытаньні — чаму, што і як. Цяпер далей. Калі тут ёсьць парушэньне закону альбо ёсьць пэўная пазыцыя старшыні Дзяржтэлерадыё, мы можам гэта пытаньне разгледзець тут. Але разглядаць пытаньне аб тым, хто і што думае, — гэта ня справа Вярхоўнага Савету. Таму я прашу прагаласаваць за тое, каб перайсьці да пункту 1 «к» парадку дня. Хто за гэта, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся? Рашэньне прынята. Я запрашаю на трыбуну народнага дэпутата Пісарэвіча... (Шум у зале)».

Прыпыню цытаваньне — тут я пайшоў да мікрафона і запатрабаваў вярнуцца да пытаньня пра Жырыноўскага, бо ненармальна, што дзяржаўныя СМІ даюць трыбуну чалавеку, які выступае супраць існаваньня дзяржавы. Але Шушкевіч адключыў мой мікрафон. Ізноў стэнаграма.

Станіслаў Шушкевіч: «Паважаны Сяргей Іосіфавіч, калі вы па Радыё Свабода гаварылі такія, прабачце, рэчы, якія слухаць нельга, якія не адпавядаюць пазыцыі парлямэнту, вас ніхто тут не абмяркоўваў. (Воплескі). У нас межы адкрытыя. І грамадзяне Расеі, і інфармацыя з Расеі ў адпаведнасьці з ратыфікаваным пагадненьнем могуць сюды прыходзіць. Уносьце прапановы. (Шум у зале). Я яшчэ раз пастаўлю на галасаваньне пытаньне. Хто за тое, каб працаваць па парадку дня, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся? Рашэньне прынята. Калі ласка, народны дэпутат Пісарэвіч, я Вас запрашаю на трыбуну».

Сьцяпан Пісарэвіч: «Паважаныя народныя дэпутаты! У нас застаўся ў законе аб падатку на паліва адзін пункт...»

Рэпліка Шушкевіча ў мой бок выклікала абурэньне Валянціна Голубева, які заявіў, што адна справа — дэпутат, які мае права выказаць сваю нязгоду з пазыцыяй парлямэнцкай большасьці, і зусім іншая — грамадзянін суседняй краіны, які выступае за ліквідацыю Беларускай дзяржавы, выкарыстоўваючы СМІ гэтай дзяржавы.

Але Голубеў не дагаварыў — Шушкевіч адключыў мікрафон і яму.

Удзень 23 сьнежня я пачуў эмацыйную гутарку каля міліцэйскага паста на другім паверсе Дому ўраду. Выявілася: Жырыноўскі спрабаваў прарвацца да кабінэту Шушкевіча, а міліцыянт яго не

пускаў. Не дазвалялі прайсьці Жырыноўскаму і дэпутаты Лявон Дзейка і Мікола Маркевіч.

Далейшы наш дыялёг з Жырыноўскім цытую паводле газэтнай публікацыі.

«Вы маеце афіцыйныя запросіны да Шушкевіча?» — пацікавіўся Сяргей Навумчык. «Спадзяюся атрымаць іх, — упэўнена адказаў Уладзімер Вольфавіч. — Я з Шушкевічам размаўляў на зьезьдзе ў Крамлі, у мяне зь ім нармальныя адносіны. Я прыехаў да яго. Там, у Маскве, мне можна зь ім пагаварыць. А тут не? Зараз перапынак, і я хачу зь ім паразмаўляць пару хвілін. Дэмакраты горшыя за камуністаў, яны зрабілі так, што нікуды ня пройдзеш… Мне не патрэбная сэсія, я не прашуся ў залю пасяджэньняў, яны спужаюцца, што я выступлю. Яны людзі зь мінулага, чалавека з будучыні яны баяцца» («Знамя юности», 2 лютага 1992 г.).

Я прапанаваў Жырыноўскаму пакінуць будынак, але ён нахабна імкнуўся прарвацца да кабінэту Шушкевіча. Прыйшлося выпіхнуць за дзьверы калідора — туды, дзе была лесьвіца. Жырыноўскі выкруціўся і паспрабаваў ізноў праціснуцца ў калідор.

Тут зьявіўся Пётра Садоўскі, яшчэ раней праз тэлефон выкліканы міліцыянтам.

Член Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, старшыня парлямэнцкай камісіі па міжнародных справах і зьнешнеэканамічных сувязях Пётра Вікенцевіч Садоўскі павёў сябе гэтак, як і належала члену Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету і старшыні парлямэнцкай камісіі паводзіць сябе ў дачыненьні да кіраўніка партыі суседняй краіны, хай і ня вельмі яму сымпатычнага.

Садоўскі дыпляматычна папрасіў Жырыноўскага пакінуць памяшканьне, назваўшы яго нават

словам «таварыш» — «Таварыш Жырыноўскі!». Але ў адказ пачуў непалітычную лексыку.

«Подонок ты мне, а не товариш, паскуда такая!» — выкрыкнуў Жырыноўскі.

Умомант у філёлягу і будучым першым беларускім амбасадары ў Нямеччыне прачнуўся былы курсант сутвораўскай вучэльні.

Садоўскі прымяніў прыём, які імгненна ўпячатаў Жырыноўскага ў дзьверы. Я зноў выштурхнуў няпрошанага маскоўскага госьця ў калідор, на лесьвіцу. І мы цяпер ужо ўдвух надалі целу лідэра расейскай партыі такое паскарэньне, якое, паводле законаў фізыкі, перанесла Жырыноўскага на некалькі мэтраў ніжэй.

Лесьвіца ў Доме ўраду агінала ліфт, і таму мы мусілі некалькі разоў паўтарыць працэдуру. Для тых, хто ўбачыць у нашых дзеяньнях парушэньне спартовай этыкі (два на аднаго), скажу, што побач з Жырыноўскім быў кіраўнік ягонай партыйнай філіі ў Беларусі (так, некаторыя расейскія партыі мелі ў нас свае філіі), але ён жвавенька зьбягаў па лесьвіцы сам.

Спусканьне Жырыноўскага зь лесьвіцы працягвалася да першага паверха і суправаджалася ягонай лаянкай ды пагрозамі — так, мяне ён абяцаў «павесіць на слупе, і дзесяць, не, пятнаццаць дзён не дазваляць нікому, нават жонцы, здымаць са слупа труп».

Міліцыянты на крыкі Жырыноўскага рэагавалі са сьмехам.

Тут заўважу, што сыстэма аховы Дому ўраду была вельмі лібэральнай, калі не сказаць — мінімальнай.

Да прыкладу, аднойчы нейкая жанчына ў часе пасяджэньня Вярхоўнага Савету, трымаючы ў

абедзьвюх руках валізкі, прайшла па цэнтральным праходзе Авальнай залі і паклала перад агаломшаным Шушкевічам стосы нейкіх папераў. Як выглядала, яна зьявілася «з вуліцы», яе не спынілі ні міліцыянты на ўваходзе ў будынак, ні супрацоўнікі КДБ каля дзьвярэй Авальнай залі. Чырвоны ад гневу і сораму дэпутат, генэрал Генадзь Лавіцкі (намесьнік старшыні КДБ) узьняўся з крэсла і пайшоў у фае рабіць прачуханку сваім падначаленым.

А аднойчы ў мой кабінэт сакратара парлямэнцкай камісіі ў Доме ўраду прыйшоў нейкі наведнік, мужчына гадоў трыццаці пяці; у пакоі якраз была мая жонка Галіна (яна працавала карэспандэнткай менскай газэты «Добры вечар» і прыйшла ў Дом ураду рабіць інтэрвію з дэпутатамі). Калі я выйшаў у суседні кабінэт, наведнік дастаў нож, сказаў, што быў асуджаны і пагражаў жонцы, якая засталася ў пакоі адна, «пусьціць кроў» ды «зарэзаць». На шчасьце, нехта з супрацоўнікаў апарату зайшоў у кабінэт, выклікаў міліцыянта, і той вывеў небясьпечнага наведніка з Дому ўраду — гэтым і скончылася. Інцыдэнт кіраўніцтва Вярхоўнага Савету ніяк не зацікавіў — нікога не зарэзалі ж.

Неўзабаве пасьля таго, як мы з Садоўскім спусьцілі Жырыноўскага зь лесьвіцы, нехта з супрацоўнікаў апарату Вярхоўнага Савету сказаў мне, што нязванага госьця бачылі ў супрацьлеглым крыле Дому ўраду — там, дзе месьціцца Саўмін. Справай адной хвіліны было перасекчы плошчу і даведацца ў «саўмінаўскага» міліцыянта, куды накіраваўся маскоўскі візыцёр. Аказалася — да віцэ-прэм’ера Мікалая Косьцікава.

Каб звычайнаму грамадзяніну Беларусі патрапіць на прыём да намесьніка міністра, трэба было

патраціць шмат высілкаў і часу, аўдыенцыя ж у віцэ-прэм’ера была ўвогуле справай нерэальнай (напрыклад, старшыня райвыканкаму з маёй выбарчай акругі ня змог прабіцца да віцэ-прэм’ера, пакуль не былі падключаныя дэпутацкія магчымасьці). Жырыноўскага ж прынялі адразу.

Сакратарка Косьцікава пацьвердзіла, што Жырыноўскі быў у віцэ-прэм’ера, але колькі хвілінаў таму сышоў. Памочнік спрабаваў не пусьціць мяне ў кабінэт — не атрымалася.

Віцэ-прэм’ер быў адзін.

«Чаму Вы прынялі Жырыноўскага? Што ён у Вас прасіў?» — Косьцікаў маўчаў. На стале перад ім ляжаў ліст зь лягатыпам партыі Жырыноўскага. — «Дайце сюды гэтую паперу» — Косьцікаў пачаў абурацца, аднак я ўзяў паперу са стала. «Жырыноўскі выступае супраць беларускай дзяржаўнасьці, а Вы яго прымаеце як госьця. Такіх гасьцей трэба гнаць адразу з парога».

Косьцікаў, відаць, яшчэ так і не пасьпеў зразумець, што адбылося — а праз некалькі хвілінаў дэпутаты Апазыцыі БНФ ужо разглядалі «трафэй». Гэта быў зварот да генэральнага дырэктара МАЗу Міхаіла Лаўрыновіча: «пераканаўча просім выдзеліць ў гэтым годзе (апошнія два словы падкрэсьленыя, а да канца году і заставалася ўсяго некалькі дзён — С.Н.) па старых коштах для патрэбаў ЦК Лібэральна-дэмакратычнай партыі 6 (шасьці) грузавых аўтамабіляў маркі «МАЗ 64299». Аплату гарантуем. Загадзя ўдзячны старшыня партыі У. Жырыноўскі» — і подпіс.

Гэты ліст я пакінуў сабе як сувэнір.

Жырыноўскі хацеў набыць дэфіцытныя аўтамабілі па старых коштах, у дзясяткі разоў таньнейшых, чым тыя, што ўжо існавалі. Відавочна, гэта

і было прадметам яго гутаркі зь віцэ-прэм’ерам. Зразумела, тэлефонны званок з высокага саўмінаўскага кабінэту мог вырашыць справу — але, вось жа, сарвалася.

У кулюарах сэсіі да мяне падышоў міністар унутраных справаў генэрал Уладзімер Ягораў: «Мы цяпер правяраем, ці ёсьць у ахоўнікаў Жырыноўскага зброя. Калі ёсьць, іх дэпартуюць».

Мой зварот да генэральнага пракурора Мікалая Ігнатовіча меў станоўчы вынік. Гарадзкая пракуратура скасавала раней выдадзены намесьнікам старшыні гарвыканкаму дазвол на сустрэчу Жырыноўскага з жыхарамі Менску ў Палацы спорту (заля — некалькі тысяч чалавек). Я накіраваў Ігнатовічу яшчэ адзін запыт — гэтым разам ужо наконт паводзінаў Жырыноўскага ў Менску.

## «Моцная дзяржава там, дзе моцныя войска і тайная паліцыя...»

Жырыноўскі быў абураны, і на прэсавай канфэрэнцыі, распавёўшы пра свае крокі ў выпадку абраньня яго прэзыдэнтам, прайшоўся па аўтару гэтых радкоў:

«Дэмакратыя магчымая толькі там, дзе моцная дзяржава. А моцная дзяржава там, дзе моцныя войска і тайная паліцыя… Трэба даць зразумець насельніцтву: калі будзе супраціў новаму законнаму рэжыму, ён будзе падаўлены… Я навяду парадак па ўсёй краіне. Без «варанкоў» і рэпрэсіяў. Цягам двух-трох месяцаў прылаўкі будуць напоўненыя ўсім неабходным. Галодных, халодных і беспрацоўных у мяне ня будзе (тое самае, амаль слова ў слова, паўторыць Лукашэнка на выбарах 1994 г. — С.Н.). Усе рэспублікі ліквідуюцца адным

указам. Адна рэспубліка — Расейская Фэдэрацыя Дэмакратычная. Шушкевіч у вас будзе, Кебіч, свой гімн. Але заходняя мяжа гэтай дзяржавы будзе праходзіць па Бугу…. Так, тэлебачаньне гатовае? Дзяржаўнае тэлебачаньне ў нас у асноўным антырускае. Нічога, давайце. Хай хлусяць, я за свабоду прэсы. Учора ваш парлямэнт у асобе сакратара Камісіі па правах чалавека сплываў жоўцю. Прыгадаў мяне: як так? Дапусьцілі выступіць? Хто даў права? Гэта дзікунства. Дэпутат парлямэнту павінен забясьпечваць правы грамадзян на тэрыторыі рэспублікі, а ён ломіць прававую структуру і за гэта атрымлівае грошы».

Празь некалькі дзён я атрымаў афіцыйны адказ на свой запыт, падпісаны генэральным пракурорам Мікалаем Ігнатовічам:

«Паважаны Сяргей Іосіфавіч!

Ваш ліст аб неправамерных дзеяньнях старшыні Лібэральна-дэмакратычнай партыі Жырыноўскага У.В. пракуратурай рэспублікі разгледжаны.

Установлена, што 23.12.1991 Жырыноўскі, знаходзячыся ў будынку Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, уступіў у спрэчку з народнымі дэпутатамі, сярод якіх знаходзіліся і Вы. Пры гэтым Жырыноўскі паводзіў сябе груба і абуральна, выказваў абразы і пагрозы ў адрас народных дэпутатаў. У сувязі з гэтым на яго складзены адміністрацыйны пратакол у адпаведнасьці з арт. 156 Кодэксу аб адміністрацыйных парушэньнях (дробнае хуліганства), які накіраваны на разгляд у народны суд.

Падстаў для ўзбуджэньня супраць Жырыноўскага крымінальнай справы пракуратура рэспублікі не знаходзіць. У адпаведнасьці з арт. 189 і 202 Крымінальнага кодэксу РБ крымінальная адказ-



ПРОКУРАТУРА СОЮЗА ССР
ПРАКУРАТУРА
Беларускай ССР
ПРОКУРАТУРА
Белорусской ССР
220049, г. Мінск,
вул. Інтэрнацыянальная, 24
220049, г. Минск,
ул. Интернациональная, 24

9.01.92 № 32/647-91

На № ______ от ______

Вярхоўны Савет
Рэспублікі Беларусь
Народнаму дэпутату
Рэспублікі Беларусь
Навумчыку С.І.

Паважаны Сяргей Іосіфавіч !

Ваш ліст аб неправамерных дзеяннях старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі Жырыноўскага У.В. пракуратурай рэспублікі разгледжаны.

Устаноўлена, што 23.12.91 Жырыноўскі , знаходзячыся ў будынку Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, уступіў у спрэчку з народнымі дэпутатамі , сярод якіх знаходзіліся і Вы. Пры гэтым Жырыноўскі паводзіў сябе груба і абуральна , выказваў абразы і пагрозы ў адрас народных дэпутатаў. У сувязі з гэтым на яго складзены адміністрацыйны пратакол у адпаведнасці з арт. 156 КаАП РБ / дробнае хуліганства /, які накіраваны на разгляд у народны суд.

Падстаў для ўзбуджэння супраць Жырыноўскага крымінальнай справы пракуратура рэспублікі не знаходзіць. У адпаведнасці з арт. 189 і 202 КК РБ крымінальная адказнасць за пагрозу забойствам настае толькі ў выпадку , калі яна з'яўляецца рэальнай. Жырыноўскі сапраўды выказваў пагрозы у Ваш адрас , аднак яны рэальнымі не з'яўляюцца.

Што датычыцца абразы народнага дэпутата Садоўскага П.В., дык гэтыя дзеянні Жырыноўскага , таксама як і пагрозы у Ваш адрас, ахопліваюцца саставам адміністрацыйнага правапарушэння , прадугледжанага арт. 156 КаАП РБ. Дзеянні Жырыноускага ў гэтай частцы нельга кваліфікаваць у адпаведнасці з арт. 188 або 129 КК РБ , таму што да крымінальнай адказнасці можа быць прыцягнута толькі асоба, абразіўшая другую асобу непрыстойнымі словамі.

Генеральны пракурор
Рэспублікі Беларусь

М.І.Ігнатовіч

Адказ генэральнага пракурора Мікалая Ігнатовіча на дэпутацкі запыт адносна Жырыноўскага.

насьць за пагрозу забойствам надыходзіць толькі ў выпадку, калі яна зьяўляецца рэальнай. Жырыноўскі сапраўды выказваў пагрозы на Ваш адрас, аднак яны рэальнымі не зьяўляюцца.

Што датычыцца абразы народнага дэпутата Садоўскага П.В., дык гэтыя дзеяньні Жырыноўскага, таксама як і пагрозы на Ваш адрас, ахопліваюцца складам адміністрацыйнага парушэньня, прадугледжанага арт. 156 КаАП РБ, Дзеяньні Жырыноўскага ў гэтай частцы нельга кваліфікаваць у адпаведнасьці з арт. 188 або 129 КК РБ, таму што да крымінальнай адказнасьці можа быць прыцягнутая толькі асоба, якая абразіла другую асобамі непрыстойнымі словамі.»

Зразумела, што Ігнатовіч толькі падпісаў адказ, пісаў яго нейкі іншы, рангам ніжэйшы супрацоўнік пракуратуры, які, магчыма, і праводзіў праверку. Дарэчы, зьвяртае ўвагу, што напачатку нават не пазначана прыналежнасьць партыі Жырыноўскага іншай краіне, Расеі — у пракуратуры «расейскае» яшчэ працягвалі успрымаць як «сваё», і такое стаўленьне ня хутка зьменіцца.

Мікалая Ігнатовіча, які ў 1989 годзе быў абраны народным дэпутатам СССР пры падтрымцы БНФ, мы зь цяжкасьцю правялі на пасаду генэральнага пракурора у лістападзе 1991-га. Праз год Ігнатовіч памрэ, кароткі пэрыяд «дэмакратызацыі» пракуратуры скончыцца, і ў часе страйку на менскім мэтрапалітэне, у жніўні 1995-га, калі мы, група дэпутатаў, зьвернемся ў пракуратуру па абарону нашага калегі, лідэра рабочага руху Сяргея Антончыка, якога спэцслужбы тры дні трымалі пад рулямі аўтаматаў, першы намесьнік генпракурора Ўладзімер Кандрацьеў цынічна заявіць нам, што слова прэзыдэнта Лукашэнкі — вышэйшае за Канстытуцыю і законы.

Але ў сьнежні 1991 году мы дамагліся, каб праваахоўная машына спрацавала: у маскоўскую міліцыю была нават накіраваная тэлеграма з про-

сьбай «забясьпечыць яўку для дачы паказаньняў у Цэнтральны РАУС Менску Ўладзіміра Жырыноўскага» (іншая справа, што начальнік крымінальнага вышуку Масквы адмовіўся гэта рабіць).

Словам, у сытуацыі з Жырыноўскім праваахоўныя органы выкарысталі ўсе альбо амаль усе юрыдычныя магчымасьці, але іх намаганьні ня мелі палітычнай падтрымкі ад найвышэйшай улады.

Такая падтрымка, безумоўна, мусіла быць ад найвышэйшай службовай асобы — старшыні Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча.

І рэч тут ня толькі ў юрыдычным пакараньні маскоўскага шавініста. Адсутнасьць у заканадаўстве палажэньняў пра забарону заклікаў да ліквідацыі дзяржавы — зусім не апраўданьне бязьдзейнасьці таго, хто гэтую дзяржаву абавязаны абараняць палітычна.

Інцыдэнт з Жырыноўскім даваў магчымасьць самай высокай службовай асобе і з самай высокай трыбуны, на ўсю краіну, выразна і адназначна заявіць, што нікому не дазволена ставіць пад сумнеў сувэрэнітэт Беларусі. Шушкевіча тады чынавенства яшчэ ўспрымала як «самага вялікага начальніка» і, безумоўна, вымушана было б прыслухацца. Такая заява мела б асабліва важнае значэньне менавіта ў тыя дні, першыя дні пасьля распаду СССР. Гэта прымусіла б задумацца тых у Беларусі, хто ўжо распачаў свой наступ на беларускую незалежнасьць.

Але Шушкевіч не палічыў патрэбным гэта зрабіць.

Было зразумела, што прыхільнікі аднаўленьня імпэрыі, адчуўшы сваю беспакаранасьць, будуць дзейнічаць больш актыўна.

Мае сябры час ад часу з гумарам прыгадваюць мне той візыт Жырыноўскага ў Менск і акалічнасьці ягонага «палёту» зь лесьвіцы Дому ўраду. Не забываецца пра той прыезд, мяркуючы па ягоных інтэрвію, і Жырыноўскі. Мне ж ні тады, ні цяпер ня бачылася ў тым нічога сьмешнага. Было зразумела, што гэта толькі пачатак.

Так і адбылося. Ужо праз некалькі дзён у менскіх падземных пераходах зьявіліся газэткі з заклікам пакараць ініцыятараў зьнішчэньня СССР, потым праклюнуліся розныя «славянскія саборы» і «народныя рухі» Гайдукевіча, тагачаснага супрацоўніка апарату Саўміну, якія выступалі супраць нацыянальнага Адраджэньня і за рэстаўрацыю імпэрыі. Нарэшце, у 1993-м, дэпутат Лукашэнка заявіў пра неабходнасьць аднаўленьня СССР — напачатку ў форме саюзу Расеі і Беларусі.

Між іншым, у манерах і паводзінах Жырыноўскага і Лукашэнкі і тады і цяпер шмат агульнага. Як кажуць у такіх выпадках — птушкі аднаго палёту.

# Беларускі погляд

Гісторыкі і палітолягі, ацэньваючы падзеі 1991-га, часта разыходзяцца ў поглядах адносна двух пытаньняў.

Які дзень лічыць датаю, калі Беларусь атрымала незалежнасьць?

Хто найбольш прычыніўся да заваёвы незалежнасьці?

Мой адказ на гэтыя пытаньні і будзе завяршэньнем гэтай кнігі.

У жніўні 2011-га, калі беларускай незалежнасьці спаўнялася дваццаць гадоў, афіцыйная прэса цалкам праігнаравала гадавіну наданьня Дэклярацыі аб сувэрэнітэце канстытуцыйнага статусу, затое шмат казала пра Віскулёўскія пагадненьні — у рэчышчы выказваньня Лукашэнкі, які калісьці ўжыў тэрмін «злачынства». Штогод (як правіла, у жніўні і ў сьнежні) шмат перадач, інтэрвію ды рэпартажаў гадавіне Белавескіх пагадненьняў прысьвячаюць і маскоўскія СМІ, якія ўсё яшчэ маюць моцны ўплыў на беларускае грамадзтва — менавіта як «геапалітычнай катастрофе» (вядомы выраз Пуціна).

У выніку для чытача, слухача ды гледача, якія ня маюць доступу да незалежнай прэсы, незалежнасьць Беларусі і распад СССР зьліваюцца ў нейкую аднаімгненную падзею і атаясамліваюцца выключна зь Віскулямі.

Насамрэч, здабыцьцё Беларусьсю незалежнасьці і распад савецкай імпэрыі — гэта два розныя (хоць і цесна зьвязаныя паміж сабой) — працэсы.

Распад СССР ня мае канкрэтнай даты. 6 верасьня 1991 году Зьезд народных дэпутатаў СССР прызнаў незалежнасьць рэспублік Балтыі. 8 сьнежня ў Віскулях дамову аб скасаваньні СССР падпісалі правапераемнікі яго заснавальнікаў. 21 сьнежня ў Алма-Аце яе ўхвалілі яшчэ восем лідэраў савецкіх рэспублік. 25 сьнежня падаў у адстаўку прэзыдэнт Гарбачоў і з крамлёўскага купала спусьцілі чырвоны сьцяг СССР, а 26 сьнежня Савет Рэспублік (верхняя палата Вярхоўнага Савету СССР) прыняла пастанову аб ліквідацыі СССР як суб'екту міжнароднага права ад 31 сьнежня 1991 году.

Працэс аднаўленьня незалежнасьці таксама заняў не адзін месяц і нават не адзін год, але ў прававым ды палітычным сэнсах ён вызначаны канкрэтным днём — 25 жніўня 1991 году.

Менавіта з гэтага дня Беларусь зрабілася незалежнай краінай, у юрыдычным сэнсе — такой самай, як Польшча, Францыя, ЗША ці Вялікабрытанія. Вядома, трэба было ствараць усе атрыбуты дзяржаўнасьці, у тым ліку сваё войска, уласную валюту, але нідзе гэта не рабілася за адзін дзень.

Важнасьць моманту, дарэчы, вельмі добра адчувалася ўжо ў тыя жнівеньскія дні: як раней ужо згадвалася, газэта «Звязда» выйшла з шапкай праз усю першую паласу «Беларусь — незалежная!»

У лукашэнкаўскай Беларусі дзень 25 жніўня афіцыйна замоўчваецца, затое ўсяму, што зьвязана з распадам СССР, надаецца пэўная ўвага (хай і ў адмоўным сэнсе). Безумоўна, дэмакратычная грамадзкасьць станоўча ацэньвае Белавескія пагадненьні, і многія лічаць іх адлікам незалежнасьці Беларусі. Як сказаў адзін былы дэпутат Вярхоўнага Савету, які ў момант падпісаньня ў Віскулях

быў у замежнай камандзіроўцы: «Я выяжджаў з СССР, а вярнуўся ў Рэспубліку Беларусь». Я ўжо цытаваў словы Станіслава Шушкевіча пра Віскулі: ўпершыню за 200 гадоў Расея прызнала Беларусь сувэрэннай дзяржавай, пра што «бээнэфаўцы і марыць не маглі».

Зрэшты, для ўсьведамленьня значнасьці падзеяў чым большая часовая адлегласьць — тым лепей. Возьмем тэрмін разоў у дзесяць больш. Тым больш, што маем прыклад народаў з даўняй традыцыяй сьвяткаваньня незалежнасьці.

Я правёў невялікае апытаньне сярод маіх амэрыканскіх знаёмых. Усе яны скончылі амэрыканскія ўнівэрсытэты, дасягнулі прафэсійных посьпехаў, некаторыя маюць навуковыя ступені і прафэсарскія званьні.

Я спытаўся: што гаворыць вам дзень 3 верасьня 1783 году? Чым адметная гэтая дата ў амэрыканскай гісторыі? Што значыць яна для ЗША?

Не адказаў ніхто.

Затое другое маё пытаньне — а што азначае 4 ліпеня 1776 году? — практычна ўсе ўспрынялі з насьцярогай: а што гэта ты маеш на ўвазе, ці ня лічыш ты мяне за дурня, у чым тут падвох, ясна ж — гэта Дзень незалежнасьці ЗША, кожны школьнік ведае.

Пра дзень 3 верасьня 1783 году, паводле словаў амэрыканскага беларуса Багдана Андрусішына (Данчыка), ім не казалі ні ў школе, ні ва ўнівэрсытэце. Напэўна, думаю, усё ж казалі, але гэтая дата сьцёрлася імгненна з памяці, як і тысячы іншых датаў, пра якія ўсе мы чулі ў свой час на ўроках ды лекцыях.

Прафэсар Паўліна Сурвіла сказала, што на той год, магчыма, прыпадае нейкая падзея ў Вялікім

Княстве Літоўскім, але вось жа сорам — забылася, якая менавіта. Наконт жа таго, што забылася, чым гэтая дата адзначана ў амэрыканскай гісторыі, прафэсар ніякага сораму ня выявіла — сапраўды, усё не запомніш.

Між тым, менавіта 3 верасьня 1783 году была падпісаная Вэрсальская мірная дамова (удзельнічалі Вялікабрытанія, Францыя, Гішпанія і ЗША), адным з пунктаў якой было прызнаньне Вялікай Брытаніяй незалежнасьці ЗША, і тым самым Лёндан перастаў лічыць Штаты сваімі калёніямі.

Гэта былі своеасаблівыя «амэрыканскія» Віскулі.

«So what? Ну і што? — перапытала мая знаёмая амэрыканка. — Якая мне розьніца, хто там і калі нешта падпісаў? Гэта іхняя справа. Нам важна, калі мы самі заявілі пра незалежнасьць Амэрыкі».

І сапраўды, гэта як і ў жыцьці чалавека: дзень народзінаў мы адзначаем у дзень, калі нарадзіліся, а не калі ў канторы зроблены рэгістрацыйны запіс ці выдадзенае пасьведчаньне аб нараджэньні. Таму былыя калёніі Брытанскай імпэрыі сьвяткуюць абвяшчэньне незалежнасьці, а не распад Брытанскай імпэрыі.

Усё тое магло б падацца вартым увагі толькі вузкага кола адмыслоўцаў і гісторыкаў, калі б не адна акалічнасьць.

Вылучэньне на першае месца распаду імпэрыі і падзеяў зь ёй зьвязаных — гэта погляд з самой гэтай былой імпэрыі, зь яе цэнтру. У нашым выпадку — з Масквы.

У сярэдзіне 1980-ых, яшчэ да пачатку апошняй хвалі Адраджэньня, выпускнік гістарычнага факультэту БДУ Сяргей Абламейка напісаў у самвы-

даце, што беларускія гісторыкі павінны глядзець на мінуўшчыну беларускімі вачыма.

Прайшло шмат часу, але і ў гісторыкаў, і ў палітыкаў, і ў журналістаў, шмат у каго з тых, хто фармуе грамадзкую думку, погляд гэты (ва ўсякім разе, на падзеі нядаўняга часу) — застаецца па-ранейшаму маскоўскім.

А што было б бяз Фронту?

Сапраўды — што было б?

Вядома, падзеі, якія адбываліся ў Беларусі на мяжы 1980-1990-х гадоў, нельга разглядаць па-за кантэкстам агульнага працэсу дэмакратызацыі і актывізацыі нацыянальных рухаў у СССР дый ва ўсёй Усходняй Эўропе.

Звычайна лічаць, што пачатак гэтаму працэсу быў пакладзены галоснасьцю і перабудовай, ініцыяванымі Гарбачовым. У значнай ступені так. Але праўда і тое, што Гарбачоў зусім ня прагнуў ні дэмантажу Варшаўскага блёку, ні ліквідацыі КПСС і, шырэй, камуністычнай сыстэмы, і ўжо ніколі не жадаў ён распаду СССР. Усё, да чаго імкнуўся Гарбачоў — гэта «сацыялізм з чалавечым тварам»; калі казаць больш дакладна — зь «ленінскім» тварам (пра што сьведчаць і «адкрытыя» заявы ў прэсе ў 1985-1990 гадоў, і «закрытыя» тады пратаколы і запісы пасяджэньняў Палітбюро).

Атрымалася зусім ня так, як уяўляў сабе ініцыятар перабудовы: дэмакратычныя рухі ва Ўсходняй Эўропе вырвалі свае краіны з сацыялістычнага канцлягеру, а нацыянальна-вызвольныя рухі рэспублік СССР прывялі свае народы да незалежнасьці.

Кожны народ меў свой палітычны авангард. У нас гэта быў Беларускі Народны Фронт.

Тым, хто сумняваецца (а такія ёсьць) і лічыць, што Беларусь атрымала б незалежнасьць і калі б Фронту не было — прапаную зрабіць вельмі простую працэдуру з гэтым самым «калі б». А менавіта — уявіць, што ў 1991 годзе гэтага руху няма. Адпаведна, няма і фронтаўскіх прадстаўнікоў у Вярхоўным Савеце.

Можна абсалютна ўпэўнена сьцьвярджаць, што ў такім выпадку і ніякага абвяшчэньня незалежнасьці 25 жніўня не адбылося б — гэта ж менавіта дэпутаты Апазыцыі БНФ патрабавалі зь першых хвілінаў сэсіі наданьня Дэкларацыі аб сувэрэнітэце канстытуцыйнай сілы, насуперак меркаваньню ўсёй парлямэнцкай большасьці. І менавіта дэпутаты БНФ прымусілі Дземянцея сысьці ў адстаўку, што кардынальна зьмяніла ходу сэсіі і праз некалькі месяцаў у працэсе фармальнай ліквідацыі СССР адыграла важную ролю. І ня варта параўноўваць Беларусь з Украінай, дзе за незалежнасьць выступалі і камуністычныя сакратары — у нас партыйны апарат быў адданы ідэі захаваньня СССР.

Зрэшты, не было б і самой Надзвычайнай сэсіі ў жніўні — бо менавіта дэпутаты БНФ дамагліся на пасяджэньні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету яе прызначэньня.

У выніку Беларусь заставалася б у складзе СССР. Напрыклад, разам з Расеяй і Казахстанам, які да апошняга трымаўся за Маскву. Лішне казаць, што і абвяшчэньня «Пагоні» і бел-чырвона-белага сьцяга дзяржаўнымі сымбалямі таксама б не адбылося.

Але ж, запярэчаць мне, урэшце і Казахстан абвясьціў незалежнасьць — 16 сьнежня, праз ты-

дзень пасьля Віскулёў. Хай і са спазьненьнем, але абвясьціў.

Вось менавіта — пасьля таго, як распад імпэрыі стаў відавочным. Казахстан у гэтым сэнсе ёсьць фэномэнам, што, у значнай ступені, тлумачыцца палітычнай прывязанасьцю Назарбаева да Гарбачова (як ужо згадвалася, апошні абяцаў казахскаму лідэру пасаду прэм’ера ў «абноўленай садружнасьці»). Але я вельмі сумняваюся, што Дзямянцей, калі б ён у якасьці старшыні Вярхоўнага Савету быў у Віскулях, падпісаў бы Белавескае пагадненьне, як гэта зрабіў Шушкевіч. Зрэшты, пры чым тут мае меркаваньні, калі сам Дзямянцей і тады, і цяпер кажа, што ніколі не паставіў бы свайго подпісу пад дакумэнтам пра развал СССР. Добра ведаючы Мікалая Іванавіча, менавіта гэтым ягоным словам я веру абсалютна.

Вядома, рана ці позна Беларусь дасягнула б незалежнасьці — але застаецца здагадвацца, якім коштам. І тое «позна» магло б вымярацца дзесяцігодзьдзямі. А кошт — чалавечымі жыцьцямі...

Але ўсё гэта — шмат у чым абстрактныя разважаньні. Першым адкрыта вылучыў ідэю беларускай незалежнасьці як палітычную Зянон Пазьняк — на Сойме БНФ у траўні 1990 году, і абвешчаная яна была 25 жніўня 1991 году. Тут — дакладныя гістарычныя факты.

# Эпілёг. Людзі на Плошчы

Сьнежань быў багаты на сустрэчы з замежнікамі — усьлед за журналістамі ў Беларусь адзін за адным прыяжджалі заходнія дыпляматы. Пакуль што — каб прыгледзецца.

Мой дзень народзінаў мы з Галяй вырашылі адзначыць сьціпла — дый ніякіх іншых варыянтаў не заставалася, бо ў крамах было пуста. Але нават сьціплай сямейнай вячэры не атрымалася: патэлефанаваў міністар замежных справаў Пятро Краўчанка і папрасіў прыйсьці на сустрэчу з брытанскімі дыпляматамі.

Вось так я і адзначыў сваё 30-годзьдзе — у нейкай асобнай залі «старога» гатэлю «Беларусь», у кампаніі зь міністрам замежных спраў Беларусі, кіраўніком аддзелу брытанскага МЗС і амбасадарам Яе Вялікасьці ў Маскве Родрыкам Брэйтвэйтам. Калі мы с Алегам Трусавым (ён таксама быў на вячэры) казалі, якой хочам бачыць незалежную Беларусь, заходнія дыпляматы слухалі гэта ўжо без іранічных усьмешак. Праўда, найбольш іх, як я адчуваў, цікавіў лёс ядзернай зброі…

Апошнія дні сьнежня мы з Аляксандрам Лукашуком былі ў Лёндане ў айца Аляксандра Надсана — гаспадара Беларускай Скарынаўскай бібліятэкі. Там і разьвіталіся з 1991 годам.

Трэба было пражыць трыццаць гадоў у Беларусі, каб у Лёндане ўпершыню пакласьці на далонь талер Вялікага Княства Літоўскага, убачыць слуцкія паясы, узяць у рукі пашпарты БНР, дакрануцца да аўтографаў Купалы і Коласа… А яшчэ кніга, якую

трымаў пры сабе ў зьняволеньні Максім Гарэцкі, і лягерная роба Ларысы Геніюш — сьведчаньні народнай трагедыі…

Мы гарталі кнігі ў Скарынаўскай бібліятэцы, як раптам зьявілася выбітная перакладчыца беларускай паэзіі Вера Рыч і загадала нам хуценька («таксі чакае») сабрацца. Па дарозе высьветлілася, што вязе яна нас да нейкага выдатнага эканаміста, які кансультуе ўрады краінаў Усходняй Эўропы ў справе рэформаў, і вось паміж Варшавай і Нью-Ёркам ёй удалася злавіць яго ў Лёндане («неверагодная ўдача»).

Вера прывезла нас у нейкі маёнтак, эканамічны сьветач сустрэў нас ветліва і папрасіў прабачэньня, што ў яго на размову толькі сорак хвілінаў. І дадаў, што добра ведае, аб чым можам расказаць яму мы, але нам будзе значна больш карысьці, калі мы проста памаўчым і паслухаем.

Падчас маналёгу мяне ўразілі дзьве фразы. Першая — «Для дасягненьня ўлады вам ня варта рабіць рэзкіх рухаў, можаце проста рабіць па мінімуме, можаце ўвогуле нічога не рабіць — вы ўсё роўна прыйдзеце да ўлады». Другая — «Хутка ў вашай краіне сярэдні заробак дасягне 100 даляраў» (у тыя дні зарплата Шушкевіча была некалькі дзясяткаў даляраў).

«Неяк мала верыцца», — выказаў я сумнеў. — «Вы ня верыце, што прыйдзеце да ўлады? Так адбываецца ва ўсіх посткамуністычных краінах». — «Якраз у гэта я веру. Ня веру, што будзе такі вялікі заробак».

Сьвяціла расьсьмяяўся.

Я сапраўды не сумняваўся, што неўзабаве мы прыйдзем да ўлады: былі ж ва ўладным эшалёне маладыя рэфарматары ў Расеі. Між іншым, іх дзей-

насьць адыграла ў стаўленьні беларускага грамадзтва да дэмакратычнай апазыцыі своеасаблівую ролю: Беларусь знаходзілася ў маскоўскім інфармацыйным полі, расейскія СМІ штодня казалі, што «ва ўладзе — дэмакраты». Людзі ў Беларусі тады яшчэ не прызвычаіліся (і ня хутка прызвычаяцца), што Расея — гэта асобная дзяржава, а Масква — ня нашая сталіца, і шмат хто лічыў, што і ў Беларусі ўлада ў руках дэмакратаў (спрацоўваў яшчэ і «фактар Шушкевіча», які гаварыў пра сябе як пра дэмакрата). У Расеі пачаліся эканамічныя рэформы, у Беларусі яны тармазіліся, але ў масавай сьвядомасьці рэзкае пагаршэньне жыцьця зьвязвалася і з дэмакратамі, якія нібыта «ва ўладзе», і з рэформамі, якія нібыта «ідуць».

Час паказаў, што не заўсёды спрацоўваюць разьлікі нават самых кваліфікаваных эканамістаў. І Беларусь, якая па шэрагу эканамічных пазыцыяў мела лепшыя за сваіх суседзяў стартавыя ўмовы, апынулася ззаду — ці не найперш таму, што адставала — шмат каму гэта здавалася малаістотным — ва ўзроўні нацыянальнай сьвядомасьці.

У адзін зь вечароў, здаецца, нават у апошні вечар 1991-га, Вера Рыч павезла нас у цэнтар Лёндану у Ўэстмінстэрскае абацтва. Яно было зачыненае для публікі, аднак Веры ўдалося нейкім чынам угаварыць вартаўнікоў, і нас прапусьцілі. У дальняй ад уваходу галерэі ішла служба, але людзей было зусім няшмат — ня больш дзесяці-пятнаццаці чалавек. Мы селі побач з жанчынай паважнага веку, у нейкім капялюшыку з вэлюмам.

«Тэтчэр. Маргарэт Тэтчэр!» — шапнула Вера.

Тэтчэр сядзела не варухнуўшыся (вось гэта і называецца «халодным арыстакратызмам»), трымаючы ў руках малітоўнік. У выпадку, калі былая

прэм’ер-міністар — цяпер ці раней — зьвярталася да Бога па дапамогу ў справе палітычных мэтаў, дык магла лічыць, што яе просьбы пачутыя: камуністычная сыстэма абрынулася. Вось толькі наўрад ці яна калі-небудзь прасіла Госпада разбурыць імпэрыю — Савецкі Саюз.

Магчыма, якраз у гэты самы час у Вашынгтоне прадстаўнік Беларусі ў ААН Генадзь Бураўкін уручаў прэзыдэнту ЗША Джорджу Бушу дакумэнты, якія прымушалі гаспадара Белага Дому паверыць у тое, у што яшчэ месяц таму яму ня верылася.

Савецкага Саюзу больш не існавала.

У тыя дні і пазьней распад савецкай імпэрыі, дасягненьне незалежнасьці Беларусі зьвязваўся з імёнамі палітыкаў.

Але намаганьні палітыкаў былі б марнымі, калі б не было падтрымкі народу.

У Беларусі 1991 году гэтае паняцьце — «народ» — я атаясамліваю найперш зь людзьмі на плошчы.

Гэта — людзі, якія цягам усяго 1991-га прыходзілі да Дому ўраду, на іншыя плошчы сталіцы, беларускіх гарадоў і мястэчак.

Гэта тыя, хто ў сакавіку прыйшоў на мітынг супраць рэфэрэндуму пра захаваньне СССР, убачыўшы ў гарбачоўскай ініцыятыве казуістычную спробу ўратаваць імпэрыю нібыта воляй «усяго савецкага народу» — калі незадоўга да гэтага памкненьні «маленькіх» народаў (і нашых суседзяў літоўцаў) спрабавалі раздушыць танкамі.

Гэта рабочыя, якія пакінулі заводзкія прахадныя і выйшлі спачатку на Даўгабродзкую, а потым арганізаванымі калёнамі дайшлі да Дому ўраду. Тое была, як тады казалі, «не бээнэфаўская публіка», і у першыя хвіліны выступу перад той

сотняй тысяч людзей я адчуў нейкую іх насьцярожанасьць і нават пачуў: «Говори по-русски!» Ды ня тыя галасы вызначылі ўрэшце танальнасьць плошчы, а просьба старшыні страйкаму Трактарнага заводу Веры Церлюкевіч: пачытайце вершы Янкі Купалы! Страйкоўцы выйшлі з прахадных з патрабаваньнем зьнізіць цэны і ўзьняць зарплаты — а ў Дом ураду іх лідэры занесьлі патрабаваньні вывесьці з заводаў камуністычныя парткамы і надаць Дэклярацыі аб сувэрэнітэце канстытуцыйны статус.

І, канешне, тыя дзьве — тры сотні мужных людзей, якія сабраліся ўвечары 19 жніўня, у першы дзень ГКЧП, і тысяча, што выйшла на наступны дзень. Празь некалькі гадоў я перадаў Гарбачову той фатаздымак менскага мітынгоўца з надпісам на партрэце арыштаванага ў Фаросе генсека «Яго — сёньня, цябе — заўтра». У той дзень людзі на плошчы ня ведалі, што будзе заўтра — зусім магчыма, усіх упіхнулі б у тыя восем закратаваных вагонаў, якія падагналі на менскую станцыю «Радыятарная». У тых вагонах па шляху на усход, магчыма, да самай Калымы, заставалася б хіба толькі маліцца — на плошчы разам з намі быў уніяцкі сьвятар, дыякан Андрусь Абламейка. Але на наступны дзень путч праваліўся. І тыя два дні да сэсіі, якія былі скарыстаныя для выпрацоўкі законапраектаў, заўсёды мы бачылі з трэцяга паверху Дому ўраду, з нашага 363-га пакою, некалькіх чалавек пад бел-чырвона-белымі сьцягамі. Здаецца, яны стаялі на плошчы нават уначы, што да позьняга вечара — дык дакладна, бо сьпяшаючыся на апошні цягнік мэтро, я пасьпяваў перакінуцца зь імі некалькімі словамі.

А раніцай 24 жніўня людзей на плошчы зноў сабралася некалькі тысячаў. Дэпутаты ішлі на сэсію ўздоўж транспарантаў з заклікамі пра адстаўку Дземянцея, пра забарону КПБ-КПСС, пра поўную незалежнасьць і выбары новага Вярхоўнага Савету.

На плошчу вывелі прамую трансьляцыю, была і радыётрансьляцыя на ўсю Беларусь — і калі ў пачатку сэсіі дэпутацкая большасьць не пажадала ўключаць у парадак дня прапанову Апазыцыі БНФ пра незалежнасьць, мы ад мікрафонаў зьвярнуліся наўпрост да жыхароў Менску: прыходзьце, нам патрэбна вашая падтрымка! Праз гадзіну ўся плошча, здавалася, была запоўненая людзьмі. Але на наступны дзень, 25 жніўня, прыйшло людзей яшчэ болей — і гэты шум плошчы даходзіў праз вокны і дзьверы ў Авальную залю. Камуністы вельмі баяліся, што плошча сфармуе «нацыянальную гвардыю», якая ўвойдзе ў залю пасяджэньняў і падмацуе парлямэнцкія выступы дэпутатаў БНФ непарлямэнцкімі аргумэнтамі.

Увечары 25 жніўня, калі Дэклярацыі аб сувэрэнітэце быў нарэшце нададзены канстытуцыйны статус, людзі на плошчы сьвяткавалі перамогу, і гэта ім Пётра Садоўскі сьпяваў песьню на верш Янкі Купалы.

Кожны з тых, хто прыходзіў у 1991-ым на плошчу — прыходзіў рабіць гісторыю.

І разам мы зрабілі Беларусь незалежнай.

## Паказьнік асобаў

**А**



**Б**

**В**

**Г**

**Д**



**Е**



**Ж**

**Л**

**М**

### Н



### П

**Х**



**Ц**



**Ч**



**Ш**

**Э**



**Ю**



**Я**

## Пра аўтара



Сяргей Навумчык нарадзіўся ў 1961 годзе ў Паставах. У 1964 годзе з бацькамі пераехаў у Віцебск. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ, служыў у войску, працаваў у віцебскай абласной газэце. Публікаваў артыкулы ў абарону архітэктурнай спадчыны Віцебску. У 1988 годзе быў ініцыятарам грамадзкай кампаніі супраць будаўніцтва Віцебскай АЭС, удзельнічаў ва ўстаноўчым сходзе таварыства «Мартыралёг» і Беларускага Народнага Фронту 19 кастрычніка 1988 г.

З сакавіка 1990 па студзень 1996 — дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га скліканьня, быў каардынатарам парлямэнцкай апазыцыі БНФ. Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі ВС 24—25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьці Беларусі. Аўтар шэрагу законапраектаў. Удзельнічаў у галадоўцы дэпутатаў Апазыцыі БНФ 11—12 красавіка 1995 г. супраць ініцыяванага Лукашэнкам так званага рэфэрэндуму аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымбаляў гэрба «Пагоня» і бел-чырвона-белага сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць парлямэнт.

У жніўні 1996 г. атрымаў палітычны прытулак у ЗША. З 1999 — супрацоўнік Радыё Свабода. Сябра Беларускага ПЭН-цэнтру, ляўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча.

## Summary

In 1991, RFE/RL journalist Siarhiej Navumchyk was a deputy in Belarus' first democratically-elected parliament.

In this memoir of that fateful year, Navumchyk looks back on the tumultuous events leading up to the country's declaration of independence.

He recalls the day that Soviet troops invaded neighboring Lithuania and how courageously that country's citizens withstood the assault. Navumchyk remembers the thousands-strong workers strikes in the Belarusian capital of Minsk, and the many nationwide demonstrations calling for an end to communism. Here too is a retelling of how a resolute parliamentary commission discovered and made public the truth about the ramifications of the Chernobyl nuclear disaster in Belarus. Finally, Navumchyk describes the circumstances surrounding the dramatic attempt at a communist coup in Moscow.

Among the bold-faced names in this memoir are such world luminaries as Mikhail Gorbachev and Margaret Thatcher, and the Belarusian heroes of the time — parliamentary chairman Stanislau Shushkevich, opposition leader Zianon Pazniak, and acclaimed writer Vasil Bykau. Pivotal too are all the brave yet nameless Belarusians who took to the streets in that fateful year to demand the right to call their country free.

# «Дзевяноста першы», «Дзевяноста чацьверты», «Дзевяноста пяты» – водгукі і ацэнкі

## «Дзевяноста першы»

«Дзевяноста першы» – гэта ўзор жарснай публіцыстыкі, прадоннага аналізу падзеяў, прарочых высноваў. Сяргей Навумчык – правая рука Зянона – пісаў профілі дзевяноста першага году, у якім вырашаўся лёс незалежнай дзяржавы Беларусь.  Знайшоўся неспакойны Беларус і распавёў пра падзеі, як ён бачыў іх, як непасрэдна ўспрымаў.

І захмар'е, і дол,
і халодны позірк,
і душэўная трывога.
Ацэнку дасьць час.
За ім — слова!

*Рыгор Барадулін, народны паэт Беларусі*

Навумчык – выдатны аўтар. У яго добры стыль, ён умее трымаць увагу і напружаньне. Гэта звышчытэльны тэкст. 500-старонкавы фаліянт прачытваецца на адным дыханьні.

*«Наша Ніва»*

Час ідзе, нешта забываецца, а потым зьяўляюцца тыя мэмуарысты, якія помняць добрае, зьвязанае зь імі самімі, і забываюць тое, што, можа, ня надта добрае было зь імі, або гэтае ня надта добрае хочуць перакласьці на чужую адказнасьць, на чужыя плечы. Ва ўсякім разе, у тых кнігах, якія я прачытаў пра той час, у мяне такое адчуваньне было. Таму тое, што Сяргей дае дакумэнты, дае атмасфэру таго часу, — мне здаецца, гэта вельмі важна.

*Генадзь Бураўкін, паэт, першы прадстаўнік незалежнай Беларусі ў ААН*

Захапляюся – часам са сьлязой у вачах – дэталямі, якія проста ўцягваюць чытача ў апісаныя падзеі. Кніга «Дзевяноста першы» – каштоўны архіў, які чытаецца як раман.

*Івонка Сурвіла, старшыня Рады БНР*

Гэты важкі том – найлепшы адказ як тым, хто лічыць, нібыта незалежнасьць звалілася на беларусаў зь неба, так і тым, хто мяркуе, быццам нацыянальна-дэмакратычныя сілы на чале з БНФ у нашай найноўшай гісторыі пацярпелі паразу. Насамрэч яны ў неверагодна складаных умовах дасягнулі галоўнай мэты – краіна атрымала Незалежнасьць.

*Уладзімер Арлоў, пісьменьнік*

Гісторыю, як вядома, пішуць пераможцы. Са спазьненьнем на 20 гадоў мы дачакаліся і сваёй гісторыі пра пераможны 1991 год.

*Дзьмітрый Гурневіч, журналіст*

## «Дзевяноста чацьверты»

Сяргей Навумчык напісаў вельмі цікавую кнігу, якая, дзякуючы стылю і пачуцьцю гумару аўтара, чытаецца на адным дыханьні. Але галоўнае, што там ня схлушаны аніводны факт. Часта бывае прыкра, калі чытаеш хлусьню пра тое, чаму сам быў сьведкам. У кнігах Навумчыка такога няма.

*Сяргей Дубавец, пісьменьнік*

Гэта хроніка палітычнага жыцьця, якое было ў Беларусі.

*Сяргей Антончык, лідэр рабочага руху пачатку 1990-ых*

Сяргей Навумчык досыць аб'ектыўна ацэньвае расклад палітычных сіл у нашай краіне напярэдадні і падчас прэзыдэнцкіх выбараў 1994 году. Ён прыходзіць да высновы, зь якой цяжка не пагадзіцца: на тых выбарах і Кебіч, і Аляксандар Лукашэнка рэпрэзэнтавалі блізкія між сабою палітычныя пазыцыі, у аснове якіх ляжала імкненьне да пераўтварэньня Беларусі ў калёнію ўсходняга суседа ўзамен на моцна жаданую імі найвышэйшую ўладу на гэтай тэрыторыі.

*Лявон Баршчэўскі, дэпутат Вярхоўнага Савету XII скліканьня*

Такая кніжка – выдатная зьява.

*Радзім Гарэцкі, акадэмік*

## «Дзевяноста пяты»

Значная частка тэксту прысьвечана красавіцкай галадоўцы ў памяшканьні парлямэнту, рэфэрэндуму і выбарам 1995 году. Паводле сваёй трагічнай значнасьці ў найноўшай гісторыі Беларусі гэтыя падзеі, бадай, пераважаць гісторыю злачыннага зьнікненьня вядомых беларускіх грамадзян. Такія злачынствы ня маюць маральнага тэрміну даўнасьці.

*Пётра Садоўскі, першы амбасадар Беларусі ў Нямеччыне*

Кніга выдатна адпавядае жанру «нон-фікшн». У кнігах гэтага жанру выкарыстоўваюцца мастацкія прыёмы раскрыцьця вобразаў і такая спэцыфічная кампазыцыйная арганізацыя твораў – сцэна за сцэнай. У выпадку зь Сяргеем Навумчыкам гэта ня толькі сцэна за сцэнай, але і год за годам. І можна сказаць, што гэта ў пэўным сэнсе ўзорны нацыянальны «нон-фікшн».

*Ганна Кісьліцына, літаратурны крытык*

Лёгкі стыль аўтарскага выкладаньня робіць, здавалася б, сур’ёзную гістарычную літаратуру «надрыўнай», кшталту майстроў дэтэктыўнага альбо фантастычнага жанру.

*Сяргей Пульша, аглядальнік газэты «Новы час»*

Аўтар не нэўтральны, ён нефармал, бэнээфавец, апазыцыянэр, дэмакрат, пацярпелы, герой, удзельнік, зацікаўленая асоба... Усё так. Толькі гэта ня мінус, а фарматная дадзенасьць. Яе галоўная рыса – не абмежавальнасьць, а сумленнасьць сьведкі, эмоцыя часу, а не ягоны асадак, не наратыў прафэсара, а праўдзівасьць летапісца.

*Аляксандар Лукашук, дырэктар Радыё Свабода*

Гэта каштоўнае, дакладнае дасьледаваньне па найноўшай гісторыі змаганьня за незалежную Беларусь пагрунтована на дакумантах, на летапісе друку, на ўспамінах і архіўных матар’ялах і на вопыце ўласнага ўдзелу ў палітычным працэсе той пары. Асаблівай каштоўнасьцю кнігі зьяўляецца тое, што яна адлюстроўвае дух таго часу, сваістае адчуваньне падзей, часам апісаных скрупулёзна да найменшых дэталяў.

*Зянон Пазьняк, старшыня Апазыцыі БНФ*
*у Вярхоўным Савеце XII скліканьня*

Узяла ў рукі на хвіліну пагартаць і не змагла адарвацца, хоць вельмі балюча чытаць усе падрабязнасьці таго, што мы, учарашнія дзеці, бачылі збоку, а аўтар – знутры. Як быццам ізноў разанула па сэрцы. Як тады, калі мы даведаліся пра вынікі рэфэрэндуму (у мяне дагэтуль зьвініць у вушах крык маёй тагачаснай сяброўкі, вельмі-вельмі ціхай дзяўчынкі Наташы – «Ня можа быць!» на ўсю кавярню). Як тады, калі глядзелі, як здымаюць «Пагоню» з будынка на плошчы Незалежнасьці, і плакалі. Спадзяюся, што некалі ўрыўкі з кнігі ўвойдуць у падручнікі, па якіх будуць вучыцца калі ня нашы дзеці, то ўнукі – дакладна.

*Мілана Міхалевіч, настаўніца*

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы
Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
**Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.*
**Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
Пакуль ляціць страла.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
Імёны Свабоды. Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




Слоўнік свабоды.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.** Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/ Радыё Свабода, 2012




Альгерд Бахарэвіч. **Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.* **Справа Бяляцкага.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.* **Турма і здароўе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.* **Хто ўзарваў менскае мэтро?** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.* **Жывая мова.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.